"...ЛЮДИ, ИГДЕ ЗАРОДИЛИСЯ
И УСКОРМЛЕНЫ СУТЬ...
К ТОМУ МЕСТУ
ВЕЛИКУЮ ЛАСКУ ИМЕЮТЬ".

*Францыск Скарына*



# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

У ДВУХ ЧАСТКАХ

ЧАСТКА 1

Ад старажытных часоў – па люты 1917 г.

*Пад рэдакцыяй прафесараў Я.К.Новіка і Г.С.Марцуля*

Дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў





МІНСК
«УНІВЕРСІТЭЦКАЕ»
1998

УДК 947.6 (075.8)
ББК 63.3 (4 Беи)я 73
Г 46

Аўтары:
Я.К.Новік, Г.С.Марцуль, І.Л.Качалаў, Л.Я.Антонава, В.Э.Загарульская, З.І.Зуева, В.У.Лютава, Н.Я.Новік, У.Я.Парфянкоў, В.А.Цяплова

Рэцэнзенты:
Кафедра гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу Беларускага дзяржаўнага універсітэта (загадчык кафедры прафесар П. І. Брыгадзін); кафедра айчыннай і сусветнай гісторыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка (загадчык кафедры дацэнт В. Ф. Касовіч); член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар П. Ц. Петрыкаў; дацэнт кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу Беларускага дзяржаўнага універсітэта Я. Ю. Несцяровіч

Г 46 **Гісторыя** Беларусі: У 2 ч. Ч. 1. Ад старажытных часоў – па люты 1917 г.: Вучэб. дапам. /Пад рэд. Я.К.Новіка, Г.С.Марцуля. – Мн.: Універсітэцкае, 1998. – 416 с.
ISBN 985-09-0289-2.

У першай частцы падаецца айчынная гісторыя ад старажытных часоў па люты 1917 г. Выходзячы з сучаснага стану гістарычнай навукі, аўтары асвятляюць праблемы этнагенезу (паходжання) беларусаў, фарміравання беларускай народнасці і нацыі, станаўлення беларускай дзяржаўнасці, сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця беларускіх зямель у складзе Старажытнарускай дзяржавы, Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Гісторыя Беларусі разглядаецца як састаўная частка еўрапейскай і сусветнай гісторыі.

Для студэнтаў і выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, выкладчыкаў гуманітарна-грамадазнаўчых дысцыплін агульнаадукацыйных школ, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, каледжаў, ліцэяў, гімназій, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Айчыны.

УДК 947.6 (075.8)
ББК 63.3 (4 Беи)я 73

Вучэбнае выданне

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ**

**У ДВУХ ЧАСТКАХ**

**Частка 1**

**Ад старажытных часоў – па люты 1917 г.**

**Новік** Яўгеній Канстанцінавіч, **Марцуль** Генадзь Сямёнавіч, **Качалаў** Ігар Леавідавіч і інш.

Рэдактары *Л. М. Самасейка, З. Г. Дзямешка*. Мастацкі рэдактар *Дз. Я. Дзівін*. Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*. Карэктары *З. М. Машкевіч, А. М. Кудлачонак, А. З. Ліпень*. Камп'ютэрная вёрстка *Ю. Л. Вярлыга*

Падпісана да друку 18.03.98. Фармат 70×90/16. Папера афсетная № 1. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 30,42. Ул.-выд.арк. 30,41. Тыраж 10 000 экз. Заказ 5560.
Дзяржаўнае прадпрыемства выдавецтва "Універсітэцкае" Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 9 ад 31.12.97. 220048, Мінск, пр. Машэрава, 11.
Надрукавана з арыгінала-макета выдавецтва "Універсітэцкае" ў друкарні "Перамога". 223310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.

ISBN 985-09-0289-2



# ПРАДМОВА

Вучэбны дапаможнік "Гісторыя Беларусі" (ад старажытных часоў да 1997 г.) складаецца з дзвюх частак. Першая з іх абмежавана храналагічнымі рамкамі: ад старажытных часоў па люты 1917 г. і ўключае ў сябе ўводзіны, 5 раздзелаў і 18 глаў. Другая частка прысвечана савецкаму і постсавецкаму перыядам (люты 1917–1997 г.) і складаецца з 5 раздзелаў, 21 главы і заключэння.

Вучэбны дапаможнік напісаны гісторыкамі кафедры гуманітарных дысцыплін Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі пры ўдзеле гісторыкаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка, Мінскага медыцынскага інстытута. У напісанні дапаможніка ўдзельнічалі 6 дактароў навук, прафесараў, 9 кандыдатаў навук, дацэнтаў і 4 выкладчыкі. Творчы калектыў з 19 чалавек працаваў над стварэннем дапаможніка на працягу 7 гадоў.

Гэта першая спроба прафесараў, дацэнтаў і выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў напісаць вучэбны дапаможнік для студэнтаў з улікам сучаснага ўзроўню развіцця гістарычнай навукі, дзеючых вучэбных планаў і вучэбных праграм, пажаданняў студэнцкай моладзі і шырокай грамадскасці. У вучэбным дапаможніку ўтрымліваюцца адказы на складаныя пытанні айчыннай гісторыі, якія былі пастаўлены ў апошнія дзесяцігоддзі, а таксама разглядаюцца розныя падыходы і канцэпцыі па тых праблемах, па якіх працягваецца навуковая палеміка.

Адмовіўшыся ад празмернай ідэалагізацыі і палітызацыі ў гістарычнай навуцы, аўтары імкнуліся не падфарбоўваць нашу гісторыю, як гэта часамі рабілася раней, не даваць яе толькі ў негатыўным, ачэрненым, іншы раз – свядома паклёпніцкім выглядзе, што нярэдка бывае цяпер. Гісторыя адбылася, і яна не можа быць лепшай ці горшай, яна можа быць толькі такой, якой была на самой справе. Задача прафесійных гісторыкаў заключаецца ў тым, каб, адкінуўшы палітыка-ідэалагічныя амбіцыі і карыслівасць у паводзінах, прасякнуцца павагай і любоўю да Айчыны і яе народа і даць навукова-тэарэтычнае, аб'ектыўнае асвятленне гістарычных фактаў, падзей, з'яў. Аўтары вучэбнага дапаможніка стараліся гэта рабіць.

Пры напісанні вучэбнага дапаможніка былі выкарыстаны архіўныя крыніцы, апублікаваныя дакументы і матэрыялы, статыстычныя

зборнікі, перыядычны друк, мемуарная літаратура, а таксама навуковыя і навукова-метадычныя працы ўсіх пакаленняў гісторыкаў. Гістарычныя карты ў тэксце вучэбнага дапаможніка дапаўняюць яго змест па пытаннях эканамічнага развіцця, унутранай і знешняй палітыкі дзяржавы. Выкарыстаны гістарычныя карты, якія змешчаны ў 5-томнай "Гісторыі Беларускай ССР" (Мн., 1972–1975), "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (Мн., 1993–1996), "Ілюстраванай храналогіі гісторыі Беларусі: Ад старажытнасці да пачатку XX ст." (Мн., 1995), у працы Э.М.Загарульскага "Начало формирования населения Белоруссии" (Мн., 1996) і інш.

Вучэбны дапаможнік быў абмеркаваны і рэкамендаваны да друку Дзяржаўнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы.

Аўтары выказваюць удзячнасць рэцэнзентам – калектывам кафедр гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу Беларускага дзяржаўнага гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу Беларускага дзяржаўнага універсітэта, айчыннай і сусветнай гісторыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка, Рэспубліканскаму савету ветэранаў і Беларускаму рэспубліканскаму аб'яднанню "Гістарычныя веды", члену-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктару гістарычных навук, прафесару П.Ц.Петрыкаву, кандыдату гістарычных навук, дацэнту Я.Ю.Несцяровічу. Выказваецца таксама ўдзячнасць супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Ц.С.Шыкавай, С.П.Карэйша, Я.І.Сазонавай, І.У.Халева, Н.Л.Барысавай за дапамогу пры падрыхтоўцы вучэбнага дапаможніка да друку.

Аўтарамі першай часткі вучэбнага дапаможніка з'яўляюцца: **праф. Я. К. Новік** (раздзел I, глава 1, § 1 (у сааўтарстве); раздзел II, глава 1, § 2, глава 4 (у сааўтарстве); раздзел III, глава 6 (у сааўтарстве); раздзел IV, глава 2 (у сааўтарстве); раздзел V, глава 4, § 1, 2 (у сааўтарстве); **праф. Г. С. Марцуль** (раздзел I, глава 1, § 1 (у сааўтарстве), § 2, глава 2 (у сааўтарстве); раздзел V, глава 3; **дац. Л. Я. Антонава** (раздзел I, глава 2 (у сааўтарстве); **дац. В. Э. Загарульская** (раздзел II, глава 1, § 1, главы 2, 3; раздзел IV, глава 1); **дац. З. І. Зуева** (раздзел III, главы 1–5 і глава 6 (у сааўтарстве); **дац. І. Л. Качалаў** (раздзел V, глава 1, § 1, 2, § 3 (у сааўтарстве), глава 2, § 1, 2); **дац. В. У. Лютава** (раздзел V, глава 1, § 3 (у сааўтарстве), § 4, глава 2, § 3, 4); **дац. У. Я. Парфянкоў** (раздзел IV, глава 2 (у сааўтарстве); раздзел V, глава 4, § 2 (у сааўтарстве); **дац. В. А. Цяплова** (уводзіны); **выкл. Н. Я. Новік** (раздзел II, глава 4 (у сааўтарстве); раздзел V, глава 4, § 2 ("Прафесійная адукацыя"), § 3).

*Я. К. Новік,*
*кіраўнік аўтарскага калектыву,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*



# УВОДЗІНЫ

## Перыядызацыя гісторыі Беларусі

Курс "Гісторыі Беларусі" ахоплівае гісторыю беларускага народа ад старажытных часоў да нашых дзён. Ён адлюстроўвае гісторыю той часткі чалавецтва, якая на працягу тысячагоддзяў насяляла тэрыторыю сучаснай Беларусі.

Чалавечае грамадства на тэрыторыі Беларусі прайшло наступныя перыяды свайго развіцця.

**Старажытнае грамадства.** Яго храналагічныя рамкі – 40 тыс. гадоў да н.э. – V ст. н.э. Гэты перыяд падзяляецца на 3 этапы: каменны век (40 тыс. гг. да н.э. – 3 тыс. гг. да н.э.); бронзавы век ( 2 тыс. гг. да н.э. – пачатак I тысячагоддзя да н.э.); жалезны век (пачатак I тысячагоддзя да н.э. – V ст. н.э.).

**Сярэднявечча** – канец V – XV ст. Выдзяляюцца 2 этапы: пачатак пераходу да класавага грамадства і ўзнікненне дзяржаўнасці на тэрыторыі Беларусі (VI – перш. пал. XIII ст.); развіццё феадальнай сістэмы (сярэдзіна XIII – XV ст.).

**Новы час** – XVI – пачатак XX ст. Падзяляецца на 2 этапы: афармленне феадальнай сістэмы і выспяванне яе крызісу (XVI – канец XVIII ст.); генезіс і зацвярджэнне капіталізму, выспяванне крызісу буржуазнага грамадства (канец XVIII ст. – 1917 г.).

**Навейшы час** – з 1918 г. – да нашых дзён.

## Крыніцы па гісторыі Беларусі

Гісторыя Беларусі вывучаецца на падставе даных разнастайных гістарычных крыніц, якія падзяляюцца на 6 асноўных груп: археалагічныя, этнаграфічныя, лінгвістычныя, вусныя, пісьмовыя і кіна-фота-фона.

Асабліва важнае значэнне сярод іх маюць пісьмовыя крыніцы. Яны класіфікуюцца па тыпах і відах на заканадаўчыя акты, матэрыялы справаводства, эканоміка-геаграфічныя, гаспадарчае апісанне, статыстычныя матэрыялы, летапісы і хронікі, мемуарную літаратуру, літаратурныя і публіцыстычныя творы, матэрыялы перыядычнага друку.

Заканадаўчыя помнікі ўяўляюць сабой каштоўны комплекс крыніц, у якіх у юрыдычных нормах адлюстравалася гісторыя нашай Айчыны за тысячагадовы перыяд яе існавання.

Першым з дайшоўшых да нас зборнікаў законаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі старажытнай Беларусі, была Руская Правда (XI ст.) – найкаштоўнейшая крыніца па гісторыі Кіеўскай Русі і рускіх княстваў перыяду феадальнай раздробленасці. Да гэтага ж тыпу крыніц адносяцца дагаворы Русі з грэкамі 907, 911, 944 гг.

Заканадаўчыя дакументы па гісторыі Беларусі перыяду Вялікага княства Літоўскага (XIII – XVIII стст.) прадстаўлены крыніцамі розных відаў. Аднымі з іх з'яўляюцца прывілеі, якія вызначалі асноўныя рысы грамадска-палітычнага ладу ў Беларусі. Яны выдаваліся вялікімі князямі літоўскімі і каралямі Рэчы Паспалітай гарадам на самакіраванне, свецкім і царкоўным магнатам на зямельныя ўладанні, на вызваленне ад выплаты падаткаў, на адкрыццё кірмашоў, таргоў у гарадах і мястэчках і г.д. Выдаваліся таксама агульназемскія і абласныя прывілеі, якія вызначалі адносіны свецкіх і царкоўных феадалаў да велікакняжацкай улады, арганізацыю мясцовага самакіравання (напрыклад, прывілеі Ягайлы і Вітаўта ў Гарадлі (1413), апублікаваныя ў зборніку "Белоруссия в эпоху феодализма" (Мн., 1959. Т.1). Кодэксамі асноўных норм феадальнага права XV – XVI стст. з'яўляліся Судзебнік Казіміра 1468 г., Статуты 1529, 1566, 1588 гг. (Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989).

Для вывучэння сацыяльна-палітычнага развіцця Беларусі XV – XVIII стст. выкарыстоўваюцца пастановы (канстытуцыі) сеймаў, уніі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Помнікі заканадаўства канца XVIII – пачатку XX ст. прадстаўлены законамі, маніфестамі, палажэннямі, указамі, рэскрыптамі расійскага ўрада і дазваляюць прасачыць рэальную палітыку самадзяржаўя на Беларусі. Асноўнай публікацыяй крыніц падобнага роду з'яўляецца "Полное собрание законов Российской империи" (ПСЗ). Матэрыялы заканадаўства па Беларусі апублікаваны С.Ф.Рубінштэйнам у "Хронологическом указателе указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет, с 1652 по 1892 г." (Вильня, 1894).

Заканадаўчыя крыніцы навейшага часу прадстаўлены актамі заканадаўчых і выканаўчых органаў Савецкага Саюза, Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, Рэспублікі Беларусь. Публікацыямі крыніц падобнага роду з'яўляюцца, напрыклад, "История Советской Конституции (в документах). 1917 – 1956" (М.,1957) і "Конституция Республики Беларусь" (Мн., 1994).

Вялікай і разнастайнай групай крыніц з'яўляюцца матэрыялы справаводства. Сярод крыніц гэтай групы для вывучэння гісторыі Беларусі XIV – XVIII стст. першараднае значэнне маюць "Литовская метрика" – дзяржаўны архіў Вялікага княства Літоўскага (*Довнар-Запольский М.В.* Акты Литовско-Русского государства. М., 1897, 1899. Вып. 1, 2), сеймавыя матэрыялы XVI – XVIII стст., сярод іх асобнае месца належыць "Дзённіку Люблінскага сейма 1569 г.", які ўяўляе сабой





запіс перагавораў паміж прадстаўнікамі Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

Эпоха канца XVIII – пачатку XX ст. прадстаўлена дакументацыяй дзяржаўных устаноў, банкаў, уласных прадпрыемстваў, напрыклад справаздачамі губернатараў беларускіх губерняў або матэрыяламі "Камітэта па справах Заходніх губерняў" і г.д.

Важным відам крыніц гэтай жа групы з'яўляюцца дакументы палітычных партый і арганізацый, напрыклад народніцкіх арганізацый Беларусі, комплекс дакументаў РСДРП, дакументацыя іншых палітычных партый і грамадска-палітычных арганізацый Беларусі мінулага і сучаснага (Палітычныя партыі Беларусі. Мн., 1994).

Вялікая колькасць звестак аб палітычнай гісторыі Беларусі змяшчаецца ў судова-следчых дакументах, матэрыялах судовых устаноў Вялікага княства Літоўскага (актавыя кнігі), судова-следчых устаноў Расійскай імперыі, дакументацыі судовых устаноў і палітычных працэсаў навейшага часу.

Асобны тып дакументаў, якія адлюстроўваюць гісторыю Беларусі, прадстаўляе комплекс эканоміка-геаграфічных і статыстычных апісанняў XVI – XX стст. Паводле характару і структуры гэта даволі стракатая група крыніц, аб'яднаная агульнасцю паходжання і тэматыкі. Сярод іх – гаспадарчыя апісанні XVI – XIX стст. (пісцовыя кнігі, інвентары), эканоміка-геаграфічныя і гаспадарчыя апісанні канца XVIII – XIX ст. (матэрыялы генеральнага межавання канца XVIII ст., інвентары памешчыцкіх маёнткаў першай паловы XIX ст., ваенна-тапаграфічныя апісанні). З публікацый крыніц падобнага роду можна назваць, напрыклад, "Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII – XVIII вв. Владение Сморгонь" (М., 1957); Севергин В.М. Записки путешествия по западным провинциям Российского государства, или минералогические, хозяйственные и другие примечания, учинённые во время проезда через оные в 1802 году академиком... Василием Севергиным (СПб., 1803).

Пры вывучэнні гісторыі Беларусі новага і навейшага часу асабліва вялікае значэнне маюць статыстычныя крыніцы, да якіх адносяцца пазямельныя даследаванні, ваенна-конскія перапісы, спісы фабрык і заводаў, адрас-календары і г.д. Сярод іх найбольш вядомымі з'яўляюцца: "Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 года", "Ведомости фабрик и заводов", матэрыялы перапісаў прамысловых прадпрыемстваў пачатку XX ст., усесаюзныя перапісы насельніцтва 1923, 1926, 1937, 1939 гг. і інш.

Адной з найважнейшых гістарычных крыніц па гісторыі старажытнай Беларусі з'яўляюцца рускія летапісы, у аснове пераважнай большасці якіх ляжыць "Аповесць мінулых гадоў" (XII ст.). Яна змяшчае звесткі аб рассяленні ўсходніх славян на тэрыторыі Беларусі, іх звычаях, занятках, грамадскім ладзе, аб утварэнні феадальных княстваў і г.д. Істотна дапаўняюць "Аповесць мінулых гадоў" Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, а таксама Радзівілаўскі (Кёнігсбергскі)

3. Зак. 5560

летапісы, у якіх маюцца даныя аб гарадах, культуры, княжацкіх дынастыях і г.д.

Вялікую колькасць разнастайных гістарычных фактаў па гісторыі Беларусі змяшчаюць беларускія летапісы, якія складаліся ў межах Вялікага княства Літоўскага XIV – XVI стст. Яны падзяляюцца на кароткія, падрабязныя і поўныя. Кароткія летапісы ("Летописец великих князей литовских") узніклі не пазней другой паловы XV ст. Падрабязныя летапісы ("Хроника Великого княжества Литовского и Жомойтского") і поўныя ("Хроника Быховца") складзены ў асноўным у XVI ст. У гэтых летапісах апісваліся палітычныя падзеі, якія адбываліся ў межах Вялікага княства Літоўскага: войны, феадальныя міжусобіцы, народныя рухі, рэлігійныя сутычкі і г.д.

Асобнае месца ў беларускім летапісанні належыць Баркулабаўскаму летапісу канца XVI – пачатку XVII ст., гістарычнаму помніку, які сведчыць аб нараджэнні мемуарыстыкі. Увага яго аўтара сканцэнтравана галоўным чынам на сяле Баркулабаве, гарадах Магілёве, Віцебску, Полацку. Аўтар падрабязна апісвае гаспадарчае становішча і быт беларускіх сялян, прыводзіць звесткі аб ураджаі, галодных гадах пачатку XVII ст. і г.д.

Цэлы шераг звестак па сярэдневяковай гісторыі Беларусі зберaглі нямецкія і польскія хронікі XI – XVI стст. Найцікавейшымі сярод іх з'яўляюцца "Великопольская хроника" (Великая хроника о Польше, Руси и их соседях XI – XIII стст. М., 1987), "Хроника Ливонии" Г.Латвійскага, хронікі Я.Длугаша, В.Вапоўскага, М.Стрыйкоўскага.

Асобную групу крыніц па гісторыі Беларусі XVII – XX стст. складаюць крыніцы асабістага характару – мемуары і дзённікі. Часта яны з'яўляюцца адзіным сведчаннем, якое дае ўяўленне аб той ці іншай падзеі або факце. Цікавыя звесткі па гісторыі Беларусі XIV – XVII стст. змяшчаюць, напрыклад, "Дневник" Фёдара Еўлашоўскага (1564 – 1604), "Диариуш" А.Філіповіча, запіскі іншаземцаў (Гейдэнштэйна, Герберштэйна, Алеарыя, Корбы).

Мемуарная літаратура XVIII – XIX стст. адрозніваецца шматлікасцю і адлюстроўвае шырокі спектр сацыяльна-эканамічнага, грамадска-палітычнага, рэлігійнага, культурнага жыцця Беларусі. Урадавую палітыку на тэрыторыі Беларусі адлюстроўваюць, напрыклад, запіскі віленскага генерал-губернатара Ф.Міркcourtesy, селяніна Я.Чабодзькі, уніяцкага мітрапаліта чыноўніка Г.Дабрыніна, селяніна Я.Чабодзькі, уніяцкага мітрапаліта І.Сямашкі. Пры вывучэнні гісторыі народніцтва на Беларусі ўспаміны ўдзельнікаў руху з'яўляюцца сур'ёзнай падмогай для высвятлення сеткі народніцкіх гурткоў, якія дзейнічалі на яе тэрыторыі (напрыклад, успаміны Л.Залкінда або І.Гурвіча).

Мемуарыстыка навейшага часу прадстаўлена шматлікімі ўспамінамі ўдзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, калектывізацыі, другой сусветнай вайны і г.д.

Шматлікую групу гістарычных крыніц складаюць літаратурныя творы. Развіваючыся ў цеснай сувязі з грамадскім жыццём, адчуваючы





ўплыў часу, яны з'яўляюцца спецыфічнай формай выяўлення духоўнага жыцця народа. Літаратура XI – XIII стст. прадстаўлена не толькі былінамі і казкамі, але і творамі такіх аўтараў, як Уладзімір Манамах ("Павучанне"), Кірыла Тураўскі ("Словы"), аўтарам "Слова пра паход Ігаравы", помнікамі беларускай агіяграфіі ("Аповесць жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Ефрасінні, ігуменні манастыра Святога Спаса і Найсвяцейшай Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку", "Памяць святога айца нашага Кірыла, епіскапа Тураўскага" і інш.).

Найбольш выдатнымі прадстаўнікамі ідэй Адраджэння і Рэфармацыі на Беларусі (XVI ст.) былі заснавальнікі ўсходнеславянскага кнігадрукавання Францішак Скарына, паэт-гуманіст Мікола Гусоўскі, вядомы ідэолаг рэфармацыйнай думкі Сымон Будны і інш.

Складаная эпоха контррэфармацыі на Беларусі (другая палова XVI – першая палова XVII ст.) парадзіла палітычную літаратуру – вострую публіцыстыку рэлігійна-палітычнай накіраванасці. Сярод вядомых пісьменнікаў-публіцыстаў, вучоных і грамадска-культурных дзеячаў таго часу належыць назваць Герасіма і Мялеція Сматрыцкіх, братоў Лаўрэнція і Стэфанія Зізаніяў, Лявонція Карповіча і інш.

Яскравую старонку ў гісторыі беларускай літаратуры склалі творы другой паловы XVII – першай паловы XVIII ст., выдатным прадстаўніком якой быў Сімяон Полацкі.

У XIX ст. пачаўся пераход да беларускай літаратуры новага часу, які знайшоў адбітак у творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, Я.Лучыны і інш. Творы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, Цёткі, М.Гарэцкага і іншых беларускіх пісьменнікаў пачатку XX ст. – сведчанне бурнага рэвалюцыйнага часу, які і ўзняў шырокія колы беларускай грамадскасці да актыўнай палітычнай дзейнасці.

Беларуская літаратура 20 – 80-х гадоў XX ст. яскрава адлюстравала ўсю складаную, часам трагічную гісторыю савецкай рэчаіснасці.

У перыяд новага і навейшага часу беларускай гісторыі важнае значэнне набыў перыядычны друк, які стаў моцным сродкам інфармацыі і арганізацыі грамадскага ўсведамлення. Паводле палітычных пазіцый ён падзяляецца на некалькі груп: урадавы ("Губернские ведомости"), кансерватыўны ("Епархиальные ведомости"), дэмакратычны ("Минский листок", "Наша ніва") і г.д. З 1863 г. на Беларусі пачалася гісторыя нелегальнага друку. Яна звязана з імем К.Каліноўскага, які ў ходзе паўстання 1863 – 1864 гг. выдаваў першую беларускую бесцэнзурную газету "Мужыцкая праўда".

Перыядычны друк Беларусі навейшага часу адрозніваецца вялікай разнастайнасцю палітычнага спектра і распаўсюджваннем праўдзівай і аператыўнай інфармацыі аб падзеях і фактах у жыцці нашай рэспублікі і за мяжой.

Навуковыя і вучэбныя публікацыі дакументаў па гісторыі Беларусі адносяцца да першай паловы XIX ст. У 1824 г. І.І.Грыгаровіч друкуе

"Белорусский архив древних грамот" за 1507 – 1768 гг. (М.,1824.Ч.1). Арганізаваная ў 1834 г. Пецярбургская археаграфічная камісія выдае "Акты, относящиеся к истории Западной России" (АЗР) (СПб., 1846 – 1853. Т.1 – 5) і "Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России" (АЮЗР) (СПб., 1863 – 1892. Т.1 – 15).

Даныя па сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі Беларусі XV – XVIII стст. сабраны ў "Актах, издаваемых Виленской археографической комиссией" (АВК) (39 тамоў, 1865 – 1915), "Археографическом сборнике документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси" (Арх. сб.) (14 тамоў, 1867 – 1904), якія выдаваліся ў Вільні, і "Историко-юридических материалах" (ІЮМ) (32 выпускі, 1871 – 1906), што выходзілі ў Віцебску.

Да публікацый гістарычных дакументаў, якія выдаваліся ў першыя паслярэвалюцыйныя дзесяцігоддзі, належаць надрукаваныя "Матэрыялы па гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму" (Мн., 1936. Т.1,2); "Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. IX – XVII стст." (Мн., 1936. Т.1) і "Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. 1772 – 1903 гг." (Мн., 1940. Т.2).

Асабліва многа зборнікаў дакументаў апублікавана ў пасляваенныя гады: "Белоруссия в эпоху феодализма" (Мн., 1959 – 1979. Т.1 – 4); "Русско-белорусские связи" (Мн., 1961, 1972. Т.1,2); "Документы и материалы по истории Белоруссии. 1900 – 1917 гг." (Мн.,1953.Т.3); "Хрестоматия по истории Белоруссии. С древнейших времен до 1917 г." (Мн., 1977).

Не згубілі свайго значэння да сённяшняга дня зборнікі дакументаў: "Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии" (Мн., 1957. Т.1,2); "Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918 – 1920 гг." (Мн., 1968, 1971. Т.1,2); "Комитеты бедноты Белоруссии" (Мн., 1958); "Проведение сплошной коллективизации сельского хозяйства Белорусской ССР (ноябрь 1929 – 1932 г.)" (Мн., 1973); "Индустриализация Белорусской ССР (1926 – 1941)" (Мн., 1975).

Барацьбе беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны зборнікі: "Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 – июль 1944 г.)" (Мн., 1967, 1978. Т.1,2); "Зборнік лістовак усенароднай партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941 – 1944)" (Мн., 1961). Дакументы аб злачынствах фашыстаў на тэрыторыі Беларусі змешчаны ў зборніку "Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941 – 1944 гг." (Мн., 1965).

Са зборнікаў дакументаў, якія выдаваліся ў апошнія дзесяцігоддзі, цікавасць уяўляе "Белоруссия в эпоху капитализма" (Мн., 1983, 1990. Т. 1,2).





## Гістарыяграфія гісторыі Беларусі

Станаўленне беларускай гістарыяграфіі непарыўна звязана з зараджэннем у пачатку XIX ст. беларускай нацыянальнай ідэі і нацыянальнага руху. На гэты працэс паўплывала, з аднаго боку, традыцыя гістарычных даследаванняў па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якая сфарміравалася яшчэ ў XVI – XVIII стст., з другога – уздзеянне велікапольскай і велікарускай канцэпцый, якія зводзіліся да адмаўлення самога факта існавання беларускага этнасу, яго мовы, культуры і прызнання Беларусі часткай Польшчы або Расіі.

Першымі прафесійнымі гісторыкамі, якія заклалі падмурак канцэпцыі беларускай гісторыі, былі прафесары Віленскага універсітэта І.Анацэвіч, М.Баброўскі, І.Даніловіч, І.Лабойка, Т.Нарбут, Ю.Ярашэвіч і інш. Менавіта гэта група віленскай інтэлігенцыі пачала збіраць і друкаваць помнікі беларускага пісьменства XVI – XVII стст., садзейнічала абуджэнню цікавасці да гістарычнага мінулага сярод студэнтаў універсітэта. Адным з першых даследчыкаў беларускага летапісання з'яўляецца І.Даніловіч. Ён упершыню апублікаваў Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г., Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г., які быў перавыдадзены ў 1827 г. асобна пад назвай "Летапісец Літвы і руская хроніка", і іншыя крыніцы па гісторыі Беларусі. Ю.Ярашэвіч апублікаваў фундаментальнае даследаванне "Вобраз Літвы з пункту гледжання цывілізацыі ад найстаражытнейшых часоў да канца XVIII стагоддзя" (Вільня, 1844 – 1845. Т.1 – 3). Вывучэннем гісторыі Вялікага княства Літоўскага, збіраннем археалагічных крыніц, пошукамі і апрацоўкай матэрыялаў для "Актов Западной России" (СПб., 1846 – 1853. Т.1 – 5) займаўся І.Анацэвіч. Ён апублікаваў шэраг артыкулаў па гісторыі Беларусі. Пад кіраўніцтвам І.Лабойкі студэнты Віленскага універсітэта апісалі 80 мястэчак і гарадоў Заходняй Беларусі і Літвы.

Значны ўклад у развіццё гістарычнага краязнаўства Беларусі ўнеслі браты Я. і К. Тышкевічы – пачынальнікі беларускай археалогіі, З.Даленга-Хадакоўскі – заснавальнік беларускай фалькларыстыкі і мовазнаўства, Т.Нарбут – аўтар дзевяцітомнай "Гісторыі літоўскага народа" (Вільня, 1835 – 1841), А.Кіркор – вучоны і грамадскі дзеяч, Я.Чачот – збіральнік і выдавец (на польскай мове) народных песень.

У першай трэці XIX ст. вывучэннем гісторыі Беларусі займаліся ў Гомелі і Полацку. Яно было звязана з імем беларускага археографа І.Грыгаровіча. Ён сабраў і на сродкі графа М.П.Румянцава выдаў "Белорусский архив древних грамот", быў аўтарам гістарычнага даследавання "Беларуская іерархія" (напісана ў 1824 г., выдадзена ў 1992 г. у Мінску), галоўным рэдактарам "Актов исторических" (СПб., 1841 – 1842. Т.1 – 4) і "Актов археографической экспедиции" (СПб., 1834 – 1838. Т.1 – 4), прымаў удзел у выданні "Актов Западной России".

Аўтарам шматлікіх навуковых твораў, у тым ліку такіх, як "Путешествие по Полесью и Белорусскому краю" (СПб., 1858), "Белорус-

4. Зак. 5560

сия в характеристических описаниях и фантастических сказках” (СПб., 1853, 1856), быў пісьменнік-этнограф П.Шпілеўскі. Шмат зрабіў для развіцця беларускага гістарычнага краязнаўства М.В.Без-Карніловіч. У 1855 г. у Санкт-Пецярбургу ім былі выдадзены “Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии...”, тэрыторыю якой ён абмяжоўваў Віцебскай і Магілёўскай губернямі, астатнія беларускія землі называў Літвой. Значны ўклад у развіццё беларускай гісторыі і этнаграфіі ўнёс П.В.Баброўскі. У сваім даследаванні “Гродненская губерния. Материалы по географии и статистике России, собранные офицерами Генерального штаба” (СПб., 1863. Ч.1 – 2) ён даў апісанне абрадаў, звычаяў, вераванняў, працоўнай дзейнасці беларусаў. У працах гісторыкаў Беларусі канца XVIII – сярэдзіны XIX ст. пераважала лакальная, краязнаўчая тэматыка, было шмат фактычных недакладнасцей, аднак іх творчасцю закладвалася аснова для развіцця прафесійных гістарычных ведаў.

Паўстанне 1863 – 1864 гг. з’явілася важным фактарам, які паўплываў на развіццё беларускай гістарыяграфіі другой паловы XIX ст. Яно абвастрыла спрэчкі аб нацыянальным развіцці Беларусі. Прыхільнікамі поглядаў на Беларусь як тэрыторыю Заходняй Расіі былі апублікаваны работы з абгрунтаваннем сваіх пазіцый. Найбольш глыбокімі сярод іх былі манаграфіі М.В.Каяловіча, прысвечаныя канфесійнай гісторыі Беларусі (Литовская церковная уния. Исследование... (СПб., 1859, 1861. Т.1, 2); История воссоединения западнорусских униатов старых времен (СПб., 1873).

Гэтых жа поглядаў прытрымліваўся рэдактар “Вестника Западной России”, які выдаваўся ў Вільні, гісторык і археолаг К.А.Гаворскі. Ён апублікаваў шмат каштоўных дакументаў па гісторыі Беларусі, арыгіналы якіх загінулі.

Якасна новы перыяд у вывучэнні гісторыі Беларусі быў звязаны з дзейнасцю беларускіх народнікаў у канцы 70-х – першай палове 80-х гадоў XIX ст. Важнае значэнне мелі іх падпольныя выданні “Пісьмы пра Беларусь” (“Пісьмо першае” за подпісам “Даніла Баравік”, “Пасланне да землякоў-беларусаў” за подпісам “Шчыры беларус”), два нумары гектаграфаванага часопіса “Гоман” і інш. У гэтых выданнях упершыню была абгрунтавана ідэя аб існаванні самастойнага беларускага этнасу, акрэслены этнічная тэрыторыя рассялення беларусаў, іх этнічныя прыкметы і асаблівасці гістарычнага шляху. У якасці праграмнага патрабавання выстаўляўся лозунг федэратыўнай самастойнасці Беларусі ў сям’і іншых славянскіх народаў. Станоўчы ўплыў на развіццё гістарычных ведаў мелі выдадзеныя ў канцы XIX – пачатку XX ст. грунтоўныя даследаванні гісторыкаў, этнографаў і лінгвістаў М.Янчука, А.Слупскага, І.Насовіча, М.Дзмітрыева, М.Федароўскага, Е.Раманава і інш.

У другой палове 80-х гадоў XIX ст. распрацоўку гісторыі і этнаграфіі Беларусі распачаў М.Доўнар-Запольскі. У 1888 г. у “Минском листке” быў апублікаваны цыкл яго артыкулаў пад назвай “Беларускае мінулае”. Яго першымі манаграфіямі былі: “Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия” (Кіеў, 1891), “Песни пинчуков” (Кіеў, 1895), “Западно-русская сельская община в XVI веке” (СПб., 1897). Пазней быў выдадзены шэраг яго прац, прысвечаных гісторыі Беларусі. Аднак самым фундаментальным даследаваннем М.Доўнар-Запольскага, якое не страціла сваёй актуальнасці і сёння, была “Гісторыя Беларусі”, падрыхтаваная ў 1926 г. (выдадзена ў 1994 г. у Мінску).

Важнай вехай у станаўленні нацыянальнай гістарыяграфіі з’явілася кніга В.Ластоўскага “Кароткая гісторыя Беларусі”, выдадзеная ў Вільні ў 1910 г.

Вялікі ўклад у развіццё беларусазнаўства ўнёс даследчык і гісторык беларускай мовы Я.Карскі. Галоўнай яго навуковай спадчынай з’явілася трохтомная праца “Беларусы”, выдадзеная ў 1903 – 1922 гг. Яе называюць энцыклапедыяй беларусазнаўства, найвышэйшым дасягненнем беларускай славістыкі канца XIX – пачатку XX ст. Асабліва каштоўнымі былі складзеныя Я.Карскім у 1903 і 1917 гг. этнаграфічныя (лінгвістычныя) карты рассялення беларусаў.

У 1919 – 1930 гг. У.Ігнатоўскі выдаў дзве працы па гісторыі Беларусі і манаграфію пра паўстанне 1863 – 1864 гг. Яго “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі” ў 20-я гады з’яўляўся падручнікам па айчыннай гісторыі для вучняў школ, а “Гісторыя Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя” вывучалася ў вышэйшых навучальных установах.

Наогул, 20-я гады былі асабліва плённымі ў распрацоўцы гісторыі Беларусі. У гэты час публікаваліся акрамя названых аўтараў даследаванні Ф.Турука, У.Пічэты, А.Цвікевіча, М.Гарэцкага, А.Луцкевіча, А.Станкевіча, З.Жылуновіча і інш. Аднак гэты перыяд працягваўся нядоўга. Ужо ў пачатку 30-х гадоў некаторыя гісторыкі былі рэпрэсіраваны, а іх працы на доўгі час трапілі ў “спецсховішчы”.

Інтэнсіўнае і свабоднае вывучэнне гісторыі Беларусі ўжо ў канцы 20-х гадоў ператвараецца ў вузкапартыйнае, спрошчанае тлумачэнне гістарычных працэсаў. Гэта было абумоўлена палітычным курсам, які звязаны з культам асобы Сталіна.

З сярэдзіны 30-х гадоў марксізм становіцца адзінай метадалагічнай асновай навукі. Гісторыкі, якія не жадалі ці не змаглі авалодаць гэтай метадалогіяй, часта пазбаўляліся работы.

Аднак і ў гэты час у беларускай гістарыяграфіі з’яўляюцца працы, якія адзначаюцца высокім прафесійным узроўнем. Гэта – манаграфіі Д.А.Дудкова “Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў 2-й палове XIX і пачатку XX ст.” (Мн., 1932) і К.І.Кернажыцкага “Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.” (Мн., 1935). Гэтыя даследаванні з’явіліся значным укладам у распрацоўку сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі.

Дэмакратызацыя савецкага грамадства, якая пачалася з другой паловы 50-х гадоў, садзейнічала далейшаму развіццю беларускай гістарыяграфіі. Выйшлі ў свет працы З.Е.Абезгауза, М.В.Біча,

М.Ф.Болбаса, Э.М.Загарульскага, А.П.Ігнаценкі, І.М.Ігнаценкі, Н.В.Каменскай, З.Е.Капыскага, І.С.Краўчанкі, Я.Н.Мараша, І.Я.Марчанкі, П.Ц.Петрыкава, С.М.Самбук, В.Н.Рабцэвіча, В.У.Чапко, К.І.Шабуні і інш., якія не страцілі навуковай каштоўнасці да сённяшняга дня.

Акрамя работ манаграфічнага характару ў 60 – 80-я гады былі апублікаваны калектыўныя працы. У 1961 г. была выдадзена двухтомная "История Белорусской ССР", у 1972 – 1975 гг. – пяцітомная "Гісторыя Беларускай ССР", у 1977 г. – аднатомная "История Белорусской ССР". У 80-я гады гісторыкі БДУ і Мінскага педінстытута падрыхтавалі вучэбны дапаможнік па гісторыі Беларусі для студэнтаў гістарычных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў. Была выдадзена толькі першая частка гэтага дапаможніка – "История БССР: С древнейших времен до Великой Октябрьской социалистической революции" (Мн., 1981).

У названых і іншых даследаваннях 60 – 80-х гадоў сабраны багаты фактычны матэрыял, даволі поўна паказана шматвяковая гісторыя беларускага народа, зроблены адпаведныя навуковыя высновы, якія раскрываюць тыя ці іншыя бакі айчыннай гісторыі. Разам з тым у гэтых працах недастаткова раскрыты такія важныя праблемы, як гісторыя фарміравання беларускага этнасу, станаўленне і развіццё нацыянальнага руху, дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры і інш.

У 1994 – 1995 гг. Інстытут гісторыі АН Беларусі падрыхтаваў і выдаў "Нарысы гісторыі Беларусі" ў дзвюх частках. Упершыню была зроблена спроба навуковага даследавання гісторыі Беларусі з новага пункту гледжання, які грунтуецца на прыцягненні больш шырокага кола крыніц і прызнанні факта шматвяковага існавання беларускага этнасу як суб'екта гісторыі. Разам з тым некаторыя аўтары не змаглі перайсці на новыя пазіцыі больш шырокага тэарэтычнага погляду на гістарычны працэс развіцця Беларусі. Яны не знайшлі шляху да праўды навуковага адлюстравання праблемы існавання Старажытнарускай дзяржавы (Кіеўскай Русі), дасягненняў беларускага народа ў галіне сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця за гады савецкай улады. Некаторыя раздзелы "Нарысаў" напісаны тэндэнцыйна і празмерна палітызаваныя.

Падрыхтаваны калектывам аўтараў вучэбны дапаможнік па гісторыі Беларусі істотна адрозніваецца ад папярэдніх выданняў. Гэта адрозненне перш за ўсё ў новай перыядызацыі гісторыі Беларусі. Выкарыстаны тэматычна-фармацыйны метад разгляду гістарычнага працэсу. Рознабакова і больш крытычна ажыццяўляецца аналіз гістарычных падзей і фактаў, уведзены новыя сюжэты, якія раней не закраналіся. Больш, чым гэта рабілася раней, звернута ўвагі на гісторыю культуры Беларусі. Паўней адлюстраваны беларускі нацыянальны рух на ўсіх этапах гістарычнага працэсу, барацьба беларускага народа за нацыянальнае адраджэнне. Намаганні аўтараў былі накіраваны на рознабаковы, а галоўнае – аб'ектыўны паказ гісторыі нашай Айчыны.

# РАЗДЗЕЛ I

## ПЕРШАБЫТНААБШЧЫННЫ ЛАД НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ. ФАРМІРАВАННЕ БЕЛАРУСКАГА ЭТНАСУ. СТАНАЎЛЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ ФЕАДАЛЬНЫХ АДНОСІН

(ад старажытных часоў – да другой паловы XIII ст.)

## ГЛАВА 1

## ПЕРШАБЫТНААБШЧЫННЫ ЛАД НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

### § 1. Засяленне беларускіх зямель. Фарміраванне этнічных супольнасцей

**Што такое "этнас", якія яго важнейшыя прыкметы? Як адбываўся працэс фарміравання беларускага этнасу?**

Этнас, этнічная супольнасць (ад грэч. ethnos – народ) – устойлівая супольнасць людзей, якая склалася гістарычна на пэўнай тэрыторыі, мае агульную мову, культуру, побыт, псіхалагічныя рысы і самасвядомасць. Асноўныя гістарычныя формы этнасу – род, племя, народнасць, нацыя – характарызуюцца і пэўнымі сацыяльна-эканамічнымі

асаблівасцямі. Галоўныя прыкметы этнасу – мова, самасвядомасць, культура, побыт, псіхіка і інш. – змяняюцца з цягам часу не так істотна, як сацыяльна-эканамічныя адносіны, якія адпавядаюць пэўнай гістарычнай ступені развіцця. На паняцці "этнас" грунтуецца значная частка этнаграфічнай і іншай навуковай тэрміналогіі – этнагенез, этнонім і інш.

Адной з галоўных прыкмет этнасу з'яўляецца этнічная тэрыторыя – тэрыторыя кампактнага рассялення пэўнага народа. Этнічная тэрыторыя – гэта не толькі сфера пражывання, але і жыццёвая аснова, што абумоўлівае спецыфіку гаспадарчых заняткаў і вытворчай культуры, жывіць канкрэтнымі вобразамі духоўныя скарбы народа, яго мову і фальклор. Мова народа з'яўляецца спецыфічным сродкам захавання і перадачы яго сацыяльнага вопыту, культурных традыцый. Праз мову рэалізуецца пераемнасць розных пакаленняў і гістарычных эпох.

Гісторыя фарміравання беларускага этнасу вывучаецца на падставе звестак з розных навук – лінгвістыкі, археалогіі, этнаграфіі, антрапалогіі, тапанімікі і інш. Даследаванне праблемы этнагенезу беларусаў з'явілася вынікам выкарыстання спецыфічных крыніц, правядзення складаных і доўгіх пошукаў, параўнання высноў розных навук.

Беларусь не з'яўляецца прарадзімай чалавецтва. Чалавек вылучыўся з жывёльнага свету прыкладна 2,6 млн гадоў таму. Гэта адбылося ў Афрыцы. Мог існаваць і азіяцкі цэнтр паходжання найстаражытных людзей. Прыкладна мільён гадоў назад людзі засялілі Міжземнамор'е, а затым Каўказ і поўдзень Украіны. Найбольш працяглы этап станаўлення і развіцця чалавека – палеаліт (старажытны каменны век) працягваўся звыш 2 млн гадоў. У ніжнім і сярэднім палеаліце жылі архантрапы (піцекантрапы) і палеаантрапы (неандэртальцы). Да пачатку верхняга палеаліту (прыкладна 40 – 35 тыс. гг. назад) сфарміраваўся чалавек сучаснага фізічнага тыпу. Людзей гэтага часу называюць неаантрапамі ці краманьёнцамі (па назве пячоры Кро-Маньён у Францыі).

Этнічную гісторыю Беларусі ўмоўна можна падзяліць на два перыяды. **Першы —даіндаеўрапейскі перыяд.** Яго храналагічныя рамкі: 40 тыс. гадоў да н.э. – 3 – 2 тыс. гадоў да н.э. Даіндаеўрапейскі перыяд характарызуецца панаваннем такіх форм гаспадаркі, як паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва. Ён супадае з каменным векам, калі адбылося засяленне чалавекам тэрыторыі сучаснай Беларусі.

У навуковай літаратуры маецца некалькі пунктаў гледжання наконт часу з'яўлення на сучаснай беларускай тэрыторыі першых людзей. Адны даследчыкі лічаць, што гэта адбылося 100 тыс. гадоў таму (сярэдні палеаліт), калі на беларускія землі прыйшоў неандэрталец, творца мусцьерскай стадыі палеаліту, і тут працягваўся працэс антрапагенезу, фарміравання самога чалавека. Прыкладна







ў канцы сярэдняга палеаліту ў асноўным завяршылася фарміраванне чалавека сучаснага фізічнага тыпу – неаантрапа (краманьёнца). Другія лічаць, што першыя людзі на беларускіх землях з'явіліся 40 тыс. гадоў таму, у верхнім палеаліце, падчас існавання чалавека разумнага (Homo sapiens), калі працэс антрапагенезу ўжо завяршыўся. Чаму ўзнікла навуковая палеміка?

У 1926 г. беларускі археолаг К.М.Палікарповіч знайшоў дзве першыя і пакуль адзіныя на Беларусі палеалітычныя стаянкі чалавека – адну каля в.Бердыж (Чачэрскі р-н Гомельскай вобл.), другую – на Прыпяці, недалёка ад Мазыра, каля в.Юравічы. Пры раскопках Бердыжскай стаянкі высветлілася, што культурны пласт верхняга палеаліту метрам вышэй быў перакрыты пластом з крэменем больш архаічнага выгляду (апошні, магчыма, быў змыты і перанесены водамі з суседняй больш старажытнай стаянкі). Сярод знаходак гэтага старажытнага пласта Палікарповіч вылучыў некалькі скрабкоў, тыповых прылад мусцьерскай стадыі палеаліту. Акрамя таго, каля Быхава, у раёне Свяцілавіч і іншых месцах Беларусі былі знойдзены вырабы з крэменю – скрабкі, якія мелі мусцьерскі выгляд. Усё гэта дазволіла Палікарповічу зрабіць вывад аб з'яўленні людзей на тэрыторыі Беларусі ў сярэднім палеаліце (100 – 40 тыс. гг. таму назад).

Аднак у 60 – 90-я гады вучоныя-археолагі (У.Д.Будзько, А.Г.Калечыц і інш.) перагледзелі матэрыялы па палеаліту Беларусі і не пагадзіліся з вывадамі К.М.Палікарповіча. У шэрагу прац яны прыйшлі да высновы, што знаходкі Бердыжскай стаянкі не выходзяць за рамкі верхнепалеалітычнай культуры, таму сцвярджаць аб магчымасці з'яўлення людзей на беларускіх землях у сярэднім палеаліце можна толькі ў гіпатэтычным плане.

Разам з тым і ў Бердыжы і ў Юравічах знойдзены тыповыя прылады і рэшткі фауны верхняга палеаліту. Сёння мы маем некалькі абсалютных дат палеалітычных помнікаў Беларусі, атрыманых метадамі радыекарбоннага датавання. Матэрыялы з Бердыжа далі дзве даты – 23 і 15 тыс. гадоў таму. Юравіцкая стаянка датуецца 26 тыс. гадоў таму. Гэта пакуль што самыя раннія даты, звязаныя са з'яўленнем чалавека на тэрыторыі Беларусі. Яны не выходзяць за рамкі верхняга палеаліту, і з іх трэба сёння пачынаць гісторыю Беларусі.

Насельніцтва ў палеаліце было нешматлікім. На кожнай стаянцы жыло ў сярэднім па 25 чалавек. На вядомыя нам Бердыжскую і Юравіцкую стаянкі прыходзілася 50 жыхароў. Але мы не ведаем дакладна, колькі было такіх стаянак. Мабыць, няшмат. Як лічыць беларускі гісторык і археолаг Э.М.Загарульскі, колькасць верхнепалеалітычнага насельніцтва не перавышала сотні чалавек (*Загорульский Э.М.* Начало формирования населения Белоруссии. Мн., 1996. С.43).

Умовы для жыцця людзей былі цяжкія. На поўначы Беларусі стаяў ляднік, клімат быў халодны (арктычны), расліннасць – бедная,

характэрная для арктычнай тундры. Каб выжыць у надзвычай суровых умовах прыледніковай зоны, старажытны чалавек вымушаны быў навучыцца здабываць агонь, будаваць прымітыўнае жыллё, валодаць спосабамі палявання на буйных жывёл. Тады на тэрыторыі Беларусі вадзіліся маманты, алені, дзікія коні, насарогі, быкі, зубры. Вадаёмы былі царствам вадаплаваючых птушак.

Раскопкі Бердыжскай і Юравіцкай стаянак паказалі, што ўжо тады існавала раннерадавая абшчына. Спажыванне было калектыўным. Ажыццяўлялася ўраўняльнае размеркаванне прадуктаў палявання і рыбалоўства паміж членамі абшчыны. Некалькі абшчын аб'ядноўваліся ў род. У яго склад уваходзілі ўсе сваякі па маці. Такі род называўся мацярынскім. Род быў уласнікам пэўнай тэрыторыі, вёў агульную гаспадарку, меў агульную маёмасць

Прыкладна 16 тыс. гадоў таму адбылося моцнае пахаладанне, і чалавек на доўгі час пакінуў тэрыторыю Беларусі. Прыблізна 10 – 8 тыс. гадоў да н.э. закончыўся ледніковы перыяд. Па меры таяння і адступлення ледніка клімат рабіўся ўсё больш цёплым. Тэрыторыя Беларусі пакрывалася лесам. Пераходзячы з месца на месца, чалавек паступова рухаўся на поўнач. Быў вынайдзены лук, які змяніў характар палявання. Пачалося інтэнсіўнае асваенне новых тэрыторый. *Гэту эпоху называюць мезалітам (сярэдні каменны век, 8 – 5 тыс. гг. да н.э.).*

У мезаліце адбылося поўнае засяленне чалавекам тэрыторыі Беларусі. Адзін са шляхоў засялення ішоў з паўднёвага ўсходу, з Рускай раўніны. Патомкі верхнепалеалітычнага насельніцтва занялі ў асноўным Усходнюю Беларусь – Верхняе Падняпроўе. Другі паток ішоў з поўдня па Дняпры, яго асноўнае насельніцтва рассялілася ў Сярэдняй Беларусі і Усходнім Палессі, а частка дасягнула паўднёвых раёнаў Заходне-Дзвінскага басейна і Панямоння. Трэцяя міграцыйная хваля распаўсюдзілася на паўднёва-заходнія раёны Беларусі і была звязана з рухам насельніцтва з Паўднёвай Польшчы. І нарэшце, чацвёртая група плямён прыйшла з Заходняй Еўропы праз Польшчу і рассялілася ў Заходняй Беларусі і суседняй Літве.

Як бачна, засяленне тэрыторыі Беларусі ў мезаліце ажыццяўлялася з розных месцаў і рознымі групамі насельніцтва, якія адносіліся да розных этнасаў. Рассяліўшыся кампактнымі групамі, яны ўтварылі сама меней чатыры культурна-гістарычныя вобласці. У этнічных адносінах Беларусь тады не ўяўляла адзінства.

На Беларусі вядома 120 мезалітычных стаянак, у тым ліку на Палессі – 61. Агульная колькасць насельніцтва складала прыкладна 4,5 – 6 тыс. чалавек. Асноўныя прылады працы выраблялiся з крэменю, дрэва або косці. Для жыцця і побыту людзей была характэрна радавая арганізацыя. Радавыя абшчыны аб'ядноўваліся ў плямёны. Суплемennікі мелі падобныя адзін да аднаго прыёмы апрацоўкі матэ-








*Старажытныя стаянкі і шляхі засялення чалавекам тэрыторыі Беларусі ў мезаліце*

рыялаў, формы прылад, тыпы пабудоў, адзенне, звычаі. Таму на тэрыторыі аднаго племені археолагі знаходзяць аднолькавыя рэчы, якія адлюстроўваюць культурную супольнасць людзей гэтага племені. Такую агульнасць матэрыяльнай культуры называюць археалагічнай культурай.

У мезаліце ў далінах буйных рэк Беларусі жыло ўжо першае сталае (аўтахтоннае) насельніцтва. Былая адносная ізаляванасць плямён усё часцей парушалася. З'явіліся і больш складаныя прылады працы: крамянёвыя пласціны, сякеры, цёслы, разцы, скрабкі, скоблі. Памочнікам чалавека на паляванні стаў сабака. У гаспадарцы значнае месца займала рыбалоўства.

Каменны век завяршыўся *эпохай неаліту (новы каменны век, 4 – 3 тыс. гг. да н.э.).* Клімат стаў яшчэ цяплейшым. Неабсяжныя

лясы, лугі, балоты былі прытулкам для розных відаў жывёлы і птушак. На паляванні акрамя лука сталі прымяняць лоўчыя ямы і пасткі. Разнастайнымі былі спосабы лоўлі рыбы. Вынаходніцтва сетак зрабіла рыбалоўства надзейнай крыніцай забеспячэння людзей харчаваннем, што прывяло да росту насельніцтва. Па-ранейшаму вялікае месца займала збіральніцтва.

Шмат неалітычных радавых абшчын жыло паабапал Дняпра. У басейне Прыпяці даволі шчыльна было заселена яе вярхоўе і суседнія азёры, берагі Стыры, Гарыні, Ясельды, раёны Нароўлі і Мазыра. На тэрыторыі сучаснай Беларусі выяўлена больш за 500 паселішчаў эпохі неаліту, агульная колькасць насельніцтва – 27 – 36 тыс. чалавек. Паблізу жылля выраблялiся крамянёвыя прылады. Крэйдавы крэмень здабывалі ля берагоў Сожа, Бесядзі, Нёмана, Ясельды. Таму і закладваліся шахты, што пацвярджаецца іх рэшткамі, выяўленымі паблізу пас. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна.

У эпоху неаліту з'явіўся гліняны посуд, пераважна вастрадонны, зроблены ў тэхніцы ручной лепкі, з арыгінальнымі арнаментамі і іх размяшчэннем. Па тыпах посуду і арнаментах археолагі вызначаюць асобныя неалітычныя культуры: нёманскую, грабеньчата-накольчатай керамікі (днепра-данецкую), з тыповай ямачна-грабеньчатай керамікай, верхнедняпроўскую і дзяснінскую. З'явілася таксама прадзенне і ткацтва, значныя поспехі дасягнуты ў апрацоўцы дрэва. Пастаянна ўдасканальваліся прылады працы: сякера, цясла, долата. З эпохі неаліту дайшлі да нас некаторыя мастацкія вырабы: галава качкі з косці, драўляная галава чалавека, зробленая з косці выява гадзюкі з галоўкай і арыгінальна перададзенай скурай і інш.

Вызначыць этнічную прыналежнасць старажытнага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў палеаліце, мезаліце і на працягу большай часткі неаліту няма магчымасці. Мовы гэтага насельніцтва невядомы. Сляды іх не знойдзены. Разам з тым даныя археалогіі і гістарычнага моваазнаўства, у прыватнасці гідранімії (старажытных назваў рэк, азёр), даюць магчымасць вызначыць этнічную прыналежнасць некаторых груп мясцовага насельніцтва ў канцы каменнага веку. Прыкладна ў III тысячагоддзі да н.э. у Падзвінні і Падняпроўі з'явілася фіна-угорскае насельніцтва, а на крайнім паўднёвым захадзе Папрыпяцця – невялікія групы індаеўрапейскага насельніцтва. Пачаўся паступовы пераход да вытворчай гаспадаркі – земляробства і жывёлагадоўлі. Гэты вялікі ў гісторыі чалавецтва гаспадарчы пераварот атрымаў назву неалітычнай рэвалюцыі.

**Другі, індаеўрапейскі перыяд этнічнай гісторыі Беларусі** пачаўся ў бронзавым веку з часу рассялення на яе тэрыторыі індаеўрапейскіх плямён (3 – 2 тыс. гг. да н.э. – да нашага часу).

Прыкладна 3 – 2 тыс. гадоў да н.э. адбыўся дэмаграфічны выбух. На велізарных прасторах Еўропы – ад Рэйна на захадзе да верхняй і сярэдняй Волгі на ўсходзе, ад Прычарнамор'я на поўдні да Скандынавіі








*Культурна-гістарычныя вобласці ў канцы неаліту:*

*1* – нёманская культура; *2* – культура грабеньчата-накольчатай керамікі (днепра-данецкая); *3* – культура з тыповай ямачна-грабеньчатай керамікай; *4* – верхнедняпроўская; *5* – дзяснінская

на поўначы – рассяліліся плямёны жывёлаводаў-вандроўнікаў – плямёны індаеўрапейскай моўнай групы.

Пытанне пра паходжанне індаеўрапейцаў, прычыны, час і шляхі іх вялікай міграцыі па-рознаму асвятляюцца ў навуковай літаратуры. Большасць вучоных зыходзіць з меркавання, што ўсе народы індаеўрапейскай сям'і маюць у сваёй аснове адзін народ, які прынята называць праіндаеўрапейцамі, а тэрыторыю, на якой яны жылі да міграцыі, – іх прарадзімай. Не толькі праіндаеўрапейцы, але і многія калісьці магутныя этнасы, такія як хеты, кельты, скіфы і іншыя, назаўсёды зніклі з гістарычнай карты планеты.

Існуе некалькі канцэпцый прарадзімы індаеўрапейцаў. У мінулым стагоддзі панавала канцэпцыя еўрапейскай прарадзімы (Паўночная Германія і Паўднёвая Скандынавія), сфарміраваная і абгрунтаваная нямецкімі вучонымі пад уплывам іх пангерманскіх настрояў. У больш позні час гэта канцэпцыя атрымала расісцкую афарбоўку і была ўзята на ўзбраенне фашысцкімі заправіламі Германіі. Адзінымі сапраўднымі патомкамі праіндаеўрапейцаў, без аніякіх прымесяў, "чыстымі" арыйцамі (арыямі называла сябе ў старажытнасці адна з усходніх індаеўрапейскіх груповак) былі аб'яўлены германскія народы.

Аднак гэта канцэпцыя не давала адказаў на многія пытанні. Лінгвістычныя матэрыялы паказвалі, што індаеўрапейцы з даўніх часоў былі жывёлаводамі і гэту форму гаспадаркі разнеслі па ўсім

свеце разам са сваёй міграцыяй. У той жа час археалагічныя матэрыялы сведчылі, што ў Паўночнай Еўропе жывёлагадоўля распаўсюдзілася пазней, чым, напрыклад, на Балканах, што ў Еўропе насельніцтва рухалася з поўдня на поўнач, а не наадварот.

Таму ў канцы XIX – пачатку XX ст. шырокае распаўсюджанне атрымала балканская канцэпцыя. Яна ў многім давала адказы на тыя пытанні, на якія не адказвала канцэпцыя паўночнаеўрапейскай лакалізацыі праіндаеўрапейцаў. Былі прапанаваны і іншыя ідэі, якія разглядалі ў якасці прарадзімы індаеўрапейцаў паўднёвыя стэпы Усходняй Еўропы і значныя раёны Сібіры, што супярэчыць прынятым у навуцы ўяўленням аб тым, што пачатковая вобласць прарадзімы этнасаў не павінна быць вялікай (*Загорульский Э.М.* Начало формирования населения Белоруссии. С.22 – 23).

У 70 – пачатку 80-х гадоў савецкімі вучонымі, спецыялістамі па старажытных індаеўрапейскіх мовах В.Івановым і Т.Гамкрэлідзе прапанавана канцэпцыя пярэднеазіяцкай прарадзімы праіндаеўрапейцаў. Было высветлена, што праіндаеўрапейцы жылі на поўдні, сярод гор. Яны ведалі горныя леднікі, хуткія горныя рэчкі і горную расліннасць. Сярод вядомых ім звяроў былі леў і слон. Суседзямі праіндаеўрапейцаў былі семіцкія плямёны і картвельскія народы (продкі грузін). Гэтым самым выключаецца як паўночнаеўрапейская, так і балканская зона. Прарадзіма праіндаеўрапейцаў знаходзілася ў Пярэдняй Азіі. Канцэпцыя пярэднеазіяцкай прарадзімы праіндаеўрапейцаў з'яўляецца найбольш абгрунтаванай вынікамі даследаванняў сумежных навук (археалогіі, этнаграфіі, тапанімікі і інш.). Яна мае шмат прыхільнікаў сярод спецыялістаў розных галін ведаў.

У сувязі з перанаселенасцю праіндаеўрапейскімі плямёнамі іх прарадзімы, бурным развіццём жывёлагадоўлі і земляробства, паляпшэннем умоў жыцця людзей, скарачэннем дзіцячай смяротнасці, павелічэннем працягласці жыцця, шчыльнасці і колькасці насельніцтва, неабходнасцю асваення новых тэрыторый для адначасовага павелічэння пагалоўя жывёлы прыкладна 4 – 3 тыс. гадоў да н.э. пачалася вялікая міграцыя праіндаеўрапейскіх плямён на прасторах Азіі і Еўропы. Міграцыя заняла некалькі тысяч гадоў, і за гэты час змяніліся многія пакаленні людзей.

З тэрыторыі прарадзімы праіндаеўрапейцы мігрыравалі на захад, усход і поўнач. На захадзе яны прайшлі Малую Азію, выйшлі да Эгейскага мора, засялілі Балканы. Адна частка з іх абагнула Чорнае мора, прайшла праз тэрыторыю сучасных Балгарыі, Румыніі, Малдавіі, асвоіла Правабярэжную Украіну, стварыўшы там трыпольскую культуру. Гэта – адна са старажытных індаеўрапейскіх міграцыйных хваль.

Была спроба прайсці Каўказ, дзе выяўлены цікавыя культуры індаеўрапейцаў. Сусветнай вядомасцю карыстаецца Майкопскі курган (3 тыс. гг. да н.э.), дзе знойдзены вырабы з золата і серабра. Пазней, у бронзавым веку, адбылося пранікненне індаеўрапейцаў на Каўказ (трыалецкая культура).








*Пачатак распаўсюджання індаеўрапейцаў ва Усходняй і Паўночнай Еўропе:*

*1* – вобласць старажытнаямнай культуры; *2* – вобласць культур сярэднедняпроўскай (ранні этап) і шарападобных амфар; *3* – напрамкі руху індаеўрапейскіх плямён

Частка праіндаеўрапейцаў рухалася на ўсход праз Іранскае пласкагор'е, адны выйшлі на тэрыторыю сучаснага Кітая, другія – на Індастанскі паўвостраў і сталі вядомыя як арыі. Асобная група індаеўрапейцаў ад Ірана павярнула на поўнач у Сярэднюю Азію. Яна прайшла паміж Каспійскім і Аральскім марамі, апынулася ў прыволжскіх стэпах і працягвала свой рух на захад да Дняпра, у Паўночнае Прычарнамор'е (старажытнаямная культура). Гэты магутны міграцыйны паток стаў крыніцай рассялення індаеўрапейцаў у Еўропе, у тым ліку і на Беларусі.

Пры сустрэчы з мясцовым насельніцтвам індаеўрапейцы, якія знаходзіліся на больш высокай ступені сацыяльна-эканамічнага развіцця (панавалі жывёлагадоўля і земляробства, выкарыстоўвался метал, у той час як мясцовае насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам), перамагалі яго і асімілявалі. Выключэннем было насельніцтва Індыі і Кітая. Індаеўрапейцы з'яўляліся вынаходнікамі кола і калёснага транспарту, патрэба ў якім была прадыктавана міграцыяй, іх рухомым ладам жыцця. Кола калясніц рабілі тады з кавалка дрэва цвёрдай пароды, пазней – з металу. Новай з'явай стала пахаванне ў курганах, што было звязана з прыходам у Еўропу жывёлаводаў і земляробаў. Індаеўрапейцы прынеслі і больш высокую форму грамадскай арганізацыі – патрыярхат.

Паступова ў выніку міграцыі і змешвання з карэнным насельніцтвам, а таксама пад уздзеяннем розных геаграфічных умоў індаеўрапейцы страчвалі сваё адзінства і нават падабенства і пераўтвараліся ў мазаіку народаў, іх культур і моў. Некаторыя даследчыкі налічваюць каля 40 народаў, якія з'явіліся вынікам змяшэння праіндаеўрапейцаў з мясцовым насельніцтвам. Да індаеўрапейцаў адносяцца народы, якія гавораць цяпер на славянскіх, германскіх, балцкіх, італійскіх (раманскіх), кельцкіх, індаіранскіх, грэчаскай, армянскай і албанскай мовах, прычым славяне, балты і германцы з'яўляюцца найбольш блізкімі паміж сабой. Магчыма, яны развіліся ад адзінага продка — паўночнай групы індаеўрапейцаў.

З тэрыторыі Паўднёва-Усходняй Еўропы і Паўночнага Прычарнамор'я індаеўрапейцы мігрыравалі ў двух асноўных напрамках: першы — на захад і паўночны захад, у Заходнюю Еўропу; другі — на поўнач, у Сярэднюю і Паўночную Еўропу. У III—II тысячагоддзі да н.э. на вялікай тэрыторыі, якая ахоплівала басейны Віслы, Нёмана, Заходняй Дзвіны, Верхняга Падняпроўя, у выніку асіміляцыі мясцовага неалітычнага насельніцтва індаеўрапейцамі адбываецца фарміраванне адной з галін індаеўрапейскай мазаікі народаў — балтаў (літоўцы, латышы, прусы, яцвягі, куршы, земга́лы, селы і інш.). На поўдні і паўднёвым усходзе балты межавалі са скіфамі, сарматамі і іншымі плямёнамі, на поўначы і паўночным усходзе іх суседзямі былі фіна-угорскія плямёны, на захадзе — славяне і германцы.

**У рамках індаеўрапейскага перыяду вылучаецца балцкі этап этнічнай гісторыі Беларусі, які храналагічна супадае з эпохай металу (3 — 2 тыс. гг. да н.э. — IV—V стст. н.э.).**

Балты, якія прыйшлі на Беларусь з Сярэдняга Падняпроўя, засвойвалі мясцовы даіндаеўрапейскі субстрат. На працягу II тысячагоддзя да н. э. адбываўся працэс змешвання балтаў (індаеўрапейцаў) з мясцовым насельніцтвам, асіміляцыі апошняга: "чыстых" этнасаў не існуе, усе этнасы ўтвараюцца ў выніку змешвання народаў. Першапачаткова балты пасяліліся ў Папрыпяцці і Падняпроўі, а на поўначы Беларусі яшчэ тысячу гадоў мела ўплыў фіна-угорскае насельніцтва. З рассяленнем індаеўрапейцаў змяніўся не толькі этнічны склад насельніцтва Беларусі, але змянілася і эпоха. Каменны век уступіў месца **бронзаваму веку (3 — 2 тыс. гг. да н.э. — 1 тыс. гг. да н.э.)**. Старажытная эканоміка, заснаваная на рыбалоўстве, паляванні і збіральніцтве, паступова замянялася земляробствам і жывёлагадоўляй. Індаеўрапейцы займаліся плужным земляробствам. Плуг вядомай канструкцыі, які дайшоў да нас у малюнках таго часу, быў знойдзены ў тарфяніку каля в.Капланавічы ў Клецкім раёне.

Індаеўрапейцы пакланяліся агню і сонцу. Агню надавалася значэнне ачышчальнай сілы, з ім асацыіраваўся чырвоны колер. Праяўленнем культу агню быў звычай пасыпаць цела нябожчыка мінеральнай чырвонай охрай, якая потым пераходзіла на косці, і пры раскопках робіцца ўражанне, быццам косці спецыяльна малявалі.








*Археалагічныя культуры бронзавага веку:*

*1* – помнікі сярэднедняпроўскай культуры, *2* – помнікі вісла-нёманскай культуры, *3* – помнікі фацьянаўскай культуры; *4* – межы археалагічных культур бронзавага веку; *5* – межы археалагічных культур позняга неаліту; *6* – мяжа вобласці з балцкай гідраніміяй

З дзейнасцю індаеўрапейцаў звязваюць арнамент, якім упрыгожвалі посуд, — адбіткі шнура, накручанага на палачку. Такі арнамент называўся шнуравым, а археалагічная культура — культурай шнуравой керамікі. Яе арэалы распаўсюджання ахоплівалі вялікія тэрыторыі Еўропы, у тым ліку і землі Беларусі. З сярэдзіны бронзавага веку тэрыторыя Беларусі ўвайшла ў арэал культур сярэднедняпроўскай, вісла-нёманскай, шнуравой керамікі Палесся, а таксама паўночна-беларускай.

Выкарыстанне больш эфектыўных бронзавых прылад працы, поспехі ў земляробстве і жывёлагадоўлі стварылі ўмовы для накаплення багацця асобнымі сем'ямі, што было прывабай для іншых. Грабяжы і разбоі сталі адной з форм узбагачэння. Таму асноўным тыпам пасяленняў балтаў былі ўмацаваныя гарадзішчы, якіх на тэрыторыі Беларусі налічвалася каля 1 тыс. Па даных археолагаў, на адным гарадзішчы жыло ў сярэднім ад 50 да 75 чалавек. Агульная колькасць насельніцтва ў бронзавым веку магла быць у памерах ад 50 да 75 тыс. чалавек. З развіццём земляробства гарадзішчы змяніліся адкрытымі селішчамі-вёскамі, дзе жылі некалькі вялікіх, а потым і малых сем'яў.

Трэба адзначыць, што неалітычнае насельніцтва Беларусі не было поўнасцю асімілявана. Яшчэ існавалі ранейшыя гаспадарчыя і культурныя традыцыі. Некаторыя рэгіёны Беларусі былі слаба заселены балтамі. Але на большай частцы яе тэрыторыі сфарміраваўся балцкі этнас. Аб гэтым сведчыць той факт, што пераважная большасць назваў рэк (Верхіта, Волча, Гайна, Грыўда, Друць, Клёва, Лучоса, Мытва, Нача, Палата, Ула, Усяжа, Эса і інш.) захавалі карані і характэрныя канчаткі, якія ёсць у літоўскай і латышскай, г.зн. балцкіх, мовах. Можна прыгадаць і іншыя назвы, якія адносяцца да балцкай гідраніміі: Асвея, Дрысвяты, Лосвіда, Муйса, Нарач, Усвяча і інш. Найбольш часта сустракаюцца гідронімы, звязаныя з балтамі, у басейнах рэк Бярэзіны (Мена, Ольса, Серуч, Уса) і Сожа (Рэхта, Рэста, Сноў, Туросна).

Паходжанне тэрміна "балты" звязваюць з лацінскай назвай вострава на поўначы Еўропы (Baltia, Balcia), які апісаў Пліній Старэйшы (І ст. н.э.). Словы з коранем "балты" сустракаюцца ў германскага храніста Адама Брэменскага (ІІст.), у прускіх хроніках, старажытнарускіх і беларуска-літоўскіх летапісах XIV – XVI стст. У навуковы ўжытак тэрмін "балты" ўведзены нямецкім лінгвістам Г.Несельманам у 1845 г.

На тэрыторыі Беларусі **ў жалезным веку (1 тыс. гг. да н.э. – IV–V стст. н.э.)** сфарміравалася некалькі археалагічных культур: днепрадзвінская (на поўначы), культура штрыхаванай керамікі (сярэдняя і паўночна-заходняя часткі Беларусі), мілаградская і зарубінецкая (на поўдні Беларусі). Культуры жалезнага веку былі дастаткова развітымі. Мясцовыя плямёны асвоілі жалезаапрацоўку, вырабы з жалеза былі дастаткова разнастайнымі: сякеры, нажы, сярпы, зброя, упрыгажэнні і г.д.

Такім чынам, балцкі этап этнічнай гісторыі Беларусі – гэта час распаўсюджання на беларускіх землях індаеўрапейцаў з іх асноўнымі заняткамі – земляробствам і жывёлагадоўляй, час інтэнсіўнай асіміляцыі мясцовага неалітычнага насельніцтва, у тым ліку і фінаугорскага на поўначы Беларусі. Мясцовае неалітычнае насельніцтва паступова трансфармавалася ў індаеўрапейцаў-балтаў, адначасова аказваючы пэўны ўплыў на іх мову і культуру.

**Новы, славянскі этап этнічнай гісторыі Беларусі** пачаўся ў раннім сярэднявеччы. Яго храналагічныя рамкі: IV–V стст. н.э. – да нашага часу.

Хто такія славяне? Адкуль яны з'явіліся? Дзе іх прарадзіма? Гэта вельмі складаныя пытанні, і на іх цяжка адказваць, бо адзінага пункту гледжання на час узнікнення славян, пачатковыя этапы іх гісторыі няма. Мноства канцэпцый звязана з недастатковасцю ці поўнай адсутнасцю першакрыніц, недаследаванасцю археалагічных пластоў больш старажытных, чым пласты Х ст. у Ноўгарадзе, Разані і іншых месцах, цяжарам старых канцэпцый, іх жывучасцю і г.д. Розныя пункты гледжання на паходжанне славян і ў прадстаўнікоў сумежных з гісторыяй навук – археолагаў, лінгвістаў, этнографаў і інш.






*Археалагічныя культуры ранняга жалезнага веку:*

1 – паморская; 2 – мілаградская; 3 – штрыхаванай керамікі; 4 – межы зарубінецкай; 5 – днепрадзвінская; 6 – юхноўская; 7 – лесастэпавыя культуры скіфскага часу; 8 – дзьякаўская; 9 – вобласць верхняволжскіх гарадзішч; 10 – курганныя магільнікі заходнебалцкіх плямён; 11 – каменныя курганы

Пра паходжанне славян вучоныя выказалі мноства супярэчлівых гіпотэз, асабліва пра месцазнаходжанне іх прарадзімы. Адны даследчыкі сцвярджалі аб лакалізацыі славян у Прыпяцка-Сярэднедняпроўскім рэгіёне (Ю.Растафінскі, К.Машынскі, Ф.Філін і інш.), другія вучоныя змяшчалі іх прарадзіму ў Вісла-Одэрскім міжрэччы (Т.Лер-Сплавінскі, Ю.Кастшэўскі, Я.Чаканоўскі і інш.), трэція – на шырокіх прасторах ад Одэра да Дняпра (Л.Нідэрле, П.Траццякоў, В.Генсель, Б.Рыбакоў і інш.).

Вучоныя пангерманскага накірунку сцвярджаюць, што славяне прыйшлі на нашу тэрыторыю з Азіі і паўднёвых стэпаў Усходняй Еўропы. Гэта т.зв. канцэпцыя "ўсходняй лакалізацыі славян", якая цалкам пабудавана на здагадках, быццам славяне – азіяты, а немцы заўсёды жылі ў Германіі, дзе расце бук (т.зв. "букавы аргумент"), быццам славяне прыйшлі з Азіі ў Еўропу значна пазней, калі германцы пакінулі гэту тэрыторыю пасля "вялікага перасялення народаў".

Некаторыя вучоныя размяшчаюць на тэрыторыі Беларусі неўраў – адзін з народаў, аб якім пісаў грэчаскі гісторык Герадот. Але іх лакалізацыя ў Герадота зусім супярэчлівая. Ён адзначаў, што за вобласцю, дзе жылі неўры, пачыналася пустыня. Растлумачыць гэта не магчыма. Іншыя вучоныя лічылі неўраў славянамі, тлумачачы па-свойму герадотаўскі аповяд аб здольнасці неўраў адзін раз на год пераўтварацца ў ваўкоў. Такой здольнасці не мае ніводны народ.

На падставе даных гісторыі, мовазнаўства, тапанімікі, археалогіі, антрапалогіі і іншых навук многія даследчыкі сцвярджаюць, што з Паўднёва-Усходняй Еўропы і Паўночнага Прычарнамор'я індаеўрапейцы мігрыравалі не толькі на поўнач, у Сярэднюю і Паўночную Еўропу, дзе далі пачатак балтам, але і на захад і паўночны захад. Прыкладна ў III тысячагоддзі да н.э. яны з'явіліся ў Заходняй Еўропе, асімілявалі мясцовае насельніцтва, у выніку чаго ўтварылася яшчэ адна галіна індаеўрапейскай мазаікі народаў – славянская. Да II тысячагоддзя да н.э. працэс фарміравання славян у асноўным закончыўся (прыкладна 500 гадоў дастаткова для ўтварэння новых народаў).

Прарадзіму славян трэба шукаць паміж тэрыторыямі, якія ў III – II тысячагоддзі да н.э. займалі, з аднаго боку, германцы (Ютландыя і Паўднёвая Скандынавія), а з другога – балты (Беларусь, Прусія, Літва, Латвія). У той час на поўнач і ўсход ад сучаснай Беларусі жылі фіна-угорскія плямёны, на поўдзень ад яе – іранамоўныя народы (скіфы і сарматы). Вядома там славян не магло быць. Адзіная тэрыторыя, якую можна лічыць прарадзімай славян, – гэта тэрыторыя паміж Эльбай, Віслай і Нёманам.

У II тысячагоддзі да н.э. тэрыторыя, на якой жылі славяне, значна паменшылася ў сувязі з міграцыяй германскіх плямён з Ютландыі ўздоўж узбярэжжа Балтыйскага мора. Германскія плямёны злучыліся з балцкімі і адрэзалі славян ад мора, вось чаму ў апошніх марская тэрміналогія неразвітая.





Другая палова I тысячагоддзя н.э. была адзначана важнымі падзеямі ў гістарычным лёсе народаў Еўропы. Адыходзіла ў мінулае рабаўладальніцкая фармацыя, пачынаўся перыяд феадалізму. Славяне рабілі першыя крокі па перасяленню са сваёй прарадзімы. Пасля другога "вялікага перасялення народаў", звязанага з распадам Рымскай імперыі, пад націскам плямён готаў і гунаў у IV – VII стст. н.э. адбываецца значнае пашырэнне славянскага арэала, якое суправаджалася моўнай і этнічнай дыферэнцыяцыяй славян. Вялікія групы насельніцтва прыходзяць у рух. Якія ж прычыны славянскай міграцыі?

1. Значнае павелічэнне колькасці славянскага насельніцтва на тэрыторыі паміж Эльбай, Віслай і Нёманам. Узровень развіцця гаспадаркі, перанаселенасць тэрыторыі выклікалі неабходнасць асваення новых зямель.

2. Славяне ў сваім сацыяльна-эканамічным і палітычным развіцці падышлі да класавага грамадства – перыяду ваеннай дэмакратыі. Маёмаснае размежаванне ў іх асяроддзі, грабежніцкія ваенныя напады падводзілі славян да захопу новых зямель.

3. Скарбы Рымскай імперыі, яе багатыя абшары вабілі да сябе славян. Акрамя таго, славяне ў той час адчулі на сабе націск з боку германцаў, авараў, хазараў і таму вымушаны былі шукаць новыя землі.

Са сваёй прарадзімы частка славян пачала масавы рух на поўдзень і ў VII – VIII стст. засяліла Балканы, землі сучаснай Югаславіі і Балгарыі, часткова Грэцыі, некаторыя іх групы дайшлі да Малой Азіі, Іспаніі, Сіцыліі, Паўночнай Афрыкі. У працэсе асіміляцыі смуглатварага фракійскага насельніцтва ўтварылася галіна славян, якіх называюць **паўднёвымі славянамі** (сёння гэта – балгары, сербы, харваты, славенцы, македонцы і інш.).

Другая частка славян са сваёй прарадзімы рухалася на ўсход, дайшла да Дняпра, і ў VI – VII стст. на тэрыторыі сучаснай украінскай Валыні сфарміравалася новая галіна славян – **усходнія славяне**. На гэтай тэрыторыі ўсходнія славяне знаходзіліся да VIII – IX стст., потым яны засялілі вялікія абшары Усходняй Еўропы – да Дона, Акі, вярхоўяў Волгі (сёння гэта рускія, беларусы, украінцы).

Як мяркуюць некаторыя даследчыкі, тэрыторыя Беларусі на поўдзень ад Прыпяці была заселена славянамі ўжо ў VII – VI стст. да н.э. Аб гэтым сведчаць старажытныя славянскія гідронімы (назвы рэк): Стыр, Стубла, Стубель, Сваратоўка, Родча, Рубча і інш. На тэрыторыі на поўнач ад Прыпяці яшчэ жылі народы балцкай галіны індаеўрапейцаў, сведчаннем чаго з'яўляюцца балцкія гідронімы: Лань, Арэса, Клева, Брожа, Ула, Гаўя, Эса і інш. Некаторыя ўральскія, фіна-угорскія гідронімы (Дзвіна, Свір, Мардва і інш.) на поўначы Беларусі былі ўспрыняты балцкай групай індаеўрапейцаў. Утварыліся таксама гібрыдныя балта-фінскія гідронімы, напрыклад Лынтупка, Дрыса.

Што датычыць заходніх славян (сёння гэта – палякі, чэхі, славакі і сербы-лужычане), то яны засталіся на сваёй прарадзіме, нікуды не мігрыравалі і ні з кім не змешваліся. Да фарміравання беларускага этнасу заходнія славяне прамога дачынення не мелі.

Адначасова з пашырэннем славянскага арэала ішоў працэс утварэння ваенна-племянных саюзаў антаў і склавінаў (славян). Звесткі пра гэтыя плямёны ёсць у аўтараў VI ст. Іардана, Іаана Эфескага, Пракопія Кесарыйскага і інш., якія адзначалі генетычную роднасць славянскай супольнасці або лічылі славян асобнымі адгалінаваннямі венедаў (упершыню гэта назва сустракаецца ў антычных аўтараў I – II стст. Плінія Старэйшага, Тацыта, Пталамея). У VI – VIII стст. "склавіны", "склавены" паступова трансфармаваліся ў агульную назву "славяне", якая стала іх саманазвай.

Паступова абшчынна-племянная і ваенна-палітычная арганізацыя славян пачала замяняцца дзяржаўна-класавай, што садзейнічала складванню раннефеадальных славянскіх дзяржаў. Такімі дзяржавамі ў Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропе былі княствы Само ў Чэхіі, Першае Балгарскае царства, Вялікамараўская, Польская і Сербская дзяржавы і інш. У межах гэтых дзяржаў пачалі фарміравацца славянскія народнасці: палякаў – з плямён і племянных саюзаў палян, віслян, мазаўшан, памаран; чэхаў – з чэхаў, дулебаў, лучан, дзячан. Утварыліся таксама са славянскіх плямён сербская, чарнагорская, баснійская, македонская, харвацкая, балгарская і іншыя славянскія народнасці.

Аднак такія працэсы адбываліся не ва ўсіх еўрапейскіх рэгіёнах. Там, дзе славяне складалі меншасць насельніцтва, яны самі паступова асіміляваліся. У Заходняй і Паўднёвай Еўропе славяне былі асіміляваны грэкамі, італьянцамі, венграмі, румынамі, немцамі. Акрамя таго, не ўсе славянскія плямёны змаглі захавацца і сфарміравацца ў народнасці. Напрыклад, палабскія і паморскія славянскія плямёны – люцічы, вялеты, абадрыты і інш. – у выніку нямецкай агрэсіі былі часткова знішчаны, а часткова анямечаны. Выключэнне складаюць лужыцкія сербы (сорбы), якія на тэрыторыі сучаснай Германіі захавалі сваю славянскую культуру, мову і самасвядомасць.

Гістарычны шлях славян Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропы быў вельмі складаны. У X ст. пад уладай венгерскіх феадалаў апынуліся землі славакаў. У другой палове XIV– XVI стст. сербы, балгары, македонцы, чарнагорцы былі заняволены туркамі. Харваты, чэхі і славенцы былі ўключаны ў імперыю Габсбургаў. Спатрэбілася шмат часу, каб вызваліцца гэтым славянскім народам і стаць на шлях самастойнага развіцця.

Ва Усходняй Еўропе, г.зн. на тэрыторыі сучаснай Беларусі, Расіі і Украіны, славяне асімілявалі мясцовае, адпаведна балцкае, фіна-угорскае і цюркскае, насельніцтва. Рассяліўшыся, усходнія славяне ўяўлялі сабой адзіны народ, мелі агульную культуру, мову, а сваю назву атрымалі па месцы пражывання. У летапісах называюцца каля








*Рассяленне ўсходніх славян на тэрыторыі Беларусі (IX–XII стст.)*

15 усходнеславянскіх супольнасцей – дрыгавічы, радзімічы, крывічы, вяцічы, бужане, паляне, драўляне, валыняне і інш. Пазней яны ўвайшлі ва ўсходнеславянскае дзяржаўнае аб'яднанне – Кіеўскую Русь.

Калі адбылося засяленне славянамі беларускіх зямель?

Раней адзначалася, што да VI – VII стст. на большай частцы тэрыторыі Беларусі пераважала балцкае насельніцтва. Славяне ў гэты час жылі кампактна, суцэльным масівам толькі ў басейне Прыпяці, галоўным чынам на поўдзень ад яе. Асноўным тыпам славянскіх пасяленняў былі селішчы (неўмацаваныя населеныя пункты), а тыпам жылля – паўзямлянка.

У VI – VII стст. пачалося пранікненне славян у балцкі арэал. У балтаў з'яўляюцца паўзямлянкі з печамі-каменкамі, каменныя жорны, жалезныя нажы і іншыя славянскія рэчы, прылады працы.

У VIII – IX стст. адбываецца масавае рассяленне славян у балцкім арэале на тэрыторыі Беларусі – спачатку ў верхнім цячэнні рэк Случ і Арэса, на правым беразе Дняпра, потым на Бярэзіне. У курганах знойдзены пахаванні па славянскаму абраду шляхам трупаспалення, а таксама славянская кераміка. Засяленне ішло з паўднёвай часткі Прыпяцкага басейна. Славяне праніклі ў Падняпроўе і Падзвінне ў IX ст., а да X ст. яны рассяліліся ў Верхнім Панямонні. Большая частка балцкага насельніцтва была асімілявана, другая – знішчана ці выціснута на паўночны захад, у Прыбалтыку, дзе прыняла ўдзел у фарміраванні этнічных літоўцаў і латышоў. Трэцяя частка балцкага насельніцтва працягвала жыць на сваіх былых месцах. Асіміляцыя гэтай часткі балтаў славянамі на тэрыторыі Беларусі працягвалася да XII – XIII стст. і нават пазней.

5. Зак. 5560

У выніку славяна-балцкага сінтэзу ў VIII – X стст. узніклі новыя этнічныя славянскія супольнасці, якія часта ўпамінаюцца ў сярэдневяковых пісьмовых крыніцах. Гэта – дрыгавічы, радзімічы, крывічы.

**Дрыгавічы** займалі большую частку Паўднёвай і значную частку Сярэдняй Беларусі. У "Аповесці мінулых гадоў" адзначаецца, што яны жылі паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной. У іх культуры пераважалі славянскія элементы. Мова была славянскай. Аднак у іх тагачаснай культуры зафіксаваны і балцкія элементы – спіральныя пярсцёнкі , змеегаловыя бранзалеты , падковападобныя спражкі. Да балцкіх вытокаў адносіцца звычай пахавання нябожчыкаў у драўляных дамавінах-церамах.

Змешанае паходжанне дрыгавічоў у выніку славяна-балцкага сінтэзу зафіксавана і ў назве гэтай супольнасці. Корань яе, відаць, балцкі. У літоўскай мове ёсць шмат слоў з гэтым коранем (drėgnas – сыры, вільготны), якія адлюстроўваюць адну з асаблівасцей мясцовасці, дзе аселі дрыгавічы, а менавіта вільготнасць, забалочанасць зямлі ў парэччы Прыпяці.

Пазней да былой асновы было дададзена славянскае "-ічы". Такім чынам, тэрмін "дрыгавічы" ўяўляе сабой славянізаваную назву былой, даславянскай формы, якая азначала групу балцкага насельніцтва ў адпаведнасці з асаблівасцю тэрыторыі пражывання. З геаграфічнай асаблівасцю тэрыторыі дрыгавічоў звязана і паходжанне слова "дрыгва" ў беларускай мове, што ў перакладзе на рускую азначае "трясина".

**Радзімічы**, паводле звестак з "Аповесці мінулых гадоў", займалі землі паміж Дняпром і Дзясной. Асноўны арэал іх рассялення – басейн р. Сож. Як і дрыгавічы, радзімічы сфарміраваліся ў выніку змяшэння славянскага і балцкага насельніцтва, асіміляцыі апошняга. У культуры пераважалі славянскія элементы. Мова была славянская. Разам з тым ў археалагічных помніках адзначаны і балцкія элементы: шыйныя грыўны, бранзалеты са стылізаванымі змяінымі галовамі, прамянёвыя спражкі.

Летапісная легенда аб паходжанні радзімічаў ад міфічнай асобы Радзіма адлюстроўвае, на наш погляд, хутчэй за ўсё біблейскі светапогляд аўтара гэтай легенды, чым існаванне сапраўднага чалавека. Тут мы сустракаемся з прыкладам міфатворчасці. На думку шэрага аўтараў (М.Піліпенка, Г.Хабургаеў), тэрмін "радзімічы" выяўляе блізкасць з балцкім тэрмінам "знаходжанне".

**Крывічы** займалі поўнач Беларусі і суседнія раёны Падзвіння і Паднявроўя (Пскоўшчыну і Смаленшчыну). Яны жылі ў вярхоўях рэк – Заходняй Дзвіны, Дняпра і Ловаці – і былі найбольш шматлікім усходнеславянскім насельніцтвам. Культура крывічоў дзялілася на дзве вялікія групы: полацка-смаленскую і пскоўскую.

У этнічным абліччы пераважалі славянскія рысы. Мова была славянскай. Да балцкіх элементаў у культуры крывічоў трэба аднесці бранзалеты са змяінымі галовамі, спіральныя пярсцёнкі, грыўны балцкага тыпу і г.д.





Што да назвы "крывічы", дык існуе некалькі гіпотэз. Адны вучоныя (гісторык В.Ластоўскі) выводзяць назву "крывічы" ад слова "кроў"; тады яе можна разумець як "сваякі па крыві", "крэўныя". Вядомы гісторык С.М.Салаўёў сцвярджаў, што назва "крывічы" звязана з характарам мясцовасці, якую займала гэта супольнасць (узгоркаватая, няроўная – крывізна). Вялікая група вучоных (археолаг П.М.Траццякоў, гісторык Б.А.Рыбакоў, беларускі філолаг і гісторык М.І.Ермаловіч) сцвярджаюць, што ў назве "крывічы" захавалася імя язычніцкага першасвяшчэнніка Крыва-Крывейты.

Такім чынам, звесткі археалогіі, мовазнаўства, антрапалогіі сведчаць пра тое, што раннесярэдневяковыя этнічныя супольнасці дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў сфарміраваліся ў выніку змяшэння, сінтэзу славянскіх і балцкіх груп насельніцтва. У іх культуры і мове перапляліся славянскія і балцкія элементы з перавагай славянскіх рыс. Менавіта крывічы, дрыгавічы, радзімічы, а не наступныя этнічныя супольнасці ўтрымлівалі ў сабе балцкі субстрат.

Для характарыстыкі дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў важнае значэнне мае высвятленне тыпу гэтых этнічных супольнасцей. Неправамерна называць іх плямёнамі таму, што ў іх асяроддзі ўжо не было сацыяльнай роўнасці, аднолькавага становішча ўсіх членаў этнічнай супольнасці, знік родаплемянны падзел, з'явілася палітычнае кіраванне, утварыліся "княжанні", на чале якіх стаялі князі. Звесткі з археалогіі, пісьмовых крыніц сведчаць, што дрыгавічы, крывічы і радзімічы пераступілі мяжу абшчынна-радавога ладу і ўвайшлі ў пачатковы этап ранняакласавага грамадства. Гэта пацвярджае і ўзровень развіцця іх эканомікі, які характарызуецца пачаткам грамадскага падзелу працы.

Дрыгавічы, крывічы, радзімічы з'яўляліся тэрытарыяльнымі культурна-этнічнымі супольнасцямі і не сфарміраваліся ў народнасці. Яны ўяўлялі сабой не плямёны, як у раннім жалезным веку, а протанароднасці ("народцы") і адначасова пачатковыя дзяржаўныя ўтварэнні, ці протадзяржавы.

Дрыгавічы, крывічы-палачане, радзімічы паступова ўцягваліся ў працэс фарміравання беларускай народнасці. Прычым трэба адзначыць, што паміж славянамі і балтамі мелі месца і мірнае суіснаванне, і ваенныя сутыкненні, і асіміляцыйныя працэсы. Асімілявалі не толькі славяне балтаў, але ў шэрагу выпадкаў славяне былі асіміляваныя балтамі. Мелі месца істотныя адрозненні гэтых працэсаў на ўсходзе і захадзе Беларусі. На ўсходзе былі вельмі моцныя сувязі славянскай, балцкай і суседняй фіна-угорскай культуры, якія доўга ажыццяўляліся ў межах шырокай паласы, і працягласць іх была вельмі вялікай. У заходніх рэгіёнах Беларусі ўсходнеславянскія супольнасці дрыгавічоў, валынян, крывічоў суседнічалі і суіснавалі з усходнебалцкімі (літоўскімі), заходнеславянскімі (мазавецкімі), заходнебалцкімі (яцвяжскімі) плямёнамі. У адрозненне ад балтаў, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Смаленшчыны і былі

асімляваны славянамі, балцкія плямёны Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі сталі асновай, на якой склаліся народнасці: літоўцы, латышы, прусы, яцвягі. Па мове балты гэтага рэгіёна падзяляліся на заходніх (прусы, яцвягі) і ўсходніх (літоўцы, латышы, куршы і інш.).

Тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі р.Нараў насяляла група яцвяжскіх плямён – судзінаў, дайновы, паляксянаў і ўласна яцвягаў. Іх мова была пераходнай паміж балцкімі і славянскімі мовамі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што яцвягі займалі больш шырокую тэрыторыю, уключаючы Нёманска-Бугскае міжрэчча (У.Сядоў). У першай палове XIII ст. зямля яцвягаў была часткова падпарадкавана галіцка-валынскімі і мазавецкімі князямі. У другой палове XIII ст. пасля кровапралітнай барацьбы яцвягі, як і суседнія роднасныя ім прусы, былі канчаткова заваяваны крыжакамі. Нейкая іх колькасць перасялілася ў суседнія землі – Літву, Польшчу, Беларусь. Менавіта гэтым тлумачыцца тое, што ў заходніх раёнах Беларусі з'явіліся назвы населеных пунктаў Яцвязь, Ядзьвінкі, Прусы, Прусікі. Сляды знаходжання дайновы захаваліся ў тапонімах Дзейнава, Дайнова, Дайноўка, якія лакалізаваны ў раёнах Валожына, Гродна, Слоніма, Івянца. Такім чынам, ёсць усе падставы сцвярджаць, што яцвягі былі адным з кампанентаў у фарміраванні беларускай народнасці.

У заходнім рэгіёне Беларусі доўга пражывалі асобныя балцкія і змешаныя балцка-славянскія групы насельніцтва. У IX – XI стст. балцка-славянская мяжа праходзіла па лініі Гродна – Ліда – Іўе – Вілейка – Мядзель – Браслаў. У XII – XIII стст. яна адсунулася далей на захад і паўночны захад да сучаснай Літвы і Латвіі. Важна таксама адзначыць, што змяшэнне балтаў са славянамі адбывалася не толькі на тэрыторыі Беларусі, але ў нейкай ступені і на тэрыторыі Літвы і Латвіі. Аб гэтым сведчаць наступныя прыклады: у XII – XIII стст. на тэрыторыі Латвіі існавалі княствы Кукенойс і Герцыке, якія знаходзіліся ў залежнасці ад Полацка; старажытная частка г.Вільні была заснавана крывічамі ў XI – XII стст. Невыпадкова ў складзе аўкштайтаў выдзяляецца лакальная група дзукаў, у якой шмат агульнага з беларусамі.

У той жа час сярод славянскага насельніцтва працягвалі існаваць групы балтаў. Аб існаванні на заходняй частцы ўсходнеславянскай этнічнай тэрыторыі ўсходнебалцкіх груп літоўцаў сведчаць назвы населеных пунктаў – Літва, Літоўцы, Літоўка , якія і сёння сустракаюцца на Маладзечаншчыне, Слонімшчыне, Стаўбцоўшчыне і ў іншых мясцовасцях. Набегі нямецкіх рыцараў былі галоўнай прычынай перасялення невялікіх груп заходніх балтаў – жамойтаў на ўсход. Гэта пацвярджаюць назвы населеных пунктаў: Жамойцішкі (Воранаўскі р-н), Жамойдзі (Лідскі р-н), Жамойск (Докшыцкі р-н) і інш. Пад ціскам Лівонскага ордэна ў падзвінска-дняпроўскі рэгіён перасялілася і частка ўсходнебалцкага насельніцтва – латыголаў. На Віцебшчыне налічваецца каля 30 населеных пунктаў з назвай Латыголь, Латы-





голічы, Латыголава і інш. Наогул балцкіх назваў населеных пунктаў на тэрыторыі Беларусі сёння налічваецца больш за 200. Пераважная іх колькасць знаходзіцца ў заходніх раёнах.

Акрамя балцкага насельніцтва на фарміраванне беларускага этнасу аказалі пэўны ўплыў асобныя групы цюркскага насельніцтва (татары), якія пасяліліся на тэрыторыі Беларусі ў канцы XIV – пачатку XV ст. Аднак гэты ўплыў быў нязначны.

## § 2. Узнікненне Беларусі: розныя падыходы і канцэпцыі. Паходжанне назваў "Белая Русь", "Чорная Русь"

Адным з самых складаных у гісторыі Беларусі з'яўляецца пытанне: як і калі з раней названых славянскіх, славяна-балцкіх супольнасцей і іншых груп насельніцтва сфарміравалася беларуская народнасць, як узнікла Беларусь? Адказаць на гэтыя пытанні адназначна нельга. Справа ў тым, што ў навуцы няма адзінай думкі наконт гэтых праблем. Адны даследчыкі сцвярджаюць, што беларусы як этнас ужо існавалі ў XIII ст., а працэс фарміравання беларускай народнасці пачаўся яшчэ ў VII – VIII стст. (Г.Штыхаў, М.Ермаловіч, М.Ткачоў і інш.). Паводле У.Сядова, беларуская этнічная супольнасць склалася ў XIII – XIV стст. М.Грынблат лічыць, што фарміраванне беларусаў адбывалася ў XIV – XVI стст. Ёсць іншыя меркаванні.

Няма адзінага погляду і на пытанні аб продках беларусаў. Узнікла мноства канцэпцый, якія ўзаемавыключаюць адна адну. У XIX ст. з'явіліся **польская і велікаруская канцэпцыі**, якія адмаўлялі існаванне самастойнага беларускага этнасу на той падставе, што ў насельніцтва Беларусі быццам не было самастойнай славянскай мовы. Прыхільнікі польскай канцэпцыі (Л.Галембоўскі, А.Рыпінскі і інш.) лічылі беларускую мову дыялектам польскай мовы, а беларусаў – часткай польскага этнасу. Творцы велікарускай канцэпцыі (А.Сабалеўскі , І.Сразнеўскі і інш.) сцвярджалі, што Беларусь – частка велікарускай этнічнай тэрыторыі, а беларуская мова – дыялект рускай мовы.

Памылковасць гэтых канцэпцый выяўлена даследаваннямі па беларускай мове. Яшчэ ў пачатку XX ст. выдатны беларускі славіст Я.Карскі ў фундаментальнай працы "Беларусы" (Варшава; Петраград.1903 – 1922. Т.1 – 3) пераканаўча даказаў, што беларуская мова з'яўляецца самастойнай славянскай мовай, якая паводле свайго лексічнага складу, сінтаксісу, фанетыкі і марфалогіі ўваходзіць у групу ўсходнеславянскіх моў нароўні з велікарускай і ўкраінскай.

У пачатку XX ст. з'явілася **крывіцкая канцэпцыя**. Яе аўтарамі былі М.Пагодзін, В.Ластоўскі і інш. Яна заснавана на памылковым уяўленні аб тым, што продкамі беларусаў з'яўляюцца крывічы. Аўтары канцэпцыі атаясамлівалі беларусаў і крывічоў і прапаноўвалі называць

6. Зак. 5560

беларусаў крывічамі, а Беларусь – Крывіяй. Памылковасць гэтай канцэпцыі заключаецца ў тым, што крывічы займалі толькі паўночную і цэнтральную частку тэрыторыі сучаснай Беларусі. А як жа ўзнікла паўднёвабеларускае насельніцтва? На гэта пытанне крывіцкая канцэпцыя адказу не дае. Няма ў данай канцэпцыі тлумачэння і таго, чаму на частцы тэрыторыі, якую займалі крывічы, пазней сфарміравалася велікаруская народнасць. Аднак самая вялікая памылка крывіцкай канцэпцыі выяўляецца ў храналагічнай неадпаведнасці знікнення крывічоў і з'яўлення беларускага этнасу. Крывічы зніклі да сярэдзіны XII ст., а беларусы як этнас да гэтага часу яшчэ не сфарміраваліся.

Аднабаковасць крывіцкай канцэпцыі вырашылі пераадолець вядомы беларусазнаўца Я.Карскі, гісторык-славіст У.Пічэта, даследчык этнічнай гісторыі Беларусі М.Грынблат, вядомы гісторык М.Доўнар-Запольскі. Яны ўключылі ў склад продкаў беларусаў не толькі крывічоў, але таксама дрыгавічоў і радзімічаў. Адсюль і назва канцэпцыі – **крывіцка-дрыгавіцка-радзіміцкая**. Аднак і гэта канцэпцыя, як і папярэдняя, не ўлічвае таго факта, што дрыгавічы і радзімічы, як і крывічы, зніклі да сярэдзіны XII ст., калі агульнабеларускі этнічны комплекс яшчэ не сфарміраваўся.

Асаблівую папулярнасць набыла балцкая тэорыя этнагенезу беларусаў. Паводле гэтай тэорыі, змяшэнне славян з даславянскім насельніцтвам – балтамі – прывяло да з'яўлення беларускага этнасу. Балты, такім чынам, адыгралі ролю субстрату (падасновы) у этнагенезе беларусаў. Аўтар гэтай тэорыі археолаг У.Сядоў робіць выснову на падставе таго, што шмат элементаў беларускай культуры і мовы маюць балцкае паходжанне. Аднак У.Сядоў не ўлічыў таго, што гэтыя элементы ўласцівы як славянам, так і балтам. Яны індаеўрапейскага паходжання. Балты з'явіліся продкам, субстратам не непасрэдна беларусаў, а ўсходнеславянскіх супольнасцей – крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў.

Існуе і фінская канцэпцыя паходжання беларусаў. Яе аўтарам з'яўляецца пісьменнік І.Ласкоў. На падставе таго, што на тэрыторыі Беларусі ёсць назвы рэчак і азёраў фінскага паходжання (Дзвіна, Свір і інш.), ён лічыць, што продкамі беларусаў маглі быць і фіны. Для такой высновы няма навуковых падстаў. Фінамоўнае насельніцтва на тэрыторыі Беларусі жыло ў глыбокай старажытнасці і было асімілявана не славянамі, а старажытнымі балтамі, якія рассяліліся ў Панямонні, Падзвінні і Падняпроўі ў бронзавым веку. Фіны на тэрыторыі Беларусі з'явіліся субстратам не беларусаў, а старажытных балтаў.

У 50-я гады XX ст. савецкі этнограф С.Токараў абгрунтаваў новую канцэпцыю. Яе сутнасць заключаецца ў наступным.

У канцы IX – пачатку X ст. узмацніліся працэсы нівеліроўкі этнакультурных асаблівасцей усходніх славян. Гэта было абумоўлена эканамічнай, палітычнай, культурнай і канфесійнай інтэграцый.





Пачалося далейшае развіццё феадальных адносін, класаў і гарадоў, распаўсюджванне хрысціянства. Стала складвацца агульная тэрыторыя ўсходніх славян. Цэнтрам збірання ўсходніх славян было Сярэдняе Падняпроўе, дзе знаходзіўся г.Кіеў, які стаў сталіцай новай дзяржавы – Кіеўскай Русі. У выніку змешвання розных супольнасцей – крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, драўлян, палян, вяцічаў і іншых – у Сярэднім Падняпроўі ў IX – X стст. сфарміравалася новая, усходнеславянская этнічная супольнасць – старажытнаруская народнасць. У другой палове X ст. зацвердзілася і агульная назва гэтай тэрыторыі – Русь. Сярэдняе Падняпроўе стала звацца Рускай зямлёй, кіеўскія князі – рускімі князямі. Згодна з гэтай канцэпцыяй, моцная Старажытнаруская дзяржава абараняла ўсходнеславянскія землі ад нападаў іншаземных рабаўнікоў, вызваліла іх жыхароў ад уплаты даніны хазарам і варагам. У гэтай дзяржаве існавала адзіная культура і мова. Затым у выніку палітычнага раз'яднання, распаду Кіеўскай Русі раз'ядналася і старажытная народнасць. У выніку ўтварыліся тры роднасныя народы: рускі, беларускі і ўкраінскі.

Аднак у гэтай канцэпцыі з'явілася шмат апанентаў (Г.Штыхаў, М.Ермаловіч, М.Ткачоў і інш.). Яны поўнасцю адмаўляюць сам факт існавання старажытнарускай народнасці і фарміравання на яе аснове беларусаў, украінцаў і рускіх. Згодна са сцвярджэннямі М.Ермаловіча, ніякай старажытнарускай народнасці не існавала. А калі гэта так, дык і не магло быць ніякага падзелу неіснуючай агульнарускай народнасці на тры галіны – рускую, украінскую і беларускую. Гэткая выснова робіцца на той падставе, што Кіеўская Русь, куды ўваходзілі ўсходнеславянскія землі, не з'яўлялася такой дзяржавай, як яе апісваюць у нашай гістарычнай і вучэбнай літаратуры. Яна, на думку Ермаловіча, зусім не з'яўлялася збіральнікам славянскіх народаў. Пры гэтым ён нават спасылаецца на К.Маркса. Апошні назваў Кіеўскую Русь імперыяй, якая была недарэчнай, няскладнай, скараспелай, "шматковай". Гэта дзяржава, дапаўняе Ермаловіч, была штучным і таму нетрывалым ваенна-адміністрацыйным аб'яднаннем. У ёй паспешліва і насуперак волі і інтарэсам народаў аб'ядноўваліся племянныя землі, і таму яна не мела агульнай эканамічнай базы. Галоўная мэта дзяржавы – здзяйсняць ваенныя паходы на Візантыю. Для гэтага і збіралася з заваяваных тэрыторый шматлікае і рознаплемянное войска. А калі гэта так, дык, піша Ермаловіч, становіцца праблематычным узнікненне старажытнарускай народнасці ў такой дзяржаве, як Кіеўская Русь. Аб неіснаванні старажытнарускай народнасці сведчыць і той факт, што Кіеўская дзяржава ў XII ст. распалася на часткі, якія адпавядалі першапачатковым племянным тэрыторыям.

У сувязі з такімі развагамі ўзнікае і яшчэ адно пытанне: калі не было агульнарускай народнасці, як тады, на думку аўтараў гэтай канцэпцыі, адбылося фарміраванне беларускага, рускага і ўкраінскага

этнасаў, а потым і адпаведных народнасцей. Ермаловіч мяркуе, што справа ўся ў тым, на якой тэрыторыі пасяліліся плямёны і з якім карэнным насельніцтвам (субстратам) адбылося змяшэнне. Так, рускі этнас фарміраваўся на аснове фіна-угорскага субстрату, украінскі – цюркскага, беларускі – балцкага.

Ермаловіч лічыць, што доля балцкага субстрату ў фарміраванні беларусаў была значна меншая, чым угра-фінскага ў этнасе велікарусаў. Тлумачыцца гэта тым, што Беларусь з прычыны яе геаграфічнага становішча была месцам, дзе асабліва інтэнсіўна канцэнтраваўся славянскі элемент, таму ён мог лёгка перамагаць балцкі. Асобныя рэгіёны Беларусі наогул не былі заселены балтамі (поўдзень Міншчыны, міжрэчча Віліі і Гайны, поўдзень Полаччыны). Ермаловіч адзначае яшчэ адну асаблівасць фарміравання беларускага этнасу. Гэта тое, што на тэрыторыі Беларусі адбываліся вельмі інтэнсіўныя працэсы змяшэння, зрошчвання славянскіх этнічных супольнасцей – крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў. Вынікам гэтага было ўзмацненне славянскага элемента, што спрыяла хутчэйшай асіміляцыі балтаў.

Вось такая канцэпцыя фарміравання беларускага этнасу, якой прытрымліваецца М.Ермаловіч. Трэба дадаць, што яна знаходзіць сабе прыхільнікаў і сярод іншых гісторыкаў. Яе, вядома, нельга прыняць цалкам, але нельга і адхіліць, таму што ідзе навуковы пошук і розныя пункты погляду маюць права на жыццё.

Як вынікае з вышэйадзначанага, паводле тэарэтычнага падыходу канцэпцыі паходжання, беларусаў можна падзяліць на дзве групы. Першую складаюць погляды вучоных на беларускі этнагенез як на спрошчаную эвалюцыю, другую – погляды даследчыкаў, якія тлумачаць паходжанне беларускага народа выключна міграцыяй славян на тэрыторыю сучаснай Беларусі і змешваннем іх з мясцовым даславянскім насельніцтвам. Выразна бачна супрацьпастаўленне эвалюцыі (змен) і дыфузіі (пашырэння) з'яў культуры, рознае тлумачэнне іх ролі ў этнагенетычным працэсе. Першыя даследчыкі галоўным спосабам утварэння беларусаў лічаць эвалюцыю мовы і культуры, другія – міграцыю і змешванне розных этнічных груп.

У пачатку 90-х гадоў новую канцэпцыю ўзнікнення беларусаў распрацаваў гісторык-этнограф М.Піліпенка (*Пилипенко М.Ф.* Возникновение Белоруссии: новая концепция. Мн. , 1991). Аўтар гэтай канцэпцыі адмовіўся ад уяўлення аб беларускім этнагенезе як спрошчанай эвалюцыі, а таксама ад тлумачэння яго толькі вялікай міграцыяй. Даследчык лічыць, што ў фарміраванні беларускага этнасу мелі месца як эвалюцыя, так і дыфузія, якія цесна ўзаемадзейнічалі і дапаўнялі адна другую ў гэтым працяглым і складаным працэсе.

Піліпенка па-новаму падышоў да пытання аб продках беларусаў. Ён лічыць, што ў выніку шырокага рассялення славян і змешвання іх з усходнімі балтамі ўтварыліся не беларусы, а першапачатковыя ўсходнеславянскія этнічныя супольнасці крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Гэта адбылося ў IX – X стст. Затым у канцы X – пачатку





XI ст. разам з іншымі ўсходнеславянскімі супольнасцямі крывічы, дрыгавічы і радзімічы кансалідаваліся ў новую агульнаславянскую этнічную супольнасць. Для яе былі характэрны агульнаўсходнеславянская мова, агульная матэрыяльная і духоўная культура. З трансфармацыяй гэтых першапачатковых этнічных славянскіх супольнасцей у агульнаславянскую старажытную супольнасць іх тэрыторыі сталі агульнай этнічнай тэрыторыяй, якая атрымала назву "Русь". Менавіта з гэтага часу ў дачыненні да тэрыторыі Беларусі, як і да суседніх усходнеславянскіх зямель, пачала ўжывацца назва "Русь", а насельніцтва стала называцца русамі, русічамі, русінамі, рускімі.

З часу свайго фарміравання этнічная тэрыторыя "Русь" не была аднастайнай. Яна падзялялася на рэгіёны, якія не супадалі з ранейшымі этнічнымі тэрыторыямі першапачатковых усходнеславянскіх этнічных супольнасцей. Тэрыторыя сучаснай Беларусі па лакальных асаблівасцях мовы і культуры ўваходзіла ў дзве дыялектна-этнаграфічныя зоны агульнаўсходнеславянскай этнічнай супольнасці – палескую і падзвінска-дняпроўскую. Акрамя агульнай назвы "Русь", за паўднёвай часткай тэрыторыі Беларусі замацавалася назва "Палессе", за цэнтральнай і паўночнай – "Белая Русь". У паўднёвай папрыпяцкай зоне на аснове трансфармацыі дрыгавічоў, драўлян і паўднёвай часткі радзімічаў ішоў працэс складвання новай этнічнай супольнасці – палешукоў, у паўночным (падзвінска-дняпроўскім) рэгіёне ў выніку трансфармацыі крывічоў, вяцічаў і паўночных радзімічаў – старажытных беларусаў. Піліпенка лічыць, што менавіта яны і сталі непасрэднымі продкамі беларусаў.

З цягам часу, адзначае М.Піліпенка, у выніку інтэнсіўных этнічных працэсаў на аснове ўзаемадзеяння, згуртавання дзвюх значных груп (папрыпяцкай і падзвінска-дняпроўскай) усходнеславянскага насельніцтва, з аднаго боку, і кансалідацыі іх з асобнымі групамі неўсходнеславянскага насельніцтва – заходнеславянскага (польскага), балцкага і цюркскага (татарскага), з другога, на шырокай тэрыторыі, размешчанай паміж Прыпяццю на поўдні і Заходняй Дзвіной на поўначы, Нёманам на захадзе і Дняпром на ўсходзе, да сярэдзіны XVI ст. сфарміраваліся новы комплекс культуры і звязаная з ім сістэма мовы. Усё гэта сведчыла аб з'яўленні новай, усходнеславянскай этнічнай тэрыторыі, якая атрымала з таго часу сваю назву "Белая Русь".

Якое паходжанне гэтай назвы? У розныя часы яе тлумачылі па-рознаму. Яе звязвалі з прыгажосцю зямлі (Макарый, XVI ст.), мноствам снегу (С.Герберштэйн, XVI ст.), вольнасцю (В.Тацішчаў, XVIII ст.), незалежнасцю ад татара-манголаў (М.Любаўскі, XIX ст.), са светлапігментаваным і светлавокім антрапалагічным тыпам жыхароў (М.Янчук, пачатак XX ст.). У наш час з'явіліся іншыя тлумачэнні: назва "Белая Русь" звязваецца з больш ранні́м прыняццем хрысціянства ў параўнанні з Чорнай Руссю (Я.Юхо), з шырокім распаўсюджваннем у тапаніміцы назваў са словам "белая" (П.Крапівін).

У гістарычных дакументах XII ст. тэрмін "Белая Русь" ужываўся ў дачыненні да Уладзіміра-Суздальскага княства, а ў XIII – XIV стст. –

7. Зак. 5560

да Маскоўскіх, Смаленскіх і Пскоўскіх зямель. На італьянскіх, нямецкіх, шведскіх картах і ў хроніках XV – XVI стст. многія замежныя аўтары Белай Руссю называлі ўсходнебеларускія землі, а таксама ўжывалі гэту назву ў дачыненні да Наўгародскіх, Пскоўскіх, Кіеўскіх, Чарнігаўскіх зямель, часам пашыралі на Валынь, Задоншчыну, Падмаскоўе. У дачыненні да Беларусі гэты тэрмін спачатку адносіўся толькі да падзвінска-дняпроўскага рэгіёна. З сярэдзіны XVI ст. ім сталі абазначаць таксама тэрыторыю Міншчыны, Гродзеншчыны, а потым і паўднёвую зону папрыпяцкага рэгіёна аж да р. Прыпяць. У XVII – сярэдзіне XVIII ст. назва “Белая Русь” усталявалася і замацавалася пераважна за землямі Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага, часткова Мінскага і Смаленскага ваяводстваў. Адначасова з XVII ст. у гістарычных дакументах у дачыненні да ўсходняй часткі этнаграфічнай Беларусі ўжываецца і назва “Беларусь”, якая ў канцы XIX ст. распаўсюдзілася на ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі.

Ад назвы падзвінска-дняпроўскага рэгіёна “Белая Русь” паходзіць і назва яго жыхароў – “беларусы” ці “беларусцы”. Услед за пераменай значэння назвы “Белая Русь” змяняецца і сэнс вытворнага ад яе тэрміна “беларусцы”, які з другой паловы XVII – пачатку XVIII ст. стаў абазначаць тых, хто адносіўся ўжо да новага, усходнеславянскага этнасу – беларускага. Ім пачалі называць усходнеславянскае насельніцтва, якое жыло ў арэале распаўсюджвання беларускай мовы і комплексу традыцыйнай беларускай культуры. Побач з формай “беларусцы” з сярэдзіны XVI ст. сустракаецца і сучасная назва беларускага этнасу – беларусы. (Падрабязней аб паходжанні назвы “Беларусь” гл.: Імя тваё Белая Русь. Мн., 1991.)

Заходнюю частку беларускай этнічнай тэрыторыі доўгі час называлі “Чорная Русь”. Паводле звестак В.М.Тацішчава, граніца Чорнай Русі на поўначы даходзіла да р.Віліі, на ўсходзе – прыкладна да Бярэзіны, на поўдні – да Прыпяці, на захадзе – да Буга. Назва “Чорная Русь” у айчынных крыніцах упамінаецца не раней апошняй чвэрці XIII ст. (1284). Першапачаткова гэта назва не адносілася да заходняй часткі тэрыторыі сучаснай Беларусі. Так называлася паўднёва-заходняя частка тэрыторыі сучаснай Украіны, тагачасная Галіцкая зямля. У заходнееўрапейскіх пісьмовых помніках назва “Чорная Русь” сустракаецца не раней XIV – XV стст. і ўжываецца для абазначэння самых заходніх зямель Русі, якія гранічылі з Лівоніяй, Літвой і Польшчай. Як назва заходняй часткі беларускай этнічнай тэрыторыі (у прыватнасці, Беларускага Панямоння) тэрмін “Чорная Русь” пачынае замацоўвацца ў канцы XVI – XVII ст. Як сцвярджае В.М.Тацішчаў, назва “Чорная Русь” для абазначэння заходняй часткі сучаснай Беларусі сустракаецца ў граматах цара Аляксея Міхайлавіча пасля таго, як ён авалодаў часткай Рэчы Паспалітай. У граматах Аляксей Міхайлавіч называецца “гасударам усёй Вялікай, Белай, Чорнай і Чырвонай Русі”.

Назва заходняй беларускай этнічнай тэрыторыі “Чорная Русь” тлумачыцца па-рознаму. Часцей за ўсё яе разглядалі як супрацьпастаўленне назве “Белая Русь”. Некаторыя вучоныя (С.Салаўёў) лічылі, што першапачаткова назва “Чорная Русь” абазначала залежную тэрыторыю. Чорны колер разглядаецца прыхільнікамі гэтай канцэпцыі як сімвал залежнасці, белы – як сімвал самастойнасці.





У адносінах да Беларускага Панямоння такое тлумачэнне нельга прызнаць унушальным. Назва гэтага краю “Чорная Русь” замацавалася тады, калі ўся тэрыторыя сучаснай Беларусі ўжо знаходзілася ў складзе Вялікага княства Літоўскага, а затым і Рэчы Паспалітай, і з палітычнага пункту погляду значнай розніцы паміж заходняй і ўсходняй часткамі гэтых тэрыторый не было.

Некаторыя даследчыкі лічаць, што з’яўленне назвы “Чорная Русь” выклікана тым, што для Верхняга Панямоння было характэрна язычніцтва, а для Падняпроўя – хрысціянства. Але і з такім пунктам погляду нельга поўнасцю пагадзіцца таму, што ў перыяд замацавання гэтага тэрміна амаль усё насельніцтва, як усходнеславянскае, так і балцкае, было ўжо хрысціянскім. Хрысціянскія цэрквы ў гарадах Верхняга Панямоння былі пабудаваны не пазней, чым у гарадах сучаснага Беларускага Падняпроўя. Што датычыцца некаторых груп нехрысціянскага, язычніцкага балцкага насельніцтва, якое пражывала ў Верхнім Панямонні, то яно Руссю не называлася. Для іх наймення ўжываўся іншы тэрмін – “Літва”.

Заслугоўвае ўвагі наступнае тлумачэнне гэтай назвы. Назва “Чорная Русь” была дадзена балтамі. Згодна з балцкай традыцыяй, чорны колер сімвалізуе Захад, а белы – Усход. У сувязі з гэтай традыцыяй самую заходнюю частку Русі, г. зн. Верхняе Панямонне, сталі называць Чорнай Руссю, а ўсходнюю, г. зн. Падняпроўе, – Белай Руссю. Першапачаткова гэтыя назвы абазначалі геаграфічныя напрамкі. З цягам часу яны сталі азначаць два арэалы беларускай этнічнай тэрыторыі і сімвалізаваць этнаграфічныя асаблівасці паміж яе заходняй і ўсходняй часткамі. З канца XVIII ст. з распадам Вялікага княства Літоўскага і далучэннем беларускіх зямель да Расійскай імперыі назва “Чорная Русь” перастала ўжывацца, а “Белай Руссю” сталі называць усю беларускую этнічную тэрыторыю. Прычым гэта назва набыла ў рускай мове сваю заходнееўрапейскую форму – “Белоруссия”. У беларускай мове захавалася старая ўсходнеславянская форма гэтай назвы. Яна стала вымаўляцца і пісацца разам – “Беларусь”.

Як фарміравалася мова “Белай Русі”, г. зн. беларуская мова? Яе ўзнікненне было вынікам змяшэння, перапляцення паўночных (падзвінска-дняпроўскіх) і паўднёвых (папрыпяцкіх) элементаў гутарковай мовы ўсходнеславянскага насельніцтва. Гэта мова многімі асаблівасцямі фанетычнай сістэмы, граматычнага ладу і слоўнікавага складу адрозніваецца ад рускай і ўкраінскай. Да гэтых асаблівасцей належыць спалучэнне такіх элементаў, як цвёрдае “р” і “ч”, мяккае “д” (дзеканне), аканне. З’явіліся т. зв. сярэднебеларускія гаворкі, якія ўвабралі ў сябе паўночныя і паўднёвыя элементы. Што датычыцца мовы паўночнай зоны падзвінска-дняпроўскага рэгіёна (Пскоўшчына,

Цвярскі край, Смаленшчына), дык яна ў значнай ступені склалася пад уплывам суседніх паўночных і ўсходніх гаворак, распаўсюджаных у межах Маскоўскай дзяржавы. Тут у XV – XVI стст. пачалі фарміравацца гаворкі велікарускай мовы. Ва ўсходніх раёнах Беларусі разам з мяккім "д", з'явілася і цвёрдае "д", а дзе-нідзе і "оканне". У паўднёвай зоне вялікі ўплыў на беларускую мову зрабіла ўкраінская мова.

Такім чынам, у XV – XVI стст. у паўночнай частцы папрыпяцкага (палескага) рэгіёна, цэнтральным рэгіёне і паўднёвай зоне падзвінска-дняпроўскага рэгіёна аформілася сістэма новай, усходнеславянскай мовы, якая атрымала назву "беларуская", г. зн. узнікла адна з найважнейшых рыс беларускага этнасу.

# ГЛАВА 2

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў IX – ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIII ст.

## § 1. Старажытнаруская дзяржава (Кіеўская Русь ) – агульная феадальная дзяржава ўсходніх славян. Палітычнае і эканамічнае становішча беларускіх зямель

Да сярэдзіны IX ст. на тэрыторыі, заселенай старажытнымі славянскімі супольнасцямі, пачалі фарміравацца раннефеадальныя княствы. У іх былі свае княжанні, якія складаліся з валасцей, былых радавых абшчын. У кожнай воласці мелася сваё веча і свой князь з дружынай. Заканадаўчая ўлада ў воласці належала вечу – народнаму сходу. Веча выбірала князя, абвяшчала вайну і заключала мір, прымала пастановы, якія рэгулявалі гаспадарчыя і грамадска-прававыя адносіны. Выканаўчую ўладу ў валасцях ажыццяўлялі валасныя князі. Разам з дружынамі яны абаранялі тэрыторыі валасцей ад знешніх ворагаў, ажыццяўлялі ваенныя паходы ў суседнія землі, чынілі суд над сваімі падданымі.

Развіццё земляробства і жывёлагадоўлі, гарадоў, рамяства і гандлю, а таксама неабходнасць аб'яднання для абароны славянскіх зямель ад набегаў хазараў, печанегаў, полаўцаў і іншых ваяўнічых качэўнікаў прывялі да ўтварэння вялікай і магутнай дзяржавы, якая называлася Кіеўскай Руссю. Летапісы сведчаць, што ўжо ў пачатку IX ст. існавалі два ўсходнеславянскія саюзы: паўночны – з цэнтрам у Ноўгарадзе і паўднёвы – з цэнтрам у Кіеве. Пазней гэтыя саюзы





аб'ядналіся і ўтварылі адну дзяржаву – Кіеўскую Русь. Землі дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў увайшлі ў склад гэтай дзяржавы. Радзімічы перасталі плаціць даніну хазарам, а крывічы – варагам. Яны апынуліся пад абаронай Русі.

Выклікае цікавасць пытанне аб паходжанні назвы "Русь". У навуковай літаратуры выказана нямала гіпотэз наконт гэтага. Так, у заходнееўрапейскіх гістарычных крыніцах X – XII стст. (Гільдэсгеймскія, Магдэбургскія аналы, жыцці Адальберта, Атэна Гамберскага і інш.) тэрмін "русіны" ўжываецца ў адносінах да паўднёвых і паўднёва-заходніх груп насельніцтва Старажытнай Русі (на памежжы з Польшчай і Прусіяй), усходнеславянскіх дружын і перасяленцаў з Германіі, Венгрыі і інш. Актывізацыя міжэтнічных кантактаў усходнеславянскага і заходнееўрапейскага насельніцтва ў XIII – XIV стст. садзейнічала распаўсюджанню назвы "русіны" на іншыя ўсходнеславянскія землі, дзе яна ўжывалася ў якасці экзаэтноніма (назвы з боку суседніх народаў) і існавала разам з мясцовымі і аднакарэннымі этнонімамі (саманазвамі) – "Русь", "русы", "руськія", "руоськія" і інш. Тэрмін "Русь" упершыню ўпамінаецца ў старажытных Візантыйскіх хроніках, дзе абазначае напрамак свету – "поўдзень". Так называлі і людзей новай этнічнай супольнасці, якія абаранялі межы Візантыйскай імперыі. Назву "Русь" звязваюць таксама са славянізаваным тэрмінам, якім фіны называлі сваіх заходніх суседзяў, часцей за ўсё ўсходніх скандынаваў. Паступова ў славянскай гаворцы ён набыў новае гучанне і з X ст. стаў ужывацца як назва ўсёй тэрыторыі Сярэдняга Падняпроўя.

Кіеўская Русь – гэта раннефеадальная дзяржава-манархія. На чале яе стаяў вялікі князь. Пры ім мелася дума, куды ўваходзілі і найбольш знатныя князі, і старэйшыя дружыннікі (баяры). Вялікаму князю падпарадкоўваўся шматлікі кіраўнічы апарат, які распараджаўся зборам даніны, падаткаў, судаводствам, спагнаннем штрафаў і іншымі справамі. У падуладных вялікаму князю землях функцыі кіравання ажыццяўлялі княжацкія намеснікі – пасаднікі і іх бліжэйшыя памочнікі – тысяцкія. Яны ўзначальвалі ў час ваенных дзеянняў народнае апалчэнне – "тысячу". Пасаднікаў назначаў вялікі князь, тысяцкія выбіраліся са знатных баяр на вечы.

Вялікі князь меў моцнае войска. Яно складалася з дружыны вялікага князя, а таксама з войск васальных князёў. У асобных выпадках збіралася народнае апалчэнне. На рэках і на Чорным моры меўся вялікі ладзейны княжацкі флот.

Князі асобных зямель, якія ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі, знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад вялікага князя. Яны абавязаны былі пастаўляць вялікаму князю воінаў, з'яўляцца па яго патрабаванню з дружынай, а іх падуладнае насельніцтва – плаціць даніну. У той жа час князі асобных зямель карысталіся неабмежаванай уладай у сваіх землях. Велікакняжацкія намеснікі не мелі права ўмешвацца ў іх унутраныя справы. Аднак, калі мясцовая знаць

8. Зак. 5560

*Старажытныя землі Беларусі ў XI–XIII стст.*




імкнулася выйсці з падпарадкавання вялікаму князю, яе да паслушэнства прыводзілі сілай.

Якое ж было становішча беларускіх зямель у складзе Старажытнарускай дзяржавы?

На тэрыторыі Беларусі самымі значнымі былі Полацкае і Тураўскае княствы. Летапісы ўпамінаюць княствы з меншай тэрыторыяй: Віцебскае, Аршанскае, Друцкае, Мсціслаўскае, Пінскае, Мазырскае, Мінскае, Новагародскае і інш.

Мяркуючы па летапісных крыніцах, **Полацкае княства** ўтварылася ў сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны ў IX – X стст., займала ўсю Паўночную Беларусь і межавала на поўначы з Ноўгарадскай зямлёй, на ўсходзе – са Смаленскай, на поўдні – з Турава-Пінскай, на захадзе – з землямі літоўска-латышскіх плямён. Паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу, у Полацкую зямлю ўваходзілі цалкам





Віцебская вобласць, паўночная частка Мінскай і паўночна-заходняя частка Магілёўскай.

Полацкае княства было адным з буйнейшых дзяржаўных феадальных утварэнняў, якое не ўступала памерамі падобным утварэнням у Заходняй Еўропе – Баварскаму герцагству і Партугальскаму каралеўству. Яму не пагражала палавецкая небяспека, а вялікі гандлёвы шлях у Заходнюю Еўропу, які праходзіў праз яго тэрыторыю, спрыяў узбагачэнню баярства і росту тэндэнцый да незалежнасці. Разам з тым працяг славянізацыі краю і барацьба з варожымі нападамі патрабавалі ўзмацнення вайсковай сілы князя і яднання мясцовых феадалаў. З канца IX ст. у Полацкім княстве і ў іншых старажытных землях Беларусі адбываліся аб'яднальныя этнічныя працэсы. Насельніцтва гэтых зямель характарызавалася агульнай этнічнай самасвядомасцю, моўным адзінствам, падабенствам культуры.

Якім быў палітычны лад Полацкага княства?

Заканадаўчая ўлада ў Полацкім княстве належала вечу, ці народнаму сходу. Веча запрашала князя на княжанне, выдавала законы, выбірала ўраднікаў (урадцаў, службоўцаў), ухваляла аб'яўленне вайны ці міру. Улада веча распаўсюджвалася не толькі на горад, але і на ўсю воласць, раскіданыя па ўсяму княству весі. У Полацкім княстве веча праіснавала да самага канца XV ст. (1488), калі гораду было дадзена магдэбургскае права.

Выканаўчая ўлада ў Полацкім княстве належала князю. Часта князь з'яўляўся адным з родапачынальнікаў племені. Энергія і здольнасць, асабліва ў вайсковых справах, вылучалі яго з агульнай масы старшынь. У некаторых месцах, дзе жыццё было адносна спакойным, уладаром станавіўся князь як першы на падставе радавога старшынства па ўзросце. Акрамя мясцовых у Полацкім княстве былі прышлыя князі. Яны вербаваліся з тых нармана-нарвежскіх элементаў[1], якія часта праходзілі праз Русь з поўначы на поўдзень. Аб гэтым сведчыць летапіснае паданне аб запрашэнні князёў-варагаў – Рурыка, Сінявуса і Трувара. У Полацкім княстве князі мелі выканаўчую ўладу, займаліся вайсковай справай, хадзілі ў паходы са сваёй дружынай у іншыя землі. Акрамя таго, князь быў заняты адміністрацыйнай справай, вяршыў суд, ахоўваў гандлёвыя шляхі і караваны ў сваім княстве.

Прыблізна ў той час, калі ў Наўгародскую Русь былі запрошаны варагі (862), Полацк меў сваіх мясцовых князёў, пра якіх успамінае адна са скандынаўскіх саг – Эймундава сага. Імёны іх не захаваліся, але пісьмовыя крыніцы адзначаюць асаблівасць Полацкага княства – існаванне тут дынастыі крывіцкіх князёў, правы якой захоўваліся на

[1] *Нарманы* (ад скандынаўскага northman – паўночны чалавек) – скандынавы, удзельнікі гандлёва-грабежніцкіх і заваявальных паходаў у Еўропе ў канцы VIII – сярэдзіне XI ст. Ва ўсходніх славян яны называліся варагамі, у самой Скандынавіі – вікінгамі.

працягу многіх пакаленняў. Полацкія князі, якія ў летапісах называюцца крывіцкімі, з'яўляліся сюзерэнамі тэрыторыі, дзе ажыццяўлялася іх улада, як гэта назіралася ў іншых сярэдневяковых дзяржавах.

Як сведчаць пісьмовыя крыніцы, ужо ў той час існавала пэўная напружанасць у адносінах паміж Полацкам і Кіевам. Кіеўскі князь Алег (879 – 912) пачаў аб'ядноўваць розныя землі вакол Кіева. У ліку падданых Кіева Іпацьеўскі летапіс называе і крывічоў, на якіх Алег наклаў даніну. У 907 г. ён правёў удалы паход у Візантыю, у якім таксама прынялі ўдзел крывічы і радзімічы. У дагаворы Алега з Візантыяй сярод іншых гарадоў, якія мелі права на даніну, упамінаецца і Полацк.

Пры пераемніках Алега – Ігары (912 – 945), Вользе (945 – 964), Святаславе (964 – 972) – залежнасць Полацка ад Кіева паступова слабее. Ігар і Святаслаў былі занятыя войнамі з Візантыяй і вандроўнымі плямёнамі. Святаслаў наогул хацеў перанесці сталіцу з Кіева ў Балгарыю. У гэты час Полацк як цэнтр збірання будучых беларускіх зямель замацаваў свае пазіцыі ў старажытных землях дрыгавічоў.

У апошняй чвэрці X ст. у Полацку княжыў Рагвалод, які і стаў распаўсюджваць свой уплыў на поўнач, імкнучыся адарваць Наўгародскую зямлю ад аслаблай Кіеўскай зямлі. Акрамя таго, ён выкарыстоўваў барацьбу паміж сынамі Святаслава Кіеўскага – Яраполкам, Алегам і Уладзімірам. Рагвалод рыхтаваўся прыняць удзел у гэтай барацьбе на баку Яраполка. Абодва браты – Яраполк і Уладзімір – дамагаліся рукі дачкі Рагвалода Рагнеды. Маладыя князі паслалі сватоў да полацкай княжны. Летапіс паведамляе: Рагнеда, даведаўшыся, што Уладзімір быў сынам Святаслава і нявольніцы, не захацела стаць жонкай рабыніча і з пагардай адказала так: "Не хочу разуты рабынича, я за Ярополка иду". Калі Уладзіміру перадалі адказ Рагнеды, ён у 980 г. пайшоў паходам на Полацк, разбіў полацкае войска, горад зруйнаваў, забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а Рагнеду гвалтоўна забраў у Кіеў і прымусіў стаць яго жонкай.

Паданне гаворыць пра тое, што Рагнеда не магла забыць крыўды і аднойчы хацела забіць Уладзіміра. Ён схапіў меч, каб засекчы гордую палачанку, але малы Ізяслаў таксама стаў з мячом у абарону маці. Гэты маленькі абаронца так уразіў Уладзіміра, што князь пабудаваў каля Мінска новы горад Ізяслаў (цяпер – Заслаўе Мінскай вобл.) і паслаў яе туды на жыхарства. Ад Ізяслава і пачынаецца род гістарычных полацкіх князёў, якія завуцца Ізяславічамі. Разам з тым летапісы часта звалі полацкіх князёў Рагвалодавымі ўнукамі.

Другім буйным раннефеадальным княствам на тэрыторыі Беларусі было Тураўскае, якое ўтварылася ў канцы IX ст. Першы летапісны князь – Тур. У часы Рагвалода Тураўская воласць належала Полацку. Уладзімір Кіеўскі, перамогшы Рагвалода, прылучыў Тураў з яго





землямі да Кіева як асобную воласць вялікакняжацкага ўладання. Зразумела, што мясцовыя тураўскія князі згубілі сваю незалежнасць. Тураў меў шырокія гандлёвыя сувязі з Кіевам, Паўночным Прычарнамор'ем, Блізкім Усходам, Сярэдняй Азіяй, Прыбалтыкай і Валынню, быў адным з важнейшых культурна-рамесніцкіх цэнтраў, дзе паспяхова развіваліся жалезаапрацоўчае, ювелірнае, кастарэзнае, дрэваапрацоўчае, шавецкае, ганчарнае рамёствы. Тураў звяртаў на сябе ўвагу кіеўскіх князёў як былая воласць Палаччыны. Акрамя таго, Тураў размяшчаўся на Прыпяці, якая з'яўлялася водным шляхам на Захад. Заходні ўплыў адчуваўся ў Тураве дзякуючы такім рэкам, як Заходняя Дзвіна, Нёман і Прыпяць. Што да Кіеўшчыны, дык яна мела чыста візантыйскі напрамак культурнага і духоўнага развіцця.



*Рагнеда і Уладзімір*
*Малюнак І.Мядзведзева*

Аналізуючы заходні ўплыў на развіццё Тураўскага княства, мы разумеем, чаму кіеўскія князі трымалі на тураўскім прастоле намеснікамі сваіх старэйшых сыноў. Так было і ў часы Уладзіміра. Намеснікам тут сядзеў Святаполк Уладзіміравіч, ён павінен быў, паводле задумы бацькі, праводзіць у жыццё ў Тураве паўднёвавізантыйскі ўплыў. Але Святаполк, як сведчаць летапісы, не апраўдаў спадзяванняў бацькі. Ажаніўшыся з дачкой польскага караля Баляслава, каталічцы па веравызнанню, ён сам стаў падпадаць пад заходні ўплыў. Разам з ёй у Тураў прыехаў заходні епіскап Рэйнберг, які, зблізіўшыся са Святаполкам, стаў падбухторваць яго выступіць супраць Уладзіміра. Абапіраючыся на тураўцаў, якія добра памяталі пра незалежнасць Тураўскай зямлі ад Кіева, а таксама спадзеючыся на вайсковую дапамогу свайго цесця, караля польскага Баляслава, Святаполк задумаў аддзяліцца ад Кіеўшчыны. Уладзімір, даведаўшыся пра варожыя намеры свайго старэйшага сына, неспадзявана напаў на Святаполка, схапіў яго, яго жонку і епіскапа Рэйнберга і ўсіх кінуў у вязніцу. Пасля таго як у 1015 г. памёр Уладзімір, Святаполк як старэйшы ў родзе атрымаў права заняць кіеўскі вялікакняжацкі пасад. Гэта не магло спадабацца яго братам, якія пачалі з ім барацьбу. Справа скончылася тым, што браты на чале



*Тураў*
*Малюнак Н. Орды*

з Яраславам перамаглі Святаполка. Ён пакінуў Русь і загінуў дзесь на чужыне.

Пасля княжання Святаполка Акаяннага (988 – 1015), як называлі яго летапісцы, Тураўскае княства было ўключана Яраславам Мудрым у склад Кіеўскай Русі. У XII ст. Тураўская зямля разам з Кіевам пераходзіла то да суздальскіх, то да валынскіх князёў. Толькі ў другой палове XII ст. там усталявалася самастойная княжацкая дынастыя. У канцы XII – пачатку XIII ст. на тэрыторыі Тураўскага княства ўтварыўся шэраг дробных феадальных, "шматковых", княстваў – Тураўскае, Пінскае, Слуцкае, Клецкае, Дубровіцкае.

Асновай гаспадаркі ўсіх княстваў былі земляробства і жывёлагадоўля. Старажытныя спосабы гаспадарання – паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва – мелі падначаленую ролю. Сяляне выраблялі ўсё неабходнае, хаця частку прылад працы, інструментаў, упрыгажэнняў яны набывалі ў рамеснікаў і дробных гандляроў.

Самастойныя сялянскія сем'і ў гаспадарчых адносінах групаваліся паводле тэрытарыяльнага прынцыпу. Яны сяліліся невялікімі сёламі (весямі). Адміністрацыйным і рэлігійным цэнтрам некалькіх весяў было вялікае сяло – пагост. Жыллём служылі невялікія зрубы ці паўзямлянкі з глінабітнымі печамі, у якіх палілася па-чорнаму. Земляробчае насельніцтва было арганізавана ў абшчыны – "верві" і "міры". Ва ўмовах развіцця феадальных адносін склад земляробчага





насельніцтва паводле маёмаснага і прававога становішча быў неаднолькавы. Дзе-нідзе, у глухіх, аддаленых ад вока феадала месцах яшчэ жылі вольныя сяляне, але асноўную масу складалі залежныя ад феадала сяляне-смерды, радовічы, ізгоі[1] і інш.

На другім полюсе феадальнага грамадства знаходзіліся князі і баяры. Эканамічную аснову іх улады складала маёмасць на зямлю. Існавалі розныя формы феадальнага землеўладання: вотчыннае – валоданне зямлёй, сядзібай і сялянамі з правам продажу зямлі, раздзелу яе і перадачы ў спадчыну; паместнае – перадача буйным феадалам зямлі ў часовае карыстанне за службу без права спадчыны. Буйнымі феадаламі-ўласнікамі былі царква і манастыры.

Клас феадалаў меў іерархію. На вяршыні піраміды знаходзіўся вялікі князь, ніжэй – князі-кіраўнікі асобных зямель, княстваў, яшчэ ніжэй – князі дробных удзельных княстваў – "отчын", затым – феадалы-ўладальнікі маёнткаў.

У барацьбе супраць сялянства феадалы маглі захаваць сваё панаванне, толькі маючы ўладу і апарат прымусу – войска. Існавалі розныя рангі феадальнага войска. У войску князёў служылі феадалы, якія складалі бліжэйшае акружэнне сваіх уладароў – "старшую дружыну". Многія феадалы мелі ўласнае войска, якое складалася з васальных баяр і служылых людзей, рамеснікаў, што выйшлі з абшчыны сялян. Дружыннікі або баяры атрымлівалі ад князёў права збіраць даніну і "кармленні" (збор даходаў з воласці). Так узнікалі ва ўсходніх славян прыкметы васальнай залежнасці, якая выглядала як права атрымання даніны з пэўнай тэрыторыі дружыннікамі ў якасці васалаў вялікага князя. Дзяржаўная арганізацыя дапамагала князям, дружыннікам, баярам ажыццяўляць панаванне над працоўным насельніцтвам.

Поспехі, дасягнутыя ў сельскагаспадарчай вытворчасці, стварылі аб'ектыўныя эканамічныя перадумовы для аддзялення рамяства і гандлю ад земляробства. Месцам канцэнтрацыі гэтых відаў гаспадаркі з'яўляліся гарады. Рускія летапісы даюць толькі агульнае ўяўленне аб колькасці буйных населеных пунктаў на тэрыторыі заходніх абласцей Русі.

Пад 862 г. упамінаецца Полацк, з X ст. вядомы Тураў. Апавядаючы пра падзеі XI ст., летапісы паведамляюць аб існаванні яшчэ 12 гарадоў: Брэста (Берасця), Віцебска, Копысі, Браслава, Луком'я, Пінска і інш. Да гэтай групы паселішчаў належыць аднесці і Заслаўе. Падзеі XII ст. пакінулі ў летапісах успаміны яшчэ пра 17 гарадоў: Слуцк, Барысаў, Гродна (Гародня), Мазыр, Бельчыцы, Гарадок,Чачэрск, Камянец і інш. У XIII ст., паводле пісьмовых крыніц, існавалі таксама Рэчыца, Нясвіж, Навагародак, Слонім, Ваўка-

[1] *"Радовічы"* – сяляне, звязаныя абавязацельствамі з феадаламі, ад слова "радзіцца", "дамаўляцца"; *"ізгоі"* – людзі, якія выйшлі з абшчыны, але вымушаны пайсці на службу да феадалаў, поўнасцю залежалі ад іх волі.

выск, Турыйск, Капыль, Кобрын. Відавочна, што летапісныя даты першага ўспаміну нераўнацэнныя часу сапраўднага ўзнікнення горада.

Асноўныя спадзяванні ў даследаванні гісторыі гарадоў на тэрыторыі Беларусі ўскладаюцца на археалогію. За апошнія гады археалагічнаму вывучэнню беларускіх гарадоў была нададзена вялікая ўвага. Буйныя раскопкі ажыццяўлялі такія вядомыя археолагі, як Э.М.Загарульскі, Г.В.Штыхаў, А.Р.Мітрафанаў, М.К.Каргер, В.Р.Тарасенка і інш. Археалагічныя знаходкі ўнеслі значныя карэктывы ў пытанне аб часе з'яўлення летапісных гарадоў. У трох беларускіх гарадах – Полацку, Віцебску, Лукомлі знойдзены пасяленні VIII – IX стст.; X – пачаткам XI ст. датуюцца самыя раннія пласты ў Тураве, Навагародку, Ваўкавыску, Брэсце, Браславе, Лагойску, Заслаўі; XI ст. можна датаваць узнікненне Мінска, Гродна, Друцка, Клецка, Копысі, Пінска, Слуцка, Рагачова, Оршы, Свіслачы; XI – XII стст. – Барысава, Мазыра, Гомеля, Слоніма, Чачэрска.

Хоць прычыны ўзнікнення гарадоў былі адны і тыя ж, іх з'яўленне адбывалася па-рознаму. Вельмі распаўсюджаным быў шлях узнікнення горада з феадальнага замка, які з'яўляўся цэнтрам адміністрацыйнага і гаспадарчага жыцця сярэдневяковага горада. З феадальнага замка вырас Ваўкавыск. У замак была пераўтворана "Шведская горка" – пасяленне з круглай пляцоўкай дыяметрам каля 50 м. У XI ст. пасяленне было ўмацавана 7-метровым валам. Раскопкі далі багаты рэчавы матэрыял, які пераканаўча сведчыць аб прыналежнасці "мяшканцаў" (насельнікаў) крэпасці да заможных феадальных вярхоў. На мяжы XI – XII стст. засяляецца суседняе ўзвышша – Замчышча. Да гарадоў, якія сваімі памерамі і тапаграфічнымі рысамі нагадвалі феадальныя замкі, можна аднесці Браслаў, Клецк, Копысь, Рагачоў, Свіслач, Мсціслаў, Слонім, Чачэрск, Гомель.

Даволі вялікая група старажытных беларускіх гарадоў заснавана воляй князёў. Гэта – Браслаў, Барысаў, Заслаўе, Камянец, Гродна. Хутчэй за ўсё яны былі ваенна-адміністрацыйнымі ці пагранічнымі крэпасцямі.

Уяўляе інтарэс гісторыя фарміравання Пінска, аднаго з буйнейшых гарадоў Тураўскай зямлі. Ён узнік у XI ст., а ўжо ў XII ст. дасягнуў вялікіх памераў, меў дакладнае дзяленне на дзядзінец і навакольны горад. Захаваліся абарончыя збудаванні, магутны культурны пласт. Развіццю горада спрыяла і выгаднае геаграфічнае становішча на ажыўленай воднай магістралі – Прыпяці, і шчыльнае сельскае акружэнне, што было звязана з урадлівымі глебамі гэтага рэгіёна.

Гісторыя старажытнага Полацка поўная легенд і паданняў. Раннія пісьмовыя крыніцы ("Аповесць мінулых гадоў", Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, Наўгародскі летапісы, "Хроніка Лівоніі" Г.Латвійскага і інш.) гавораць пра Полацк канца IX – пачатку X ст. як пра ўмацаваны палітычны цэнтр са сваім вялікім князем, што прымаў удзел разам з іншымі князямі ў далёкіх паходах. Полацк заснаваны ў нізіне р.Палаты, ад якой і атрымаў сваю назву. Апроч старажытнага куль-





турнага пласта з ляпной керамікай маюцца напластаванні X – XIII стст., якія ўяўляюць сабой рэшткі паселішча на пагорку пры ўпадзенні р. Палаты ў Заходнюю Дзвіну. Яно пазней стала звацца Верхнім замкам. Неўзабаве паселішча акружаецца магутнай сістэмай збудаванняў, пачынаецца храмавае будаўніцтва, складваецца вельмі шчыльная, тыповая гарадская драўляная забудова, якая мела назву "вакольны горад". Сярод жыхароў гэтага раёна – кавалі, ювеліры, гарбары, кастарэзы. Пераўтварэнне Полацка ў стольны горад буйнейшага феадальнага Полацкага княства ішло паралельна з перарастаннем яго ў важны цэнтр рамяства і гандлю. Гэтаму ў немалой ступені спрыяла выключна выгаднае геаграфічнае становішча горада на адным са шляхоў "з варагаў у грэкі".

Ранняя гісторыя Мінска ўяўляе не толькі навуковую, але і вялікую грамадскую цікавасць. Рускія летапісцы малююць Мінск горадам Полацкай зямлі, які адважыўся ў 1067 г. выступіць супраць войскаў кіеўскага, чарнігаўскага і пераяслаўскага князёў моцнай крэпасцю, што зведала ў 1116 г. двухмесячную аблогу Уладзіміра Манамаха. Мінск – сталіца ўдзельнага княства, яго ўладары прымалі актыўны ўдзел у палітычным жыцці Полацкага княства. Змест летапіснага запісу 1068 г., а таксама назва горада – Менск, Менеск – сталі нагодай выказаць у 30-х гадах нашага стагоддзя меркаванне, што горад спачатку знаходзіўся па-за межамі сучаснага Мінска і размяшчаўся па р.Менцы каля в.Гарадзішча ў 15 км на захад ад Мінска (тут захаваліся рэшткі вялікага замка феадальнага часу). Гэтай думкі і зараз прытрымліваюцца некаторыя даследчыкі.

Каб пагадзіцца з гэтым меркаваннем, неабходна было ўпэўніцца, што, па-першае, паселішча на Менцы існавала ў 60-х гадах XI ст.; па-другое, што яно мела крапасныя збудаванні, пра якія ўпамінае летапіс, і было разбурана ў выніку ваенных дзеянняў у другой палове XI ст.; па-трэцяе, што Мінска на Свіслачы ў той час не было; пачацвёртае, што існуе археалагічная пераемнасць паміж матэрыяламі з раскопак паселішчаў на Менцы і ў Мінску.

Комплексныя археалагічныя даследаванні, праведзеныя групай археолагаў (Э.М.Загарульскі, Г.В.Штыхаў і інш.), на ўсе гэтыя пытанні далі адмоўны адказ. У эпоху Старажытнай Русі на Менцы існавала вялікае паселішча, якое ўяўляла сабой пасёлак адкрытага тыпу. Ён быў забудаваны ў асноўным наземнымі драўлянымі пабудовамі. Матэрыялы раскопак сведчаць аб пераважным існаванні земляробства. Значна слабей прадстаўлена рамяство. Раскопкі селішча на Менцы дазволілі аднавіць вобраз ранняга пасёлка IX – X стст., які не адпавядае вядомым летапісным фактам з ранняй гісторыі Мінска.

Зусім іншы малюнак, іншы тып паселішча рэканструююць матэрыялы археалагічных раскопак Мінска. Гістарычным цэнтрам горада доўгі час заставалася старажытнае ўмацаванае месца на правым беразе Свіслачы каля сучаснай плошчы 8 Сакавіка – Замчышча. Такая назва замацавалася за ўзгоркам 75×45 м, выцягнутым уздоўж

р.Свіслач. На гістарычным плане Мінска ў XVIII – пачатку XIX ст. у гэтым раёне зафіксаваны стары вал, археалагічныя раскопкі якога паказалі, што ён узведзены ў XI ст. Значыць, Мінск узнік як умацаванае паселішча. Мінская крэпасць адпавядала ўсім патрабаванням фартыфікацыйнага майстэрства таго часу (мела магутны абарончы вал з драўлянай асновай). Сярод знаходак звяртае ўвагу вялікая колькасць прадметаў, звязаных з ваенным побытам, – зброя блізкага і далёкага бою, прадметы ўзбраення коннага воіна і конская збруя. Усё гэта дазваляе зрабіць выснову, што Мінск узнік як паселішча ваеннага тыпу, якое выконвала функцыі крэпасці на паўднёвым памежжы Полацкага княства. Феадальная раздробленасць і незалежная актыўная палітыка полацкіх князёў, якія імкнуліся зрабіць бяспечнымі паўднёвыя межы сваіх зямель, былі прычынай заснавання крэпасці на Свіслачы. Хуткае ператварэнне Мінска ў цэнтр асобнага княства Мінскага, выгаднае размяшчэнне яго на старажытных шляхах спрыялі развіццю ў ім рамесніцка-гандлёвай дзейнасці і ўзрастанню яго значнасці як ваенна-адміністрацыйнага цэнтра паўднёвай часткі Полацкай зямлі.

## §2. Беларускія землі ў перыяд феадальнай раздробленасці

На пачатку XII ст. Старажытнаруская дзяржава распалася на асобныя княствы і феадальныя рэспублікі. У гэты перыяд Кіеўская Русь ужо не ўяўляла сабой адзінага палітычнага цэлага і складалася з шэрага асобных зямель – княжанняў. Землі Беларусі ўваходзілі ў склад Полацкага, Тураўскага, Пінскага, Навагародскага і часткова Смаленскага, Чарнігаўскага, Кіеўскага і Уладзіміра-Валынскага княстваў.

Працэс палітычнага драблення на пачатку XIII ст. пайшоў яшчэ хутчэй. Адным з першых фактычна незалежных ад Кіева стала Полацкае княства.

Свайго апагея барацьба паміж кіеўскімі Яраславічамі (нашчадкамі Яраслава Мудрага) і полацкімі Ізяславічамі (нашчадкамі Уладзіміра і Рагнеды, Рагвалодавымі ўнукамі) дасягнула ў перыяд княжання Усяслава (1044 – 1101). Летапісы паведамляюць, што князь шмат працаваў дзеля дабрабыту Полацкай зямлі, забываючыся пра сон і адпачынак. Пра яго ўжо пры жыцці складалася мноства легенд і паданняў. Летапісы апавядаюць пра тое, што Усяслаў быў чарадзеем і мог перабягаць шэрым ваўком сотні вёрстаў. Хадзіла паданне, што ён і нарадзіўся ад чарадзейства з асобнай радзімай адзнакай, ад якой быццам бы залежала ўся яго незвычайная сіла. Каб "чарадзейны знак" не кідаўся людзям у вочы, князь заўсёды насіў на галаве павязку. Чарадзеем малюе Усяслава і аўтар "Слова пра паход Ігаравы".





Пакуль быў яшчэ жывы Яраслаў Мудры, Усяслаў не думаў аб аддзяленні Полацкага княства ад Кіеўшчыны. Пасля яго смерці (1054) кіеўскі прастол заняў старэйшы сын Ізяслаў, тытулаваны на вялікага князя, чарнігаўскі – Святаслаў, пераяслаўскі – Усевалад. Напачатку і з імі Усяслаў жыў у згодзе, нават прымаў удзел у сумесных паходах паўднёвых князёў супраць полаўцаў, якія ўвесь час пагражалі Кіеву. Так доўжылася да 60-х гадоў XI ст. З гэтага часу зноў разгараецца барацьба Полацка з Кіевам, якая не сціхае да самай смерці Усяслава.

У 1065 г. Усяслаў аблажыў Пскоў, а ў наступным годзе ўзяў Ноўгарад, забраўшы як вайсковы здабытак царкоўную маёмасць з Сафійскага сабора. У адказ тры браты – Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад – аб'ядналіся і выступілі супраць Усяслава. Першым горадам, які апынуўся на іх шляху, быў Мінск. Горад быў абложаны і ўзяты. Кіеўскія князі павялі свае войскі далей па р.Нямізе і тут сустрэліся з войскамі Усяслава. Маленькая рэчка 3 сакавіка 1067 г. "бачыла" на сваіх берагах страшную бітву. Аўтар "Слова пра паход Ігаравы" пісаў: "На Немизе снопы стелют головами, молотят цепами булатными, на току жизнь кладут, веют душу от тела. Немиги кровавые бреги не житом были посеяны, а костьми сынов русских". Рэчкі Нямігі цяпер няма. Па яе рэчышчы праходзіць вуліца Няміга ў Мінску.

Летам 1067 г. Яраславічы, якія сталі лагерам пад Оршай, запрасілі да сябе ў шацёр для перагавораў Усяслава з двума сынамі, гарантуючы яму бяспеку, але, парушыўшы абяцанне, паланілі яго, адвезлі ў Кіеў і пасадзілі ў вязніцу. У 1068 г. кіяўляне паўсталі супраць свайго князя Ізяслава, вызвалілі Усяслава і абвясцілі яго вялікім князем Кіеўскай Русі.

Далей падзеі разгортваліся наступным чынам. Пазбаўлены кіеўскага прастола, Ізяслаў звярнуўся за дапамогай да польскага караля Баляслава; апошні з войскамі з'явіўся пад Кіевам. Насустрач яму выступіў Усяслаў з кіеўскім апалчэннем. Сярод кіяўлян была, відаць, нейкая нязгода. Не жадаючы ўблытвацца ў няпэўную справу, князь-чарадзей кінуў войска і сярод ночы ўцёк на радзіму – у Полацк. Феадальныя ўсобіцы працягваліся. З канца 70-х гадоў XI ст. у барацьбу з полацкімі князямі ўключыўся Уладзімір Манамах. У яе выніку моцна пацярпелі полацкія гарады: у 1078 г. – Лагойск, Лукомль, Друцк, а каля 1084 г. – Мінск. Пасля смерці Усяслава Полацкая зямля была падзелена паміж яго сынамі (іх было 6), якія потым сталі надзяляць валасцямі сваіх дзяцей. З'явіўся шэраг асобных княстваў: Полацкае, Мінскае, Віцебскае, Друцкае, Ізяслаўскае, Лагойскае, Стрэжаўскае, Гарадзецкае. Прастол у Полацку лічыўся галоўным. Гэты горад працягваў заставацца найважнейшым палітычным цэнтрам.

У XII ст. вялікае значэнне набывае Мінскае княства. Першы мінскі князь Глеб Усяславіч у 1116 г. захапіў частку тэрыторыі дрыгавічоў. Уладзімір Манамах разам з чарнігаўскім, смаленскім, пераяслаўскім князямі пачаў паход на Мінскае і Друцкае княствы. Оршу і Копысь

Манамах перадаў Смаленску. У 1119 г. яму ўдалося захапіць Мінск і на некаторы час прылучыць да вялікакняжацкіх уладанняў. Паланёны Глеб Усяславіч быў адпраўлены ў Кіеў.

У сярэдзіне XII ст. спробу аб'яднаць Мінскае і Полацкае княствы зрабіў мінскі князь Расціслаў Глебавіч, запрошаны полацкім вечам на княжанне ў Полацк. Свайго князя Рагвалода палачане адправілі ў Мінск, дзе яго ўтрымлівалі ў "вялікае патрэбе". Але Рагвалод здолеў уцячы, яму ўдалося вярнуць сабе Друцк. У самім Полацку ўспыхнуў мяцеж гараджан супраць Расціслава і яго людзей. Даведаўшыся пра змову, Расціслаў уцёк у Мінск, а палачане зноў паклікалі да сябе Рагвалода. Вайна паміж Расціславам і Рагвалодам не прывяла да перамогі ніводнага з іх, аб'яднаць княствы не ўдалося.

У сучаснай гістарычнай літаратуры выказваюцца новыя погляды па пытаннях феадальнай раздробленасці. Так, М.Ермаловіч лічыць, што раз'яднанасць беларускіх, у прыватнасці полацкіх, зямель у XIII ст. не трэба перабольшваць, што феадальная раздробленасць, якая была вынікам феадальнага спосабу вытворчасці, з'явілася на той час не толькі заканамерным, але і прагрэсіўным этапам гістарычнага развіцця. Справа ў тым, што ў нетрах самой феадальнай раздробленасці выспявалі ўмовы для ўмацавання беларускіх зямель. Ствараліся лепшыя магчымасці для асваення зямель і прыродных рэсурсаў, росту гарадоў, развіцця земляробства і рамёстваў. А гэта садзейнічала таварнай вытворчасці, вяло да эканамічнага і палітычнага збліжэння паасобных зямель. У якасці прыкладу Ермаловіч прыводзіць Полацкую зямлю. "Менавіта ў Полацкай зямлі, – сцвярджае ён, – раней пачаўся працэс феадальнай раздробленасці, ён раней і закончыўся" (*Ермаловіч М.І.* Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991. С. 11).

Тэндэнцыя да збліжэння з іншымі беларускімі землямі назіралася таксама ў Турава-Пінскім княстве. І хоць на тэрыторыі Турава-Пінскай зямлі пасля яе выхаду з-пад уплыву Кіева (1158) узнік шэраг асобных удзелаў, князі іх дзейнічалі згуртавана. У пачатку XIII ст. Турава-Пінская зямля ўсё больш і больш звязвае свой лёс з Новагародскай зямлёй у барацьбе супраць агульнага ворага – галіцка-валынскіх князёў. Аб гэтым сведчыць тое, што ў 1228 г. новагародцы ўдзельнічалі на баку Расціслава Пінскага ў яго барацьбе з Данілам Галіцкім.

Аб росце згуртаванасці, а не раздробленасці беларускіх зямель сведчыць, на думку М.Ермаловіча, узвышэнне Новагародскай зямлі, на долю якой "выпала гістарычная роля стаць у другой палове XIII ст. ядром аб'яднання беларускіх і балцка-літоўскіх зямель у адзіную дзяржаву".

Да сярэдзіны XIII ст. Новагародская зямля дасягнула высокага эканамічнага і культурнага развіцця. Гэтаму садзейнічаў шэраг прычын. Тут было добра развіта земляробства. Тут выплаўлялася жалеза і была наладжана вытворчасць разнастайных вырабаў з





яго, апрацоўваліся каляровыя і каштоўныя металы. Існавалі ганчарнае, кастарэзнае і іншыя рамёствы. Па насычанасці жалезнымі знаходкамі Новагародак быў адным з самых багатых у гэтых адносінах гарадоў (*Гуревич Ф.Д.* Древний Новогрудок. Л., 1981. С. 138 – 139 ). Новагародак меў шырокія знешнія сувязі. Ён вёў ажыўлены гандаль з паўднёварускімі гарадамі, Прыбалтыкай і Польшчай, Візантыяй і Блізкім Усходам. На Новагародскай зямлі было шмат гарадоў: Слонім, Ваўкавыск, Гродна, Зэльва, Свіслач і інш. Гэтыя гарады з'яўляліся цэнтрамі асобных удзелаў. Аднак усе яны аб'ядноўваліся вакол Новагародка. Летапісы, адзначае М.Ермаловіч, не зарэгістравалі ніводнага выпадку міжусобнай барацьбы князёў Новагародскай зямлі. Так што няма падстаў гаварыць аб феадальнай раздробленасці на гэтай зямлі.

Адначасова тут ва ўмовах скрыжавання этнічна разнастайнага насельніцтва фарміравалася новая арыгінальная культура. Археолаг Ф.Д.Гурэвіч піша, што ў ёй дзівосна перапляталіся мясцовыя, паўднёвыя і заходнія рысы, але дамінавала ўсходнеславянская культура. Магчыма, што менавіта ў гэтых умовах былі закладзены першаасновы беларускай народнасці. Яшчэ больш смелыя высновы робіць М.Ермаловіч. Ён піша, што ў сярэдзіне XIII ст. цэнтр палітычнага жыцця Беларусі перайшоў з Полацка ў Новагародак, які "стаў асяродкам зараджэння новай дзяржаўнасці". Гэтыя высновы з'яўляюцца дыскусійнымі. З імі нельга пагадзіцца цалкам. Але наяўнасць розных пунктаў гледжання па такіх актуальных пытаннях садзейнічае паглыбленаму вывучэнню нашай мінуўшчыны.

## § 3. Барацьба супраць крыжакоў і татара-манголаў

Паўночна-заходнімі суседзямі Полацкай зямлі з даўнейшых часоў былі шматлікія прыбалтыйскія плямёны – **яцвягі, літоўцы, аўкштайты, земгалы, лівы** і інш. Славяне сутыкнуліся з імі яшчэ ў VI – VII стст. н. э. Падчас славянскай каланізацыі балты адступілі на поўнач і захад, частка іх была асімілявана.

Развіццё феадальных адносін у балтаў пачалося крыху пазней за славян. Паміж насельніцтвам паўночна-заходніх зямель Русі і мяжуючымі балцкімі плямёнамі існавалі даўнія палітычныя, эканамічныя, культурныя і этнічныя сувязі. З рускіх абласцей у Прыбалтыку траплялі традыцыйныя прадметы экспарту: футра, воск, шыферныя праслíцы, вырабы са шкла, металічныя ўпрыгажэнні (бронзавыя грыўны, бранзалеты).

На тэрыторыі латталаў, у ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны, у XII – XIII стст. існавалі два невялікія княствы – Кукенойс і Герцыке, залежныя ад Полацка. Тут узніклі гарады са змешаным насельніцтвам,

рэзідэнцыі мясцовых князёў і іх дружын, праваслаўныя цэрквы. Кукенойс размяшчаўся на правым беразе Заходняй Дзвіны ў вытоках яе прытоку Персе (раней Кокна). Кукенойс упамінаецца ў "Хроніцы Лівоніі" ў 1205 г., калі там княжыў Вячка. У Герцыке, другім важным умацаваным пункце, на пачатку XIII ст. княжыў Усевалад (*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (XI – XIII вв.). Мн., 1978. С. 59 – 63 ).

З даўнейшых часоў Русь падтрымлівала палітычныя і гандлёвыя сувязі з многімі краінамі Еўропы, у тым ліку і з Германіяй. Правіцелі Русі і Германіі абменьваліся пасольствамі; рускія купцы гандлявалі ў нямецкіх гарадах, нямецкія часта бывалі ў Ноўгарадзе, Кіеве, Смаленску, Луцку, Полацку.

У пачатку XIII ст. гэтыя мірныя адносіны парушыліся. Летапісцы ў розных гарадах засведчылі трывожныя звесткі: нямецкія рыцары высадзіліся ў вытоках Заходняй Дзвіны і заснавалі тут крэпасць Рыгу (1201), якая стала апорай нямецкай агрэсіі ў зямлю балтаў. Неўзабаве датчане напалі на эстонскае ўзбярэжжа, разбурылі старажытную крэпасць Калывань (Талін) і заснавалі сваю – Рэвель (1209).

Якім чынам нямецкія рыцары апынуліся ў Прыбалтыцы, каля рускіх межаў?

З канца XI ст. каралі, графы, князі Францыі, Англіі, Германіі і іншых еўрапейскіх краін імкнуліся захаваць багатае ўзбярэжжа Міжземнага мора, неаднойчы адпраўляліся ў крывавыя паходы супраць Егіпта, Сірыі. Гэтыя войны падтрымлівала каталіцкая царква, якая выступіла арганізатарам крыжовых паходаў. Яна аб'явіла іх мэтай вызваленне ад мусульман Палесціны і "гроба гасподня". У войсках крыжакоў ствараліся асобныя манашаска-рыцарскія арганізацыі: іх звалі духоўна-рыцарскімі ордэнамі. Уступаючы ў ордэн, рыцар заставаўся воінам, але даваў зарок манаства: не мог мець сям'і. З гэтага часу ён пакорліва слухаў галаву ордэна – гросмайстра, ці вялікага магістра.

Першым быў створаны ў 1119 г. ордэн тампліераў (храмоўнікаў), другім – ордэн шпітальераў-янітаў (сваю назву атрымаў ад шпіталя Святога Яна, які дапамагаў хворым пілігрымам – вандроўнікам). У канцы XII ст. стварыўся трэці ордэн – Тэўтонскі, які пазней перасяліўся з Палесціны ў Прусію. У 1202 г. рыжскі епіскап Альберт Буксгаўдэн, жадаючы абярнуць у хрысціянства насельніцтва Прыбалтыкі, заснаваў рыцарскі ордэн мечаносцаў. Новыя рыцары насілі белы плашч з чырвоным крыжам, замест якога пазней сталі нашываць зорку. У 1237 г. абодва гэтыя ордэны аб'ядналіся па намаганню папы рымскага Грыгорыя IX і стварылі Прускі (Лівонскі) ордэн. Пацярпеўшы цяжкае паражэнне ў вайне з арабамі, нямецкія князі ў канцы XII ст. вырашылі перанесці вайну ў Прыбалтыку і Русь, заваяванне якіх ім абяцала новыя землі і прыбыткі.

Атрымліваючы вялікую дапамогу людзьмі, зброяй і грашыма з боку нямецкіх феадалаў і паўночнагерманскіх гарадоў, рыцары-крыжакі пашыралі занятыя тэрыторыі, узводзячы магутныя замкі.





Замацаванне крыжакоў каля вытокаў Дзвіны паставіла пад іх кантроль важны для Полацкай зямлі гандлёвы шлях, закрывала выйсце ў Балтыйскае мора. Рыцары імкнуліся трымаць у сваіх руках таксама права збіраць даніну з ліваў. Летам 1203 г. войскі полацкага князя Уладзіміра аблажылі крэпасці Іксюоль і Гольм. У тым жа годзе герцыкскі князь Усевалад аблажыў Рыгу. Князь Кукенойса Вячка некалькі разоў атрымліваў перамогу над крыжакамі; пасля адной з іх ён паслаў полацкаму князю Уладзіміру багатыя падарункі: "лепшых тэўтонскіх коней, панцыры, балісты".

Аднак крыжакі, умела ўлагоджваючы багатымі падарункамі полацкага князя, змаглі яго нейтралізаваць. У рашучую гадзіну васальныя князі полацкага князя – Кукенойса і Герцыке – не атрымалі падтрымкі, у 1207 – 1214 гг. іх землі былі прылучаны да ўладанняў Лівонскага ордэна. У 1209 г. на месцы спаленага Кукенойса быў заснаваны нямецкі мураваны замак Кокэнхаўзэн.

Зрэшты, крыжакі дамагліся таго, што пазбавілі полацкага князя і права збірання даніны з ліваў. Полацкі князь са свайго боку забараніў нямецкім купцам уязджаць у межы княства. Не зважаючы на няўдачы, Полацкае княства было яшчэ дастаткова моцным, і нямецкія рыцары не адважваліся ступаць на яго тэрыторыю. Па дамове паміж ордэнам і полацкім князем у 1210 г. апошні адмаўляўся ад Ніжняга Падзвіння, аднак дамогся права вольнага праезду полацкім купцам па Заходняй Дзвіне. У 1216 г. полацкі князь Уладзімір пачаў рыхтаваць сумесны паход з эстамі і лівамі супраць крыжакоў, аднак раптоўна памёр.

У гэты час па загаду каталіцкай царквы пад чорны з белым крыжам сцяг сабраліся рыцары з розных частак Германіі. Крыжовы паход пачаўся паспяхова. У Прыбалтыцы не было вялікіх войскаў, магутных крэпасцей, і жыхары яе былі ўзброены горш за закаваных у латы рыцараў. Заваяваўшы Эстонію і значную частку Латвіі, рыцары сталі пагражаць Русі. Калі б аб'ядналіся дружыны ўсіх рускіх князёў, то сабралася б больш за 100 тыс. воінаў. Такое войска напэўна адкінула б рыцараў. Але, як пісаў летапісец, у розныя бакі глядзелі баявыя харугвы рускіх князёў. Амаль бесперапынна ваявалі між сабой князі валынскія і чарнігаўскія, суздальскія і смаленскія, полацкія і мінскія; не сціхалі заўзятыя сваркі князёў з баярамі Вялікага Ноўгарада і Пскова.

Ваенная экспансія немцаў супраць Полацкага княства і Наўгародскай зямлі прывяла Полацк і Ноўгарад да палітычнага саюзу, які быў замацаваны шлюбам Аляксандра Неўскага з дачкой полацкага князя Брачыслава. У бітве на Няве са шведскімі войскамі ў 1240 г. наўгародцам дапамагалі палачане. У гэтай бітве вызначыўся полацкі воін Якуб. Знішчэнне Аляксандрам Неўскім нямецкіх рыцараў на лёдзе Чудскага возера ў 1242 г. спыніла крыжацкую агрэсію на паўночным захадзе.

З усходу на рускія землі абрынуліся татара-мангольскія полчышчы. У 1223 г. на р.Калцы сышліся на першую бітву татара-манголы і

рускія. Паражэнне, якое пацярпелі ў гэтай бітве аб'яднаныя сілы рускіх княстваў і полаўцаў, паслужыла перадумовай да Батыевай навалы. У трагічнай бітве на Калцы прымалі ўдзел і беларускія харугвы. Пералічваючы загінуўшых князёў, летапісы называюць сярод іх і нясвіжскага князя Юрыя.

За пяць гадоў (1236 – 1240) татара-манголы з мячом і агнём прайшлі ўсе рускія землі, знішчылі Кіеў, галіцкія і валынскія гарады, ашаламілі Заходнюю Еўропу спусташэннем Венгрыі, Малапольшчы і Сілезіі. У 1237 г. гарэлі Разань, Суздаль, Уладзімір. Татара-манголы рушылі да Вялікага Ноўгарада, але дабрацца туды не змаглі.

У 1240 г. татара-манголы разбурылі Уладзімір-на-Клязьме, Маскву. Знішчылі і паланілі сотні тысяч людзей. Цаной велізарных страт рускі народ абяскровіў сілы татара-манголаў і пазбавіў іх магчымасці заваёўваць краіны і народы Заходняй Еўропы. Аднак Русь, палітычна раздробленая, раздзіралася міжусобіцамі і не змагла аб'яднаць свае сілы, каб даць адпор захопнікам, а таму трапіла пад уладу моцных татара-мангольскіх ханаў.

Беларускія землі засталіся ў баку ад асноўнага напрамку руху татара-манголаў. Праўда, "Хроніка Быхаўца" ўпамінае пра разбурэнне войскамі Батыя Брэста ў 1240 г., паведамляе, што некаторыя гарады Паўднёвай Беларусі былі абкладзены данінай. Маюцца звесткі аб бітвах з татара-манголамі ў нізіне р.Прыпяць, пад Мазыром. Татара-мангольскія нашэсці на заходнерускія землі адбываліся ў 1258, 1275, 1277, 1287, 1315, 1325, 1338 гг.

## § 4. Культура. Увядзенне хрысціянства на беларускіх землях

Духоўнае і культурнае жыццё нашых продкаў цесна звязана са старадаўнімі вераваннямі і культамі. Звесткі, сабраныя этнографамі, гісторыкамі, фалькларыстамі і іншымі даследчыкамі культуры Беларусі, дазваляюць пад пластом позніх хрысціянскіх уяўленняў адшукаць рэшткі язычніцкага светапогляду і магічна-абрадавай практыкі. Язычніцтва (ад царкоўнаславянскага "языцы" – народы, чужаземцы) – прыняты ў багаслоўі і ўмоўна ў гістарычнай літаратуры тэрмін, які абазначае старадаўнія вераванні і культы, што існавалі да пашырэння т. зв. "вышэйшых" рэлігій – хрысціянства, ісламу і інш. Язычніцтва – надзвычай шматгранная і разгалінаваная рэлігія. Яна ўключае ў сябе розныя ўяўленні, ідэалагічныя напластаванні розных гістарычных эпох. Для далёкага нашага продка маланка азначала гнеў Перуна, набрыньвалі коцікі на вярбе – багіня вясны ўзялася за справу. Камяні пад сахой пасеяў чорт, у хаце гаспадарыў дамавік. Навокал чалавека дзейнічалі сілы, з якімі можна было жыць у згодзе, але якіх трэба было слухацца, захоўваць табу, каб не парушаць згоду з навакольным светам.





З прыняццем хрысціянства разумовы, духоўны, рэлігійны стан грамадства зазнаў істотныя змены. Хрысціянства было варожым язычніцтву, як наогул варожыя рэлігійныя сістэмы, калі адны багі і святы не могуць саступіць месца іншым.

У адрозненне ад Рымскай імперыі, хрысціянства на Старажытную Русь прыйшло ў гатовым выглядзе, з адшліфаванымі за дзевяць стагоддзяў свайго існавання формуламі, са Старым і Новым Запаветамі, з літаратурай айцоў царквы, культамі Хрыста і Багародзіцы, са стараславянскай мовай, прынесенай першымі місіянерамі з Візантыі. Пры ўсёй складанасці станаўлення ранняга хрысціянства ў Рымскай імперыі яно ўсё ж такі развівалася ў накірунку ад нізоў да вярхоў, урада, эліты. У славянскім грамадстве хрысціянства наладжвалася зверху – ад эліты да народа, і гэтая процілегласць рэлігійных спадзяванняў стала істотнай.

Хрысціянства Усходняй Рымскай імперыі (як і Заходняй) да свайго сцвярджэння ў ролі дзяржаўнай рэлігіі вяло працяглую барацьбу з язычніцтвам, перамагло яго і замацавала сваю нялёгкую перамогу тым, што занесла ўсіх язычніцкіх багоў у "д'ябальскія спісы". "Язычніцкае" для хрысціянства было сінонімам "варварскага".

Хрысціянства на Кіеўскую Русь прыйшло з Візантыі. Першая царква была пабудавана ў Кіеве, відавочна, яшчэ ў IX ст. Сучасніца Візантыйскага імператара Канстанціна Барвянароднага – руская княгіня Вольга – прыняла хрысціянства. А яе ўнук Уладзімір Святаславіч у 988 – 989 гг. пачаў хрышчэнне Русі. Неадкладна місіянеры, аб'яднаныя з воінскімі аддзеламі, павялі хрыстовыя паходы на язычніцтва па ўсіх старажытных землях. Следам за Кіевам прымусова падпадала пад абрад хрышчэння насельніцтва двух іншых важных цэнтраў – Полацка і Ноўгарада. А праз нейкі тэрмін – зусім не малы – "вера грэчаская" стала "верай рускай", сваёй, нібы прыроджанай, спрадвечнай. Але што азначае – "стала"? Сапраўды не сама сабой, не чарадзействам, не цудам, а з дапамогай бізуна і перніка. Такі злом свядомасці, які патрабуе адмаўлення ад веры бацькоў і дзядоў, руйнавання старых духоўных каштоўнасцей, сам сабой адбывацца не можа. Замена былых міфаў новымі суправаджалася знішчэннем абаронцаў былой веры, гатовых адстойваць свае перакананні. Гэта знішчэнне прыняло форму дзяржаўнай палітыкі, было адной з паліцэйскіх функцый велікакняжацкай улады. Забаранялася старая і ўводзілася новая абраднасць; падлягалі забыццю імёны старых божастваў, месцы паганскіх маленняў разбураліся.

Чым так моцна паланіла хрысціянства палымяную язычніцкую душу князя Уладзіміра, зразумець не проста. Але, прыняўшы хрысціянства, Уладзімір стаў хрысціць кіеўскі народ і найперш знішчыў язычніцкіх багоў – Дажбога, Стрыбога, Сімаргла, Макошу, Перуна. Па яго загаду Перуна прывязалі да конскага хваста, пацягнулі да Дняпра, і слугі князя па дарозе білі яго бізунамі. Потым вярхоўнага бога скінулі ў раку. Людзі, якія верылі ў свайго бога, плакалі, беглі за ім. Насуперак чаканням чараўнікоў, гром не грымнуў, маланкі ў

Кіеў не ўдарылі. Князь Уладзімір застаўся жывы і быў здаровы многія гады. Аднак, каб народ маўчаў, князь перад хрышчэннем аб'явіў: хто не прыйдзе да Дняпра – вораг яму, Уладзіміру. Спрачацца з князем асмеліліся нямногія. Тыя ж, хто не асмеліўся, прыйшлі раніцай да дняпроўскага берага і па знаку прыбыўшага разам з Уладзімірам мітрапаліта і пад пагрозай бізуноў княжацкай дружыны ўвайшлі ў ваду па шыю. Выйшлі з вады, атрымалі крыжык – і сталі хрысціянамі.

У Кіеве хрысціць народ было не вельмі складана. Кіеў здаўна знаходзіўся ў цесных стасунках з Канстанцінопалем, і хрысціянства з яго храмамі і цырымоніямі для многіх кіяўлян дзівам не ўяўлялася.

Пасля знішчэння Перуна ў Кіеве належала перамагчы язычніцтва ў іншых землях. Па водным шляху адправіліся з Кіева з місіяй хрысціянізацыі грэчаскія і балгарскія святары, а з імі дзядзька князя Уладзіміра – Дабрыня з войскам. Маршрут іх пралягаў праз Полацкае княства да Ноўгарада, і першым на іх шляху быў Тураў, дзе місіянерам аказалі ўпартае супраціўленне. Пра крывавае хрышчэнне тураўцаў сведчыць легенда аб чырвоных камянях, якія быццам бы прыплылі па рацэ ў горад, у чым бясспрэчна чуецца памяць пра разню, якую абрушыў на мясцовых язычнікаў Дабрыня. Пазней, як паведамляе летапіс, людзі казалі, што Пуцята хрысціў агнём, а Дабрыня – мячом.

Пра тое, як распаўсюджвалася хрысціянства ў Полацкай зямлі, мы таксама маем некаторыя звесткі. Прыняўшы хрышчэнне, у той жа год Уладзімір успомніў аб сваёй страціўшай ласку жонцы – Рагнедзе. Ён прыслаў у Ізяслаў, дзе жыла Рагнеда, сваіх пасланцоў, якія перадалі ёй такія словы князя: "Цяпер, ахрышчаны, я мушу мець адну жонку, якую ўзяў, хрысціянку, а ты выберы сабе мужа з маіх баяр, каго пажадаеш". Рагнеда адказала, што яна да гэтага часу княгіня і не хоча зрабіцца нявольніцай, але хоча быць нявестай Хрыстоса і прыняць анёльскі вобраз пад імем Анастасіі. Для манахіні-княгіні быў пабудаваны манастыр, у якім яна пражыла некалькі гадоў да сваёй смерці ў 1000 г.

Калі з'явіліся першыя хрысціяне ў Полацкай зямлі, сказаць цяжка. Паводле падання, ужо ў IX ст. тут былі хрысціяне. Яно знаходзіць сабе пацвярджэнне ў гістарычным матэрыяле. Як вядома, землі Беларусі размяшчаліся на вялікім водным шляху "з варагаў у грэкі", па якім не толькі ішоў гандаль з Візантыяй, але і распаўсюджваліся хрысціянская вера і культура. Новая вера не прыйшла сюды як вера, усталяваная агнём і мячом. Праўда, была і барацьба паміж святарамі новай веры і чараўнікамі, прыхільнікамі язычніцтва, але ўсё ж такі хрысціянскія погляды пераймаліся, як і ўся культура, адносна мірным шляхам. Яны выціснулі з жыцця грамадства старыя, язычніцкія погляды, часта зліваючыся з імі. Так, святы прарок Ілья стаў падобны да Перуна. Язычніцтва ў асноўным заставалася бытавой рэлігіяй сялянства з яго натуральнай гаспадаркай, патрыярхальным ладам жыцця, поўным залежнасці ад сіл прыроды.

Гарадское супольнае жыццё, наадварот, схіляла да разумення і ўспрыняцця палажэнняў хрысціянскай рэлігіі, яе сімволікі. Такім чынам, стваралася тое двухвер'е, якое існавала на тэрыторыі Беларусі





з даўнейшых часоў і дазваляла славянскаму язычніцтву мірна ўжывацца з усходнім і заходнім хрысціянствам.

І сёння ў памяці народа жывуць розныя міфалагічныя ўяўленні аб паходжанні жывой і нежывой прыроды (існаванне "таго свету", святкаванне Дзядоў, Радаўніцы), апавядаюцца гісторыі пра русалак, лесавікоў, чарцей, ведзьмаў. Існуюць разнастайныя замовы, праклёны, "засцерагальныя" дзеянні ад стыхійных нягод, сацыяльных катаклізмаў. Працягваецца традыцыя паважлівых адносін да агню, у фальклоры ўслаўляюцца сонца, месяц, зоркі, дрэвы, рэкі і г.д. Захоўваюцца некаторыя абрады – гуканне вясны, купалле, валачобніцтва, юр'еўскія і траецкія звычаі. Але ўжо ўсе яны страцілі сваю магічную сілу.



*Благавешчанская царква ў Віцебску*

Культура старажытных беларускіх зямель мае шмат агульнага з культурай іншых усходнеславянскіх народаў. Гэтае агульнае выяўляецца ў стылі, кампазіцыі, спосабе ўпрыгажэння арнаментам прадметаў прыкладнога мастацтва.

Пры ўсёй агульнасці культуры Старажытнай Русі на тэрыторыі сучаснай Беларусі яна мела спецыфіку. Найбольш яскрава гэта выявілася ў матэрыяльнай і духоўнай культуры Полацкай зямлі. У IX – XIII стст. у Полацку квітнела высокая раннефеадальная культура, развівалася пісьменства, вялося летапісанне, шырока распаўсюджваліся рамёствы – кавальскае, ювелірнае, гарбарна-шавецкае, дрэваапрацоўчае, кастарэзнае, ганчарнае. Полацк уплываў на гаспадарчае і культурнае развіццё суседніх неславянскіх народаў.

Вышэйшым узорам старажытнарускай культуры з'яўляецца манументальная архітэктура. У X – XIII стст. у архітэктуры Еўропы дамінаваў раманскі стыль. Грамадзянскія і культавыя раманскія пабудовы вызначаліся масіўнасцю, суровай манументальнасцю і крапаснымі рысамі. У муроўцы абавязкова ўжываўся абчэсаны і прыродны камень, часам разам з цэглай. Рысы раманскага стылю ёсць у многіх помніках беларускага дойлідства.

К канцу X ст. на Русі не было каменна-цаглянага будаўніцтва. З прыняццем хрысціянства бярэ пачатак узвядзенне манументальных культавых пабудоў. На пачатковым этапе рускія дойліды пераймалі візантыйскія архітэктурныя формы, потым іх пераасэнсавалі ў адпаведнасці са сваімі мастацкімі густамі, традыцыямі. Будаўніцтву сабораў на Русі надавалася дзяржаўнае і палітычнае значэнне.



*Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне*
*Малюнак Н.Орды*

У сярэдзіне XI ст. у Полацку, следам за Кіевам і Ноўгарадам, быў пабудаваны старажытнейшы з вядомых на тэрыторыі Беларусі мураваны **Сафійскі сабор**. Ён меў шмат агульнага з наўгародскай Сафіяй. Будаўнічым матэрыялам былі плітачная цэгла і брукаваны камень. План храма адрозніваецца строгай сіметрыяй. Унутраная прастора падзялялася 16 слупамі на 5 уздоўжных нефаў[1]. Пасярэдзіне будынка змяшчаўся галоўны купал, вакол якога групавалася яшчэ 4 меншых. Сцены ўнутры сабора былі распісаны фрэскамі і ўпрыгожаны мазаікай.

Хуткі рост гарадоў, рамёстваў і гандлю, распаўсюджанне хрысціянства стварылі ўмовы для далейшага развіцця мураванай архітэктуры. У XII ст. у Віцебску была пабудавана **Благавешчанская царква** (засталіся руіны). Яе рысы (незвычайная выцягнутасць плана, 6 калон) нагадваюць заходнееўрапейскія базілікі[2]. Пазней базілікі былі паўтораны ў пабудовах Полацка, Гродна, Смаленска. У XII – XIII стст. у Полацку з'явіліся некалькі мураваных сабораў. Сярод іх – **Спаскі,** быў пабудаваны ў сярэдзіне XII ст. Непадалёк ад Полацка, **у Бельчыцах**, у XII ст. быў заснаваны манастыр.

[1] *Неф* – выцягнутае памяшканне, частка інтэр'ера (звычайна базілікі), абмежаваная з аднаго ці з двух падоўжаных бакоў радам калон ці слупоў.

[2] *Базіліка* – адзін з галоўных тыпаў хрысціянскага храма, прамавугольны ў плане будынак, падзелены знутры радамі калон ці слупоў на прадольныя часткі (нефы).







*Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр у Полацку*

У ім было не менш за 4 мураваныя саборы. Адзін з іх меў двухскатны дах, на грэбені якога была выстаўлена драўляная галава, што сведчыць пра выкарыстанне ў мураванай архітэктуры традыцыйнага драўлянага дойлідства (Культура Древней Руси. М., 1966. С. 137 – 199 ).

Значнай своеасаблівасцю адрозніваюцца манументальныя збудаванні Гродна. У старажытнарускі перыяд у горадзе было ўжо некалькі цагляных храмаў і грамадзянскіх збудаванняў. Найбольш яскравай рысай пабудоў Гродна была маляўнічасць афармлення фасадаў устаўкамі з каляровых шліфаваных валуноў. У XII ст. былі пабудаваны **Барысаглебская (Каложская) царква** на ўскраіне старажытнага Гродна, **Крапасныя вежы, Ніжняя царква** на тэрыторыі Гродзенскага дзядзінца, **царква ў Ваўкавыску,** якія стварылі яскравую і самабытную архітэктурную гродзенскую школу. Спалучэнне чырвонага фону



*Руіны Барысаглебскай царквы ў Бельчыцах каля Полацка*

9. Зак. 5560



*Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне (сучасны выгляд)*

цаглянай кладкі з умураванымі рознакаляровымі керамічнымі пліткамі і паліраванымі камянямі надавала архітэктурным ансамблям Гродна маляўнічасць і непаўторнасць.

На тэрыторыі Беларусі вядома яшчэ адно збудаванне – **царква ў Тураве,** архітэктурныя формы і будаўнічая тэхніка якой дазваляюць датаваць яе сярэдзінай або другой паловай XII ст. Рэшткі яе, выяўленыя пры раскопках на Тураўскім гарадзішчы, даюць падставу меркаваць, што гэта быў шасціслуповы трохапсідны[1] храм, які меў хоры. Царква была збудавана з плінфы спосабам раўнаслойнай муроўкі на растворы з дамешкай цамянкі (дробна тоўчанай цэглы).

У XIII ст. умовы для манументальнага будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі істотна змяніліся. У сувязі з драбленнем Полацкай зямлі на ўдзелы і палітычным аслабленнем самога Полацка тут практычна прыпыняецца манументальнае культавае будаўніцтва. Пачынаюць пераважаць абарончыя збудаванні, што звязана з узмацненнем ваеннай пагрозы з боку крыжакоў і татар. У апошняй чвэрці XIII ст. у Камянцы (каля Брэста) была ўзведзена 30-метровая вежа абарончага значэння – **Белая вежа,** якая захавалася да нашага часу. Круглая ў плане, яна мае 5 ярусаў з байніцамі на кожным з іх. Ёсць звесткі пра тое, што такія вежы былі ў Гродне, Тураве, Навагародку і, магчыма, у Полацку.

У заходніх землях Русі вышэйшага ўзроўню дасягнуў фрэскавы жывапіс, які атрымаў самастойнае развіццё, увабраўшы багатыя народныя традыцыі, лепшыя здабыткі візантыйскіх мастацкіх школ. Ён быў шырока выкарыстаны ў полацкіх Сафійскім і Спаскім саборах, у храмах Бельчыцкага манастыра, віцебскай Благавешчанскай і гродзенскай цэрквах. Яго сюжэты – фігуры святых, ілюстрацыі да евангельскіх і біблейскіх сказанняў.

Культура старажытных беларускіх зямель бярэ свой пачатак ад вуснай народнай творчасці: песень, былін, легенд, прымавак, казак, пла-

[1] *Апсіда* – выступ будынка, паўкруглы, гранёны ці прамавугольны ў плане, перакрыты паўкупалам ці самкнутым паўскляпеннем. У хрысціянскіх храмах апсіда – алтарны выступ.







*Белая вежа ў Камянцы*

*Малюнак Н Орды*

чаў-галашэнняў, загадак. Асобнае месца ў вуснай творчасці належыць былінам. Іх гістарычныя сюжэты часта ідуць ад рэальных падзей. Прававобразам быліннага героя Вольгі Святаславіча стаў полацкі князь Усяслаў.

У былінах пра Усяслава народ даў тлумачэнне падзеям 1068 г., звязаным з паўстаннем кіеўскіх нізоў, якія вызвалілі з нявол Усяслава і абвясцілі яго вялікім князем Русі. Былінная ацэнка Усяслава перагукаецца з той, якую яму дае аўтар “Слова пра паход Ігаравы”. Лёс гордай Рагнеды, дачкі полацкага князя Рагвалода, таксама стаў сюжэтам для шэрага паданняў, былін і г. д.

Новым этапам у старажытнарускай культуры стала з’яўленне **пісьменства.** З прыняццем хрысціянства Русь пазнаёмілася з культурнымі дасягненнямі развітых краін Еўропы і Усходу. Кніжная асвета заходніх зямель Русі ад самага пачатку мела хрысціянскую накіраванасць. Вакол царквы і манастыроў групаваліся тады адукаваныя людзі. Так было не толькі на Полаччыне, але і на Кіеўшчыне, у Заходняй Еўропе, Візантыі.

Сталыя зносіны з Візантыяй узбагачалі старажытнарускую культуру. З грэчаскай мовы запазычаліся некаторыя словы (напрыклад, “тетрадь”, “лампа”), рускім людзям даваліся грэчаскія імёны – Андрэй, Аляксандр, Георгій, Софія. На Русі перакладаліся грэчаскія кнігі на рускую мову. Былі сярод іх сачыненні пра стварэнне свету, біблейскіх герояў, аб рымскіх палкаводцах, жыцці святых і г. д.


*Кірыла Тураўскі*

Да сярэдзіны XI ст. на Русі разам з перакладнымі кнігамі з'яўляюцца і арыгінальныя творы, у тым ліку і першыя летапісы. У той час у Заходняй Еўропе гістарычныя хронікі, царкоўныя і іншыя кнігі пісаліся на незразумелай народу мове. На Русі кнігі адразу сталі пісаць на новай, гутарковай мове. Маюцца звесткі аб тым, што летапісы складаліся ў Полацку, Тураве, Навагародку.

Рэлігійнымі і культурна-асветніцкімі цэнтрамі на Русі былі манастыры. У іх (ці пры іх) існавалі школы, пісаліся і перапісваліся кнігі, групаваліся адукаваныя людзі. У некаторых гарадах пры саборах існавалі вялікія бібліятэкі. Летапісы паведамляюць аб такой бібліятэцы пры полацкім Сафійскім саборы. Вядома, што ўнучка полацкага князя Усяслава, Ефрасіння, перапісвала кнігі. Узорамі старажытных рукапісных кніг, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, з'яўляюцца: вядомае Тураўскае евангелле (XI ст.); Рэймскае евангелле (XI ст.), названае так па месцы знаходжання ў муніцыпальнай бібліятэцы г.Рэймса ў Германії; служэбнік Валаама Худынскага (канец XII – пачатак XIII ст.); Аршанскае евангелле (XIII ст.) і некаторыя іншыя. Асноўная частка старых рукапісных кніг загінула пры пажарах, была разрабавана ў перыяд міжусобных войнаў. Шмат помнікаў старажытнай культуры, у тым ліку кніг, было знішчана пазней езуітамі.

З прадстаўнікоў кніжнай асветы старажытнага перыяду нашай гісторыі трэба адзначыць: у Смаленску – Клімента Смаляціча, у Тураве – Кірылу Тураўскага, у Полацку – князёўну Прадславу-Ефрасінню.

**Клімент Смаляціч** жыў у першай палове XII ст. Як паведамляе летапіс, гэта быў кніжнік, раўні якому не было на ўсёй Русі. Жыў ён у манастыры, але больш быў вучоным, чым манахам. У яго келлі побач з кнігамі Святога Пісання можна было знайсці і кнігі айцоў царквы (так звалі багасловаў, якія сфармулявалі дагматыку, правілы богаслужэння, законы ўнутранага жыцця). З іх ён даведваўся пра антычных аўтараў: Гамера, Платона, Арыстоцеля. Паводле звестак, якія дайшлі да нас, Клімент быў вельмі працавітым аўтарам: ён напісаў шмат кніг, казанняў (пропаведзяў), пасланняў, тлумачэнняў. З усіх гэтых матэрыялаў да нашага часу дайшло толькі адно пасланне, напісанае





Клімента смаленскаму святару Фаме. Гэта пасланне мае вялікую каштоўнасць, таму што яно сведчыць пра накірунак думак Клімента і яго сучаснікаў. Мы бачым, што грамадства таго часу цікавілася навукова-рэлігійнымі пытаннямі Святога Пісання. Адны казалі, што разумець Біблію трэба так, як яна напісана, г. зн. літаральна, другія не задавальняліся такім тлумачэннем і даводзілі, што зразумець свяшчэнныя кнігі магчыма толькі з дапамогай свецкай навукі. Сам Клімент (з 1147 па 1154 г. з'яўляўся мітрапалітам кіеўскім), як гэта бачна па накірунку яго думкі, прытрымліваўся апошняга пункту гледжання.


*Ефрасіння Полацкая*

**Кірыла Тураўскі** – другі прадстаўнік асветы XII ст. – паходзіў з сям'і заможных гараджан. Вучылі яго грэкі. Потым ён стаў манахам-пустэльнікам. Калі вызвалілася епіскапская кафедра ў Тураве, яго абралі епіскапам. Праваслаўная царква прылучыла Кірылу Тураўскага да ліку святых. Гэта быў не столькі кабінетны вучоны, колькі выдатны царкоўны аратар. Імя яго сустракаем у агульных курсах рускай літаратуры старажытнага перыяду. Прамовы Кірылы ўяўляюць сабой узоры царкоўнага красамоўства таго часу. Яго казанні і павучанні створаны на асновах візантыйскай рыторыкі. Сучаснікі далі яму назву Златавуста (задоўга да Кірылы жыў выдатны царкоўны аратар, адзін з айцоў усходняй (праваслаўнай) царквы Іаан (каля 350 – 407), якога за красамоўства назвалі Златавустам).

**Прадслава-Ефрасіння**, князёўна полацкая, таксама жыла ў XII ст. Яна была ўнучкай полацкага князя-чарадзея Усяслава. Як апавядаюць паданні, яна сваёй прыгажосцю і розумам стаяла вышэй за ўсіх сваіх сучасніц. Жаніхі прасілі рукі князёўны, але яна адмаўлялася ісці замуж. Бацькі хацелі аддаць яе замуж прымусам. Дазнаўшыся пра гэта, яна цішком пакінула родную сям'ю і ўцякла ў жаночы манастыр, на чале якога стаяла яе цётка. Бацькі прасілі яе вярнуцца дадому. Прадслава ж засталася ў манастыры і праз некаторы час прыняла пострыг. Яшчэ ў доме бацькоў Прадслава любіла ў час адпачынку чытаць кнігі, што ў тыя часы было рэдкай з'явай у грамадстве. Прыняўшы манаства, яна стала працаваць над перапісваннем кніг. Вакол яе аб'ядноўваліся шматлікія паслядоўнікі

10. Зак. 5560

асветы і кніжнасці. Манастыр, у якім жыла і працавала Прадслава-Ефрасіння, паступова стаў буйным рэлігійным і культурным цэнтрам, адкуль кнігі разыходзіліся па ўсіх заходніх землях Русі. У сталым узросце Прадслава здзейсніла паломніцтва ў Палесціну і Іерусалім. Там яна і памерла ў 1173 г. Мошчы Ефрасінні Полацкай знаходзяцца цяпер у Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры, пабудаваным ёю (часткова захаваўся да нашых дзён).

Шырокае развіццё на беларускіх землях атрымала прыкладное мастацтва. Нават звычайныя прадметы з дрэва, косці, гліны, металу ўпрыгожваліся разьбой, інкрустацыяй. Своеасаблівая ў гэтым сэнсе прыгажосць керамікі XI – XIII стст. У ёй мы не знойдзем яскравасці маляўнічых спалучэнняў эмалі, пераліваў сонечнага спектра шкла. Яе прыгажосць выяўлялася ў строгасці і стрыманасці каляровых гучанняў, у шурпатасці, аксамітнасці груба зробленай фактуры.

Трохі іншы характар мелі прадметы, прызначаныя для феадальнай арыстакратыі, заможных гараджан. Яны часта ўпрыгожваліся выявамі фантастычных звяроў і птушак, выкананымі ў асаблівай манеры – "звярыным стылі". Любімымі сюжэтамі старажытнарускага прыкладнога мастацтва былі геральдычныя львы. Узорамі тонкай разьбы па каменю і косці з'яўляюцца шахматныя фігуркі, знойдзеныя ў Гродне і Ваўкавыску.

Пра высокае мастацкае майстэрства тагачасных умельцаў гавораць прадметы хрысціянскага культу. Сярод іх вылучаюцца найтанчэйшай мастацкай разьбой каменныя абразкі з шэрага шыферу, знойдзеныя ў час раскопак на гарадзішчы Мінска ў 1957 г. Адзін з гэтых абразкоў выяўляе ўшанаваных у старажытнасці святых у поўны рост з фігурай Хрыста ў верхняй частцы. Што да характарыстыкі выяўленых асоб, спосабу разьбы па каменю, выразу твараў, дык ва ўсіх выразна праяўляюцца асаблівасці народнага мастацтва з яго непасрэднай перадачай навакольнага свету. Твары і аблічча святых у многім нагадваюць нам беларускіх сялян. Каштоўнасць абразкоў абумоўлена тым, што ў дадзеным выпадку мы маем своеасаблівае зліццё майстэрства стварэння абразоў, запазычанага з Візантыі і паўднёваславянскіх краін, з прызвычаенасцю і вопытам апрацоўкі дрэва і каменя, якая спрадвеку існавала сярод народа і паходзіла ад перыяду першабытнага грамадства.

Для стварэння прадметаў хатняга побыту, зброі, прылад працы і ўпрыгажэнняў выкарыстоўваліся розныя металы: жалеза, бронза, медзь, срэбра, золата. Тэхніка іх апрацоўкі ў XI – XIII стст. дасягнула высокага ўзроўню. У беларускіх гарадах былі распаўсюджаны амаль усе вядомыя ў Еўропе тэхнічныя спосабы апрацоўкі металаў: плаўка, ліццё, коўка, залачэнне дроту, гравіраванне, упрыгожванне металічных вырабаў эмаллю, чарненнем.

Помнікі прыкладнога мастацтва нешматлікія. Але і тое невялікае, што захавалася да нашага часу, сведчыць пра высокі ўзровень гэтага віду мастацтва ў нашых продкаў. Мы маем на ўвазе найперш **крыж Ефрасінні Полацкай**, створаны мясцовым майстрам Лазарам Богшам у





1161 г. Крыж выконваў ролю каўчэга для захавання хрысціянскіх рэліквій. Яго асновай з'яўлялася кіпарысавае дрэва. Зверху і знізу дрэва закрывалі залатыя пласціны (усяго 21), аздобленыя каштоўнымі камянямі, арнаментальнымі кампазіцыямі і абразкамі, якія былі выкананы ў тэхніцы перагародкавай эмалі. Па майстэрстве выканання твор Лазара Богшы не саступаў лепшым візантыйскім узорам, выробленым у гэтай найтанчэйшай тэхніцы. Шасціканцовы крыж меў вышыню каля 52 см, пасярэдзіне ў 5 квадратных падпісаных гнёздах знаходзіліся рэліквіі. Яго бакі былі абкладзены срэбнымі з пазалотаю пласцінамі, выкананымі ў тэхніцы ціснення. Крыж быў абведзены шнурком перлаў.

Крыж Ефрасінні Полацкай з'яўляецца не толькі выдатным творам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, але і каштоўным помнікам старажытнабеларускага пісьменства. Зробленыя на крыжы надпісы ўмоўна падзяляюць на дзве часткі. У першай частцы паведамляецца аб годзе стварэння святыні, кошце матэрыялаў і працы, у другой жа запісаны праклён таму, хто знясе крыж са Спаскай царквы, якой падаравала яго Ефрасіння.

Няпросты лёс напаткаў крыж Ефрасінні Полацкай, шмат разоў змяняў ён уладальнікаў і месцазнаходжанне. Ужо на мяжы XII – XIII стст. яго вывезлі з Полацка смаленскія князі, у XVI ст. крыж ненадоўга трапіў у рукі маскоўскіх князёў, а затым захоўваўся ў Сафійскім саборы, які належаў уніятам. Пасля скасавання уніі ён быў вернуты ў Спаса-Ефрасіннеўскую царкву. З 1929 г. крыж знаходзіўся ў Магілёўскім краязнаўчым музеі. У гады Вялікай Айчыннай вайны крыж знік, і яго месцазнаходжанне невядома. У 90-я гады брэсцкім майстрам М.Кузьмічом была зроблена дакладная копія гэтага крыжа.

Такім чынам, багатая, яскравая і шматгранная культура Беларусі ў IX – XIII стст. стаяла ў шэрагу перадавых культур свайго часу, была часткай усходнеславянскай культуры. Яна заняла пануючае месца ў Вялікім княстве Літоўскім.

## ВЫВАДЫ

1. Этнічная гісторыя Беларусі бярэ пачатак з эпохі старажытнакаменнага веку, з часу засялення яе тэрыторыі чалавекам (40 тыс. гг. назад). Гэта пачатак даіндаеўрапейскага перыяду этнічнай гісторыі Беларусі. Вызначыць этнічную прыналежнасць насельніцтва, яго культуру, мову ў гэты час немагчыма.

2. Этнічны склад насельніцтва поўнасцю змяніўся ў эпоху ранняга металу. У III – II тысячагоддзі да н.э. на тэрыторыі Беларусі рассяліліся індаеўрапейскія плямёны. Змяшэнне гэтых плямён са старажытным неалітычным насельніцтвам прывяло да ўзнікнення новага этнасу – балтаў. Пачаўся новы, індаеўрапейскі перыяд этнічнай гісторыі Беларусі, яго балцкі этап.

3. Наступны, славянскі этап у этнічнай гісторыі Беларусі пачаўся ў раннім сярэднявеччы. Яго характэрная рыса – шырокае рассяленне

славян, асіміляцыя мясцовага даславянскага (балцкага) насельніцтва і фарміраванне першапачатковых усходнеславянскіх этнічных супольнасцей – дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў. Змяшэнне, зрошчванне гэтых і іншых славянскіх супольнасцей прывяло да ўзнікнення новай, агульнаўсходнеславянскай старажытнай этнічнай супольнасці з агульнай тэрыторыяй, якая атрымала назву "Русь".

4. З самага пачатку свайго фарміравання і існавання этнічная тэрыторыя "Русь" дзялілася на рэгіёны, якія не супадалі з ранейшымі этнічнымі тэрыторыямі першапачатковых усходнеславянскіх этнічных супольнасцей. Тэрыторыя сучаснай Беларусі паводле мясцовых асаблівасцей мовы і культуры ўваходзіла ў дзве дыялектна-этнаграфічныя зоны – папрыпяцкую і падзвінска-дняпроўскую. У выніку інтэнсіўных этнічных узаемадзеянняў паміж гэтымі зонамі, з аднаго боку, і ўзаемадзеянняў з асобнымі групамі неўсходнеславянскага насельніцтва, з другога, на шырокай тэрыторыі, размешчанай паміж Прыпяццю на поўдні і Заходняй Дзвіной на поўначы, Нёманам на захадзе і Дняпром на ўсходзе, сфарміравалася новая этнічная тэрыторыя, якая атрымала назву "Белая Русь".

5. Фарміраванне феадальных адносін прывяло да ўзнікнення ў IX ст. ва ўсходніх славян першай у іх гісторыі Старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве. Заходнія яе землі складалі тэрыторыю сучаснай Беларусі. Кіеўская Русь была раннефеадальнай манархіяй. Для беларускіх зямель гэта быў перыяд далейшага развіцця прадукцыйных сіл, умацавання раннефеадальных княстваў, асабліва Полацкага, пашырэння гандлю, развіцця культуры, узнікнення гарадоў.

6. Некаторыя беларускія гісторыкі адмаўляюць існаванне трывалай Старажытнарускай дзяржавы. Сцвярджаецца, што ў гэтай дзяржаве не было адзінства ўсходніх славян, агульнай пісьмовай мовы, культуры, агульных дасягненняў у гаспадарчай дзейнасці, горадабудаўніцтве, духоўным жыцці. Пры гэтым яны спасылаюцца на незалежнасць Полацкага княства ад Кіева. Кіеўская Русь – выдумка гісторыкаў.

З гэтым нельга пагадзіцца.

**Па-першае,** любое феадальнае княства, у тым ліку і Полацкае, з'яўлялася своеасаблівай дзяржавай, бо мела ўсе атрыбуты ўлады – заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Толькі на беларускай зямлі княстваў можна налічыць больш дзесяці, і кожнае з іх у пэўным сэнсе было незалежным. Міжкняжацкая барацьба з'яўлялася агульнай заканамернасцю развіцця дзяржаў Еўропы ранняга сярэднявечча. Аднак, нягледзячы на гэта, усе княствы Кіеўскай Русі, як унутры яе, так і яе суседзямі, успрымаліся як адзіная Русь. Насельніцтва гэтай Русі ў суседніх краінах называлі русамі, русінамі, русічамі, а самі русіны зваліся людзьмі рускай веры ці мясцовымі назвамі-этнонімамі – "кіяўлянін", "палачанін", "туравец", "пінянін", "наўгародзец" і г.д. Значыць, усходнеславянскае адзінства, адзіная дзяржава існавалі.

**Па-другое,** пасля ўвядзення хрысціянства ў X ст. у Кіеўскай Русі функцыяніравала адзіная праваслаўная вера, якая і сёння часткай беларусаў завецца як "руская".





**Па-трэцяе,** практычна адзінымі былі агульны тып горада, яго планіроўка, знешні і ўнутраны выгляд, лад жыцця. Адзінай для ўсіх княстваў была і старажытнаруская пісьмовая мова. Дастаткова параўнаць пісьмовыя помнікі Кіева, Полацка, Турава, Ноўгарада часоў Ефрасінні Полацкай, каб упэўніцца , што не існавала мовы крывічоў і дрыгавічоў, палачан і тураўцаў, а панавала адзіная старажытнаруская мова. А хіба тры храмы Сафіі ў Кіеве, Полацку і Ноўгарадзе не сведчаць пра гэтую акалічнасць? Пералік агульнасцей можна прадоўжыць.

7. Далейшае ўмацаванне сістэмы феадальных адносін, узнікненне магутных мясцовых феадальных цэнтраў, сепаратызм мясцовых феадалаў прывялі да заняпаду Кіеўскай Русі. У пачатку XII ст. яна распалася на мноства асобных княстваў і феадальных рэспублік.

8. Адмоўна паўплывала на далейшую гісторыю Беларусі нямецкая агрэсія. Полацкае княства было адсечана ад Балтыйскага мора. Важным фактарам у арганізацыі адпору нямецкім рыцарам было ўмацаванне сувязей Полацкай зямлі з балцка-літоўскімі, а таксама і з суседнімі рускімі землямі, і ў першую чаргу з Наўгародскай і Пскоўскай. Гэта было важнай умовай перамогі над нямецкімі агрэсарамі на Чудскім возеры ў 1242 г., што ў далейшым паспрыяла абароне беларускіх зямель ад крыжакоў. Нельга адмаўляць пагрозы татарскага нашэсця на беларускія землі. Але нельга яе і перабольшваць. Беларусь, за выключэннем яе крайніх паўднёвых мясцін, не ведала татара-мангольскага нашэсця.

9. Вялікае значэнне ў лёсе Старажытнай Русі, у тым ліку і яе заходніх зямель, мела прыняцце ў X ст. хрысціянства. Яно спрыяла ўмацаванню больш развітых грамадскіх адносін, чым першабытнаабшчынныя, дапамагала пераадолець перажыткі племянной адасобленасці, садзейнічала ўздыму культуры, пісьменнасці, умацаванню міжнародных сувязей.

10. Пры ўсёй агульнасці культуры Кіеўскай Русі (мова, вера і інш.) на тэрыторыі сучаснай Беларусі яна мела сваю спецыфіку, свае адметныя асаблівасці. Найбольш яскрава яны выявіліся ў культуры Полацкай зямлі, дзе ўжо ў пачатку XII ст. склаліся самабытныя школы дойлідства, жывапісу, пластыкі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія не маюць аналагаў у іншых землях Старажытнай Русі.

11. Старажытныя беларускія землі мелі цесныя эканамічныя і культурныя сувязі з Паўднёвай Руссю, Візантыяй, Арабскім Усходам, Прыбалтыкай, Скандынавіяй, а таксама з Захадам. Арыгінальнае спалучэнне мясцовых, візантыйскіх і раманскіх форм з'яўляецца адной з характэрных асаблівасцей культуры старажытных беларускіх зямель. Аднак засваенне сусветных мастацкіх стыляў не было механічным працэсам. Мясцовыя майстры творча пераасэнсоўвалі лепшыя дасягненні сусветнага мастацтва, стваралі спрыяльныя ўмовы для развіцця самабытных рыс, якія пазней, у перыяд фарміравання беларускай народнасці, выявіліся асабліва выразна. Багатая, яскравая і шматгранная культура Беларусі ў IX – XIII стст. стаяла ў шэрагу перадавых культур свайго часу.

11. Зак. 5560

## Літаратура

Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. док. и материалов: В 4 т. Мн., 1959. Т. 1.
Памятники русского права. М., 1952. Вып. 1,2.
Повести Древней Руси. Л., 1983.
Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2.
*Алексеев В.П., Першиц А.И.* История первобытного общества. М., 1990.
*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля в IX – XIII вв.: Очерки истории Северной Белоруссии. М., 1996.
*Арлоў У.А.* Еўфрасіння Полацкая. Мн., 1992.
*Артеменко И.И.* Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. М., 1993.
*Гамкрелидзе Т.В., Иванов В.В.* Древняя Передняя Азия и индоевропейская проблема // Вестник древней истории. 1980. № 3.
Гісторыя беларускага мастацтва: Ад старажытных часоў да другой паловы XVI ст. Мн., 1987. Т. 1.
Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968, Т. 1.
Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1.
*Греков Б.Д.* Киевская Русь. М., 1953.
*Гринблат М.Я.* Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968.
*Гуревич Ф.Д.* Древние города Белорусского Понемонья. Мн., 1982.
*Дучыц Л.У.* Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў. Мн., 1993.
*Ермаловіч М.І.* Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990.
*Загорульский Э.М.* Древний Минск. Мн., 1963.
*Загорульский Э.М.* Древняя история Белоруссии: Очерки этнической истории материальной культуры (до IX в.). Мн., 1977.
*Зверуго Я.Г.* Верхнее Понемонье в IX – X вв. Мн., 1989.
История Белорусской ССР. Мн., 1977.
История БССР: Учеб. пособ. для студ. вузов республики. Мн., 1981. Ч. 1.
*Калечиц Е.Г.* Первоначальное заселение территории Белоруссии. Мн., 1984.
*Карский Е.Ф.* Белорусы. Вильно, 1904. Т. 1.
*Кацер М.С.* К вопросу о развитии белорусского искусства периода феодализма. Мн., 1957.
Киев и западные земли Руси в IX – XIII вв. Мн., 1982.
*Ксензов В.П.* Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Мн., 1988.
*Ліс А.С.* Валачобныя песні. Мн., 1989.
*Лысенко П.Ф.* Города Туровской земли. Мн., 1974.
*Лысенко П.Ф.* Открытие Берестья. Мн., 1989.
*Митрофанов А.Г.* Железный век средней Белоруссии (VII – VI вв. до н. э – VIII в. н. э.). Мн., 1978.
Народно-прикладное искусство Белоруссии: От первобытного общества до 1917 г. Мн., 1972.
Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1994. Ч. 1.
*Оргиш В.П.* Древняя Русь: Образование Киевского государства и введение христианства. Мн., 1988.
*Поболь Л.Д.* Славянские древности Белоруссии. Мн., 1971.
*Пилипенко М.Ф.* Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мн., 1991.
*Поликарпович К.М.* Палеолит Верхнего Поднепровья. Мн., 1968.
*Рыбаков Б.А.* Киевская Русь и русские княжества XII – XIII вв. М., 1982.
*Сапунов А.* Полоцкий Софийский собор. Витебск, 1888.
*Седов В.В.* Восточные славяне в VI – XIII вв. М., 1982.
*Тарасаў К.* Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны. Мн., 1990.
*Третьяков П.Н.* Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Л., 1966.
*Чантурия Б.А.* Архитектурные памятники Белоруссии. Мн., 1982.
*Чаропка В.* Імя ў летапісе. Мн., 1994.
*Чарняўскі М.М.* Неаліт Беларускага Панямоння. Мн., 1979.
*Чарняўскі М.М.* Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі. Мн., 1981.
*Шадыро В.И.* Ранний железный век северной Белоруссии. Мн., 1985.
*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (IX – XIII вв.). Мн., 1978.

# РАЗДЗЕЛ II

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ І РОЛЯ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У ЯГО ПАЛІТЫЧНЫМ, САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫМ І КУЛЬТУРНЫМ РАЗВІЦЦІ

( другая палова XIII – першая палова XVI ст.)

## ГЛАВА 1

## УТВАРЭННЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА: РОЗНЫЯ ПАДЫХОДЫ І КАНЦЭПЦЫІ

### § 1. Перадумовы і працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага: розныя тэарэтычныя падыходы

Разгляд гісторыі Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) заканамерна пачаць з праблемы яго ўзнікнення. У гісторыі даследавання гэтага складанага пытання можна выдзеліць **тры розныя падыходы.**

Першы падыход прадстаўлены ў **традыцыйнай гістарыяграфіі,** у старой вучэбнай і навуковай літаратуры. Сутнасць яго ў тым, што

ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага падавалася выключна як вынік захопу літоўцамі заходнерускіх зямель і іх гвалтоўнага далучэння да Літоўскай дзяржавы. Фактар знешняй літоўскай агрэсіі ў гэтым працэсе абсалютызаваўся. Літва выступала ў якасці варожай дзяржавы, якая сілай зброі захапіла рускія землі.

Ролю аб'яднальнага цэнтра рускіх княстваў традыцыйная гістарыяграфія замацоўвала за Маскоўскім княствам, якое знаходзілася ў складзе Уладзімірскага. Тут была "сапраўдная" Русь, якая, памацнеўшы, уступіць у барацьбу з варожай Літвой за старажытную спадчыну.

Далучэнне дробных княстваў да маскоўскіх уладанняў заўсёды лічылася з'явай выключна прагрэсіўнай, своеасаблівай праявай гістарычнай заканамернасці, перавагі цэнтралізацыі над феадальнай раздробленасцю. Рост тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага звычайна даследчыкаў засмучаў, таму што тым самым аддалялася здзяйсненне Масквой яе гістарычнай місіі. Маскоўскія князі падаваліся "збіральнікамі", а літоўскія – чужынцамі-захопнікамі, спусташальнікамі Рускай зямлі.

Гэты падыход адлюстроўваў навуковы погляд, стан гістарычных крыніц і ведаў і быў агульнапрынятым. Таму шмат хто і сёння здзівіцца, калі дазнаецца, што для праваслаўных жыхароў Вялікага княства Літоўскага рускімі былі перш за ўсё яны самі і ўся Русь, паводле іх меркаванняў, аб'ядноўвалася менавіта ў Літоўска-Рускай дзяржаве. Аб гэтым сведчаць шматлікія помнікі і летапісы. Напрыклад, у "Летапісе Рачынскага" зазначана, што ў 1512 г. "князь велікіе московскіе Васілій, забывшi переміря і прісягі свое, до паньства Русского войско свое высылал і шкоды непрыятельскім обычаем чыніл" (гаворка ішла пра паход князя Васілія ў Вялікае княства Літоўскае, на Смаленск). Жыхароў паўночнага ўсходу, аб'яднаных вакол Масквы, прадстаўнікі рускіх зямель Вялікага княства Літоўскага называлі няйнакш як пскавічамі, маскавітамі, цверычамі, але не рускімі. Гэта, праўда, не перашкаджала ім памятаць аб былым адзінстве Русі.

Такое становішча тлумачыцца тым, што ў перыяд свайго росквіту Вялікае княства Літоўскае распасціралася ад Балтыі да Чорнага мора і ад межаў Польшчы і Венгрыі да Падмаскоўя. Яўнымі былі і рэальныя суадносіны ў ім літоўскага і славянскага элементаў. Уласна Літва займала ў ім усяго 1/12 краіны, 3/4 насельніцтва складала тая частка старажытнарускай народнасці, якая ўжо ў ВКЛ паступова трансфармавалася ў беларускую, рускую і ўкраінскую народнасці. Літоўцы з'яўляліся ў гэтай дзяржаве нацыянальнай меншасцю.

Такія суадносіны тэрытарыяльнага і этнічнага кампанентаў у Вялікім княстве Літоўскім далі падставу некаторым аўтарам для рэзкай ломкі традыцыйнай канцэпцыі. У процілегласць традыцыйнай, якую сёння часта называюць літоўскай, узнікла **зваротная канцэпцыя ўтварэння ВКЛ**, прапагандуемая ў творах М.Ермаловіча, якога падтрымліваюць некаторыя іншыя даследчыкі. Яна выступае супраць пераважнай ролі літоўскага кампанента ў працэсе заснавання Вялікага княства Літоўскага. Асноўная яе ідэя заключаецца ў тым, што не літоўская знаць захапіла рускія землі, як сцвярджалі літоўскія хрaністы, а, наадварот, заходнерускія княствы далучылі да сябе Літву і заснавалі ВКЛ. Гэта тэорыя была папулярнай сярод літаратурнай і мастацкай нацыянальнай інтэлігенцыі, некаторых палітыкаў з моманту атрымання Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці. Але большасць вучоных-спецыялістаў не згодны з ёй.

**Па-першае,** гэта канцэпцыя ў асноўным грунтуецца на летапісах. А яны не з'яўляюцца дакладнай гістарычнай крыніцай. Яны ўсе больш позняга паходжання, і адны і тыя ж падзеі трактуюцца імі паразнаму.

Праблемы ранняй гісторыі вырашаюцца не толькі па пісьмовых крыніцах. Больш дакладнымі з'яўляюцца археалагічныя, этнаграфічныя, лінгвістычныя даследаванні, асабліва калі яны ўсе даюць прыблізна аднолькавыя вынікі. Праблемай утварэння Вялікага княства Літоўскага займаліся і займаюцца не толькі даследчыкі розных спецыяльнасцей на Беларусі, але і ў Літве, і ў Польшчы, і ў Расіі. Даўно вырашана пытанне аб месцазнаходжанні старажытнай Літвы з дапамогай археалагічных даследаванняў, якія лёгка прасочваюць межы распаўсюджання балцкіх і славянскіх культур. Тэрыторыя Верхняга Панямоння, якую М.Ермаловіч лічыць месцам знаходжання летапіснай Літвы, была не балцкай, а славянскай. Літоўская галіна балтаў займала асноўную тэрыторыю сучаснай Літвы – правабярэжную частку Панямоння, выключаючы невялікі рэгіён ніжняга цячэння Нёмана, дзе жылі скалвы (Финно-угры и балты в эпоху средневековья / Под ред. докт. ист. наук В.В.Седова. М., 1987. С. 7 – 9, 381 – 382). Тапонім "Літва", вакол якога грунтуецца канцэпцыя аб знаходжанні старажытнай Літвы ў Верхнім Панямонні (паміж Мінскам і Навагародкам з усходу на захад і паміж Маладзечнам і Слонімам з поўначы на поўдзень), з'явіўся тут, калі Чорная Русь, ці Навагародчына, ужо ўвайшла ў Вялікае княства Літоўскае. Яны позняга паходжання.

**Па-другое,** канцэпцыя М.Ермаловіча аб захопе Літвы заходнерускімі княствамі ставіць шмат пытанняў. Чаму створаная славянамі дзяржава была названа Вялікім княствам Літоўскім, калі сама Літва займала ў ёй усяго 1/12 тэрыторыі? Чаму пры гэтым раскладзе не заходнерускія князі пашыралі свой інстытут намесніцтва, а літоўскія? Як растлумачыць тое, што рускія феадалы будуць весці доўгую барацьбу за аднолькавыя правы з феадаламі-літоўцамі, супраць каталіцкай экспансіі, якая зрабілася моцнай зброяй пашырэння літоўскага ўплыву? ( Больш падрабязна аб гэтай канцэпцыі ў § 2.)

Вучоныя-даследчыкі лічаць гэтыя процілеглыя канцэпцыі некалькі спрошчанымі. Гістарычны працэс больш складаны і шматмерны. Навуковы падыход патрабуе больш дэталёвага і глыбокага аналізу.





12. Зак. 5560

Для таго каб зразумець, як ішоў працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага, трэба пачаць з разгляду таго, што сабой уяўлялі заходнерускія і літоўскія землі ў XIII ст.

Для заходніх зямель Русі XII – XIII стст. былі перыядам феадальнай раздробленасці. Феадальная раздробленасць – заканамерная з'ява ў працэсе сцвярджэння феадальнага ладу. У гісторыі працэсы цэнтралізацыі і дэцэнтралізацыі мяняюць адзін аднаго. Тыя фактары, што прымусілі калісьці князёў аб'яднацца ў Старажытнарускую дзяржаву (знешняя небяспека і неабходнасць стварэння прававога рэгулявання ўзнікаючых феадальных адносін), выканалі сваю місію. Наступіў новы этап – паглыбленне і развіцця феадальных адносін. Умацаванне класа феадалаў дазволіла ажыццяўляць уладу над феадальна залежным насельніцтвам без дапамогі кіеўскага князя і яго дружыны. На месцах узніклі моцныя эканамічныя і палітычныя цэнтры, здольныя ўладарыць самастойна, што адпавядала патрабаванням часу. Аднак працэс феадальнага раздраблення не спыніўся на вылучэнні буйных самастойных цэнтраў, якімі былі Полацкае, Турава-Пінскае, Галіцка-Валынскае і іншыя княствы. Ён пайшоў далей. Княствы сталі драбіцца на ўдзелы. Толькі на Полацкай зямлі вылучаліся Мінскае, Віцебскае, Друцкае, Ізяслаўскае і Лагойскае княствы, якія таксама прэтэндавалі на пашырэнне свайго эканамічнага, палітычнага і тэрытарыяльнага ўплыву. Таму XII – XIII стст. прайшлі ў бесперапынных міжусобных войнах. Полацкія князі ваявалі адзін з адным, прымалі ўдзел у барацьбе паміж кіеўскімі і смаленскімі князямі. У выніку – страцілі шэраг гарадоў. Так, да Смаленскага княства адышлі Друцк і Орша.

Аднак, страціўшы некаторыя землі на ўсходзе, полацкія князі ўсё ж такі пашырылі свае ўладанні на паўночным захадзе за кошт суседніх прыбалтыйскіх зямель. У ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны яны заснавалі гарады-крэпасці Кукенойс і Герцыке. Плямёны ліваў, што жылі на ўзбярэжжы Рыжскага заліва, абавязаны былі плаціць полацкім князям даніну. Калі ў першай палове XIII ст. аўтарытэт Полацкага княства быў дастаткова высокім, то ў сярэдзіне XIII ст. становішча мяняецца. Знясіленае бясконцымі войнамі і міжусобіцамі, яно ўсё больш аслаблялася, што адразу ж выкарысталі знешнія ворагі.

**З XIII ст. заходнім і паўночна-заходнім землям Русі пачала пагражаць сур'ёзная небяспека – агрэсія нямецкіх феадалаў.** У XII ст. яны пачалі пранікаць у Прыбалтыку, плямёны якой не паспелі яшчэ стварыць сваю дзяржаўнасць. За каталіцкімі місіянерамі ішлі нямецкія рыцары. Пасля абарачэння мясцовага язычніцкага насельніцтва ў хрысціянскую веру яны сталі пашыраць сваё панаванне на ўсё большую тэрыторыю і стварылі ў Прыбалтыцы моцную феадальна-рэлігійную арганізацыю – ордэн мечаносцаў. Планамерны захоп Прыбалтыкі быў звязаны з імем епіскапа Альберта Буксгаўдэна, які пабудаваў у вусці Заходняй Дзвіны моцную крэпасць – Рыгу (1201). Невялікія, добра ўмацаваныя замкі, узведзеныя па ўсёй





Прыбалтыцы, сталі апорай іх улады. Поспеху рыцараў спрыялі германскі імператар і рымскі папа, а таксама кіраўнікі іншых краін феадальнай Еўропы. Захопленыя землі ордэн мечаносцаў назваў Лівоніяй.

Не толькі балцкім плямёнам, але і заходнерускім княствам даводзілася ўступаць у барацьбу з ордэнам. Прыбалтыка, праз якую праходзіў шлях па Заходняй Дзвіне ў Балтыйскае мора, з даўніх часоў цікавіла Полацкае княства. Не вытрымалі націску ордэна заснаваныя там Полацкам гарады Кукенойс і Герцыке і трапілі ў васальную залежнасць ад рыжскага епіскапа. Ордэн перахапіў у Полацка права кантролю і збору даніны з воднага шляху ў Балтыйскае мора. Нават перад пагрозай вялікай небяспекі полацкія князі не спынілі міжусобіц, не аб'ядналіся, каб даць адпор нямецкім рыцарам.

Яшчэ большая небяспека навісла над княствам, калі на пачатку XIII ст. у Прывіслінні быў заснаваны Тэўтонскі ордэн. У 1230 г. крыжакі пабудавалі каля Віслы невялікі замак і пачалі пашыраць свой уплыў на суседнія народы. Усе землі балцкага племені прусаў крыжакам падараваў германскі імператар. Іх засталося толькі захапіць. На працягу 50 гадоў барацьбы ордэн захапіў усе прускія землі. На іх узводзіліся мураваныя замкі крыжакоў, будаваліся гарады, вёскі, куды перасяляліся жыхары з Нямеччыны. Сталіцай дзяржавы стаў Марыенбург. Тэўтонскі ордэн марыў аб новых захопах на ўсходзе. Каб узмацніць уціск на літоўскія і славянскія землі, у 1237 г. ордэн мечаносцаў і Тэўтонскі ордэн аб'ядналіся пад назвай Лівонскага. Над заходнерускімі землямі навісла падвоеная небяспека. Доўгі час яны сумесна з літоўцамі стрымлівалі ваенны і дыпламатычны націск нямецкіх рыцараў. У 1242 г. Аляксандр Неўскі нанёс ім паражэнне на Чудскім возеры. Але ў другой палове XIII ст. аб'яднаным дружынам заходнерускіх зямель даводзілася стрымліваць націск крыжакоў на землі Літвы і Чорнай Русі. На пачатку XIV ст. у залежнасць ад рыжскага архіепіскапа часова трапіў Полацк. Крыжакі ўпарта спрабавалі захапіць Панямонне. Іхнія набегі на Гародню рабіліся ўсё больш частымі і спусташальнымі. Хаця сумеснымі намаганнямі літоўскіх і заходнерускіх княстваў і ўдалося адкінуць немцаў ад Літвы, перапыніць рух крыжакоў на Русь, упартая барацьба з ордэнам працягвалася і далей.

**Яшчэ адным фактарам аслаблення заходнерускіх зямель стала татара-мангольскае нашэсце.** У 30 – 40-я гады XIII ст. Русь перажыла самыя трагічныя падзеі ў сваёй гісторыі. Расколатая на княствы і ўдзелы, яна не здолела даць арганізаваны адпор бясконцым полчышчам татара-манголаў. Да 50-х гадоў XIII ст. была канчаткова ўстаноўлена ўлада татара-мангольскіх ханаў над Паўночна-Усходняй Руссю. Яны выношвалі планы захопу Еўропы. Але пасля некалькіх баёў у Польшчы, Чэхіі і Венгрыі вярнуліся на Русь і стварылі ў нізоўях Волгі сваю дзяржаву – Арду.

Заходнерускія землі, хаця і засталіся ў баку ад шляху татара-манголаў, працяглы час знаходзіліся пад пагрозай зняволення. Увес-

ну 1238 г. татара-манголы пагражалі з усходу. Але гераічная барацьба насельніцтва Смаленскага княства прыпыніла іх рух на захад. У 1242 г. яны зноў паспрабавалі ўзяць Смаленск, але былі адбіты. У канцы 1240 г. татара-манголы ўварваліся ў заходнія землі з поўдня. Моцна пацярпела Берасцейская зямля. У 1240 г. у часовую залежнасць ад Арды трапілі турава-пінскія князі. Узімку 1258 г. татара-манголы паспрабавалі зноў падпарадкаваць сабе заходнерускія і літоўскія землі. Гэта ім не ўдалося, але спусташэнне яны з сабой прынеслі. Паходы татара-манголаў, паводле летапісных звестак, працягваліся ў заходнерускія і літоўскія землі ў 1275, 1277, 1287, 1315, 1325, 1338 гг. Нягледзячы на моцную пагрозу з боку Арды, Заходняя Русь і Літва змаглі адстаяць сваю незалежнасць і не зведалі татара-мангольскага іга.

Такім чынам, на заходнерускія землі, што пазней склалі тэрыторыю Беларусі, у XIII ст. узмацніўся ўціск знешнепалітычнага фактару. Пагроза з захаду ад крыжакоў, з поўдня і ўсходу – ад татара-манголаў адрадзіла аб'яднальную тэндэнцыю ў гэтых землях. Першыя прыкметы кансалідацыі заўважаюцца ў летапісах ужо ў XIII ст. Так, у дакуменце "Слова Ізяслава" сказана: "Полоцеск и Віцьбеск одно есць", што сведчыць аб нейкай форме іх саюзу. На паўднёвым захадзе аб'яднальныя працэсы выявіліся ў дзейнасці Данілы Раманавіча Галіцкага і яго паслядоўнікаў, на паўночным ўсходзе – у палітыцы ўладзімірскага князя Андрэя Юр'евіча Вялікае Гняздо.

Тэндэнцыя да аб'яднання старажытнарускіх зямель стала ўсеагульнай. Але ж раней яна пачала дзейнічаць менавіта на заходніх землях. Гэта было абумоўлена шэрагам фактараў. Па-першае, адыграла сваю ролю размяшчэнне іх на значных гандлёвых шляхах, такіх як Днепр, Заходняя Дзвіна, Нёман, Заходні Буг, Прыпяць. Па-другое, гэтыя землі не былі пад мангола-татарскім ігам, як Усходняя і Паўднёвая Русь. Тут не было такога масавага знішчэння і рабавання гарадоў, яны раслі і развіваліся. А роля гарадоў у аб'яднальных працэсах заўсёды вялікая. Па-трэцяе, на заходнія землі Русі ў большай ступені ўплываў знешнепалітычны фактар (у выглядзе двайной пагрозы з боку крыжакоў і мангола-татараў). Крыніцы XIII ст. часта ўказваюць на ўзнікненне рознага роду саюзаў, як гандлёвых, так і ваенных, што прымае характар устойлівай з'явы.

Але самая важная прычына адраджэння аб'яднальнай тэндэнцыі на Русі – унутрыпалітычная. XIII ст. вучоныя характарызуюць як новы этап інтэнсіўнага развіцця феадальных адносін (у адрозненне ад папярэдняга перыяду генезісу гэтых адносін). Развіваюцца прадукцыйныя сілы, ідуць працэсы экстэнсіўнага і інтэнсіўнага развіцця земляробства, растуць гарады, пашыраюцца гандаль, рамёствы, узнікае тэрытарыяльная спецыялізацыя працы. Адчуваюцца змяненні ў інстытуце феадальнай уласнасці. У плынь феадальнай эксплуатацыі ўцягваюцца новыя катэгорыі вольнага (з ліку вольных абшчыннікаў) і несвабоднага (з ліку халопаў) насельніцтва. Расце сіла і моц баярства





за кошт князёў. Паказчыкам гэтага з'яўляецца ўзнікненне вечавога кіравання ў шэрагу гарадоў. У летапісе апавядаецца, што пасля смерці дзяцей Барыса Усяславіча (перш. пал. XII ст.) жыхары Полацка "почалі вечом справоватісь, как в Веліком Новгороде і во Пскове, государя над собою не імели". Маюцца звесткі і аб выгнанні полацкім вечам князёў з прастола, што сведчыць аб слабасці княжацкай улады.

Далейшае развіццё феадальных адносін непазбежна вяло да абвастрэння класавай барацьбы, якая прымала розныя формы: ад крадзяжу феадальнай уласнасці да падпалу маёнткаў феадалаў і забойстваў прадстаўнікоў феадальнай адміністрацыі. А класавая барацьба ў феадальным грамадстве заўсёды з'яўлялася фактарам аб'яднальных працэсаў. Феадалам спатрэбілася аб'яднаць сілы для ўзмацнення прававога рэгулявання феадальных адносін, уніфікацыі феадальнага прыгнёту, спынення ўцёкаў сялян ад аднаго феадала да другога, прымацавання іх да зямлі.

Такім чынам, сукупнасць унутраных і знешніх фактараў адрадзіла імкненне заходнерускіх княстваў да кансалідацыі. Але сімбіёз Паўночнай Русі з Ардой пад уладай хана і яго нукераў выключыў Рурыкавічаў, аслабленых як палітычная сіла, з ліку магчымых лідэраў гэтага руху. Некалькі даўжэй захоўвалі гэты шанс князі Галіцка-Валынскага княства. Яны, у прыватнасці Даніла Галіцкі, у 1254 г. прыняўшы ад папы каралеўскі тытул, спрабавалі змагацца з Ардой, але пацярпелі паражэнне і таксама вымушаны былі плаціць ёй даніну. Заходнія землі Русі, што не падпалі пад татара-мангольскае іга і мелі прагрэс у развіцці феадальных адносін, таксама не змаглі знайсці ў сваім асяроддзі палітычнага лідэра. Аб'яднальнай сілай заходнерускіх княстваў выступіла ўлада вялікіх князёў літоўскіх.

Каб разабрацца ў прычынах гэтай неардынарнай з'явы, трэба паглядзець, што ж сабой уяўлялі літоўскія землі ў дадзены перыяд і якія былі іх суадносіны з заходнерускімі княствамі.

Літва адставала ў сваім палітычным і эканамічным развіцці ад рускіх зямель. Старажытная Русь мела моцную дзяржаўнасць пачынаючы з IX ст. Насельніцтва літоўскіх зямель яшчэ ў XII ст. жыло родаплемянным ладам.

Літоўскае адгалінаванне балтаў займала ў раннім сярэднявечча асноўную тэрыторыю сучаснай Літвы – правабярэжную частку Панямоння (Финно-угры и балты в эпоху средневековья/Под ред. В.В.Седова. М., 1987. С.7 – 8). Сярод літоўскіх княстваў вылучаліся Літва, Жэмайты, Аўкштайты, Латгалы, Селы, Земгалы. Паступова яны сканцэнтраваліся ў дзве вялікія групы: Жэмайты – на захадзе, Літва – на ўсходзе. У XI – XII стст. у літоўцаў складваецца маёмасная дыферэнцыяцыя. Пачынаецца працэс станаўлення класавага грамадства. У XII – XIII стст. уся тэрыторыя літоўскіх плямён была падзелена на пастаянныя акругі, якія ўяўлялі сабой самастойныя грамадскія саюзы, заснаваныя на родным паходжанні. Паміж сабой іх звязвалі агульная мова, традыцыі, язычніцкая рэлігія.

У першай палове XIII ст. ствараецца цэнтралізаваная раннефеадальная Літоўская дзяржава з моцнай велікакняжацкай уладай. Яе ўзнікненне звязана з імем вядомага літоўскага князя Міндоўга, як сведчаць хронікі, сына буйнейшага феадала Літвы. Шляхам крывавай барацьбы яму ўдалося аб'яднаць большасць літоўскіх княстваў. Аднак па ўзроўню свайго культурнага і эканамічнага жыцця Літоўская дзяржава значна адставала ад Русі. Літоўцы ў большасці заставаліся земляробамі. У іх яшчэ не развілося гарадское жыццё з яго гандлем і рамёствамі. Але ў палітычным плане літоўскія землі набылі моцную дзяржаўнасць і мелі сур'ёзную перавагу перад раздробленымі землямі Русі.

Адносіны заходнерускіх княстваў са сваімі літоўскімі суседзямі былі даўнімі і складанымі. У XII – XIII стст. землі разрозненых літоўскіх плямён былі аб'ектам заваявання суседніх славянскіх князёў. У 1040 г. зрабіў паход на Літву Яраслаў Мудры, у ім прымаў удзел і полацкі князь Брачыслаў. У 1131 – 1132 гг. на Літву хадзіў кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч разам з Усеваладам Гародзенскім. У сярэдзіне XII ст. у літоўскія землі вадзіў свае дружыны адзін з полацкіх князёў – Уладзімір Глебавіч. У 1191 г. рыхтуецца сумеснае выступленне наўгародскіх і полацкіх князёў. На пачатку XIII ст. супраць Літвы выступалі полацкія, чарнігаўскія і смаленскія князі. Мэтай заходнерускіх князёў у гэтых паходах было замацаванне за сабой гандлёвага шляху на Захад. Літоўцаў часта выкарыстоўвалі рускія князі ў сваіх феадальных і палітычных сварках.

У сваю чаргу літоўцы (яшчэ да стварэння дзяржаўнасці ў XII – на пач. XIII ст.) і самі хадзілі на землі Заходняй Русі. Мэтай іх быў не захоп чужой тэрыторыі, а рабаванне, захоп палонных, жывёлы, што было адной з крыніц накаплення багаццяў новага класа феадалаў. Паводле даных Г.Лаўмянскага, літоўцы за перыяд з 1200 па 1268 г. нападалі на Русь 35 разоў. З'яўленне ў Прыбалтыцы крыжакоў падштурхнула літоўцаў і заходнерускія княствы адзін да аднаго. Крыніцы сведчаць аб многіх іх сумесных паходах супраць нямецкіх ордэнаў, што ўмацавала сувязі двух народаў. З працэсам фарміравання палітычнага адзінства Літвы, з барацьбой за ўмацаванне цэнтральнай улады і ўсталявання феадальнай манархіі цесна звязана імкненне да тэрытарыяльнага пашырэння. Суседнія заходнерускія землі сталі ахвярай сквапнасці літоўцаў.

Такім чынам, у XIII ст. складваюцца перадумовы ўзнікнення ў Еўропе новага дзяржаўнага ўтварэння – ВКЛ. Велізарную ролю ў працэсе аб'яднання літоўскіх і заходнерускіх зямель у адзіную дзяржаву адыграў фактар узаемнага імкнення. У Заходняй Русі, дзякуючы шматлікім вышэйназваным прычынам, усё больш акрэслівалася тэндэнцыя пераходу ад раздробленасці да кансалідацыі, але не было аб'яднальнага палітычнага ядра. Літоўцы, нягледзячы на тое, што знаходзіліся на больш нізкай ступені развіцця, у стадыі фарміравання дзяржавы, дапамаглі знайсці страчаны палітычны





*Вялікае княства Літоўскае ў XIII – першай палове XIV ст.*





*Вялікі князь літоўскі Міндоўг*

аб'яднальны цэнтр. Улада вялікіх князёў літоўскіх, якая ўмацавалася ў барацьбе за аб'яднанне літоўскіх зямель, стала своеасаблівым фундаментам у гэтым працэсе. Велізарную ролю ў аб'яднанні літоўскіх і заходнерускіх княстваў адыграў фактар знешняй небяспекі.

Працэс аб'яднання ў ВКЛ быў працяглы і складаны. Ён адбываўся больш за стагоддзе – з другой чвэрці XIII па трэцюю чвэрць XIV ст. Аб'яднанне праходзіла рознымі шляхамі, у тым ліку і шляхам захопу, але ён не быў галоўным. У аб'яднанні літоўскага і заходнерускага народаў у адзіную дзяржаву адыграў ролю ўзаемны палітычны інтарэс. Аблегчыла сітуацыю і адсутнасць у той час акрэсленай палітычнай мяжы паміж двума рэгіёнамі. Глыбокае ўзаемапранікненне абодвух этнічных элементаў зблiжала суседнія народы, асабліва ў эканамічных і культурных адносінах. Гэта пацверджана археалагічнымі, лінгвістычнымі і этнаграфічнымі матэрыяламі. Поспеху спрыяла і тое, што спачатку літоўскія князі давалі абяцанне "не рухаць старыны" і не "ўводзіць навіны" на заходнерускіх землях. Больш таго, яны актыўна запазычвалі эканамічны, палітычны, прававы, рэлігійны фундамент, пісьменнасць (якой самі не мелі) больш развітога народа. Уваходжанне ў склад Вялікага княства Літоўскага не ўспрымалася заходнерускімі княствамі як вынік літоўскай агрэсіі.

Якімі шляхамі праходзіла аб'яднанне літоўскіх і заходнерускіх зямель? Як адбываўся працэс стварэння Вялікага княства Літоўскага?

Шляхі, спосабы і акалічнасці далучэння асобных зямель да Вялікага княства Літоўскага былі розныя. У адных выпадках тэрыторыі далучаліся пры дапамозе ваеннай сілы, у другіх – шляхам дынастычных шлюбаў, у трэціх – на аснове пагадненняў паміж літоўскімі і рускімі князямі. Усё залежала ад узроўню развіцця, ступені палітычнай кансалідацыі той ці іншай зямлі. Адыгрывалі ролю знешнепалітычныя, геаграфічныя і часавыя фактары. Так паступова ішоў працэс уключэння заходнерускіх зямель у палітычнае жыццё Літоўскай дзяржавы, якая па меры свайго росту ператваралася ў Вялікае княства Літоўскае.





Ля вытокаў гэтага працэсу ставяць славутага літоўскага князя Міндоўга. У рыфмаванай ліфляндскай хроніцы гаворыцца, што яго бацька быў лепшым землеўладальнікам на Літве, і ніхто з ім не мог параўнацца. Усе ўладанні атрымаў у спадчыну Міндоўг ад бацькі, стаўшы на чале літоўскіх зямель. Такое становішча займаў Міндоўг ужо ў 1236 г. У гістарычных крыніцах трывала ўсталявалася паняцце "Літва Міндоўга". Валынскі летапіс 1236 г., апавядаючы аб нападзе літоўцаў на Мазовію, сведчыць: "Данилъ же возведе на Кондрате Литву Миндовга". Ліфляндская хроніка называе Міндоўга ў падзеях 1244 г. "магутным каралём літоўскім".

Першымі ў Вялікае княства Літоўскае трапляюць землі Верхняга Панямоння, Чорная Русь, ці Навагародчына, што ўваходзіла ў склад Галіцка-Валынскага княства. Міндоўг выкарыстаў спусташэнне, прынесенае мангола-татарамі Галіцка-Валынскаму княству, даволі лёгка пранік на тэрыторыю Панямоння і далей на поўдзень да самага Кіева. Залежнасць Чорнай Русі ад Літвы Міндоўга была ўстаноўлена не адразу. Спачатку паміж імі ўсталяваліся паважлівыя адносіны саюзнікаў. Летапіснае паведамленне падзей 1219 г. сведчыць аб заключэнні ваеннага саюзу Літвы і Навагародчыны, які быў абумоўлены пагрозай з боку крыжакоў. У 1237 г. былі паслаблены дзеянні крыжакоў на Валынскіх землях тым, што на іх была "возведеж Літва Меньдовга і Ізяслава Новагародскага", гэта азначае, што літоўскія войскі выступілі разам з дружынамі Чорнай Русі. У 1245 г. Літва Міндоўга таксама дапамагае валынскім князям па іх просьбе ў час бітвы пад Яраславам (Заходняя Галіччына): "Данило же и Василько послати в Литву помощи просяща и послана бысть от Миндовга помощь".

Аднак у хуткім часе падзеі ў Літве паўплывалі на змену гэтых адносін. У Літве ўзмацняліся цэнтралізатарскія тэндэнцыі. Міндоўг пачаў наступленне на правы і ўласнасць буйных феадалаў. Гэта абвастрыла палітычную барацьбу на літоўскіх землях. Перамену першымі адчулі родныя Міндоўга: пляменнікі – Таўцівіл, Едзівіл і іх дзядзька па матчынай лініі жмудскі князь Вікінт. Летапісы адлюстроўваюць гэтыя падзеі па-рознаму. У адных сказана, што Таўцівіл, Едзівіл і Вікінт былі Міндоўгам выгнаны з краіны за супраціўленне ягонай палітыцы; незлічоныя іх маёнткі і багацці былі захоплены Міндоўгам, які "вражбою за ворожство с ними Литву зане, поймана бе вся земля литовськая" (1248). Другія крыніцы тлумачаць гэтыя падзеі інакш. Нібыта Міндоўг прапанаваў сваім родным, буйнейшым феадалам Таўцівілу, Едзівілу, Вікінту, ісці "на Русь воевать ко Смоленску" з наказам: "што хто прыемлеть, собе дерьжить". Калі яны адправіліся ў паход, той прыбраў сабе іх землі і маёмасць. А ўжо з захопам іх Міндоўг зрабіўся поўным гаспадаром становішча ў Літве, і яму вымушаны былі падпарадкоўвацца больш дробныя князі.

Галіцка-валынскія князі, баючыся ўзмацнення адзінаўладдзя Міндоўга, уступаюць у кааліцыю з Таўцівілам, Едзівілам і Вікінтам.



*Вялікі князь літоўскі Войшалк*

Акрамя іх у кааліцыю ўваходзяць Яцвягія, частка Жэмайціі (былой зямлі выгнаных князёў), а таксама Рыга. У 1249 г. пачалася феадальная вайна, у час якой землі Чорнай Русі сталі арэнай баявых дзеянняў, аб'ектам сварак паміж літоўскімі і галіцка-валынскімі князямі. Зыход гэтай барацьбы, безумоўна, вырашыўся на карысць літоўскіх князёў, паколькі дакументы сведчаць, што свае сілы кааліцыя князёў сканцэнтравала для захопу чорна-рускіх гарадоў, а значыць, для іх адлучэння ад Літвы. У выніку працяглай вайны, што праходзіла з пераменным поспехам, Міндоўг умацаваўся на ўсёй зямлі Навагародскай. Навагародак стаў сталіцай Вялікага княства Літоўскага.

Язычніцкая Літва і праваслаўная Новагародчына мірна суіснавалі пад адной уладай, але заўважалася тэндэнцыя да славянізацыі кіруючай балцкай дынастыі. Не ўсе гісторыкі схільны давяраць паведамленню позняга (XIII ст.) Густынскага летапісу, згодна з якім у 1246 г. "Миндовг принять веру христианскую от Востока со многыми своими бояры". Але ж бясспрэчны факт хрышчэння ў праваслаўе аднаго з сыноў Міндоўга Войшалка, якому бацька перадае новагародскае княжанне. Першапачаткова Міндоўг падтрымліваў сына, разумеючы, што хрышчэнне ўмацоўвала яго пазіцыі на Русі. Аднак зварот Войшалка да праваслаўя быў не толькі кампрамісным крокам, але і шчырым імкненнем. Ён прыходзіць да думкі заснаваць манастыр і самому прыняць манаскі сан. Планы сына раззлавалі бацьку. Войшалку, якога называлі праваслаўным фанатыкам, супрацьстаяў чалавек, вылеплены з іншага цеста, як і ўсе стваральнікі раннефеадальных манархій: жорсткі, адважны, вераломны, не звязаны рэлігійнымі догмамі, ён глядзеў на рэлігію як на сродак палітыкі. Таму Міндоўг завязаў кантакты з Рымам і ў надзеі спыніць ціск ордэнаў прыняў каталіцтва і атрымаў ад папы каралеўскую карону. Каранацыя Міндоўга адбылася ў Новагародку каля 1252 ці 1253 г. Аднак, калі саюз з Рымам не апраўдаў разліку літоўскага караля, ён у 1261 г. адмовіўся ад хрысціянства, пасля чаго яго ўлада была прызнана язычніцкай Жмуддзю.





Тым часам Войшалк выдае сястру замуж за валынскага князя Шварна і "вдасть Новогородок от Миндовга и от себе и Вослоним и Волковыеск и все городы" брату Шварна – Раману Данілавічу, які стаў васалам Міндоўга, а сам прыняў манаства. Такім чынам, валынскім князям удалося аднавіць уладу над Новагародчынай, нейкі час ім шанцавала, але замацаваць гэтыя землі за сабой князі ўжо не змаглі. Пасля смерці Міндоўга ў 1263 г. у час паходу на Бранск у княстве пачалася дынастычная смута. Калі яна крыху заціхла, Войшалк сышоў з манастыра і з падтрымкай новагародцаў і пінянаў, а таксама сяброў свайго бацькі "нача княжити во всей земле Литовской и нача вороги свои убивати". Як бачым, існаванне Вялікага княства Літоўскага ў гэты перыяд адпавядае інтарэсам не толькі літоўцаў, але і праваслаўнага насельніцтва рускіх тэрыторый, што ўвайшлі ў яго склад. Вядома, што Войшалк рыхтаваў новае хрышчэнне Літвы на праваслаўным прыкладзе. Але яго планам не суджана было ажыццявіцца. У 1267 г. ён быў забіты. Са смерцю Войшалка з палітычнай арэны Вялікага княства Літоўскага сышоў чалавек, што мог пераадолець нацыянальна-рэлігійны дуалізм, уласцівы гэтай дзяржаве з моманту яе ўзнікнення.

Паступова Вялікае княства Літоўскае абрастала заходнерускімі землямі на ўсходзе і поўдні, пашыралася і за кошт Полацкай зямлі, якая бліжэй за іншых прымыкала да Літвы, была цесна звязана з ёй гістарычна і геаграфічна. На працягу XI – пачатку XII ст. полацкія князі шмат разоў наведваліся ў Літву ў пошуках здабычы, за князямі прабіралася мірнае насельніцтва ў пошуках прыдатных зямель і сенажацяў. З другой паловы XII ст. адносіны паміж Літвой і Полацкай зямлёй змяніліся. Апошняя, як і іншыя рускія землі, страціла палітычнае адзінства, распалася на княствы і ўдзелы пад кіраваннем нашчадкаў Ізяслава. Спадчыннае права на княжацкія прастолы тут амаль не дзейнічала. Яны заменьваліся або пры дапамозе сілы, або па дамоўленасці з насельніцтвам. Князі часта пераманьвалі на свой бок літоўцаў. Сябраваць з літоўцамі полацкіх князёў прымушала нямецкая пагроза. Сувязі з імі ўмацоўваліся шлюбамі. Так, князь Герцыке Усевалад, што падпарадкоўваўся Полацку, быў зяцем літоўскага князя Боўгерда.

Аднак з другой паловы XII ст. літоўцы сталі з'яўляцца на Полацкай зямлі як няпрошаныя госці. Полацкія князі, знясіленыя міжусобіцамі, ужо не маглі абараняцца. Вось чаму аўтар "Слова пра паход Ігаравы" трывожна глядзіць на будучыню палачан. "Двина, – чытаем у "Слове", – болотом течёт оным грозным полочанам под клінком поганых". Далей аўтар "Слова" звяртаецца да полацкіх князёў: "Ярославе и вси внуцы Всеслави! Уже понизите стязи свои, вонзите свои мечи вережени, уже бо выскочите из дедней славы". Ён скардзіўся: "Один только Изяслав Василькович позвонил было своими острыми мечами о шлемы литовские, но покинуты родными братьями, лежит под красными щитами на кровавой траве, изрублены ли-

товскими мечами, выронив жемчужную душу из храброго тела через золотое ожерелье".

Паводле сведчанняў сучаснікаў, у 20-я гады XIII ст. літоўцы шнырылі па Полацкай зямлі, як па ўласнай. Ужо на пачатку 50-х гадоў XIII ст. на прастолах Полацкага княства з'яўляюцца родныя Міндоўга: у Полацку – Таўцівіл, у Друцку – Едзівіл, у Віцебску – Вікінт. Пасля смерці Таўцівіла ў Полацку сядзелі таксама стаўленікі літоўскіх князёў: спачатку князь Канстанцін, пасаджаны сапернікам Таўцівіла Транятам, потым Ізяслаў, які лічыў сябе "в воли Мойшелгове" (Войшалка). У канцы 1263 г. абодва гэтыя князі саступілі сваё месца літоўскаму князю Гердэню. Паводле звестак Новагародскага летапісу, Гердэнь быў пасаджаны ў Полацку Літвой ("тогда Литва посадиша свой князь в Полотьске") у згодзе з полацкімі баярамі. З імі быў заключаны дагавор, адной з умоў якога было вызваленне захопленых полацкіх баяр. Гердэнь трымаўся ў Полацку да 1267 г. Потым нейкі час на полацкім і віцебскім прастолах сядзелі рускія князі (напэўна, скарысталі барацьбу за ўладу ў Літве пасля смерці Міндоўга). Аднак у канцы XIII ст. на полацкім прастоле зноў з'явіўся літоўскі князь, імя якога невядома. Вядома толькі, што ён прыняў каталіцтва і, не маючы нашчадкаў, завяшчаў княства Рыжскай архіепіскапії.

Адсутнасць князя ў Полацку спрыяла пранікненню ў горад нямецкіх рыцараў і каталіцкіх місіянераў, што навязвалі сваё веравызнанне. Абураныя палачане звярнуліся ў Літву за дапамогай. Вялікі князь літоўскі Віцень у 1307 г. выгнаў нямецкіх рыцараў з Полацка і заняў горад. А паміж 1307 і 1309 гг. Віцень, каб легалізаваць свае правы на Полацкае княства, выкупіў яго землі ў ордэна, аб чым сведчыць дакумент, падпісаны 19 чэрвеня 1310 г. у Авіньёне. Так Полацкая зямля канчаткова апынулася ў складзе ВКЛ.

Мінскае княства было часткай Полацкай зямлі. Абставіны і дакладны час яго падпарадкавання літоўскім князям вызначыць цяжка. Гэта адбылося недзе з другой паловы XIII да першай чвэрці XIV ст. У Новагародскім летапісе ўпамінаецца, што ў 1326 г. у ліку літоўскіх паслоў у Новагародку знаходзіўся і "великий Меньский князь" – васал Гедыміна.

Гісторыя Віцебскай зямлі цесна звязана з Полацкім княствам. У 50-х гадах XIII ст. на віцебскім прастоле сядзеў князь Ізяслаў, які залежаў ад Войшалка. З 1263 г. Віцебск, як і Полацк, быў падпарадкаваны літоўскаму князю Гердэню. Пасля забойства Гердэня ў 80-х гадах XIII ст. Віцебск залежаў ад Смаленска. На пачатку XIV ст. у Віцебску княжыў Яраслаў Васільевіч з роду смаленскіх князёў. У 1318 г. ён выдаў сваю дачку Марыю за літоўскага князя Альгерда Гедымінавіча, які праз два гады пасля смерці Яраслава стаў віцебскім князем. З гэтага часу Віцебскае княства засталося ў складзе ВКЛ.

На Смаленскай зямлі літоўцы эпізадычна з'яўляліся крыху раней, чым у Полацкай і Віцебскай землях. У Смаленску, паводле звестак Вас-





красенскага летапісу, ужо ў 1239 г. на прастоле сядзеў літоўскі князь. Аднак у хуткім часе ён быў выгнаны ўладзіміра-суздальскім князем Яраславам Усеваладавічам. Наступная спроба пранікнуць на Смаленскую зямлю і замацавацца на ёй была зроблена літоўскімі князямі каля 1248 г., калі Міндоўг накіраваў Таўцівіла, Едзівіла і Вікінта "на Русь воевать ко Смоленску". Літоўскія князі былі разбіты аб'яднанымі сіламі суздальскіх, цвярскіх, маскоўскіх і іншых князёў. Іх маёнткі ў Літве захапіў Міндоўг. Канчаткова Смаленская зямля была далучана да Вялікага княства ўжо пры Вітаўце. У выніку аблогі Смаленска княжацкімі войскамі, як сведчыць летапіс, гараджане, "не могущи терпети во граде голоду", вымушаны былі здацца.



*Вялікі князь літоўскі Гедымін*

У пачатку XIV ст. да Вялікага княства Літоўскага было далучана і Турава-Пінскае Палессе, г. зн. басейн Прыпяці. Турава-Пінскія землі не вызначаліся асаблівай сілай. Іх дробныя і слабыя княствы на чале з нашчадкамі роду Святаполка Ізяславіча (унука Яраслава) падпарадкоўваліся галіцка-валынскім князям – Данілу Раманавічу і яго брату Васільку. Паводле звестак летапісу, турава-пінскія князі, "маючы лесть к Даніілу і Васільку", тым не менш часта схіляліся на бок свайго магутнага суседа – вялікага князя літоўскага Міндоўга, што замацаваўся на Чорнай Русі. Хістанне Палесся ў рэшце рэшт скончылася яго далучэннем да Літвы. Пры якіх абставінах гэта адбылося, дакладна невядома. Аднак, паводле летапісных звестак, Гедымін (час княжання 1316 – 1341) яшчэ пры жыцці пасадзіў у Пінску, сталіцы Турава-Пінскай зямлі, свайго сына Нарымунта-Глеба. У іншых гарадах яшчэ нейкі час сустракаліся рускія князі, але вядома, што яны ўжо знаходзіліся пад вярхоўнай уладай вялікага князя літоўскага. З умацаваннем у Пінску Нарымунта паступова амаль усё Палессе перайшло пад уладу Літвы.

Асаблівых поспехаў аб'яднальны працэс дасягнуў пры вялікім князі Гедыміне, які, як сцвярджаюць крыніцы, быў умелым палітыкам і здолеў заваяваць давер нанова далучаных зямель "разумным кіраваннем". Ён нават аддаваў перавагу ў кіраўніцтве дзяржавай рускаму пачатку. Гэта тлумачыцца як колькаснай і тэрытарыяльнай

перавагай рускага насельніцтва ў адносінах да літоўскага, так і больш высокім эканамічным, палітычным і культурным узроўнем развіцця іх зямель. Літоўскія князі вымушаны былі лічыцца з гэтым. Таму абяцалі "не рухаць старыны" і не "ўводзіць навіны" на гэтых землях. Язычніцкая Літва памяркоўна адносілася да хрысціянскай рэлігіі і славянскага насельніцтва. Шмат хто з літоўскіх князёў прыняў праваслаўе. Гедымін жа, хоць сам і заставаўся язычнікам, меў рускіх праваслаўных жонак (Вольгу і Еву) і дзецям сваім наладжваў хрысціянскія шлюбы, не пярэчыў прымаць хрышчэнне. Вялікае значэнне ў сваёй палітыцы ён надаваў пашырэнню роднасных сувязей са славянскім насельніцтвам. Аднаго са сваіх сыноў, Альгерда, Гедымін ажаніў на Марыі Яраслаўне, дачцэ віцебскага князя, у якога не было мужчын-нашчадкаў. Таму пасля яго смерці, у 1320 г., Альгерд атрымаў у спадчыну Віцебскі надзел. Другога сына, Любарта, ён ажаніў на дачцэ апошняга валынскага князя Льва Юр'евіча, пасля смерці якога Валынь дасталася Любарту (1325). Дачок сваіх ён павыдаваў замуж так: Аўгусту – за сына маскоўскага князя Івана Каліты; Марыю – за яго саперніка, цвярскога князя Дзмітрыя Міхайлавіча; Альдону – за Казіміра, сына польскага караля Уладзіслава Лакеткі; чацвёртую дачку – за мазавецкага князя Балястава Трайдэнавіча.

Поспеху аб'яднання спрыяла і тое, што ў першыя часы розныя пласты насельніцтва далучаных зямель практычна не прыніжаліся ў правах. З імі заключаліся дагаворы, што ахоўвалі іх правы і прывілеі на гарантаванне цэласнасці тэрыторыі і манапольнае права мясцовых феадалаў на свае землі. Напачатку літоўскія князі не праводзілі ломкі форм уласнасці, не рабілі яе значнага пераразмеркавання на карысць літоўскіх князёў, не змянялі спосабаў прыгнёту сялян. Больш таго, літоўская вялікакняжацкая дынастыя шмат чаго запазычвала ў славянскага насельніцтва.

Так, Гедымінам была перанесена на ўсё Вялікае княства Літоўскае старaруская мадэль дзяржаўнага кіравання. У княствах Віленскім і Трокскім, спрадвеку літоўскіх, з'явіліся гараднічыя, цівуны, ключнікі, баяры, смерды. Рускі ўплыў адлюстраваўся і на характары вайсковай справы. Неўпарадкаваныя літоўскія апалчэнні змяняліся стройнымі шматлікімі палкамі (шыхтамі), якія маглі пераносіць працяглыя паходы і былі добра ўзброены, у тым ліку і сценабітнымі машынамі. З-за перавагі славянскага насельніцтва з дастаткова высокім на той час узроўнем пісьменнасці старабеларуская мова стала мовай дзяржаўных дакументаў. Яна распаўсюдзілася ў асяроддзі літоўскіх феадалаў, якія паступова авалодвалі культурай славян. Некаторыя літоўскія князі ўмелі гаварыць толькі на дзяржаўнай мове, як, напрыклад, Ягайла, унук Гедыміна. Але простыя літоўцы гэтай мовы не ведалі. Дзяржаўныя дакументы пісаліся на старабеларускай мове з адной простай прычыны: літоўцы не мелі сваёй уласнай пісьменнасці.

Усе адзначаныя фактары аблегчылі мірнае аб'яднанне літоўскіх і рускіх зямель. Роля зброі ў гэтым працэсе мела другаснае значэнне. Распаўсюджанне ўлады літоўскіх князёў на землі Заходняй Русі не знаходзіла энергічнага адпору і не ўспрымалася як агрэсія. Часам цяжка разабрацца, які ж фактар стаў вырашальным у далучэнні той ці іншай тэрыторыі да ВКЛ: моц літоўскай зброі ці добраахвотнае падпарадкаванне. Таму аб'яднанне заходнерускіх зямель вакол Літвы было па сутнасці аднаўленнем разбуранага палітычнага адзінства кіеўскіх часоў, знаходжаннем страчанага палітычнага засяроджання. Розніца была толькі ў тым, што засяроджанне гэта перамясцілася ў выніку гістарычных абставін з Кіева ў Навагародак, потым у Вільню, куды Гедымін перанёс сваю сталіцу. Імкненне літоўскіх князёў пашыраць свае ўладанні аб'ектыўна адпавядала рэальнаму імкненню ўсходнеславянскіх зямель да аб'яднання. Таму ў гэтым рэгіёне літоўскія князі ўзялі на сябе функцыю, якая ў іншых частках Русі выконвалася тутэйшымі Рурыкавічамі. На працягу XIII – XIV стст. утварылася Вялікае княства Літоўскае – феадальная дзяржава ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.







*Палац вялікіх князёў літоўскіх і Вышні замак у Вільні*

## § 2. Канцэпцыя ўтварэння Вялікага княства Літоўскага ў кнізе М.І.Ермаловіча “Па слядах аднаго міфа”

Адзін з тэзісаў традыцыйнай (літоўскай) канцэпцыі ўтварэння ВКЛ аб заваяванні беларускіх зямель Літвой гісторык М.І.Ермаловіч лічыць міфам. Ён у 1966 – 1968 гг. напісаў на гэту тэму кнігу “Па слядах аднаго міфа”, якая з-за кансерватызму часткі гісторыкаў і партыйна-дзяржаўных дзеячаў не выдавалася больш за 20 гадоў. Упершыню кніга выдадзена выдавецтвам “Навука і тэхніка” ў 1989 г. У ёй найбольш поўна выкладзена ўмоўна названая намі новая (беларуская) канцэпцыя ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Яе таксама называюць левай, рамантычнай і нават міфалагізатарскай канцэпцыяй.

**Асноўнымі тэзісамі новай (беларускай) канцэпцыі ўтварэння ВКЛ з’яўляюцца наступныя:**

1. Ніводная гістарычная крыніца не пацвярджае літоўскага заваявання Чорнай Русі і іншых беларускіх зямель, што нібыта і паклала пачатак утварэнню Вялікага княства Літоўскага. Такое сцвярджэнне ўзнікла ў сярэдзіне XVI ст., каб ідэалагічна абгрунтаваць правa Вялікага княства Літоўскага на беларускія землі, значная частка якіх тады часова была занята войскамі Івана Грознага. Гэта версія праз “Хроніку” М.Стрыйкоўскага перайшла ў многія кнігі па гісторыі, пазней была некрытычна прынята шмат якімі даследчыкамі і, стаўшы традыцыйнай, доўгі час не пераглядалася.

2. Значнай перашкодай для аб’ектыўнага асвятлення працэсу ўтварэння Вялікага княства Літоўскага з’яўляецца атаясамліванне летапіснай Літвы (XI – XIII стст.) з усходняй часткай сучаснай Літвы (тагачаснай Аўкштайціяй): Літва – гэта Аўкштайція. Аднак гістарычныя сведчанні і тапаніміка паказваюць, што пад уласна Літвой у XI – XIII стст. разумелася тэрыторыя Верхняга Панямоння, якая знаходзілася паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Новагародскай землямі і якая побач з імі з’яўлялася адной з гістарычных абласцей Беларусі. Менавіта яна і была далучана да Новагародка спачатку ў 50-х гадах XIII ст. літоўскім перабежчыкам Міндоўгам, а пасля, у 60-х гадах, канчаткова яго сынам Войшалкам. Адсюль, з Беларускага Панямоння, дзе знаходзілася летапісная Літва, і пайшла назва новай дзяржавы як Літоўскай.

3. Тое, што ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага суправаджалася заваяваннем балцка-літоўскіх зямель (Літвы, Нальшчанаў, Дзяволтвы), знішчэннем і выгнаннем іх феадалаў, адхіляе пашыранае ў навуцы сцвярджэнне, што ўзнікненне гэтай дзяржавы дыктавалася інтарэсамі літоўскіх феадалаў. Паколькі ўтварэнне ВКЛ было найперш вынікам эканамічнага, палітычнага і культурна-этнічнага збліжэння і аб’яднання беларускіх зямель, то дадзены гістарычны працэс адпавядаў інтарэсам беларускіх феадалаў, што і характарызуе гэту дзяржаву найперш як беларускую. Таму становіцца зразумелым, чаму ў Вялікім княстве Літоўскім пануючае месца заняла беларуская культура і дзяржаўнай стала беларуская мова (*Ермаловіч М.І.* Па слядах аднаго міфа. С.83 – 84).





У новай (беларускай) канцэпцыі, **па-першае**, літоўцаў альбо не заўважаюць, альбо памяншаюць іх ролю ва ўтварэнні ВКЛ: былі заваяваны, далучаны да Новагародка. Іншы раз дапускаецца, што літоўцы былі асіміляваны, абеларушаны. **Па-другое**, дзяржаўнасць не разглядаецца як палітычнае ўтварэнне, сукупнасць палітычных інстытутаў, а зводзіцца да тэрыторыі, мовы, этнічных прыкмет: дзяржаўнасць беларуская таму, што большасць насельніцтва складаў беларускі этнас, панавала беларуская культура, а жыхары карысталіся беларускай мовай. На самой справе, дзяржаўнасць – гэта не тэрыторыя, не мова і культура, не этнас, а механізм, машына, якая рэгулюе палітычныя, сацыяльна-эканамічныя, культурныя і міждзяржаўныя адносіны. Гэтага некаторыя гісторыкі стараюцца не заўважаць.

Старажытная Літва – вялікая загадка гісторыі. Яе імкнуліся разгадаць, але і сёння тут пытанняў больш, чым адказаў. У пісьмовых крыніцах ужо ў XI ст. на тэрыторыі Беларусі адзначаецца тапонім “Літва”. У час паходаў 1040 і 1044 гг. кіеўскі князь Яраслаў Мудры “разбіў Літву на палях слонімскіх і завалодаў ёй да Нёмана”.

Першакрыніцы аб падзеях XII – XIII стст. таксама сведчаць аб тым, што старажытная Літва знаходзілася на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Іпацьеўскі летапіс пад 1159 г. паведамляе пра тое, што мінскі князь Валадар Глебавіч “ходяше под Литвою в лесех”, а пад 1162 г., што ён жа выступіў на свайго праціўніка “с Литьвою”. Запіс Іпацьеўскага летапісу пад 1262 г. сведчыць аб тым, што князь Войшалк “учини собе манастырь на реце на Немне, межи Литвою и Новым городком”. Вядома, што Войшалк заснаваў манастыр там, дзе цяпер знаходзіцца в. Лаўрышава (на паўночны ўсход ад Навагрудка, у кірунку Мінска). Значыць, Літва знаходзілася паміж Новагародскім – на захадзе і Мінскім – на ўсходзе княствамі.

На поўдні старажытная Літва мяжавала з Турава-Пінскай зямлёй. У летапісных звестках пра Новагародак 50 – 70-х гадоў XIII ст. гаворыцца аб пранікненні галіцка-валынскіх князёў з Літвы ў гэты горад. Так, Іпацьеўскі летапіс пад 1253 г. пацвердзіў, як галіцка-валынскія князі, ідучы праз Мінск на Новагародак, сустрэлі на сваім шляху Літву, якая ворагаў “гнаше через болото до реки Щарье” (левы прыток Нёмана – Шчара). Нарэшце, супраціўленне Літвы было зломлена, зямля Новагародская заваявана. На поўначы летапісная Літва мяжавала з Полацкім княствам па Бярэзіне (прыток Нёмана).

На думку некаторых навукоўцаў XIX ст., старажытная Літва знаходзілася ў міжрэччы Віліі і Нёмана, дзесьці ў раёне Вільні, Трокаў, Ліды, Гродна. Іншыя даследчыкі лічылі, што Літва займала значна большую тэрыторыю – ад Браслава да Мінска, ад Брэста да Жэмайціі, уключаючы ўсю Аўкштайцію. Рускія даследчыкі, якія вывучалі Паўночна-Заходні край, лічылі, што Літва XI – XIII стст.

знаходзілася на захадзе ад Мінска; жыхароў гэтай гістарычнай вобласці сучаснай Беларусі называлі ліцвінамі. Напрыклад, рускі гісторык М.Надзеждзін пісаў: «Уласна ў "Літве" ёй (літоўскай мовай.–*Я.Н.*) гавораць ужо вельмі нямногія, і менавіта: адно паселішча ў павеце Вілейскім, некалькі сёл у паветах Навагрудскім і Слонімскім» (*Надеждин Н.П.* Северо-Западный край империи // Журн. М-ва внутренних дел. 1843. №2. С.219).

Як бачна, М.Ермаловіч не з'яўляецца першым гісторыкам, які летапісную Літву шукаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Заслуга Ермаловіча ў тым, што ён на аснове першакрыніц удакладніў межы старажытнай Літвы, якая, на яго думку, займала тэрыторыю ад Маладзечна да Заслаўя і Дзяржынска (усходняя мяжа Літвы праходзіла прыблізна ў 30 км ад Мінска), далей да сучасных Баранавіч, Ляхавіч і Слоніма. Заходняя мяжа старажытнай Літвы праходзіла прыкладна ў 20 км ад Навагародка, дзесьці ў раёне Карэліч. Па нёманскай Бярэзіне праходзіла мяжа паміж Літвой і Полацкім княствам.

Што датычыць усходняй часткі сучаснай Літвы, то ў XI–XIII стст. яна называлася Аўкштайціяй. Пазней у сувязі з перанясеннем сталіцы дзяржавы з Навагародка ў Вільню (каля 1323 – 1326) назва "Літва" з Верхняга Панямоння паступова пачала пераходзіць на ўсход сучаснай Літвы і замацоўвацца там. Але адначасова яна працягвала захоўвацца і на ранейшым месцы яшчэ цэлыя стагоддзі. М.Ермаловіч у кнізе "Па слядах аднаго міфа" (с.28 – 29) прыводзіць доказы гэтага. У Магілёўскай хроніцы пад 1695 г. гаворыцца, што літоўскае пагранічча праходзіла недалёка ад Мінска і Слуцка. Дзекабрыст А.Бястужаў, які жыў у 1821 г. на тэрыторыі сучаснага Валожынскага раёна, пецярбургскім знаёмым паведаміў такі свой адрас: "Литва, д.Выганичи, в 40 верстах от Минска". А.Міцкевіч (1798 – 1855), які нарадзіўся каля Навагрудка, сваю айчыну называў Літвой ("Litwo! Ojczyzno moja!"). Беларускі пісьменнік В.Дунін-Марцінкевіч (1807 – 1884) лічыў, што ён вырас сярод ліцвінаў. Гэтак жа ўраджэнец Гродзеншчыны К.Каліноўскі, рэвалюцыйная дзейнасць якога прыпадае на 60-я гады XIX ст. і які заўсёды звяртаўся да свайго народа на беларускай мове, як правіла, называў родны край Літвой.

Прыкладна з XVI ст. тэрмінам "Літва" пачынае абазначацца ўся тэрыторыя сучаснай Літвы (былыя Аўкштайція і Жэмайція), упершыню сустракаюцца ўпамінанні аб літоўскай мове, літоўскім праве ў сённяшнім разуменні належнасці да Літвы. Магнаты Гедройцы, напрыклад, гаварылі аб тым, што яны літоўцы, а не русіны. Польскі гісторык Я.Длугаш адзначаў, што літовец – гэта жэмайцец. І толькі на пачатку XX ст., калі завяршыўся працэс утварэння беларускай нацыі, назва "Беларусь" замацавалася за Беларускім Панямоннем, выцесніўшы адтуль назву "Літва", якая з таго часу стала адносіцца толькі да сучаснай Літвы.

Гісторыкі не толькі сфармулявалі новую (беларускую) канцэпцыю утварэння ВКЛ, удакладнілі межы старажытнай Літвы, але і,





абапіраючыся на летапісы і іншыя крыніцы, выкарысталі аргументы і факты для абароны распрацаванай імі канцэпцыі.

**Якія ж гэта аргументы і факты?**

**Па-першае,** прыхільнікі новай (беларускай) канцэпцыі лічаць, што ніякага аслаблення беларускіх зямель у XII – пачатку XIII ст. не існавала, міжусобнай барацьбы таксама не было. Летапісы і іншыя крыніцы не зарэгістравалі такіх фактаў. Больш таго, крыжацкая навала яднала беларускія княствы. У канцы XII ст. крыжакам удалося захапіць Ніжняе Падзвінне – Кукенойс і Герцыке – і тым самым адрэзаць Полацкае княства ад Балтыйскага мора. Сіл супрацьстаяць крыжакам у палачан не хапіла, не дапамаглі ім наўгародцы і пскавічы. Гэта аслабіла Полацкае княства. Цэнтр грамадска-палітычнага жыцця пачаў паступова перамяшчацца з Падзвіння (Полацкага княства) у Панямонне (Навагародскае княства).

**Па-другое,** Літва, перш чым прыступіць да заваявання зямель заходнерусаў, рабіла паходы супраць Наўгародчыны, Пскоўшчыны, Смаленшчыны, багацела, умацоўвалася. Паходаў было шмат, гэта адзначаюць летапісы. Усе паходы, акрамя двух, закончыліся няўдачай для літоўцаў. Аб гэтым нічога не гаварылася ў дарэвалюцыйнай і савецкай гістарыяграфіі. Чаму? Таму што літоўцы быццам мелі больш дасканалую ваенную арганізацыю, чым заходнерусы; яны апошніх заваёўвалі, і ні ў якім разе не наадварот.

**Па-трэцяе,** М.Ермаловіч лічыць, што галоўным пытаннем, якое паставіла ўсё з ног на галаву, было атаясамленне сучаснай Літвы са старажытнай Літвой. Апошняя была гістарычнай вобласцю Беларусі, яе трэба шукаць побач з Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай землямі. Старажытная Літва пакінула на тэрыторыі Беларусі "аўтографы" ў выглядзе назваў вёсак "Літва" ў Слонімскім (Гродзенская вобл.), Ляхавіцкім (Брэсцкая вобл.), Уздзенскім, Стаўбцоўскім, Маладзечанскім (Мінская вобл.) раёнах. Гэтыя назвы (тапонім "Літва") супадаюць з летапіснымі.

**Як жа, на думку М.Ермаловіча, ішоў працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага?**

Пачатак утварэння ВКЛ як у літоўскай, так і беларускай гістарыяграфіі звязваецца з дзейнасцю літоўскага князя Міндоўга. Першы раз яго імя ўпамінаецца ў дагаворы 1219 г., дзе ён разам з іншымі балцка-літоўскімі князямі абавязаўся перад галіцка-валынскімі князямі выступіць супраць палякаў. У 1237 і 1245 гг. Міндоўг выступаў на баку Данілы Галіцкага супраць Конрада Мазавецкага і чарнігаўскага князя Расціслава. Дзесьці ў прамежку 1245 – 1246 гг. Міндоўг быў запрошаны куронамі для дапамогі ім у змаганні з немцамі. Аднак пад крэпасцю Амботэн ён пацярпеў страшэннае паражэнне і вымушаны быў адступіць. Крыжакі напалі на яго ўладанні і хаця не ўзялі яго ўмацаванняў, аднак нанеслі вялікія спусташэнні і разбурэнні яго зямлі. Гэта не магло не прывесці да аслаблення пазіцый Міндоўга ў Літве, што і выкарысталі яго праціўнікі. У

міжусобнай барацьбе, якую яны распачалі супраць Міндоўга, ён падцярпеў паражэнне і быў вымушаны ўцякаць у Навагародак. Там ён дзесьці ў канцы 1246 – пачатку 1247 г. прымае “веру христианскую от Востока со многими своими бояры”, што сведчыць аб тым, што Міндоўг не заваяваў Новагародак, а быў абраны князем (як у 1266 г. нальшчанскі перабежчык Даўмонт уцёк у Пскоў, прыняў там хрысціянскую веру і быў абраны князем). Калі б Міндоўг быў заваёўнікам, яму не трэба было б прымаць праваслаўе. Значыць, Міндоўг з’явіўся ў Новагародку не як заваёўнік, а як перабежчык, які ўцёк з Літвы разам з усім сваім родам і акружэннем (*Ермаловіч М.І.* Па слядах аднаго міфа. С.56 – 61).

У гэты час Новагародская зямля вызвалілася з-пад залежнасці ад галіцка-валынскіх князёў у першую чаргу таму, што іх зямля была спустошана мангола-татарскім нашэсцем. Суседняя Літва з прычыны ўнутраных і знешніх абставін таксама значна аслабела. Перад Міндоўгам была пастаўлена задача пашырэння тэрыторыі Новагародскага княства за кошт Літвы. У такой сітуацыі Міндоўг для новагародцаў быў добрай знаходкай: пакрыўджаны сваімі суайчыннікамі, ён быў зацікаўлены ў помсце сваёй былой радзіме. Гэты вопыт Новагародка пазней паспяхова выкарыстоўвалі полацкія і пскоўскія феадалы.

Міндоўг прыступае да выканання задання новагародцаў – заваявання Літвы. Падгаварыўшы сваіх пляменнікаў Таўцівіла і Едзівіла з іх дзядзькам Вікінтам ісці пад Смаленск, Міндоўг абяцаў аддаць ім усё, што яны захопяць у час паходу. Гэтым самым Міндоўг хітрасцю фактычна выгнаў з Літвы Таўцівіла, Едзівіла і Вікінта, “вражбою бо за ворожьство с ними Литву зане, поимана бе вся земля Литовьская”. Гэтыя словы Іпацьеўскага летапісу пацвярджаюць, што Міндоўт быў перабежчыкам у Новагародак, а не яго заваёўнікам. Бо калі б ён з Літвы заваяваў Новагародак, дык навошта яму было займаць Літву? Словы “поимана бе вся земля Литовьская” гавораць, што Міндоўг да гэтага не валодаў ніводнай часткай яе. Значыць, ён прыбыў у Новагародак, страціўшы Літву (*Ермаловіч М.І.* Па слядах аднаго міфа. С.61).

Далей М.Ермаловіч робіць вывад, што ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага пачалося не з заваявання Новагародскай зямлі Літвой, а, наадварот, з заваявання Новагародскай зямлёй Літвы. Гэту заваёву новагародскія феадалы ажыццявілі сваімі сіламі пры дапамозе перабежчыка з Літвы Міндоўга. Апошні, помсцячы князям Літвы за іх “ворожьство” да яго, адбіраючы “бесчисленное имение их”, дзейнічаў у інтарэсах новагародскіх феадалаў. І таму не дзіўна, што феадалы Літвы аказалі ўпартае супраціўленне Міндоўгу.

Таўцівіл, Едзівіл і Вікінт, як і іншыя выгнаннікі, страціўшы апору на сваёй зямлі, звярнуліся за дапамогай да галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васілька, якія хацелі не дапусціць аб’яднання заходнерускіх земель на чале з Новагародкам. На гэту ролю прэтэндавалі самі галіцка-валынскія князі. На працягу 1248 – 1254 гг. Новагародская зямля стала арэнай жорсткіх баявых дзеянняў. Страшэнныя разбурэнні





прынеслі ёй тры паходы галіцка-валынскага войска. Міндоўг аказаўся дрэнным палітыкам: ён пайшоў на саюз з ордэнам, з крыжакамі, прыняў каталіцтва і ў 1252 г. атрымаў ад папы рымскага каралеўскую карону, але не спыніў галіцка-валынскага наступлення. Першая спроба заваявання Літвы Новагародскай зямлёй закончылася няўдачай.

М.Ермаловіч сцвярджае, што роля Міндоўга ў гісторыі яўна перабольшваецца. Ён фактычна не быў стваральнікам Вялікага княства Літоўскага, як гэта да апошняга часу тлумачыцца ў літаратуры. Не ён зрабіў сваёй сталіцай Новагародак, а Новагародак выбраў яго сваім князем. Не літоўскую ўладу ажыццяўляў тут Міндоўг, а быў выканаўцам дзяржаўных імкненняў Новагародка. Таму, не апраўдаўшы надзей навагародскіх феадалаў, ён і страціў новагародскі пасад.

Такім чынам, Новагародак напаткала няўдача. Князь-перабежчык Міндоўг яму здрадзіў. І ўсё ж новагародскім феадалам патрэбны быў князь-ліцвін, які, захапіўшы Літву, мог бы з’явіцца там як наследны гаспадар. Такім князем стаў сын Міндоўга 32-гадовы Войшалк – тонкі палітык і дыпламат, рашучы і вераломны ў дасягненні сваіх мэт, праваслаўны фанатык, які назаўсёды звязаў свой лёс з Новагародкам. У гэтых адносінах Войшалк нагадваў нальшчанскага перабежчыка Даўмонта, які, нягледзячы на літоўскае паходжанне, верна служыў Пскову і праваслаўю, за што пасля смерці быў абвешчаны святым.

Ад імя знясіленай і параможанай Новагародчыны Войшалк заключыў мір з галіцка-валынскімі князямі, імкнучыся былых ворагаў перацягнуць на свой бок і на пэўны час абапірацца на іх дапамогу. Гарантыяй гэтага стала выданне дачкі Міндоўга за сына Данілы Галіцкага – Войшалк выдаў “дщерь Миндовгову и свою сестру за Шварна”. Для забеспячэння трываласці пагаднення Войшалк робіць дальнабачны палітычны ход – аддае Новагародскую зямлю разам з гарадамі “Новогородок... Вослоним... Волковыеск” і астатнімі гарадамі сыну Данілы Галіцкага – Раману. Ён канчаткова ўваходзіць у давер галіцка-валынскіх князёў, якім валоданне Новагародчынай адкрывала дарогу да літоўскіх і полацкіх земель. Войшалк ведаў унутраныя і знешнія супярэчнасці Галіцка-Валынскай зямлі, прадбачыў яе немінучае аслабленне, у выніку якога яна не толькі не зможа ўтрымаць за сабой Новагародскую зямлю, але і сама стане аб’ектам захопу суседзямі. Ён распальвае супярэчнасці паміж сынамі Данілы Галіцкага – Шварнам і Раманам – у іх дамаганнях на Новагародскую зямлю, а жыхарам гэтай зямлі забяспечвае на пэўны час мірнае жыццё.

Аддаўшы Навагародскую зямлю пад надзейную ахову галіцка-валынскіх князёў, Войшалк пайшоў “до Галича к Данилови князю и Василькови, хотя прияти мниски чин”. Прыкінуўшыся богабаязным манахам, ён сваё знаходжанне ў Галіцкай зямлі выкарыстаў для падрыхтоўкі хрышчэння Літвы. Тры гады Войшалк знаходзіўся ў Палонінскім манастыры, дзе збіраў манахаў для заснавання манастыра ў Новагародскай зямлі. Больш таго, ён пайшоў у Грэцыю, у Афонскі манастыр, зноў жа, відаць, з мэтай прывесці і адтуль манахаў.

13. Зак. 5560

Галіцка-валынскія князі паверылі ў намер Войшалка стаць манахам і адпусцілі яго (ёсць версія аб тым, што Войшалк знаходзіўся там у якасці заложніка для гарантавання бяспекі Раману ў Навагародку). Войшалк вярнуўся ў Новагародскую зямлю не пазней як на пачатку 1258 г. Ён не раскрыў адразу сваіх палітычных намераў, працягваў насіць маску богабаязнага манаха, заснаваў манастыр у в.Лаўрышава, паміж Новагародкам і Літвой, як асяродак будучага хрышчэння язычнікаў.

Для вызвалення ад галіцка-валынскай залежнасці Войшалку трэба было знайсці саюзніка. Ён звярнуў увагу на Полацк, дзе ў той час княжыў Таўцівіл (па прыкладу Новагародка Полацк вырашыў прыдбаць законнага спадкаемца Літвы). Выкарыстаўшы гнеў Таўцівіла да галіцка-валынскіх князёў, абапіраючыся на яго дапамогу і праз вераломства, Войшалк у 1258 г. паланіў Рамана Данілавіча (магчыма, забіў яго) і стаў паўнапраўным гаспадаром Новагародскай зямлі. Толькі цяпер галіцка-валынскія князі зразумелі, якую яны зрабілі памылку, адпусціўшы Войшалка. Даніла Галіцкі пайшоў на Новагародскую зямлю, захапіў Ваўкавыск, паслаў атрад на Зэльву, а сына Льва – на Гародзень. Аднак галіцка-валынскія князі не мелі сіл, каб справіцца з Войшалкам і вярнуць сабе Новагародскую зямлю. Яны ўсё больш падпадалі пад уладу мангола-татараў, якія ў гэтым жа 1258 г. прымусілі іх удзельнічаць у паходзе на Літву.

На гэты час прыпадае пачатак адкрытай варожасці паміж Войшалкам і Міндоўгам, Новагародкам і Літвой. Міндоўг парывае з ордэнам, адракаецца ад хрысціянства, зноў пераходзіць у язычніцтва, па прапанове жамайцкага князя Траняты прымае ўладу над язычніцкай Жэмайціяй. Пад яго ўладай апынуліся ўсе балцка-літоўскія землі. Але Траняту патрэбна была не столькі ўлада Міндоўга, колькі дапамога Літвы ў барацьбе з ордэнам. І калі гэта барацьба скончылася перамогай Жэмайціі, адразу ж пачалося саперніцтва феадалаў Жэмайціі і Літвы, знешняй праявай чаго была ўзаемная варожасць паміж Транятам і Міндоўгам. На бок Траняты перайшоў нальшчанскі князь Даўмонт, у якога Міндоўг забраў жонку. Помсцячы яму, Даўмонт забіў Міндоўга і двух яго сыноў. Транята арганізаваў таксама забойства полацкага князя Таўцівіла, што выводзіла Полацк з барацьбы за літоўскую спадчыну.

Цяпер была чарга Войшалка. Але ён разгадаў намер Траняты. Войшалк перацягнуў на свой бок Пінск, які ўжо даўно адчуваў на сабе цяжар залежнасці ад галіцка-валынскіх князёў. Ён уважліва сачыў за падзеямі ў Літве, не спяшаўся з адкрытым умяшаннем у яе справы. Ён добра разумеў, што феадалы Літвы не будуць мірыцца з жамойцкім панаваннем, магчыма раздзімаў гэтыя супярэчнасці, што і дало свае вынікі. Транята быў забіты конюхамі-парабкамі Міндоўга. Смерць Траняты азначала крах намераў жэмайцкіх феадалаў аб'яднаць усе балцка-літоўскія землі вакол Жэмайціі.

Даведаўшыся пра забойства Траняты, разгубленасць і безуладдзе ў стане Літвы і Жэмайціі, Войшалк распачаў поўную і канчатковую





заваёву Літвы, пры гэтым ён абапіраўся на сілы Новагародка і саюзнага з ім Пінска. Будучы праваднікам палітыкі новагародскіх феадалаў, Войшалк жорстка расправіўся з літоўскімі феадаламі, большасць якіх была знішчана, а частка разбеглася. Але сілы Новагародка і Пінска хапіла толькі для заваявання Літвы. Войшалк зноў ідзе на саюз з галіцка-валынскімі князямі, прызнае іх вярхоўную ўладу над сабой, бо пасля смерці Данілы Галіцкага абазначыўся распад гэтай феадальнай дзяржавы. З дапамогай Шварна і Васілька Войшалк не менш жорстка расправіўся з феадаламі Дзяволтвы і Нальшчанаў і далучыў гэтыя землі да Новагародка.

Захоп Новагародкам Літвы, Нальшчанаў і Дзяволтвы быў аднача-сова і ўдарам па Полацку. Каб карыстацца і ў далейшым матэрыяльнымі рэсурсамі і вайсковай сілай літоўска-балцкіх зямель, ён павінен быў прызнаць волю Новагародка. Падначаленне Новагародку, відаць, адбылося ў 1265 г.

Летапісныя крыніцы нічога не гавораць пра тое, ці заваяваў Войшалк Жэмайцію. Магчыма, каб ажыццявіць гэту мэту, дзеля чаго патрэбна была дапамога галіцка-валынскіх князёў, ён аддаў сваё княства Шварну, а сам ізноў пайшоў у Галіцкую зямлю. Гэта перадача не спадабалася брату Шварна – галіцкаму князю Льву Данілавічу, які сам хацеў валодаць Новагародскай і Літоўскай землямі, злучанымі зараз у адзінае цэлае. Ён і забіў Войшалка. Вялікім князем літоўскім стаў Трайдэн, які працягваў палітыку свайго папярэдніка.

На аснове аналізу гэтага вялікага фактычнага матэрыялу М.Ермаловіч робіць вывад аб тым, што аб'яднанне Войшалкам Новагародскай, Пінскай, Нальшчанскай, Дзяволтваўскай, Полацка-Віцебскай і Літоўскай зямель у адзіную дзяржаву было фактычна трывалым пачаткам утварэння Вялікага княства Літоўскага. Але калі далучэнне балцкіх зямель Літвы, Нальшчанаў і Дзяволтвы да Навагародка было гвалтоўным, то далучэнне Пінска, Полацка і Віцебска праходзіла добраахвотна. Таксама пазней да Вялікага княства Літоўскага далучаліся і іншыя беларускія землі. Вырашальную аб'яднальную ролю ў складванні і пачатковай гісторыі Вялікага княства Літоўскага меў найперш Новагародак. Нездарма ж і герб гэтага горада – коннік з мячом ў руцэ – стаў дзяржаўным гербам Вялікага княства Літоўскага (*Ермаловіч М.І.* Па слядах аднаго міфа. С.82).

Прыхільнікі новай (беларускай) канцэпцыі растлумачваюць, чаму імем заваяванай зямлі – Літвы – краіна стала называцца Вялікім княствам Літоўскім, а не Новагародскай дзяржавай. Яны прыводзяць гістарычныя аналогіі, выключэнні з правіла, калі дзяржава не называецца імем дамінуючай часткі. Так, сучасная Расія першапачаткова называлася Маскоўскім княствам, якое складала цэнтральную частку, стрыжань гэтай дзяржавы. Потым маскоўскія князі бяруць старажытную назву "Русь" і прысвойваюць яе сваёй дзяржаве. Вядома, што пад Руссю раней разумеліся Украіна, Кіеў, Чарнігаў, Пераяслаў; потым гэта назва распаўсюдзілася на ўсход і поўнач, а Маскоўскае княства (дзяржава) стала называцца Руссю, Расіяй.

Другі прыклад – **Прусія.** У канцы XII ст. яна была канчаткова заваявана немцамі, а насельніцтва анямечана, аднак назвы сваёй не толькі не страціла, але і пашырыла яе на захад. У 1618 г. Прусія была далучана да Брандэнбурга, але і пасля гэтага захавала сваю назву, якая перайшла на Брандэнбург. Прусіяй называлася доўгі час Германская дзяржава са сталіцай у Берліне. Прышлая назва перамагла. Як нельга лічыць, што назва "Прусія" пашыралася з Берліна, так і нельга лічыць, што назва "Літва" пашыралася з Вільні. Як назва прусаў перайшла на ўсходніх немцаў і яны сталі называцца прусакамі, так і назва "Літва" перайшла на беларускіх панямонцаў, якія доўгі час называліся ліцвінамі.

Трэці прыклад – **Лівонія,** дзяржава ў Ніжнім Падзвінні (балцкае племя ліваў), была заваявана немцамі (крыжакамі), а дзяржава і племя захавалі ранейшыя назвы – Лівонія, лівы.

Чаму назва "Літва" з'явілася такой трывалай і яе імем стала называцца вялікая дзяржава ў Еўропе? Магчыма таму, што знаходзілася ў цэнтры краіны (старажытная Літва), альбо таму, што насельніцтва захавала назву, якая тут была з часоў балцкай каланізацыі тэрыторыі сучаснай Беларусі, магчыма паўплывалі балцкія карані (субстрат) славян-беларусаў.

Прыхільнікі новай (беларускай) канцэпцыі Вялікае княства Літоўскае называюць дзяржавай выключна беларускай таму, што яе асновай з'явілася Беларускае Панямонне з цэнтрам у г. Новагародку і таму, што рашаючую ролю ў яе стварэнні адыгралі беларускія феадалы, бо пануючымі былі беларуская культура і беларуская мова. Чаму Вялікае княства Літоўскае на працягу ўсёй сваёй гісторыі не сказала ніводнага літоўскага слова? Уся Літоўская метрыка, дзяржаўныя акты, дакументы, летапісы, мастацкая літаратура пісаліся на старабеларускай мове. Ні адна еўрапейская краіна ў афіцыйным ужытку не карысталася роднай мовай, а ўжывала лацінскую. Вялікае княства Літоўскае было выключэннем з правіла, бо карысталася не лацінскай, а роднай, старабеларускай мовай. У перыяд ВКЛ літоўцы (жамойты) уласнай пісьменнасці не мелі.

Традыцыйная (літоўская) і новая (беларуская) канцэпцыі ўтварэння ВКЛ – дзве крайнія канцэпцыі, якія выключаюць адна другую. Ёсць яшчэ і "памяркоўная" канцэпцыя – **цэнтрысцкая канцэпцыя** ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Яе сутнасць зводзіцца да наступнага. Вялікае княства Літоўскае ўзнікла на працягу цэлага гістарычнага перыяду: XIII ст. – 70-я гады XIVст., а не ў сярэдзіне XIII ст., як пішуць гісторыкі-рамантыкі. Тое, што ўзнікла ў Верхнім Панямонні пры Міндоўгу і Войшалку ў XIII ст., трэба лічыць Літоўскай дзяржавай, дзяржавай Міндоўга ці проста Новагародскім княствам. Толькі з дзейнасці Гедыміна ў пачатку XIV ст. можна разглядаць працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага. Дзе была старажытная Літва, прыхільнікі гэтай канцэпцыі не пішуць, яны не абвяргаюць М.І.Ермаловіча, але





лічаць, што Літва існавала шырэй, як пазначана ў яго працах, цягнулася аж да Вільні ( не да Маладзечна, а да Вільні!).

Вядучай сілай ва ўтварэнні ВКЛ сталі беларускія і літоўскія феадалы. Але літоўскія феадалы да сярэдзіны XV ст. адыгрывалі рашаючую ролю ў жыцці краіны, яны ў большай колькасці былі прадстаўлены ў вышэйшым дзяржаўным органе – паны-радзе. Паводле даных гісторыкаў, у канцы XIV ст. у паны-радзе ВКЛ літоўцаў было 84%, беларусаў – 9%, у другой чвэрці XVст. літоўцаў – 67%, беларусаў – 17%.

Усе князі ВКЛ былі літоўскага паходжання, у той час як гісторыкі-рамантыкі прыпісваюць ім славянскае паходжанне. Яны (Гедымінавічы) не называлі сябе русінамі, да Крэўскай уніі 1385 г. былі язычнікамі, а славяне – праваслаўнымі. Да Люблінскай уніі 1569 г. літоўскія феадалы пераважалі над беларускімі і польскімі: з 13 магнацкіх родаў 2/3 былі літоўскімі. Дзяржаўнай рэлігіяй быў каталіцызм, праваслаўных епіскапаў нават не пускалі ў паны-раду. Чаму на другім плане аказалася праваслаўе? Як гэта злучыць са сцвярджэннем гісторыкаў-рамантыкаў аб тым, што ВКЛ – гэта беларуская дзяржава?

**Прыведзеныя факты дазваляюць зрабіць вывад аб тым, што да сярэдзіны XV ст. Вялікае княства Літоўскае – гэта літоўска-беларуская дзяржава.**

Першапачаткова на заходнерускіх землях беларускія феадалы адчувалі сябе нядрэнна, даволі свабодна. Але пасля Крэўскай уніі 1385 г. у сувязі з распаўсюджаннем каталіцызму ў асяроддзі беларускіх феадалаў з'явіліся апазіцыйныя настроі. У 30-х гадах XVст. у ВКЛ адбылася грамадзянская вайна. Спецыяльным прывілеем беларуская і літоўская шляхта былі ўраўнены ў правах, беларуская шляхта дапускалася ў паны-раду. З сярэдзіны XVст. роля беларускай знаці ўзрастае. У першай чвэрці XVI ст. у паны-радзе ВКЛ літоўцы складалі 46%, беларусы – 38%. За 19 гадоў да Люблінскай уніі 1569 г. беларусы і ўкраінцы складалі большасць ў паны-радзе ВКЛ.

**Такім чынам, у другой палове XV і ў XVI стст. Вялікае княства Літоўскае існуе як беларуска-літоўская дзяржава.**

Разгледзеўшы традыцыйную (літоўскую), новую (беларускую) і цэнтрысцкую канцэпцыі ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, правамерна паставіць пытанні: "Чаму ў іх не хапіла месца ўкраінцам і рускім?" Хіба ж гэтыя народы не мелі дачынення і не пакінулі свой след у гісторыі дзяржавы? На нашу думку, Вялікае княства Літоўскае было поліэтнічнай дзяржавай чатырох асноўных народаў – беларускага, украінскага, рускага і літоўскага. Паводле даных Г.Лаўмянскага, у 1528 г. колькасць насельніцтва Літвы, Беларусі і Падляшша складала больш за 2 млн чалавек, насельніцтва ўсяго ВКЛ – больш за 2,5 млн, у 1569 г. – адпаведна 2,5 і 3,5 млн чалавек. Літоўскае насельніцтва складала толькі каля 20%, славянскае – амаль 80% усяго насельніцтва Вялікага княства Літоўскага.

14. Зак. 5560

# ГЛАВА 2

# ПАЛІТЫЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У XIV–XVI стст.

## § 1. Беларускія землі ў грамадска-палітычным жыцці Вялікага княства Літоўскага

Унутрыпалітычнае жыццё Вялікага княства Літоўскага складалася пад уздзеяннем розных фактараў: барацьбы за ўладу паміж прадстаўнікамі літоўскай дынастыі, далейшай эскалацыі літоўскага ўплыву на заходнерускія землі, а таксама пад уздзеяннем супярэчнасцей на этнічнай, рэлігійнай, маёмаснай і прававой аснове. Аказвалі ўплыў і асаблівасці знешнепалітычнай сітуацыі. У выніку гэтага велікакняжацкая ўлада ў XIV – XVI стст. не раз знаходзілася ў палітычным крызісе, што пагражала распадам дзяржаве. **Якія былі прычыны гэтых крызісаў, якімі шляхамі яны** пераадольваліся і як гэта адбівалася на становішчы беларускіх зямель, мы зараз разгледзім.

На першым часе пасля ўваходжання заходнерускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага яшчэ захоўваліся іх адносная аўтаномнасць, унутраны лад і самабытнасць. Нашчадкі рускіх князёў дынастыі Рурыкавічаў, якія засталіся на сваіх месцах, прадаўжалі кіраваць мясцовым грамадствам разам са сваімі баярамі. Такімі былі князі Лукомскія, Друцкія, Вяземскія, Адаеўскія, Варатынскія і інш. Вялікае княства Літоўскае ў XIV ст. уяўляла сабой кангламерат паасобных зямель і ўладанняў, якія былі аб'яднаны толькі тым, што падпарадкоўваліся вярхоўнай уладзе вялікага князя літоўскага. У астатнім заходнерускія князі былі поўнымі гаспадарамі ў сваіх уладаннях.

**Паступова сітуацыя пачала змяняцца не на карысць беларускіх і іншых заходнерускіх княстваў.** Гэта было выклікана шэрагам прычын: барацьбой за ўладу ў Вялікім княстве пасля смерці Гедыміна, імкненнем велікакняжацкага прастола да цэнтралізацыі дзяржавы, спробамі ўмацаваць пануючае становішча ў ёй літоўскіх феадалаў, прынізіць былую ролю і значэнне старажытнарускай дынастыі. Апошняе дасягалася рознымі спосабамі. Вялікую ролю адыгрывала сістэма зямельных падараванняў, якой надавалася важнае палітычнае значэнне. Гедымін яшчэ пры жыцці раздаваў сынам нанова далучаныя землі на правах удзельнага княжання. Пасля яго смерці ўсё Вялікае княства Літоўскае было падзелена на 8 удзелаў. Сем з іх выпалі сынам Гедыміна: Манівіду, Нарымунту, Карыяту, Альгерду, Кейстуту, Любарту і Еўнуту. Восьмы, полацкі надзел, быў аддадзены пляменніку Гедыміна – Любку. Унукі і праўнукі Гедыміна таксама валодалі заходнерускімі землямі. Сыны Альгерда атрымалі: Андрэй – Полацкае княства, Дзмітрый – Бранскае, Канстанцін – Чарнігаўскае, Уладзімір – Кіеўскае. На Валыні (у Луцку) працягваў правіць брат Кейстута Любарт-Дзмітрый Гедымінавіч. У меншых валынскіх гарадах сядзелі сыны Нарымунта і Карыята. У княствах Пінскім і Свіслацкім правілі Нарымунтавічы, а ў Заслаўі – сыны і ўнукі Еўнута. Свідрыгайла, сын Альгерда, атрымаў даравальнай граматай 1387 г. на Беларусі вялікія землі ад свайго брата Ягайлы: "...город Менск... со всеми людми и с землёю и со всякою пошлиною и с доходом и князи служэбныя", а таксама г. Полацк з усімі валасцямі, волосці Свіслач, Бабруйск, Рэчыцу, Прапойск, Любашаны, Ігумен, Лагойск і іншыя гарады і сёлы " с людми и со усе доходы". Вялікія ўладанні атрымаў у 1384 г. у Гародненскай і Берасцейскай землях сын Кейстута Гедымінавіча Вітаўт яшчэ да таго, як стаў вялікім князем.

Некаторыя літоўскія князі і ўплывовыя баяры, што з'яўляліся спачатку прадстаўнікамі цэнтральнай улады ў беларускіх землях (намеснікамі, старостамі) ці прыдворнымі, сталі з цягам часу буйнымі зямельнымі ўласнікамі (Радзівілы, Кежгайлы, Гаштольды, Насуты, Сангушкі і інш.). Значнымі ўладаннямі (з наступленнем каталіцтва) у канцы XIV – XV стст. была адорана каталіцкая царква, у прыватнасці епіскапства Віленскае.

Пашыраліся таксама ўладанні беларускіх (Сапегі, Ільінічы, Валовічы, Тышкевічы) і ўкраінскіх (Астрожскія, Хадкевічы) феадалаў, якія праявілі вернасць уладарнай літоўскай дынастыі.

Насаджэнне літоўскага землеўладання мела на мэце пашырыць сацыяльную базу велікакняжацкай улады, прывязаць славянскія землі шчыльней да цэнтра. Але павелічэнне прыватных уладанняў мела для цэнтральнай улады і пабочныя вынікі, бо, раздаючы землі, вялікі князь змяншаў свае ўласныя зямельныя ўладанні (гаспадарскі дамен). А гэта скарачала матэрыяльную аснову яго ўлады ўнутры краіны. У той жа час узвышэнне эканамічнай ролі буйнога літоўскага баярства вяло да ўзвышэння яго палітычнай ролі, што, у сваю чаргу, замацоўвала федэратыўныя тэндэнцыі ў структуры дзяржавы. Такім чынам, тэндэнцыя да федэралізацыі з'явілася вынікам насаджэння літоўскага ўплыву ў заходнерускіх землях і была ў пэўнай ступені прымусовай з боку цэнтральнай улады, паколькі ўлічвала поліэтнічны характар дзяржавы і моц рускага кампанента. Але закладзены з самага пачатку існавання ВКЛ вялікі хіб у бок федэралісцкіх пачаткаў не мог не выклікаць у велікакняжацкай улады ўзнікнення супрацьлеглай тэндэнцыі ў палітыцы – да цэнтралізацыі.

Правесці яе ў жыццё спрабавалі нашчадкі Гедыміна. Барацьба цэнтралісцкіх і федэратыўных пачаткаў пранізвае ўсё ўнутрыпалітычнае жыццё ВКЛ у XIV – XVI стст. Вынікам гэтай



*Вялікі князь літоўскі Альгерд*

барацьбы і былі крызісы дзяржаўнай улады, што пагражалі распадам дзяржавы.

**Першы крызіс узнік неўзабаве пасля смерці Гедыміна (1341).**

Той завяшчаў велікакняжацкі прастол свайму сярэдняму любімаму сыну Еўнуту. Гэта не прыйшлося даспадобы яго старэйшым братам, ды і па палітычных якасцях Еўнут быў не на вышыні. У выніку браты адмовіліся падпарадкавацца яго ўладзе, дзяржава знаходзілася на мяжы распаду, што адразу скарысталі суседзі: польскі кароль заявіў пра свае прэтэнзіі на Валынь, на паўночным захадзе два нямецкія ордэны рыхтаваліся да вялікага паходу на Літву. Крытычная сітуацыя скончылася дзяржаўным пераваротам. У змову ўвайшлі два найбольш моцныя з братоў Еўнута: Альгерд і Кейстут. Еўнут быў звергнуты. На велікакняжацкі прастол быў узведзены Альгерд, які паабяцаў дзяліць з Кейстутам пароўну ўладу і ўсё, што яны "придобудут, город ли, волость ли и быть с ним до живота в великой милости и любви". Тэрыторыя дзяржавы была па-дзелена на дзве вялікія часткі: уся ўсходняя была пад уладай Альгерда, заходняя належала Кейстуту.

У Вялікім княстве Літоўскім склаўся своеасаблівы дуалізм вярхоўнай улады, які падпарадкаваў астатніх Гедымінавічаў. Саюз двух князёў аказаўся надта моцным дзякуючы іх уладанням, асабістым якасцям і сяброўству. Гэты саюз быў надзвычай плённы. Як сведчаць крыніцы, Альгерд і Кейстут добра дапаўнялі адзін аднаго. Альгерд пераўзыходзіў сваіх братоў розумам, палітычнай прадбачлівасцю і дзейсным характарам. Летапісцы тлумачаць гэта даволі "рэдкімі для тагачасных князёў якасцямі": "вялікай цвярозасцю", абсалютным устрыманнем ад усялякіх хмяльных напояў – віна, піва, мёду. Альгерд быў жанаты на рускай князёўне і доўгі час жыў у сваім "рускім" надзеле, "засвоіў сабе рускую народнасць" і спавядаў праваслаўе. Кейстут, наадварот, заставаўся чыстым ліцвінам-язычнікам і быў вельмі папулярны сярод літоўцаў. Вылучаўся адкрытым добразычлівым характарам і вялікай адвагай.

Пакуль жылі абодва браты, палітычнае жыццё ў дзяржаве было стабільнае. Яны дасягнулі шмат чаго ва ўмацаванні цэнтралісцкіх







*Вялікі князь літоўскі Кейстут*

пачаткаў у дзяржаве і ў панаванні над заходнімі землямі Русі. Шырока выкарыстоўваліся ваенна-палітычныя, культурна-рэлігійныя сілы падданых ім зямель. Арганізацыя праваслаўнай царквы была пастаўлена на службу іх інтарэсам. Не толькі Альгерд і яго сыны былі хрышчонымі, але і многія князі і баяры прынялі праваслаўе. Да таго ж абвостраная барацьба, якую вяла Літоўска-Руская дзяржава са знешнімі ворагамі, галоўным чынам з немцамі, не схіляла асобныя яе часткі да сепаратызму. Але становішча потым пачало мяняцца. З другой паловы XIV ст. выразна ўзрастае роля буйных зямельных уласнікаў літоўскага паходжання ў палітычным жыцці дзяржавы. Гэта супярэчыла інтарэсам і імкненням беларускіх, украінскіх і рускіх феадалаў і закладвала асновы новага палітычнага канфлікту. Пачалася барацьба за большую долю феадальнай рэнты і эканамічныя прывілеі, за палітычныя правы, а галоўнае – барацьба супраць палітычнай цэнтралізацыі Вялікага княства Літоўскага.

**Новы палітычны крызіс узнік у 1377 г.** пасля смерці Альгерда. Згодна з папярэдняй дамоўленасцю з Кейстутам, пасля смерці братоў іх месцы на тронах павінны былі заняць іх любімыя сыны: Ягайла – замест Альгерда, Вітаўт – замест Кейстута. Таму пры падтрымцы Кейстута на велікакняжацкі прастол быў узведзены Ягайла. Ён, як і бацька, сваёй галоўнай мэтай ставіў стварэнне трывала аб'яднанай пад яго ўладай цэнтралізаванай дзяржавы, што адпавядала інтарэсам і літоўскай арыстакратыі. Але гэта задача была для Ягайлы надта няпростай па трох прычынах. **Па-першае,** напачатку рэальную ўладу Ягайла меў толькі на тэрыторыі свайго бацькі Альгерда. У Троках і ўсёй заходняй частцы Вялікага княства Літоўскага кіраваў стары Кейстут, які хаця фармальна і прызнаў верхаўладдзе пляменніка, але ж меў вялікі аўтарытэт і рэальную ўладу. **Па-другое,** у Ягайлы існавалі і праблемы дынастычнага характару. Андрэй Полацкі як старэйшы сын Альгерда прэтэндаваў на велікакняжацкі прастол. **Па-трэцяе,** узмацнялася апазіцыя з боку заходнерускіх княстваў, якія былі незадаволены палітыкай цэнтралізацыі і былі супраць ідэі поўнага палітычнага зліцця з Літвой. Гэтыя землі яшчэ з часоў феадальнай

15. Зак. 5560



*Вялікі князь літоўскі Ягайла*

раздробленасці склаліся ў моцныя палітычныя арганізмы, якім звыкла было жыць самастойным жыццём, да таго ж яны былі больш эканамічна развітыя. Пры гэтым не мелі патрэб у цэнтралізацыі не толькі князі Рурыкавічы, якія засталіся дзенідзе, але і правіўшыя тут Гедымінавічы, якія адчулі смак самастойнасці. У заходнерускіх княствах выспяваў шырокі грамадска-палітычны рух, скіраваны супраць умацавання ўлады вялікага князя літоўскага. Узначаліў гэты рух на першым этапе Андрэй Полацкі.

У 1377 г. Ягайла спрабуе пазбавіць Андрэя Полацкага ўдзелу. Андрэй уцякае ў Пскоў, дзе яго другі раз абіраюць князем (першы раз – у 1342 г.). Затым для барацьбы з Ягайлам Андрэй Полацкі ўступае ў саюз з вялікім князем маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам Данскім. Яго саюзнікамі сталі таксама смаленскі князь, Вялікі Ноўгарад і Лівонскі ордэн. Андрэй Альгердавіч пагражае вайной Літве. Над галавой Ягайлы збіраюцца хмары. Да таго ж не без дапамогі прыбліжаных і нямецкага ордэна ў яго сапсаваліся адносіны з дзядзькам Кейстутам (ордэн нажываў сабе дывідэнды на ўнутраных усобіцах у ВКЛ). Паміж Ягайлам і Кейстутам разгарэліся спрэчкі, і ў 1381 г., выкарыстаўшы барацьбу вялікага князя за Полацк, Кейстут захапіў вярхоўную ўладу ў дзяржаве. **Наступіў новы палітычны крызіс.**

Праз год узяты ў палон Ягайлам у Крэўскім замку Кейстут быў задушаны ў цямніцы. Ягайла, каб утрымацца на велікакняжацкім прастоле, па прыкладу бацькі паспрабаваў сябраваць з адным са сваіх братоў – Скіргайлам. Скіргайлу былі падараваны Полацкая і Трокская землі. Але палачане не пагадзіліся з такім рашэннем. У 1381 г. яны паднялі паўстанне, якое доўжылася некалькі месяцаў. Як сведчаць крыніцы, жыхары Полацкай зямлі выганяюць Скіргайлу, заяўляючы, што не хочуць мець сваім князем язычніка. На самой справе праблема была не ў рэлігійных адрозненнях, а ў тым, што Скіргайла разам з Ягайлам былі носьбітамі зусім іншай палітычнай арыентацыі. Палачане абаранялі мясцовыя інтарэсы свайго баярства і гарадскіх вярхоў.





У 1381 г. у Полацк вярнуўся князь Андрэй Альгердавіч.

Меў месца і яшчэ адзін фактар, што супрацьстаяў цэнтралізатарскім імкненням вялікага князя літоўскага. Пасля разгрому татар у 1380 г. на Куліковым полі, у якім браў удзел Андрэй Полацкі, у заходнерускіх княствах узмацняецца прыхільнасць да Масквы. Яе значэнне як буйнога цэнтра і ўмацавальніка Паўночна-Усходняй Русі ўзрастае. Тэндэнцыя схільнасці да Масквы сур'ёзна непакоіла літоўскіх феадалаў і адбівалася на фарміраванні знешнепалітычнага курсу дзяржаўнай улады. Быў прапанаваны метад яе нейтралізацыі праз саюз паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім княствам Маскоўскім. Пачаліся перамовы аб шлюбе Ягайлы з дачкой Дзмітрыя Данскога. Праект пагаднення не толькі прадугледжваў прыняцце Літвой праваслаўнай веры, але і ўтрымліваў важны палітычны пункт: "а вялікаму князю Ягайлу быці ў іх волі". Ягайлу прапаноўвалі правы "малодшага брата", васала Дзмітрыя. Літоўскія князі і баяры палічылі такі саюз небяспечным для сябе і адхілілі яго.

Ягайла не змог перамагчы цэнтрабежныя тэндэнцыі і адолець палітычны крызіс сваімі сіламі. Саюз з Масквой не адбыўся. Тады ён робіць стаўку на іншую знешнюю сілу – Польшчу. К канцу XIV ст. складваюцца ўмовы збліжэння Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Гэтага патрабавала агульная знешняя небяспека – агрэсія Тэўтонскага ордэна. У будучым саюзе кожны бок меў яшчэ і свой унутраны інтарэс. Ягайла хацеў у Польшчы атрымаць падтрымку для барацьбы з палітычнай апазіцыяй у заходнерускіх землях супраць узмацнення цэнтральнай улады ў ВКЛ, пераадолець яе прыхільнасць да Маскоўскага княства, умацаваць уладу і становішча (сын Кейстута Вітаўт рыхтаваўся да барацьбы за ўладу), а таксама прадоўжыць экспансію на Русь, каб пашырыць крыніцы даходаў і ўмацаваць матэрыяльную базу сваёй улады. Польскія феадалы таксама пры дапамозе саюзу з Вялікім княствам Літоўскім хацелі вырашыць некаторыя свае праблемы: засцерагчы сябе ад дужага і небяспечнага суседа, а таксама пашырыць свае ўладанні за кошт княства. Яны прэтэндавалі на Валынь, Падолію і Галіцкую Русь.

У 1382 г. польскі кароль, які не меў нашчадка, памёр. Пасля двухгадовых спрэчак польскія феадалы абвясцілі каралевай яго малодшую дачку Ядвігу. Яны спадзяваліся, што яе мужам будзе вялікі князь літоўскі Ягайла, які пасля шлюбу стане і каралём польскім. У 1385 г. у Крэве былі выпрацаваны ўмовы дзяржаўна-прававога аб'яднання Літвы і Польшчы. На іх падставе 14 жніўня 1385 г. было падпісана пагадненне з Польшчай, вядомае пад назвай **Крэўскай уніі.** З боку Літвы унію падпісалі Ягайла і яго браты Скіргайла, Карыбут, Лінгвен, Вітаўт. Яны паабяцалі назаўсёды далучыць свае землі, літоўскія і рускія, да Кароны Польскай. Ягайла абавязаўся прыняць каталіцтва разам з братамі і ўсімі сваімі падданымі.

У 1386 г. на Люблінскім сейме Ягайла быў абраны польскім

каралём. У тым жа годзе ў Кракаве ён прыняў каталіцтва і атрымаў імя Уладзіслаў, быў павенчаны з польскай каралевай Ядвігай, затым каранаваны.

Умовы уніі 1385 г. былі на руку польскай знаці, але не задавальнялі ні літоўскіх, ні тым больш заходнерускіх, у тым ліку і беларускіх, феадалаў. Чаму? Унія была не чым іншым, як інкарпарацыяй Вялікага княства Літоўскага ў Карону Польскую на "ўсе часы". Самастойнае існаванне княства перапынялася, яно злівалася з Польшчай у адзіны палітычны арганізм пад верхаўладдзем апошняй. Невыпадкова пасля каранацыі Ягайлы ў Кракаве з усіх літоўска-рускіх князёў была ўзята прысяга на вернасць каралю, каралеве і Кароне Польскай. Надзельныя князі станавіліся васаламі Польшчы і гублялі сваю самастойнасць.

Пракаталіцкая палітыка Ягайлы адыграла ролю ў фарміраванні апазіцыі ўнутры Вялікага княства Літоўскага, асабліва на беларускіх, украінскіх і рускіх землях. Ягайла 20 лютага 1387 г. выдаў грамату, у адпаведнасці з якой літоўскім феадалам даравaліся вялікія маёмасныя прывілеі і асабістыя правы пры ўмове прыняцця каталіцтва. На праваслаўных гэтыя прывілеі не распаўсюджваліся. Другой граматай (ад 22 лютага 1387 г.) была абумоўлена магчымасць заключэння шлюбаў паміж католікамі і праваслаўнымі толькі ў выпадку пераходу апошніх у каталіцтва. Уладанні каталіцкай царквы вызваляліся гэтай граматай ад усіх падаткаў і павіннасцей. Усё гэта спрыяла ўмацаванню становішча літоўскіх феадалаў-католікаў у палітычным жыцці дзяржавы.

Ягайла выкарыстаў новыя палітычныя магчымасці і пачаў каталіцкую экспансію на беларускія і іншыя заходнерускія землі. Касцёлы і каталіцкія ордэны, заснаваныя ў многіх гарадах і вёсках Беларусі, сталі яе фарпостамі. Акаталічванне закранала ўжо інтарэсы не толькі вярхоў, але і шырокіх колаў праваслаўнага насельніцтва. Так узнік буйны грамадска-палітычны рух, які быў скіраваны супраць польска-літоўскай уніі і караля Ягайлы з яго унітарнай пракаталіцкай палітыкай.

Ізноў цэнтрам руху стаў Полацк. Полацкі князь Андрэй Альгердавіч адмовіўся ад прынясення прысягі на вернасць каралю Ягайлу, каралеве Ядвізе і Кароне Польскай, разам са смаленскім князем Святаславам Іванавічам стаў на чале руху. У лютым 1386 г. Андрэй заключыў саюз з лівонскімі рыцарамі і пачаў ваенныя дзеянні. Ім былі заняты гарады і замкі Дрыса, Друя, Лукомль. Святаслаў Смаленскі аблажыў Мсціслаў, Віцебск і Оршу. У той жа час у межы ВКЛ уварваліся лівонскія крыжакі і дайшлі да Вільні і Ашмян. Каралеўскае войска на чале з князем Скіргайлам рушыла пад Мсціслаў, дзе 29 красавіка 1386 г. адбылася бітва з войскам Святаслава Іванавіча, у якой пацярпелі паражэнне смаляне. Князь Святаслаў і яго брат Іван загінулі. У Смаленску быў пасаджаны князем сын Святаслава Юрый, якога прымусілі прынесці прысягу на вернасць каралю Ягайлу і яго брату Скіргайлу.

У сакавіку 1387 г. пачаўся вялікі паход Скіргайлы на Полацк.





Горад быў узяты. Полацкі князь Андрэй Альгердавіч трапіў у палон і быў адпраўлены ў Польшчу, дзе знаходзіўся ў зняволенні да 1394 г. Яго блізкія паплечнікі на беларускіх землях былі пазбаўлены маёмасці і пакараны смерцю. Граматай ад 28 красавіка 1387 г. Ягайла санкцыяніраваў перадачу Полацкай і іншых беларускіх зямель Скіргайлу. Такім чынам, быў нанесены значны ўдар па надзельным статусе названых тэрыторый. Так няўдала **скончыўся першы этап супраціўлення беларускіх феадалаў уніі з Польшчай.**



*Вялікі князь літоўскі Вітаўт*

**На другім этапе рух узначаліў князь Вітаўт**, сын Кейстута Гедымінавіча. Барацьба Вітаўта з Ягайлам працягвалася з 1389 па 1392 г. і была накіравана на адстойванне дзяржаўнага суверэнітэту Вялікага княства Літоўскага. Вітаўт абапіраўся на літоўска-беларускае баярства, а ў шэрагу выпадкаў і на шырокія колы насельніцтва. Галоўнай сілай Ягайлы было польскае войска (ці польскія палкі), але часам на яго баку ваявалі літоўскія і рускія дружыны. Жорсткая барацьба вялася з пераменным поспехам і скончылася заключэннем пагаднення 5 жніўня 1392 г. у маёнтку Вострава каля г. Ліды. **Востраўскае пагадненне** аб падзеле ўлады паміж Ягайлам і Вітаўтам значна карэкціравала Крэўскую унію. Вялікаму княству Літоўскаму было гарантавана адасобленае дзяржаўнае існаванне, але ў саюзе з Польшчай і пад верхаўладдзем польскага караля. Вітаўт быў прызнаны вялікім князем літоўскім, яму былі вернуты ўсе спадчынныя ўладанні: Трокі, Гародня, Бярэсце і Луцкая зямля. Вітаўт даў клятву быць верным каралю, каралеве і Кароне Польскай.

Беларускія феадалы асабістым удзелам у барацьбе з Ягайлам спадзяваліся ўмацаваць свае правы надзельных уласнікаў. Далейшае развіццё падзей было не на іх карысць. Вітаўт спадзяваўся ўмацаваць свае пазіцыі ў Вялікім княстве Літоўскім з дапамогай цэнтралізацыі дзяржавы. Галоўную стаўку пры гэтым ён зрабіў на літоўскіх феадалаў. Каб зняць апазіцыю цэнтралізатарскай палітыцы, Вітаўт вырашыў сілай зброі ліквідаваць сістэму спадчыннага надзельнага княжання. Інстытут княжання быў заменены інстытутам намесніцтва. Намеснікамі ў заходнерускія княствы прызначаліся прадстаўнікі

16. Зак. 5560



*Вялікі князь літоўскі Свідрыгайла*

цэнтральнай улады, пераважна літоўскага паходжання. Але ж поўнай цэнтралізацыі Вітаўту дасягнуць не ўдалося. Некаторыя надзельныя княствы працягвалі адстойваць сваю незалежнасць, атрымалі абласныя прывілеі ў якасці гаранта сваіх правоў. Асабліва доўгі час супраціўлялася Смаленская зямля. Тым не менш Вітаўту ўдалося дасягнуць пэўных поспехаў ва ўмацаванні свайго становішча. А перамога ў Грунвальдскай бітве 1410 г., дзе войскі Вялікага княства Літоўскага адыгралі вызначальную ролю, узняла палітычны прэстыж дзяржавы і адлюстравалася на асабістым статусе Вітаўта. Выкарыстоўваючы гэтыя поспехі, Вітаўт робіць спробы перапыніць васальныя адносіны з Каронай Польскай, дасягнуць поўнага суверэнітэту, ажно да стварэння асобнага каралеўства.

Паміж Ягайлам і Вітаўтам пачаліся новыя перамовы, якія скончыліся падпісаннем **у 1413 г. Гарадзельскай уніі.** Гарадзельская унія ў адрозненне ад Востраўскага пагаднення юрыдычна афарміла палітычную самастойнасць Вялікага княства Літоўскага, але ўсё роўна пад уладай польскага караля. Тут выявілася пэўная дваістасць пазіцыі Вітаўта, а за ім і літоўскага баярства. З аднаго боку, яны былі надта зацікаўлены ў захаванні незалежнасці Вялікага княства Літоўскага, а з ёй і сваёй манаполіі на ўладу ў ім. З другога боку, не маглі яны адмовіцца і ад пагаднення з Польшчай, паколькі перад імі стаялі тыя ж праблемы, як калісьці перад Ягайлам, якія штурхнулі яго на шлях уніі з ёй. Дабіцца цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацавання свайго прывілеяванага становішча без дапамогі польскіх феадалаў яны былі не ў стане і працягваць агрэсію на рускія землі не змаглі б. Таму Гарадзельскай граматай, выдадзенай Ягайлам і Вітаўтам, былі дараваны правы той частцы феадалаў, што прыняла каталіцтва і польскія гербы. У выніку польскія гербы прынялі 47 родаў літоўскага баярства (не толькі буйных, але і сярэдніх). Так вялікі князь рэкрутаваў ядро шляхецкага саслоўя, на якое думаў абапірацца пасля скасавання сістэмы спадчыннага надзельнага княжання. Было дэкларавана выключнае права літоўскіх феадалаў-католікаў займаць вышэйшыя пасады і знаходзіцца ў гаспадарскай радзе. Праваслаўныя феадалы беларускіх зямель апынуліся ў яшчэ больш нераўнапраўным становішчы.





Імкненне літоўскіх феадалаў да далейшага ўзмацнення сваіх пазіцый вылілася ў ідэю стварэння літоўскага каралеўства. Да гэтага вялася вялікая падрыхтоўка. Задума каранацыі Вітаўта мела шырокі міжнародны рэзананс. Але ж яна не здзейснілася: перашкодзіла супрацьдзеянне кіруючых колаў Польшчы і смерць Вітаўта. Аднак сама ідэя працягвала жыць яшчэ доўга.

Пасля смерці Вітаўта (1430) вялікім князем літоўскім стаў малодшы брат Ягайлы – северскі князь Свідрыгайла Альгердавіч. Яго палітыка была скіравана на замацаванне лініі на дзяржаўную самастойнасць Вялікага княства Літоўскага. Пры гэтым Свідрыгайла спрабаваў пашырыць сацыяльную базу велікакняжацкай улады за кошт схілення на свой бок праваслаўных феадалаў беларускіх, украінскіх і рускіх зямель, дзе ён жыў шмат гадоў. Свідрыгайла княжыў на Падоліі, у Віцебску, на Северскай зямлі, працяглы час жыў у Маскоўскай дзяржаве, набыў там сяброў і сувязі. Застаючыся католікам, ён пачаў дапускаць да дзяржаўнага кіравання буйных праваслаўных землеўладальнікаў, дарыць ім замкі, пасады.

Узрастанне пры Свідрыгайле палітычнай ролі заходнерускіх феадалаў выклікала незадаволенасць літоўскай арыстакратыі. Пры дапамозе Польшчы была арганізавана змова супраць вялікага князя. Свідрыгайлу ўдалося збегчы ў Полацк, дзе ён знайшоў падтрымку з боку мясцовых князёў і баяр. А вялікім князем літоўскім быў абвешчаны брат Вітаўта – Жыгімонт Кейстутавіч (1432). Ягайла зацвердзіў гэта абвяшчэнне. Жыгімонт у сваю чаргу граматай ад 15 кастрычніка 1432 г. ухваліў унію з Польшчай, раней скасаваную Свідрыгайлам. У Вялікім княстве Літоўскім склалася сітуацыя, калі дзяржава аказалася падзеленай на дзве часткі, кожная з якіх мела свайго вялікага князя. На баку Жыгімонта былі ўсе літоўскія землі (Вільня, Коўна, Трокі, Жэмайцыя, а таксама Гародня). На баку Свідрыгайлы – князі, баяры і гараджане Полацкай, Віцебскай, Смаленскай, Северскай, Кіеўскай зямель, часткі Валыні і Усходняй Падоліі. Дапамогу Свідрыгайлу аказвалі тэўтонскія і лівонскія крыжакі, цвярскі князь, часам дапамагалі татары і малдаўскі гаспадар.

Супрацьстаянне бакоў прывяло да **грамадзянскай вайны (1432 – 1436),** якая ахапіла вялікую тэрыторыю Беларусі, Украіны, Літвы. Вялася яна з пераменным поспехам. У 1432 г., каб аслабіць рух на чале са Свідрыгайлам, ад імя Ягайлы быў выдадзены прывілей, што пацвярджаў папярэднія і дараваў новыя правы феадалам-католікам. Але разам з тым ён пашыраў на рускіх князёў і шляхту рускую ўсе "наданні, свабоды, прывілеі і выгады". 6 мая 1434 г. аналагічны прывілей быў падараваны і Жыгімонтам Кейстутавічам з тым, каб паміж літоўскімі і рускімі народамі не было "ніякага раздору ці непатрэбных страт у будучым, каб не пагаршаўся стан названых зямель, але каб яны карысталіся роўнымі міласцямі". Разам з маёмаснымі правамі праваслаўныя князі і баяры атрымалі правы карыстання гербамі і знакамі шляхецтва таксама, як і феадалы-



*Вялікі князь літоўскі Казімір*

католікі. У 1447 г. былі практычна ўраўнаваны іх эканамічныя і асабістыя правы з феадаламі-католікамі, хаця дыскрымінацыя пры назначэнні на дзяржаўныя пасады і палітычная няроўнасць працягвала існаваць.

Тым не менш ураўнаванне ў правах беларускіх феадалаў з літоўскімі было галоўным вынікам барацьбы пад кіраўніцтвам Свідрыгайлы. Пазней значная частка праваслаўных феадалаў усё ж адышла ад Свідрыгайлы. Справа ў тым, што ён быў захоплены ідэяй царкоўнай уніі (зліцця праваслаўнай царквы з каталіцкай), надта непапулярнай у народзе. Увогуле, грамадска-палітычны рух, які ўзначальваў Свідрыгайла, быў разнастайны як па сацыяльным і нацыянальным складзе ўдзельнікаў, так і па мэтах барацьбы. Кіруючае становішча займалі ў ім буйныя праваслаўныя феадалы, яны дабіваліся ўраўнавання сваіх палітычных, маёмасных, асабістых і рэлігійных правоў з феадаламі-католікамі. У стане Свідрыгайлы знаходзіліся і літоўскія князі і паны, амаль усе Гедымінавічы (Манівід, Гаштольд, Кежгайла і інш.), якія былі незадаволены паслухмянай палітыкай Жыгімонта ў адносінах з Польшчай. Сам Свідрыгайла змагаўся за княжацкі прастол. Барацьба феадалаў за вярхоўную ўладу мела характар феадальнай вайны. Але ўдзел у ёй шырокіх колаў насельніцтва заходнерускіх і беларускіх зямель надаваў ёй нацыянальна-рэлігійную афарбоўку і рысы нацыянальнага руху. Феадальная вайна не вырашыла, а толькі часткова аслабіла існаваўшыя ў Вялікім княстве Літоўскім палітычныя супярэчнасці. Барацьба і далей яшчэ доўга працягвалася.

Свідрыгайла ў выніку гэтай барацьбы пацярпеў паражэнне. Жыгімонт, каб умацаваць свае пазіцыі, меў намер увесці каталіцтва ва ўсёй дзяржаве. З гэтым былі не згодны патрыёты Вялікага княства Літоўскага. Яны падрыхтавалі тайную змову, галоўнымі дзеючымі асобамі ў якой былі князі-браты Іван і Аляксандр Чартарыйскія, віленскі ваявода Доўгірд і трокскі ваявода Лялуша. Жыгімонт быў забіты ў 1440 г. у яго замку ў Вільні.

Пасля смерці Жыгімонта палякі імкнуліся мацней падпарадкаваць Вялікае княства Літоўскае Кароне Польскай. Замест пасады вялікага







*Вялікі князь літоўскі Жыгімонт I Стары*

князя літоўскага яны хацелі ўвесці каралеўскае намесніцтва на чале з 13-гадовым Казімірам Ягайлавічам, малодшым братам польскага караля Уладзіслава IV. Але калі Казімір прыехаў у Вільню ў суправаджэнні вялікай світы палякаў, літоўскія патрыёты напалі іх і ноччу ў кафедральным саборы ўсклалі на каралевіча Казіміра шапку Гедыміна і абвясцілі яго вялікім князем літоўскім. Палякі былі пастаўлены перад учыненым фактам.

Абраўшы Казіміра вялікім князем літоўскім у 1440 г., літоўскія патрыёты хацелі мець яго суверэнным гаспадаром. У дапамогу яму для дзяржаўнага кіравання былі абраны асобыя міністры, якія склалі "тайную раду". Яна пачала выконваць свае абавязкі без дазволу польскага караля. У той час дынастычная унія скончыла сваё існаванне, і Вялікае княства Літоўскае стала незалежнай ад Польшчы дзяржавай.

Такое становішча працягвалася нядоўга. Кароль Уладзіслаў IV загінуў у баі з туркамі пад Варнай, і палякі выбралі ў 1447 г. на польскі прастол вялікага князя літоўскага Казіміра, што зноў аднавіла дынастычную унію. Велікакняжацкія патрыёты былі вельмі засмучаны, таму што гэта разбурала іх планы на аддзяленне Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы.

Апошняя спроба разарваць дынастычную унію была зроблена яшчэ праз 80 гадоў. Тады польскім каралём і вялікім князем літоўскім быў Жыгімонт I Стары (1506 –1548). Велікакняжацкая літоўская рада адправіла да яго пасольства ў 1526 г. з прапановай з'явіцца ў Вільню для вырашэння неадкладных дзяржаўных спраў і адпусціць свайго сына Жыгімонта Аўгуста для заняцця літоўскага прастола. Пры гэтым велікакняжацкая рада прасіла караля загадаць палякам, "абы они тую корону, которая послана Великому княжеству Литовскому (при Витовте), вернули к князю великому его милости, сыну вашея милости". Яна напамінала каралю, што палякі "давно замышляют присоединить княжество к Короне Польской, потому что одна корона не может быть вцелена в состав другой короны" (цыт. па: Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн.,



*Вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст*

1990. С.33). З гэтых слоў відаць, што велікакняжацкая рада мела намер абвясціць Жыгімонта Аўгуста каралём Вялікага княства Літоўскага і абʼявіць сваю дзяржаву каралеўствам. Па іх перакананні карона магла б выратаваць ВКЛ ад уключэння ў склад Польшчы.

Кароль выканаў просьбу велікакняжацкай рады, але ж зрабіў гэта на карысць Польшчы. У 1529 г. ён прывёз 9-гадовага каралевіча ў Вільню, дазволіў урачыста абвясціць яго вялікім князем, але на каранацыю не згадзіўся і звёз яго ў Польшчу. І толькі ў 1544 г., у адказ на настойлівыя патрабаванні вялікалітоўскіх паслоў на Берасцейскім сейме, кароль пагадзіўся адпусціць у Вільню свайго сына. У Вільні сын сеў на велікакняжацкі прастол і кіраваў дзяржаўнымі справамі пры дапамозе велікакняжацкай рады. Калі ў лютым 1548 г. кароль Жыгімонт I Стары памёр, агульным гаспадаром Польшчы і Вялікага княства Літоўскага стаў Жыгімонт II Аўгуст (1548 – 1572).

Такім чынам, грамадска-палітычнае жыццё ў Вялікім княстве Літоўскім у XIV – XVI стст. было напоўнена барацьбой цэнтрабежных і цэнтраімклівых тэндэнцый, вырашаць якую велікакняжацкая ўлада спрабавала пры дапамозе уніі з Польшчай. Унія замацавала вынікі папярэдняга развіцця ВКЛ і адначасова налажыла на іх кляймо польскай дзяржаўнасці. Яна яшчэ ў большай ступені ўмацавала магутнасць і ролю літоўскіх феадалаў, але ў дачыненні да беларускіх і заходнерускіх праводзілася дыскрымінацыйная палітыка. Патрабаваліся гады палітычнай барацьбы, якая потым перарасла ў феадальную вайну, каб зрабіць роўнымі ў маёмасных і рэлігійных правах беларускіх і літоўскіх феадалаў. Але ўсё ж поўнага ўраўнавання ў палітычных правах, нягледзячы на некаторыя ўступкі, так і не адбылося.





## § 2. Знешняя палітыка Вялікага княства Літоўскага

Знешняя палітыка Вялікага княства Літоўскага не была свабоднай ад уплыву на яе ўнутрыпалітычных працэсаў у дзяржаве.

Унія з Польшчай, нягледзячы на складаныя ўнутраныя вынікі, умацавала міжнародныя пазіцыі княства, дазволіла абʼяднаць сілы абедзвюх дзяржаў супраць агульных знешніх ворагаў.

У XIV – першай палове XV ст. галоўным ворагам, з якім Вялікаму княству Літоўскаму даводзілася весці напружаную барацьбу, былі рыцары Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў. У 1409 г. пачалася “вялікая вайна” паміж Польшчай, Вялікім княствам Літоўскім, з аднаго боку, і Тэўтонскім ордэнам – з другога. Вырашальны ўдар быў нанесены Тэўтонскаму ордэну ў бітве пад Грунвальдам (Польшча) 15 ліпеня 1410 г. Крыжакі былі разбіты ўшчэнт, пасля чаго ўжо не змаглі акрыяць. У складзе войска вялікага князя літоўскага на чале з Вітаўтам акрамя літоўскіх харугваў былі полацкая, віцебская, мсціслаўская, гарадзенская, берасцейская, пінская, навагародская, ваўкавыская, лідская і іншыя беларускія харугвы, а таксама рускія (смаленскія), украінскія, чэшскія войскі і татарская конніца. Асаблівую стойкасць выявілі смаленскія харугвы. Адна з іх цалкам загінула, дзве астатнія выстаялі. У выніку жорсткай бітвы войскі саюзнікаў прарвалі фронт крыжакоў, акружылі іх і знішчылі. У гэтым баі быў забіты і вялікі магістр ордэна Ульрых фон Юнгінген. Пасля паражэння пад Грунвальдам нямецкая агрэсія была спынена. Казімір, пераемнік Жыгімонта, давёў да канца справу Ягайлы і Вітаўта. Таруньскі мір 1466 г., які абумовіў далучэнне вусця Віслы да Польшчы і васальнае падпарадкаванне ёй Прывіслення, азначаў знікненне з арэны палітычнай барацьбы гэтага даўняга ворага Вялікага княства Літоўскага і Польшчы.

У сярэдзіне XV ст. працягваліся набегі татар на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага. Да гэтага часу Залатая Арда ўжо канчаткова распалася, на яе руінах у нізоўях Волгі ў другой чвэрці XV ст. сфарміравалася новая дзяржава – Вялікая Арда, якая працягнулася ад Волгі да Дняпра. Да 1459 г. ханам Вялікай Арды быў Саід-Ахмед, ён яшчэ да 40-х гадоў XV ст. рабіў набегі на паўднёвыя землі Вялікага княства Літоўскага і Галіцкую Русь. У 1455 г. у час аднаго з паходаў Саід-Ахмеда на ўкраінскія землі княства Літоўскага яго атрады былі разбіты войскамі кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча. Сам хан быў узяты ў палон у 1457 г., потым ён з няволі ўцёк. Набегі Вялікай Арды на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага на гэтым практычна спыніліся.

З другой паловы XV ст. у знешняй палітыцы Вялікага княства Літоўскага паўстае пытанне ўзаемаадносін з мацнеючым суседам на

*Вялікае княства Літоўскае ў другой палове XIV–XV ст.*








поўдні – Крымскім ханствам. Родапачынальнік дынастыі крымскіх ханаў Хаджы-Гірэй знаходзіўся першапачаткова ў сяброўскіх адносінах з Літоўскай дзяржавай. Пасля яго смерці ў Крыме пачалася дынастычная смута. У 1468 г. на ханскі прастол узышоў Менглі-Гірэй, які паступова скіраваў сваю палітыку да Рускай дзяржавы. У 1480 г. у выніку перамоў паміж Іванам III і Менглі-Гірэем быў заключаны абарончы саюз.

На працягу 1481 г. паміж Вялікім княствам Літоўскім і Крымам вяліся перамовы аб развіцці добрасуседскіх адносін. Абодва бакі рэгулярна пасылалі адзін аднаму пасольствы. Аднак ужо ў жніўні 1482 г. па дамоўленасці з Масквой Менглі-Гірэй пайшоў вайной на Кіеўскія землі, узяў Кіеў, разрабаваў яго і падпаліў. Пад націскам крымскіх татар паўднёвыя межы Вялікага княства Літоўскага, што пры Вітаўце працягнуліся да Чорнага мора па вусці Дняпра і Днястра, адступілі на поўнач. Амаль штогод крымскія татары наведвалі Кіеўшчыну, Падолію, Валынь, былі і далей, на Палессі. На беларускія землі толькі за перыяд з 1500 па 1569 г. татары зрабілі 45 набегаў. Яны суправаджаліся рабаўніцтвам і разбурэннем беларускіх сёл і гарадоў. Татары бралі ў палон мірнае насельніцтва і потым нярэдка прадавалі палонных у рабства. Татарская конніца лёгка праходзіла ў глыб Беларусі, паколькі на поўдні не было добрай абароны. У 1505 г. татары дайшлі да Мінска і Навагародка і ўзялі ў палон каля 100 тыс. мірных жыхароў. У 1521 г. татары спустошылі землі паміж Слуцкам і Пінскам. Цэнтральная ўлада ВКЛ для ўмацавання бяспекі на паўднёвых межах вымушана была стварыць казацкія заслоны. У 1527 г. літоўскімі, беларускімі і ўкраінскімі атрадамі было нанесена паражэнне крымскім татарам пад Каневам на Украіне. З гэтага часу апошнія ўжо не маглі рушыць далёка на поўнач. Пазней татарскія ханствы выкарыстоўваліся Вялікім княствам Літоўскім як інструмент усходняй палітыкі.

З канца XV ст. абвастрыліся адносіны паміж ВКЛ і Рускай дзяржавай. Таму было некалькі прычын.

Да канца XV ст. амаль скончылася палітычнае аб'яднанне Паўночна-Усходняй Русі пад уладай вялікага князя маскоўскага. Ён лічыў сябе нацыянальным рускім гаспадаром і ўзяў на сябе місію аб'яднання ўсіх рускіх зямель. Так гістарычна вылучыліся два цэнтры, вакол якіх сталі аб'ядноўвацца землі былой Старажытнарускай дзяржавы. Літоўскім князям на захадзе гэта ўдалося зрабіць хутчэй, чым на ўсходзе, дзе пазней скончыўся перыяд феадальнай раздробленасці і княствы доўга знаходзіліся пад мангола-татарскім прыгнётам. Два цэнтры не маглі ў рэшце рэшт не сутыкнуцца. Гэта стала адной з падстаў абвастрэння іх адносін. Ва ўмовах пашырэння цэнтралізатарскіх тэндэнцый у Рускай дзяржаве дыпламатыя ВКЛ імкнулася ўбіць клін у гэты працэс і падтрымаць тыя княствы Русі, якія засталіся яшчэ самастойнымі. Так, у 80-х гадах XV ст. цвярскі князь Міхаіл Барысавіч спрабаваў абаперціся на княства Літоўскае, процістаючы пашырэнню



*Вялікі князь літоўскі Аляксандр*

ўлады Івана III на сваю вотчыну. У 1483 г. быў заключаны дагавор аб палітычным саюзе і ўзаемадапамозе паміж Цвярскім княствам і Вялікім княствам Літоўскім. У адказ Маскоўскае княства пачало ваенныя дзеянні супраць Цверы і на працягу зімовай кампаніі 1484 – 1485 гг. разбурыла пагранічныя гарады Цвярскога княства. Міхаіл Барысавіч запрасіў міру, які і быў заключаны з Масквой 25 сакавіка 1485 г. Цвярское княства, паводле гэтага міру, захоўвала пэўную самастойнасць за выключэннем знешняй палітыкі. Саюзнае пагадненне з Вялікім княствам Літоўскім анулявалася, і быў заключаны абарончa-наступальны саюз з Масквой супраць Вялікага княства Літоўскага. Але Міхаіл Барысавіч хацеў захаваць рэшткі самастойнасці і адразу ж узнавіў сепаратныя перамовы з Вялікім княствам Літоўскім. Вынікам быў другі паход маскоўскага князя на чале з Іванам III на Цвер, пасля якога Цвярское княства было канчаткова далучана да Маскоўскай дзяржавы. Так на працягу XIV – XVI стст. адносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім і Рускай дзяржавай нярэдка насілі варожы характар. ВКЛ не хацела далейшага ўзмацнення Масквы і ў барацьбу ўцягвала ардынскага хана Ахмеда. Маскоўскія князі ў сваю чаргу заключалі саюзы супраць ВКЛ з крымскімі ханамі.

Другая прычына варожых адносін ВКЛ з Масквой была ў асаблівасцях вырашэння канфесійнага пытання ў Вялікім княстве Літоўскім. Маскоўскі вялікі князь прэтэндаваў на ролю адзінага праваслаўнага гасудара–абаронцу інтарэсаў праваслаўнага насельніцтва. У той жа час і само праваслаўнае насельніцтва Вялікага княства Літоўскага доўгі час не аддзяляла сябе па нацыянальна-рэлігійных адзнаках ад насельніцтва Рускай дзяржавы. Іх аб'ядноўвалі агульныя гістарычныя карані, традыцыйная культура і адзіная вера. Між тым у Вялікім княстве Літоўскім праваслаўная вера прыціскалася. Гэта абвастрыла рэлігійную барацьбу ў яе нетрах. Наступ каталіцызму і пашырэнне польскага ўплыву яшчэ больш узмацнілі незадаволенасць беларускіх праваслаўных феадалаў, якія і так былі ў нераўнапраўным становішчы з польскімі і літоўскімі феадаламі. Вялікі князь маскоўскі працягваў ім руку дапамогі. Некаторыя з беларускіх феадалаў па сваёй волі пераходзілі разам са сваімі маёнткамі пад уладу Масквы. З 1487 па 1493 г. у Маскву прыехалі служыць са сваімі вотчычамі князі Варатынскія, Бялеўскія, Мярэцкія, Вяземскія.





Канфрантацыя паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ прыняла спачатку да неабвешчанай прымежнай вайны працягласцю з 1487 па 1494 г. У 1487 г. пасольства ВКЛ дарэмна патрабавала ад Івана III управы на маскоўскіх князёў, якія рабілі набегі на воласці Вялікага княства Літоўскага. Іван III адказваў узаемнымі абвінавачваннямі. Такімі ж няўдалымі былі і наступныя пасольствы ў Маскву ў 1488, 1489, 1491, 1492 гг. У выніку вайны была зламана абарона ўсёй прымежнай літоўскай паласы з Маскоўскім княствам.

Прымежныя ваенныя сутычкі перараслі ў больш сур'ёзны канфлікт у 1492 г. пасля смерці вялікага князя літоўскага Казіміра. Выкарыстаўшы пераходны этап ва ўстанаўленні вярхоўнай улады, войскі Івана III зрабілі паспяховыя набегі на землі ВКЛ. Новы вялікі князь літоўскі Аляксандр Казіміравіч спяшаўся скончыць вайну. Перамовы аб спыненні ваенных дзеянняў скончыліся 12 лютага 1494 г. заключэннем мірнай і шлюбнай дамоўленасцей. Іван III выдаў сваю дачку Алену за Аляксандра Казіміравіча. Паводле мірнай дамоўленасці, Вялікае княства Літоўскае адмаўлялася на карысць Маскоўскага ад Вяземскага княства і часткі іншых княстваў. За Іванам III было прызнана права на Ноўгарад, Пскоў, Цвер і Разань. За маскоўскім гасударом замацоўваўся тытул "вялікага князя ўсяе Русі". Было дамоўлена, што абедзве дзяржавы дапамагаюць адна адной у барацьбе з татарамі. Гэта значная ўступка з боку Вялікага княства Літоўскага ў тэрытарыяльных і палітычных адносінах. Аднак супярэчнасці паміж дзвюма дзяржавамі зняты не былі. Іван III рыхтаваўся да вайны. З гэтай мэтай ён наладжваў адносіны са Швецыяй і Турцыяй, разлічваў на дапамогу Менглі-Гірэя.

У 1500 г. канчаткова былі разарваны адносіны паміж Рускай і Літоўскай дзяржавамі. Прычынай быў пераход шэрага буйных феадалаў Вялікага княства Літоўскага ў межы Рускай дзяржавы. Іван III прыняў іх на службу і абвясціў вайну Вялікаму княству Літоўскаму. У маі ім былі заняты Бранск і землі мажайскага князя, летам – Пуціўль, Мцэнск, Сярпейск, Гомель, Любеч, Ноўгарад-Северскі, Рыльск. На працягу аднаго паходу Русь заваявала паўднёвую частку Смаленскай зямлі і тэрыторыі Чарнігава-Старадубскага і Ноўгарад-Северскага княстваў. 14 жніўня 1500 г. адбыўся разгром літоўскага войска каля Смаленска. Пасля гэтага вайна працягвалася яшчэ два гады.

Рыхтуючы зімовую кампанію 1501 – 1502 гг., Іван III прапанаваў Менглі-Гірэю план сумесных дзеянняў. Татарскаму войску Менглі-Гірэя адводзіўся маршрут руху праз украінскія землі да Слуцка, Турава, Пінска, Мінска. За гэта крымскі хан патрабаваў згоды Івана III на спусташэнне Кіева і Северскай зямлі. Іван III адмовіўся, і гэта адразу ж скарысталі кіруючыя колы Вялікага княства Літоўскага і

заключылі сустрэчны саюз з Менглі-Гірэем супраць Масквы. ВКЛ заплаціла за гэты саюз ханству штогодняй данінай з Кіеўскай, Валынскай, Падольскай зямель з кожнага чалавека "па тры дзеньгі". Адначасова вялікі князь літоўскі дамовіўся з Вялікай Ардой і заключыў абарончы саюз з Лівонскім ордэнам супраць Івана III.

Ваенныя няўдачы 1500 г. прымусілі кіруючыя колы Вялікага княства Літоўскага аднавіць унію з Польшчай. 23 кастрычніка 1501 г. у Мельніку (Украіна) быў падпісаны дакумент пра ўмовы гэтай уніі. На польскі прастол быў абраны вялікі князь літоўскі з дынастыі Ягелонаў Аляксандр Казіміравіч. Абедзве дзяржавы абавязаліся праводзіць адзіную палітыку, мець агульную раду, сеймы і адзіную манету. Аднак магнаты Вялікага княства Літоўскага адмовіліся ратыфікаваць унію, паколькі, на іх погляд, яна азначала ліквідацыю літоўскай дзяржаўнасці. Таму мельніцкі акт здзейснены не быў, хаця палітыка дзвюх дзяржаў стала лепш каардынавацца.

Увогуле ж ваенная кампанія 1501 – 1503 гг. складвалася надта няўдала для Вялікага княства Літоўскага. У лістападзе 1501 г. яно цярпіць паражэнне пад Мсціславам. У чэрвені 1502 г. былы саюзнік Івана III, крымскі хан Менглі-Гірэй, канчаткова разбіў Вялікую Арду, саюзніцу ВКЛ. Няўдалым для княства быў і Смаленскі паход рускага войска, які вызначыў пералом у ваенных дзеяннях. У выніку 2 красавіка 1503 г. было заключана перамір'е тэрмінам на 6 гадоў. Яно шмат каштавала ВКЛ, бо княства вымушана было адмовіцца на карысць Масквы ад усёй верхняокскай Украіны, ад Чарнігава-Северскай зямлі, у тым ліку і ад Гомеля, ад значнай часткі Смаленскай і Віцебскай зямель. Усяго Вялікае княства Літоўскае саступіла Маскве 19 гарадоў, 70 валасцей, 22 гарадзішчы, 13 сёл. Такім чынам, да Масквы адыходзіла тэрыторыя на ўсім працягу мяжы Вялікага княства Літоўскага, што была населена рускімі, украінцамі і беларусамі. Гэта мела для Масквы вялікае стратэгічнае значэнне, таму што давала магчымасць весці актыўную наступальную палітыку. Вялікае княства Літоўскае губляла важныя ў стратэгічным сэнсе тэрыторыі, што складалі каля 1/4 плошчы ўсёй дзяржавы. Гэта рабіла безабароннай яе ўсходнюю мяжу, якая наблізілася да галоўных цэнтраў дзяржавы.

Палітыку Івана III (ён памёр 27 кастрычніка 1505 г.) прадоўжыў яго сын Васілій III. 19 жніўня 1506 г. у Вільні памёр Аляксандр Казіміравіч. Васілій III спрабуе выкарыстаць гэта і праз сваю сястру, Алену Іванаўну, удаву Аляксандра, радыкальна вырашыць адносіны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім. Абапіраючыся на беларускіх, украінскіх магнатаў і шляхту, ён вырашыў завалодаць літоўскім прастолам. Але план не здзейсніўся. На прастол быў абраны малодшы брат Аляксандра – Жыгімонт. 8 снежня 1506 г. Жыгімонт абіраецца польскім каралём. Абедзве дзяржавы адразу пачалі рыхтавацца да новай вайны. Жыгімонт пайшоў на саюз з рускімі ўдзельнымі князямі: з братам Васілія III, Юрыем Іванавічам, удзельным князем дзмітраўскім, звянігарадскім, сярпейскім і бранскім, абяцаючы дапамагчы яму ў заваёве рускага прастола. У сваю чаргу Васілій III уступае ў блок з М.Л.Глінскім, усемагутным фаварытам Аляксандра, што патрапіў у няміласць пры яго пераемніку Жыгімонту.





Ваенная кампанія пачалася ўвесну 1507 г. Яна была цесна звязана з феадальным паўстаннем у Вялікім княстве Літоўскім 1508 г., якім кіраваў князь Міхал Львовіч Глінскі. Разам са сваімі братамі і прыхільнікамі ён прысягнуў Васілію III. Паўстанцы замацаваліся ў Тураве, Мазыры, занялі Клецк, аблажылі Жытомір і Оўруч. Глінскі спрабаваў авалодаць Слуцкам і Мінскам, але гэта яму не ўдалося. Рускія войскі разам з атрадам Глінскага дзейнічалі на Беларусі, даходзілі да Вільні. Але ж вырашальнай бітвы так і не адбылося. Вайна 1507 – 1508 гг. скончылася "адвечным мірам", што быў заключаны ў Маскве 8 кастрычніка 1508 г. Вялікае княства Літоўскае афіцыйна прызнала пераход да Расіі зямель, далучаных да яе ў выніку войнаў канца XV – пачатку XVI ст. Вялікае княства Літоўскае атрымала тэрыторыю пяці смаленскіх валасцей.

Аднак Васілій III меў на мэце захоп Смаленска, буйнога эканамічнага і стратэгічнага цэнтра каля заходніх межаў сваёй дзяржавы, і рыхтаваўся да новай вайны. 19 снежня 1512 г. руская армія на чале з вялікім князем рушыла да Смаленска. Але першая спроба штурму не ўдалася. Новая кампанія пачалася ўлетку 1513 г. і таксама была безвыніковая. Спустошыўшы наваколле, Васілій III з войскам вярнуўся ў Маскву. Трэцяя кампанія па захопу Смаленска пачалася 16 мая 1514 г., і пасля працяглага штурму, 30 чэрвеня 1514 г., Смаленск капітуляваў. Васілій III рушыў на захад да Оршы і Друцка. Каля Оршы адбылася грандыёзная бітва, дзе маскоўскія войскі пацярпелі поўнае паражэнне. Але, нягледзячы на гэта, усе спробы ВКЛ вярнуць заваяваныя Масквой землі былі дарэмныя. У 1522 г. было заключана пяцігадовае перамір'е, якое потым было прадоўжана яшчэ да 1533 г. Смерць Васілія III і смуты ў Маскоўскай дзяржаве пры яго малалетнім пераемніку штурхнулі Вялікае княства Літоўскае да яшчэ адной спробы вяртання заваяванага Масквой. Ваенныя дзеянні працягваліся 4 гады. Літоўскае княства вярнула толькі Гомель і некаторыя нязначныя воласці на ўсходзе. У 1537 г. зноў было заключана перамір'е на 5 гадоў да 25 сакавіка 1542 г. Яно працягвалася да самай Лівонскай вайны.

Такімі былі асноўныя напрамкі знешняй палітыкі Вялікага княства Літоўскага ў XIV – XVI стст. Як бачым, прыярытэты ў ёй мяняліся. У XIV ст. яно вяло напружаную барацьбу з нямецкімі ордэнамі і татарскімі ханствамі. У канцы XIV – XV ст. ВКЛ было занята адносінамі з Польшчай, праблемай літоўска-польскага саюзу, які б дапамог вырашыць шмат знешніх і ўнутраных праблем. На працягу больш за сто гадоў Вялікае княства Літоўскае знаходзілася ў стане персанальнай уніі з Польшчай. Галоўным напрамкам знешнепалітычнай дзейнасці Вялікага княства Літоўскага сталі

адносіны з мацнеючай Маскоўскай дзяржавай, канкурэнтам у справе аб'яднання рускіх зямель. Доўгі час кіруючыя колы Вялікага княства Літоўскага ўпарта не хацелі прызнаць тытул "гасудара ўсяе Русі" за вялікім князем маскоўскім. А к сярэдзіне XVI ст. яны вымушаны былі сутыкнуцца ўжо з жаданнем рускага цара Івана IV далучыць беларускія і ўкраінскія землі. Гэта сведчыла пра ўмацаванне Рускай дзяржавы і аслабленне Вялікага княства Літоўскага аж да пагрозы яго існаванню. Да сярэдзіны XVI ст. яно ўжо не магло супрацьстаяць на роўных Рускай дзяржаве. Логіка барацьбы з ім і міжнародныя абставіны вымусілі Вялікае княства Літоўскае да больш цеснага дзяржаўнага аб'яднання з Польшчай.

# ГЛАВА 3

# САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У СКЛАДЗЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

## § 1. Асаблівасці дзяржаўнага і саслоўнага ладу Вялікага княства Літоўскага

У XIV – першай палове XVI ст. завяршылася фарміраванне адносін феадальнай уласнасці, катэгорый феадалаў і залежнага насельніцтва, а таксама форм іх землеўладання і землекарыстання. Як выглядала сацыяльная структура феадальнага грамадства? Якую ролю ў палітычным, эканамічным жыцці Вялікага княства Літоўскага выконвалі розныя групы насельніцтва?

На Беларусі ў XIV – XVI стст. зямля, галоўны сродак вытворчасці ў феадальную эпоху, належала дзяржаве, феадалам і царкоўным арганізацыям. Невялікай яе часткай валодалі гарады і гараджане. Уласнікі зямлі склалі пануючы клас феадальных уладальнікаў. Ён быў невялікім колькасна і складаў каля 10 % насельніцтва. Асноўная частка грамадства была прадстаўлена прадукцыйным класам – сялянствам, якое карысталася зямлёй і стварала феадальную рэнту. Класы не былі аднародныя па сваім складзе. Яны падзяляліся на групы паводле маёмаснага і прававога становішча.

У дадзенай главе мы спынімся на катэгорыях феадалаў, якія адыгрывалі вырашальную ролю ў палітычным жыцці Вялікага княства





Літоўскага. Пра розныя пласты сялянскага насельніцтва гаворка пойдзе далей.

На чале класа зямельных уласнікаў стаяў вялікі князь літоўскі (гаспадар), які з'яўляўся вярхоўным уладаром усёй зямлі ў дзяржаве, а таксама меў свае ўласныя зямельныя ўладанні (гаспадарскі дамен). Усе феадалы дзяліліся з вялікім князем часткай феадальнай рэнты. З гаспадарскага дамена ўвесь прыбытак збіраўся на карысць вялікакняжацкай улады і выкарыстоўваўся як на прыватныя мэты князя, так і на дзяржаўныя. Гэтыя землі атрымалі статус дзяржаўных.

Прыступкам ніжэй на іерархічнай лесвіцы стаялі буйныя феадалы – князі і зямельныя магнаты, што валодалі зямлёй на правах вотчыны (спадчыннага ўтрымання). Далей ішлі баяры, самая шматлікая група пануючага класа. Ад князёў яны адрозніваліся тым, што валодалі зямлёй умоўна (пры ўмове нясення вайсковай службы ў князя ці буйных магнатаў). Гэта быў прыклад часовага ўтрымання. Баярства паводле маёмаснага становішча было таксама неаднародным. Былі буйныя баяры, якія стаялі блізка да князёў, сярэднія, што складалі асноўную частку баярства. Але былі і такія, што мала адрозніваліся ад сялян і самі апрацоўвалі зямлю. Гэта група мела польскую назву "шляхта". Пасля шляхтай пачалі называць феадалаў, што належалі да ваенна-служылага саслоўя. Руская назва "баярства" паступова выйшла з ужытку.

Пануючы стан класа зямельных уласнікаў, феадалаў, быў замацаваны законам. Характэрна, што ў Вялікім княстве Літоўскім доўгі час не было адзінага заканадаўства. Прывілеі, што давалі вялікія князі асобным землям і саслоўям, грунтаваліся на Рускай Праўдзе і мясцовых звычаях. Судзебнік 1468 г. Казіміра (1440 – 1447 – вялікі князь літоўскі, 1447 – 1492 – і кароль польскі) хоць і пашыраўся на ўсю тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага, але кадыфікаваў толькі феадальнае права. Першым сістэматызаваным агульнадзяржаўным зборнікам законаў феадальнага права стаў Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г., які потым меў другую (1566) і трэцюю (1588) рэдакцыі.

Роля ў палітычным жыцці розных груп феадалаў не заставалася нязменнай. Адбывалася пэўная эвалюцыя з развіццём палітычных працэсаў, якая прыводзіла да ўзвышэння новых груп зямельных уласнікаў за кошт страты прэстыжу папярэдніх. А гэта ў сваю чаргу адлюстроўвалася на развіцці палітычных інстытутаў і дзяржаўнага ладу Вялікага княства Літоўскага, вызначала яго спецыфіку ў параўнанні з іншымі феадальнымі манархіямі.

Ужо адзначалася, што ў сваім тэрытарыяльным афармленні Вялікае княства Літоўскае на сто з лішнім гадоў апярэджвала Маскоўскую дзяржаву. Але з самага пачатку гэта аб'яднанне не было такім трывалым, як аб'яднанне Паўночна-Усходняй Русі вакол Масквы. Захаванню адноснай самастойнасці ўдзелаў спрыяла і сістэма спадчыннасці, прынятая ў ВКЛ. Пасля смерці ўладальніка зямлі не размяркоўваліся

паміж нашчадкамі, як у Расіі, дзе ўдзельная сістэма стала пануючай. Часам тое ці іншае княства наогул не трапляла ў рукі да нашчадкаў. Вялікія князі літоўскія шырока выкарыстоўвалі сістэму намесніцтва. Нават раздача Гедымінам зямель сваім сынам не мела характару выдзелу ім спадчынных надзелаў, хутчэй гэта былі намесніцтвы. Пасля смерці дзяцей Гедыміна іх княствы таксама не дзяліліся паміж нашчадкамі. Часцей на прастоле заставаўся адзін з унукаў Гедыміна, астатнія сыходзілі "карміцца" ў іншыя месцы. Таму князі, не валодаючы поўным правам уласнасці на выдзеленыя ім землі, стараліся не ўводзіць сваіх парадкаў, кіраваліся мясцовымі звычаямі.

Характар дзяржаўнага ладу не заставаўся нязменным. Ён паступова эвалюцыяніраваў пад уплывам барацьбы цэнтрабежных і цэнтраімклівых тэндэнцый. Цэнтральная ўлада на працягу ўсяго гэтага перыяду імкнулася рознымі спосабамі ўмацаваць дзяржаўны саюз, шчыльней звязаць усе землі вакол цэнтра. Гэтаму павінна была спрыяць і унія з Польшчай. Але, на жаль, яна толькі ўзмацніла цэнтрабежную тэндэнцыю.

Страта пэўнай часткі самастойнасці літоўскімі і беларускімі князямі і магнатамі выклікала моцную апазіцыю цэнтральнай уладзе.

Дзяржаўная кансалідацыя зрабіла пасяховыя крокі пры князю Вітаўце. Аднаўленне літоўскага прастола, паводле Востраўскага пагаднення 1392 г., наблізіла яго да феадалаў княства, умацавала сацыяльную базу цэнтральнай улады. Наступным сур'ёзным крокам Вітаўта ў напрамку цэнтралізацыі Вялікага княства Літоўскага стала ліквідацыя абласных княжанняў. Гэтым літоўскі князь значна ўмацаваў матэрыяльную аснову сваёй улады. Зараз у яго скарбніцу паступалі ўсе прыбыткі, якія раней ішлі абласным князям: пазямельныя, мытныя, гандлёвыя, судовыя, царкоўныя і іншыя зборы. Матэрыяльная база спрыяла росту велікакняжацкай улады як палітычнага фактару. Каранацыя Вітаўта, якая павінна была адбыцца, з'яўлялася паказчыкам як яго асабістай, так і дзяржаўнай магутнасці Вялікага княства Літоўскага.

Аднак рост велікакняжацкай улады ў канцы XIV – пачатку XV ст. не прывёў да ўсталявання спадчыннай і неабмежаванай манархіі, як гэта здарылася ў суседняй Расіі. Там манарх быў неабмежаваным уладаром, распараджаўся жыццём і маёмасцю сваіх падданых. Вялікае княства Літоўскае, нягледзячы на поспехі ў цэнтралізацыі, дасягнутыя Вітаўтам, паступова набывала статус абмежаванай, канстытуцыйнай манархіі. Чым гэта растлумачыць?

Узвышэнне велікакняжацкай улады адбылося ў Вялікім княстве Літоўскім пасля уніі з Польшчай. Але унія не ўстанаўлівала спадчыннага права на літоўскі велікакняжацкі прастол. Магчыма, не апошнюю ролю адыграла ў гэтым адсутнасць у Вітаўта сыноў. Але як бы там ні было, унія прадугледжвала ўзвядзенне прэтэндэнта на велікакняжацкі трон са згоды польскіх паноў і караля польскага.





Так была закладзена аснова не спадчыннай, а выбарнай велікакняжацкай улады.

У развіцці гэтага працэсу нечаканую і дастаткова сур'ёзную ролю адыграў сам факт скасавання абласных княжанняў, які быў задуманы з мэтай цэнтралізацыі. Ён меў непрадбачаныя для Вітаўта вынікі. Страціўшы сацыяльную базу ў асобе буйных землеўладальнікаў, князёў, ён зрабіў стаўку на іншую сацыяльную сілу – баярства, шляхту. На працягу XV – XVI стст. ішоў працэс пашырэння саслоўных і палітычных правоў гэтай групы пануючага класа за кошт астатніх. Гарадзельскі прывілей 1413 г. забяспечваў не толькі маёмасныя і асабістыя, але і саслоўна-палітычныя правы баярства. Яно цяпер займала месца князёў пры вялікім гаспадары, ва ўстановах дзяржаўнай улады і кіравання. Але баярства не было аднародным. Гарадзельскі прывілей зацвердзіў правы ўласнасці на землі толькі самым уплывовым прадстаўнікам гэтага саслоўя, буйнейшым зямельным уласнікам (магнатам). Сярэдняе і радавое баярства, вядомае пад назвай шляхты, заставалася спачатку пад уладай вялікага князя, які рэгуляваў з ёй адносіны, зыходзячы з ваенна-палітычных і часткова фінансавых меркаванняў. Потым яго месца і роля пачалі мяняцца. Шляхецкае саслоўе павялічвалася і ўзвышалася палітычна. Прывілеі 1413, 1432, 1434, 1447 гг. ураўнавалі ў правах руска-літоўскую шляхту з адпаведным саслоўем у Польшчы. Адзнакай шляхецтва стала не толькі прыналежнасць да таго ці іншага герба, але і проста баярская вайсковая служба. Паступова баяры-шляхта перапляліся з верхнімі пластамі сялянства, ад якога яны адрозніваліся толькі тым, што пры любых абставінах заставаліся вольнымі людзьмі і ім была гарантавана асабістая і маёмасная недатыкальнасць.

Фактарам, што спрыяў узвышэнню ваенна-служылага саслоўя, сталі войны, якія Вялікае княства Літоўскае ўвесь час вяло і якіх стала асабліва шмат з канца XV ст. Да таго ж велікакняжацкая ўлада бачыла ў шляхце асноўную сілу ў барацьбе з магнатамі – буйнымі зямельнымі ўласнікамі. Выкарыстоўваючы гэта, шляхта дабілася спадчыннага права на зямлю, стала пераўтвараць яе ў вотчыны. Выпрасіла для сябе і прывілеі ў гандлю: Жыгімонт II даў ёй права бяспошліннага вывазу за мяжу лесу, збожжа, жывёлы і ўвозу імпартных тавараў.

Паступова шляхта ўзвышаецца палітычна. З 1511 г. была ўстаноўлена выбарнасць дэпутатаў вальнага сейма на павятовых сейміках, дзе ў асноўным засядала шляхта. Прывілей 1547 г. ураўняў у правах праваслаўную шляхту з каталіцкай. З 1563 г. шляхце давалася магчымасць займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады. Урэшце, у першай палове XVI ст. шляхта была ўраўнавана ў правах з магнатамі, ёй гарантавалася палітычная, асабістая і маёмасная недатыкальнасць. У Статуце 1529 г. тэрмін "шляхта" ўжываецца ў дачыненні да ўсіх феадалаў Вялікага княства Літоўскага. Так быў завершаны працэс афармлення і кансалідацыі розных колаў пануючага класа ў адно шляхетнае прывілеяванае саслоўе. Тым не менш унутрысаслоўнае становішча

феадалаў не заставалася аднолькавым. За магнатамі захоўвалася кіруючая палітычная роля ў дзяржаве. Яны падлягалі асобнай юрысдыкцыі.

**Якім чынам змена роляў розных катэгорый і груп класа феадалаў паўплывала на развіццё дзяржаўнага ладу Вялікага княства Літоўскага?**

Палітычны лад Вялікага княства Літоўскага – феадальная манархія, якая мела шэраг асаблівасцей у параўнанні з суседняй Маскоўскай дзяржавай. Скасаванне абласных княжанняў не суправаджалася пераносам іх функцый кіравання ў цэнтр, як гэта адбывалася ў Рускай дзяржаве. У руках вялікага князя не канцэнтравалася шмат штодзённай працы, як у маскоўскага гасудара і яго думы. Таму ў Вялікім княстве Літоўскім не стваралася амаль ніякіх цэнтралізаваных устаноў. Галоўным кіраўніком княства лічыўся вялікі князь літоўскі. Ён узначальваў узброеныя сілы, мог абвяшчаць вайну, заключаць мір, уступаць у саюзы з іншымі дзяржавамі. У XIV ст. пры ім існавала велікакняжацкая дума па аналогіі з маскоўскай. Але ж, у адрозненне ад апошняй, дума ў Вялікім княстве Літоўскім не была дзяржаўнай структурай (установай). Гэта была рада пры вялікім князю, да якой ён далучаў усіх (з яго пункту погляду) карысных і патрэбных людзей. На першым этапе галоўную ролю ў думе адыгрывалі князі. З умацаваннем Вітаўта на прастоле пасля пагрому абласных князёў велікакняжацкая дума стала пераважна складацца з вядомых баяр, якія дапамагалі Вітаўту сесці на прастол. Паступова баярства дабівалася ўсё большых прывілей і абмяжоўвала ўладу вялікага князя.

Дума трансфармавалася ў прадстаўнічую ўстанову – паны-раду. Назва і структура гэтай установы мелі яўны польскі ўплыў. У Гарадзельскім прывілеі 1413 г. было запісана толькі адно абмежаванне на доступ у раду: "в совещании о государственных делах должны допускаться только католики на том основании, что разница веры порождает разномыслие и во всем остальном, и иноверцы не держат государственных тайн". Такім чынам, для беларускага праваслаўнага баярства ўваход туды быў закрыты. У склад рады ўваходзілі каталіцкі епіскап, ваяводы, кашталяны (камандзіры мясцовых палкоў), дзяржаўныя чыны: маршалкі (старшынствуючыя на пасяджэннях рады і сейма), канцлер (кіраўнік дзяржаўнай канцылярыі), гетман (камандуючы ўзброенымі сіламі), падскарбі (кіраўнік фінансаў), старосты і інш. Назвы дзяржаўных чыноў таксама былі польскія. У звычайны час рада складалася з вузкага кола людзей пры вялікім князю. Але асноўныя справы вырашаліся поўным зборам гаспадарскай рады. Такія сходы называліся сеймамі паны-рады.

Асаблівую ролю ў сістэме дзяржаўнага кіравання меў вальны сейм. На яго пасяджэннях удзельнічалі ўсе сябры рады, важнейшыя чыны цэнтральнага і мясцовага кіравання, прадстаўнікі каталіцкага і праваслаўнага духавенства, а таксама па два дэпутаты ад шляхты з кожнага павета. Сейм абмяркоўваў галоўныя пытанні ўнутранай





палітыкі, заканадаўчыя акты, устанаўліваў падаткі, вырашаў судовыя справы, выбіраў вялікага князя і зацвярджаў кандыдатаў на важнейшыя дзяржаўныя пасады. Так палітычны рэжым Вялікага княства Літоўскага ўсё больш прымаў абрысы парламенцкай манархіі. Прывілеі 1413, 1432 гг. ставілі пэўныя межы для велікакняжацкай улады ў дачыненні да асобы, маёмасці і дзяржаўных павіннасцей.

Вялікія князі літоўскія, выбраныя на польскі прастол, стараліся ўлагоджваць феадалаў княства, каб мець магчымасць "сядзець адразу на двух крэслах" і трымаць абедзве дзяржавы "ў саюзе і любові". Прывілеем 1447 г. Казімір дараваў феадалам розных катэгорый усе правы і вольнасці, якімі ў Каралеўстве Польскім валодалі адпаведныя саслоўі. Дзякуючы гэтым уступкам вялікі князь страціў уладу над значнай часткай насельніцтва, якая трапіла пад уладу землеўладальнікаў. Сяляне, аддадзеныя прыватным уласнікам, вызваляліся ад дзяржаўных павіннасцей. Вялікі князь страціў крыніцу папаўнення казны і быў пастаўлены ў матэрыяльную залежнасць ад землеўладальнікаў-феадалаў, да якіх вымушаны быў звяртацца, калі зусім спустошвалася казна. Феадалы ж атрымалі магчымасць дабівацца ад князя ўсё новых правоў, вольнасцей і прывілеяў.

Прывілей 1492 г. устанавіў, што толькі рашэнні гаспадара з паны-радай маюць сілу закону, які быў абавязковым і для самога вялікага князя. Ён не меў права іх мяняць без згоды з радай. Прывілей 1506 г. пайшоў яшчэ далей: ён увёў катэгарычнае правіла – усе законы і распараджэнні агульнага характару павінны выдавацца князем толькі са згоды паны-рады. У Статуце 1529 г. гаварылася аб неабходнасці выдаваць прывілеі выключна на вальным сейме. Так развіццё канстытуцыяналізму, пачатак якому быў пакладзены ў XV ст., прымала ўсё больш акрэсленыя абрысы.

У дзяржаве, прасякнутай прынцыпамі федэралізму, натуральна, перавагу павінна было атрымаць мясцовае кіраванне як па ліку устаноў, так і па выканаўчых функцыях. Арганізацыя мясцовага кіравання была дастаткова складанай. У краіне захоўваліся яшчэ некаторыя старажытныя княствы на чале з князямі, праўда пазбаўленымі былых сваіх прывілеяў. Частка княстваў была ператворана ў ваяводствы на чале з ваяводамі. Больш дробнай тэрытарыяльнай адзінкай былі паветы, галоўнай асобай у якіх з'яўляўся староста. Мясцовыя войскі ўзначальвалі кашталяны. Зборам падаткаў займаліся ключнікі. Мелася мноства і іншых пасад, праз якія вялося кіраванне на месцах: сельскія старосты, намеснікі-дзяржаўцы, цівуны, соцкія, дзесяцкія, войты, старцы. Асобнае кіраванне мелі некаторыя гарады.

Мясцовае кіраванне таксама мела свой прадстаўнічы орган – сеймік. Сеймікі збіраліся ў ваяводствах і паветах. У іх працы ўдзельнічалі ўсе мясцовыя феадалы. На сейміках выбіраліся дэпутаты ў вальны сейм.

Такім чынам, у XIV – XVI стст. у Вялікім княстве Літоўскім склалася дакладная і акрэсленая сістэма прадстаўнічай манархіі.

Прадстаўнічыя ўстановы сур'ёзна абмяжоўвалі ўладу вялікага князя, спрыялі замацаванню федэратыўных асноў дзяржавы, якія мелі тэндэнцыю да легітымнага развіцця. Гэта вынікала з умоў, у якія было пастаўлена княства, г.зн. з поліэтнічнасці манархіі, з наяўнасці моцнай і шматлікай зямельнай арыстакратыі, выбарнасці велікакняжацкай улады і цесных палітычных зносін з канстытуцыйнай Польшчай.

Як бачым, ход унутранага развіцця і яго вынікі ў княстве значна адрозніваліся ад сучаснай яму Маскоўскай дзяржавы. Апошняя развівалася ўсё больш у бок манархічнага абсалютызму (эпоха Івана Грознага). Выхаваныя на мясцовым патрыятызме, а не на агульнадзяржаўным, феадалы Вялікага княства Літоўскага ў складаны час ахвяравалі не сваімі асабістымі і маёмаснымі правамі, а дзяржаўнай незалежнасцю, калі ўвайшлі ў Карону Польскую.

## § 2. Эканамічнае развіццё беларускіх зямель. Станаўленне фальварачна-паншчыннай гаспадаркі і масавае запрыгоньванне сялян. Беларускі феадальны горад

У феадальную эпоху галоўным сродкам вытворчасці і галоўным багаццем краіны была зямля. Манапольнае права ўласнасці на зямлю належала класу феадалаў. Асноўным прадукцыйным класам, які працаваў на зямлі і выдаваў прадукцыю, было сялянства. Яго права ўласнасці на зямлю абмяжоўвалася адносінамі землекарыстання. Першапачаткова вялікі князь літоўскі лічыўся вярхоўным уласнікам усёй зямлі. У велікакняжацкім дамене ён наглядаў за ўласнай гаспадаркай, ворнымі землямі і іншымі надзеламі. Аканомы арганізоўвалі мясцовае насельніцтва для працы на яго палях, сенажацях, у садах, агародах, збіралі, захоўвалі ці прадавалі ўраджай, прыплод жывёлы, здабытак з лясоў і рэк. Акрамя ўласнай гаспадаркі вялікі князь літоўскі меў прыбытак ад маёнткаў, абкладаючы натуральнымі і грашовымі зборамі падуладных яму сялян, мяшчан, рамеснікаў, ваенна-служылых людзей.

З канца XIV ст. побач з велікакняжацкай стала прызнавацца і прыватная ўласнасць на зямлю: княжацкая, баярская, царкоўная. Прыватныя ўладанні раслі на вольных землях, а таксама за кошт княжацкага дамена, якія адпаведна скарачаўся. Паколькі вялікі князь літоўскі не зрабіўся спадчынным манархам, таму і гаспадарскія маёнткі рана набылі характар дзяржаўных, яны абслугоўвалі патрэбы не толькі велікакняжацкага двара, але і ўсёй дзяржавы. Паступова ўся зямля ў Вялікім княстве Літоўскім падзялілася на катэгорыі ў залежнасці ад таго ці іншага ўладальніка: дзяржаўную (гаспадарскую), прыватнаўласніцкую і царкоўную. Сяляне, якія жылі на гэтых





землях, адпаведна называліся дзяржаўнымі, прыватнымі, царкоўнымі. Разам з тым сяляне падзяляліся на катэгорыі ў адпаведнасці са сваім маёмасным і падатным становішчам, а таксама ў залежнасці ад той ступені асабістай свабоды, якой яны карысталіся. На ўсіх прыватнаўласніцкіх землях катэгорыі сялянскага насельніцтва былі прыблізна аднолькавыя.

Поўнай уласнасцю феадалаў была чэлядзь нявольная. Яна не вяла сваёй уласнай гаспадаркі і жыла пры дварах феадалаў. З чэлядзі складалася першапачатковая сіла феадальнай гаспадаркі. Крыніцы набору гэтага саслоўя былі тыя ж, што і ў Рускай дзяржаве: купля-продаж, шлюб з нявольным чалавекам, нараджэнне ў няволі, пакаранне за злачынства. Акрамя працы на полі чэлядзь выконвала і іншыя функцыі ў гаспадарцы: апрацоўвала агароды, сады, пасвіла статкі і г.д. Жанчыны ткалі лён. Жыла чэлядзь і пры гаспадарскім двары, і на сяле. У некаторых былі свае дамы, рухомасць, нават невялікія надзелы-"прыробкі" на пустых землях. Іншыя не мелі нічога. Утрымлівалася чэлядзь нявольная месячынай, якая была формай аплаты яе працы. Месячыну плацілі ў асноўным хлебам, які адпускаўся з запасау гаспадарскага двара. Чэлядзь, у якой былі свае "прыробкі", мела меншую месячыну, чым тая, што не мела нічога. Гэта група насельніцтва была невялікая. Яна цалкам далучалася да гаспадара, пазбаўлялася волі пераездаў і права ўладкавання свайго лёсу. Чэлядзь нявольная не мела маёмасці і правоў абароны.

Асноўную частку сялянскага насельніцтва складалі цяглыя сяляне ўсіх найменняў. У параўнанні з нявольнай чэляддзю яны мелі меншую ступень асабістай залежнасці ад уладальніка. Акрамя таго, яны карысталіся зямельнымі надзеламі, рознымі па памеры і гаспадарчым прызначэнні. Сялянскія надзелы складаліся звычайна з сядзібнай і агароднінай зямлі, поля, сенажаці, часам бабровых і рыбных угоддзяў.

Для сялянскага землекарыстання была характэрна надзвычайная цераспалосіца ў размеркаванні надзелаў і сядзіб. Сялянскія надзелы перапляталіся не толькі адзін з адным, але і з землямі іншых уласнікаў. Такі зямельны лад складваўся гістарычна, на працягу доўгіх часоў і з'явіўся вынікам свабоднага займання і распрацоўкі пустэч і палеткаў цэлым шэрагам сялянскіх пакаленняў. Схематычна гэта можна паказаць так. Сялянскія сем'і сяліліся ў пэўным месцы, будавалі сяло, а потым займаліся распрацоўкай навакольных зямель. Зямля, узараная сям'ёй, а таксама расчышчаная ёю сенажаць становяцца яе набыткам. З ростам сям'і і ўзнікненнем новых патрэб распрацоўваліся палеткі ў больш аддаленых месцах, паколькі бліжэйшыя ўжо былі заняты суседзямі. Так з павелічэннем насельніцтва сяла пашыраўся і раён яго гаспадарчай дзейнасці, пакуль не даходзіў да межаў, дзе пачыналіся надзелы іншага сяла ці непрыдатныя для апрацоўкі зямлі.

Велікакняжацкая ўлада ў Вялікім княстве Літоўскім да другой паловы XVI ст., за малым выключэннем, не прымала планамернага

17 Зак 5560

ўдзелу ў землеўпарадкаванні сялянства, не выдзяляла і не адмярала ім зямлі. Яна мела справы з сялянамі, якія стыхійна занялі землі і надзелы, і толькі абкладала іх падаткамі і павіннасцямі ў залежнасці ад велічыні і якасці зямель і колькасці падатнага насельніцтва з “дыму” (сялянскай гаспадаркі). Уся зямля, як і тая, што знаходзілася ў карыстанні асобнай сям’і, ці “дыму”, так і тая, якой карысталіся ўсе жыхары сяла (лясы, балоты, азёры, рэкі і г.д.), лічылася маёмасцю складаных **сялянскіх згуртаванняў-абшчын**. Абшчына несла адказнасць за своечасовае выкананне сялянскіх павіннасцей, а пазней стала браць удзел і ў землеўпарадкаванні сялянства.

За карыстанне зямлёй сяляне абавязаны плаціць уласніку пэўную рэнту. Формы рэнты былі розныя і падзяляліся на тры асноўныя віды: адработачную, грашовую і прадуктовую. **Адработачная рэнта** – адна з самых распаўсюджаных на Беларусі. Яна называлася паншчынай. Паншчыну селянін павінен быў адрабіць у гаспадарскім маёнтку. Часцей за ўсё гэта былі палявыя работы, на якіх селянін быў двойчы на тыдзень разам з канём і сваімі прыладамі: сякерай, сярпом, касой, бараной. Цяглыя сяляне адбывалі паншчыну не толькі на полі. Некаторыя з іх спецыялізаваліся на асобных відах паншчынных работ і ў залежнасці ад спецыялізацыі атрымлівалі назвы: конюхаў, кабыльнікаў, пастухоў, свінароў, бортнікаў, рыбаловаў, пташнікаў, сакольнікаў, дзегцяроў, руднікоў, клепачоў, садоўнікаў, агароднікаў і г.д. Па сутнасці, паншчына ў традыцыйным разуменні земляных работ часта замянялася адмысловай рамеснай працай. Ва ўласніцкіх маёнтках, як правіла, былі ў наяўнасці пекары, піавары, кавалі, ганчары, ткачы, кажамякі і іншыя спецыяльнасці. Але большая частка сялян працавала на палях.

Некаторая частка сялянства ў якасці асноўнай павіннасці абкладалася чыншам. Такія сяляне называліся асаднымі ці чыншавымі. **Чынш уяўляў сабой грашовую форму рэнты.** Чыншавыя сяляне з’яўляліся або пры скарачэнні гаспадарскіх пасеваў, або пры павелічэнні сялянскіх цяглых гаспадарак звыш неабходнай нормы. Чыншавікі з’яўляліся і тады, калі ўладальнікі раздавалі прышлым сялянам пустэчы. Чыншавая форма рэнты традыцыйна была больш развітая ў заходняй частцы Беларусі, а ва ўсходняй пераважала адработачная павіннасць.

Разам з паншчынай і чыншам, якія былі асноўнымі павіннасцямі, сяляне выконвалі і дадатковыя: **талокі** – агульныя сезонныя гаспадарчыя работы, **гвалты, ці згоны**, – агульныя тэрміновыя работы, прывязаныя да пэўных выпадкаў: для рамонту дарог, гацей, для аблавы на звяроў, у выпадку стыхійных бедстваў і інш.

К канцу XV ст. адным з асноўных відаў павіннасцей з’яўлялася **даніна прадуктамі**. Яна была мядовай, баброваі, кунічнай, збожжавай, піўной, сянной і г.д. Паступова натуральная форма рэнты ўсё больш пераходзіла ў разрад дадатковых павіннасцей і замянялася грашовым эквівалентам. Часцей за ўсё сяляне знаходзіліся на змешанай форме рэнты і выконвалі адработачныя, грашовыя і натуральныя павіннасці адначасова.





У залежнасці ад ступені асабістай свабоды цяглыя сяляне **падзяляліся на “пахожых” і “непахожых”**. У адрозненне ад чэлядзі нявольнай, на першых часах усе цяглыя сяляне мелі права пераходу ад аднаго ўладара да другога, права сыходу з абшчыны. З развіццём інстытута феадальнага права на зямлю выяўлялася зацікаўленасць феадалаў у яго ліквідацыі. Адной нявольнай чэлядзі было недастаткова для забеспячэння панскай гаспадаркі працоўнай сілай і прыбыткамі. Пры малой колькасці працоўнага насельніцтва ў параўнанні з памерамі феадальных маёнткаў, натуральным спосабе гаспадарання любая буйная зямельная ўласнасць магла існаваць і прыносіць прыбытак толькі пры ўмове пазаэканамічнага прыгнёту шырокіх сялянскіх колаў. Таму землеўладальнікі намагаліся прытрымлівацца прынцыпу старажыхарства для прымацавання сялян да зямлі.

Прывілей 1447 г. пачаў працэс юрыдычнага абгрунтавання прыгоннага права ў Вялікім княстве Літоўскім. Ён зацвярджаў, што сяляне, якія пражылі на зямлі феадала 10 гадоў, становяцца “непахожымі”, старажыхарамі. Адзнакай старажыхарства было і спадчыннае валоданне селяніна зямлёй. Старажыхарства, паводле прывілея 1447 г., стала асновай для вышуку беглых сялян і вяртання іх у свае вотчыны.

На першых часах прымацоўванне сялян да зямлі не было безумоўным. Яны маглі вызваліцца ад нявол продажам сваёй вотчыны прышламу селяніну, што практыкавалася даволі шырока. Той, хто прадаў, ужо не падлягаў звароту ўласніку і станавіўся асабіста вольным. Маглі атрымаць волю сяляне і ў выпадку разрастання сям’і, калі вотчыны было недастаткова для забеспячэння яе жыцця. Тады частка сям’і магла сыходзіць у іншыя месцы. У некаторых выпадках сяляне кідалі свае дамы і землі з-за галечы, падаваліся на заробкі. Феадалы часта глядзелі на гэта скрозь пальцы, паколькі эканамічна падтрымаць такіх сялян ім было стратна. Сяляне, як правіла, самі паправіўшы свае справы, вярталіся на зямлю продкаў. Юрыдычна сяляне цяглыя-вотчычы лічыліся “непахожымі”.

Разам з “непахожымі” ў феадальных маёнтках жылі і сяляне “пахожыя”, ці вольныя. Адкуль набіралася гэта саслоўе? Частка спадчычаў знаходзілася ў гэтым званні, дакументальна яго афармляла і перадавала сваім дзецям. Частка набіралася з вольна адпускной чэлядзі і вотчычаў, якія атрымалі дазвол “сыходзіць прэч хто куды хоча”. Але большую частку саслоўя складалі сяляне, якія здавалі ці прадавалі свае вотчыны іншым , а самі сыходзілі карміцца ў розныя бакі. Кантынгент “пахожых” сялян папаўняўся з катэгорыі слу́жак, якія ў той перыяд былі асабіста вольнымі людзьмі.

**Людзі служэбныя, ці служкі**, складалі трэцюю, даволі шматлікую катэгорыю насельніцтва. Па сваім эканамічным становішчы яны былі блізкія да цяглавага сялянства. Яны таксама былі

землекарыстальнікамі, што сядзелі з сем'ямі на сваіх вотчынах. Але ад сялян яны адрозніваліся сваёй асаблівай службай. Галоўнай іх павіннасцю была вайсковая служба. У мірны час яны раз'язджалі па справах княжацкай і феадальнай адміністрацыі. Іншыя павіннасці, якія лічыліся дадатковымі да асноўнай службы, служкі неслі разам з цяглымі сялянамі. Першапачаткова ядро гэтай катэгорыі насельніцтва складалі маладыя дружыннікі. Ваенныя і адміністрацыйныя патрэбы прымушалі князёў і феадалаў папаўняць кантынгент служак рознымі элементамі цяглага сялянства, як правіла бяднейшага. Папаўнялася гэта ядро і за кошт землеўладальнікаў.

Такімі былі асноўныя катэгорыі сялянскага насельніцтва на Беларусі ў XIV – XVI стст.

У сувязі з ростам гарадоў у канцы XV – першай палове XVI ст. значна вырас попыт на збожжа і іншыя сельскагаспадарчыя прадукты як у самой краіне, так і ў Заходняй Еўропе, дзе ў той час пачаў развівацца капіталізм. Феадалы імкнуліся атрымаць прыбыткі і таму пашыралі пашні, павялічвалі пасевы ў фальварках (гаспадарскіх запашках) з мэтай паставак сельскагаспадарчай прадукцыі на ўнутраны і знешні рынак.

Вялікакняжацкі двор таксама стаяў перад праблемай павелічэння прыбытковасці. Частыя войны паставілі вялікага князя літоўскага ў залежнасць ад феадалаў, якім ён вымушаны быў раздаваць землі, каб захаваць у іх асобе сацыяльную апору. Гэта прывяло да моцнага скарачэння вялікакняжацкага дамена. Таму, каб павысіць прыбытковасць маёнткаў, Жыгімонт II Аўгуст у 1557 г. абвясціў аб правядзенні ў дзяржаўных землях рэформы, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай **"валочная памера"**. Уся зямля падзялялася на роўныя надзелы, валокі, памерам 21,3 га кожны. Лепшыя ўрадлівыя землі забіраліся пад княжацкія фальваркі, у якіх сяляне адбывалі паншчыну. Кожная сялянская гаспадарка замацоўвалася за часткай валокі. Селянін губляў права пераходу да іншага гаспадара і станавіўся прыгонным. З валокі вызначалася і кола розных павіннасцей. Яны былі розныя для цяглых і асадных сялян. Так, цяглыя сяляне павінны былі за кожную валоку працаваць па два дні на тыдзень у фальварку, а таксама плаціць натуральны аброк аўсом, сенам, свойскай птушкай, уносіць невялікі грашовы чынш і выконваць працоўную павіннасць у княжацкіх замках. Асадныя (чыншавыя) сяляне павінны былі плаціць чынш ад 66 да 106 грошаў у год. Пасля дзяржаўных маёнткаў валочная памера была праведзена і ў маёнтках феадалаў. К канцу XVI ст. яна ўжо скончылася ў заходніх і цэнтральных абласцях Беларусі, некалькі пазней – ва ўсходніх і паўднёвых.

Рэформа была першым буйным умяшаннем дзяржаўнай улады ў працэс землеўладкавання ў Вялікім княстве Літоўскім. Яна азначала новую ступень у развіцці феадальных адносін, паколькі спрыяла масаваму запрыгоньванню сялян. Валочная памера уніфікавала павіннасны прыгнёт. Цяпер па ўсёй краіне, ва ўсіх відах маёнткаў у





сялян адной катэгорыі павіннасці былі аднолькавыя і вызначаліся колькасцю валок, якія знаходзіліся ў іх карыстанні. Уніфікацыя павіннаснага прыгнёту падарвала эканамічную аснову ўцёкаў сялян ад сваіх гаспадароў у пошуках лепшага жыцця. Цяпер уся зямля, маёмасць сялян і самі сяляне сталі ўласнасцю феадала ці дзяржавы ў залежнасці ад таго, на чыёй зямлі яны сядзелі. Прынятыя ў хуткім часе статуты 1566 і 1588 гг. устанавілі спачатку 10-, а потым 20-гадовы тэрмін вышуку беглых сялян і вяртання іх гаспадарам. Гэта азначала канчатковае юрыдычнае афармленне прыгоннага права на Беларусі і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Сялян стала можна прадаваць, мяняць, аддаваць у якасці закладу як усю сям'ю, так і асобных яе членаў. Гэта была найбольш жорсткая форма прыгоннага права, якая праіснавала амаль трыста гадоў.

У выніку валочнай памеры прыбыткі феадалаў ад маёнткаў значна выраслі. Шчодрыя княжацкія дараванні, а таксама захоп феадаламі часткі сялянскай зямлі паскорылі яе канцэнтрацыю ў адных руках, прывялі да стварэння буйнейшых магнацкіх уладанняў – латыфундый, што мелі па тысячы і больш сялянскіх двароў. Звыш 40 % усяго зямельнага фонду аказалася ў выніку рэформы ў руках феадалаў. Сярод іх большасць склалі каталікі літоўскага паходжання.

У заходняй і цэнтральнай Беларусі ажыццяўленне рэформы прывяло да замены абшчыннага землекарыстання падворным.

У XIV – XVI стст. адбываецца значны рост гарадоў і гарадскога насельніцтва. Гарады былі цэнтрамі рамяства і гандлю. Па памерах яны адрозніваліся, большая частка з іх былі невялікія. Гэта – паселішчы з некалькіх вуліц з 200 – 300 дварамі. Найбольш буйнымі гарадамі на тэрыторыі Беларусі ў гэты час з'яўляліся Полацк, Магілёў, Віцебск, Мінск, Брэст, Гародня, Слуцк, Навагародак. Раслі і паселішчы гарадскога тыпу – мястэчкі. Гарады і мястэчкі ўзнікалі як на дзяржаўных, так і на прыватнаўласніцкіх землях. Мястэчкі ў асноўным належалі феадалам. Каля 40 % усіх гарадоў таксама былі прыватнаўласнымі. Гарады, што належалі феадалам, былі адміністрацыйнымі, гаспадарчымі і культурнымі цэнтрамі іх зямель. Жыхары гэтых гарадоў неслі феадальныя павіннасці на карысць свайго гаспадара.

Разам з прыватнаўласнымі былі і дзяржаўныя, ці вялікакняжацкія, гарады. Іх насельніцтва лічылася вольным. Аднак у XVI ст. у гэтых гарадах з'явіліся ўладанні вяльможных і духоўных феадалаў разам з залежным ад іх людам. Прыватныя ўладанні ў вялікакняжацкіх гарадах атрымалі назву "юрыдык". Яны складалі адасобленую частку горада і не падпарадкоўваліся ўладзе гарадскога самакіравання.

З ростам гарадоў гараджане імкнуліся пазбавіцца ад феадальнай залежнасці і атрымаць свабоду, а таксама права на самакіраванне. Феадальная залежнасць перашкаджала развіваць гарадскія промыслы і гандаль. Таму з канца XIV ст. літоўскія князі сталі дараваць гарадам права на самакіраванне, названае магдэбургскім на прыкладзе таго

права, якім валодаў г. Магдэбург. Паводле магдэбургскага права, насельніцтва вызвалялася ад выканання адработачных (паншчынных) павіннасцей на карысць феадала. Яны замяняліся адзіным грашовым падаткам. Да другой паловы XVI ст. магдэбургскае права атрымалі амаль усе буйнейшыя гарады Беларусі. Мінску яно было даравана ў 1499 г.

Што ж сабой уяўляла гарадское самакіраванне? Галоўным органам адміністрацыйнага кіравання горада быў магістрат. Ён складаўся з рады (выбарнага органа кіравання) і лавы (суда). На чале рады стаяў войт, як правіла прызначаны літоўскімі князямі . Сябры рады (райцы) выбіраліся з гарадскіх багацеяў. Радзе належалі функцыі кіравання не толькі жыццём горада, але і суда. Аднак судовыя функцыі яна выконвала толькі па маёмасных і грамадзянскіх справах. Крымінальныя справы разбіраліся лавай. Лаўнікі (сябры лавы) выбіраліся гараджанамі. Месцам знаходжання рады ў гарадах былі спецыяльна пабудаваныя для гэтай мэты будынкі-ратушы.

Насельніцтва гарадоў фарміравалася за кошт беглых сялян, а таксама з рамеснікаў, пераселеных феадаламі ў горад. Сярод жыхароў гарадоў каля 80 % былі беларусы. Тут жылі таксама рускія, украінцы, літоўцы, палякі, яўрэі, немцы, татары. Большую частку насельніцтва складалі рамеснікі і гандляры. Яны называліся мяшчанамі. Акрамя іх у гарадах мелася вялікая колькасць гарадскіх нізоў (плебса). Былі і жабракі-найміты.Насельніцтва ў гарадах і мястэчках займалася і сельскай гаспадаркай, забяспечваючы сябе ўсім неабходным.

Да другой паловы XVI ст. у буйных гарадах рамяством займалася большасць жыхароў. На Беларусі было вядома больш за 100 рамесніцкіх спецыяльнасцей. Высокага ўзроўню дасягнула ювелірная справа. Значную ролю адыгрывала апрацоўка металу. Беларускія рамеснікі займаліся таксама апрацоўкай дрэва, касцей, каменя. Асабліва славіліся беларускія майстры-гарбары. Юхт, замша, саф'ян і іншыя вырабы карысталіся вялікім попытам у Польшчы і гарадах Прыбалтыкі, куды вывозіліся гэтыя вырабы цэлымі партыямі. Высокім узроўнем развіцця вызначалася і шклаварнае рамяство. Майстры-шклавары ў Шыдлоўцы (каля Слоніма) умела выраблялі келіхі, кубкі і іншы посуд. Значную частку насельніцтва гарадоў складалі гандляры, пераважна дробныя. Але былі і буйныя купцы, што займаліся аптовым гандлем. У некаторых гарадах (Магілёў, Слуцк і інш.) купцы мелі свае саюзы (брацтвы), падобныя да цэхаў рамеснікаў.

Рамеснікі адной спецыяльнасці былі аб'яднаны ў цэхі. Яны ствараліся з мэтай абароны грамадскіх, палітычных і маёмасных правоў горада. Гэта былі своеасаблівыя манапалізаваныя структуры, якія дапамагалі рамеснікам пазбегнуць канкурэнцыі, а таксама засцерагчы мясцовы гарадскі рынак ад вырабаў іншагародніх і іншаземных рамеснікаў. Цэх уяўляў сабой не толькі вытворчую кааперацыю, але і вайсковую адзінку. Падчас ваенных дзеянняў цэхі пераўтвараліся ў вайсковыя атрады, якія абаранялі горад і крэпасць, займаючы раней акрэсленае для кожнага цэха месца дыслакацыі. Цэхавыя статуты,





баронячы рамеснікаў ад канкурэнцыі, як і любыя манапалізаваныя структуры, прыпынялі развіццё гарадскога рамяства, абмяжоўвалі вытворчую дзейнасць, утрымлівалі тэндэнцыі да застою. Некаторыя цэхі, асабліва ў буйных гарадах, аб'ядноўвалі вялікую колькасць рамеснікаў. Так, напрыклад, цэх мяснікоў у Слуцку налічваў у сваім складзе больш за 100 чалавек, у тым ліку 38 майстроў. Узначальвалі цэхі самыя заможныя майстры. Для дапамогі майстры наймалі чаляднікаў і вучняў, якія не столькі вучыліся, колькі выконвалі функцыі слуг. Становішча вучняў было не лепшае, чым у дваровых слуг у феадальным маёнтку. Майстры мелі права караць і біць вучняў. Таму ўцёкі сярод вучняў былі частай з'явай, меры па спыненню ўцёкаў прадугледжваліся статутам кожнага цэха.

У XIV – XVI стст. развіваецца ўнутраны і знешні гандаль гарадоў Беларусі. Таргі і кірмашы становяцца атрыбутам гаспадарчай дзейнасці гарадоў і мястэчак. Таргі, як правіла, наладжваліся 1 – 2 разы на тыдзень. Кірмашы існавалі толькі ў буйных гарадах і ладзіліся раз на год. У іх удзельнічалі не толькі мясцовыя, але і замежныя гандляры і купцы. Гарады Беларусі гандлявалі з рускімі, украінскімі, польскімі гарадамі, а таксама з некаторымі гарадамі Усходу. На знешні рынак Беларусь пастаўляла жыта, сала, лес, паташ, футра, скуры, вырабы рамеснікаў. Імпартаваліся жалеза, медзь, волава, свінец, металічныя вырабы, фламандскае і англійскае сукно, галандскае палатно, віно, соль, селядзец, прадметы раскошы.

Такімі былі асноўныя асаблівасці сацыяльна-эканамічнага жыцця Беларусі ў XIV – XVI стст. Мацнела эканамічная залежнасць сялян ад феадалаў. Ішоў працэс іх масавага запрыгоньвання. Цэнтрамі культурнага жыцця, развіцця рамёстваў і гандлю станавіліся гарады. Іх роля ў эканоміцы Беларусі ўзрастала. Гарады пашыраліся за кошт прытоку сельскага насельніцтва. Выявіліся сацыяльная і кіраўнічая структуры. Гарады змагаліся за права на самакіраванне (магдэбургскае права), што пашырыла магчымасці развіцця рамяства і гандлю.

# ГЛАВА 4

# ФАРМІРАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАСЦІ. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XIII – ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XVI ст.

## § 1. Фарміраванне беларускай народнасці

Народнасць – форма моўнай, тэрытарыяльнай, эканамічнай і культурнай супольнасці людзей, якая ўтвараецца гістарычна ў выніку кансалідацыі, зліцця плямён і папярэднічае ўтварэнню нацыі. Яна

19. Зак. 5560

ўласціва рабаўладальніцкаму і феадальнаму ладу. Асноўнымі прыкметамі народнасці з'яўляюцца: адносная агульнасць мовы, агульнасць тэрыторыі, культуры, пэўныя гаспадарчыя сувязі, этнічная самасвядомасць і саманазва.

Існаванне Вялікага княства Літоўскага стварала новыя ўмовы для далейшага фарміравання беларускай народнасці. Як руская і ўкраінская, беларуская народнасць утваралася паступова на аснове старажытнарускай народнасці. Якія ж фактары садзейнічалі гэтаму працэсу?

Першая група фактараў утварэння беларускай народнасці – **палітычныя фактары**. Неабходнасць барацьбы з агрэсіяй нямецкіх феадалаў і татара-манголаў, уваходжанне беларускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага садзейнічалі стварэнню палітычных умоў для ўмацавання сувязей паміж living рознымі тэрытарыяльнымі часткамі насельніцтва Беларусі, яго кансалідацыі і інтэграцыі з суседнімі народамі. У межах Вялікага княства Літоўскага была ліквідавана сістэма мясцовых княжанняў і створаны інстытут намесніцтваў, арганізавана адзінае дзяржаўнае кіраванне, уведзена адзінае заканадаўства, што сведчыла аб складванні сістэмы палітыка-прававой цэнтралізацыі ў краіне, узмацненні палітычных сувязей паміж яе рознымі тэрыторыямі.

Аднак палітычнае аб'яднанне поўнасцю не знішчыла лакальнай аўтаномнасці асобных зямель. У залежнасці ад умоў пераходу розных беларускіх, рускіх і ўкраінскіх зямель у ВКЛ вызначаўся і іх статус, некаторыя тэрыторыі доўгі час захоўвалі ў значнай ступені сваю самастойнасць. Увогуле, у грамадска-палітычным жыцці ВКЛ назіраліся як аб'яднальныя, так і сепаратысцкія тэндэнцыі, што ўскладняла працэс фарміравання беларускай народнасці.

Утварэнню беларускай народнасці садзейнічаў і шэраг **эканамічных фактараў**. Эканамічнай асновай этнаўтваральных працэсаў з'явіліся далейшае развіццё сельскай гаспадаркі (замена двухполля і іншых архаічных форм – ляснога пералогу, ворыва наездам, падсекі – папарнай зерневай сістэмай трохполля), удасканаленне рамяства (разам з традыцыйнымі рамёствамі – ганчарнае, ткацкае, бандарнае, слясарнае, апрацоўка дрэва, косці, металаў і іншыя распаўсюджваліся новыя віды рамесніцкай дзейнасці – выраб паперы, адліўка шкла ў гутах, кнігадрукарства і інш.), пашырэнне гандлю на тэрыторыі ад Прыпяці да Заходняй Дзвіны і ад Нёмана да Дняпра. Узрастала роля буйных гарадоў Беларусі – Полацка, Брэста (Берасця), Магілёва, Гродна (Гародні), Віцебска і іншых як цэнтраў рэгіянальнага і транзітнага гандлю, сродкаў умацавання тэрытарыяльна-эканамічных сувязей беларускіх зямель.

Паступова ў Вялікім княстве Літоўскім усталёўвалася адзіная грашовая сістэма, асноўнай манетай станавіўся грашовы знак мясцовай вытворчасці – літоўскі паўгрош, які чаканіўся на манетным двары ў Вільні. Таксама ішоў працэс усталявання гандлёва-вымяральных





стандартаў, некаторыя з іх былі ўзаконены ў статутах ВКЛ. Развіццё таварна-грашовых адносін і ўнутраных гаспадарчых сувязей садзейнічала інтэнсіфікацыі этнічных, эканамічных і сацыяльных кантактаў, этнакультурнай і моўнай інтэграцыі.

Разам з тым ва ўмовах феадальнага спосабу вытворчасці з яго натуральнай сістэмай гаспадарання аб'яднальныя працэсы абмяжоўваліся рэгіянальнымі, а не агульнадзяржаўнымі сувязямі, стварэннем лакальных рынкаў вакол гарадоў і мястэчак. Нягледзячы на пэўную уніфікацыю асобных вагавых адзінак, на тэрыторыі Беларусі назіралася ўстойлівасць лакальнай метралогіі (бочка і паўбочка “мінская”, “лукомская”, “вядро пінскае”, “берасцейскае”, вагі “полацкія” і інш.). Гэта адлюстроўвала слабасць эканамічнай і звязанай з ёй этнічнай інтэграцыі.

З папярэднімі этнаўтваральнымі фактарамі цесна звязаны **сацыяльныя фактары**. Далейшае развіццё феадальных адносін, паступовае ўсталяванне прыгоннага права садзейнічалі кансалідацыі шматлікіх катэгорый насельніцтва зямель Беларусі ў сацыяльныя групы з агульнымі правамі і абавязкамі для кожнай з іх. Так, розныя катэгорыі свецкіх феадалаў кансалідаваліся ў шляхецкае саслоўе, якому належала вядучая роля ў дзяржаўным кіраванні. Асобным саслоўем з'яўлялася духавенства. Фарміраваліся таксама саслоўі прыгонных сялян і мяшчан – жыхароў гарадоў і мястэчак. Гэты працэс садзейнічаў усталяванню больш шырокіх сувязей у межах кожнага саслоўя і паміж імі. Так сацыяльныя ўмовы ўплывалі на ўтварэнне беларускай народнасці.

Разам з палітычнымі, эканамічнымі і сацыяльнымі фактарамі адыгрываў пэўную этнакансалідуючую ролю **канфесійны фактар**. Канфесійныя антаганізмы актывізавалі складанне і ўмацаванне розных форм самасвядомасці насельніцтва. Прыкмета веры станавілася своеасаблівай прыкметай народа, а барацьба за веру з'яўлялася часткай барацьбы за яго самабытнасць.

Большасць усходнеславянскага насельніцтва прытрымлівалася праваслаўя. Аднак пасля Крэўскай уніі пачалося актыўнае наступленне каталіцкай веры. Літоўскай шляхце, якая прымала каталіцтва, былі дадзены прывілеі, якіх не мела праваслаўная шляхта. Да актыўнага ўдзелу ў дзяржаўных справах доўгі час не дапускаліся таксама і вышэйшыя колы праваслаўнага духавенства.

Сукупнасць дзейнасці этнаўтваральных фактараў спрыяла фарміраванню беларускай народнасці і такіх яе агульных прыкмет, як этнічная тэрыторыя, адносная агульнасць мовы, своеасаблівая матэрыяльная і духоўная культура, этнічная самасвядомасць і саманазва.

Важнай прыкметай беларускай народнасці перыяду яе фарміравання было **дзяржаўна-тэрытарыяльнае адзінства** рассялення ўсходнеславянскага насельніцтва.

Ядро этнічнай тэрыторыі беларускай народнасці ў асноўных рысах адпавядала арэалам рассялення яе старажытных продкаў – крывічоў,

дрыгавічоў, радзімічаў. Заходнерускае насельніцтва, якое пражывала на былой тэрыторыі крывічоў, было ўцягнута ў працэсы фарміравання беларускай (смаленска-полацкая група крывічоў) і рускай (паўночна-ўсходняя група крывічоў, якая прымыкала да верхняй Волгі) народнасцей. Паўднёвая мяжа этнічнай тэрыторыі беларусаў ахоплівала правабярэжжа Прыпяці і ў асноўным супадала з арэалам рассялення дрыгавічоў, а ў перыяд феадальнай раздробленасці – з паўднёвай мяжой Тураўскага княства. Тэрыторыя, на якой фарміравалася беларуская народнасць, часткова ўключала землі рассялення радзімічаў. Усходняя мяжа радзімічаў даходзіла да лініі – Рослаўль, Хоцімск, Клетня, Дзясна, Старадуб, Трубчэўск.

Этнічная мяжа паміж балцкім і славянскім насельніцтвам, якая ўсталявалася да XIII ст. прыкладна па лініі Мерач – Трабы (каля Ашмян) – воз. Свір (каля Браслава), у наступныя тры стагоддзі амаль не змянілася. Акрамя таго, на фарміраванне этнічнай тэрыторыі беларускай народнасці ўплывалі каланізацыйныя працэсы, якія адбываліся ў розных рэгіёнах Занёмання, Падляшша, Папрыпяцця, Паўночна-Заходняй Беларусі.

На тэрыторыі сучаснай Беларусі існаваў даволі кампактны арэал рассялення ўсходнеславянскага насельніцтва. Акрамя яго ў склад беларускага этнасу былі ўліты асобныя групы заходнеславянскага (польскага), балцкага (як усходнебалцкага – літва, латыголы, так і заходнебалцкага – прусы, яцвягі, жэмайты) і цюркскага (татары) насельніцтва. Яны жылі побач са славянамі і з'явіліся дадатковым кампанентам утварэння беларускай народнасці. Але іх наяўнасць увогуле не парушала цэласнасці этнічнай тэрыторыі беларусаў.

На этнічнай тэрыторыі беларусаў адбыліся значныя змены ў мове ўсходнеславянскага насельніцтва. На працягу XIV – XVI стст. на аснове старажытнарускай мовы развіваліся такія спецыфічныя рысы беларускай гаворкі, як цвёрдае "р" (*рабіна, бяроза*), "дзеканне" і "цеканне" (*дзеці* замест *дети*, *цень* замест *тень*), "аканне" і "яканне" (*кароль, лебяда*), прыстаўныя гукі на пачатку слова (*восень* замест *осень, вобраз* замест *образ*). Фарміравалася гутарковая мова як сродак зносін паміж людзьмі. У лексіку гэтай мовы траплялі запазычанні з польскай, балцкай і некаторых заходнееўрапейскіх моў, што надавала ёй спецыфічную афарбоўку.

**Матэрыяльная і духоўная культура** новага, усходнеславянскага этнасу базіравалася на шэрагу элементаў, атрыманых у спадчыну найперш са старажытнарускага часу. Другой яе састаўной часткай былі новаўвядзенні, якія закранулі сямейны і абшчынны побыт, навуку і асвету, фальклор, звычаі і абрады, мастацтва. Трэцяй часткай комплексу культуры былі элементы, запазычаныя ў суседніх народаў.

У XV – XVI стст. на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца шэраг новых тыпаў пасяленняў: мястэчка (пераходны тып пасялення паміж горадам і вёскай, мясцовы цэнтр рамяства, хатніх промыслаў і гандлю; у





адрозненне ад горада не мела абарончых збудаванняў); фальварак (невялікае пасяленне з некалькіх ці нават аднаго двара, цэнтр гаспадаркі феадала); засценак (пасяленне з аднаго ці некалькіх двароў за межамі, "сценамі", адведзеных вёсцы палёў, звычайна ў засценках жыла шляхта); ваколіца (невялікае пасяленне шляхты за межамі вёскі, абнесенае агароджай). Змянілася планіроўка некаторых тыпаў пасяленняў, асабліва вёсак. Гэтаму ў значнай ступені спрыяла правядзенне аграрнай рэформы 1557 г., калі было ўведзена падворнае землекарыстанне замест абшчыннага і распаўсюдзіўся пагонны тып двара з уласцівым яму размяшчэннем пабудоў у адзін рад. У Паўночнай і Усходняй Беларусі ўсталяваўся пераважна вяночны тып двара, калі пабудовы размяшчаюцца па яго перыметры.

Асноўнымі прыладамі сельскагаспадарчай працы з'яўляліся літоўская саха, драўляная частаплеценая барана, сукаватка, матыка, серп, цэп і інш. Для захавання ўраджаю і сельскагаспадарчых прадуктаў існавалі клеці, свірны, гумны, ёўні, піўніцы. Побач са старадаўнімі жорнамі меліся ветраныя і вадзяныя млыны, а таксама млыны з коннай або валовай цягай.

На ўсёй тэрыторыі Беларусі былі распаўсюджаны саматканыя суконныя спадніцы з клятчастай ці паласатай тканіны, яркія безрукаўкі, світкі, упрыгожаныя кажухі. З'явіліся і новыя віды адзення – андарак, фартух. Менавіта ў гэты час зацвярджаюцца характэрныя для нашай тэрыторыі віды народнага адзення.

У XV – XVI стст. складваецца і своеасаблівая духоўная культура новага этнасу. Былі выпрацаваны асноўныя віды і жанры беларускага фальклору. Паступова быліны, якія расказвалі аб далёкіх часах Кіеўскай Русі, забываліся, але былінная традыцыя не знікла бясследна. Яна аказала ўплыў на чарадзейныя казкі з іх багатым зместам і своеасаблівай формай. Часцей за ўсё казкі распавядалі аб барацьбе фантастычнага героя са злымі страшыдламі, якія ўвасаблялі варожыя народу сілы. Чарадзейныя казкі былі прасякнуты аптымізмам, верай у канчатковую перамогу дабра і справядлівасці.

Нягледзячы на праследаванні і забароны царквы, яе імкненне выкараніць рэшткі язычніцтва, вельмі пашырана была абрадавая паэзія, што ўзнікла ў цеснай сувязі з працоўнай дзейнасцю сялян. Асаблівай паэтычнасцю вылучаюцца купальскія песні, у якіх адлюстроўваецца арганічнае адзінства чалавека з адухоўленай ім прыродай. Песні суправаджалі беларуса ад нараджэння (хрэсьбінныя, песні-калыханкі) і да смерці (хаўтурныя, песні-плачы), гучалі на розных урачыстасцях (валачобныя, вясельныя), у час працы і адпачынку (жніўныя, жартоўныя).

У той жа час узнік і новы эпічны жанр – гістарычныя песні і паданні. Іх галоўнай тэмай былі вельмі блізкія і хвалюючыя народ падзеі, звязаныя з барацьбой з іншаземнымі захопнікамі. Глыбокім драматызмам напоўнены песні аб татарскім палоне. Існуюць народныя паданні і пра "крыжацкія магілы", у якіх тлеюць косці нямецкіх

20. Зак. 5560

псоў-рыцараў. У XVI ст. з'явіліся песні, якія распавядалі аб узброеных паўстаннях народа супраць сваіх прыгнятальнікаў. Жыццёвы і гаспадарчы вопыт народа знайшоў сваё ўвасабленне ў шматлікіх прыказках, прымаўках і загадках.

Першымі тэатральнымі відовішчамі былі карагоды, народныя гульні, прадстаўленні скамарохаў. Паступова ў карагодзе, дзе сплятаюцца розныя жанры народнага мастацтва, зараджалася драматычнае дзеянне, якое адлюстроўвала розныя бакі жыцця. Узнікае таксама народны лялечны тэатр – батлейка, дзе разам са свецкімі сюжэтамі, народнымі песнямі і танцамі выкарыстоўваліся і хрысціянскія міфалагічныя тэмы.

У XVI ст. з'яўляюцца і распаўсюджваюцца новыя музычныя інструменты – скрыпка, цымбалы, ліра, дудка. Дудка і скрыпка сталі аднымі з найбольш характэрных інструментаў для беларускай народнасці і звычайна выкарыстоўваліся падчас народных свят. Увогуле, у культуры беларускай народнасці існавалі розныя па сваіх крыніцах і межах распаўсюджання культурныя элементы, адны з якіх былі поліэтнічныя і ахоплівалі некалькі этнасаў, другія належалі пераважна беларусам.

Адным са значных кампанентаў народнасці з'яўляецца **самасвядомасць.** У Вялікім княстве Літоўскім жыхар беларускіх зямель адрозніваў сябе ад іншых народаў (немцаў, палякаў, літоўцаў). Значна пазней беларусы пачалі адрозніваць сябе ад рускіх. Гістарычная супольнасць усходнеславянскага народа, адзіная рэлігія і мова продкаў тармазілі працэс дыферэнцыяцыі рускага і беларускага народаў. Значны час насельніцтва беларускай тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага называла сябе рускімі і сваю мову рускай. Гэта абумовіла тую акалічнасць, што самасвядомасць і саманазва беларусаў фарміравалася пазней за іншыя этнічныя прыкметы.

Такім чынам, у другой палове XIII – першай палове XVI ст. працягваўся працэс фарміравання новай этнічнай супольнасці – беларускай народнасці. Скλаліся і яскрава вызначаліся асноўныя прыкметы гэтай супольнасці: тэрытарыяльнае адзінства, адносная агульнасць мовы, культуры, пэўныя гаспадарчыя сувязі, этнічная самасвядомасць і саманазва.

## § 2. Культура Беларусі другой паловы XIII – першай паловы XVI ст.

Беларуская культура другой паловы XIII – першай паловы XVI ст. развівалася на аснове засвойвання багатых традыцый высокаразвітых візантыйскай і старажытнарускай культур, пад уздзеяннем мясцовых прыродна-геаграфічных і кліматычных умоў, а таксама сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага ладу Вялікага княства





Літоўскага. Закладваўся падмурак для развіцця ўласна беларускай мовы, літаратуры, летапісання, кнігадрукавання, музыкі, архітэктуры, выяўленчага мастацтва.

Адной з крыніц фарміравання самабытнай беларускай культуры быў фальклор, які на працягу стагоддзяў адлюстроўваў гісторыю побыту народа, яго веравызнанняў, цяжкіх іспытаў і нешматлікіх радасцей. Беларускі фальклор служыў сродкам захавання нацыянальных традыцый і адыграў вырашальную ролю ў станаўленні беларускай мовы. Гістарычны шлях развіцця культуры Беларусі ішоў праз засваенне і развіццё каштоўнага народнага мастацкага вопыту.

Беларуская культура мела ў асноўных рысах сярэдневяковы характар, развівалася на феадальна-прыгоннай аснове. Панавала ідэалогія класа феадалаў пры духоўнай дыктатуры царквы. Культурныя здабыткі з'яўляліся прывілеяй вышэйшых саслоўяў. Так, пісьменнасць была распаўсюджана ў асноўным толькі сярод класа феадалаў, школы існавалі пераважна пры кляштарах і цэрквах і былі мала даступныя народу. У XV – XVI стст. фарміруюцца і ўзбагачаюцца буйныя царкоўна-манастырскія і прыватныя бібліятэкі, якія абслугоўваюць у асноўным прадстаўнікоў вышэйшых саслоўяў грамадства.

Паколькі змест і формы культуры ў эпоху сярэднявечча вызначаліся ў першую чаргу інтарэсамі феадалаў і рэлігіі, то царква ўнесла значны ўклад у развіццё асветы, грамадска-палітычнай думкі, літаратуры, дойлідства, жывапісу, музыкі. Калі праваслаўная царква з'яўлялася носьбітам старажытнарускіх традыцый, то каталіцтва прыўносіла ў ВКЛ элементы польскай і пераважна заходнееўрапейскай культуры. Выгаднае геаграфічнае становішча Беларусі абумовіла яе ролю культурнага пасрэдніка паміж праваслаўным Усходам і каталіцкім Захадам. Кантакты з Заходняй Еўропай прывялі да ўзнікнення новых з'яў у беларускай культуры. У беларускую мову пранікаюць новыя словы, літаратура ўзбагачаецца перакладнымі творамі, у архітэктуры і мастацтве назіраюцца элементы заходнееўрапейскіх мастацкіх стыляў.

**Развіццё старабеларускай мовы, літаратуры, летапісання.** У другой палове XIII – першай палове XVI ст. паралельна з працэсам стварэння беларускай арыгінальнай літаратуры ішло развіццё старабеларускай літаратурнай мовы, якая замацоўвала характэрныя асаблівасці гаворкі насельніцтва Беларусі. Полацкія, віцебскія і смаленскія граматы XIII ст. ужо адлюстравалі некаторыя адметныя рысы, уласцівыя жывой мове беларускай народнасці.

Пісьмовыя помнікі з беларускай моўнай асновай можна падзяліць на тры групы: юрыдычна-дзелавыя, свецка-мастацкія і канфесійныя. Гэтыя помнікі адрозніваюцца не толькі прызначэннем і зместам, але і сістэмай моўных сродкаў.

Ад часоў Старажытнай Русі на беларускіх землях захавалася сістэма пісьмовага двухмоўя, калі старажытнаруская літаратурная мова задавальняла духоўныя інтарэсы і дзелавыя патрэбы насельніцтва, а

царкоўнаславянская выкарыстоўвалася ў набажэнстве і рэлігійнай літаратуры. Царкоўнаславянская мова распаўсюдзілася па тэрыторыі Старажытнай Русі з увядзеннем хрысціянства і была ў сваёй аснове старажытнабалгарскай. З цягам часу царкоўнаславянская мова, як штучная і малазразумелая, паступова страчвала на Беларусі свае пазіцыі. З'явілася т. зв. беларуская рэдакцыя царкоўнаславянскай мовы, што прыкметна адрознівала мову беларускіх тэкстаў ад мовы рэлігійных помнікаў тагачаснай Рускай дзяржавы. Аб гэтым сведчыць мова такіх твораў канфесійнай літаратуры XV ст., як "Жыціе Аляксея, чалавека божага", "Пакуты Хрыста", "Аповесць аб трох каралях-вешчунах".

Найбольш чуйна на гаворку народа рэагавала юрыдычна-дзелавая пісьменнасць, менш кансерватыўная па свайму зместу і форме сярод іншых відаў пісьменнасці. Асноўнымі цэнтрамі юрыдычна-дзелавой пісьменнасці з'яўляліся дзяржаўныя, прыватнаўласніцкія і магістрацкія канцылярыі. Найважнейшыя дзяржаўныя акты, прывілеі і іншыя дакументы зацвярджала велікакняжацкая канцылярыя ў Вільні, якая мела свой уласны архіў, т. зв. Метрыку. Большасць актаў і грамат Вялікага княства Літоўскага ў XIV – XVI стст. былі напісаны кірыліцай, на старабеларускай, паводле тагачаснай тэрміналогіі, – рускай, мове. Старабеларуская мова – афіцыйная мова дзяржаўных дакументаў і заканадаўства – канчаткова сфарміравалася ў XVI ст.

Прамежкавае становішча паміж юрыдычна-дзелавой пісьменнасцю са старабеларускай моўнай асновай і канфесійнай пісьменнасцю з царкоўнаславянскай мовай займала мова свецкіх мастацка-літаратурных твораў.

У XIII – XVI стст. на Беларусі па-ранейшаму шырока распаўсюджвалася царкоўна-рэлігійная літаратура з яе асноўнымі жанрамі. Гэта – кнігі Бібліі, жыціі святых, апокрыфы. Творы былі перакладныя ці арыгінальныя. У XIV – XV стст. слаба развівалася ўрачыстае царкоўнае красамоўства. Беларускае духавенства не вылучыла са свайго асяроддзя ніводнага прамоўцы, якога можна было б параўнаць з Кірылам Тураўскім. Варта адзначыць асобу Грыгора Цамблака, выхадца з Балгарыі, які з'яўляўся кіеўскім мітрапалітам. Ён стварыў шматлікія пропаведзі, пахвальныя "словы" і шэраг жыцій. З арыгінальных твораў іншых жанраў царкоўна-рэлігійнай літаратуры неабходна адзначыць "Хаджэнне ў Царград і Іерусалім" Ігната Смаляніна. Яго апісанне падарожжаў мела важнае пазнавальнае значэнне. Сярод свецкіх літаратурных твораў асаблівай папулярнасцю карысталіся такія перакладныя рэчы, як "Александрыя", "Троя", "Трыстан і Ізольда".

З усіх жанраў беларускай літаратуры перыяду яе станаўлення найбольш дынамічна развіваліся летапісы. Летапісы – гэта гістарычна-літаратурныя творы з апісаннем падзей па гадах. Яны спалучаюць лаканічную, дакументальна-дзелавую фіксацыю гістарычных падзей





з эмацыянальна-вобразным, белетрызаваным асэнсаваннем мінулага. У XV ст. у новых гістарычных умовах перыяду фарміравання беларускай народнасці і палітычнай кансалідацыі беларускіх зямель летапісы набылі новыя якасці і рысы, з'явіўшыся яркім адлюстраваннем новага этапа ў жыцці беларускага народа.

Беларуска-літоўскія летапісы, паводле свайго складу, зместу і формы, падзяляюцца на 4 асноўныя групы: "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г., "Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага", "Хроніка Быхаўца".

**"Летапісец вялікіх князёў літоўскіх"** – адзін з першых твораў уласна беларускай гістарычна-дакументальнай літаратуры. Ён быў напісаны невядомым аўтарам каля 1430 г. у Смаленску ў форме суцэльнага апавядання без выкарыстання дат, чым і адрозніваецца ад традыцыйных старарускіх летапісаў. Твор у найбольш поўных спісах складаецца з дзвюх частак: уласна "Летапісца..." і "Аповесці пра Падолле". Тут выкладаецца гісторыя ВКЛ з 1341 г. (ад смерці Гедыміна) да канца XIV ст. Асноўную ўвагу храніст надае апісанню барацьбы за ўладу паміж Кейстутам і Ягайлам, затым шмат расказвае пра дзейнасць Вітаўта. Аўтар намагаецца аб'ектыўна выкладаць факты, але яго сімпатыі да Кейстута і Вітаўта праяўляюцца даволі выразна. Ён імкнецца стварыць цікавае і займальнае апавяданне, апісваючы сапраўдныя падзеі палітычнага жыцця. Аўтар, чалавек высокаадукаваны, магчыма блізкі да вялікіх князёў літоўскіх, змог захаваць знешне спакойны тон апісання, нягледзячы на свае сімпатыі і антыпатыі і прысутнасць аўтарскага вымыслу.

Галоўная ідэя "Летапісца..." – абгрунтаванне цэнтралізатарскай палітыкі літоўскіх князёў, падтрымка іх памкненняў да ліквідацыі феадальнай раздробленасці. Пазней гэты твор уваходзіў у склад розных летапісных зводаў, быў пакладзены ў аснову арыгінальнай часткі Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. і выкарыстаны польскім храністам Я.Длугашам у "Гісторыі Польшчы". Трапіў ён і на тэрыторыю Маскоўскай Русі, дзе доўгі час служыў рускім чытачам важнай крыніцай ведаў аб палітычнай гісторыі суседняй дзяржавы.

**Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г.** – першы беларуска-літоўскі летапісны звод. Сваю назву ён атрымаў таму, што 1446 годам датуецца ў ім апошні запіс. Храналагічна звод ахоплівае перыяд ад сярэдзіны IX да сярэдзіны XV ст.

Гісторыя Кіеўскай дзяржавы, дзейнасць яе князёў – змест першай часткі зводу, запазычанай з рускіх летапісаў. У Беларуска-літоўскім летапісе 1446 г. змешчаны і шэраг твораў мясцовага паходжання: Смаленская хроніка, "Пахвала Вітаўту", "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх".

"Пахвала Вітаўту" – даволі своеасаблівы твор. Гэта не звычайнае апавяданне пра гістарычныя падзеі, а ўсхваляванае лірычнае слова пра вялікага князя, яго велічную дзейнасць і высокі міжнародны аўтарытэт. У "Пахвале Вітаўту" выказваецца гістарычная канцэпцыя ўсяго Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. – погляд на ВКЛ як на

літоўска-славянскую дзяржаву, якая прызнаецца адным з цэнтраў палітычнага аб'яднання ўсходнеславянскіх зямель. Гісторыя роднай краіны ў летапісе разглядаецца як арганічная частка гісторыі ўсіх усходніх славян, выказваецца ідэя іх гістарычнай еднасці.

З пачатку XVI ст. адбыліся некаторыя змены ў летапісным жанры: аўтары сваю ўвагу амаль цалкам сканцэнтравалі на гісторыі ВКЛ. У 20-я гады XVI ст. у асяроддзі патрыятычна настроенай літоўскай арыстакратыі была створана **"Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага"**, дзе выкладаецца гісторыя ВКЛ ад легендарнага князя Палемона да Гедыміна. У гэтым творы, напісаным у жанры гістарычнай аповесці, сцвярджаецца аб паходжанні літоўскіх князёў ад рымскіх арыстакратаў. Яны на чале з Палемонам, уцякаючы ад праследаванняў імператара Нерона, апынуліся быццам бы ў Прынёманскім краі і заснавалі тут першыя гарады. Магутныя літоўскія князі аднавілі палітычнае і культурнае жыццё на разбуранай Ардой Русі і стварылі моцную дзяржаву. Хроніка была напісана з мэтай абудзіць пачуццё нацыянальнага гонару ў літоўцаў, сцвердзіць перавагу літоўскіх феадалаў над феадаламі ўсходнеславянскага паходжання. Твор мае шмат недакладнасцей і фактычных скажэнняў, тэндэнцыйна падае некаторыя падзеі з мэтай гераізаваць гістарычнае мінулае Літвы.

**"Хроніка Быхаўца"** – яшчэ адзін найбольш поўны агульнадзяржаўны летапісны звод. Сваю назву яна атрымала ад прозвішча пана з-пад Ваўкавыска А.Быхаўца, якому належаў у мінулым стагоддзі адзіны вядомы яе рукапісны экзэмпляр. "Хроніка" апісвае падзеі палітычнай гісторыі ВКЛ ад легендарных часоў да пачатку XVI ст. Аўтар запазычыў з "Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага" гісторыю пра міфічнага Палемона, дапоўніўшы яе ўзятай з Галіцка-Валынскага летапісу аповесцю пра князёў Міндоўга і Войшалка. Яшчэ адной крыніцай "Хронікі" паслужыў Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г., на падставе якога выкладзена гісторыя ВКЛ часоў Альгерда і Вітаўта. Такім чынам, упершыню была створана найбольш поўна сістэматызаваная палітычная гісторыя ВКЛ на працягу значнага прамежку часу.

Цэнтральная тэма твора – ваенна-патрыятычная. Шмат увагі храніст надае апісанню розных паходаў і бітваў, ратных подзвігаў суайчыннікаў, імкнучыся абудзіць іх патрыятычныя пачуцці.

"Хроніка Быхаўца" – этапны твор у гісторыі беларуска-літоўскага летапісання. Ён аб'яднаў у сабе традыцыйную летапісную форму пераказу са звязным расповядам пра мінулае, што адлюстравала тэндэнцыю да белетрызацыі гістарычнага апавядання. Хроніка Быхаўца паслужыла асновай для "Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі" М.Стрыйкоўскага.

У другой палове XVI ст. летапісы як сінтэтычная форма духоўнай культуры сталі паволі адміраць, уступаючы месца іншым гістарычным жанрам.

**Пачатак Адраджэння на Беларусі. Узнікненне кнігадрукавання. Францішак Скарына і Мікола Гусоўскі.** Беларускую культуру не







*Францішак Скарына*

абмінула і такая агульнаеўрапейская з'ява, як Адраджэнне, або Рэнесанс, – эпоха станаўлення і росквіту ранняй буржуазнай культуры. Адраджэнне было абумоўлена якаснымі зменамі ў эканамічным і палітычным жыцці краін: зараджэннем капіталістычных адносін, фарміраваннем нацыянальных дзяржаў і абсалютных манархій, узмацненнем антыфеадальнай і рэлігійнай барацьбы. Вялікія геаграфічныя адкрыцці, з'яўленне кнігадрукавання, развіццё навукі і тэхнікі прывялі да ўзнікнення новай, пераважна свецкай культуры. На гэтай аснове сфарміраваўся гуманістычны светапогляд. Выступаючы са старажытных часоў у выглядзе асноўных ідэй і элементаў духоўнай культуры, гуманізм толькі ў эпоху Адраджэння набыў рысы акрэсленай канцэпцыі. Гуманізм (ад лац. humanus – чалавечы, чалавечны) – філасофска-светапоглядная пазіцыя, якая сцвярджае высокую годнасць чалавека – творцы зямнога шчасця, прызнае яго правы на свабоднае развіццё здольнасцей, абараняе ідэалы справядлівасці, чалавекалюбства, свабоды і дасканаласці асобы.

Адраджэнне – умоўная назва, звязаная з памкненнем адрадзіць антычную спадчыну. Але гэта было не простай рэстаўрацыяй, а спосабам фарміравання новай культуры, буржуазнай паводле сваёй сутнасці. Характэрнай рысай эпохі Адраджэння быў працэс фарміравання народных моў літаральна ва ўсіх еўрапейскіх краінах, станаўлення і развіцця нацыянальных культур.

У канцы XV – пачатку XVI ст. склаліся эканамічныя, сацыяльныя і палітычныя передумовы Рэнесансу на Беларусі: рост гарадоў, фарміраванне беларускай народнасці, ажыўленне грамадска-палітычнай дзейнасці і нацыянальна-класавай барацьбы, секулярызацыя духоўнага жыцця і пашырэнне міжнародных узаемасувязей.

Эпоха Адраджэння на тэрыторыі Беларусі мела свае спецыфічныя рысы. Агульнае эканамічнае адставанне ад перадавых краін Еўропы і панаванне феадалізму стрымлівалі ўсебаковае развіццё свецкіх форм культуры і пераход ад сярэдневяковай культуры да культуры новага

часу. І хаця ідэі Адраджэння праніклі ў літаратуру, мастацтва, філасофскую і грамадска-палітычную думку, на Беларусі развіццё рэнесансавай культуры засталося незавершаным, не да канца аддзеленым ад рэлігійнай ідэалогіі.

Прадстаўніком рэнесансавай культуры на Беларусі быў першадрукар, гуманіст і асветнік Францішак Скарына (каля 1490 – каля 1551). Ён нарадзіўся ў купецкай сям'і ў Полацку. Мяркуюць, што там, а таксама ў Вільні Ф.Скарына атрымаў першапачатковую адукацыю. У 1504 г. ён паступіў у Кракаўскі універсітэт, праз два гады атрымаў вучоную ступень бакалаўра філасофіі, а пазней – доктара свабодных навук. У 1512 г. у італьянскім г. Падуя, універсітэт якога славіўся на ўсю Еўропу медыцынскім факультэтам, Ф.Скарына вытрымаў экзамен на атрыманне вучонай ступені доктара лекарскіх навук.

Біяграфічныя звесткі аб жыцці першадрукара не вельмі багатыя, але можна меркаваць, што пасля атрымання вучонай ступені яго зацікавілі грамадскія праблемы і гуманітарныя навукі, зарадзілася думка выдаць кнігі Біблії на роднай мове, зрабіць іх даступнымі для сваіх землякоў. Апынуўшыся ў Празе, Ф.Скарына пры дапамозе заможных віленскіх і полацкіх мяшчан Багдана Онкава, Якуба Бабіча, Юрыя Адверніка, магчыма і брата Івана Скарыны заснаваў друкарню. За няпоўныя тры гады ён пераклаў, пракаменціраваў і падрыхтаваў да друку 23 кнігі Біблії. 6 жніўня 1517 г. выйшла з друку першая кніга – "Псалтыр". Ф.Скарына меў намер выдаць усю Біблію, аб чым сведчаць агульны тытульны ліст, прадмовы да ўсяго выдання. Аднак гэта задумка засталася незавершанай. Першадрукар выдаў пераважную частку Старога Запавету, прычым выбраў з Біблії найбольш важныя кнігі.

У 1520 г. Ф.Скарына пакінуў Прагу і пераехаў у Вільню, дзе адкрыў першую на сваёй радзіме друкарню. У 1522 г. выйшла ў свет "Малая падарожная кніжка" – зборнік рэлігійных і свецкіх твораў. Кніга прызначалася людзям, якія па характару сваіх заняткаў павінны былі часта вандраваць і ў дарозе атрымліваць канфесійную і астранамічную інфармацыю. Як і апошняе выданне Ф.Скарыны "Апостал" (1525), "Малая падарожная кніжка" была невялікім зручным выданнем, надрукаваным на таннай паперы. Гэтыя якасці рабілі кнігі першадрукара больш даступнымі для шырокіх колаў насельніцтва.

Ф.Скарына выступіў у якасці стваральніка новага літаратурнага жанру – прадмоў, дзе адлюстроўваліся яго грамадска-палітычныя, філасофскія, прававыя, эстэтычныя, мовазнаўчыя і педагагічныя погляды. Коратка і лаканічна пераказваючы змест твораў, прадмовы Ф.Скарыны сталі класічнымі ўзорамі ў гэтым жанры беларускай літаратуры, паслужылі прыкладам для беларускіх пісьменнікаў XVI – XVII стст.

Ф.Скарына ўнёс значны ўклад у распрацоўку беларускай літаратурнай мовы. Мова яго выданняў характарызуецца як тыповы ўзор беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы. Сам аўтар мову





выдадзеных біблейскіх кніг называў рускай, паведамляючы чытачу пра ўжыванне на Беларусі яго часоў дзвюх пісьмовых моў – старабеларускай і царкоўнаславянскай.

Біблейскія кнігі Ф.Скарына разглядаў як крыніцу для набыцця ведаў па гісторыі, геаграфіі, астраноміі. Ён перакладаў Біблію, пісаў прадмовы і пасляслоўі да яе, скарачаў тэксты, тлумачыў незразумелыя словы і звароты, каб зрабіць іх даступнымі больш шырокаму колу чытачоў. Для лепшага засваення зместу тэкст кожнага выдання Ф.Скарына падзяляў на главы, а главы на вершы, змяшчаў у кнігах шматлікія ілюстрацыі. Пачаткам яго асветніцкай дзейнасці было выданне "Псалтыра", які Ф.Скарына лічыў дапаможнікам па вывучэнні граматыкі.



*Мікола Гусоўскі*

Ф.Скарына вядомы не толькі як беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік, але і як вучоны і грамадскі дзеяч эпохі Адраджэння. Яго палітычным ідэалам з'яўлялася асвечаная, гуманная і моцная манархічная ўлада. На думку Ф.Скарыны, правіцель павінен быць набожны, мудры, адукаваны, міласэрны, чулы, справядлівы ў адносінах да сваіх падначаленых. Ён абавязаны кіраваць краінай у строгай адпаведнасці з законамі, сачыць за правільным выкананнем правасуддзя. Адначасова правіцель павінен быць моцны і грозны, умець у выпадку неабходнасці абараніць свой народ. Ф.Скарына аддаваў перавагу "мірнаму кіраўніку дзяржавы", але не адмаўляў існавання ў грамадстве класавых супярэчнасцей, лічыў, што грамадства трымаецца на міры і згодзе, "невзгода бо и найбольшие царства разрушаеть".

З пачатку трэцяга дзесяцігоддзя XVI ст. Ф.Скарына працаваў сакратаром віленскага біскупа Іаана, дыпламаваным медыкам наведаў Польшчу, Прускае герцагства, Маскоўскую Русь, у канцы жыцця быў адным з заснавальнікаў рэнесансавага батанічнага саду ў Празе. Дзейнасць Ф.Скарыны аказала дабратворны ўплыў на кнігадрукаванне і асвету ў пазнейшыя эпохі, садзейнічала развіццю філалогіі, батанікі, медыцыны, павышэнню культурнага ўзроўню беларускага насельніцтва.

Выдатным дзеячам беларускай культуры быў паэт-гуманіст эпохі Адраджэння, прадстаўнік новалацінскай літаратурнай школы Мікола Гусоўскі (1470(?) – 1533(?). Нарадзіўся будучы славуты паэт у сям'і велікакняжацкага лоўчага. З дзіцячых гадоў бацька прывучаў сына да паляўнічай прафесіі. М.Гусоўскі меў магчымасць пайсці па шляху свайго бацькі, аднак ён аддаў перавагу набыццю ведаў і атрымаў адукацыю ў Вільні, Польшчы, Італіі.

У 1518 г. М.Гусоўскі трапіў у Рым у складзе польскай дыпламатычнай місіі, якую ўзначаліў Вітэлій, сакратар велікакняжацкай канцылярыі, біскуп плоцкі, што падтрымліваў будучага паэта. Па заказе папы рымскага Льва Х у 1522 г. М.Гусоўскі стварыў свой лепшы твор “Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго”. Напісаная на класічнай латыні, паэма не засталася толькі расказам пра паляванне на зубра, яна аказалася творам, дзе адлюстраваны жыццё народа і лёс краіны ў пераломны момант гісторыі. Праз усе часткі паэмы праходзіць тэма радзімы, а зубр выступае як алегарычны вобраз роднага краю. Адну з галоўных прычын няшчасцяў і пакут радзімы М.Гусоўскі бачыў у войнах. Паэт-гуманіст заклікаў пакончыць з міжусобіцамі, прапанаваў ідэю яднання розных па культуры і веры еўрапейскіх народаў перад пагрозай турэцкага і татарскага нашэсцяў. У паэме аўтар вялікую ўвагу надаў адлюстраванню жыцця простых людзей, іх побыту, звычаяў і заняткаў. Ён прапагандаваў сістэму лацінскай еўрапейскай адукацыі, адводзіў мастацтву і навуцы вялікую ролю ў выхаванні народа.

Такім чынам, у беларускай літаратуры другой паловы XIII – першай паловы XVI ст. пераважалі сярэдневяковыя ідэйна-мастацкія прынцыпы, традыцыйныя тэмы і жанравыя формы. Аднак з канца XV – пачатку XVI ст. пад уплывам Рэнесансу выяўляецца тэндэнцыя да пераадолення старых традыцый, удасканальваецца беларуская літаратурная мова, адбываецца секулярызацыя, дэмакратызацыя і гуманізацыя літаратуры.

**Архітэктура і выяўленчае мастацтва.** На працэс станаўлення і развіцця беларускай архітэктуры і выяўленчага мастацтва значна паўплывалі старажытнарускія традыцыі, а таксама лепшыя дасягненні архітэктуры і мастацтва заходнееўрапейскіх краін. Шырокае распаўсюджанне на Беларусі набыла **готыка** – мастацкі стыль, запазычаны ў Заходняй Еўропе. Готыка з сярэдзіны XII ст. прыйшла на змену раманскаму стылю і атрымала сваю назву ад назвы германскага племені готаў. Архітэктуры належала вызначальная роля ў развіцці готыкі. Найбольш тыповыя гатычныя пабудовы вылучаліся вялікай вышынёй, стромкім сілуэтам і вертыкальнымі лініямі, вузкімі стральчатымі парталамі і вокнамі з каляровымі вітражамі, высокімі вежамі. У гатычных саборах выкарыстоўваўся багаты дэкор, на фасадах часта мелася вялікае круглае акно (ружа), звычайна яны ўпрыгожваліся скульптурай.

Своеасаблівыя рысы беларускай готыкі заключаліся ў надзвычай доўгім часе яе панавання (другая палова XIII – XVI ст.), функцыя-







*Лідскі замак*

*Малюнак Н.Орды*

нальным спалучэнні культавага і абарончага дойлідства, традыцыйным выкарыстанні цаглянай муроўкі з разнастайнымі абтынкаванымі і пабеленымі плоскімі нішамі, масіўнасці канструкцый і манументальнасці пабудоў, спалучэнні гатычных і рэнесансавых[1] форм.

Готыка на Беларусі была прадстаўлена шматлікімі абарончымі збудаваннямі – замкамі, якія адначасова з'яўляліся адміністрацыйнымі, палітычнымі, эканамічнымі і культурнымі цэнтрамі. Мураваныя замкі пачалі будавацца ў першай палове XIV ст. Старыя драўляныя ўмацаванні не маглі стрымліваць моцнага націску ворагаў. Узнікла абарончая сістэма з замкаў у Лідзе, Навагародку, Крэве, Вільні і Троках.

Абарончая сістэма складалася з замкаў розных тыпаў. Адны з іх будаваліся на ўзвышшах, на месцы старых драўляных замкаў. Другія ж

[1] На змену готыцы ў Еўропу ў канцы XIV – пачатку XVII ст. прыйшоў рэнесанс. Узніклі новыя тыпы пабудоў, дэкарыраваныя арнаментамі, скульптурай, нішамі; з'явіліся купальныя культавыя збудаванні і грамадзянскія асабнякі з вялікімі прамавугольнымі вокнамі, антычнымі трохвугольнымі франтонамі, карнізамі, порцікамі (навесы над уваходам у будынак, якія падтрымліваліся каланадай; адкрытыя галерэі, што прымыкалі да будынкаў).


*Княжацкая вежа Крэўскага замка ў руінах (XX ст.)*

размяшчаліся ў нізіннай балоцістай мясцовасці на штучным насыпе. Гэта быў новы тып замкаў, т. зв. кастэлі, запазычаныя з Захаду. У Заходняй Еўропе кастэлем называлі невялікі мураваны замак у нізіне, які выконваў абарончую функцыю. Мясцовыя дойліды прыстасавалі гэты тып да сваіх умоў, значна павялічыўшы плошчу замкавага двара, дзе хавалася ў час небяспекі мірнае насельніцтва.

Да тыпу кастэляў належаў **Лідскі замак**, пабудаваны ў 30-я гады XIV ст. Ён быў узведзены на штучным насыпе ў балоцістай сутоцы рэк Лідзеі і Каменкі. Побач з мурамі праходзіў глыбокі роў, які злучаў абедзве ракі і абараняў замак з боку горада. Асноўнае абарончае значэнне мелі сцены, пабудаваныя з палявога каменя. Верхняя частка сцен з баявой галерэяй і байніцамі была ўзведзена з цэглы. Спачатку замак меў адну паўночна-заходнюю вежу, якая была пабудавана адначасова са сценамі.

У канцы XIV – пачатку XV ст. крыжакі ўжо мелі агнястрэльную зброю, таму замкі пачалі прыстасоўваць да новых умоў. Па загаду Вітаўта Лідскі замак быў перабудаваны і ператвораны ў адзін з наймацнейшых ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Былі пабудаваны яшчэ адна вежа і новы вялікі ўваход. Вежы не выступалі за перыметр сцен. Па перыметры замкавых муроў размяшчаліся аднапавярховыя драўляныя будынкі жылога і гаспадарчага прызначэння. Магчыма, на тэрыторыі замка знаходзілася праваслаўная царква.

**Замак-кастэль існаваў таксама і ў Крэве.** Шматлікія ўзгоркі і лагчыны ў наваколлі Крэва паспрыялі ўзвядзенню тут мураванага замка ў канцы XIII – пачатку XIV ст. У плане Крэўскі замак меў выгляд прамавугольніка з дзвюма брамамі. Ад Лідскага замка ён адрозніваўся тым, што яго галоўная т. зв. Княжацкая вежа выходзіла за перыметр замкавых муроў. Вежа мела не менш як тры паверхі і была прыстасавана пад жыллё. На другім яе паверсе знаходзіліся княжацкія пакоі.

Крэўскі замак – сведка шматлікіх гістарычных падзей. Збудаваны ў часы Гедыміна, пазней ён стаў рэзідэнцыяй Альгерда. Тут быў забіты Кейстут, знаходзіўся ў палоне Вітаўт, а ў 1385 г. адбылося заключэнне уніі паміж Польшчай і ВКЛ. Замак быў моцна пашкоджаны ў час руска-польскай вайны сярэдзіны XVII ст. і страціў свае абарончыя функцыі. Канчаткова муры помніка былі разбураны ў ходзе першай сусветнай вайны.






*Навагародскі замак*

Малюнак Н Орды

Крэўскі замак займае асаблівае месца ў шэрагу помнікаў беларускага дойлідства. Ён спалучыў рысы абарончага збудавання і велікакняжацкай рэзідэнцыі. Умелае выкарыстанне асаблівасцей мясцовага рэльефу, дасягненняў архітэктурнай думкі Еўропы прывяло да стварэння арыгінальнага і магутнага замкавага комплексу.

Акрамя будаўніцтва кастэляў у XIV – XV стст. перабудоўваліся і старыя драўляныя нагорныя дзядзінцы. **Навагародскі замак** існаваў у X – XVII стст. Ён пэўны час з'яўляўся рэзідэнцыяй вялікіх князёў літоўскіх. Размяшчаўся замак на ўзгорку т.зв. Замкавай гары, акружаны глыбокім ровам і земляным валам, дзе спачатку стаялі драўляныя сцены. Драўляныя пабудовы шмат разоў гарэлі, а потым узнаўляліся. У другой палове XIII ст. была пабудавана абарончая вежа з каменя, якая нагадвала Камянецкую вежу. Пасля аднаго з крыжацкіх нападаў у канцы XIV ст. вежа была адбудавана амаль поўнасцю, але ўжо не з каменя, а з цэглы. Яе назвалі Шчытоўкай. У канцы XIV ст. былі пабудаваны яшчэ 3 мураваныя вежы, злучаныя



*Мірскі замак*

муравынымі сценамі. Паколькі вады ў замку не было і толькі на ўсходнім схіле Замкавай гары білі моцныя крыніцы, над адной з іх была ўзведзена Калодзежная вежа. З поўначы на самым стромкім схіле Замкавай гары доўгі час захоўваліся драўляныя сцены, што тлумачыцца выгадным размяшчэннем гэтай часткі замкавых умацаванняў.

Наступны этап перабудовы замка адбыўся ў канцы XV– пачатку XVI ст. у сувязі з нападамі крымскіх татар. Была збудавана Дазорная вежа. Паміж ёй і Шчытоўкай узвялі сцены, такім чынам кольца замкавых збудаванняў было замкнёна.

У XVI ст. Навагародскі замак з'яўляўся адной з самых магутных пабудоў, якая вытрымала шмат варожых нападаў. Да нашага часу захаваліся толькі рэшткі сцен і вежаў.

У першай палове XVI ст. зноў назіраецца росквіт замкавай архітэктуры, што ў значнай ступені было звязана з набегамі татар, войнамі з суседнімі дзяржавамі, магнацкімі спрэчкамі, сялянскімі паўстаннямі.

У пачатку XVI ст. з'явіўся **Мірскі замак**, жамчужына беларускага мураванага дойлідства, пабудаваны магнацкім родам Ільінічаў па тыпу замкаў-кастэляў. У першых гаспадароў замка не хапіла грошай на яго дабудову, і ў 1568 г. ён перайшоў да Радзівілаў, тады замак быў завершаны ў стылі рэнесансу. У плане замак блізкі да квадрата з выступаючымі па вуглах вежамі. Пятая вежа мела ўязную браму з пад'ёмным мостам і каванай рашоткай, якая магла хутка спыніць раптоўны напад ворага.

Мірскі замак быў добра прыстасаваны для агністрэльнай абароны. Яго муры мелі два рады байніц, а вежы выкарыстоўваліся для стральбы





з цяжкіх гармат. Менавіта вежы выконвалі галоўную абарончую функцыю: яны былі разлічаны на прыцэльны агонь уздоўж мурoў. Вежы заставаліся апошнімі асяродкамі абароны, калі ворагі прарываліся ў замак. Квадратная аснова кожнай вежы паступова пераходзіла ў васьміграннік. Такая форма была характэрна для замкавых вежаў перыяду росквіту беларускай готыкі. Архітэктурнае аздабленне фасадаў кожнай вежы спалучала розныя па форме і велічыні дэкаратыўныя нішы і замкавыя муры, па перыметры якіх праходзіў дэкаратыўны пояс з цэглы. У мастацкім афармленні Мірскага замка выкарыстаны такія прыёмы, як гатычная мураўка, падзел сцен разнастайнымі па форме атынкаванымі нішамі.



*Троіцкі касцёл у в.Ішкалдзь (Баранавіцкі раён)*

Замак быў адміністрацыйным цэнтрам Мірскага графства, дзе знаходзіліся канцылярыя і турма. Мірскі замак у асноўным захаваўся да нашага часу, і зараз вядзецца рэстаўрацыя гэтага выдатнага помніка беларускага дойлідства.

Акрамя мураваных замкаў удасканальваліся і перабудоўваліся драўляныя замкі ў Полацку, Берасці, Мінску, Гомелі, Мсціславе і іншых гарадах. Замкі, іншыя абарончыя збудаванні меліся амаль ва ўсіх гарадах. Вось чаму Беларусь сярэднявечча называюць краінай замкаў.

Разам з замкамі другім пануючым архітэктурна-кампазіцыйным цэнтрам гарадскіх пасяленняў былі гандлёвыя плошчы, дзе размяшчаліся будынкі магістратаў, купецкія лаўкі, крамы.

Значнае месца ў архітэктуры адзначанага перыяду займала культавае дойлідства. Ні цэрквы, ні касцёлы XIV – першай паловы XV ст. на тэрыторыі Беларусі не захаваліся. Археалагічныя даследаванні Верхняй царквы ў Гародні, царквы ў Навагародку дазволілі меркаваць, што з гэтых пабудоў пачынаецца новы этап у беларускім культавым дойлідстве, якому ўласціва засваенне гатычных традыцый.

У сувязі з пашырэннем каталіцызму пасля заключэння Крэўскай уніі на ўсёй тэрыторыі Беларусі пачалося будаўніцтва касцёлаў. **Троіцкі касцёл у в.Ішкалдзь (Баранавіцкі р-н) –**



*Сынковіцкая царква-крэпасць*

адзіны помнік беларускага культавага дойлідства перыяду станаўлення гатычнай архітэктуры, які цалкам захаваўся. Ён быў створаны прыкладна ў 1471 – 1472 гг. Троіцкі касцёл – кампактная прамавугольная ў плане пабудова, накрытая высокім двухсхільным дахам. Вокны – паўцыркульныя, праём увахода – стральчатае завяршэнне. Храм аздоблены сіметрычна размешчанымі плоскімі нішамі.

У XV ст. у гатычным стылі былі створаны **касцёлы ў в.Уселюб (Навагрудскі р-н) і ў Іўі**, якія захаваліся да нашых дзён, але ў выніку шматлікіх перабудоў амаль страцілі свой першапачатковы выгляд.

У культавай архітэктуры канца XV – першай паловы XVI ст. з'яўляецца новы тып пабудоў – інкастэляваныя храмы, прыстасаваныя да абароны. У гэты перыяд пашыраліся міжусобныя сутычкі паміж феадаламі, і тады мураваныя храмы станавіліся сховішчамі для сельскіх жыхароў. Пісьмовыя крыніцы паведамляюць, што ў розных мясцінах Беларусі існавалі інкастэляваныя храмы. Пад абарончы храм была перабудавана і Полацкая Сафія. Усім храмам падобнага тыпу былі ўласцівы кампактнасць аб'ёму, абарончыя вежы з байніцамі, высокі дах і выразны падзел унутранай прасторы на фартыфікацыйную і культавую часткі.

На Беларусі да нашых дзён захаваліся два абарончыя храмы: Сынковіцкая царква-крэпасць і Мураванкаўская (Маламажэйкаўская) царква.

**Сынковіцкая царква-крэпасць у в.Сынковічы (Зэльвенскі р-н)** – помнік дойлідства канца XV – пачатку XVI ст. Храм у плане з'яўляецца перакошаным прамавугольнікам з чатырма баявымі вежамі па вуглах. Сцены царквы ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы. Яна пакрыта высокім двухсхільным дахам з вострымі тарцовымі шчытамі. Шчыт на галоўным фасадзе аздоблены рознымі па форме плоскімі атынкаванымі нішамі.

Храм быў добра прыстасаваны да абароны. Яго вежы мелі байніцы рознай формы, а таксама вінтавыя ўсходы, якія вялі да баявой галерэі, размешчанай на завяршэнні сцен. Архітэктура Сынковіцкай царквы вылучаецца выразнымі стылявымі адзнакамі готыкі. Помнік мае значную мастацкую і гістарычную каштоўнасць і ахоўваецца дзяржавай.







*Мураванкаўская (Маламажэйкаўская) царква-крэпасць*

Не менш цікавым збудаваннем абарончага тыпу з'яўляецца **Мураванкаўская царква-крэпасць (Шчучынскі р-н)**, якая ў навуковай літаратуры набыла яшчэ адну назву – Маламажэйкаўская. Яна была пабудавана ў першай палове XVI ст. Да нашага часу царква не захавалася цалкам у першапачатковым выглядзе, таму што яе не раз разбуралі і перабудоўвалі. Моцна пашкоджаная ў час руска-польскай вайны 1654 –1667 гг. і Паўночнай вайны, у XIX ст. яна двойчы рамантавалася.

Мураванкаўская царква ўяўляе сабой амаль квадратную ў плане пабудову з чатырма цыліндрычнымі вежамі па вуглах. У адрозненне ад Сынковіцкай царквы, яе вежы як бы ўцягнуты ў вуглы, што надае кампактнасць пабудове. Храм таксама мае шмат байніц, прыстасаваных для ручной агнястрэльнай зброі. Але трэба адзначыць, што ўвогуле інкастэляваныя храмы не маглі процістаяць значнаму войску: тут можна было арганізаваць адпор толькі невялікім атрадам, якія спусташалі край.

Мураванкаўская царква з'яўлялася не толькі абарончым збудаваннем, але і выдатна аздобленым храмам. У аснову дэкору яе фасадаў было пакладзена чаргаванне ніш розных абрысаў і велічыні. Пабеленыя нішы выразна кантраставалі з чырвоным фонам цаглянай муроўкі. Дойліды, якія стваралі Мураванкаўскую царкву, адышлі ад суровага ўзору Сынковіцкай царквы і пабудавалі больш аздоблены храм, дзе нават часткі абарончага прызначэння адначасова выконвалі і дэкаратыўную функцыю.

На тэрыторыі Падляшша знаходзілася **Супрасльская царква-крэпасць.** Пабудаваная ў якасці абарончага храма, яна з'яўлялася найбольш складаным і арыгінальным узорам царкоўнай готыкі ВКЛ. Храм быў створаны ў 1505 – 1511 гг. на сродкі маршалка Вялікага княства Літоўскага Аляксандра Хадкевіча.

У адрозненне ад Сынковіцкай і Мураванкаўскай цэркваў, Супрасльскі храм меў пятую вежу, якая была размешчана ў цэнтры асноўнага аб'ёму і дамінавала над астатнімі чатырма. У інтэр'еры помніка значную ролю



*Супрасльская царква-крэпасць*

адыгрываюць фрэскі, выкананыя ў сярэдзіне XVI ст. групай жывапісцаў, пад кіраўніцтвам сербскага майстра Нектарыя. У XVI ст. царква ўваходзіла ў комплекс манастыра, дзе складаліся летапісы, свецкія і рэлігійныя творы, у тым ліку Супрасльскі зборнік 1519 г., які змяшчаў самы поўны спіс Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. У 1944 г. царква была разбурана і захавалася часткова. Зараз яна аднаўляецца.

**Барысаглебская царква ў Навагародку** была пабудавана ў 1519 г. на сродкі гетмана Вялікага княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага. Для будаўніцтва выкарыстана цэгла, а таксама падмурак храма XII ст. з валуноў і блокаў вапняку. У XVII ст. да заходняй часткі царквы была зроблена прыбудова дзвюх вежаў з байніцамі, што сведчыць аб прыстасаванні яе да абароны. Маляўнічы выгляд царкве надавала падлога з квадратных, шасціграненых, ромбападобных зялёных паліваных плітак, а таксама дах з зялёнай і карычневай паліванай дахоўкі. Царква ўяўляла сабой трохнефавую двухвежавую пабудову, план асноўнага аб'ёму якой меў прамавугольную форму. З усходу яна заканчвалася шматграннай апсідай, з захаду да царквы прымыкаў прытвор. У яе архітэктуры выразна вылучаліся гатычныя рысы – зорчатыя скляпенні, падпружныя аркі і вокны спічастай формы, контрфорсы.

**Спаса-Праабражэнская царква ў Заслаўі** была пабудавана ў сярэдзіне XVI ст. па загаду віленскага ваяводы Івана Глебавіча. Гэта аднанефавая прамавугольная ў плане безапсідная пабудова. Да галоўнага фасада прымыкае пяціярусная вежа. Унутры і звонку сцены царквы ўпрыгожаны пілястрамі. Вуглы храма дэкарыраваны рустам, а сцены завяршаюцца атыкам, што надае параўнальна невялікіх памераў пабудове манументальны выгляд.

У XV – першай палове XVI ст. былі ўзведзены **фарны касцёл у Навагародку, Троіцкі касцёл у Клецку, касцёл Святога Духа ў Гродне, Мікалаеўскі касцёл у в.Геранёны (Іўеўскі р-н), касцёл Святога Міхаіла ў в.Гнезна (Ваўкавыскі р-н).**

У выяўленчым мастацтве Беларусі другой паловы XIII – першай паловы XVI ст. вылучаюцца іканапіс, фрэскі, кніжная мініяцюра,





гравюра, арнамент, драўляная разьбяная скульптура.

Творы манументальнага жывапісу гэтага перыяду амаль не захаваліся. Але з пісьмовых крыніц вядома, што многія палацы і храмы былі ўпрыгожаны фрэскамі. Беларускія мастакі прымалі ўдзел у роспісе Благавешчанскай царквы Супрасльскага манастыра. Да нашых дзён фрэскі дайшлі толькі ў фрагментах.



*Барысаглебская царква ў Навагародку*

Сярод іншых відаў жывапісу найбольш актыўна развіваўся іканапіс. Лепшыя яго творы вылучаюцца жыццёвай праўдай і цікавасцю да чалавечых пачуццяў. Абразы пісаліся пераважна на дошках тэмпернымі фарбамі або алеем і ўпрыгожваліся пры дапамозе пластычных сродкаў: разьбы і лепкі, накладных элементаў і разьбяных ліштваў, што надавала творам падкрэсленую дэкаратыўнасць. Абразы захоўвалі традыцыі старажытнарускага і візантыйскага мастацтва. Характэрнымі з'яўляліся абразы "Маці боская Замілаванне" (канец XIV – пачатак XV ст.), "Маці боская Іерусалімская" (першая палова XV ст.), "Маці боская Смаленская" (мяжа XV – XVI стст.) і інш.

З пачатку XVI ст. пад уплывам рэнесансных павеваў у іканапісных творах персанажы ўсё часцей надзяляюцца індывідуальнымі рысамі, у сюжэце з'яўляюцца элементы бытавога, этнаграфічнага характару. У стылі Адраджэння выкананы абраз "Пакланенне вешчуноў" (каля 1514) з в.Дрысвяты, што на Віцебшчыне.

З распаўсюджаннем ідэй Адраджэння звязана і развіццё свецкага жывапісу, пераважна партрэтнага па жанры. Сярод манументальных роспісаў захаваліся выявы партрэта Ягайлы ў касцёле ў Сандаміры (Польшча). У Трокскім замку знаходзіцца шэраг фрэсак, прысвечаных Вітаўту. У XV ст. партрэт ужо перастае належаць да твораў манументальнага жывапісу і паступова набывае самастойнае значэнне. Шырокае распаўсюджанне партрэта прыходзіцца на XVI ст. Беларускія магнаты пачынаюць збіраць творы заходнееўрапейскіх мастакоў. У Вільню запрашаліся вядомыя майстры, якія пісалі партрэты членаў сям'і вялікага князя, духоўных і свецкіх феадалаў. Свае зборы карцін мелі не толькі магнаты, але і буйная шляхта, багатыя мяшчане. У маёнтках амаль усіх буйных феадалаў Беларусі былі шырока прад-



*Касцёл Святога Міхаіла ў в. Гнезна (Ваўкавыскі раён)*

стаўлены т. зв. галерэі продкаў. Пераважна ў гравюрах захаваліся галерэі Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў і іншых магнатаў.

На Беларусі развіваўся і такі від жывапісу, як кніжная мініяцюра – малюнак на старонках рукапісаў невялікага памеру і тонкай тэхнікі выканання. Асаблівы яе росквіт назіраецца ў XIV – XVI стст. Адным з буйнейшых цэнтраў пісьменнасці быў Супрасльскі манастыр, дзе існавалі майстэрня для аздаблення і перапіскі кніг, пераплётная, бібліятэка. Найбольш ранні помнік беларускай рукапіснай кнігі – Лаўрышаўскае евангелле, створанае ў пачатку XIV ст. Яго мініяцюры з выявамі евангелістаў вызначаюцца рэалістычнымі рысамі.

Мініяцюра была папярэдніцай графікі, якая ўключае ў сябе ўсе разнавіднасці малюнка, а таксама яго адбіткі метадамі гравюры, літаграфіі. Асаблівасць гравюр скарынінскіх выданняў выяўляецца ў іх аб'ёмнасці, верагоднасці ўспрымання, наяўнасці перспектывы. Вялікае мастацкае значэнне мае гравюрны партрэт Ф.Скарыны – адзін з самых ранніх партрэтаў друкароў наогул.

Побач з іншымі відамі выяўленчага мастацтва на Беларусі развівалася скульптура. Скульптурныя творы ўпрыгожвалі цэрквы, касцёлы, палацы феадалаў. У беларускай пластыцы адзначанага перыяду вылучалася паліхромная драўляная скульптура, якая характарызавалася цеснай узаемасувяззю з архітэктурнымі формамі. Скульптурныя творы звычайна ўваходзілі ў склад створкавых алтароў – своеасаблівых скульптурна-жывапісных комплексаў. Пад уплывам познеготычнага мастацтва былі створаны скульптура "Св. Гжэгаш", выявы святых Ганны і Іакіма. Традыцыі Адраджэння назіраюцца ў скульптурах "Кацярына Александрыйская", "Лізавета Венгерская".

У рамках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на Беларусі ў другой палове XIII – першай палове XVI ст. развіваліся размалёўка па дрэву, чаканка па металу, выраб тэракотавай і паліванай керамікі. Беларускія майстры добра ведалі тэхналогію металаапрацоўкі, выраблялі металічныя ўпрыгажэнні і посуд. Развівалася і касцярэзная вытворчасць: выраблялiся накладкі калчанаў, дэталі арбалетаў, грабяні, гузікі, фігуркі шахмат, невялікія абразкі. Беларускія рамеснікі таксама стваралі розныя рэчы з каменя: надмагільныя крыжы, надмагіллі ў выглядзе бюстаў, статуй, рэльефаў.





Разнавіднасцю дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з'яўляўся выраб кафлі. На Беларусь яна трапіла з Заходняй Еўропы ў пачатку XIV ст. і скарыстоўвалася пры пабудове печаў, для абліцоўкі сцен у манументальных збудаваннях. На мяжы XV – XVI стст. пры вырабе кафлі ўжо ўжываюць паліву. Кафельныя печы выконваюць мастацка-дэкаратыўныя функцыі ў інтэр'еры памяшканняў. Пад уздзеяннем адной са шматлікіх плыняў італьянскага Адраджэння, што дайшлі да Беларусі ў пачатку XVI ст., беларускія кафельшчыкі авалодалі тэхнікай стварэння шматколернай паліхромнай кафлі. Тады з'явілася сюжэтная кафля з алегарычнымі або міфалагічнымі сцэнамі, "партрэтная" кафля з жаночымі або мужчынскімі выявамі, кафля з раслінным арнаментам. Акрамя паліванай кафлі і посуду беларускія майстры выраблялі паліваную дахоўку і пліткі для падлогі.

Такім чынам, другая палова XIII – першая палова XVI ст. – яркі і самабытны перыяд у развіцці беларускай культуры, перыяд росту палітычнай і патрыятычнай свядомасці беларусаў, сінтэзу рэнесансава-гуманістычных паводаў і сярэдневяковых рэлігійных традыцый у духоўным жыцці, пашырэння культурных сувязей паміж беларускім і іншымі народамі.

# ВЫВАДЫ

1. У выніку распаду Старажытнарускай дзяржавы ўтварыўся шэраг самастойных княстваў, насельніцтва многіх з якіх стала здабычай крыжакоў і татара-манголаў. У XIII ст. вызначыліся два цэнтры кансалідацыі ўсходніх славян. Адзін з іх звязаны са старажытнарускімі гарадамі Навагародкам і Вільняй, на чале з якімі аб'ядноўваліся заходнія землі русаў і фарміравалася магутная дзяржава – Вялікае княства Літоўскае. Другі цэнтр – Масква, вакол якой аб'ядноўваліся ўсходнія землі русаў і стваралася таксама вялікая і магутная Маскоўская дзяржава.

2. Пагроза ў XIII ст. заходнерускім землям з захаду ад крыжакоў (ордэн мечаносцаў, Лівонскі і Тэўтонскі ордэны), з поўдня і ўсходу – ад татара-манголаў (заваяванне Усходняй і Паўднёвай Русі), далейшае развіццё феадальных адносін, прадукцыйных сіл, інтэнсіўных і экстэнсіўных працэсаў у земляробстве, рост гарадоў, пашырэнне гандлю і рамёстваў, узнікненне тэрытарыяльнай спецыялізацыі працы,

21. Зак. 5560

абвастрэнне класавай барацьбы ў феадальным грамадстве – усё гэта падштурхоўвала заходнерускія княствы да аб'яднання, кансалідацыі, утварэння адзінай дзяржавы. Вялікую ролю ў кансалідацыі літоўскіх і заходнерускіх зямель у адзінай дзяржаве адыграў фактар узаемнага імкнення да аб'яднання.

3. Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага быў працяглы і насіў складаны характар. Ён адбываўся больш за стагоддзе – з другой чвэрці XIII да трэцяй чвэрці XIV ст. У адных выпадках тэрыторыі далучаліся пры дапамозе ваеннай сілы, у другіх – на аснове пагадненяў паміж рускімі і літоўскімі князямі, у трэціх – шляхам дынастычных шлюбаў. На працягу XIII – XIV стст. у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ўтварылася феадальная дзяржава – Вялікае княства Літоўскае, якое ахоплівала тэрыторыю цяперашніх Літвы і Беларусі, большую частку Украіны і частку Расіі (Смаленскую, Тульскую і Арлоўскую вобл.). У XV ст. Вялікае княства Літоўскае распасціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора і ад межаў Польшчы і Венгрыі да Падмаскоўя.

4. У гістарычнай літаратуры існуюць тры канцэпцыі ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Першая з іх прадстаўлена ў традыцыйнай гістарыяграфіі, у старой навуковай і вучэбнай літаратуры, сённяшняй літоўскай гістарыяграфіі. Яе ўмоўна называюць літоўскай канцэпцыяй. Сутнасць гэтай канцэпцыі ў наступным. Літва гістарычная, Літва XI – XIII стст., знаходзілася там жа, дзе і сучасная Літва. У XIII ст. утвараецца адзіная цэнтралізаваная раннефеадальная Літоўская дзяржава (Літва Міндоўга) з моцнай велікакняжацкай уладай і такой жа моцнай ваеннай арганізацыяй. Гэта дзяржава ажыццяўляе сілай зброі захоп рускіх зямель і гвалтоўнае іх далучэнне да Літвы. Утварэнне Вялікага княства Літоўскага тут выступае як вынік знешняй літоўскай агрэсіі. Дзяржава ўтворана літоўскімі феадаламі, на базе літоўскага цэнтра (тэрыторыі), таму яна з'яўлялася толькі Літоўскай дзяржавай.

У процілегласць літоўскай канцэпцыі існуе беларуская канцэпцыя ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Найбольш поўна яна выкладзена ў кнізе М.І.Ермаловіча "Па слядах аднаго міфа". На думку Ермаловіча, гістарычная (летапісная) Літва размяшчалася не на сучаснай тэрыторыі, а на тэрыторыі Беларусі, паміж Мінскам і Навагародкам (з усходу на захад) і паміж Маладзечнам і Слонімам (з поўначы на поўдзень). Не літоўская знаць захапіла рускія землі, як сцвярджалі дарэвалюцыйныя і савецкія гісторыкі, а заходнерускія княствы далучылі да сябе Літву і заснавалі Вялікае княства Літоўскае. Паколькі новая дзяржава была ўтворана беларускімі феадаламі на базе беларускага цэнтра (тэрыторыі), то яна з'яўлялася не чым іншым, як Беларускай дзяржавай.

Прыхільнікі цэнтрысцкай канцэпцыі на аснове падбору адпаведнага канкрэтна-гістарычнага матэрыялу сцвярджаюць, што ў XIII – XIV стст. рашаючую ролю ва ўтварэнні і развіцці Вялікага княства





Літоўскага адыгрывалі разам з заходнерускімі літоўскія феадалы, дзяржава гэтага часу была літоўска-беларускай. У XV – XVI стст. вызначальную ролю ў жыцці Вялікага княства Літоўскага адыгрывалі беларускія феадалы разам з літоўскімі, дзяржава гэтага часу была беларуска-літоўскай.

5. Навуковая праблема месцазнаходжання летапіснай Літвы XI – XIII стст., утварэння Вялікага княства Літоўскага ў гістарычнай літаратуры канчаткова не вырашана. Даследчыкі амаль адзіны ў ацэнцы шляхоў утварэння Вялікага княства Літоўскага – гвалтоўнае далучэнне тэрыторый праз іх заваяванне, пагадненні паміж рускімі і літоўскімі князямі, дынастычныя шлюбы. Спрэчкі працягваюцца ў асноўным наконт таго, дзе знаходзілася старажытная Літва XI – XIII стст., хто каго заваёўваў, на базе якога цэнтра (тэрыторыі) стварылася новая дзяржава – Вялікае княства Літоўскае. Навуковае высвятленне гэтых і іншых дыскусійных пытанняў патрабуе часу і намаганняў даследчыкаў.

6. Вялікае княства Літоўскае не было створана толькі продкамі сучасных беларусаў і літоўцаў, а таму яно не з'яўлялася ні беларуска-літоўскай, ні літоўска-беларускай дзяржавай, як аб гэтым сцвярджаецца ў некаторых сучасных публікацыях. Вялікае княства Літоўскае – гэта поліэтнічная дзяржава чатырох асноўных народаў – беларускага, рускага, украінскага і літоўскага, дзе славяне займалі прыкладна 11/12 тэрыторыі і складалі каля 80 % насельніцтва краіны. Літоўцы ў гэтай дзяржаве з'яўляліся этнічнай меншасцю. Таму, на наш погляд, Вялікае княства Літоўскае можна называць літоўска-рускай ці руска-літоўскай дзяржавай, як аб гэтым сцвярджалася ў дарэвалюцыйнай расійскай і савецкай гістарыяграфіі.

7. Палітычная гісторыя Вялікага княства Літоўскага прасякнута барацьбой цэнтрабежных і цэнтраімклівых тэндэнцый. З самага пачатку існавання ВКЛ былі закладзены асновы федэралісцкіх пачаткаў у дзяржаўным будаўніцтве феадальнай манархіі (адносная аўтаномнасць далучаных зямель, іх самабытнасць і першапачатковы ўнутраны лад, поўнае гаспадаранне князёў у сваіх вотчынах і г. д.). Вярхоўная ўлада імкнулася да цэнтралізацыі. Каб зняць апазіцыю цэнтралізатарскай палітыцы, Вітаўт сілай зброі ліквідаваў сістэму спадчыннага надзельнага землеўладання, інстытут княжання замяніў інстытутам намесніцтва (пасля смерці ўладальніка зямлі не дзяліліся паміж нашчадкамі, як на Русі, часцей на прастоле заставаўся адзін з нашчадкаў у якасці велікакняжацкага намесніка, а апошнія сыходзілі "карміцца" ў іншыя месцы). Аднаўленне літоўскага прастола паводле Востраўскага пагаднення 1392 г., ліквідацыя Вітаўтам абласных княжанняў, выбарнасць вялікіх князёў літоўскіх на аснове Крэўскай уніі 1385 г., колькасны рост, палітычнае і маёмаснае ўзвышэнне ваенна-служылага саслоўя (баярства, шляхецтва), яго нежаданне мець у краіне неабмежаваную ўладу вялікага князя – гэта сведчыла не

толькі аб поспехах у справе цэнтралізацыі, але і аб паступовым набыцці Вялікім княствам Літоўскім статусу абмежаванай канстытуцыйнай манархіі.

У XIV ст. пры вялікім князі літоўскім існавала велікакняжацкая дума па аналогіі з маскоўскай, якая выконвала дарадчыя функцыі, не з'яўляючыся дзяржаўнай установай. Дума паступова трансфармавалася ў вышэйшы выканаўчы орган краіны – паны-раду. Дзейнічаў таксама вышэйшы заканадаўчы орган – вальны сейм. Прывілеі 1413, 1432, 1447 гг. ставілі пэўныя межы для велікакняжацкай улады ў дачыненні да асобы, маёмасці, дзяржаўных павіннасцей. Прывілеі 1492, 1506 гг. устанавілі, што ўсе законы і распараджэнні агульнага характару павінны выдавацца князем толькі са згоды паны-рады. Статут ВКЛ 1529 г. абавязваў вялікага князя выдаваць прывілеі выключна на вальным сейме. Палітычны рэжым Вялікага княства Літоўскага прымаў абрысы парламенцкай манархіі. Ён моцна адрозніваўся ад палітычнага рэжыму суседняй Маскоўскай дзяржавы, якая дасягнула большых поспехаў у справе цэнтралізацыі і з'яўлялася спадчыннай неабмежаванай манархіяй.

8. Складанай і супярэчлівай была знешняя палітыка Вялікага княства Літоўскага. Прыярытэты ў ёй мяняліся. У XIV – XV стст. ВКЛ вяло напружаную барацьбу з нямецкімі ордэнамі (у 1409 г. пачалася "вялікая вайна" Польшчы і ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам, у 1410 г. адбылася Грунвальдская бітва) і татарскімі ханствамі (Залатой Ардой, Вялікай Ардой, Крымскім ханствам), а таксама за пашырэнне сваёй тэрыторыі. Канчатковае далучэнне да ВКЛ у 1352 г. Валыні, у 1357 г. – Бранска і Смаленска, далучэнне Падоліі і Кіеўшчыны пасля разгрому Альгердам татара-манголаў па р.Сінія Воды ў 1362 г., далучэнне Чарнігава-Северскай зямлі, паспяховыя паходы супраць Масквы ў 1368, 1370 і 1372 гг., далучэнне пры Вітаўце сучасных паўднёва-ўкраінскіх зямель па Дняпры і Днястры аж да Чорнага мора – усё гэта садзейнічала значнаму пашырэнню тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

У канцы XIV – XVI ст. Вялікае княства Літоўскае было занята адносінамі з Польшчай, праблемай літоўска-польскага саюзу. Крэўская унія 1385 г. была не чым іншым, як спробай інкарпарыраваць ВКЛ у Польскую Карону "на ўсе часы", пазбавіць княства самастойнага існавання і зліць яго з Польшчай. Больш за 100 гадоў ВКЛ знаходзілася ў стане персанальнай уніі з Польшчай, застаючыся пры гэтым суверэннай дзяржавай дзякуючы намаганням рускіх і літоўскіх феадалаў.

У XV – XVI стст. галоўным напрамкам знешнепалітычнай дзейнасці Вялікага княства Літоўскага сталі адносіны з мацнеючай Маскоўскай дзяржавай, канкурэнтам у справе аб'яднання рускіх зямель. Неабвешчаная прымежная вайна 1487 – 1494 гг., войны 1500 –1503 гг., 1507 – 1508 гг., 1512 – 1522 гг., 1534 – 1537 гг. паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім Маскоўскім





княствам, страта Вялікім княствам Літоўскім Вяземскага, Бранскага, Мажайскага, Чарнігава-Старадубскага, Ноўгарад-Северскага і іншых княстваў, Смаленскай зямлі (страчана 1/4 тэрыторыі ўсёй дзяржавы), прызнанне за маскоўскім гасударам тытула "вялікага князя ўсея Русі" – усё гэта сведчыла пра ўмацаванне Рускай дзяржавы і аслабленне Вялікага княства Літоўскага аж да пагрозы яго існаванню. Да сярэдзіны XVI ст. Вялікае княства Літоўскае ўжо не магло на роўных супрацьстаяць Рускай дзяржаве. Логіка барацьбы з ёй, іншыя міжнародныя і ўнутраныя абставіны вымусілі Вялікае княства Літоўскае да больш цеснага дзяржаўнага аб'яднання з Польшчай.

9. Галоўны сродак вытворчасці і галоўнае багацце Вялікага княства Літоўскага – зямля – у залежнасці ад таго ці іншага ўладальніка дзялілася на катэгорыі: дзяржаўную (гаспадарскую), прыватнаўласніцкую (княжацкую) і баярскую (шляхецкую), царкоўную. Сяляне, якія жылі на гэтых землях, адпаведна называліся дзяржаўнымі, прыватнаўласніцкімі і царкоўнымі. Разам з тым сяляне дзяліліся на катэгорыі ў адпаведнасці са сваім маёмасным і падатным становішчам, а таксама ў залежнасці ад ступені асабістай свабоды, якой яны карысталіся. Гэта – чэлядзь нявольная, цяглыя сяляне, людзі служэбныя, ці служкі, з іх галоўнай павіннасцю – вайсковай службай, "пахожыя" і "непахожыя" сяляне.

За карыстанне зямлёй сяляне плацілі ўласніку рэнту. Асноўнымі відамі рэнты былі адработачная (баршчына, ці паншчына), грашовая (чыншавая) і натуральная (прадуктовая). Сяляне выконвалі таксама дадатковыя павіннасці: талаку – агульныя сезонныя гаспадарчыя работы (пазней – агульныя бясплатныя работы па аказанню дапамогі людзям, якія трапілі ў бяду); гвалты, ці згоны, – агульныя тэрміновыя работы па рамонту дарог, гацей, для аблавы на звяроў, у выпадку стыхійных бедстваў і г. д. Уся зямля, як тая, што знаходзілася ў карыстанні асобнай сям'і, ці "дыму", так і тая, якой карысталіся ўсе жыхары сяла (лясы, балоты, азёры, рэкі і г. д.), належала спецыфічнаму сялянскаму згуртаванню, якое называлася абшчынай. Сялянская, ці сельская, абшчына з'яўлялася калектыўным землекарыстальнікам. Яна размяркоўвала паміж сялянамі зямлю і паншчыну, кантралявала выкананне імі законаў і павіннасцей, назірала за іх паводзінамі, становішчам сялянскіх гаспадарак, своечасовым выкананнем сельскагаспадарчых работ, рэгулявала карыстанне выганам і лесам, вырашала спрэчкі паміж абшчыннікамі, іншы раз дапамагала бедным, асабліва ў неўраджайныя (галодныя) гады. У сялянскай абшчыне, талацэ і іншых відах агульных работ трэба шукаць вытокі калектывісцкай традыцыі ва ўсходнеславянскай вёсцы, традыцыі, якая не згубіла сваёй вартасці да нашых дзён.

10. Прывілей 1447 г. пачаў працэс юрыдычнага абгрунтавання прыгоннага права ў Вялікім княстве Літоўскім. Аграрная рэформа 1557 г. Жыгімонта II Аўгуста, што ўвайшла ў гісторыю пад назвай "валочная

22 Зак. 5560

памера", павысіла прыбытковасць княжацкіх фальваркаў, забяспечыла масавае запрыгоньванне сялян, якія гублялі права пераходу ад аднаго гаспадара да другога і станавіліся цалкам прыгоннымі. Статуты Вялікага княства Літоўскага 1566 і 1588 гг. вызначылі спачатку 10-, а потым 20-гадовы тэрмін вышуку беглых сялян і вяртання іх гаспадарам. Гэта азначала канчатковае юрыдычнае замацаванне прыгоннага права на беларускіх землях, якое праіснавала амаль 300 гадоў. Ажыццяўленне валочнай памеры ў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі прывяло да замены абшчыннага землекарыстання падворным. Абшчыннае землекарыстанне засталося толькі ва Усходняй Беларусі.

11. Раслі гарады і паселішчы гарадскога тыпу – мястэчкі. Яны ўзнікалі як на дзяржаўных, так і на прыватнаўласніцкіх землях. Каля 40 % гарадоў належалі феадалам. Жыхары гэтых гарадоў неслі феадальныя павіннасці на карысць свайго гаспадара. Насельніцтва дзяржаўных, ці вялікакняжацкіх, гарадоў лічылася асабіста вольным. Аднак у XVI ст. у гэтых гарадах з'явіліся т. зв. "юрыдыкі" – уладанні вяльможных і духоўных феадалаў, якія не падпарадкоўваліся ўладзе гарадскога самакіравання. Гарады з'яўляліся цэнтрамі культурнага жыцця, рамёстваў і гандлю. Большую частку іх насельніцтва складалі рамеснікі і гандляры. Яны называліся мяшчанамі.

З канца XIV ст. літоўскія князі пад націскам гараджан сталі даваць гарадам права на самакіраванне, т. зв. магдэбургскае права. Паншчынная і іншыя павіннасці на карысць феадала замяняліся адзіным грашовым падаткам. Стварaўся орган адміністрацыйнага кіравання горадам – магістрат. Ён складаўся з рады і лавы (суда). Месцам знаходжання магістрата былі спецыяльна пабудаваныя будынкі-ратушы.

12. Значных поспехаў дасягнула культура на беларускіх землях. Працягваўся працэс утварэння беларускай народнасці – асобнай этнічнай супольнасці з агульнай тэрыторыяй, пануючым эканамічным ладам, адзінай мовай, культурай, псіхічным складам, этнічнай самасвядомасцю. Фарміравалася старабеларуская мова, зараджалася кнігадрукаванне, бурна развівалася беларуска-літоўскае летапісанне, намаганнямі дзеячаў беларускага Адраджэння ствараліся выдатныя літаратурныя творы, развівалася філасофская, прававая і палітычная думка, асветніцтва. Шырокае распаўсюджанне атрымала абарончае і культавае будаўніцтва. Невыпадкова сярэдневяковую Беларусь называлі краінай замкаў. Беларуская культура ўключалася ў еўрапейскі культурна-гістарычны працэс.





## Літаратура


Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов: В 4 т. Мн., 1959. Т.1.

Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1.

Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2; М., 1975. Т. 32; М., 1980. Т. 35.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мн., 1989.

Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960.

Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии: Сб. документов и материалов: В 3 т. Мн., 1988. Т. 1.

Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.

Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983.

Хрестоматия по истории южных и западных славян: В 3 т. Мн., 1987. Т. 1.

*Галенчанка Г.Я.* Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т. 1.

Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1987. Т. 1.

Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1985.

Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1988. Т. 2.

*Гринблат М.Я.* Белорусы. Мн., 1968.

*Гуревич Ф.Д.* Древности Белорусского Понеманья. Мн., 1962.

*Длугош Я.* Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962.

*Доўнар-Запольскі М.В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

*Думин С.В.* Другая Русь (Великое княжество Литовское и Русское) // История Отечества: люди, идеи, решения: Очерк истории России IX – нач. XV в. М., 1991.

*Ермаловіч М.І.* Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991.

*Ермаловіч М.І.* Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994.

*Жураўскі А.І.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1967. Т. 1.

*Ігнатоўскі У.М.* Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1991.

*Карский Е.Ф.* Белорусы. Варшава, 1903. Т. 1.

*Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVIII в. Мн., 1966.

*Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975.

*Кушнярэвіч А.М.* Культавае дойлідства Беларусі XIII – XVI стст. Мн., 1993.

*Лаппо И.И.* Великое княжество Литовское во II половине XVI в. Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911.

*Ластоўскі В.Ю.* Кароткая гісторыя Беларусі. Мн., 1993.

*Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. М., 1900.

*Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910.

*Любавский М.К.* Основные моменты истории Белоруссии. М., 1918.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1994. Ч. 1.

*Пилипенко М.Ф.* Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мн., 1991.

*Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-Русском государстве. М., 1958.

*Пичета В.И.* Белоруссия и Литва в XV – XVI вв. М., 1961.

*Подокшин С.А.* Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XV – начало XVII в.). Мн., 1970.

*Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI – XVII вв. Львов, 1957.

*Сагановіч Г.М.* Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI – XVIII стст. Мн., 1994.

*Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси (XV – XVI вв.). Мн., 1993.

*Ткачоў М.А.* Замкі і людзі. Мн., 1991.

*Трусаў А.А.* Старонкі мураванай кнігі. Мн., 1990.

Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988.

Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985.

*Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

# РАЗДЗЕЛ III

# БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ (1569 – 1795)

## ГЛАВА 1

## ЛЮБЛІНСКАЯ УНІЯ. УТВАРЭННЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Гісторыя Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай – адзін з найболып цікавых і складаных перыядаў гісторыі Бацькаўшчыны.

**Па-першае**, гістарычны лёс беларускага народа ў тыя часы быў цесна звязаны з гісторыяй народаў Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі. Таму зразумела, што гэты перыяд заўсёды цікавіў гісторыкаў розных краін, якія напісалі шмат даследаванняў і выказалі процілеглыя думкі і меркаванні па такіх гістарычных падзеях, як Люблінская унія, Брэсцкая царкоўная унія, падзелы Рэчы Паспалітай і інш.

**Па-другое**, у савецкай гістарычнай літаратуры адсутнічае такі перыяд у гісторыі Беларусі, як Рэч Паспалітая. У аснову перыядызацыі пакладзены прынцып развіцця Беларусі па фармацыях, што не дае цэласнага ўяўлення аб зменах ў гісторыі народа.

**Па-трэцяе**, некаторыя з'явы гэтага гістарычнага перыяду нагадваюць сённяшні дзень, калі гісторыяй пастаўлена перад

беларускім народам пытанне: адраджэнне ці згуба? Таму пільнае вывучэнне Рэчы Паспалітай мае не толькі навуковае, але і практычнае, выхаваўчае значэнне.

1569 год паклаў пачатак новай, трагічнай старонцы ў гісторыі Беларусі. У гэты год на палітычнай карце Еўропы знікла самастойная, магутная і незалежная сярэдневяковая дзяржава Вялікае княства Літоўскае і з'явілася новая – Рэч Паспалітая, што значыць "рэспубліка". Гэты гістарычны акт адбыўся ў выніку Люблінскай уніі, якая абвясціла аб інкарпарацыі княства ў Польшчу і ўтварэнні Рэчы Паспалітай.

Як здарылася, што без адзінага выстралу, без барацьбы знікла раптам цэлая дзяржава, добраахвотна пераўтварылася ў польскую правінцыю? Менавіта так шмат гадоў у гістарычнай літаратуры раскрываліся падзеі 1569 г. у Любліне. Каб лепш зразумець гэту падзею, трэба ўспомніць гісторыю ўзаемаадносін дзвюх дзяржаў. Упершыню спроба інкарпарыраваць Вялікае княства Літоўскае ў Польшчу была зроблена Ягайлам у 1385 г. Згодна з Крэўскай уніяй, Ягайла згадзіўся за польскую карону далучыць ВКЛ да Польшчы (мабыць, у якасці вясельнага пасагу?) і абярнуць язычнікаў княства ў каталіцкую веру. Унія атрымала назву асабістай. Гэта была здрада гаспадара дзяржавы, і таму адразу ж "пагадненне" атрымала адпаведны адпор народа. Насельніцтва на чале з патрыётамі-князямі пачало барацьбу за незалежнасць, самастойнасць, тэрытарыяльную цэласнасць свайго гаспадарства. Барацьба цягнулася амаль два стагоддзі, набываючы розныя формы і метады. Не здолеўшы "праглынуць" ВКЛ адразу, палякі мусілі пільна прыглядзецца да перашкод на шляху зліцця дзвюх краін. Галоўнымі перашкодамі, як гэта хутка стала зразумела, былі наступныя.

Па-першае, краіны адрозніваліся грамадска-палітычным ладам. Польшча была канстытуцыйнай манархіяй на чале з выбарным каралём і заканадаўчым сеймам. Княства – спадчынная манархія, з амаль неабмежаванай уладай вялікага князя. У Польшчы існавала шляхецкая роўнасць, у Вялікім княстве Літоўскім гэтага не было.

Па-другое, Польшчу насялялі галоўным чынам заходнія славяне са сваёй мовай, нацыянальнай культурай і самасвядомасцю. Вялікае княства Літоўскае – поліэтнічная дзяржава, дзе мірна ўжываліся ўсходнія славяне з балтамі, яўрэямі, татарамі і інш.

Па-трэцяе, дзяржаўнай рэлігіяй Польшчы была каталіцкая, у Вялікім княстве Літоўскім – праваслаўная, побач з якой мірна існавала язычніцтва. Гэтыя і іншыя неадпаведнасці стаялі на шляху з'яднання дзвюх дзяржаў і народаў.

Два стагоддзі паміж дзяржавамі, аб'яднанымі асабістай уніяй, ішла барацьба: з боку Польшчы – за інкарпарацыю саюзніка, з боку Вялікага княства Літоўскага – за незалежнасць.

У гэтай барацьбе на першым плане ў Польшчы заставалася задача замацаваць асабістую унію, а ў выпадках, калі яна перапынялася





(1434 – 1447, 1492 – 1501), аднаўляць яе шляхам выбрання чарговага вялікага князя літоўскага на польскі прастол.

Захаванне асабістай уніі на працягу двух стагоддзяў дазваляла палякам аказваць свой уплыў на ўсе сферы дзяржаўнага і грамадска-палітычнага жыцця Вялікага княства Літоўскага, набліжаць іх да польскага ладу. Спадчынная манархія ў ВКЛ эвалюцыяніравала ў бок канстытуцыйнай, выбарнай. Дваранства атрымала палітычныя правы і такія органы дзяржаўнай улады, як сейм і паны-рада. З'явіліся такія, як у Польшчы, органы і пасады: гетман, ваявода, кашталян, магістрат, войт, маршалак і г.д.

Паступова пануючыя колы ВКЛ пераймаюць у палякаў і спосаб іх жыцця (традыцыі, звычаі, жыллё, адзенне і г.д.). Нейкая частка шляхты адмаўляецца ад свайго веравызнання і апалячваецца. У выніку адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы амаль знікаюць удзельныя княствы і з'яўляюцца такія адзінкі тэрытарыяльнага падзелу, як ваяводствы (на Беларусі – Віцебскае, Мінскае і Мсціслаўскае), паветы і воласці, што таксама збліжала дзве краіны.

Такім чынам, да сярэдзіны XVI ст. Вялікае княства Літоўскае па свайму дзяржаўнаму і грамадска-палітычнаму ладу набліжалася да Польшчы. І хаця гэтыя працэсы былі яшчэ далёкія ад завяршэння, палякі мусілі спяшацца з інкарпарацыяй. Такая паспешлівасць была выклікана шэрагам гістарычных умоў.

**Па-першае**, палякі баяліся, што са смерцю апошняга з дынастыі Ягелонаў Жыгімонта II Аўгуста асабістая унія, якая злучала дзве краіны, спыніцца канчаткова, таму што Жыгімонт II, хаця і быў яшчэ не стары (крыху больш за 40 гадоў), але не меў нашчадкаў.

**Па-другое**, у Вялікім княстве Літоўскім за дзвесце гадоў саюзных адносін склаўся пэўны пласт з дробнай шляхты, які падтрымліваў унію. Прыхільнікам уніі ў ВКЛ з'яўляўся і "прышлы" польскі элемент (каралеўскія служкі, беглыя польскія сяляне і інш.). Аб гатоўнасці гэтай часткі насельніцтва падтрымаць унію сведчыла канфедэрацыя пад Віцебскам, скліканая ў 1562 г.

**Па-трэцяе**, дзяржаўны і палітычны лад Польшчы і Вялікага княства Літоўскага зблізіліся, што было станоўчай умовай зліцця гэтых краін.

**Па-чацвёртае**, склаліся спрыяльныя знешнія ўмовы. У 1558 г. Расія пачала вайну з Лівонскім ордэнам за выхад да Балтыйскага мора. У 1559 г. магістр ордэна Кетлер звярнуўся за дапамогай да Вялікага княства Літоўскага. Паміж ордэнам і ВКЛ быў заключаны саюз, ордэн перайшоў пад патранат княства. Але захаваць у час вайны сваю тэрыторыю ордэн не здолеў. Частку зямель захапіла Данія, частку – Швецыя, а Курляндыя і Земгалія, стаўшы наследным герцагствам, з 1561 г. аказаліся ў залежнасці ад княства. ВКЛ не менш, чым Расія, было зацікаўлена ў выхадзе да Балтыйскага мора, таму што гэта быў лепшы шлях для гандлю збожжам у Заходняй Еўропе. Пасля далучэння Курляндыі і Земгаліі да ВКЛ Іван Грозны перанёс ваенныя дзеянні на землі Беларусі. У 1562 г. рускія войскі ўжо стаялі ля сцен

Віцебска, Дуброўны, Оршы, Копысі, Шклова. У лютым 1563 г. была ўзята самая магутная крэпасць Беларусі – Полацк, пасля захопу якой навісла пагроза над сталіцай дзяржавы – Вільняй. Польскія феадалы выкарысталі гэтыя абставіны, каб пад сцягам уніі канчаткова падпарадкаваць сабе Вялікае княства Літоўскае. У 1563 г. на Варшаўскім сейме палякі склалі дэкларацыю аб з'яднанні Вялікага княства Літоўскага з Польшчай і прапанавалі літоўскім прадстаўнікам на сейме падпісаць яе і прыкласці пячатку княства. Але апошнія адмовіліся і пакінулі сейм. На наступным сейме ў 1564 г. палякі дамагліся ад Жыгімонта II Аўгуста, каб ён адмовіўся ад сваіх спадчынных правоў на княства на карысць Польшчы, г. зн. падараваў палякам Вялікае княства Літоўскае. Адначасова быў распаўсюджаны "рэцэс" (сеймавая пастанова), нібыта на Варшаўскім сейме адбылося "зліццё двух народаў, польскага і літоўскага, у адзін народ, адно цела, а таму і ўстанаўліваецца аднаму целу адна галава – адзін гаспадар і адна рада". Але магнаты княства выступілі насуперак волі караля і свайго вялікага князя, і апошні вымушаны быў адступіць. У выніку чарговай хвалі інкарпаратарскіх намаганняў Польшчы княства апынулася ў складаным знешнепалітычным становішчы. З аднаго боку, яно было ўцягнута ў вайну за лівонскую спадчыну, з другога – Польскае каралеўства аб'явіла, што жадае заключыць унію без вайны, мірна, шляхам сеймавай пастановы захапіць і далучыць да сваёй тэрыторыі ўсё княства цалкам. Каб абараніць свае межы з захаду, урад княства зрабіў спробу дамовіцца з Іванам Грозным: заключыць мір ці нават унію. Перамовы ў Маскве закончыліся безвынікова. Княства апынулася перад перспектывай вайны на два франты. Над ВКЛ навісла пагроза развалу і палітычнага краху, бо сіл на адначасовую вайну з Польскім каралеўствам і Расіяй не было. Нельга забывацца яшчэ і пра тое, што княства бесперапынна вяло войны на паўднёвых сваіх межах. З 1500 па 1569 г. на землі ВКЛ 45 разоў урываліся полчышчы крымскага хана і ў 10 выпадках руйнавалі гарады і вёскі Беларусі. Цвёрдая пазіцыя Масквы працягваць вайну, такім чынам, падштурхнула ВКЛ у абдымкі Кракава. Магнаты Польшчы, абапіраючыся на падтрымку польскага караля і вялікага князя літоўскага, дапамогу касцёла, пачалі больш актыўна дзейнічаць, каб павялічыць колькасць прыхільнікаў уніі ў княстве. Дзейнасць працягвалася ў некалькіх напрамках:

1) ураўнаванне ў правах праваслаўных з каталіцкай шляхтай літоўскага паходжання (1563);

2) прапаганда з амбонаў касцёлаў шляхецкіх вольнасцей у Польшчы і абяцанне гэтых жа вольнасцей і для шляхты княства пасля уніі;

3) абяцанне караля, што саюз дзвюх дзяржаў будзе заснаваны "на міласці", "братэрскім узаемаразуменні";

4) абяцанне Жыгімонта II, што дзякуючы уніі княства атрымае ад Польшчы дапамогу ў Лівонскай вайне.

Зразумела, усе гэтыя абяцанні не былі прычынай згоды кіруючых колаў ВКЛ прыняць удзел у Люблінскім сейме. Галоўнай прычынай





перамоў у Любліне сталася цяжкае становішча ВКЛ і надзея, што вялікі князь літоўскі (які быў адначасова і польскім каралём) не знішчыць уласнае гаспадарства. Гэта надзея падтрымлівалася ўсімі вышэйназванымі актамі Жыгімонта II Аўгуста і касцёла. У грамадскай свядомасці ВКЛ фарміраваўся вобраз польскага сябра. І гэты псіхалагічны прыём падзейнічаў на той час. Чарговая спроба заключыць унію прызначалася на снежань 1568 г. у Любліне. Але паслы Вялікага княства Літоўскага не спяшаліся на сейм, мабыць, асцерагаючыся здрады. Каб рассеяць падазрэнне, Жыгімонт II у снежні выдаў грамату, у якой абяцаў абараняць інтарэсы княства і не прымушаць паслоў падпісваць унію. Калі ж згоды не атрымаецца, гарантаваў паслам "вольное, учтительное, ни от кого ничем не затрудненное и спокойное отъехание с того сейму". Абяцаў таксама не выдаваць ніякіх грамат без згоды паны-рады Вялікага княства Літоўскага. Значны ўклад у справу далучэння княства да Польшчы зрабіў Ватыкан, прадстаўнікі якога былі не толькі пры кракаўскім двары, але і ў Любліне ў час падпісання уніі.

У выніку гэтых захадаў і абяцанняў у Люблін прыехалі паслы ад княства: падканцлер ВКЛ А.Валовіч, староста брэсцкі, падскарбі ВКЛ І.Нарушэвіч і інш. Люблінскі сейм пачаў сваю работу 10 студзеня 1569 г. Перамовы ішлі цяжка. Палякі імкнуліся шляхам уніі інкарпарыраваць княства ў Карону, а паслы ад ВКЛ жадалі захаваць саюз з Польшчай, але пры гэтым не страціць самастойнасць і незалежнасць свайго гаспадарства.

Умовы уніі дэлегаты Вялікага княства Літоўскага зводзілі да наступных патрабаванняў: 1) саюзныя дзяржавы будуць мець аднаго гаспадара, абранага на агульным сейме з роўнай колькасцю прадстаўнікоў ад княства і Кароны; 2) выбраны такім чынам кароль будзе каранавацца спачатку ў Кракаве, а затым у Вільні, пацвярджаючы правы і прывілеі кожнага народа асобна; 3) агульны сейм будзе збірацца пачаргова: адзін раз на тэрыторыі Літвы, а другі – на тэрыторыі Польшчы; 4) княства і Карона будуць мець свае асобныя органы дзяржаўнай улады і кіравання: сеймы, сенаты, "уряды", дзяржаўныя пячаткі; 5) дзяржавы будуць захоўваць сваю тэрытарыяльную цэласнасць і недатыкальнасць; 6) дазваляецца неабмежаванае пасяленне жыхароў дзяржавы як у Польшчы, так і ў Вялікім княстве Літоўскім, але пасады ў кожнай дзяржаве будуць займацца толькі "тубыльцамі".

Дэлегаты з Польшчы выставілі зусім іншыя ўмовы: "Польскае каралеўства і Вялікае княства Літоўскае, згодна з ранейшай інкарпарацыяй апошняга, складаюць з абодвух вышэйназваных народаў адно непадзельнае цела, адну супольнасць, адзін народ, так што з гэтага часу ў гэтай адзінай супольнасці з двух народаў і амаль у адзінага, аднароднага, непазнавальнага і непадзельнага цела будзе давеку адна галава (не асобныя гаспадары), адзіны кароль польскі, які ў адпаведнасці з даўнімі звычаямі і прывілеямі, супольнымі галасамі палякаў і ліцвінаў будзе выбірацца ў Польшчы, а не ў іншым

24. Зак. 5560

месцы... Што датычыцца да выбрання, узвядзення яго на прастол Вялікага княства Літоўскага, то яно павінна спыніцца так, каб адгэтуль ужо не было ніякага следу падабенства...” (Дневник Люблинского сейма 1569 г. СПб., 1869. С. 69 – 70).

Такім чынам, польская праграма уніі прадугледжвала інкарпарацыю Вялікага княства Літоўскага ў Польшчу. Умовы былі ганебныя, і паводзіны палякаў таксама былі ганарлівыя і зневажальныя. Спачатку яны прапанавалі дэпутатам ад ВКЛ падпісаць унію без абмеркавання. Але па патрабаванню сенатараў ВКЛ палякі былі вымушаны абвясціць тэкст уніі і хоць як-небудзь абгрунтаваць яго. У барацьбе за сваю праграму уніі яны даказвалі, што інкарпарацыя княства ў Карону здаўна абвешчана вялікімі літоўскімі гаспадарамі Ягайлам і Вітаўтам і з’яўляецца спадчынай для народаў дзвюх краін ад папярэдніх іх гаспадароў. Сваю праграму уніі сенатары і паслы ад ВКЛ таксама абгрунтоўвалі гістарычнымі дзяржаўнымі актамі, спасылаючыся на тыя ж прывілеі папярэдніх гаспадароў, што і палякі, у тым ліку Казіміра, Аляксандра, Жыгімонта I, якія падкрэслівалі самастойнасць і незалежнасць Вялікага княства Літоўскага, а таксама на Літоўскі Статут 1566 г., ухвалены Жыгімонтам II Аўгустам.

Трэба заўважыць, дзеля гістарычнай праўды, што абодва бакі мелі падставу, спасылаючыся на папярэднія дзяржаўныя акты. Так, Гарадзельскі прывілей, па-першае, абвяшчаў інкарпарацыю Вялікага княства Літоўскага ў Польшчу, па-другое – падкрэсліваў адасобленасць княства, захаванне ўлады і г. д. Вынікам дваістасці як Гарадзельскага, так і іншых прывілеяў была шматгадовая барацьба паміж саюзнымі дзяржавамі.

Дэлегаты ад ВКЛ, не сустрэўшы з боку палякаў узаемапаразумення, 1 сакавіка 1569 г. ад’ехалі з сейма. Гэта выклікала абурэнне палякаў, і яны патрабавалі ад караля: 1) скасаваць усе папярэднія прывілеі, дадзеныя Вялікаму княству Літоўскаму і яго шляхце; 2) абвясціць каралеўскім указам далучэнне Падляшша, Валыні, Падоліі да Польшчы; 3) схіліць на бок Польшчы крымскіх татар, каб княства не змагло абаперціся на іх у барацьбе за сваю незалежнасць і г. д.

Жыгімонт II Аўгуст пагадзіўся з гэтым. Пачаў ажыццяўляцца план расчлянення і паслядоўнай анексіі асобных частак Вялікага княства Літоўскага. 5 сакавіка 1569 г. кароль абвясціў аб далучэнні да Польшчы Падляшша і загадаў падляшскім паслам прысягнуць Польшчы пад пагрозай пазбаўлення пасад і прывілеяў. 15 мая была абвешчана анексія Валыні. Але валынскія паслы не ехалі ў Люблін. Тады кароль паабяцаў пазбавіць іх маёнткаў і пагражаў выгнаннем. Пад страхам расправы прыехалі ў Люблін і прысягнулі на вернасць Польшчы князі Астрожскі, Чартарыйскі, Збаражскі і іншыя сенатары і паслы Валыні. Такім жа чынам былі далучаны да Польшчы Падолія (Брацлаўскае ваяводства) і Кіеўшчына.







*Люблінская унія*
*Карціна Я.Матэйкі*

Нельга не зазначыць, што з пункту гледжання заканадаўства Вялікага княства Літоўскага дзеянні Жыгімонта II Аўгуста былі не толькі гвалтоўныя (бо прысяга дабывалася пад страхам пазбаўлення маёнткаў, пасад, высылкі з краю), але і незаконныя. Згодна з законамі Вялікага княства Літоўскага, гаспадар не меў права змяншаць тэрыторыю дзяржавы і выдаваць якія-небудзь заканадаўчыя акты без згоды рады і сейма. Больш таго, вялікі князь, уступаючы на трон, даваў прысягу і абяцаў дзейнічаць толькі згодна з дзяржаўнымі законамі. Таму дзеянні Жыгімонта II Аўгуста па далучэнні часткі Вялікага княства Літоўскага да Польшчы трэба разглядаць як здраду вялікага князя літоўскага сваёй Айчыне і свайму народу.

Праўда, палякі спрабавалі апраўдаць Жыгімонта II тым, што ён нібыта з’яўляецца спадчынным манархам і яго ўлада абсалютная і неабмежаваная, а таму вялікі князь можа распараджацца лёсам княства аднаасобна, без згоды рады і сейма. Літоўскія паслы напомнілі, што права спадчыны вялікія літоўскія князі даўно страцілі (сам Ягайла ад гэтага права адмовіўся).

У складзе ВКЛ засталіся Літва і Беларусь. Пад страхам далучэння іх да Польшчы ў Люблін вярнуліся паслы ад гэтай групоўкі княства. Спачатку яны імкнуліся даказаць незаконнасць анексіі часткі Вялікага княства Літоўскага. Але, згубіўшы надзею на яе зварот, паслы прыкладвалі намаганні захаваць хоць якія-небудзь атрыбуты дзяржаўнасці.

Пачаліся цяжкія, стамляльныя перагаворы. Урэшце сенатары і паслы ВКЛ вымушаны былі здацца на літасць караля. 28 чэрвеня 1569 г., у дзень падпісання уніі, выступіў Хадкевіч, староста жмудскі. Ён прасіў караля зберагчы прывілеі Вялікага княства Літоўскага і не

рабіць яму крыўды. "Прыносім Вам найніжэйшую просьбу: так правесці да канца гэту справу, каб яна не цягнула за сабою рабавання і ганьбу нам і нашчадкам нашым, – казаў Хадкевіч. – Мы зараз давезены да таго, што павінны з пакорнаю просьбай упасці да ног вашай светласці..." (Дневник Люблинского сейма 1569 г. С. 470 – 471).

Пры гэтых словах усе літоўска-беларускія паслы і сенатары ад Літвы сталі на калені. Кароль у адказ запэўніў, што унія паслужыць на карысць ВКЛ, а ў далейшым яе можна будзе падправіць.

1 ліпеня 1569 г. адбылася прысяга на унію, а затым малітва ў касцёлах. Згодна з Люблінскай уніяй, Вялікае княства Літоўскае і Польшча злучаліся ў адзін народ і адзін дзяржаўны арганізм – Рэч Паспалітую давеку на чале з адным выбраным гаспадаром з тытулам "кароль польскі і вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі, жамойцкі, кіеўскі, валынскі, падляшскі, ліфляндскі". Абранне павінна было адбывацца ў Варшаве, а каранацыя – у Кракаве. Абранне вялікага князя літоўскага спынялася, хаця тытул "вялікі князь літоўскі і рускі" і назва "Вялікае княства Літоўскае" захоўваліся. Было скасавана таксама і спадчыннае права вялікага князя літоўскага на княства, яно давеку перадавалася Польшчы. Кароль павінен быў даваць адну прысягу і выдаваць адзіную грамату для Польшчы і для княства, у якіх пацвярджаліся правы як польскага, так і беларускага і літоўскага народаў. Асобны сейм Вялікага княства Літоўскага скасоўваўся. Агульныя сеймы павінны былі склікацца толькі ў Польшчы. Кароль абавязаны быў захаваць усе правы, прывілеі, вольнасці, ганаровыя і службовыя пасады, княжацкія тытулы, шляхецкія роды ў землях злучаных дзяржаў, суды. Прысягаць можна было аднаму Польскаму каралеўству. Пастановы, процілеглыя уніі, павінны быць скасаваны, ліквідавана паміж краінамі мытня. Унія абвясціла ўвядзенне адзінай манеты, дазвол усім жыхарам дзяржавы набываць маёнткі, зямлю ў любой частцы Рэчы Паспалітай.

Люблінскі сейм захаваў недатыкальнасць зямельных уладанняў, юрыдычную моц усіх папярэдніх падараванняў вялікага князя літоўскага. Павінна была стаць агульнай і знешняя палітыка. Заключаныя раней дагаворы трацілі юрыдычную сілу, калі яны супярэчылі інтарэсам Рэчы Паспалітай.

Такім чынам, Люблінская унія – вынік шматгадовай барацьбы Польскага каралеўства з Вялікім княствам Літоўскім (з 1385 г.) за інкарпарацыю апошняга ў Польскую Карону. Вялікую ролю ў гэтай барацьбе адыграла стратэгія і тактыка Ватыкана, накіраваная на прасоўванне каталіцызму на Русь.

Люблінскі акт – гэта вынік складанага ўнутранага і знешняга становішча ВКЛ у сярэдзіне XVI ст.: расколу грамадства па канфесійнай прыкмеце, рэлігійнай барацьбы, пашырэння польскага ўплыву, здрады вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста, а таксама грабяжу і гвалту шматгадовага "саюзніка" – Польскага каралеўства, аслаблення ў выніку войнаў з Крымскім ханствам і барацьбы ВКЛ за лівонскую спадчыну.





Люблінская унія – гэта анексія і інкарпарацыя княства ў Польскае каралеўства. Для Беларусі люблінскі акт – гэта пагроза поўнага акаталічвання і паланізацыі краю.

# ГЛАВА 2

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ПАСЛЯ ЛЮБЛІНА (другая палова XVI – першая палова XVII ст.)

## §1. Грамадска-палітычны лад Рэчы Паспалітай. Дзяржаўна-прававое становішча княства ў складзе Рэчы Паспалітай

Рэч Паспалітая была канстытуцыйнай, саслоўнай манархіяй, на чале з выбарным каралём. Заканадаўчым органам быў двухпалатны парламент – каронны, г. зн. "польскі", сейм, які складаўся з сената (рады) і пасольскай ізбы. Сенат быў вышэйшай палатай сейма, у яго ўваходзілі найбольш знатныя свецкія і духоўныя феадалы. Колькасць іх не перавышала 150 чалавек. Першае месца ў сенаце належала арцыбіскупу гнезненскаму, прымасу польскай каталіцкай царквы, за ім ішлі біскупы, кашталяны, ваяводы і г. д. Сейм выбіраў каралеўскую раду на два гады. Рада з'яўлялася фактычным кіраўніком дзяржавы. Ніжэйшай палатай сейма была пасольская ізба, якая складалася з дэпутатаў ад шляхецкіх павятовых сеймікаў. Яны скліканіся за шэсць тыдняў да агульнадзяржаўнага сейма і не толькі выбіралі паслоў на апошні, але і выпрацоўвалі інструкцыі, якія паслы павінны былі праводзіць на каронным сейме. Пасля кароннага сейма зноў збіраліся рэляцыйныя павятовыя сеймікі, дзе паслы рабілі справаздачу аб ходзе кароннага сейма і сваёй дзейнасці. Колькасць дэпутатаў пасольскай ізбы перавышала 200 чалавек.

Вальныя (агульныя) сеймы разглядалі і прымалі пастановы на асобных пасяджэннях сената і пасольскай ізбы. На агульных пасяджэннях у выпадку супадзення пастаноў яны прымаліся і пасля зацвярджэння каралём набывалі сілу закону. Пастановы прымаліся аднагалосна. Група дэпутатаў альбо адзін дэпутат мог сказаць "не



*Кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый*

дазваляю", і пастанова прыпынялася. Гэта права liberum veto (свабоднае вета) разглядалася як адно з найважнейшых "залатых шляхецкіх вольнасцей". Але, як мы ўбачым далей, яно было небяспечнае для дзяржавы, бо ўносіла анархію, хаос, падрывала дзяржаўную ўладу.

На чале выканаўчай улады стаяў кароль, пры абранні якога таксама захоўвалася права вета. Кароль узначальваў сенат, "паспалітае рушэнне" (пазней на чале абароны дзяржавы стаў каронны гетман), склікаў сеймы, вызначаў тэрмін іх пасяджэнняў, прызначаў на вышэйшыя ўрадавыя пасады. Ён ажыццяўляў знешнюю палітыку дзяржавы, за якую адказваў перад вальным сеймам.

Улада караля была істотна абмежавана "залатымі шляхецкімі вольнасцямі". Побач са свабодным вета шляхта заключала з прэтэндэнтамі на польскі прастол "Пакта канвента" – дагавор, згодна з якім кароль ускладаў на сябе шэраг абавязкаў па вырашэнні некаторых унутраных і знешніх праблем. У 1573 г., у час абрання Генрыха Валуа, былі распрацаваны "Генрыхавы артыкулы", згодна з якімі кароль траціў права без згоды сейма ўстанаўліваць новыя падаткі і пошліны, склікаць агульнае апалчэнне і г. д. Адначасова ён абавязваўся: склікаць сеймы раз у два гады тэрмінам на шэсць тыдняў; пры перанясенні вайны за межы Рэчы Паспалітай выплачваць кожнаму ратніку па 5 грыўняў; мець пры сабе пастаянны савет з 16 сенатараў, які фактычна кіраваў не толькі краінай, але і асабістым жыццём караля. "Генрыхавы артыкулы" былі ўведзены толькі пры выбранні Стэфана Баторыя (1576), а затым пацвярджаліся ўсімі каралямі Рэчы Паспалітай.

Калі кароль дзейнічаў насуперак праву і сваім абавязкам, то шляхта мела права не падпарадкоўвацца каралю і выступіць супраць яго. Гэта права шляхта ажыццяўляла шляхам склікання канфедэрацый (саюзаў узброенай шляхты) ці "рокашы" – узброенага паўстання супраць караля. Свабоднае вета і канфедэрацыі былі магутнай зброяй барацьбы розных феадальных груповак за ўладу ў дзяржаве, легальнай формай феадальнай анархіі.





*Вялікае княства Літоўскае ў XVII ст*

Граніцы дзяржаў паводле Сталбоўскага міру 1617 г. і Дэўлінскага перамір'я 1618г

Граніца паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім паводле Люблінскай уні 1569г

Тэрыторыя Рэчы Паспалітай, якая была занята шведамі ў 1621-29 гг і адышла да Швецыі паводле Аліўскага міру 1660г

Тэрыторыі, страчаныя Рэччу Паспалітай паводле Паляноўскага міру 1634 г. і размежаванняў 1630-40-х гадоў

Тэрыторыі, страчаныя Рэччу Паспалітай у 1667 г. і зноў вернутыя ёй у 1678 г.

Тэрыторыі, страчаныя Рэччу Паспалітай паводле Андросаўскага перамір я 1667 г. і Вечнага міру 1686 г.

Граніцы дзяржаў у 1699 г

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

ВІЛЬНЯ Сталіцы дзяржаў

МЕНСК Цэнтры ваяводстваў і васальных герцагстваў Рэчы Паспалітай

Пінск Іншыя населеныя пункты

Пасля смерці караля пачынаўся перыяд безуладдзя, які цягнуўся ад некалькіх месяцаў да некалькіх гадоў. У часы бескаралеўя існавала асобая пасада інтэррэкса, якую звычайна займаў прымас польскай каталіцкай царквы. Ён склікаў для абрання новага караля тры сеймы: 1) канвакацыйны, на якім вызначаліся час і месца выбараў караля, мяркуемыя кандыдаты на каралеўскі прастол, выпрацоўваліся ўмовы дагавору з кандыдатамі; 2) элекцыйны (выбарчы), на якім праводзіліся выбары і заключалася пагадненне "Пакта канвента"; 3) каранацыйны, на якім ажыццяўлялася каранацыя і кароль прыносіў прысягу захоўваць усе правы і выконваць умовы пагаднення (*Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 211 – 212).

Рэч Паспалітая з'яўлялася феадальна-прыгоннай дзяржавай. Пануючым класам былі землеўладальнікі: магнаты (паны), сярэдняя і дробная шляхта. Юрыдычна як паны, так і шляхта былі роўныя паміж сабой. Аднак рашаючай палітычнай сілай у дзяржаве з'яўляліся паны. Яны складалі сенацкае саслоўе (вышэйшыя духоўныя і свецкія феадалы: арцыбіскупы і біскупы, ваяводы і кашталяны), і ўсё кіраванне дзяржавай знаходзілася ў іх руках. Толькі паны і шляхта мелі права валодаць зямлёй. Шляхецкая маёмасць не магла быць канфіскавана без суда, шляхціц не мог быць арыштаваны без дазволу суда, і яго мог судзіць толькі шляхецкі суд. Шляхта была свабодная ад падатак. Адзінай павіннасцю яе з'яўлялася вайсковая служба.

У склад пануючага класа ўваходзіла "белае" і "чорнае" духавенства, якое валодала велізарнай зямельнай маёмасцю. У выключных выпадках яно плаціла аднаразовы падатак, які зваўся "доброхотное даяние". Між тым духавенства само збірала дзесяціну з каралеўскіх і шляхецкіх маёнткаў. Прадстаўнікі вышэйшага кліра ўваходзілі ў склад сената. Што датычыцца шляхецкіх сеймікаў і пасольскай ізбы, у іх працы духоўныя асобы звычайна не ўдзельнічалі.

Такім чынам, Рэч Паспалітая была канстытуцыйнай саслоўнай манархіяй, у якой улада размяркоўвалася паміж двухпалатным парламентам (магнатамі і шляхтай) і каралём. Іншыя саслоўі ніякіх палітычных правоў не мелі.

Якое ж месца адводзілася Вялікаму княству Літоўскаму ў Рэчы Паспалітай і якое месца па сутнасці яно займала?

Польская праграма уніі мела на мэце заснаванне унітарнай дзяржавы[1], якая ўяўлялася як "адзінае непадзельнае цела з адной галавой", г. зн. ВКЛ адводзілася роля правінцыі Рэчы Паспалітай. Аднак напярэдадні Люблінскай уніі дзяржавы мелі аднаго гаспадара, а ў астатнім былі самастойныя і незалежныя. Другім крокам у бок унітарнай дзяржавы пасля Любліна стаў каронны сейм і скасаванне

[1] *Унітарная дзяржава* – форма дзяржаўнага ладу, пры якой тэрыторыя краіны, у адрозненне ад федэрацыі, не мае ў сваім складзе федэратыўных адзінак (штатаў, зямель, рэспублік), а падзяляецца на адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі (раёны, вобласці і г.д.).





незалежнага сейма ВКЛ. Наступным крокам павінна было стаць адзінае заканадаўства, здабытае шляхам дапасавання Літоўскага Статута 1566 г. да польскіх законаў. Аднак зрабіць гэта было не так лёгка, як здавалася інкарпаратарам. Справа ў тым, што ў люблінскім акце былі закладзены супярэчнасці, якія дапускалі магчымасць будавання як унітарнай, так і федэратыўнай[1] ці канфедэратыўнай[2] дзяржавы. Захоўваліся тытулы "Вялікага княства Літоўскага" і "вялікага князя літоўскага", дзейнічаў амаль не парушаны апарат адміністрацыйна-дзяржаўнага кіравання, меліся свой "скарб", дзяржаўная пячатка, свае войска і, нарэшце, свой звод законаў – Літоўскі Статут.

Узаемаадносіны паміж дзяржавамі не спрыялі ўтварэнню унітарнай дзяржавы. Гвалтоўны, абразлівы характар заключэння уніі заклаў у падмурак Рэчы Паспалітай недавер з боку Вялікага княства Літоўскага, які з цягам часу ўсё больш умацоўваўся. Таму спрыялі кіруючыя колы Польшчы, асабліва іх тактыка адносна Лівонскай вайны. Напярэдадні Люблінскай уніі Жыгімонт II Аўгуст абяцаў дапамогу ў вайне, але пасля уніі не спяшаўся выканаць абяцанне. Гэта, вядома, павінна было адмоўна адбіцца на грамадска-палітычнай думцы ВКЛ, тым больш што яно было аслаблена гвалтоўнай анексіяй часткі сваёй тэрыторыі: Падляшша, Валыні, Падоліі, Кіеўшчыны.Яшчэ большы недавер ВКЛ да Польшчы выклікала пастанова кароннага сейма (1573) аб вядзенні Лівонскай вайны толькі на сродкі ВКЛ. Менавіта гэта і падштурхнула кіруючыя колы княства да выпрацоўкі тактыкі зрыву ажыццяўлення Люблінскай уніі. У першую чаргу магнаты княства дамагаліся ад кандыдатаў у каралі насуперак Люблінскай уніі асобнай прысягі і асобнага пацвярджэння правоў Вялікага княства Літоўскага, хаця адпаведны пункт люблінскага акта не быў скасаваны.

Важным крокам у напрамку федэрацыі стала адраджэнне заканадаўчага органа ВКЛ. На генеральных сейміках (яны, дарэчы сказаць, былі ва ўсіх правінцыях Польшчы) спачатку прымалася праграма, якую дэпутаты ад ВКЛ павінны былі прапанаваць кароннаму сейму для абмеркавання. Пазней на гэтых сейміках вырашаліся і пытанні дзяржаўнага значэння (устанаўленне падатак на ваенныя патрэбы і г. д.). Асабліва значэнне сейма ўзрастала ў часы бескаралеўя, калі

[1] *Федэрацыя* – форма дзяржаўнага ладу, пры якой уваходзячыя ў склад дзяржавы федэральныя адзінкі – члены федэрацыі (землі, штаты, рэспублікі і г.д.) – маюць уласныя канстытуцыі, заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы. Разам з гэтым утвараюцца адзіныя федэральныя (саюзныя) органы дзяржаўнай улады, устанаўліваецца адзінае грамадзянства, грашовая адзінка і г.д.

[2] *Канфедэрацыя* – форма дзяржаўнага ладу, пры якой дзяржавы, якія ўтварылі канфедэрацыю, поўнасцю захоўваюць сваю незалежнасць, маюць уласныя органы ўлады і кіравання. Яны ствараюць спецыяльныя аб'яднаныя органы для каардынацыі дзейнасці ў адпаведных мэтах (ваенных, знешнепалітычных і г.д.).

агульны сейм княства ператвараўся ў сапраўдны вышэйшы заканадаўчы орган.

Трэба мець на ўвазе і тое, што каронны сейм як агульна-дзяржаўны заканадаўчы орган не спраўляўся са сваімі задачамі. І не толькі дзякуючы славутаму liberum veto, але больш за ўсё таму, што ўласна польская частка сейма не мела адпаведнай згуртаванасці (была расколата на мясцовыя групоўкі — малапольскую, велікапольскую, мазавецкую) і не магла аказаць адпаведнага ўплыву на велікакняжацкіх паслоў. А з цягам часу каронны сейм ўсё больш ператвараўся ў орган, які не прымаў законы, а толькі іх абмяркоўваў, а калі і прымаліся пастановы, то дадаткова падкрэслівалася, што яны датычацца і Вялікага княства Літоўскага.

Неўзабаве юрыдычна было скасавана і патрабаванне Люблінскай уніі збіраць каронны сейм толькі ў Польшчы (у Кароне, адгэтуль і назва — "каронны"). У 1673 г. сейм ухваліў пастанову: кожны трэці сейм збіраць не ў Кароне, "а ў Вялікім княстве Літоўскім у горадзе Гродне", за выключэннем сеймаў у час міжкаралеўя. На сеймах у Гродне маршалкам выбіраўся адзін з мясцовых дэпутатаў. Гэты акт юрыдычна прызнаў існаванне Вялікага княства Літоўскага ў якасці не правінцыі Польшчы, а асобнага дзяржаўнага арганізма. Такім чынам, поўнага зліцця дзвюх дзяржаў не адбылося нават на ўзроўні заканадаўчай улады. Таму і новыя органы кіравання, створаныя ў Рэчы Паспалітай, звычайна былі асобнымі для дзяржаў. Так, заснаванне ў 1578 г. кароннага трыбунала (вышэйшага апеляцыйнага суда) пацягнула за сабой утварэнне адпаведнай судовай установы ў ВКЛ — літоўскага трыбунала (1581), а пасля заснавання скарбавага трыбунала ў Польшчы такі ж орган з'яўляецца ў ВКЛ. І толькі пасля скасавання ордэна езуітаў булай папы Клімента XIV (1773) была створана Адукацыйная камісія, адзіная для Рэчы Паспалітай. Не было ў Рэчы Паспалітай агульных міністраў ні па ўнутраных, ні па знешніх пытаннях, адзінай найвышэйшай судовай установы. Не былі праведзены ў жыццё і такія патрабаванні уніі, як скасаванне паміж дзяржавамі мяжы, увядзенне агульнай манеты і г. д.

Затое ў Вялікім княстве Літоўскім захаваўся цалкам адміністрацыйны апарат кіравання: канцлер і падканцлер, маршалкі — вялікі і надворны, падскарбі вялікі, гетман вялікі і гетман польны, галоўны літоўскі трыбунал, скарбавы трыбунал (кантраляваў фінансавыя справы дзяржавы) і іншыя ўстановы.

Толькі ў 1791 г. была прынята адзіная канстытуцыя, але гісторыя ўжо не пакінула часу для яе ажыццяўлення.

Як адзначалася вышэй, адным з патрабаванняў Люблінскай уніі было фарміраванне агульнага заканадаўства. **Па-першае**, створаная ў ВКЛ камісія павінна была дапасаваць літоўскае заканадаўства да патрабаванняў уніі і польскага заканадаўства. Але гэта было не ў інтарэсах княства. Мабыць, таму камісія не мела ў сваім складзе палякаў. **Па-другое**, не было да чаго дапасоўваць, бо палякі на той час





не мелі такога збору законаў, як Літоўскі Статут. **Па-трэцяе**, відавочна, літоўска-беларускіх юрыстаў больш турбавалі пытанні ўдасканалення свайго заканадаўства, а не набліжэння яго да польскага. Таму работа пайшла зусім у іншым напрамку. Праўда, на сеймы 1574 і 1578 гг. былі пададзены некалькі выпраўленых артыкулаў, але яны не закраналі міжкраінных адносін.

Новы Статут 1588 г. не толькі пярэчыў Люблінскай уніі, але нават не ўспомніў аб яе існаванні. Ён складаўся з 14 раздзелаў і 487 артыкулаў. Нормы дзяржаўнага права былі выкладзены ў трэцім раздзеле, у якім абвяшчалася самастойнасць Вялікага княства Літоўскага, недатыкальнасць яго межаў, тэрытарыяльная цэласнасць. Артыкул 4-ы гэтага раздзела абавязаў вялікага князя вярнуць у склад княства ўсе землі, якія раней былі ад яго адабраны (Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. С. 114,364).

Насуперак люблінскаму акту, які дазваляў палякам набываць маёнткі на тэрыторыі ВКЛ, Статут 1588 г. забараняў іншаземцам набываць у княстве землі і маёнткі, а таксама пасады. А палякі — уладальнікі падараваных у княстве маёнткаў — павінны былі несці земскую службу, у адваротным выпадку яны трацілі правы на ўладанні. "Уряды" і землі па закону маглі раздавацца ў княстве толькі "Літве, Беларусі і Жэмайціі", толькі "родзічам" Вялікага княства Літоўскага.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. заставаўся галоўнай крыніцай права на Беларусі да 1840 г. Але паколькі ВКЛ уваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, то неаднаразова рабіліся спробы ўнесці ў яго папраўкі, змены. Прымаліся новыя законы, якія пярэчылі нормам Статута. Так, па закону 1668 г. за адыход ад каталіцкай веры вінаватыя караліся канфіскацыяй маёмасці і выгнаннем з дзяржавы, а па закону 1733 г. праваслаўныя і пратэстанты былі пазбаўлены права быць дэпутатамі сейма і суддзямі галоўнага трыбунала (*Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 233).

Нельга забываць таксама, што ў Рэчы Паспалітай, дзе панавала шляхецкая анархія, шматлікія законы заставаліся на паперы.

Жыгімонт III Ваза ў 1590 г. зрабіў спробу правесці кадравую палітыку ў духу Люблінскай уніі. На месца памёршага кракаўскага каталіцкага біскупа ён запрасіў беларускага католіка Юрыя Радзівіла, які займаў дагэтуль віленскую кафедру, а ў Вільню ўзамен прапанаваў паляка Бярнарда Мацеўскага. Гэта было не звычайнае парушэнне закону, а спроба разглядаць Рэч Паспалітую не як федэратыўную, а як унітарную дзяржаву. Канцлер Вялікага княства Літоўскага Л. Сапега не даў згоды на прызначэнне паляка на віленскую біскупскую кафедру і адмовіўся замацоўваць гаспадарскай пячаткай княства рашэнне біскупа-паляка. Канфлікт цягнуўся 10 гадоў, пакуль не памёр Мацеўскі, і на віленскую кафедру быў прызначаны беларус Бенядзікт Война.

Нягледзячы на гэта і іншыя парушэнні законаў, Статут 1588 г. меў вялікае гістарычнае значэнне. Ён падвёў заканадаўчую аснову пад новыя ўзаемаадносіны паміж княствам і Польшчай.

Такім чынам, пануючы і кіруючы пласт Вялікага княства Літоўскага пасля Любліна распачаў барацьбу супраць польскай праграмы стварэння унітарнай дзяржавы. У выніку гэтай барацьбы ўдалося захаваць частку тэрыторыі ВКЛ, якая засталася пасля анексіі і далучэння большасці тэрыторыі княства да Польскага каралеўства, а таксама тытулы "вялікага князя літоўскага" і "Вялікага княства Літоўскага", рэшткі дзяржаўнасці і аўтаномію ў межах Рэчы Паспалітай. З цягам часу польскі ўплыў на насельніцтва ВКЛ усё больш узмацняўся. Шляхта перайшла ў каталіцызм і апалячылася. У 1696 г. польская мова была аб'яўлена дзяржаўнай мовай ВКЛ. Над насельніцтвам Беларусі навісла рэальная пагроза не толькі акаталічвання, але і паланізацыі.

## § 2. Барацьба беларускага народа супраць польска-каталіцкай экспансіі

Маючы на мэце стварыць унітарную дзяржаву, Люблінская унія ўхваліла фарміраванне "аднаго збірання, еднасці, непадзельнага народа". Але ж Вялікае княства Літоўскае было, як вядома, поліэтнічнай дзяржавай, у якой жылі беларусы, рускія, украінцы, літоўцы, яўрэі, татары і інш. Таму фарміраванне "непадзельнага народа", на думку інкарпаратараў, павінна было ажыццяўляцца шляхам асіміляцыі ўсіх гэтых этнасаў уласна польскім насельніцтвам.

Гэта асіміляцыя патрабавала нечага такога, што яднала б усе гэтыя народы. У сярэднявеччы такім духоўным цэментам з'яўлялася рэлігія. Рэлігія – гэта і светапогляд, і звычай, і нормы паводзін, і, урэшце, асновы духоўнай культуры. Але на шляху рэлігійнай еднасці народаў Рэчы Паспалітай было шмат перашкод. Па-першае, да сярэдзіны XVI ст. насельніцтва Польшчы і Вялікага княства Літоўскага мела розныя веравызнанні. У Польшчы пануючай рэлігіяй быў каталіцызм, а ў ВКЛ большасць насельніцтва прытрымлівалася праваслаўя (Беларусь і Украіна) і пратэстантызму (Літва). Па-другое, каталіцызм і праваслаўе перажывалі крызіс. Па-трэцяе, былі вельмі складаныя рэлігійныя абставіны. Каб лепш іх зразумець, нагадаем коратка гэтыя абставіны.

Праваслаўе, як вядома, прыйшло на Беларусь у канцы X ст. і да 1385 г. мірна ўжывалася з язычніцтвам літоўцаў, хоць і было амаль дзяржаўнай рэлігіяй. Але пасля Крэўскай уніі становішча змянілася. Ягайла, які дамовіўся з палякамі, хрысціў язычнікаў у Вільні, Троках, а таксама на Беларусі. Тут з'яўляюцца тры каталіцкія парафіі (у Крэве каля Ашмян, у Абольцах каля Талачына і ў Гайне паблізу





Лагойска). Напярэдадні Люблінскай уніі Віленскай епархіі, дзейнасць якой распаўсюджвалася і на Беларусь, належалі 285 вёсак і 16 мястэчак, з якіх 2/3 уладанняў знаходзіліся на Беларусі. Каталіцтва ахапіла паўночна-заходнюю і заходнюю часткі Беларусі па лініі Браслаў – Паставы – Вілейка – Мінск – Пінск. І хоць праваслаўная царква захавала свой уплыў на большую частку насельніцтва, пануючай рэлігіяй у ВКЛ становіцца каталіцтва. Паводле прывілея Ягайлы (1387), каталіцкая царква атрымала поўны імунітэт ва ўсіх сваіх уладаннях, у фінансавых і судовых справах, вызвалялася ад дзяржаўных падатаў і павіннасцей.

Вышэйшыя дзяржаўныя пасады ў княстве маглі займаць толькі католікі. Былі, зразумела, і выключэнні, але яны вызывалі бурныя пратэсты каталіцкай шляхты. Напрыклад, абурэнне выклікала прызначэнне К.І.Астрожскага на пасаду трокскага ваяводы і найвышэйшага гетмана ВКЛ. Кароль павінен быў трымаць адказ. Высокае прызначэнне праваслаўнага князя ён абгрунтаваў яго заслугамі перад дзяржавай і абяцаў наперад вышэйшыя пасады даваць толькі католікам.

На пачатку XVI ст. каталіцкая рэлігія ўваходзіць у паласу крызісу. Сутнасць яго зводзіцца да крытычных адносін шляхты як да каталіцкага культу, так і да арганізацыі касцёла і яго палітыкі. Царква, як вядома, кваплілася на верхавенства над свецкай уладай. А гаспадары дзяржаў імкнуліся ў сваю чаргу падпарадкаваць свецкай уладзе царкву. Менавіта на гэтай глебе барацьбы паміж свецкай і духоўнай уладамі і прарасла Рэфармацыя.

Рэфармацыя – грамадска-палітычны і рэлігійны рух, накіраваны супраць каталіцкай царквы як ідэйнай асновы феадалізму. Рэфармацыя, як вядома, пачыналася ў Германіі з выступлення М.Лютэра (1517) і распаўсюджвалася па ўсіх краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Ідэолагі Рэфармацыі (М.Лютэр, Ж.Кальвін, У.Цвінглі) вылучылі тэзісы, у якіх, па сутнасці, адмаўлялі неабходнасць каталіцкай царквы і святароў у "выратаванні веруючага" (тэзіс "аб апраўданні адной верай"). Адзінай крыніцай рэлігійнай ісціны яны абвясцілі Свяшчэннае Пісанне, адхіліўшы Свяшчэннае Паданне, манаства, цэлібат, культ Багародзіцы, святых, анёлаў, іконы і г. д. З сямі таінстваў пратэстанты пакінулі два – хрышчэнне і прычасце (лютэранства) ці тры – хрышчэнне, прычасце і царкоўны шлюб (англіканская царква). Патрабавалі таннай царквы, адмаўлялі ёй права на зямныя багацці і г. д.

У Рэфармацыі можна выдзеліць тры напрамкі: 1) каралеўска-княжацкі, які абараняў інтарэсы манархаў і свецкіх феадалаў ва ўмацаванні сваёй улады і захопе зямных багаццяў царквы; 2) бюргерска-буржуазны з яго тэзісам "абсалютнага перадвызначэння", прапаведдзю "мірскога аскетызму" і рэспубліканскага ўладкавання царквы; 3) народны, які патрабаваў ліквідацыі царквы, феадальнага прыгнёту і ўзаконення роўнасці.

Пад ідэйным сцягам Рэфармацыі праходзіла Сялянская вайна 1524 – 1526 гг. у Германіі, Нідэрландская (1566 – 1609) і Англійская (XVII ст.) буржуазныя рэвалюцыі.

У Вялікае княства Літоўскае ўпершыню пратэстанцкія ідэі былі прынесены ў 1521 г. італьянцам Францыскам Лісманіні (прыдворны прапаведнік Жыгімонта I Старога і любімец каралевы Боны). Лютэранства ў Вялікім княстве Літоўскім шырокага распаўсюджання не атрымала. Куды больш прыхільнікаў знайшоў у княстве кальвінізм, абаронцам якога стаў некаранаваны ўладар княства Мікалай Радзівіл Чорны. У 1561 г. ён пабудаваў у Вільні супраць касцёла Святога Яна цудоўны храм, запрасіў кальвінісцкіх прапаведнікаў з Прусіі, Бельгіі і Швейцарыі, распачаў асветніцкую і кнігавыдавецкую дзейнасць.

Сацыяльнай асновай кальвінізму на Беларусі (у адрозненне ад Заходняй і Цэнтральнай Еўропы) былі феадальная знаць, яе васалы, частка сярэдняй і дробнай шляхты. Магнаты і шляхта скарысталі Рэфармацыю для ўмацавання сваіх сацыяльна-эканамічных і палітычных пазіцый: захопу зямельных уладанняў царквы шляхам секулярызацыі; скарачэння расходаў на ўтрыманне царквы; утварэння апазіцыі цэнтральнай уладзе; пашырэння свайго ўплыву на працоўныя масы. Рэфармацыю падтрымала таксама частка гарадскога насельніцтва, незадаволеная распаўсюджаннем у гарадах каталіцкіх і праваслаўных "юрыдык", царкоўнымі паборамі, ідэйным уплывам праваслаўнай і каталіцкай цэркваў.

У 60-я гады XVI ст. на Беларусі, у Літве і на Украіне з кальвінізму вылучыўся больш радыкальны напрамак – антытрынітарскі, ці, як яго называлі інакш, – арыянскі. Сваімі каранямі ён уваходзіў у IV ст. н. э. і атрымаў назву ад імя александрыйскага епіскапа Арыя, які выступіў супраць боскай сутнасці Ісуса Хрыста і Святой Тройцы. У сярэднявечны ідэі Арыя развівалі некаторыя схаласты, рускія ерэтыкі, анабаптысты. З наступленнем Рэфармацыі арыянства выбухнула з новай сілай. Ідэолагам антытрынітарызму ў XVI ст. стаў іспанскі вучоны Мігель Сервет. У 40-я гады XVI ст. большасць італьянскіх антытрынітарыяў уцякае ад інквізіцыі ў Швейцарыю, а затым у Польшчу і на Беларусь.

Беларускі антытрынітарызм меў два напрамкі: памяркоўны і радыкальны. Прадстаўнік першага напрамку Сымон Будны адлюстроўваў інтарэсы часткі гараджан і шляхты, выступаў супраць боскай прыроды Хрыста, за частковыя рэформы.

Радыкальны напрамак антытрынітарызму ўзначальвалі Пётр з Ганёндза, Марцін Чэхавіц, Якуб з Калінаўкі, Павел з Візны. Яны імкнуліся не да частковых рэформ, а да радыкальных сацыяльна-палітычных змяненняў: ліквідацыі паншчыны, прыватнай уласнасці, феадальных прывілеяў, выступалі супраць свецкай улады, войнаў, сацыяльнай, нацыянальнай і рэлігійнай няроўнасці, строілі утапічныя планы перабудовы грамадства. Радыкальныя антытрынітарыі адмаўлялі антычную філасофію, схаластыку, былі





стойкімі прыхільнікамі роўнасці, справядлівасці, братэрства, чалавекалюбства.

Антытрынітарыі Беларусі мелі шмат сваіх абшчын у Іўі, Лоску (ля Ашмян), Любчы, Навагрудку, Клецку і іншых гарадах, а таксама свае органы самакіравання. Утапічнасць іх наіўна-сацыяльных летуценняў, унутраная супярэчнасць, процідзеянне феадалаў, каталіцкая рэакцыя прывялі да заняпаду антытрынітарызму, а ў сярэдзіне XVII ст. пад уціскам феадальна-каталіцкай рэакцыі паслядоўнікі антытрынітарызму – сацыніяне – былі выгнаны за межы Рэчы Паспалітай, у тым ліку і з Беларусі. Што датычыць кальвіністаў, яны ўтварылі тэрытарыяльную арганізацыю кальвінісцкай царквы на Беларусі і ў Літве з цэнтрам у Вільні.



*Касцёл езуітаў у Гродне*

На думку некаторых вучоных, рэфармацыйны рух закрануў і праваслаўную царкву ў выглядзе ерасей.

1569 год, год Люблінскай уніі, адкрыў новы этап рэлігійнай барацьбы ў ВКЛ. Адбылася падзея, якая, мабыць, засталася непрыкметнай для сучаснікаў, але адыграла надзвычайную ролю ў лёсе Рэчы Паспалітай. У Вільню з г.Брунсберга прыехалі 5 езуітаў, а потым яшчэ 16, у тым ліку хітры і лоўкі Магі, правінцыял (кіраўнік) аўстрыйскіх і польскіх езуітаў. Яны адкрылі калегіум з пяці класаў і асобнае аддзяленне для падрыхтоўкі езуітаў. Спачатку да іх ішлі адзінкі, але справа была распачата. Езуіты мелі добра распрацаваны план уздзеяння на сэрцы і розум людзей розных саслоўяў, веравызнанняў, узросту.

Першапачатковую ўвагу яны звярнулі на асобу караля. Давер Жыгімонта II Аўгуста езуіты заваявалі праз пасрэдніцтва яго сястры Ганны. А вось прыхільнасць Стэфана Баторыя была здабыта дзякуючы Лівонскай вайне. Пасля ўцёкаў Генрыха Валуа ў Парыж бескаралеўе цягнулася амаль два гады. Перамог трансільванскі ваявода Стэфан Баторый, мабыць таму, што паабяцаў весці Лівонскую вайну ўласнымі сіламі і на свой кошт.

Калі ў 1579 г. Стэфан Баторый быў вымушаны распачаць ваенныя дзеянні, езуіты прынялі дзейсны ўдзел у паходзе. Яны мужна пераносілі цяжар паходу, клапатліва даглядалі параненых, гаілі раны



*Сабор Святога Стэфана і карпусы езуіцкага калегіума ў Полацку. XVIII ст.*

і душы скалечаных, выконвалі рэлігійныя абрады. Адданая служба на карысць каталіцызму, дзяржаве і Кароне зрабіла Баторыя шчырым прыхільнікам езуітаў. "Калі б я не быў каралём, – любіў ён паўтараць, – быў бы езуітам".

У час асады Полацка С.Баторый паабяцаў пасля перамогі адчыніць у горадзе езуіцкі калегіум. Сваё абяцанне ён выканаў па-каралеўску. Дзеля матэрыяльнага забеспячэння навучальнай установы езуітам у Полацку перадалі восем цэркваў і сем манастыроў разам з іхнімі маёнткамі. Праваслаўным быў пакінуты адзін кафедральны сабор. У каралеўскай грамаце ўказвалася мэта: "Каб езуіты ўтрымлівалі калегіум для выхавання ў каталіцкай веры юнацтва, распаўсюджвалі каталіцкую веру сярод схізматыкаў (г. зн. праваслаўных. – З.З.), уладкоўвалі лацінскія, г. зн. рымска-каталіцкія, прыходы на Беларусі і такім чынам вынішчалі праваслаўе тут" (*Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 158).

Наступны кароль, Жыгімонт III Ваза (1587 – 1632), як вядома, з'яўляўся выхаванцам езуітаў. Да сэрцаў астатніх каралёў Рэчы Паспалітай таксама былі знойдзены шляхі і сцяжынкі. На працягу існавання Рэчы Паспалітай каралеўская асоба заўжды была ў цэнтры ўвагі езуітаў.





Рознымі шляхамі езуіты ішлі да магнатаў і таксама мелі поспех. Дастаткова адзначыць, што адным з першых у каталіцызм абярнуліся нашчадкі Мікалая Радзівіла Чорнага. Менавіта адзін з іх, Сіротка Радзівіл, усё сваё жыццё прысвяціў пошуку Біблії, выдадзенай бацькам, каб знішчыць. Змарнаваў капітал у 5000 чырвонцаў, адшукаў амаль усе экзэмпляры і спаліў. А за Радзівіламі пацягнуліся іншыя магнаты, сярэдняя і дробная шляхта. "Блудныя сыны" каталіцызму пакрыху вярталіся ў лона касцёла.

Важным напрамкам у рабоце езуітаў было ўздзеянне на народныя масы. Тут меліся свае асаблівасці. Тыя, каго прымусілі стаць пратэстантамі, з радасцю вярталіся ў касцёл. Але ж меліся і свядомыя кальвіністы і антытрынітарыі. З імі было цяжэй. Сярод апошніх езуіты разгарнулі працу на глебе рэлігійнага культу і дабрачыннасці. Побач з калегіумамі езуіты адчынялі аптэкі, шпіталі, прытулкі для бяздомных, дапамагалі ў часы народных бедстваў.

Сярэдневяковы жыхар не ўяўляў сабе жыцця без рэлігійнага культу: з Богам нараджаўся ды Богу і аддаваў душу. Езуітам увайсці ў давер да працоўнага чалавека "паспрыяла" маравая язва ў Вільні ў 1573 г. Пад страхам смерці горад пакінулі і багацеі і святары. Езуіты ж (акрамя пяці найбольш падрыхтаваных і здольных, якія былі адпраўлены ў бяспечнае месца) засталіся з народам. Яны дапамагалі чым маглі: хлебам і соллю, даглядалі хворых (часам самі ля іх паміралі), прымалі споведзь, хавалі нябожчыкаў. Людзі пацягнуліся ў езуіцкі касцёл Святога Яна, і нішто не магло іх утрымаць: ні просьбы, ні пагрозы. Такім шляхам ішлі езуіты да сэрцаў простых людзей.

Асаблівую ўвагу яны надавалі моладзі. Прапаганда сярод яе звычайна праводзілася праз навучальныя ўстановы. Побач з Полацкім калегіумам (1580) езуіцкія калегіумы адчыняюцца ў Нясвіжы, Оршы, Брэсце, Пінску, Гродне, Віцебску, Навагрудку, Мінску, Слуцку, Жодзішках. У 1618/19 навучальным годзе ў езуіцкіх навучальных установах Вялікага княства Літоўскага вучылася 3165 вучняў і студэнтаў. К 1773 г. у Нясвіжскім калегіуме было каля 300 дзяцей, а ў Полацкім больш за 250. Менавіта высокакваліфікаваная адукацыйна-выхаваўчая праца была палітыкай, звернутай у будучыню. Хутка выхаванцы езуітаў пачалі запаўняць адміністрацыйны апарат ВКЛ, аказваць свой уплыў на вырашэнне ўсіх дзяржаўных і грамадскіх спраў. А паколькі езуіты выхоўвалі моладзь у духу рэлігійнага фанатызму і нецярпімасці, то і ўплыў быў адпаведны.

Аднак, нягледзячы на такую рознабаковую працу, трэба зазначыць: езуіты не здолелі цалкам перамагчы пратэстантызм. Гэта барацьба ішла на працягу ўсяго існавання Рэчы Паспалітай.

Другім ворагам католікі і езуіты лічылі праваслаўных жыхароў ВКЛ. Што сабой уяўляла праваслаўная царква таго часу?

Да сярэдзіны XVI ст. польскія каралі практычна падпарадкавалі сабе праваслаўную царкву, прысвоіўшы некаторыя правы ў кіраванні царкоўнай арганізацыяй.

**Па-першае**, каралі пачалі не толькі зацвярджаць выбраных на саборы епіскапаў і ігуменаў, але і прызначаць іх без ведама царкоўнай улады. Гэта наносіла ўдар па ўнутранаму ладу праваслаўнай арганізацыі (саборнасці) і па аўтарытэту праваслаўных святароў. Галоўнымі крытэрыямі прыдатнасці на епіскапскую кафедру ці пасаду настаяцеля манастыра сталі не высокія духоўныя і чалавечыя якасці (шчырасць веры, унутраная чысціня, хрысціянская маральнасць, глыбокія веды веравызнання), а паслугі Кароне ці каралю. Былі выпадкі, калі праваслаўныя манастыры ўзначальвалі не манахі, а свецкія людзі, нават католікі.

**Па-другое**, каралі прысвоілі сабе права перадаваць цэрквы і манастыры ў апеку грамадзянскім асобам. Каралеўскі прывілей звычайна дазваляў апекунам браць "все пожитки церковные себе и уживать их до живота своего". У выніку гэтага праваслаўныя цэрквы і манастыры невыпадкова рабіліся кармушкай для любых каралеўскаму сэрцу ліслівўцаў. Больш таго, некаторыя феадалы пачалі здаваць праваслаўныя цэрквы, якія знаходзіліся ў іх уладаннях, у арэнду.

**Па-трэцяе**, кароль прысвоіў права найвышэйшага суда над праваслаўнымі святарамі і тым самым замацаваў шлях для злоўжыванняў.

Усё гэта падрывала царкоўную арганізацыю знутры, і яна хутка апынулася на краі бездані: царкоўныя законы парушаліся вышэйшымі святарамі, веруючыя пераходзілі ў каталіцызм, пратэстантызм. Тым не менш, нягледзячы на неспрыяльныя гістарычныя ўмовы, праваслаўе цвёрда трымалася ў народных нетрах з яго шматвекавой культурай, традыцыямі, мовай, звычаямі.

Палітыка акаталічвання краю адпавядала і задумам папы рымскага, які марыў падпарадкаваць сабе не толькі Беларусь і Украіну, але і Маскву. Праўда, папскі легат езуіт Антоніо Пасевіна, які меў даручэнне схіліць да каталіцызму Івана Грознага, прапанаваў абмежавацца Вялікім княствам Літоўскім, сканцэнтраваўшы тут усе свае сілы. Пры гэтым ён раіў да мэты ісці не напрамкі, а кружным шляхам, праз царкоўную унію. Спачатку, на яго думку, трэба было схіліць на свой бок праваслаўных епіскапаў праз царкоўную унію, не кранаючы пытанняў дагматыкі і культу. А потым крок за крокам прасоўваць каталіцкую дагматыку і культ ужо праз уніяцкую царкву. Гэты план, разлічаны на шмат гадоў, меў на ўвазе той факт, што працоўныя масы моцна трымаюцца веры дзядоў і спачатку трэба ў нетрах уніі ўзгадаваць і выхаваць пакаленне, больш цярпімае да каталіцкай веры, а потым яго патроху і непрыкметна акаталічыць. У процілеглым выпадку, папярэджваў А.Пасевіна, магчыма паўстанне праваслаўных супраць улады касцёла.

Згодна з гэтым планам, езуіты распачалі на Беларусі падрыхтоўку ідэалагічнай і псіхалагічнай глебы для царкоўнай уніі. Першапачаткова патрэбна было пераканаць магнатаў, шляхту, праваслаўных святароў у гістарычнай неабходнасці уніі праваслаўнай і каталіцкай





цэркваў. Асабліва на глебе уніі завіхаўся П.Скарга. Адукацыю ён атрымаў у Рыме, даў там чатыры зарокі манаха ордэна езуітаў і ў 1570 г. быў накіраваны ў Рэч Паспалітую. Хутка ён стаў "душой усіх мерапрыемстваў" С.Баторыя, а затым "думкай і пяром" езуіцкага караля Жыгімонта III. Ён садзейнічаў развіццю Віленскага калегіума і перабудовы яго ў акадэмію, заснаваў і кіраваў Полацкім калегіумам, пісаў і выдаваў рэлігійную літаратуру. Неўзабаве П.Скарга зразумеў, што рэлігійныя спрэчкі нясуць згубу дзяржаве. Шлях да ўмацавання айчыны ён бачыў у пераадоленні пратэстантызму як найбольшай небяспекі дзяржаўнасці і ў аб'яднанні шляхам царкоўнай уніі католікаў і праваслаўных.

У 1577 г. П.Скарга выдаў свой твор "O jednośći Kośćiola Bożego" ("Аб адзінстве Божай царквы"), у якім абгрунтаваў думку аб спрадвечнай еднасці хрысціянскай царквы і падпарадкаванні яе папу рымскаму. Прычыну схізмы (адступніцтва праваслаўнай царквы ад Рыма) бачыў у ганарлівасці канстанцінопальскіх патрыярхаў, іх залежнасці ад канстанцінопальскіх імператараў і мностве ерасей на ўсходзе. Усходняя царква, апынуўшыся ў залежнасці ад турэцкага султана і маскоўскага цара, страціла чысціню веры і таму перажывала крызіс. П.Скарга лічыў, што пераадолець крызіс праваслаўная царква здолее ў тым выпадку, калі звернецца да веры дзядоў і стане на шлях падпарадкавання Рыму. Заклікаючы да уніі, П.Скарга, як шчыры католік, але, відаць, не дужа паслядоўны езуіт, марыў дамагчыся еднасці хрысціянскай царквы пры дапамозе перакананняў, адхіляючы гвалт. Езуіты ж , як вядома, лічылі, што мэта апраўдвае сродкі і "Qui non papista est satanista" ("Хто не папіст, той сатаніст").

П.Скарга быў таленавітым палемістам, прамоўцам, да таго ж і абаяльнай асобай: строгі, сціплы і дасціпны ў жыцці, бясспрэчна вучоны, шчыры католік і патрыёт. Асаблівую ўвагу ён звярнуў на аднаго з самых магутных праваслаўных магнатаў, кіеўскага ваяводу К.К.Астрожскага, які меў больш за 100 гарадоў і 1000 вёсак з гадавым даходам больш за мільён чырвонцаў. На той час гэта былі вялікія грошы. Ён мог выставіць войска больш за 30 тыс. чалавек. Такое войска не мог выставіць нават польскі кароль. Гэта быў незалежны чалавек, шчыры праваслаўны. За ім да уніі пацягнуліся б і іншыя, залежныя ад яго праваслаўныя шляхціцы, і часам здавалася, што П. Скарга здолеў яго пераканаць, схіліць да уніі. Але гэта толькі здавалася, бо К. Астрожскі, не адмаўляючы унію, ставіў ёй непераадольную перашкоду: згоду праваслаўнага народа на унію, вырашэнне пытання на царкоўным саборы.

Заключыць унію шляхам згоды, як прапанаваў П. Скарга, не атрымлівалася. Трэба было хітраваць, як раіў А.Пасевіна. Да канца XVI ст. склаліся неабходныя ўмовы: шэраг праваслаўных епіскапаў (пінскі – Лявонцій Пяльчыцкі, холмскі – Дзіянісій Збіруйскі, львоўскі – Гедэон Балабан, луцкі – Кірыла Тарлецкі, брэсцкі – Іпацій Пацей), а таксама мітрапаліт кіеўскі Міхаіл Рагоза пачалі схіляцца да уніі. У

гэтым яны мелі рацыю: свае пасады атрымалі з рук караля і таму мусілі лічыцца з яго думкай наконт рэлігійнай уніі, да таго ж яны часам падвяргаліся шантажу і нават нападкам і, урэшце, былі незадаволены ўмяшаннем праваслаўных брацтваў у справы царквы.

Праваслаўныя брацтвы ўзніклі ў XVI ст. як дабрачынныя грамадскія арганізацыі. З узмацненнем каталіцкай экспансіі яны ператварыліся ў рэлігійныя праваслаўныя арганізацыі з мэтай абароны праваслаўя. Галоўным напрамкам іх дзейнасці стала захаванне чысціні праваслаўнага вучэння, богаслужэння і царкоўнага кіравання. Акрамя таго, брацтвы мелі права кантролю не толькі рэлігійнага жыцця, але і маральнага стану свецкіх і духоўных асоб. У выніку пачалася барацьба паміж епіскапамі і брацтвамі. Унія магла вызваліць іерархаў з-пад кантролю брацтваў. Залежнасць ад каралеўскай міласці, хісткасць становішча, надакучлівасць брацтваў і іншыя абставіны падштурхнулі некаторых епіскапаў, а таксама мітрапаліта на унію.

У інструкцыі, дадзенай Міхаілу Рагозе езуітамі, адзначалася: “Што датычыць міран, асабліва простага народа, то ... вам трэба як толькі магчыма берагчыся, каб не даць найменшага поваду здагадацца аб вашых намерах і мэтах. Паколькі ад міран можна чакаць адкрытага ваеннага паўстання, то не раім ісці супраць іх ... Новыя абрады трэба ўводзіць у царкву не раптоўна, а паціху замяняць старыя” (Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 232 – 233). У адпаведнасці з інструкцыяй у 1590 г. епіскапы Балабан, Тарлецкі, Збіруйскі і Пяльчыцкі падпісалі ў Брэсце грамату, у якой былі згодны прыняць унію, а ў 1591 г. на саборы ў Брэсце адмовіліся падпарадкоўвацца канстанцінопальскаму патрыярху. Кароль ухваліў гэту пастанову.

У 1595 г. Пацей і Тарлецкі з актам на унію адправіліся ў Рым. Усё гэта рабілася патаемна, але хутка К. Астрожскаму стала вядома пра дзейнасць прыхільнікаў уніі. Ён неадкладна распаўсюдзіў “Акружное пасланне”, у якім заклікаў праваслаўных аб’яднацца ў барацьбе за веру. Канцлер Леў Сапега папярэдзіў князя пра небяспеку грамадзянскай вайны і загадаў спыніць распаўсюджванне грамат, тэкст якіх не ўзгадняўся з каралём і не замацоўваўся канцылярскай пячаткай. Але дарэмна. Унія, задуманая ў верхніх эшалонах улады, ужо пасеяла грамадзянскую вайну.

З канца XVI ст. барацьба паміж каталіцызмам і праваслаўем набывае ўзброены характар. Першай акцыяй стала паўстанне Севярына Налівайкі (1595 – 1596). Ён некаторы час быў на службе ў князя К.Астрожскага, да таго ж у час паўстання яго маці, сястра і два браты знаходзіліся ў Астрожскім замку. Відавочна, што мелася нейкая сувязь паміж уніяй і паўстаннем С.Налівайкі. Мэтанакіравана наносіліся ўдары па тых гарадах, дзе жылі ці мелі маёмасць прыхільнікі уніі. Асабліва папала К.Тарлецкаму. Паўстанцы зруйнавалі яго і братавы маёнткі, захапілі каштоўнасці, а таксама паперы па падрыхтоўцы уніі. Паўстанне было жорстка падаўлена, а С.Налівайку пасля цяжкіх катаванняў у Варшаве пакаралі смерцю.





Папа Клімент VIII (былы прадстаўнік Ватыкана ў Польшчы кардынал Альдабрандзіні) выдаў булу аб уніі, а польскі кароль – універсал, паводле якога праваслаўная і каталіцкая цэрквы ў Рэчы Паспалітай абвяшчаліся злучанымі. Апошняе слова заставалася за саборам. Скліканы ў кастрычніку 1596 г. у Брэсце дзеля канчатковага афармлення уніі, ён раскалоўся на прыхільнікаў і праціўнікаў уніі. Першых падтрымлівалі кароль, канцлер ВКЛ і ўвесь дзяржаўны апарат, апошніх – праваслаўны народ. Антыуніяцкі сабор звольніў з пасад і пазбавіў духоўнага звання мітрапаліта М.Рагозу і ўсіх уніяцкіх біскупаў. Уніяцкі сабор у сваю чаргу пазбавіў сану і адлучыў ад царквы ўсіх праціўнікаў уніі.

Сярод праціўнікаў уніі былі таленавітыя беларускія пісьменнікі свайго часу: Стэфан і Лаўрэнцій Зізаніі, Язэп Бабрыковіч, Лявонцій Карповіч, Мялецій Сматрыцкі і інш. Пачалася вострая літаратурна-багаслоўская палеміка. Гэта быў **першы напрамак рэлігійнай барацьбы.**

**Другім напрамкам** была парламенцкая барацьба. На сеймах і сейміках паміж праваслаўнымі і уніятамі заўжды адбываліся вострыя спрэчкі.

**Трэцяй формай рэлігійнай барацьбы** была адміністрацыйная барацьба: закрыццё праваслаўных цэркваў, перадача іх і манастыроў уніятам. На гэтым напрамку завіхаліся уніяцкія біскупы, феадалы, польскія каралі, канцлер Л.Сапега – прыхільнік уніятаў і ганіцель іх праціўнікаў. Калі жыхары Магілёва (19 кастрычніка 1618 г.) не пусцілі І.Кунцэвіча[1] ў горад, Л.Сапега не толькі ўсклаў на гараджан велізарны грашовы штраф, але і загадаў перадаць усе праваслаўныя цэрквы разам с маёмасцю пад уладу Кунцэвіча. Карыстаючыся падтрымкай канцлера, апошні праз нейкі час гвалтам зачыніў праваслаўныя цэрквы на тэрыторыі ўсёй велізарнай епархіі. Мабыць, пад уплывам Сапегі ў 1621 г. Жыгімонт III накіраваў грамату полацкаму магістрату, патрабуючы падпарадкавання праваслаўных Кунцэвічу. Праваслаўнае насельніцтва адказала непакорнасцю і паклікала на дапамогу казакаў. Гэта прымусіла Сапегу хутка змяніць тактыку і заклікаць Кунцэвіча адмовіцца ад гвалту.

Змена тактыкі канцлера ВКЛ была выклікана некаторымі новымі з’явамі на палітычным небасхіле Рэчы Паспалітай. З пачатку XVII ст. у грамадска-палітычным жыцці ўсё большую вагу сталі набываць казакі. Менавіта казакі пачынаюць бараніць пакрыўджаную царкву, яе святароў і прыхільнікаў са зброяй у руках. Пры непасрэдным удзеле казакаў і іх атамана Сагайдачнага ў 1620 г. была адноўлена іерусалімскім патрыярхам Феафанам праваслаўная іерархія Беларусі і Украіны. А ў 1623 г. яны дамагліся згоды караля на адмену ўсіх

[1] *Іясафат Кунцэвіч* – з 1618 г. полацкі арцыбіскуп, які атрымаў права на падначаленне сабе ўсіх праваслаўных манастыроў і храмаў у Полацку, Віцебску, Магілёве і Оршы.

25. Зак. 5560

каралеўскіх грамат, варожых праваслаўным, і недапушчэнне захопу маёмасці.

І.Кунцэвіч ці не разумеў, ці не жадаў разумець новых плыняў у грамадска-палітычным жыцці. Нягледзячы на перасцярогу канцлера, Кунцэвіч зачыняў храмы, пазбаўляў сану святароў, лічыў сябе вольным тапіць неуніятаў і секчы ім галовы. Канец такой нялітасці быў трагічным. 12 лістапада 1623 г. у г.Віцебску ўспыхнула паўстанне. Велізарны натоўп гараджан і сялян з навакольных вёсак, калі зазванілі ў цэрквах, кінуўся да дому Кунцэвіча. Яго забілі, труп кінулі ў Дзвіну, забілі і яго памагатых. Па патрабаванню папы рымскага Урбана VIII над насельніцтвам Віцебска была ўтворана крывавая расправа. Каралеўскую камісію ўзначаліў Л.Сапега. Ён спяшаўся ўчыніць расправу, бо стала вядома, што праваслаўныя звярнуліся за дапамогай да казакаў. 75 удзельнікаў паўстання былі прыгавораны да смерці, а астатнія да іншых мер пакарання. Маёмасць пакараных была канфіскавана. Віцебск пазбавілі магдэбургскага права, ратушу разбурылі, а званы знялі і адправілі на пераплаўку.

Пасля расправы над паўстаўшым насельніцтвам Віцебска нацыянальна-рэлігійны прыгнёт беларусаў і ўкраінцаў яшчэ больш узмацніўся. Барацьба народных мас хутка перарасла ў нацыянальна-вызваленчы рух. У 1637 –1647 гг. ён меў характар асобных стыхійных выступленняў. А ў 1648 г. на барацьбу з прыгнятальнікамі ўзнялося запарожскае казацтва на чале з Б.Хмяльніцкім. Паўстанне хутка перакінулася на Беларусь. Адзін за другім прыходзілі сюды казацкія загоны. Каля іх гуртаваліся паўстаўшае беларускае сялянства і нізы мяшчан. Паўстанцы знішчалі шляхціцаў, каталіцкае і уніяцкае духавенства, руйнавалі шляхецкія маёнткі, касцёлы, манастыры. Успыхнуўшы адначасова ў розных месцах, паўстанне шырылася так хутка, што спробы падавіць яго сіламі феадалаў не мелі поспеху. Барацьбу з паўстаўшым народам узначаліў польны гетман Вялікага княства Літоўскага Януш Радзівіл. Восенню 1648 г. у Беларусь было накіравана некалькі буйных атрадаў наёмнікаў і шляхты. Жорсткія баі разгарнуліся на паўднёвым захадзе Беларусі ў раёне Пінска, Навагрудка, Слоніма, Брэста, Турава, Бабруйска. Літасці не было нікому. Параненых дабівалі, забівалі жанчын і дзяцей. Пінск быў амаль поўнасцю спалены. Па загаду Радзівіла ледзь не ўсё насельніцтва Турава, якое засталося ў горадзе, было знішчана, а горад спалены.

Новы ўздым барацьбы пачаўся з вясны 1649 г. Б.Хмяльніцкі накіраваў на Беларусь, нягледзячы на мірныя перагаворы з польскім урадам, трохтысячны атрад казакаў на чале з Ільёй Галотам. Да яго далучыліся сяляне, мяшчане, і хутка атрад павялічыўся да 30 тыс. чалавек. Радзівілу ўдалося расправіцца з атрадам Галоты. Хутка з Украіны зноў прыйшлі атрады казакаў на чале з Пабадайлам, Гаркушам, Крычэўскім. У чэрвені 1649 г. паміж атрадам Крычэўскага і войскам адбыўся працяглы бой. І хоць Радзівіл атрымаў перамогу, яна была піравай. Войска панесла такія страты, што прадаўжаць наступальныя дзеянні яно больш не магло. А казакі і беларускія сяляне пахаваліся ў навакольных лясах і перайшлі да партызанскай барацьбы.





Зборaўскі мір, заключаны 8 жніўня 1649 г. паміж польскім урадам і Б.Хмяльніцкім, дазволіў панам утапіць у крыві паўстанне на Беларусі. Аднак у 1650 – 1651 гг. вызваленчы рух зноў ахапіў паўднёвыя раёны Беларусі. Атрады наёмнікаў і шляхты з лютай жорсткасцю падаўлялі неарганізаваныя выступленні працоўных мас, якія зноў падымаліся на барацьбу. Гераічная барацьба беларускага народа за вызваленне ад феадальнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту пацярпела паражэнне, але ў гэтай барацьбе і Рэч Паспалітая страціла свой “залаты яблык”. У 1654 г. Левабярэжная Украіна адышла да Расіі.

У XVII – XVIII стст. на Беларусі ўзмацнілася дзейнасць каталіцкіх манаскіх ордэнаў – францысканцаў, дамініканцаў, базыльян, бернардзінцаў, бенедыкцінцаў і інш. Па заданню Ватыкана, а таксама польскіх магнатаў і духавенства яны праводзілі гвалтоўнае акаталічванне беларускага насельніцтва.

**Францысканцы** (мінірыты) – манахі аднаго з каталіцкіх ордэнаў, названага імем яго заснавальніка Францыска Азізскага. Ордэн францысканцаў быў створаны ў 1209 г. у Італіі. Спачатку францысканцы былі вандроўныя, паходзілі з беднага насельніцтва і прапаведавалі рэлігійны аскетызм. Яны змагаліся з ерэтычным рухам пропаведзямі і насіллем, удзельнічалі ў інквізіцыі, пранікалі ў школы і універсітэты. Каля 1237 г. з’явіліся ў Польшчы, адтуль пачалі місіянерскую дзейнасць у Вялікім княстве Літоўскім па акаталічванню насельніцтва. У час княжання Гедыміна (1316 –1341) яны пабудавалі касцёлы ў Навагрудку і Вільні. Кляштары францысканцаў існавалі ў Гальшанах, Гродне, Дзісне, Драгічыне, Ашмянах, Івянцы, Лукомлі, Мінску, Навагрудку, Паставах, Пінску, Полацку, Оршы, Сянне і іншых мясцінах.

**Дамініканцы** (назва ад імя заснавальніка іспанца Дамініка дэ Гусмана) – манахі каталіцкага ордэна, створанага ў пачатку XIII ст. Галоўным накірункам дзейнасці ордэна з’яўлялася прапагандысцка-місіянерская. Папства выкарыстоўвала ордэн у барацьбе з ерасямі, свецкімі ўладамі, у далейшым – з рэфармацыйным рухам. Дамініканцам была даручана інквізіцыя. Яны апраналіся ў белую сутану з белым капюшонам, на вуліцы накідвалі зверху чорную мантыю з чорным капюшонам. Герб ордэна ўяўляў выяву сабакі, які нясе паходню (адсюль яшчэ адно тлумачэнне назвы ордэна – гасподнія сабакі). На чале ордэна стаяў генерал (генеральны магістр), рэзідэнцыя якога знаходзілася ў Рыме. Вышэйшы калегіяльны орган – капітул. На Беларусі і ў Літве дамініканцы замацаваліся з пачатку XVI ст. Іх кляштары былі ў Астраўцы, Ашмянах, Васілішках, Віцебску, Гродне, Дзярэчыне, Друі, Навагрудку, Нясвіжы, Оршы, Полацку, Слоніме, Ушачах, Халопенічах, Брэсце, Заслаўі, Зембіне, Клецку, Мінску, Мсціславе, Пінску, Ракаве, Рэчыцы, Смалянах, Стоўбцах, Чашніках, Шклове і іншых мясцінах. Існавала і жаночая галіна ордэна. На

Беларусі быў вядомы адзін жаночы кляштар у Навагрудку. Акрамя кляштараў на Беларусі мелася каля 10 рэзідэнцый дамініканцаў. Ім належалі бібліятэкі, гімназіі і павятовыя школы, калегіум пры Віленскім кляштары.

**Базыльяне** – супольнасць манахаў, якія жылі па правілах, распрацаваных святым Васілём (Базылём – адсюль і назва) Вялікім (IV ст.); пазней (з XVII ст.) – каталіцка-уніяцкі манаскі ордэн. Пасля абвяшчэння Брэсцкай уніі 1596 г. базыльяне набываюць ордэнскую арганізацыю на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У 1617 г. у Навагрудку адбылася першая кангрэгацыя новага ордэна базыльян. Пастановы кангрэгацыі былі законам для іх. На чале ордэна стаяў протаархімандрыт (генерал), рэзідэнцыяй якога з'яўляўся кляштар у Тараканях (Кобрынскі павет). Кангрэгацыі праходзілі звычайна ў Жыровічах (каля Слоніма), Навагрудку і Вільні. На Беларусі існавала 55 кляштараў базыльян. Найбуйнейшыя з іх – Полацкі, Жыровіцкі, Мінскі, Віцебскі, Беразвецкі, Барунскі, Быценскі, Антапальскі. У 1826 г. базыльяне Беларускай і Літоўскай правінцый мелі 60 кляштараў, 430 манахаў і 7370 прыгонных сялян. Іх маёмасць складала 404 570 рублёў.

Для падрыхтоўкі манахаў з паслушнікаў існавалі навіцыяты і студыі пры кляштарах у Антопалі, Беразвеччы, Віцебску, Замосці, Лаўрышаве, Лядах, Полацку, Жыровічах і інш. Вучыліся ў іх 2 – 4 гады, існавалі тры спецыялізацыі: тэалогія, філасофія, рыторыка. Працавалі базыльянскія школы, развівалася выдавецкая дзейнасць. Друкарні базыльян былі ў Вільні, Супраслі, Мінску і іншых мясцінах. З 1628 па 1800 г. у іх выдадзена каля 1080 кніг у асноўным на польскай, лацінскай, царкоўнаславянскай мовах, каля 40 % складала свецкая літаратура. Дзейнічалі і жаночыя кляштары базыльянак, але іх было няшмат. Базыльянкі трымалі прытулкі і пансіёны, у якіх вучыліся дзяўчынкі.

**Бернардзінцы** – манахі рэфармаванай галіны манаскага ордэна францысканцаў на Беларусі, у Літве і Польшчы (назва паходзіць ад імя францысканскага прапаведніка Бярнарда Сіенскага, які стаяў ля вытокаў ордэна). Канчатковы разрыў бернардзінцаў з ордэнам францысканцаў адбыўся ў 1517 г. Апраналіся бернардзінцы ў сутану цёмна-шэрага колеру з капюшонам, плашч, насілі пояс з белай воўны. Галоўнай мэтай бернардзінцаў на Беларусі былі місіянерская праца сярод праваслаўнага насельніцтва і пастырская дзейнасць. На Беларусі дзейнічалі 4 жаночыя кляштары бернардзінак: у Брэсце, Гродне, Мінску і Слоніме. Мужчынскіх кляштараў бернардзінцаў налічвалася некалькі дзесяткаў. Пры кляштарах бернардзінцаў дзейнічалі школы (у тым ліку ў Будслаўскім кляштары – музычная школа); амаль кожны кляштар меў бібліятэку; брэсцкія бернардзінцы трымалі аптэку.

**Бенедыкцінцы** – манахі найстарэйшага ў Еўропе каталіцкага манаскага ордэна Святога Бенядзікта. Заснаваны ў 530 г. Бенядзіктам





Нурсійскім (ён быў і аўтарам статута) у г. Монтэкасіна (Італія). Статут патрабаваў ад бенедыкцінцаў сталага жыхарства ў кляштары (кляўзуры), паслушэнства, устрымання і беднасці. Мэта ордэна (харызмат) – кантэмпляцыя (прывядзенне псіхікі ў стан глыбокай засяроджанасці), фізічная і разумовая праца, выхаванне моладзі. Адным з абавязкаў бенедыкцінцаў было выконванне ўрачыстай літургіі. Кляштары бенедыкцінцаў мелі свае школы, буйныя бібліятэкі з рэдкімі зборамі, скрыпторыі, дзе перапісваліся кнігі і летапісы. У XIII ст. бенедыкцінцы страцілі першынство, саступіўшы яго дамініканцам і францысканцам. На Беларусі бенедыкцінцы мелі кляштары ў Гарадзішчы каля Пінска, Мінску, Нясвіжы, жаночыя кляштары бенедыкцінак дзейнічалі ў Мінску, Оршы, Нясвіжы, Слоніме, пры якіх існавалі школы для дзяўчынак са шляхецкіх сем'яў[1].

Такім чынам, каталіцкая экспансія Ватыкана, польскіх магнатаў і духавенства, спробы гвалтоўнага акаталічвання беларускага народа паглыблялі рэлігійнае процістаянне, якое перарастала ва ўзброеную барацьбу. Адным з галоўных патрабаванняў паўстання 1648 г. была ліквідацыя уніяцкай царквы.

Сучасныя палітызаваныя гісторыкі імкнуцца падаць уніяцкую царкву як нацыянальную, не залежную ад Рыма і Масквы, якая нібыта спрыяла захаванню беларускай нацыі. Такая трактоўка гістарычнай ролі уніяцкай царквы, мякка кажучы, не адпавядае гістарычным фактам.

**Па-першае**, як падкрэслівалася вышэй, уніяцкая царква была створана намаганнямі езуітаў, касцёла, польскага караля Жыгімонта III Вазы і часткі іерархаў праваслаўнай царквы насуперак волі беларускага і ўкраінскага народаў праваслаўнага веравызнання і падпарадкоўвалася Рыму. Іншая справа, што ва ўмовах непрыязнасці з боку народных мас уніяты вымушаны былі захоўваць праваслаўны культ, каб народ не зразумеў, у якую царкву ён прыйшоў. Аб непрыхільнасці знаці да уніяцкай царквы сведчыць і такі факт. Пасля смерці шчырага прыхільніка праваслаўя князя К.К.Астрожскага (1608) многія праваслаўныя магнаты і шляхціцы пераходзяць у каталіцызм. Заўважым: у каталіцызм, а не ва уніяцтва. Гэтай падзеі прысвечаны таленавіты твор Мялеція Сматрыцкага "Фрынас" (1610), у якім ён адлюстроўвае крызіс праваслаўнай царквы і пераход праваслаўных князёў у каталіцызм.

**Па-другое**, уніяцкая царква ствараласяшляхам гвалту і падману народа, адміністравання. Польскія каралі перадавалі уніятам лепшыя манастыры і прыходы, дзяржаўныя пасады. Шчырыя праваслаўныя цярпелі ўціск ва ўсіх правах, абражаліся, святары з

[1] У 30–60-я гады XIX ст. кляштары манаскіх каталіцкіх ордэнаў на Беларусі былі зачынены, жылыя будынкі прыстасаваны пад казармы, шпіталі і г.д., касцёлы сталі парафіяльнымі альбо перададзены праваслаўнай царкве.

26. Зак. 5560

ганьбай выганяліся з прыходаў, па хлуслівых даносах аддаваліся пад суд. Цэлыя паветы і ваяводствы заставаліся без святароў, цэрквы былі зачынены альбо разбураны, некаторыя ператвараліся ў шынкі ці канюшні. А праваслаўныя ў Вялікім княстве Літоўскім – гэта і былі якраз беларусы: сяляне і нізы гарадскога насельніцтва. Супраць іх, палітычна бяспраўных і амаль пагалоўна непісьменных, і быў развязаны сапраўдны генацыд уласнай шляхтай, што перайшла ў каталіцызм разам з польскімі феадаламі, ксяндзамі і уніятамі. Дык якая ж гэта "нацыянальная", прабачце, царква, якая рабуе і прыгнятае ўласна беларускі народ?

Уніятам дапамагалі касцёлы, шматлікія каталіцкія ордэны (бернардзінцы, кармеліты, дамініканцы), але больш за ўсіх – езуіты, якія наогул не клапаціліся наконт сродкаў дасягнення мэты. Свой уклад у барацьбу супраць праваслаўнага насельніцтва ўнеслі папы рымскія і польскія каралі. Папа Бенядзікт XIII прапанаваў польскаму каралю любымі сродкамі знішчыць уцалелае пакуль што адзінае праваслаўнае епіскапства ў Магілёве. Ян Сабескі (1692) патрабаваў ад мяшчан Магілёва "добровольно" перайсці ў унію, у адваротным выпадку пагражаў ім, што "будут в унии поневоле" (Витебская старина. Т.5. Ч.1. С. 268). Хутка праваслаўнай шляхце быў закрыты доступ не толькі ў сенатары, але і ў дэпутаты сейма, а праваслаўным мяшчанам – на магістрацкія пасады (Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 358, 362, 364; Витебская старина. Т.5. Ч.1. С.335 – 336). У 1712 г. сейм забараніў службовым асобам прыкладаць пячаткі да дакументаў, у якіх прадугледжваліся выгоды для асоб некаталіцкага веравызнання.

Лепшыя сыны Рэчы Паспалітай хутка зразумелі небяспеку, якую несла фанатычная палітыка езуітаў. Яны не толькі своечасова (пакуль пухліна езуіцкага фанатызму не дала сваіх вынікаў) перасцерагалі ўрад і грамадскасць, але і патрабавалі ад караля і сената адхіліць езуітаў ад усіх спраў пры двары, выгнаць іншаземцаў, а з некаторых гарадоў і тутэйшых езуітаў за межы краіны. У 1623 г. Юрый Збаражскі (канюшы Вялікага княства Літоўскага) папярэджваў, што каталіцкая экспансія на Беларусі нясе пагібель будучыні дзяржавы. У прамове на сейме ён казаў: "Тыя раны, якія мы атрымалі ад жаўнераў, вялікія, падобныя на рану ад рукі, але не прыносяць яшчэ смерці параненаму... Але той, хто знішчае права, хто разрывае згоду паміж народамі, з якіх складаецца польская Рэч Паспалітая, той раніць Айчыну ў самае сэрца. Такая тая сварка, якую пачалі з рускім народам, нашымі братамі. Гэта рана, хаця б яна была і невялікай, прынясе смерць... Ведаю я добра, што пачынаючы з Брэсцкага сабору (1596) робяць з імі... Але чаго яны хочуць ад такога паважанага народа, гэтага я ніякім чынам зразумець не магу, таму што калі хочуць, каб у Русі не было Русі, – то гэта справа немагчымая..." (Журн. М-ва нар. просвещения. Ноябрь 1871 г. С. 53).





**Па-трэцяе,** ні на імгненне народ не прыпыняў змагання за свабоду веравызнання. Сродкі барацьбы былі самыя разнастайныя. Экспансія каталіцызму і ўціск уніятаў вялі да кансалідацыі праваслаўных насельнікаў. Звычайна ў час бескаралеўя гуртаваліся праваслаўныя святары, брацтвы, казакі, ставіліся перад кандыдатам у каралі патрабаванні. Напрыклад, у час вайны з Масквой агульнымі намаганнямі яны дамагліся права мець праваслаўнага мітрапаліта, праваслаўных епіскапаў у Полацку і Магілёве, звароту некалькіх захопленых уніятамі цэркваў і манастыроў. Былі і іншыя дзяржаўныя акты, якія абвяшчалі роўныя правы праваслаўных жыхароў з уніятамі і католікамі. Але трэба мець на ўвазе, што ў краіне з бязмежным шляхецкім самавольствам ніякія законы не абаранялі і не маглі абараніць праваслаўную царкву і яе прыхільнікаў.

Уніяцкая царква, навязаная праваслаўнаму насельніцтву адміністрацыйным шляхам, яшчэ больш паглыбіла этнічна-рэлігійную барацьбу, а езуіты надалі ёй характар рэлігійнага фанатызму. Тайная ідэя езуітаў пацiху перавесці праз уніяцкую царкву праваслаўнае насельніцтва Рэчы Паспалітай у каталіцызм ажыццяўлялася. Ужо на кангрэгацыі ў Брэсце ў 1666 г. адзначалася, што базыльяне (уніяцкі манаскі ордэн) змянілі шмат у абрадах Святой Усходняй царквы і Боскай літургіі і так пераблыталі ўсё ва уніяцкай царкве, што уніяцкія абрады нельга назваць ні грэчаскімі, ні рымскімі.

У 1720 г. пытанне аб збліжэнні уніяцкай царквы з касцёлам разглядалася на Замойскім саборы. Некаторыя дагматы і абрады праваслаўнай царквы змяняліся на каталіцкія. Так, сабор прызнаў лацінскія дагматы аб зыходзе Святога Духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына, аб чысцілішчы, індульгенцыях, першародным граху, беспамылковасці рымскіх пап у справах веры. Было шмат і другарадных лацінскіх новаўвядзенняў: памінаць пры богаслужэнні папу рымскага, пасвячаць у свяшчэннікі нежанатых асоб, насіць сутану, галіць бароды, прыняць кнігі рымскага друку, зняць у цэрквах іканастасы, завесці арганы, званочкі і г. д.

Шматгадовая каталіцкая экспансія на Беларусі суправаджалася атаясамленнем рэлігійнай і этнічнай прыналежнасці. Побач са стэрэатыпам "католік-паляк" пачынае выкрысталізоўвацца ў грамадскай свядомасці стэрэатып "праваслаўны – рускі". У выніку гэтага рэлігійная барацьба набыла этнічную афарбоўку, пераўтварылася ў этнічна-рэлігійную, якая працягвалася да падзелаў Рэчы Паспалітай.

# ГЛАВА 3

# ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА. ВОЙНЫ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XVI – XVIII ст.

Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай не магла весці самастойнай знешняй палітыкі. Але гэта не азначае, што насельніцтва Беларусі не ўздзейнічала на войны, якія вяла Рэч Паспалітая. Часцей за ўсё і тэрыторыя Беларусі з'яўлялася тэатрам ваенных дзеянняў.

Першай вайной Рэчы Паспалітай, атрыманай ёй у спадчыну ад Вялікага княства Літоўскага, была Лівонская. Пад Лівоніяй у той час разумелася тэрыторыя сучаснай Латвіі і Эстоніі, заселеная лівамі, латыголамі, эстамі і іншымі плямёнамі і захопленая крыжакамі ў XIII ст. Намінальна Лівонія была пад уладай папы рымскага і германскага імператара.

З сярэдзіны XIV да канца XV ст. бесперапынныя ўнутраныя смуты аслабілі крыжакоў, што ў нейкім сэнсе садзейнічала перамозе аб'яднаных славянскіх сіл у 1410 г. пры Грунвальдзе і прыпыненню крыжацкай агрэсіі на Усход. Другім важным паказчыкам унутранай слабасці крыжакоў з'явіўся пераход у васальную залежнасць ад Польшчы ў 1466 г. прускага біскупства, залежнага раней ад Рыгі. У падзеле лівонскай спадчыны пачынаюць праяўляць зацікаўленасць яе суседзі: Швецыя, Польшча, Вялікае княства Літоўскае, Данія і Расія. Згодна з пагадненнем паміж Расіяй і Лівонскім ордэнам (1554), апошні абавязваўся не заключаць дагавораў з Польшчай, захоўваць нейтралітэт у выпадку руска-польскай вайны, адрадзіць праваслаўныя храмы.

Ва ўнутрыпалітычным жыцці Лівоніі пачынаюць барацьбу прыхільнікі і праціўнікі зблажэння з Польшчай. Прыйшоўшы да ўлады, магістр ордэна В.Фюрстэнберг як праціўнік польскага ўплыву раптоўна становіцца прыхільнікам польскай арыентацыі і заключае з Польшчай абаронча-наступальны саюз супраць Масквы. Парушэнне папярэдняга пагаднення з Расіяй падштурхнула ўрад Івана Грознага пачаць у 1558 г. ваенныя дзеянні супраць Лівоніі. Руская армія захапіла Нарву, Дзерпт (Тарту), дасягнула Рэвеля (Таліна).

Зацікаўленыя ў падзеле лівонскай спадчыны дзяржавы ўцягваюцца ў канфлікт. Данія адарвала востраў Эзель (Сааремаа), а паўночная частка Лівоніі – Эстляндыя – перайшла пад патранат Швецыі. Пачынаецца распад ордэна. У выніку вострых унутрыпалітычных спрэчак В.Фюрстэнберг быў заменены на пасадзе магістра Г.Кетлерам, які звярнуўся да Жыгімонта II Аўгуста за дапамогай. У 1561 г. Віленскі





сейм прыняў уладанні Лівонскага ордэна пад патранат. З гэтага часу праціўнікам Расіі ў Лівонскай вайне стала Вялікае княства Літоўскае.

Уцягненне ВКЛ у падзел лівонскай спадчыны было невыпадковым. Магнаты ВКЛ, асабліва ў заходняй яе частцы, дзе ажыццяўлялася аграрная рэформа Жыгімонта II Аўгуста, былі зацікаўлены ў заходнееўрапейскім рынку для свайго збожжа, а выхад Расіі да Балтыйскага мора нараджаў небяспечнага канкурэнта. Таму ВКЛ у Лівонскай вайне мела на ўвазе адразу дзве мэты: 1) далучыць да сваіх уладанняў тэрыторыю Лівонскага ордэна; 2) не дапусціць Расію да Балтыйскага мора, г. зн. на заходнееўрапейскі рынак.

Пасля пераходу Лівонскага ордэна пад патранат ВКЛ Расія перанесла ваенныя дзеянні на тэрыторыю Беларусі і ў 1563 г. захапіла самую магутную крэпасць княства – Полацк, які адкрываў шляхі рускай арміі на Вільню і Рыгу.

Але ўжо ў наступным пасля полацкага паражэння 1564 г. фартуна павярнулася тварам да ВКЛ, якое атрымала перамогу на р.Уле і пад Оршай.

Лівонская вайна патрабавала ад насельніцтва ВКЛ напружання ўсіх сіл. Яна прывяла да рэзкага павелічэння падаткаў, прынесла працоўным масам разбурэнне іх гаспадарак і смерць. Але самае галоўнае заключалася ў тым, што вайна зусім не карысталася папулярнасцю не толькі сярод працоўных, але і дробнай і нават сярэдняй шляхты, яшчэ слаба акаталічанай і паланізаванай. Папскі пасол, які быў сведкам падзей, пісаў, што насельніцтва Беларусі публічна моліцца Богу, каб ён дараваў маскавітам перамогу. Яскравым прыкладам непапулярнасці Лівонскай вайны сярод беларускага насельніцтва была няўдалая спроба склікаць апалчэнне і правесці ваенную аперацыю ў 1567 г.

Магчыма, паражэнні, а таксама выступленні крымскіх татар, уцёкі князя Курбскага ў Літву прывялі Івана Грознага да думкі аб баярскай здрадзе і паклалі пачатак апрычніне. Унутраныя справы адсунулі на нейкі час праблемы Лівонскай вайны.

Не здолела і Вялікае княства Літоўскае скарыстаць расійскія цяжкасці. Само княства апынулася перад яшчэ больш небяспечнымі праблемамі. З пачатку ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі Польскае каралеўства аднавіла свае інкарпаратарскія намаганні, палітыку, якую вяло ў адносінах да ВКЛ з часоў Крэўскай уніі. Розніца палітыкі Расіі і Польшчы для ўрада ВКЛ была відавочнай: Расія імкнулася да выхаду да Балтыйскага мора і цікавілася тэрыторыяй не ВКЛ, а Лівоніі. Польскае каралеўства прэтэндавала на “мірную”, без аб'яўлення вайны і ваенных дзеянняў анексію ўсяго Вялікага княства Літоўскага цалкам. Гэта падштурхнула палітыкаў ВКЛ шукаць пагаднення з Расіяй. У чэрвені 1566 г. у Маскву было накіравана пасольства ВКЛ у складзе Ю.Хадкевіча, Ю.Тышкевіча і М.Гарабурды, якое прапанавала Івану IV правесці падзел Лівоніі на падставе існуючага на той час становішча. Але цар не прыслухаўся

да парады. Мабыць, перакананы ворагамі Расіі і Вялікага княства Літоўскага, ён прыняў памылковае рашэнне працягваць вайну. Яго падтрымаў Земскі сабор 1566 г.

Такая пазіцыя Расіі паставіла ВКЛ у яшчэ больш цяжкае становішча ў выніку ўзмацнення інкарпаратарскай хвалі польскіх магнатаў. У такіх умовах дэлегацыя ВКЛ на Люблінскім сейме пасля анексіі большай часткі княства ў Польскае каралеўства мусіла падпісаць ганебную Люблінскую унію (1569). З гэтага часу вайна за Лівонію павінна была стаць вайной Рэчы Паспалітай.

Уступленне ў вайну Швецыі і крымскіх татар, а таксама апрычніна яшчэ больш знясілілі Расію і адкрылі Рэчы Паспалітай добрыя перспектывы ў вайне. Але зноў яна не змагла выкарыстаць спрыяльныя ўмовы, бо сама перажывала цяжкія гады бескаралеўя. Расія першая актывізавала свае ваенныя дзеянні ў Лівоніі і здолела захапіць некаторыя крэпасці, у тым ліку Пернаў (Пярну). Гэтыя ваенныя поспехі дазволілі маскоўскаму ўраду пачаць перамовы з германскім імператарам Максімільянам аб прызнанні права Расіі на Прыбалтыку. Атрымаўшы адмову, рускі ўрад пачаў новую ваенную кампанію. Ваенныя поспехі Расіі насцярожылі не толькі Рэч Паспалітую, але і Рым.

Абраны ў 1576 г. польскі кароль Стэфан Баторый фарміруе наёмнае войска (часткова аперацыю фінансуе Ватыкан) і пачынае контрнаступленне супраць расійскай арміі ў Лівоніі і на Беларусі. Пасля 20-дзённай асады цаной вялікіх страт адваёўваецца Полацк, вызваляецца Лівонія, ваенныя дзеянні пераносяцца на ўласна рускую тэрыторыю. Заваяваўшы Вялікія Лукі і шэраг дробных крэпасцей, Стэфан Баторый распачынае аблогу Пскова і марыць аб паходзе на Ноўгарад і Маскву. Але гераічная абарона Пскова ў 1581 – 1582 гг. канчаткова вызначыла вынік вайны і прымусіла знясіленыя 25-гадовай барацьбой дзяржавы пачаць мірныя перамовы. Яны праходзілі ў в.Ківерава Гара паблізу Запольскага Яма (на поўдзень ад Пскова) пры пасрэдніцтве папскага прадстаўніка езуіта А.Пасевіна. Згодна з перамір'ем (на 10 гадоў), якое ўвайшло ў гісторыю як Ям-Запольскае, Рэч Паспалітая вяртала Расіі захопленыя рускія гарады – Вялікія Лукі, Холм, Завалочча, Ізборск, Апочку, Гдоў, Себеж і іншыя з усімі іх землямі, за выключэннем раёна г.Веліжа, дзе адраджалася мяжа, што існавала да 1514 г. Расія ў сваю чаргу адмаўлялася ад усіх зямель, захопленых у Лівоніі і на Беларусі. Мэта, якую ставіла Расія: знайсці выхад да Балтыйскага мора, не была дасягнута.

У выніку Лівонскай вайны аказалася спустошанай і зруйнаванай паўночна-ўсходняя частка Беларусі, загінула шмат насельніцтва, знішчаны культурныя каштоўнасці. Венгерскія наёмнікі, якія ўварваліся першымі ў Полацк, рабавалі жыхароў, руйнавалі ўсё. Менавіта ў час рабавання горада наёмнікамі Стэфана Баторыя загінулі многія культурныя каштоўнасці, у тым ліку і Полацкі летапіс. Вынікам Лівонскай вайны на Беларусі было далейшае ўмацаванне





пазіцый польскіх феадалаў і каталіцкага ўплыву, яшчэ больш глыбокі раскол беларускага грамадства на рэлігійнай глебе.

Аднак адна мэта, якую ставіў Ватыкан у Лівонскай вайне, фінансуючы паход Стэфана Баторыя, засталася недасягнутай: распаўсюджванне каталіцызму далей на Усход, падпарадкаванне Расіі папу рымскаму. Місія Пасевіна схіліць Івана Грознага да уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў правалілася, але ідэя не памерла.

Хутка для рэалізацыі гэтай ідэі трапіўся зручны выпадак. На пачатку XVII ст. Расію напаткала бяда-ліха. На працягу трох гадоў (1600 –1602) вясной і летам ішлі праліўныя дажджы, а ўвосень яны змяняліся раннімі замаразкамі. Неўраджай прывёў да страшэннага голаду. Каб не карміць халопаў, феадалы выганялі іх тысячамі са сваіх двароў. Дзесяткі тысяч халопаў, сялян, пасадскіх людзей гінулі ў тыя гады ад голаду. У адной Маскве за два гады і чатыры месяцы загінула больш за 120 тыс. чалавек. Мноства галодных і халодных людзей блукалі па дарогах Расіі. На тую бяду ў 1598 г. памёр апошні з дынастыі Рурыкавічаў – цар Фёдар Іванавіч. Барыс Гадуноў, які прыйшоў да ўлады, а потым і Васіль Шуйскі ў вельмі складаных эканамічных і палітычных абставінах не здолелі прыпыніць "смуту" – барацьбу працоўных мас супраць феадалаў.

"Смута" ў Расіі падштурхнула польскіх і літоўскіх феадалаў да актыўнай рускай палітыкі, для якой склаліся спрыяльныя ўмовы. Справа ў тым, што яшчэ пры Фёдару Іванавічу 15 мая 1591 г. ва ўдзельным Угліччы пры загадкавых абставінах памёр брат цара васьмігадовы царэвіч Дзмітрый – фактычны наследнік рускага прастола. Адразу пасля смерці царэвіча ўзніклі дзве версіі аб яе прычынах. Згодна з адной, Дзмітрый накалоўся на ножык ў час прыпадку падучай хваробы; паводле другой, ён быў забіты падасланымі Гадуновым асобамі. Маці царэвіча сведчыла аб забойстве і адразу ж пасля смерці сына назвала імёны забойцаў, якія разам з некалькімі пасадскімі людзьмі былі забіты раз'юшаным натоўпам.

Камісія ў складзе В.Шуйскага, А.Клешніна і Е.Валузгіна прыйшла да высновы, што царэвіч Дзмітрый па нядбайнасці маці закалоўся ножыкам у час падучкі. Па распараджэнні ўрада Барыса Гадунова маці Дзмітрыя сілком пастрыглі ў манашкі, а сотні угліччан, удзельнікаў хваляванняў, былі сасланы ў Сібір.

У 1600 г. пачалі распаўсюджвацца чуткі, быццам царэвіч Дзмітрый выратаваўся. Неўзабаве "царэвіч" слушна заявіў аб сваіх прэтэнзіях на маскоўскі прастол. Паводле афіцыйнай версіі рускага ўрада, у ролі самазванца выступіў Грыгорый (Грышка) Атрэп'еў, беглы манах, які перабраўся пасля блуканняў па Расіі ў Рэч Паспалітую.

Пасля пераходу мяжы Атрэп'еў са сваімі спадарожнікамі тры тыдні жыў у Кіева-Пячэрскім манастыры, а затым у Астрогу і Дзермане. Пакінуўшы Дзерманскі манастыр, Атрэп'еў скінуў з сябе манаскае адзенне і падаўся да антытрынітарыяў. Ён стаў выконваць іх абрады і здабыў іх прыхільнасць. Але антытрынітарыі не мог разлічваць на

маскоўскі прастол. Ад антытрынітарыяў Атрэп'еў накіроўваецца да казакаў, а потым шукае падтрымку ў прыхільніка праваслаўя і далёкага родзіча Івана Грознага Адама Вішнявецкага, які варагаваў з маскоўскім царом з-за зямель. Разам з тым частка ўплывовых і найбольш дальнабачных палітыкаў, менавіта такіх як К.Астрожскі, каронны гетман Я.Замойскі, разглядалі падтрымку самазванца як небяспечную авантуру.

Арганізатарам паходу Лжэдзмітрыя ў Расію становіцца другарадны чыноўнік Рэчы Паспалітай сенатар Юрый Мнішак, які абапіраўся на падтрымку свайго ўплывовага родзіча біскупа Б.Мацієўскага. Мнішак дапамог самазванцу заручыцца падтрымкай літоўскага канцлера Льва Сапегі, а затым з дапамогай папскага нунцыя (пасла) Рангоні атрымаў аўдыенцыю ў Жыгімонта III і абяцанне падтрымкі пры адпаведных умовах: пераходу самазванца ў каталіцызм, дапамогі Жыгімонту III у яго барацьбе са шведамі за спадчынны прастол у Стакгольме. Ажыццяўленне гэтых планаў адкрыла б перспектывы контррэфармацыі ў Швецыі, укаранення каталіцызму на Русі і, зразумела, зацікавіла б каталіцкія колы Кракава і Рыма.

13 сакавіка 1604 г. кароль звярнуўся да кароннага гетмана з прапановай узначаліць паход на Маскву. Гетман рашуча адхіліў гэту прапанову, што прымусіла Жыгімонта III у той час устрымацца ад адкрытай інтэрвенцыі. Але абяцанне Лжэдзмітрыя падзяліць паміж каралём і Мнішкам Смаленскую і Чарнігаўска-Северскую землі, а будучай рускай царыцы Марыне Мнішак перадаць на правах удзела Наўгародскую і Пскоўскую землі прымусіла караля, магнатаў і касцёл фінансаваць намаганні авантурыста захапіць царскі прастол.

13 кастрычніка 1604 г. войска Лжэдзмітрыя ўварвалася ў Чарнігава-Северскую зямлю, дзе на мяжы з Рэччу Паспалітай назбіралася шмат беднага і галоднага люду. Прыход "сапраўднага і законнага" цара выклікаў народныя паўстанні ў Чарнігаве, Пуціўлі, Рыльску, Курску і іншых гарадах. Затым падняліся Арлоўшчына і Браншчына. Спачатку цар Барыс Гадуноў пасылаў супраць самазванца невялікія атрады, але хутка мусіў абвясціць скліканне дваранскага апалчэння. Восеньскае бездарожжа зацягвала мабілізацыю. Толькі праз два месяцы, у снежні 1604 г., адбылася бітва паміж войскамі самазванца і царскай арміяй на чале з князем Мсціслаўскім.

Бітва пад Ноўгарад-Северскім неадназначна ацэньваецца ў навуковай літаратуры. Адны даследчыкі лічаць, што войска самазванца пацярпела сакрушальнае паражэнне, другія – што поспех быў на баку інтэрвентаў. Тым не менш вядома, што пасля бітвы большасць наёмнікаў пакінулі Лжэдзмітрыя і накіраваліся да мяжы Рэчы Паспалітай. Ад'ехаў да Рэчы Паспалітай і галоўны натхняльнік інтэрвенцыі сенатар Мнішак. З самазванцам засталіся езуіты, якія прынялі ўдзел у інтэрвенцыі з самага яе пачатку. Але разбітая армія самазванца пачала папаўняцца простым рускім людам, што наіўна паверыў у байку пра цудам уцалеўшага царэвіча Дзмітрыя.





Чарговая бітва, якая адбылася паміж войскамі цара і самазванца 21 студзеня 1605 г. ля в.Дабрынічы Камарыцкай воласці, прынесла бясспрэчную перамогу царскай арміі над 23-тысячнай арміяй Лжэдзмітрыя. Тут самазванец страціў амаль усю пяхоту. Паводле сведчанняў сучаснікаў, на полі бою засталося больш за 11 тыс. чалавек. У рукі пераможцаў трапілі 15 сцягоў і штандараў, уся артылерыя – 30 пушак. Але Лжэдзмітрый зноў знайшоў падтрымку насельніцтва, якое жадала мець "сапраўднага, законнага" цара, а абяцанні лепшага жыцця ўспрымаліся галодным народам вельмі прыхільна.

Новы штуршок "смуты" надалі раптоўная смерць Барыса Гадунова (1605) і абранне царом яго сына Фёдара Барысавіча. Пры маладым цару паднялі галовы незадаволеныя і пакрыўджаныя Барысам баяры, некаторыя з іх былі вернуты з ссылкі. Фёдару ў гэтых умовах цяжка было стабілізаваць палітычнае становішча. На бок "царэвіча Дзмітрыя" пачалі пераходзіць дваране, што адкрыла самазванцу шлях на Маскву. Паўстанне простага люду адчыніла маскоўскія вароты. Цар Фёдар і царыца Марыя былі звергнуты і ўзяты пад варту. 20 чэрвеня 1605 г. самазванец уступіў у Маскву. Праз месяц, 21 ліпеня, ён вянчаўся ва Успенскім саборы на прастол "продкаў сваіх" як цар і вялікі князь усёй Русі. Але толькі год цярпелі масквічы самазванца. Падман пачаў выкрывацца, і паўстаўшыя масквічы гэтак жа хутка зверглі Лжэдзмітрыя, як хутка прынялі на царства.

У гэтых умовах баяры паспяшаліся ўзяць сітуацыю пад кантроль і абвясцілі царом В.І.Шуйскага. Ён і яго прыхільнікі пачалі праводзіць курс аднаўлення старых парадкаў, з чым не захацелі мірыцца нізы. З аднаго боку, пачынаецца паўстанне на чале з Іванам Балотнікавым, з другога – узнімаецца новы вал руху пад сцягам "добрага цара" царэвіча Дзмітрыя, які нібыта ў другі раз цудам выратаваўся ад смерці. Лжэдзмітрыем II становіцца паплечнік першага самазванца дваранін Міхаіл Малчанаў.

Дзесяткі гарадоў прысягаюць цару "Дзмітрыю", пад яго сцягі збіраюцца масы народа. На яго бок пераходзіць частка дваран і нават баяр, па розных прычынах незадаволеных царом Васіліем Шуйскім. Цікава, што ў абставінах Сялянскай вайны, на сцягу якой было напісана імя царэвіча Дзмітрыя, урад цара Васілія Шуйскага кананізуе "невинно убиенного отрока", тым самым перакрэсліваючы вывады следчай камісіі 1591 г., якую ўзначальваў учарашні баярын, а сённяшні цар Васілій Шуйскі.

На дапамогу Лжэдзмітрыю II прыходзяць атрады польскіх магнатаў Лісоўскага і Ражынскага, а пазней Яна Сапегі, аднаго з буйных магнатаў ВКЛ. У в.Тушына ля Масквы, дзе размясціўся самазванец, прыязджае і прызнае яго за сапраўднага царэвіча Марына Мнішак, якая тайна вянчаецца з новым самазванцам. Ён атрымлівае падтрымку ад папы рымскага, католікаў, якіх не пакідаюць мары прывесці Расію да уніі.

28. Зак. 5560

Польскія і літоўскія магнаты захопліваюць рускія гарады і вёскі, рабуюць народ, паводзяць сябе як інтэрвенты. У верасні 1608 г. яны бяруць у аблогу святыню зямлі рускай – Троіца-Сергіевы манастыр. Сапега і Лісоўскі мелі часам ад 15 да 30 тыс. чалавек. Але ні штурмы, ні аблога, якая працягвалася 16 месяцаў, не маглі зламаць гераічную барацьбу абаронцаў-манахаў і навакольных сялян.

З канца 1608 г. просты люд пачынае аб'ядноўвацца супраць няпрошаных гасцей. Цар Шуйскі імкнецца скарыстаць народны рух у барацьбе з польска-літоўскімі войскамі. Вясной 1609 г. войска на чале з пляменнікам цара князем М.В.Скопіным-Шуйскім разам з атрадам шведаў і апалчэнцамі нанесла паражэнне войску тушынцаў. Але Скопін-Шуйскі, лічачы сваю моц недастатковай для барацьбы з галоўнымі сіламі тушынцаў, пакуль што пазбягаў ісці прама да Масквы. Асцярожнасць Скопіна-Шуйскага была выклікана і тым, што ў верасні 1609 г. з'яўляецца новы і больш небяспечны вораг, як "тушынскі злодзей", польскі кароль Жыгімонт III, які ў рэшце рэшт распачаў адкрытую інтэрвенцыю супраць Расіі. Ён сам узначаліў армію і, размясціўшыся ля Дняпра, направіў жыхарам Смаленска грамату, дзе імкнуўся запэўніць іх, што мае намер толькі пазбавіць Расію і рускіх людзей ад непрыемнасцей, якія ім даводзіцца перажываць. Але смаленскія ваяводы – баярын Шэін, князь Гарчакоў, а таксама архіепіскап Сергій рашуча адмовіліся здаць горад палякам.

Армія Жыгімонта несла вялікія страты. Кароль пачаў дасылаць граматы: у в.Тушына, сваім аднапляменнікам, цару Васілію, а таксама патрыярху, духавенству, дваранству і ўсім жыхарам Масквы з абяцаннем вырашыць усе іх беды, калі яны прызнаюць яго вярхоўную ўладу.

Спачатку Сапега хістаўся, не ведаючы, што рабіць. Ражынскі з паплечнікамі абвясцілі сябе канфедэратамі і заявілі аб тым, што захопленыя імі северскія землі яны не аддадуць каралю. Але поспехі Скопіна-Шуйскага іх пераканалі лепш за каралеўскія граматы, і яны хутка пацягнуліся да Смаленска. У 1609 г. тушынскі лагер пачаў раскідвацца, а "тушынскі злодзей" уцёк у Калугу.

Герой барацьбы з інтэрвентамі Скопін-Шуйскі, які прыйшоў у Маскву ў сакавіку 1610 г., быў атручаны. У забойстве 23-гадовага князя масквічы абвінавацілі жонку аднаго з братоў цара. Змяніўшы на пасадзе галоўнакамандуючага Скопіна-Шуйскага, князь Дзмітрый Шуйскі не толькі не меў таленту ваеначальніка, але ў першай жа бітве здрадзіў, пакінуўшы армію, казну без прыгляду (шведы забралі) і згубіўшы каня ў балоце.

Цар В.Шуйскі не паў духам і не страціў мужнасці. Ён звярнуўся да народа з адозвай паўстаць на абарону Айчыны. Праўда, дні яго ўжо былі кароткія. Гарады не адгукнуліся на яго адозвы. Цар губляў горад за горадам. Сапега разграбіў багаты Пафнуцьеў манастыр, самазванцу здаліся Каломна і Кашыра.

17 ліпеня 1610 г. у Маскве пачаўся мяцеж. Мяцежнікі захапілі цара В.Шуйскага і сілком яго і жонку ягоную пастрыглі ў манахі. Да





ўлады прыйшла група баяр на чале з князем Ф.І.Мсціслаўскім, які пад націскам тушынцаў прапанаваў народу запрасіць на рускі прастол сына Жыгімонта III, каралевіча Уладзіслава. 17 жніўня 1610 г. паміж баярамі і гетманам Жалкеўскім былі падпісаны пагадненне і ўмовы, на якіх Уладзіслаў мог стаць рускім царом. Вароты Масквы былі адчынены, і ў верасні 1610 г. у Маскву ўвайшоў польскі атрад на чале з Жалкеўскім. Усёй справай у дзяржаве пачынаюць верхаводзіць інтэрвенты. Становішча яшчэ больш ускладняецца, і ў краіне зноў пачынаецца народны рух супраць інтэрвентаў. Да Масквы накіроўваецца апалчэнне, якое не паспявае на дапамогу паўстаўшаму гораду (19 сакавіка 1611 г.). З паўстанцамі жорстка распраўляюцца карнікі Гансеўскага. Толькі ў адным Кітай-горадзе яны забілі да 7 тыс. чалавек. Апалчэнцы ж не знайшлі паміж сабой згоды, пасварыліся і ўрэшце разышліся па сваіх гарадах.

З чэрвеня 1611 г., калі ў Смаленску засталося 200 абаронцаў, горад паў. Жыгімонт III парушыў дагавор ад 17 жніўня 1610 г. і абвясціў сябе рускім царом.

Летам 1611 г. над Расіяй навісла пагроза пазбаўлення яе нацыянальнай незалежнасці. Сталіца была ў руках палякаў, на паўночным захадзе гаспадарнічалі шведы. З поўдня ўрываліся татары, англічане планавалі захоп рускай поўначы і Паволжа. У гэту цяжкую часіну народ бярэ лёс Айчыны ў свае рукі. У Ніжнім Ноўгарадзе ствараецца другое апалчэнне на чале з Кузьмой Мініным, "рода неславна, но смыслом мудре", і князем Дзмітрыем Пажарскім, таленавітым палкаводцам, які "во измене не явился".

У лютым 1612 г. апалчэнне накіравалася да Масквы і замацавалася ў Яраслаўлі, дзе быў створаны часовы орган вышэйшай улады. З вясны становішча інтэрвентаў у Маскве пагоршылася. Яны пачалі адчуваць недахоп правіянту (здабываць яго перашкаджалі падмаскоўныя партызаны), хоць польскі гарнізон быў невялікі – 4 тыс. чалавек. Толькі летам кароль паслаў у Маскву войска на чале з гетманам Хадкевічам, які павінен быў даставіць абоз з правіянтам і зброяй.

Сюды, пад Маскву, прыйшлі і апалчэнцы. 22 – 24 жніўня 1612 г. паміж войскамі Хадкевіча і апалчэнцамі адбылася бітва, у выніку якой Хадкевіч страціў увесь абоз і з рэшткамі войска адышоў да Вязьмы. У Маскве пачаўся голад. 22 кастрычніка 1612 г. апалчэнцы вызвалілі Кітай-горад, а 26 – здаўся і гарнізон палякаў у крамлі. Кароль паспрабаваў арганізаваць яшчэ адзін паход на Маскву, але ён пачаўся няўдала і прымусіў Жыгімонта III вярнуцца ў Польшчу.

Такім чынам, польска-літоўская інтэрвенцыя ў Расію закончылася безвынікова.

У студзені 1613 г. Земскі сабор у складзе вышэйшага духавенства, дваран, пасадскіх людзей, чарнасошных сялян і баярскай думы абралі царом 16-гадовага Міхаіла Раманава, сына патрыярха Філарэта, які быў сваяком па жаночай лініі Івана Грознага.

Але сталы каралевіч Уладзіслаў не жадаў мірыцца з абраннем на рускі прастол Міхаіла Раманава і ў 1618 г. прывёў польскае войска да сцен Масквы. Пацярпеўшы няўдачу, ён вымушаны быў у снежні 1618 г. заключыць пагадненне аб перамір'і на 14 з паловай гадоў у в. Дзеўліна паблізу Троіца-Сергіева манастыра. Гэта пагадненне завяршыла 14-гадовы перыяд скрытай і адкрытай польскай інтэрвенцыі, у якой прынялі ўдзел і беларускія магнаты. Паводле Дзеўлінскага дагавора, да Рэчы Паспалітай адышлі Ноўгарад-Северская, Чарнігаўская і Смаленская землі.

У 1632 – 1634 гг. Расія зрабіла спробу вярнуць сабе Смаленск. Гэта вайна ўвайшла ў гісторыю пад назвай Смаленскай, але яна была беспаспяховай і закончылася Паляноўскім мірным дагаворам, падпісаным у в.Семлеве на р.Паляноўцы. Рэч Паспалітая захавала за сабой усе землі, атрыманыя паводле Дзеўлінскага дагавора, акрамя г.Сярпейска з невялікім пагранічным раёнам Севершчыны, якія адышлі да Расіі. Дыпламатычным поспехам Расіі была адмова польскага караля ад прэтэнзіі на маскоўскі прастол, прызнанне рускім царом Міхаіла Фёдаравіча і абяцанне вярнуць акт аб абранні маскоўскімі баярамі Уладзіслава на рускі прастол.

Вайна 1654 – 1667 гг. у гісторыі Беларусі расцэньваецца як нацыянальна-вызваленчая барацьба беларускага народа супраць польскіх паноў за ўз'яднанне з Расіяй. З пераходам большасці ўкраінскай і беларускай шляхты ў каталіцызм і паступовым яе апалячваннем беларускі і ўкраінскі народы не мелі дастатковых інтэлектуальных і матэрыяльных сродкаў для барацьбы з паглыбленай польска-каталіцкай экспансіяй, якая прыняла ў канцы XVI ст. форму уніяцтва. Украінскі і беларускі народы, якія ўпэўніліся ў сваіх абмежаваных магчымасцях у час казацкага паўстання Б.Хмяльніцкага, у асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў усё часцей і часцей сталі звяртацца да Масквы за дапамогай. Пры гэтым выкарыстоўваўся рэлігійны аргумент – просьба абараніць аднаверцаў – праваслаўных хрысціян, зневажаемых у Рэчы Паспалітай. Напрыклад, у красавіку 1651 г. у Маскву прыбыў ігумен Дзісенскага манастыра Афінаген Крыжаноўскі, які аб'явіў сябе паслом ад усяго беларускага насельніцтва і расказаў аб становішчы на Беларусі і чутках аб прысязе Б.Хмяльніцкага маскоўскаму цару. Ён прасіў ад імя беларусаў праваслаўнай веры прыняць і іх пад царскую абарону.

У 1648 – 1653 гг. царскі ўрад, нягледзячы на гэтыя пажаданні, устрымліваўся ад умяшання ў справы Рэчы Паспалітай. Тым не менш просьбы гэтыя не прыпыняліся. Б.Хмяльніцкі запэўніваў рускага цара Аляксея Міхайлавіча, што не толькі ўкраінскі, але і беларускі народ падтрымае царскае войска і стане з ляхамі біцца і будзе іх 200 тысяч, калі цар пачне вайну з Польшчай. Шматлікія звароты беларусаў аб дапамозе ў іх барацьбе з акаталічваннем і паланізацыяй беларускага этнасу пачасціліся пасля 8 студзеня 1654 г., пасля ўз'яднання Украіны з Расіяй.





*Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг*



Напярэдадні вайны цар паведамляў Б.Хмяльніцкаму, што жыхары многіх гарадоў Беларусі "біці чалом прысылаюць ... іх ад няволі лятскія вызваліць". У рэшце рэшт гэта пытанне было пастаўлена царом на земскім саборы, які прыняў рашэнне аб пачатку вайны з Рэччу Паспалітай.

У маі 1654 г. пачалася руска-польская вайна, у якой прыняла ўдзел большасць насельніцтва Беларусі. Цэнтральным быў смаленскі напрамак, тут дзейнічалі асноўныя сілы – больш за 40 тыс. чалавек на чале з самім царом. Групы войск, сканцэнтраваныя ля Ноўгарада і Белгарада, павінны былі прыкрываць паўночны і паўднёвы флангі асноўнай групы войск. Бранскай групе належала наступаць на мінскім напрамку і дапамагаць смаленскай групе армій. З боку Украіны планавалася аказваць казацкую падтрымку рускім войскам на Беларусі. Ужо ў ліпені 1654 г. рускія войскі авалодалі Полацкам, затым Віцебскам, у жніўні здаўся Магілёў, у верасні, па патрабаванні насельніцтва, – Смаленск.

На поўдні Беларусі пачалі наступленне 20 тыс. казакаў Чарнігаўскага, Нежынскага і Старадубскага палкоў на чале з гетманам Іванам Залатарэнкам. Тэрыторыя Беларусі стала галоўным тэатрам ваенных дзеянняў.

Кампанія 1654 г. для рускай арміі праходзіла паспяхова: былі заняты 33 гарады. Гэты поспех стаўся невыпадковым.

**Па-першае**, праваслаўная частка насельніцтва чакала рускую армію як сваю вызваліцельніцу ад каталіцка-уніяцкага наступу на праваслаўных і дапамагала ёй усімі магчымымі сродкамі – ад інфармавання рускай арміі аб руху польскіх войск да стварэння атрадаў і ўдзелу ў ваенных дзеяннях на баку рускіх войск.

**Па-другое**, жыхары гарадоў амаль што без абароны здаваліся рускім войскам і прысягалі рускаму цару. Так было ў Полацку, Магілёве, Оршы, Крычаве і г. д.

**Па-трэцяе**, царская дыпламатыя распаўсюдзіла на Беларусі грамату, у якой цар абяцаў шляхце і духавенству захаваць іх правы і прывілеі, а тым, хто пяройдзе на царскую службу, гарантаваў новыя уладанні. Мяшчан праваслаўнага веравызнання за добраахвотную здачу гарадоў абяцаў узнагародзіць царскім жалаваннем і паслабіць падатковы ўціск. Што датычыць простага народа, у грамаце быў дадзены наказ – беларусаў хрысціянскай веры, якія не выступаюць супраць царскіх войск, не біць, не грабіць, іх жанчын і дзяцей не кранаць. Вядома, што на тых, хто са зброяй у руках выступаў супраць рускіх войск, царскія міласці не распаўсюджваліся.

Такім чынам, адносіны да насельніцтва былі неаднолькавыя. Былі тыя, каго мілавалі, і тыя, каго дазвалялася грабіць, – ворагі царскай арміі і часцей за ўсё – ворагі праваслаўя. Што датычыцца грабяжу і насілля арміі на тэрыторыі праціўніка, то гэта было законам войнаў не толькі сярэднявечча, але і новага і навейшага часу.

Спробы наступлення войск Рэчы Паспалітай на Беларусі і Украіне ў 1654 – 1655 гг. не ўдаліся. Летам 1655 г. руская армія атрымала





шэраг перамог на Украіне, дайшла аж да Львова. На тэрыторыі ВКЛ былі ўзяты Мінск, Гродна, а таксама Вільня і Коўна. Амаль уся Беларусь была занята рускімі войскамі.

Летам 1655 г. у вайну з Польшчай уступіла Швецыя. Хутка шведы занялі Варшаву. Польскія феадалы-здраднікі пачалі пераходзіць на бок шведскіх акупантаў.

У рускім урадзе перамог пункт гледжання кіраўніка Пасольскага прыказа А.Л.Ардын-Нашчокіна, які лічыў першачарговай задачай знешняй палітыкі Расіі выхад да Балтыйскага мора. Ён прапанаваў пакуль што прыпыніць вырашэнне пытання аб Украіне і Беларусі, заключыць мірнае пагадненне з Польшчай і пачаць вайну супраць Швецыі. У маі 1656 г. цар абвяшчае вайну Швецыі яшчэ да заключэння пагаднення з Польшчай (перагаворы пачаліся ў жніўні 1656 г.). Спыненне ваенных дзеянняў арміі супраць Польшчы выратавала апошнюю ад поўнага разгрому яе Швецыяй і выклікала пад'ём нацыянальна-вызваленчай барацьбы супраць шведскіх захопнікаў.

1657 год прынёс Расіі дрэнную навіну. Памёр Б.Хмяльніцкі, а на змену яму прыйшлі адзін за адным гетманы (Іван Выгоўскі, Юрый Хмяльніцкі, Пятро Дарашэнка і інш.), якія былі прыхільнікамі Польшчы, імкнуліся парушыць дагавор з Расіяй і вярнуць Украіну пад уладу польскіх паноў альбо нават турэцкага султана. У выніку гэтага становішча рускіх войск на Беларусі і Украіне значна пагоршылася, а вайна прыняла зацяжны характар. Ужо ў 1661 г. рускія войскі пакідаюць Мінск, Барысаў, Магілёў. Але неўзабаве наступленне войск Рэчы Паспалітай было спынена. Знясіленыя дзяржавы ў 1667 г. у в.Андрусава паблізу Смаленска падпісалі перамір'е на трынаццаць з паловай гадоў.

Згодна з Андрусаўскім перамір'ем, Расія вярнула сабе Смаленскае ваяводства з усімі паветамі і гарадамі, Старадубскі павет і Чарнігаўскае ваяводства, Левабярэжную Украіну. Кіеў з акругай у адну мілю быў перададзены Расіі на два гады. Расія згадзілася заплаціць выгнанай з Украіны шляхце 200 тыс. рублёў. Дагавор прадугледжваў сумесныя дзеянні Расіі і Рэчы Паспалітай у сувязі з узмацненнем пагрозы татара-турэцкага нашэсця.

У 1683 г. ізноў пачалася вайна Рэчы Паспалітай з Турцыяй. Польшча разгарнула актыўную дыпламатычную дзейнасць з мэтай прыцягнення Расіі да антытурэцкага саюзу. У выніку гэтай дзейнасці ў 1686 г. у Маскве быў падпісаны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай "вечны мір", у якім замацоўваліся тэрытарыяльныя змены згодна з Андрусаўскім перамір'ем 1667 г. Польшча канчаткова адмовілася ад Кіева, атрымаўшы грашовую кампенсацыю. Расія разрывала свае адносіны з Портай і абавязвалася паслаць свае войскі ў Крым. "Вечны мір" гарантаваў свабоду веравызнання для праваслаўных хрысціян у Рэчы Паспалітай (на Беларусі і Украіне) і прызнаваў права за Расіяй прадстаўніцтва ў іх абарону. Дагавор 1686 г. уступіў у сілу адразу пасля падпісання, але быў ратыфікаваны польскім сеймам толькі ў 1710 г.

Не абмінула Беларусь і Паўночная вайна, у якой шмат гадоў удзельнічала Рэч Паспалітая. Паўночная вайна (1700 – 1721) была выклікана шматгадовай агрэсіўнай палітыкай Швецыі, якую яна пачала праводзіць з часоў усталявання тут дынастыі Вазаў (1523). У выніку шэрага войнаў на пачатку XVIII ст. Швецыя стала адной з магутнейшых дзяржаў Еўропы, уладанні якой распасціраліся на Фінляндыю, Эстляндыю, Ліфляндыю, былыя рускія землі – Інгрыю і Карэлію, а таксама Паўночную Памеранію, герцагствы – Брэмен, Вердэн, Вісмар у Паўночнай Германіі.

У 1697 г. на шведскі прастол уступае юны Карл XII (1682 – 1718), які большую частку свайго часу аддае забавам, пацехам і паляванню, палохаючы жыхароў сталіцы сваімі дзівацтвамі. Мабыць, гэты стыль жыцця караля і падштурхнуў зацікаўленых гаспадароў суседніх дзяржаў да думкі, што наступіў час вярнуць некалі страчаныя тэрыторыі. Данія, Расія, Саксонія і Рэч Паспалітая (у той час саксонскі курфюрст Аўгуст II быў адначасова і каралём Рэчы Паспалітай – з 1697 г.) заключылі саюз супраць Швецыі. Гаспадары дзяржаў улічвалі і той факт, што ў Еўропе склаліся вельмі спрыяльныя абставіны, якія дазвалялі ізаляваць праціўніка. Швецыю маглі падтрымліваць Англія і Галандыя, але яны разам з Францыяй і Германіяй рыхтаваліся да барацьбы за іспанскую спадчыну, таму што паміраў бяздзетны іспанскі кароль Карл II.

Кожная з саюзных дзяржаў мела свой уласны інтарэс. Аўгуст II як саксонскі курфюрст і польскі кароль быў зацікаўлены далучыць да Саксоніі ці да Рэчы Паспалітай тэрыторыю Ліфляндыі і Эстляндыі, стаць цвёрдай нагой на берагах Фінскага заліва.

Ваенныя дзеянні распачаў Аўгуст II. У лютым 1700 г. саксонскі корпус у 10 тыс. чалавек уварваўся ў Лівонію, каб знянацку і з дапамогай здраднікаў захапіць Рыгу. Але гэтыя разлікі не спраўдзіліся, бо армія не мела артылерыі, без якой аблога Рыгі была бесперспектыўнай.

Аб пачатку вайны Карл XII даведаўся падчас палявання. Першым парываннем караля было дэблакіраваць Рыгу і прыняць асабісты ўдзел у гэтай аперацыі. Але хутка стала вядома, што 16-тысячная дацкая армія ўварвалася ў Гальштынію (10 сакавіка 1700 г.) і захапіла праз месяц амаль усю яе тэрыторыю. Гэта падштурхнула Карла XII спачатку прыйсці на дапамогу свайму родзічу – гальштынскаму герцагу, а потым ужо разбіць Аўгуста II ля Рыгі. На дапамогу Гальштыніі прыйшлі таксама Англія і Галандыя. Сумеснымі намаганнямі яны прымусілі Данію прызнаць вярхоўныя правы герцага над Гальштыніяй, заплаціць яму 260 000 талераў і не дапамагаць ворагам Швецыі. Такім чынам, адзін з саюзнікаў у антышведскай кааліцыі быў выбіты з гульні. Засталіся Аўгуст II і Пётр I.

Аўгуст II, даведаўшыся аб выніках кампаніі датчан, быў ужо гатовы ўступіць у мірныя перагаворы з Карлам XII. Тым часам Расія, заключыўшы мір з Турцыяй, у жніўні 1700 г. абʼявіла вайну Швецыі і





накіравала свае войскі да Нарвы, дзе ў лістападзе таго ж года шведы нашчэнт разбілі рускіх.

З гэтага часу тэатрам ваенных дзеянняў становіцца тэрыторыя, якая прасціралася з поўначы на поўдзень на 600 – 650 і з захаду на ўсход на 360 – 800 вёрст і закранала частку тэрыторыі Літвы, Польшчы, Украіны і амаль усю Беларусь.

Разбіўшы летам наступнага года саксонскія войскі, падмацаваныя рускімі атрадамі ля Рыгі, Карл XII прымае рашэнне скінуць Аўгуста II з польскага прастола, схіліць Польшчу да саюзу са Швецыяй і затым злучанымі сіламі выступіць супраць Расіі. Карл XII, які заняў у маі 1702 г. Варшаву і разбіў польска-саксонскую армію пад Клішавам, заставаўся ў Польшчы, каб падрыхтаваць "дэтранізацыю" Аўгуста II на польскім прастоле, выбранне і каранацыю Станіслава Ляшчынскага, пазнанскага ваяводы, які заключыў са Швецыяй саюзны дагавор.

Пакуль Карл XII займаўся польскімі справамі, Пётр I аднавіў армію, нанова пабудаваў артылерыю (страчаную пад Нарвай) і накіраваўся да Балтыйскага мора. Захапіў Нотэбург (старажытнарускі г. Арэшак), Ніеншанц, Нарву і Дзерпт. Каб не пазбавіцца свайго апошняга саюзніка, Пётр I выправіў дапамагчы Аўгусту II, і ў кастрычніку 1704 г. 10-тысячны корпус рускіх войск выступіў да мяжы Рэчы Паспалітай. Да чэрвеня 1705 г. пад Полацкам сабралася армія ў 40 тыс. чалавек пяхоты і 20 тыс. кавалерыі.

Рэч Паспалітая ў гэты час перажывала глыбокі ўнутрыпалітычны крызіс. Грамадства падзялілася на праціўнікаў і прыхільнікаў шведаў. У ВКЛ на бок шведаў перайшлі Сапегі і Патоцкія, якія разам з ворагам руйнавалі гарады і вёскі. Агінскія і Вішнявецкія шукалі падтрымкі ў рускай арміі. Што датычыць народных мас, то большасць беларусаў, у асноўным праваслаўных, прыхільна сустрэлі рускую армію і дапамагалі ёй чым маглі – ад прадуктаў харчавання да сумесных ваенных дзеянняў.

Ваенная кампанія рускіх на Беларусі ў 1705 г. не дасягнула пастаўленай мэты. Карл XII уварваўся ў Саксонію, дзе пасля шэрага ваенных перамог прымусіў Аўгуста II падпісаць Альтранштацкі мірны дагавор у верасні 1706 г. (паблізу Лейпцыга). Аўгуст II адмовіўся ад польскай кароны на карысць Станіслава Ляшчынскага, ад саюзу з Расіяй, згадзіўся адклікаць саксонцаў з рускай арміі і выдаць Карлу XII усіх рускіх, якія знаходзіліся ў саксонскай арміі, аддаць шведам польскія крэпасці Кракаў і Тыкоцін і г.д. Шведскі кароль абмяжаваўся абяцаннем абараняць Аўгуста II ад магчымых рэпрэсій з боку Расіі і пры заключэнні міру з апошняй улічваць саксонскія інтарэсы.

Мір са Швецыяй Аўгуст II заключыў тайна ад Расіі і ў той жа час тайна ад Карла XII імкнуўся захаваць саюз з Расіяй. Праз месяц пасля падпісання гэтага дагавора ў кастрычніку 1706 г. пад польскім г.Калішам адбылася бітва паміж шведамі і рускімі войскамі. На баку шведаў змагаліся войскі польскіх прыхільнікаў Карла XII, а рускіх –

саксонцы і патрыёты-палякі. Аб'яднанае саюзнае войска на чале з Меншыкавым атрымала пад Калішам бліскучую перамогу. Шведская пяхота была перабіта, выратавалася толькі частка шведскай конніцы.

Пасля бітвы пад Калішам Карл XII абвясціў Альтранштацкі мірны дагавор. Расія засталася без саюзнікаў. Галоўныя шведскія войскі з Саксоніі накіраваліся на Беларусь, маючы намер праз Смаленск ісці на Маскву.

Пераправіўшыся праз Бярэзіну, 3 ліпеня 1708 г. Карл XII нечакана напаў на рускіх і вымусіў іх адступіць. Гэта была апошняя перамога шведаў у Паўночнай вайне.

Руская армія, адступаючы на Усход, размяшчалася непадалёк ад мяжы. Пры набліжэнні шведаў беларускае насельніцтва забірала збожжа, жывёлу і хавалася па лясах, а тое, што нельга было ўзяць з сабой, паліла. Шведскае войска галадала. Руская армія заняла важныя стратэгічныя рубяжы і рыхтавалася да бітвы, чакаючы шведаў на Смаленскім і Бранскім напрамках. Усё гэта, разам узятае, падштурхнула Карла XII не ўцягвацца ў барацьбу ў неспрыяльных умовах, а павярнуць на Украіну, дзе яго чакаў тайны прыхільнік польскай арыентацыі гетман Мазепа.

На дапамогу Карлу XII з Прыбалтыкі ішоў атрад на чале з Левенгаўптам з абозам зброі і харчу. Каб не дапусціць яго злучэння з галоўнымі сіламі шведаў, быў выдзелены атрад з конніцы і гвардыі ў 12 тыс. чалавек, які ўзначаліў Пётр I.

Бітва адбылася 28 верасня (10 кастрычніка) 1708 г. ля в.Лясной на паўднёвы ўсход ад Магілёва на р.Сож. Шведы пацярпелі паражэнне. З 16 тыс. чалавек шведы згубілі 10 тыс., 17 пушак, 44 сцягі і абоз з 8 тыс. павозак. Пазней Пётр I назваў бітву паблізу Лясной "матерью полтавской победы".

Левенгаўпт прыйшоў да Карла XII без зброі і без харчу. Яшчэ горшыя навіны чакалі Карла XII на Украіне. Мазепа падманам прывёў да Карла XII 3 – 4 тыс. казакаў, а астатняя частка казацтва адмовілася ад Мазепы і выбрала гетманам Скарападскага. Украінскі народ падняўся на партызанскую барацьбу супраць іншаземных рабаўнікоў і сваіх здраднікаў.

З цяжкасцю перазімаваўшы, Карл XII узяў у аблогу Палтаву, але, нягледзячы на неаднаразовыя спробы, скарыць крэпасць не ўдалося. Да Палтавы падцягнуліся і асноўныя рускія сілы.

Шведскія генералы раілі адступіць у Польшчу, Карл XII не згадзіўся.

Рускі ўрад вёў дальнабачную знешнюю палітыку, калі забяспечыў нейтралітэт Турцыі і крымскіх татар, не дапусціў Станіслава Ляшчынскага на дапамогу шведам і падкупіў частку польскіх магнатаў, прыхільнікаў Расіі.

Генеральная бітва Паўночнай вайны пачалася раніцай 27 чэрвеня 1709 г. наступленнем шведаў на земляныя рэдуты, што абаранялі рускія пазіцыі. Руская армія пад Палтавай не проста атрымала





бліскучую перамогу, але і прадэманстравала сваё ваеннае майстэрства. Пётр I і яго паплечнікі забяспечылі колькасную перавагу рускіх войск, скарысталі новыя земляныя ўмацаванні-рэдуты, артылерыю і ўрэшце так прыкрылі магчымыя шляхі адступлення шведаў, што накіравалі іх да Дняпра. Рэшткі шведскай арміі, якія праз тры дні апынуліся на беразе Дняпра, амаль цалкам (пераправіцца здолелі толькі Карл XII з Мазепай і невялікім атрадам) здаліся ў палон Меншыкаву. Англійскі пасол у Маскве, даведаўшыся аб здачы ў палон шведскай арміі (каля 16 тыс. чалавек), пісаў: "Так вельмі праслаўленая на ўвесь свет шведская армія стала здабычай яго царскай вялікасці. Магчыма, ва ўсёй гісторыі не знойдзецца падобнага прыкладу пакорлівага падпарадкавання лёсу з боку такой колькасці рэгулярных войск".

Праз два тыдні руская армія зноў накіравалася ў Польшчу і Прыбалтыку, дзе атрымала шэраг бліскучых перамог. Станіслаў Ляшчынскі разам са шведскім корпусам уцёк у Памеранію. Аўгуст II 8 жніўня 1709 г. абвясціў Альтранштацкі мірны дагавор несапраўдным, аднавіў саюз з Расіяй і з дапамогай рускіх войск вярнуў сабе польскую карону. Праўда, мэты Аўгуста II у вайне дасягнуты не былі. Паводле міру, заключанаму ў фінскім г.Ніштаце, Эстляндыя, Ліфляндыя, як і Інгрыя і частка Карэліі, адышлі да Расіі. Беларусь у выніку вайны страціла каля 700 тыс. жыхароў, многія паветы былі спустошаны і ўяўлялі сабой край пустэчы, гора і слёз.

Такім чынам, войны Рэчы Паспалітай у другой палове XVI – XVIII стст., якія ў той ці іншай ступені закранalі Беларусь, не прынеслі і не маглі прынесці ёй якіх-небудзь здабыткаў. Наадварот, руйнаваліся гарады і вёскі, скарачалася насельніцтва. Але разам з тым трэба адзначыць і той факт, што вызваленчая барацьба беларускага народа ў сярэдзіне XVII ст., уз'яднанне Украіны з Расіяй засталіся ў народных марах і надзеях як рэальны шлях свайго вызвалення ад нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту.

# ГЛАВА 4

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ

### (другая палова XVI – канец XVIII ст.)

Напярэдадні Люблінскай уніі на Беларусі, паводле разлікаў вучоных, пражывала 1800 тыс. жыхароў, якія па свайму сацыяльна-эканамічнаму становішчу адносіліся да трох саслоўяў: шляхты, сялян, мяшчан. Шляхецкае саслоўе дзялілася на групоўкі паводле сваёй

эканамічнай моцы і палітычнай ролі ў гаспадарстве. Найбольш буйнымі былі 29 магнатаў, якія мелі маёнткі на Беларусі і валодалі не менш як 1000 сялянскіх "дымоў". Сярод шляхты яны складалі толькі 0,7 % землеўладальнікаў, але валодалі больш за 42% сялянскіх гаспадарак. 13 магнатаў былі літоўскага паходжання – Алелькавічы, Гальшанскія, Гаштольды, Радзівілы, Пацы, Чартарыйскія, Сангушкі; 7 – беларускага паходжання, да якіх далучаліся Рурыкавічы і выхадцы з Масквы – Глябовічы, Валовічы, Ільінічы, Тышкевічы, таксама украінскага і польскага паходжання – Хадкевічы, Кішкі і інш. Яны насілі тытулы паноў і князёў. Да іх далучылася група паноў, якія мелі маёнткі не менш як па 500 "дымоў". Гэтыя дзве групы феадалаў (1,1 % ад усіх феадалаў Беларусі) валодалі ў 1568 г. 48,4 % сялянскіх гаспадарак. Яны складалі сенатарскае саслоўе.

Самай шматлікай была група дробнай шляхты, якая налічвала больш за 3 тыс. чалавек і ў пануючым класе складала больш за 70 %, але ў яе руках былі толькі 28 % сялянскіх гаспадарак. І яны не заўсёды маглі карыстацца на практыцы прывілеямі шляхецкага стану. З сярэдзіны XVI ст. роля дробнай шляхты ў палітычным жыцці ВКЛ павялічваецца ў выніку рэформы судовых органаў і росту ўплыву павятовых сеймікаў на грамадска-палітычнае жыццё. Дробная шляхта паступова становіцца саюзніцай вялікага князя ў барацьбе з магнатамі. Менавіта дробная шляхта складала асноўную частку "паспалітага рушэння".

Сярэдні пласт шляхты налічваў 650 феадалаў, якія валодалі ад 21 да 500 сялянскіх "дымоў" і складалі 16 % пануючага класа. Вярхі гэтай групоўкі набліжаліся да паноў, а нізы – да дробнай шляхты.

Ніжэйшым і нешматлікім пластом (142 шляхціцы) была т.зв. пешая шляхта, якая складала 3,6 % пануючага класа і зусім не мела сялянскіх гаспадарак. Паводле прававога становішча яна адносілася да пануючага класа, а паводле маёмаснага – набліжалася да сялянскага саслоўя.

Да сярэдзіны XVI ст. клас феадалаў заканадаўча адгарадзіўся ад іншых класаў і ў Статутах 1529 і 1566 гг. паставіў шэраг перашкод на шляхах пранікнення сялян і мяшчан у шляхецкі стан. Але шляхецкаму стану пагражала іншае – ваенна-служылае саслоўе пачынала разлагацца знутры: шукала багацця праз рамяство і гандаль. Гэтыя зрушэнні ў шляхецкай самасвядомасці выклікалі заклапочанасць у магнатаў. У Статуце 1566 г. падкрэслівалася, што ваенная служба з'яўляецца ганаровым абавязкам шляхціцаў, а заняткі рамяством і гандлем ганьбяць іх. Статут 1588 г. больш строга ставіўся да пытання разлажэння ваенна-служылага саслоўя. Адпаведны артыкул удакладняў, што заняткі гандлем альбо шынкарствам вядуць да страты шляхецкіх прывілеяў. Але вірус узбагачэння ўжо пранік у шляхецкае асяроддзе, і патрэбны былі больш жорсткія сродкі барацьбы з гэтым злом. У 1633 г. сейм абвясціў, што не толькі шляхціц, але і яго нашчадкі назаўсёды будуць пазбаўлены шляхецкіх правоў за ганебныя для шляхецкай асобы справы: гандаль ці шынкарства.





Яшчэ адным клопатам кіруючых колаў ВКЛ у сацыяльнай палітыцы было павелічэння шляхецкага стану за кошт асоб з іншых саслоўяў. Каб неяк прыпыніць гэты працэс, у 1601 г. сейм прымае пастанову аб тым, што шляхецкія званні могуць быць прысвоены толькі на сейме ці сейміках альбо па прапанове гетмана. Шляхта была замкнёным саслоўем і пільна назірала за чысцінёй сваіх шэрагаў.

Самым шматлікім саслоўем феадальнага грамадства былі сяляне. Ім належала ствараць матэрыяльныя каштоўнасці, паіць і карміць сваіх абаронцаў і духоўных айцоў. Сялянскае саслоўе не было застылым, і на працягу дзесяцігоддзяў сярод сялян адбываліся прыкметныя змены. На становішча сялян вялікі ўплыў аказала т.зв. валочная памера. Аграрная перабудова гаспадаркі, згодна з "уставай на валокі", была вызначана каралём у 1557 г., але на Беларусі рэформа спазнілася і праводзілася з другой паловы XVI ст. да першай паловы XVII ст. Гэткая павольная перабудова сялянскай гаспадаркі Беларусі вынікала з шэрага эканамічных і палітычных абставін у краіне. Рэформа ўзмацняла феадальны ўціск сялян, завяршала іх канчатковае запрыгоньванне. Ужо адно гэта выклікала супраціўленне сялян. Але ж да феадальнага ўціску далучаўся нацыянальны і рэлігійны прыгнёт. Усё гэта стварала надзвычай выбуховае становішча. Таму першапачаткова рэформа стала праводзіцца ў заходняй і цэнтральнай частках Беларусі, дзе не было глыбокіх нацыянальных і рэлігійных процістаянняў. Ва ўсходніх раёнах Беларусі (у раёнах Рэчыцы, Мазыра, Бабруйска, Барысава, Мсціслава, Оршы, Гомеля, Глуска, Магілёва, Полацка) на дзяржаўных землях спачатку была праведзена палавінчатая рэформа – ураўноўваліся зямельныя ўчасткі, удакладняліся натуральныя паборы і павіннасці. І хаця ўрад пакінуў плацяжы насельніцтва "по старине", на справе грашовыя павіннасці сялян значна павялічваліся за кошт змены адзінкі падатковага абкладання. У выніку рэформы феадальныя павіннасці браліся не "са службы", а з "дыму" – сялянскага двара.

Як вядома, на ўсходзе Беларусі аграрная рэформа пачала шырока праводзіцца з канца XVI ст. і ў першай палове XVII ст. Незалежна ад пачатку і мясцовых асаблівасцей рэформы, яе вынікі ўсюды былі аднолькавыя: заснаванне фальваркавай гаспадаркі, канчатковае запрыгоньванне сялян, павелічэнне сялянскіх павіннасцей, рост даходаў дзяржаўнага скарбу і шляхты. Пад фальварак звычайна адводзіліся лепшыя ворныя землі памерам у 8 – 15 валок. Велічыня валокі павінна была складацца з 30 моргаў (21,37 га), на практыцы валокі былі ад 33 да 46 моргаў. Такім чынам кампенсавалася адпаведнай дабаўкай не прыдатная для ворыва зямля, калі яна была ў надзеле. Сяляне атрымлівалі ў спадчыннае карыстанне ад валокі да паўвалокі зямлі, якая заставалася маёмасцю гаспадара, ці феадала.

У выніку рэформы адбыліся змены ў прававым становішчы сялян. Да рэформы асноўнымі групамі сялян, як вядома, былі: чэлядзь нявольная, людзі "пахожыя", "непахожыя", сяляне-слугі. Пасля

рэформы з часам знікае чэлядзь нявольная, якая зліваецца з прыгонным сялянствам. Пакрыху змяншаецца колькасць "пахожых" людзей, а з канца XVI – першай паловы XVII ст. "пахожыя" і "непахожыя" сяляне зліваюцца ў адну групу прыгоннага сялянства.

Такім чынам, пасля аграрнай перабудовы сельскай гаспадаркі сяляне дзеляцца на наступныя катэгорыі: цяглыя, асадныя, агароднікі і слугі. Цяглыя сяляне павінны былі адбываць паншчыну па 2 дні на тыдзень, талокі, гвалты, а таксама плаціць чынш (у залежнасці ад якасці атрыманай зямлі) ад 6 да 21 гроша з валокі і натуральны аброк. За нявыхад на працу па няўважлівай прычыне штрафавалі. Вялікім цяжарам для сялян былі такія павіннасці, як уборка сена, падводная, дарожная і інш.

Асадныя (аброчныя) сяляне не хадзілі на паншчыну, затое плацілі 30 грошаў чыншу і адбывалі астатнія павіннасці нароўні з цяглымі, але ўсё ж былі менш залежныя, як апошнія.

Прывілеяванай была катэгорыя сялян-слуг: рамеснікаў, кавалёў, конюхаў і г.д. Яны былі больш заможныя, лепш забяспечаныя зямлёй. Вядома: бліжэй да гаспадарчага стала – і больш перападае крошак.

Вышэйшую групу ўтваралі ваенна-служылыя людзі: баяры-путныя, баяры-панцырныя. З гэтай групы, як правіла, рэкруціраваўся шляхецкі стан.

Самай гаротнай, збяднелай часткай сялян былі агароднікі, халупнікі, кутнікі. Агароднікі звычайна не мелі палявой зямлі, толькі агарод, халупнікі мелі толькі хату, а кутнікі, ці яшчэ іх звалі каморнікі, нават і ўласнай хаты не мелі, а туліліся ў кутках (каморках) хат багатых сялян.

Заканадаўства імкнулася канчаткова запрыгоніць сялян, прымацаваўшы іх да зямлі. Калі Статут 1566 г. вызначыў 10-гадовы пошук збеглых сялян, то Статут 1588 г. павялічыў гэты тэрмін у два разы і ўзаконіў 10-гадовы тэрмін земскай даўнасці (калі селянін пражыў на зямлі пана 10 гадоў), пасля якога вольны селянін рабіўся прыгонным.

Што датычылася чэлядзі нявольнай, то ў выпадку ўцёкаў ад пана тэрмін пошукаў не абмяжоўваўся.

Не толькі гаспадаром, але і адзіным суддзёй быў для селяніна феадал, які меў права "караць паводле свайго меркавання". Праўда, у 1768 г. сейм ухваліў пакаранне смерцю за забойства селяніна, бо шляхта так здзеквалася над бяспраўным беларусам, што смерць сялян ад пабояў была нярэдкай з'явай. Але ніводзін феадал у Рэчы Паспалітай не выконваў пастановы сеймаў.

Такім чынам, у выніку аграрнай рэформы адбыліся амаль што рэвалюцыйныя змены:

1) была разбурана сялянская абшчына ў Цэнтральнай і Заходняй Беларусі, дзе пачало ўкараняцца падворнае землекарыстанне;

2) цалкам змяніліся катэгорыі сялян, іх эканамічнае і прававое становішча: адны групы сялян зніклі, іншыя аказаліся ў большай





залежнасці ад пана, як раней; завяршыўся працэс запрыгоньвання сялян;

3) сялянская гаспадарка пачала ўцягвацца ўсё больш у грашова-рыначныя адносіны, што вяло да дыферэнцыяцыі вёскі;

4) псіхалогія абшчыннага калектывізму пачала замяшчацца псіхалогіяй індывідуалізму.

Далейшае развіццё сельскай гаспадаркі паглыбляла і развівала працілеглыя тэндэнцыі, закладзеныя ў падмурак рэформы Жыгімонта II Аўгуста, будавала ў вёсцы парахавы склеп, здольны ўзарвацца ў любы момант.

З другой паловы XVII ст. пачынаецца эканамічны заняпад Беларусі. Ён быў выкліканы ўзмацненнем феадальнага прыгнёту, разбурэннем гаспадаркі як у выніку антыфеадальнай, нацыянальна-вызваленчай барацьбы, так і знешніх войнаў (польска-руская, польска-шведская, Паўночная). Цэлыя паветы былі ўшчэнт разбураны, спалены, зруйнаваны (Гродзенскі, Браслаўскі, Ваўкавыскі, Аршанскі, Брэсцкі і інш.). Разруху суправаджалі голад і эпідэміі тыфу (1653, 1658, 1664). Аднаўленне гаспадаркі пасля Андрусаўскага перамір'я (1667) было спынена распачатай Паўночнай вайной (1700 – 1721). Войны, засухі, голад, эпідэміі амаль удвая (з 2,9 млн у 1650 г. да 1,4 млн у 1673 г.) скарацілі колькасць насельніцтва Беларусі.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў існавалі два шляхі аднаўлення разбуранай гаспадаркі: захаванне заворвання і аднаўленне фальваркаў альбо раздача зямлі сялянам і перавод іх на грашовы і натуральны аброк. З-за недахопу сродкаў у казне ў каралеўскіх аканоміях быў абраны другі шлях. У выніку – пусткі да 40-х гадоў XVIII ст. скараціліся напалову, што дазволіла ў сярэдзіне стагоддзя перайсці да аднаўлення фальваркаў. Такім шляхам пайшлі і некаторыя прыватныя маёнткі. Аднаўленне фальваркаў ажыццяўлялася таксама шляхам арэнды і закладу. Арэндатары, каб хутчэй выціснуць з маёнтка пабольш грошай, па-драпежніцку вялі гаспадарку, даводзілі да галечы сялян.

У лепшым становішчы апынуліся магнацкія гаспадаркі. Абапіраючыся на сваю эканамічную і ваенную моц, яны маглі аднаўляць разбураныя фальваркі за кошт уцалелых, пры гэтым не грэбавалі ніякімі сродкамі ў барацьбе за аднаўленне і павелічэнне асабістых уладанняў. Прыбраўшы да сваіх рук таксама каралеўскія ўладанні (т.зв. староствы) і пераўтварыўшы іх у спадчынныя, магнаты занялі незалежнае становішча да цэнтральнай улады, сталі, па сутнасці, уладарнымі князямі.

Да 60-х гадоў XVIII ст. старанкай працай сялян сельская гаспадарка была ў асноўным адноўлена: значна павялічылася плошча ворных зямель, павысілася культура земляробства, павялічылася пагалоўе прадукцыйнай жывёлы, з'явілася тэндэнцыя да параённай спецыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

З аднаўленнем гаспадаркі вяртаецца паншчына, расце колькасць паншчынных сялян (да 70–75 % ад усіх сялян), а таксама

павялічваюцца павіннасці. Штотыднёвая паншчына з 8 – 12 дзён з валокі ўзрастае да 10 – 16. Але рэанімацыя паншчыны была ўласціва галоўным чынам Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, дзе аднавілася фальварачная гаспадарка. Што датычыць Усходняй Беларусі, то тут да 70-х гадоў XVIII ст. пераважала грашовая рэнта.

Рост таварнасці сельскай гаспадаркі садзейнічаў паглыбленню дыферэнцыяцыі вёскі насуперак усім захадам феадалаў, якія імкнуліся да яе нівеліроўкі. Павялічваецца колькасць, з аднаго боку, заможных сялян, з другога – пазбаўленых сродкаў вытворчасці каморнікаў, кутнікаў, бабылёў; апошнія складалі 1/10 ад усіх сялян.

Маёмасная дыферэнцыяцыя вёскі стварала рынак працоўных рук. Наёмныя рабочыя атрымлівалі грашовую плату і плату натурай. Ва ўмовах прыгоннай залежнасці наём у асноўным быў прымусовы, але гэта не выключала і адносна свабоднага найму.

Побач з тэндэнцыяй да росту землеўладання свецкіх магнатаў з другой паловы XVIII ст. назіраецца і іншая тэндэнцыя – перадача маёнткаў у залог, якія з цягам часу пачалі пераходзіць ва ўласнасць залогатрымальнікаў. Такім чынам, нараджалася тэндэнцыя да пераўтварэння феадальнай формы ўласнасці на галоўны сродак вытворчасці, зямлю ў буржуазную. Гэта быў першы эканамічны парастак капіталізму ў нетрах феадалізму.

Другім парасткам у гэтым напрамку было з'яўленне ў буйной памеснай гаспадарцы прадпрымальніцтва. Сярод шматлікіх феадальных прадпрыемстваў на Беларусі найбуйнейшымі былі Урэцкі і Налібоцкі шкляныя заводы князёў Радзівілаў, жалезаапрацоўчы завод графа Храптовіча (у маёнтку Вішнева Ашмянскага павета), фаянсавы завод князя Агінскага (Целяханы Пінскага павета), Нясвіжская суконная фабрыка і Слуцкая фабрыка паясоў і інш. На гэтых прадпрыемствах працавала па 40 – 50 чалавек, якія выпускалі вырабаў на некалькі дзесяткаў тысяч злотых.

Побач з вотчыннымі прадпрыемствамі ўзнікаюць мануфактуры ў Гродзенскай і Брэсцкай каралеўскіх аканоміях. Тут дзейнічалі суконная, шаўковая, палатняная, панчошная, капялюшная, кардонная,шаўковых паясоў, ігральных карт, зброевая і іншыя фабрыкі. Толькі на Гродзенскіх прадпрыемствах налічвалася каля 1,5 тыс. пастаянных рабочых, акрамя іх працавалі і часовыя рабочыя. Хоць у аснове гэтыя мануфактуры былі феадальныя, але ў іх з'яўляюцца і некаторыя рысы капіталістычных прадпрыемстваў, асабліва ў арганізацыі вытворчасці і аплаце працы.

Такім чынам, за два стагоддзі ў сялянскай гаспадарцы адбыліся карэнныя змены: усталявалася фальварачная сістэма гаспадаркі, змянілася юрыдычнае і эканамічнае становішча розных пластоў прыгоннага сялянства, з'явіліся першыя парасткі капіталістычных буржуазных адносін.

Яшчэ адным саслоўем сярэдневяковай Беларусі былі мяшчане, інакш кажучы, жыхары гарадоў. На працягу XVI – першай паловы





XVII ст. колькасць гарадоў павялічылася і дасягнула 37, а гарадскіх паселішчаў – 350. Найбольш буйнымі былі: Полацк, Магілёў, Віцебск, Брэст, Пінск (10 і больш тыс. жыхароў), Мінск, Орша, Гродна (ад 5 да 10 тыс.) і інш.

Саслоўе мяшчан звычайна павялічвалася за кошт вольных сялян, уцекачоў і прыгонных.

Расла эканамічная роля гарадоў у жыцці краіны, і яны пры падтрымцы вярхоўнай улады атрымлівалі магдэбургскае права. Да першай паловы XVIII ст. яго мелі ўсе буйныя і шмат якія з сярэдніх гарадоў. Згодна з каралеўскімі граматамі на магдэбургскае права, магістрат быў вышэйшым органам самакіравання, пад уладу якога перадаваліся ўсе жыхары горада. На справе юрысдыкцыі магістрата не падлягалі сяляне, якіх пасяліў у горадзе феадал (мяшчане прыватных "юрыдык"), а таксама татары і яўрэі, што жылі асобнымі абшчынамі і мелі свае судова-адміністрацыйныя органы. Побач з магдэбургскім правам існавалі мясцовыя нормы права, традыцыі і звычаі ўнутрыгарадскога жыцця.

Сярэдневяковы беларускі горад меў супярэчнасці, якія з'яўляліся падмуркам вострай барацьбы паміж гараджанамі. Да іх ліку адносіліся наступныя: 1) маёмасная няроўнасць; 2) захоп багацеямі гарадской улады і выкарыстанне яе ў сваіх мэтах; 3) феадальныя "юрыдыкі", не падначаленыя магістрату; 4) шматнацыянальны склад мяшчан.

Саслоўе мяшчан складалася з заможных вярхоў (багатыя купцы і частка майстроў), сярэдняга пласта (пераважная частка майстроў і гандляроў) і беднаты. За межамі гарадской абшчыны знаходзілася самая абяздоленая і бяспраўная частка гараджан – наёмныя людзі, занятыя на падзённых работах (землякопы, вадавозы, грузчыкі, перавозчыкі і г.д.). Плябеі не мелі правоў гараджан, і таму на іх не пашыраліся саслоўныя правы і прывілеі.

Пануючай і кіруючай групоўкай былі гарадскія вярхі, якія выкарыстоўвалі раду ў сваіх мэтах. Справа ў тым, што жыхары гарадоў плацілі падаткі (падымны, чопавы, шоставы і інш.), выконвалі натуральныя павіннасці, неслі вартавую ахову гарадоў, давалі падводы для каралеўскіх паслоў, кватэры службовым асобам і салдатам пры пастоі. Цяжкімі для мяшчан былі розныя зборы і "складанкі", якія спаганяліся магістратам для гарадскіх патрэб. Багацеі з магістрата, вядома, перакладалі ўвесь цяжар падаткаў і пабораў на рамесна-гандлёвы люд. Гэта вяло да сутыкненняў паміж магістратамі і гараджанамі, з аднаго боку, і пераходу мяшчан у падначаленне свецкіх або духоўных феадалаў – з другога. Таму, нягледзячы на барацьбу гараджан за абмежаванне юрысдыкцыі феадалаў (часам і паспяховай, напрыклад у Полацку, Оршы, Пінску), феадальная ўласнасць у гарадах не толькі захавалася, але яшчэ і ўзрасла. Да сярэдзіны XVII ст. пад прыватнымі "юрыдыкамі" ў Гродне і Віцебску знаходзілася больш за палову мяшчан. Пераход гараджан пад прыватную юрысдыкцыю пазбаўляў іх ад пабораў і збораў, якія ўстанаўліваліся

магістратам на тыя ці іншыя патрэбы горада, у той жа час не пагражаў забаронай рамеснай і гандлёвай дзейнасці, стратай асабістай свабоды.

Супярэчнасці грамадска-палітычнага жыцця гарадоў праяўляліся ў розных формах барацьбы: у падачы скаргаў і заяў у суды і вярхоўнай уладзе, у адмаўленні падпарадкоўвацца адміністрацыі ці арандатару, у паўстаннях. Напрыклад, у 1606 г. гараджане Магілёва зрывалі судовыя разборы, не выконвалі распараджэнні магістрата і ўрэшце дамагліся таго, што старая рада была звергнута і выбрана новая, у склад якой увайшлі "людзі лёгкія", г.зн. бедныя. Толькі ўлетку 1610 г. паўстанне было падаўлена і зноў на чале рады ўладкаваліся заможныя. Выступленні гараджан мелі месца і ў іншых гарадах: Гродне (1670, 1700), Магілёве (1733) і г.д.

Такім чынам, грамадска-палітычнае жыццё гарадоў складалася з вострых супярэчнасцей і глухога незадавальнення, якое нярэдка давала імпульс да адкрытых выступленняў народа супраць прыгнёту.

Асновай эканамічнага жыцця гарадоў былі рамёствы і гандаль. У крыніцах таго часу ўпамінаецца каля 200 прафесій і спецыяльнасцей: па апрацоўцы металу – 41, дрэва – 27, скураной і футравай вытворчасці – 25 і г.д. Беларускія майстры былі добрымі знаўцамі сваёй справы, іх вырабы вызначаліся дакладнасцю, трываласцю, тонкасцю апрацоўкі. Ужо ў XVI ст. была прыкметнай спецыялізацыя асобных гарадоў. Для Гродна, напрыклад, былі характэрны будаўнічыя прафесіі, Віцебск і Полацк мелі добрых спецыялістаў па абслугоўванню рачных партоў, Мінск і Слуцк славіліся гарбарнымі і кушнерскімі прафесіямі.

Гарадскія рамеснікі жылі пад пастаяннай пагрозай беззаконня, самавольства і вымаганняў шляхты. Гэта штурхала іх да стварэння ўласнай карпарацыі – цэхавай. Звычайна ў цэхі ўваходзіла 60 – 70 чалавек, але былі цэхі і па 130 – 150 рамеснікаў, якія дзяліліся на майстроў, чаляднікаў і вучняў, паміж імі таксама бесперапынна ішла барацьба. Цэхі былі трох тыпаў: спецыялізаваныя (адной прафесіі), аб'яднаныя (дзвюх і больш блізкіх прафесій), зборныя (розных прафесій). Цэхавыя статуты не толькі рэгламентавалі вытворчую дзейнасць цэха, але і імкнуліся ахоўваць сваіх рамеснікаў ад канкурэнцыі на рынку.

З ростам рамяства развівалася і гандлёвая дзейнасць, у выніку якой складваліся элементы ўнутранага рынку. Разам з унутраным пашыраўся і знешні гандаль. Гандлёвыя сувязі Беларусі ў сярэднявеччы былі разнастайныя, але найбольш трывалыя і працяглыя былі сувязі з Расіяй, Польшчай, Левабярэжнай Украінай, Рыгай, з краінамі Заходняй Еўропы. У Заходнюю Еўропу з Беларусі вывозіліся жыта, пянька, лес і іншыя тавары сельскай і лясной гаспадаркі. З Расіі на Беларусь завозіліся футра і саматканае сукно, грубае палатно, абутак, кажухі, ніткі, мыла і г.д., з Польшчы – сукно, палатно, жалеза, сталь, свінец, медзь, волава і г.д. На пачатку XVII ст. замежным гандлем займалася каля 800 купцоў з 30 гарадоў Беларусі.





*Тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел Беларусі ў XVIII ст.*




Пастаянай пагрозай для купецтва, як і для рамеснікаў, было самавольства магнатаў і шляхты, якія рабавалі купцоў, разганялі кірмашы і гандлёвыя арганізацыі. У барацьбе з самавольствам феадалаў з мэтай аховы сваіх гандлярскіх інтарэсаў у шэрагу гарадоў (Магілёў, Пінск і інш.) ствараліся цэхі купцоў, якія рэгулявалі парадак куплі і продажу тавараў, адносіны паміж купцамі і іншыя справы.

З першай паловы XVII ст. да другой паловы XVIII ст. гарады і мястэчкі Беларусі апынуліся ў заняпадзе, выкліканым працяглымі войнамі. Шмат гарадоў і мястэчак былі разбураны, асабліва Брэст, Пінск, Тураў, Мазыр, Гомель, Бабруйск і інш. Сеймавымі пастановамі 60-х гадоў XVII ст. 20 беларускіх гарадоў, у тым ліку і самыя буйныя, былі вызвалены на 4 гады амаль ад усіх дзяржаўных павіннасцей.

Аднаўленне гарадоў тармазілася палітычнымі і эканамічнымі ўмовамі тагачаснага жыцця: палітычным ладам Рэчы Паспалітай, самавольствам шляхты, пашырэннем фальварачна-паншчыннай сістэмы. Не паспявалі падняцца гарады з руін, як зноў пачыналася чарговая вайна і зноў руйнаваліся гарады і вёскі Беларусі.

Перш за ўсё пасля ваеннага спусташэння краіны пачалі аднаўляцца мястэчкі, а з буйных гарадоў – Магілёў, Віцебск і Гродна. Большасць гарадоў і мястэчак да сярэдзіны XVIII ст. заставалася яшчэ ў заняпадзе, які быў выкарыстаны феадаламі і каталіцкай царквой для пашырэння сваіх уладанняў. Нягледзячы на барацьбу магістратаў за зварот пад сваю юрысдыкцыю гвалтам захопленых гарадскіх зямель, зямельныя ўладанні феадалаў у гарадах да сярэдзіны XVIII ст. былі большыя за магістрацкія.

Будаваліся новыя шляхі зносін. У 1784 г. было завершана будаўніцтва канала Агінскага, які злучыў Нёман з Прыпяццю. У 1781 г. пачалося будаўніцтва Днепра-Бугскага канала.

З пачатку XVIII ст. цэхі змагаюцца за манапольнае права на крыніцы сыравіны, на вытворчасць і продаж прадукцыі рамяства. У цэхах паглыбляецца маёмасная дыферэнцыяцыя, узмацняецца пануючае становішча багатай групы рамеснікаў.

У гарадское жыццё, як і ў жыццё ўсёй краіны, пранікаюць подкуп і карупцыя. Напрыклад, за пэўную плату можна было атрымаць цэхавае старшынства, выбранне членаў магістрата часам замянялася прызначэннямі войта і г.д.

У гарадах і мястэчках з'яўляюцца промыслы: млыны, цагельні, рудні, вінніцы, піваварні, якія належалі, як правіла, феадалу, але маглі належаць і магістрату. Часцей за ўсё яны здаваліся ў арэнду і (з далейшай дыферэнцыяцыяй працы) паступова пераўтвараліся ў мануфактуры.

Такім чынам, сельская і гарадская гаспадарка Беларусі ў выніку нястомнай працы народа да сярэдзіны XVIII ст. была ў асноўным адноўлена, але гэта не стала асновай трывалага эканамічнага росквіту. Палітычны крызіс, якім даўно ўжо хварэла Рэч Паспалітая, перарастае ў агонію і вядзе дзяржаву да канчатковай згубы.

# ГЛАВА 5

# ПАГЛЫБЛЕННЕ ПАЛІТЫЧНАГА КРЫЗІСУ. ПАДЗЕЛЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Палітычны крызіс Рэчы Паспалітай быў закладзены ў час падпісання ганебнай для Вялікага княства Літоўскага Люблінскай уніі. Здрада вялікага князя літоўскага свайму гаспадарству, гвалт польскай шляхты ў адносінах да свайго шматгадовага саюзніка заклалі





хісткі падмурак пад Рэч Паспалітую. Уся гісторыя Рэчы Паспалітай ад Любліна да трох падзелаў – гэта гісторыя барацьбы народаў Вялікага княства Літоўскага за сваю дзяржаўнасць, за правы яе існавання. Бяскроўная і крывавая, дыпламатычная і ўзброеная барацьба аслабляла змучаныя гвалтам дзяржавы і ў эканамічных, і ў палітычных, і ў культурных адносінах, рабіла Рэч Паспалітую лёгкай здабычай суседніх краін.

Такім чынам, Люблінская унія – гэта пачатак канца, згубы не толькі Вялікага княства Літоўскага, але і Польшчы як самастойных, незалежных дзяржаў. Гэта **першы выток** палітычнага крызісу Рэчы Паспалітай.

**Другім вытокам** крызісу стаў палітычны лад Рэчы Паспалітай, які заканамерна падрываў самыя асновы дзяржаўнасці. Найбольш небяспечным было спалучэнне знакамітых "залатых шляхецкіх вольнасцей": выбранне манарха, liberum veto і "Pacta conventa", "канфедэрацыі" і "рокашы". Страціўшы са смерцю Жыгімонта II Аўгуста манархічную дынастыю Ягелонаў, якая правіла амаль 200 гадоў, палякі не знайшлі ў сябе дзяржаўнай мудрасці і адказнасці за лёс бацькаўшчыны і не вылучылі ніводнай са шматлікіх вядомых магнацкіх фамілій на каралеўскі пасад (як гэта здарылася ў Расіі на пачатку XVII ст. пры адпаведных умовах). Яны пайшлі па шляху запрашэння манарха на польскі трон з суседніх краін. Сам гэты факт сведчыў аб існаванні глыбокіх супярэчнасцей у кіруючым стане дзяржавы. Практыка пошукаў гаспадара яшчэ больш паглыбляла гэтыя супярэчнасці. У час бескаралеўя шляхецтва раз'ядноўвалася звычайна на процілеглыя партыі: рускую, французскую, шведскую, аўстрыйскую, краіна апускалася ў бездань бязладдзя, анархіі. Стэфан Баторый неўзабаве пасля свайго абрання адзначаў у лісце да віленскага павятовага сейма (жнівень 1577 г.), што Рэч Паспалітая ўсё больш апускаецца ў хаос "свавольства, анархіі, гвалту і беззаконня", якія губяць дзяржаву.

Выбранне манарха мела і такую адмоўную рысу, як подкуп. Карупцыя стала звычайнай з'явай палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай. Напрыклад, да сярэдзіны XVII ст. у асяроддзі польскай шляхты ўзнік рух за скасаванне царкоўнай уніі. Уніяцкі мітрапаліт Календа ў 1688 г. быў вымушаны падкупляць сенатараў, каб захаваць унію. У выніку шырока распаўсюджанай карупцыі з грамадскай свядомасці паступова знікаюць такія паняцці, як маральнасць, сумленне, годнасць, грамадзянскі доўг, патрыятызм і інш. Асабісты інтарэс пераважае над усім жыццём.

Выбары манархаў у Польшчы стваралі таксама падставу для зацікаўленасці суседніх краін у "хатніх" справах Рэчы Паспалітай; паступова яны ўцягваюцца ў вырашэнне польскіх спрэчак, у тым ліку і ўзброенай сілай.

Такім чынам, дастаткова было адной шляхецкай вольнасці – выбрання караля, каб прывесці дзяржаву да згубы. Але шляхта ка-

29. Зак. 5560

рысталася яшчэ і такой вольнасцю, як "Pacta conventa". Гэтыя ўмовы для выбрання караля звычайна пашыралі шляхецкія вольнасці і абмяжоўвалі каралеўскую ўладу, адначасова паглыблялі палітычны крызіс, бо інтарэсы шляхецкіх груповак часцей за ўсё не адпавядалі інтарэсам дзяржавы. Так з'явіліся "Генрыхавы артыкулы", хвалёны Літоўскі Статут 1588 г., нязздзейснены польскі план унітарнай дзяржавы і іншыя пытанні. Выбары, такім чынам, прымалі выгляд гандлю паміж рознымі групоўкамі шляхты і кандыдатам у каралі. Дарэчы, да Люблінскай уніі шматлікія заявы шляхецкіх дэпутатаў на сейміках насілі форму просьбаў да вялікага князя. Каронны ж сейм у Рэчы Паспалітай дыктаваў каралю сваю волю. І кароль павінен быў строга выконваць як "Pacta conventa", так і пастановы сейма. Гэта шляхецкая вольнасць была гарантавана правам на "канфедэрацыі" альбо "рокашы", якія, па сутнасці, былі не чым іншым, як узаконеным правам шляхты развязаць грамадзянскую вайну ў дзяржаве супраць вышэйшай улады ў асобе караля.

Шляхецкія вольнасці вянчала знакамітае liberum veto, якое не проста нараджала анархію, карупцыю (Маскве, Вене ці Берліну было дастаткова падкупіць аднаго шляхціца і такім чынам сарваць прынянцце непажаданай пастановы), але магло наогул паралізаваць цэнтральную ўладу, дзяржаўны механізм. З сярэдзіны XVII ст. гэта тэндэнцыя пачала перарастаць у звычайную з'яву палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай. Да 1652 г. на польскіх сеймах справы вырашаліся большасцю галасоў, хаця ў пратаколах дзеля формы ўжывалася фраза "па аднагалоснаму рашэнню". У 1652 г. дэпутат Упіцкага павета Сіцінскі ўпершыню ўжыў слова "не позволям" (г.зн. не згодзен з пастановай сейма) і прыпыніў пастанову сейма. З гэтага часу фраза "не позволям" усё часцей стала ўжывацца на сеймах. Так, калі за 1652 – 1764 гг. з 80 сеймаў былі сарваны 44, то за 1744 – 1762 гг. усе адзінаццаць сеймаў не здолелі прыняць патрэбных рашэнняў. Але і прынянцце пастаноў сеймам яшчэ нічога не азначала. Любая пастанова караля ці сейма магла быць адхілена шляхтай. Шляхціц ведаў толькі падпарадкаванне Богу ды самому сабе. Шляхецкі стан, заклікаты абараняць радзіму, адказваць перад нашчадкамі за лёс бацькаўшчыны, хварэў на ганарлівасць, бяздумнае самалюбства, бязглуздую самаўпэўненасць. Неабмежаваная дэмакратыя губіла Рэч Паспалітую.

Аслабленне цэнтральнай улады цягнула за сабой узвышэнне павятовых сеймікаў, якія пачалі прысвойваць функцыі заканадаўчай і судовай улады, перасталі лічыцца з рашэннямі сейма.

У выніку асаблівасцей палітычнага ладу Рэчы Паспалітай да канца XVII ст. у дзяржаве ўзнікае прыкметнае аслабленне манархічнай улады, бяспрыкладнае ўзмацненне шляхты, заняпад адміністрацыйнага кіравання, духоўнасці і грамадзянскага сумлення.

**Трэцім вытокам** палітычнага крызісу з'явілася бязглуздая рэлігійная палітыка з канца XVI ст. Берасцейская царкоўная унія не





дала пажаданых вынікаў. Наадварот, яна паглыбіла існуючыя ў грамадстве супярэчнасці.

Лацінізацыя уніяцкай царквы прывяла да расколу грамадства на яе прыхільнікаў і праціўнікаў. Апошнія ў набліжэнні уніяцкай царквы да касцёла ўбачылі пагрозу не толькі уніяцтву, але і ўсяму праваслаўнаму насельніцтву. У грамадскай свядомасці больш трывала замацоўваецца думка аб прыналежнасці беларускага этнасу да рускага народа, аб неабходнасці ўз'яднання з ім. Пазней гэта этнічна-рэлігійная і грамадска-палітычная плынь у гістарычнай літаратуры атрымала назву "заходнерусізм".

**Чацвёрты выток** палітычнага крызісу – спалучэнне нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту з феадальным. Распаўсюджанне аграрнай рэформы Жыгімонта II Аўгуста на Усходнюю Беларусь выклікала супраціўленне народных мас: скаргі на самавольства адміністрацыі і арандатараў, адмаўленне ад выканання прыгонных павіннасцей, уцёкі ад сваіх гаспадароў да іншых феадалаў ці за межы краіны, часцей за ўсё на Украіну і ў Расію, падпальванне маёнткаў, узброеныя паўстанні.

Адным з буйных сялянскіх рухаў у XVIII ст. было паўстанне ў Крычаўскім старостве, пажыццёвым уладанні князя І.Радзівіла. У 30-х гадах XVIII ст. староства арандавалі браты Іцкавічы, якія не толькі ўзмацнілі прыгнёт шляхам завышэння інвентарных грашовых плацяжоў і адработачных павіннасцей, але і ўжывалі грабеж, насілле, мардаванне сялян за нязначную непаслухмянасць. У пачатку 40-х гадоў становішча сялян стала невыносным. Першае ўзброенае выступленне сялян на чале з Канстанцінам Вашчылам пачалося вясной 1740 г. Непасрэднай прычынай паўстання быў арышт і прыгавор да пакарання смерцю 18 сялян па падазрэнні ў падпальванні дома аднаго з арандатараў. Атрад К.Вашчылы, які налічваў некалькі соцень чалавек, быў разгромлены ваеннай сілай адміністрацыі староства. Тады на чале паўстання стаў войт в.Селішчы Васіль Вашчыла. Яму дапамагалі Іван Карпач, Стась Бачко, Васіль Вецер. На працягу года паўстанне распаўсюдзілася на большасць тэрыторыі староства. Да яго далучыліся сяляне шляхецкіх уладанняў і прышлыя людзі з Расіі. У руху ўдзельнічала некалькі тысяч чалавек. Паўстанцы нападалі на дамы багатых гандляроў, ліхвяроў, адбіралі кабальныя дакументы, найбольш злосных забівалі. І.Радзівіл быў вымушаны перадаць староства іншаму арандатару. Але гэта толькі часова паслабіла сялянскі рух. Улетку 1743 г. барацьба абвастрылася і перарасла ва ўзброенае паўстанне. Паўстаўшыя не прымалі распараджэнняў Радзівіла, праганялі і забівалі чыноўнікаў. У канцы 1743 г. староства засталося не толькі без арандатараў, але і без адміністрацыі.

На пачатку 1744 г. І.Радзівіл накіраваў у Крычаў атрад коннага і пешага войскаў з артылерыяй. Праведаўшы пра тое, паўстанцы паспрабавалі ўзяць Крычаўскі замак штурмам, але беспаспяхова. Барацьба працягвалася, у шэрагах паўстанцаў налічвалася больш за

4 тыс. чалавек. Аднак карнае войска раптам напала на лагер паўстанцаў і разбіла яго, бо сілы былі няроўныя. На полі бою з ліку паўстанцаў засталося 100 чалавек забітых і 500 параненых, а 77 трапілі ў палон. Прыгнятальнікі жорстка падавілі паўстанне: 74 паўстанцы былі закатаваны (адны павешаны, іншыя – жывымі пасаджаны на кол). Васіль Вашчыла ўцёк на Украіну, але польскія ўлады патрабавалі яго выдачы. Доўга цягнулася дыпламатычная пісаніна, тым часам Васіль Вашчыла захварэў і памёр у турме.

У 40-х гадах XVIII ст. сялянскімі хваляваннямі былі ахоплены Мазырскі павет (1745), Гомельскае староства (1747), Чачэрскае староства і інш. Антыфеадальны і антырэлігійны рух на Беларусі калаціў Рэч Паспалітую, заганяючы яе ў труну.

**Пяты выток** паглыблення палітычнага крызісу – барацьба паміж магнатамі за ўладу. У другой палове XVII ст. у Вялікім княстве Літоўскім асноўнымі сапернікамі былі Радзівілы, Пацы і Сапегі. У 60-х і першай палове 70-х гадоў XVII ст. найбольш уплывовымі былі Пацы, а ў першай палове 80-х – Сапегі.

У 1696 г. большая частка беларуска-літоўскай шляхты выступіла супраць усемагутнасці Сапегаў. Барацьбу ўзначалілі Агінскія і Вішнявецкія. Яны выдалі ў Вільні універсал, у якім абвяшчалі гетмана Сапегу і яго сяброў ворагамі айчыны і прыгаварылі іх да пакарання смерцю з канфіскацыяй маёмасці. Барацьба прыняла характар грамадзянскай вайны, у выніку якой руйнавалася Беларусь. Пачатак Паўночнай вайны не спыніў феадальных міжусобіц, Сапега перайшоў на бок Карла XII і разам з ім пачаў граміць і руйнаваць айчыну. Скончылася вайна, але не спыніліся феадальная анархія і бясконцыя інтрыгі, барацьба за ўладу.

Пасля Паўночнай вайны палітычны крызіс у Рэчы Паспалітай перарастае ў апошнюю стадыю – агонію.

Надзвычай добра раскрыў палітычнае становішча тагачаснай Рэчы Паспалітай Ф.Энгельс: "З пачатку васемнаццатага стагоддзя Польшча, згодна з выказваннямі саміх палякаў, трымалася бязладдзем (Polska nierzadem stoi), замежныя войскі бесперапынна акупіравалі ўсю краіну і праходзілі цераз яе, яна служыла для іх заезным дваром і карчмой (Karczma zaezdna, як казалі палякі), пры гэтым, аднак, як правіла, забываліся заплаціць" (*Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 22. С.18).

Найбольш прадбачлівыя палітыкі Рэчы Паспалітай папярэджвалі загадзя аб смяротнай небяспецы, якая навісла над дзяржавай. Яшчэ ў 1668 г. польскі кароль Ян-Казімір, адмовіўшыся ад прастола, на развітанне перасцерагаў сенатараў: "Дай Бог, каб я не быў пракорам, але кажу вам: калі вы не выправіцеся і не зменіце сваіх парадкаў, то Польшча загіне ад іншаземцаў. Масква адарве ў яе ўсе рускія землі і Літву да самага Буга, Нарэва і нават да Віслы; Прусія возьме Вялікую Польшчу і польскую Прусію. Аўстрыя ж, бачачы, што іншыя дзеляць паміж сабой наша дабро, кінецца на Кракаў і сумежныя ваяводствы, – і кожная з суседніх дзяржаў пажадае лепей валодаць часткай нашага





гаспадарства, як мець яго ўсё з вашым бязладдзем і вашымі вольнасцямі" (*Брянцев П.Д.* Очерк Древней Литвы и Западной России. Вильна, 1891. С.114 – 115).

У часы кіравання Аўгуста III (1733 – 1763, сын Аўгуста II) феадальная анархія паглыбляецца, узмацняецца феадальны, нацыянальны і рэлігійны прыгнёт. У палітычным жыцці з'яўляецца новая, даволі характэрная рыса – зварот шляхты за дапамогай да суседніх краін дзеля вырашэння ўнутраных спраў.

Набліжэнне канца адчувалі і сучаснікі падзелаў Рэчы Паспалітай, і таму патрыёты спрабавалі хоць як-небудзь прыпыніць агонію. У 1764 г. Чартарыйскія на канвакацыйным сейме паспрабавалі правесці памяркоўныя рэформы дзяржаўнага ладу: абмежаваць "ліберум вета", аслабіць залежнасць дэпутатаў ад інструкцый сеймікаў, упарадкаваць суд, фінансы, павялічыць войска. Аднак рэформы закранала шляхецкія вольнасці і таму адразу ж выклікалі рашучы адпор рэакцыйных сіл краіны, а таксама Прусіі і Расіі. Пры падтрымцы расійскага пасла Рэпніна дысідэнты стварылі канфедэрацыі: пратэстанцкую ў Торуні і праваслаўную ў Слуцку. На дапамогу ім прыйшла 40-тысячная руская армія, карыстаючыся правам абароны праваслаўных у Рэчы Паспалітай, згодна з "вечным мірам" паміж Масквой і Варшавай (1686).

У 1768 г. сейм (пад націскам рускіх войск) прыняў пастанову абураўноўванні ў правах праваслаўных і пратэстантаў з каталікамі. Адначасова Расія стала гарантам не толькі верацярпімасці, але і захавання палітычнага ладу Рэчы Паспалітай, які існаваў да 1764 г.

У лютым 1768 г. каталіцкія фанатыкі стварылі ў Бары (на Украіне) канфедэрацыю з мэтай процідзеяння ўплыву рускай імператрыцы ў Польшчы. На пачатку 1770 г. з Францыі на дапамогу канфедэратам прыбыло некалькі афіцэраў на чале з Дзюмур'е. У сваім данясенні ён адзначаў адну з найважнейшых прычын крызісу Рэчы Паспалітай – неверагоднае падзенне маральнасці шляхецкага стану: "Я нідзе не бачыў падобнага ў Еўропе, што бачу ў Польшчы: норавы правадыроў канфедэратаў чыста азіяцкія, дзівосная раскоша, безразважныя расходы, доўгія абеды, гульні, танцы – вось іх заняткі...Я...сярод канфедэратаў не знайшоў ніводнага прыстойнага чалавека, за выключэннем літвіна Богуша; галоўны распарадчык канфедэратаў – князь Радзівіл сапраўдная жывёла".

Яшчэ больш змрочную карціну малюе Эсэн, саксонскі пасол пры варшаўскім двары: "Польскія вяльможы...пастаянна ганяюцца за атрыманнем пенсій ад замежных двароў з тым, каб падкопвацца пад сваю Айчыну. Кожны дзень у Польшчы адбываюцца такія з'явы, якія неверагодны ў іншых дзяржавах: злосныя банкруцтвы купцоў і вяльмож, безразважныя азартныя гульні, грабяжы, усялякага роду адчайныя ўчынкі...Злачынствы адбываюцца на кожным кроку, і хто ж іх учыняе? Людзі з вышэйшага свету, якія пастаянна бываюць у караля і карыстаюцца павагай, і якому ж пакаранню яны

30. Зак. 5560

падвяргаюцца? Ніякаму...Адзін сенатар выкрываецца ў падробцы вэксаляў, другі адмаўляецца ад свайго подпісу, трэці ўжывае фальшывыя карты падчас гульні на грошы, чацвёрты прадае маёнтак, якім ніколі не валодаў, пяты бярэ з рук крэдытора вэксалі, разрывае іх і ў той жа час загадвае біць крэдытора, шосты захоплівае чужую жонку, адвозіць яе дамоў і бессаромна зневажае яе. Я заміраю пры думцы, – піша далей Эсэн, – што курфюрст ускладзе на мяне абавязак назваць яму сярод палякаў трох знатных асоб і разам з тым сумленных, я не змагу назваць яму ніводнага. Англійскі пасол, – працягвае Эсэн, – кожную пошту просіць свой урад адазваць яго адсюль, таму што ён, выконваючы абавязкі пасла пры варшаўскім двары, тым самым зневажае сваю годнасць, як сумленнага чалавека. Нямецкі паўашуканец, – заканчвае сваё данясенне саксонскі рэзідэнт, – у Польшчы быў бы сумленным чалавекам" (*Брянцев П. Д.* Очерк Древней Литвы и Западной России. С.130 – 132).

Падзенне нораваў пануючага шляхецкага стану згубіла яго, зрабіла няздольным кіраваць дзяржавай. Гэта і было адной з галоўных прычын пастаянных зваротаў розных груповак за дапамогай да суседніх краін.

Хутка разгарэлася грамадзянская вайна, у якой канфедэратыўны рух быў задушаны з дапамогай царскай арміі.

Па прапанове прускага караля Фрыдрыха II Вялікага 5 жніўня 1772 г. у С.-Пецярбургу была падпісана канвенцыя аб падзеле Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Прусія атрымала паўночна-заходнюю частку Польшчы (Памеранію і кавалак Вялікай Польшчы паміж Прусіяй і Брандэнбургам), Аўстрыя – паўднёвую частку Польшчы і частку Заходняй Украіны са Львовам. Да Расіі адышлі Інфлянты, большая частка Полацкага ваяводства (па правым беразе Заходняй Дзвіны), амаль усё Віцебскае, усё Мсціслаўскае ваяводствы і ўсходняя частка Рэчыцкага павета, Магілёўскае ваяводства (з Рагачовам, Прапойскам, Чачэрскам і Гомелем).

Першы падзел Рэчы Паспалітай ацвярэзіў польскіх сенатараў. Хутка была створана паспалітая рада, якая складалася з караля, 18 сенатараў, 18 дэпутатаў сейма. Прымаюцца рашэнні, накіраваныя на паляпшэнне гандлю і прававога становішча гараджан, развіццё прамысловасці. Але яны не закраналі асноў дзяржаўнага і грамадскага ладу Рэчы Паспалітай.

3 мая 1791 г. сейм прыняў канстытуцыю Рэчы Паспалітай, якая адмяняла выбарнасць каралёў, але ўводзіла выбарнасць дынастый. Заканадаўчая ўлада належала двухпалатнаму сейму, які выбіраўся на 2 гады і павінен быў прымаць рашэнні большасцю галасоў. У склад сейма ўводзіўся 21 прадстаўнік гарадоў з правам дарадчага голасу. Каралю і радзе ("вартавому закону"), якая складалася з прымаса каталіцкай царквы і пяці міністраў, належала выканаўчая ўлада. Выканаўчыя органы ўлады, войска і бюджэт былі абвешчаны агульнымі для ўсёй Рэчы Паспалітай. Аднак захаваліся асобныя дзяржаўныя пасады ў Літве, а таксама войска. Канстытуцыя абвяшчала захаванне правоў і прывілеяў шляхты і яе "першынство ў прыватным і грамадскім жыцці". Адначасова канстытуцыя зрабіла крок у напрамку збліжэння мяшчанства са шляхтай: шляхта атрымала дазвол займацца гандлем, а мяшчане – набываць зямельныя ўладанні, займаць цывільныя пасады. Зусім не змянілася становішча сялян. Праўда, пан атрымаў права, калі ён таго захоча, вызваляць мужыка ад прыгону. Абвяшчалася свабода веры, але за каталіцтвам пакідаўся статус дзяржаўнай рэлігіі. Канстытуцыя ў чарговы раз абвясціла поўнае зліццё Польшчы з Вялікім княствам Літоўскім у адзіны і непадзельны арганізм.


*Тадэвуш Касцюшка*

Безумоўна, канстытуцыя насіла прагрэсіўны характар. Адчуваўся ўплыў Вялікай французскай рэвалюцыі, ствараліся больш спрыяльныя ўмовы для развіцця прадукцыйных сіл краіны.

Праціўнікі канстытуцыі, на чале якіх стаялі Севярын Ржэвускі, Ксаверый Браніцкі і іншыя, узняліся на барацьбу супраць канстытуцыі. 14 мая 1792 г. у мястэчку Таргавіцы (на Украіне) была створана канфедэрацыя і абвешчаны акт аб абароне каталіцкай рэлігіі і ранейшага парадку кіравання краінай. На дапамогу канфедэраты запрасілі Кацярыну II. Зноў пачалася грамадзянская вайна, у якой кароль далучыўся да канфедэратаў і выступіў супраць канстытуцыі і папярэдніх рэформ.

У 1793 г. адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай паміж Расіяй і Прусіяй. Да Прусіі адышлі Данцыг і Вялікая Польшча, а да Расіі – частка Полацкага ваяводства (па левым беразе Дзвіны), рэшткі Віцебскага і Мсціслаўскага, Мінскае і ўсходнія часткі Навагрудскага і Брэсцкага ваяводстваў.

Другі падзел Рэчы Паспалітай выклікаў абурэнне і пратэст розных пластоў шляхецтва. 24 сакавіка 1794 г. у Кракаве пачалося паўстанне на чале з генерал-лейтэнантам Анджэем Тадэвушам Банавентурам Касцюшкам. Мэта паўстання – "аднаўленне незалежнасці нацыі і ўсталяванне ўсеагульнай свабоды", адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Для беларускага народа гэта азначала канчатковае

акаталічванне і паланізацыю Беларускага краю. У першы дзень паўстання Касцюшка звярнуўся з адозвамі "Да арміі", "Да грамадзян", "Да духавенства", "Да жанчын", у якіх заклікаў абараняць свабоду і айчыну. 7 мая 1794 г. быў выдадзены Паланецкі універсал, які абвяшчаў сялян асабіста вольнымі, але без зямлі.

Паўстанне перакінулася на Літву. З 22 на 23 красавіка 1794 г. паўстанцы захапілі Вільню і ўтварылі найвышэйшую раду літоўскага народа на чале з віленскім камендантам палкоўнікам Якубам Ясінскім. Рада звярнулася да шляхты за дапамогай, стварыла крымінальны суд з 15 чалавек для пакарання смерцю здраднікаў айчыны, а таксама органы кіравання паўстаннем (дэпутацыі).

Паўстанцы мелі тры карпусы войск, у аснове якіх было рэгулярнае войска княства Літоўскага на чале з Я.Ясінскім, А.Хлявінскім, Ф.Сапегам. Кіраўніцтва паўстаннем мела намер уцягнуць у паўстанне ўсіх шляхціцаў і вылучыла заклік: "Хто не з намі – той супраць нас". Але абаронцы айчыны і ў час смяротнай небяспекі не здолелі згуртавацца. Паміж імі адсутнічала ўзаемапаразуменне, дысцыпліна, працягваліся сваркі і спрэчкі. Гэта прывяло да таго, што Тадэвуш Касцюшка адхіліў ад кіравання паўстаннем Ясінскага, замяніўшы яго генералам Віельгорскім. Хутка ўся Беларусь і Літва былі ахоплены полымем паўстання, да якога далучылася частка сялян, што паверылі абяцанням Касцюшкі вызваліць іх ад феадальнага прыгнёту. Паколькі выкананне абяцання затрымлівалася, сяляне пачалі адыходзіць ад паўстання. Пры такіх абставінах было няцяжка справіцца з паўстаўшымі.

Супраць рэшткаў Рэчы Паспалітай выступілі Прусія, Аўстрыя і Расія. Лёс Рэчы Паспалітай быў вырашаны ў бітве пад Мацаёвіцамі (паблізу Варшавы) паміж рускімі і польскімі войскамі. Касцюшка трапіў у палон, а ў Варшаву былі ўведзены рускія, прускія і аўстрыйскія войскі. Апошні кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст IV (Станіслаў Панятоўскі) адрокся ад прастола. Аўстрыя, Расія і Прусія зноў пачалі кроіць Рэч Паспалітую.

У 1795 г. адбыўся трэці, апошні падзел Рэчы Паспалітай. Расія атрымала Заходнюю Беларусь і Усходнюю Літву, а таксама Украіну да Заходняга Буга. Аўстрыя і Прусія захапілі карэнныя землі, частку ўкраінскіх і літоўскіх зямель. Рэч Паспалітая была знішчана, а польскі народ на доўгія гады аказаўся пад сацыяльным і нацыянальным прыгнётам.

Такім чынам, прароцтва караля-езуіта Яна-Казіміра збылося. Палітычны лад Рэчы Паспалітай, неабмежаваныя шляхецкія вольнасці, рэлігійны фанатызм, неверагоднае падзенне нораваў шляхецкага саслоўя з'явіліся галоўнымі прычынамі гібелі дзяржавы.





# ГЛАВА 6

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ
## (другая палова XVI – канец XVIII ст.)

У гісторыі культуры Беларусі сярэдзіны XVI – XVIII стст. можна выдзеліць тры перыяды:

1) другая палова XVI ст. – актыўны рэфармацыйна-гуманістычны рух, які імкнуўся сінтэзаваць тэарэтычны гуманізм з сацыяльна-практычнай дзейнасцю;

2) канец XVI – першая палова XVII стст. – гуманістычная думка эпохі позняга Адраджэння, контррэфармацыя і ўсталяванне барока[1];

3) другая палова XVII – XVIII стст. – панаванне ў мастацтве стылю барока і пачатак стылю класіцызму.

**Асвета і кнігадрукаванне.** XVI ст. прынесла змены ў асветніцкую і школьную справу Беларусі. Разам з развіццём прагрэсіўных традыцый Старажытнай Русі на асвету пашыраецца ўплыў рэнесансавага гуманізму. На тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца найбольш перадавыя для таго часу пратэстанцкія і брацкія школы. Амаль у кожнай пратэстанцкай абшчыне адчыняліся школы. У 70-я гады XVI ст. на Беларусі былі 163 кальвініцкія саборы, пры якіх існавалі школы ў Брэсце, Ашмянах, Смаргоні, Нясвіжы, Мінску, Пінску, Магілёве, Оршы, Віцебску і г.д. Яскравым прыкладам кальвініцкай школы на Беларусі быў Слуцкі ліцэй, заснаваны ў 1617 г. Ён меў свой статут, праграму, метадычныя распрацоўкі, а таксама правілы для вучняў і настаўнікаў. У ліцэі вывучаліся галоўным чынам гуманітарныя навукі – лацінская, грэчаская, старажытнаяўрэйская, польская, нямецкая мовы і літаратуры, рыторыка, гісторыя, логіка, правазнаўства, матэматыка, фізіка. Ліцэй быў чатырохкласнай установай, дзе тэрмін навучання ў кожным класе складаў два гады. У адказах вучняў найбольш каштоўным лічылася самастойнасць выевадаў. Большасць вучняў ліцэя станавіліся прапаведнікамі кальвінізму, а найбольш здольныя накіроўваліся ва універсітэты Германіі, Англіі, Італіі.

Арыянскімі абшчынамі былі заснаваны школы ў Іўі, Клецку, Нясвіжы, Койданаве, Любчы, Лоску, Навагрудку і іншых гарадах і

[1] З канца XVI да сярэдзіны XVIII ст. у еўрапейскім мастацтве на аснове позняга Адраджэння ўзнікае стыль барока (ад італьянскага barocco – літаральна "вычварны, дзіўны" ці партугальскага barocca – "жамчужына дзіўнай формы"). Стыль барока выкарыстоўваўся для прапаганды ідэй контррэфармацыі і быў заснаваны на процістаўленні ідэальнага і пачуццёвага ў чалавеку. Мастацкімі прынцыпамі барока былі наступныя: дынамічнасць кампазіцыі, кантрасты маштабаў, рытмаў, матэрыялаў, святлоценявыя і каляровыя эфекты, імкненне стварыць ілюзію бязмежнай прасторы.

31. Зак. 5560

мястэчках. Арыянскія школы былі двух тыпаў – пачатковыя і гімназіі. У гімназіях, у тым ліку ў Іўеўскай, Нясвіжскай, Лоскай, вывучаліся разам з мовамі і літаратурамі (лацінскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай) філасофія, рыторыка, права, геаграфія, прыродазнаўства, матэматыка, фізіка, этыка. Вядомым педагогам арыянскіх школ быў Ян Ліцыній Намыслоўскі.

У канцы XVI – першай палове XVII ст. на Беларусі адчыняюцца брацкія школы, спачатку ў Вільні (1584), а затым і ў іншых гарадах (Брэст, Магілёў, Мінск, Пінск, Орша і г.д.). У брацкіх школах звычайна вывучаліся пяць моў (беларуская, славянская, грэчаская, лацінская, польская), арыфметыка, дыялектыка, рыторыка, геаграфія, астраномія і іншыя дысцыпліны. Індывідуальнае навучанне ў гэтых школах замянялася класна-ўрочным, якое дажыло да нашага часу. Навучальны год, як і зараз, пачынаўся 1 верасня. Былі вельмі вялікія патрабаванні да вучняў (за два дні пропуску без уважлівых прычын маглі выключыць са школы) і высокія патрабаванні да настаўнікаў. Адметную ролю ў павышэнні якасці выкладання ў брацкіх школах адыгралі выданні "Азбукі" (у 1574 г. у Львове – Іванам Фёдаравым, у 1596 г. у Вільні – Лаўрэнціем Зізаніем) і "Граматыкі" Мялеція Сматрыцкага (1621). З 1590 па 1654 г. беларускія друкарні выдалі 16 буквароў.

Брацкія школы з'яўляліся цэнтрамі не толькі асветы, але і кнігадрукавання. Брацкія друкарні ў Вільні, Еўі (каля Вільні), Куцейне і Магілёве выдавалі большасць кніг богаслужэбнага зместу. Гэта выклікалася неабходнасцю ўпарадкаваць сістэму богаслужэння, процістаяць каталіцызму і уніяцкаму ўплыву. Побач з літургічнымі выданнямі прыкметнае месца займалі кнігі для хатняга чытання (творы Іаана Златавуста, Макарыя Егіпецкага, вучэбная і іншая літаратура), а таксама палемічныя выданні, накіраваныя супраць контррэфармацыі, царкоўна-рэлігійнай уніі, паланізацыі.

У 1586 г. у Лоску быў выдадзены "Дапаможнік для авалодання вучэннем Арыстоцеля" на лацінскай мове, а ў 1589 г. – "Сентэнцыі, якімі трэба кіравацца ў жыцці". "Сентэнцыі" ўзвялічвалі чалавечы розум, веды, асуджалі невуцтва, кар'ерызм, марную трату часу, заклікалі да карыснай дзейнасці.

Адметную ролю ў кірылічным кнігадрукаванні адыграў вядомы беларускі друкар магіляўчанін Спірыдон Собаль, які на тэрыторыі Беларусі адчыніў дзве друкарні. Адну – у Куцейне (ля Оршы) у 1630 г. і выдаў тут на беларускай мове "Малітвы паўсядзённыя", "Буквар", "Часаслоў". У 1635 г. ён адчыніў друкарню і ў Буйнічах (пад Магілёвам), дзе выдаў "Псалтыр". У літаратуры апісаны 18 яго выданняў.

У другой палове XVII ст. кірылічнае кнігадрукаванне ўваходзіць у паласу крызісу, абумоўленага агульным сацыяльна-эканамічным і палітычным крызісам Рэчы Паспалітай.

У XVIII ст. на беларускіх землях пашыраецца свецкая адукацыя. Гэтаму садзейнічала рэформа школ, якая праводзілася пад






*Бібліятэка ў маёнтку Храптовіча ў в. Шчорсы (Навагрудскі раён)*

кіраўніцтвам С.Канарскага. Рэформа пахіснула манаполію езуітаў у галіне асветы, увяла ў школы польскую мову, значную ўвагу надала грамадска-этычным і прыродазнаўчым навукам, выхаванню разумовых здольнасцей вучняў. Створаная ў 1773 г. Адукацыйная камісія адмяніла выкладанне ў рамках школьных праграм рэлігіі. На беларускіх землях камісія адкрыла 20 сваіх школ.

Значную ролю ў распаўсюджванні навуковых ведаў адыграла Гродзенская медыцынская школа, заснаваная Антоніем Тызенгаўзам. Узначальваў яе ў 1775 г. французскі ўрач і натураліст Ж.Э.Жылібер. Ён стварыў пры школе прыродазнаўчы кабінет, аптэку, анатамічны тэатр і батанічны сад, выдаў два тамы фундаментальнай працы "Літоўская флора" (1781).

**Бібліятэчная і архіўная справа.** Багацейшай у Рэчы Паспалітай з'яўлялася Нясвіжская бібліятэка Радзівілаў, заснаваная ў 1600 г. У бібліятэцы налічвалася больш за 20 тыс. тамоў кніг амаль на ўсіх еўрапейскіх мовах. Разам з рэдкімі і старажытнымі кнігамі, творамі антычных паэтаў і мысліцеляў, працамі французскіх асветнікаў знаходзіліся рукапісы базыльянаў, дамініканцаў, бенедыкцінцаў. Залы бібліятэкі ўпрыгожваліся выробленымі на радзівілаўскай мануфактуры ў Свержані бюстамі старажытных філосафаў. У 1772 г. бібліятэка была канфіскавана і перавезена ў Пецярбург. Па загаду Кацярыны II яе перадалі Акадэміі навук – 14 892 кнігі, без уліку гравюр, карт і нот[1].

У Нясвіжскай бібліятэцы захоўваліся таксама рэдкія рукапісы. Сярод іх – Радзівілаўскі летапіс, упрыгожаны 617 каляровымі малюнкамі. На думку даследчыкаў, ён адносіцца да Уладзіміра-Суздальскага летапісання XIII ст., па зместу блізкі да Лаўрэнцьеўскага летапісу. Рукапісная копія, якая падаравана Янушу Радзівілу нейкім Станіславам Зяньковічам, была зроблена, магчыма, у Смаленску у канцы XV ст. Радзівілаўскі летапіс быў названы так па імені яго ўладальніка Багуслава Радзівіла. Другая назва летапісу – Кёнігсбергскі, бо з 1669 г. ён знаходзіўся ў бібліятэцы г. Кёнігсберга.

[1] Радзівілаўскі кнігазбор моцна пацярпеў падчас пажару ў наш час. У нацыянальным гістарычным архіве Беларусі і Цэнтральнай навуковай імя Я.Коласа бібліятэцы Акадэміі навук Беларусі таксама захоўваюцца кнігі з Нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў, сабраныя ў канцы XIX – пачатку XX ст. На экслібрысах кніг намаляваны арол, які трымае шчыт з фамільным радзівілаўскім гербам.



*Лаўрэнцій Зізаній*

У 1761 г., калі рускае войска заняло горад, летапіс у якасці трафея быў перададзены ў бібліятэку Акадэміі навук у Пецярбургу.

Больш за 6 тыс. рэдкіх кніг, старажытных рукапісаў, геаграфічных карт Беларусі, Літвы і Польшчы знаходзіліся ў Шчорсах (цяпер – Навагрудскі р-н), у маёнтку магната Храптовіча. У яго бібліятэцы захоўваліся перапіска Багдана Хмяльніцкага з польскімі гетманамі, арыгіналы пісьмаў Хмяльніцкага да казакаў, дзённік польскага пасольства ў Расіі за 1686 г., дзённік Марыны Мнішак і іншыя дакументы[1].

У Нясвіжскім замку знаходзіўся і архіў, у якім налічвалася больш за 500 тыс. гістарычных актаў, грамат, пісьмаў і іншых дакументаў. Гэтыя матэрыялы былі сабраны з 1551 г., калі Мікалай Радзівіл Чорны атрымаў права захоўвання ў Нясвіжы т.зв. Літоўскай метрыкі – дзяржаўнага архіва Вялікага княства Літоўскага. Некаторыя дакументы нясвіжскага архіва адносяцца да часоў Ягайлы. У архіве захоўваліся пісьмы Людовікаў XV і XVI, Карла XII, Багдана Хмяльніцкага, Пятра I і інш. Дакументы архіва напісаны на старабеларускай, польскай, лацінскай і іншых мовах[2].

Бібліятэкі, зборы кніг і гістарычных дакументаў знаходзіліся таксама ў маёнтках Сапегаў, Тышкевічаў, Агінскіх і іншых магнатаў. Іх сядзібы станавіліся цэнтрамі культурнага жыцця краю.

**Літаратура.** Распаўсюджанне Рэфармацыі, гуманістычнага светапогляду, кнігадрукавання спрыяла далейшаму развіццю беларускай літаратуры. Агульнадзяржаўныя летапісы і хронікі паступова саступаюць месца новым літаратурным відам і жанрам: публіцыстыцы, гісторыка-мемуарнай літаратуры, палітычнай сатыры, паэзіі.

---

[1] У гады першай сусветнай вайны бібліятэка Храптовіча была вывезена ў глыб Расіі, а затым перададзена Кіеўскаму універсітэту.

[2] У XX ст. нясвіжскія архіўныя матэрыялы трапілі ў розныя сховішчы. У гады Вялікай Айчыннай вайны архіў быў вывезены ва Усходнюю Прусію, адтуль яго вярнулі ў Мінск. Больш за 20 гадоў вялася рэстаўрацыя дакументаў. Гэта праца была завершана ў 1982 г. Сёння дакументы знаходзяцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску і Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве.





Выдатным творам беларускага летапісання XVII ст. была Баркулабаўская хроніка, якая з дэмакратычных пазіцый адлюстравала дзяржаўныя, ваенныя, грамадзянскія справы айчыны свайго часу.

Беларуская рэфармацыя і контррэфармацыя вылучылі плеяду публіцыстаў: С.Буднага, В.Цяпінскага, П.Скаргу, І.Пацея, М.Сматрыцкага, Х.Філалета, Л.Карповіча, братоў Зізаніяў, А.Філіповіча і інш.




*Сымон Будны*

**Сымон Будны** (1530 – 1593) упершыню ў сусветнай літаратуры выдаў Евангелле (1574) з прадмовай, каментарыямі і заўвагамі, у якіх спрабаваў даць радыкальную рацыяналістычную крытыку кніг Новага Запавету. Ён напісаў некалькі твораў, больш значным з якіх быў “Аб найгалоўнейшых палажэннях хрысціянскай веры” (1576 г., Лоск). У гэтым творы С.Будны адстойваў чалавечую прыроду Хрыста, выступаў супраць незямнога свету, замагільнага жыцця, Боскай Троіцы, з пазіцый антрапацэнтрызму тлумачыў маральны выбар чалавека: не страхам перад замагільным жыццём ці пасмяротнымі пакутамі, а розумам і свядомасцю. Будны лічыў, што без дапамогі царквы чалавек можа дасягнуць маральнай дасканаласці. Грамадска-палітычныя погляды Буднага былі памяркоўна-гуманістычныя. Ён прызнаваў прыватную ўласнасць, саслоўна-класавую няроўнасць, феадальную залежнасць сялян, але крытыкаваў феадальнае самавольства, беззаконне, захопніцкія войны, быў абаронцам верацярпімасці і інтэлектуальнай свабоды. Ідэі С.Буднага аб развіцці беларускай мовы, культуры былі адным з фактараў станаўлення нацыянальнай самасвядомасці, а яго эстэтычныя погляды насілі рацыянальны характар: цудоўнае тое, што ісціннае.

**Васіль Цяпінскі** (1540 – 1600) у прадмове да Евангелля, якое ён выдаў (каля 1570 г.) на беларускай мове, крытыкаваў палітыку акаталічвання беларускага народа, выступаў за развіццё беларускай мовы, перабудову асветы і набліжэнне яе да працоўных мас, быў прыхільнікам збліжэння славянскіх народаў, падкрэсліваў іх гістарычную і моўную роднасць, значэнне іх культурнай спадчыны. Дзейнасць В.Цяпінскага садзейнічала зараджэнню і кансалідацыі ў

32 Зак 5560



*Васіль Цяпінскі*

XVI – XVII стст. нацыянальна-культурнага і патрыятычнага руху на Беларусі.

Непрымірымым змагаром за веру продкаў і нацыянальныя традыцыі стаў прадстаўнік аратарскай прозы **Лявонцій Карповіч (1580–1620)** – беларускі пісьменнік-публіцыст, педагог, царкоўны дзеяч. Яго "Казанні" ("Казанне двое", Еўе, 1615; "Казанне на пахаванне князя В.В.Галіцына", Вільня, 1619; прадмова да кнігі Фікарыя "Вертаград душэўны", Вільня, 1620 і інш.) напісаны прыўзнятым стылем з выкарыстаннем сімволікі, вобразных параўнанняў. Яны аказвалі вялікае ўздзеянне на слухача і чытача.

Сапраўдным змагаром за праўду паўстае перад намі **Афанасій Філіповіч** праз свой "Дыярыуш", які, па сутнасці, з'яўляецца зборам твораў. Ён складаецца з аўтабіяграфічных замалёвак, прамоў, палемічных трактатаў, пасланняў, паданняў, багаслоўскіх разважанняў, рэляцый і г.д. Аўтар не імкнецца да вычварнасці стылю, славеснай эквілібрыстыкі, красамоўства. Сваю мэту ён бачыць у вобразным, шчырым і даходлівым апавяданні сучаснікам і нашчадкам пра складаны і супярэчлівы час у жыцці бацькаўшчыны. Большую частку твораў А.Філіповіч напісаў у варшаўскай турме, калі быў прыгавораны да пакарання смерцю. У сваіх творах ён ганьбіў знешнюю і ўнутраную палітыку, а таксама духоўных і свецкіх феадалаў за іх імкненне да раскошы, бязлітасна выкрываў заганы грамадства. Абаронца інтарэсаў сацыяльных нізоў беларускага і ўкраінскага народаў, прыхільнік і прапаведнік саюзу з рускім народам, А.Філіповіч выступіў са сваім палымяным словам напярэдадні нацыянальна-вызвалечай барацьбы беларускага і ўкраінскага народаў пад кіраўніцтвам Б.Хмяльніцкага.

Побач з "Дыярыушам" А.Філіповіча да мемуарнай літаратуры адносяцца "допісы" аршанскага старосты **Філона Кміты-Чарнабыльскага** (1530 – 1587), мемуары навагрудскага падсудка **Фёдара Еўлашоўскага** (1546 – 1616). Дзелавыя "допісы" Кміты-Чарнабыльскага членам рады Вялікага княства Літоўскага пра ваенныя і грамадска-палітычныя справы Маскоўскай Русі – сапраўдныя літаратурныя творы, дзе рэляцыі, паведамленні, разважанні аб лёсе





радзімы тонка спалучаюцца з мастацкімі дэталямі і фарбамі. Мемуары Еўлашоўскага, у якіх раскрываюцца дэталі Лівонскай вайны праз яе ўсведамленне і бачанне аднаго з удзельнікаў шляхецкай узаемаеднасці, дазваляюць нам адчуць атмасферу той цяжкай і трагічнай эпохі.



*Афанасій Філіповіч*

Адной з зорак старажытнай беларускай літаратуры з'яўляецца **Мялецій Смятрыцкі** (Максім Герасімавіч Сматрыцкі, 1572 – 1630). М.Сматрыцкі вучыўся на філасофскім факультэце Віленскай езуіцкай акадэміі, слухаў лекцыі ў Лейпцыгскім, Вітэнбергскім, Нюрнбергскім універсітэтах. Нам ён вядомы больш як аўтар славутай "Граматыкі", якую М.Ламаносаў назваў "вратамі" сваёй вучонасці. Сучаснікам Сматрыцкі быў больш знаёмы як пісьменнік-палеміст, пяру якога належыць каля 20 твораў самых розных накірункаў. Асобае месца сярод іх займае "Фрынас" (1610), у якім Сматрыцкі ад імя сімвалічнага вобраза мацеры-царквы звяртаецца да народа з заклікам еднасці ўсіх сіл у барацьбе з наступаючым каталіцызмам. Адступніцтва ад веры, ад праваслаўнай мацеры-царквы трактавалася Сматрыцкім як здрада радзіме. Ён быў таксама адным з перакладчыкаў заходнееўрапейскай літаратуры розных часоў і народаў – Гея, Пятраркі, Ратэрдамскага і інш.

Новай з'явай у беларускай літаратуры была палітычная сатыра – "Прамова Мялешкі", "Ліст да Абуховіча". Аўтары высмейваюць заганы грамадства: самавольства шляхты, бязглуздае перайманне чужаземных звычаяў. Ствараючы вобраз смаленскага ваяводы Піліпа Казіміра Абуховіча, ананімны аўтар выкрывае ваенна-палітычную бяздарнасць,прадажнасць, абыякавасць да лёсу радзімы не толькі Піліпа, але і яго продкаў: дзеда, бацькі. Такім чынам аўтар падкрэслівае слушную думку: прадажніцтва вядзе звычайна да дэградацыі не толькі аднаго роду, але і ўсяго грамадства. Гандлёвыя справы салдат цікавяць больш за воінскія абавязкі. Аўтар "Ліста" прыходзіць да вываду, што для айчыны было б лепш, каб такія, як Піліп, сядзелі б у сваёй Ліпе ці былі вайсковымі пісарамі, а не ваяводамі.

Складаны шлях прайшоў беларускі верш: ад любоўнай лірыкі, вершаванага эпасу, рытмічна арганізаванай прозы да кніжнай паэзіі,



*Мялецій Сматрыцкі*

якая вызначалася ідэйна-тэматычнай і жанрава-стылявой разнастайнасцю (эпіграмы, дэкламацыі, элегіі, сатырычныя і духоўныя вершы, грамадзянская лірыка). Ананімная лірычная паэма “Лямант на смерць Лявона Карповіча” ўслаўляе чалавека як носьбіта высокіх маральных якасцей, дзейснага, мужнага, самаахвярнага змагара за веру сваіх продкаў, узнімае яго да ўзроўню хрысціянскага святога. Заключная частка “Ляманта” мае выразны публіцыстычна-дыдактычны характар: паэт ад імя нябожчыка заклікае жыць сумленна і высакародна, свята берагчы нацыянальна-рэлігійныя традыцыі свайго народа. Твор вызначаецца глыбокай эмацыянальнасцю і пранікнёным лірызмам, яскравай паэтычна-вобразнай мовай. Яму ўласцівы некаторыя рысы барока: кантрастнасць, барочныя эпітэты, метафары, параўнанні і інш.

Важны ўклад у развіццё беларускай і рускай культуры зрабіў паэт і драматург, кнігавыдавец і грамадскі дзеяч **Сімяон Полацкі** (1629 – 1680). Сацыяльна-палітычны ідэал Сімяона Полацкага – моцная дзяржава на чале з “асветным манархам”, мэта якой – усталяваць у грамадстве “вечны мір” і “ўсеагульны дабрабыт” без расколу і мяцяжоў. Ён лічыў, што ўсё зло ў грамадстве ад неадукаванасці, невуцтва. Пашырэнне асветы выратуе грамадства ад усіх заган, усталюе поўную гармонію і мір. Сімяон Полацкі асуджаў багацце, праслаўляў нябесныя сілы і працу, прапаноўваў праграму прагрэсіўнай дзейнасці цара, прыдворных вяльмож і некаторых царкоўных дзеячаў. Ён апяваў беларускія землі, асабліва Полацк і Віцебск. Ён пішa п’есы на біблейскія тэмы: “Комедию притчи о блудном сыне” і “Трагедию о Навуходоносоре царе, о теле злате и о триех отроцех в пещи не сожженных”. Найбольш значнымі зборнікамі яго паэтычных твораў з’яўляюцца “Вертоград многоцветный” і “Рифмологион”.

**Тэатр і музыка.** Развіццё драматургіі выклікала да жыцця тэатр. Спачатку з’явіўся школьны тэатр, дзе перад пачаткам п’ес на гістарычныя і біблейскія тэмы, а таксама ў антрактах і пасля спектакляў разыгрываліся інтэрмедыі – пантамімы, танцы, кароценькія п’ескі або сцэнкі, найчасцей камічнага зместу. Школьныя п’есы пісаліся і выконваліся па пэўных правілах. Паводле інструкцыі 1647 г., на сцэне нельга было “есці, піць, тупаць нагамі, паказваць што-небудзь такое, што магло б выклікаць непрыемнае ўражанне ў акцёраў альбо гледачоў”. У адпаведнасці з віленскім прадпісаннем 1717 г. спектакль не мог працягвацца больш за тры гадзіны. Спачатку жаночыя ролі забараняліся наогул, а потым іх дазвалялі выконваць толькі мужчынам.







*Сімяон Полацкі*

Шырокае распаўсюджанне на Беларусі ў XVI ст. атрымаў тэатр лялек – батлейка. Сюжэты батлейкі былі заснаваны на біблейскай і евангельскай тэматыцы, а таксама бытавых матывах. Дзеянне адбывалася ў спецыяльна пабудаваным двухпавярховым доміку з вежачкай-мезанінам. На самым верхнім “узроўні” разыгрываліся сцэнкі са Святога Пісання пра Адама і Еву, нараджэнне Ісуса, на сярэднім – пра злачынства цара Ірада, а ў самым нізе – з народнага побыту. Пастаноўкі батлейкі суправаджала як вакальная, так і інструментальная музыка: псалмы і канты, народныя песні і танцы. Музычныя нумары пачыналі і завяршалі спектаклі, гучалі паміж сцэнамі, з’яўляліся своеасаблівымі інтэрмедыямі.

Важнай з’явай жыцця другой паловы XVIII ст. стаў прыгонны тэатр. Многія беларускія магнаты: Радзівілы, Храптовічы, Агінскія, Тышкевічы, Сапегі, Тызенгаўзы і інш., імкнучыся да раскошы, запрашалі для пабудовы сваіх маёнткаў і іх упрыгажэння лепшых айчынных і замежных дойлідаў, мастакоў, майстроў садова-паркавага мастацтва. У сваіх маёнтках яны ўтрымлівалі капэлы, аркестры, тэатры, а нярэдка і самі станавіліся літаратарамі, музыкантамі, кампазітарамі, як Мацей Радзівіл, Міхал Казімір Агінскі, Уршуля Радзівіл, Міхал Клеафас Агінскі, аўтар знакамітага паланеза “Развітанне з Радзімай” і інш.

У свецкай музыцы XVI – XVIII стст. найбольш характэрным жанрам быў кант: шматгалосая песня свецкага зместу. Вытокі канта – у старажытных гімнах і песнапеннях яшчэ дахрысціянскіх часоў, якія трапілі ў праваслаўную і каталіцкую музыку і знайшлі свой працяг у свецкіх песнапеннях. Разнастайныя па сваёй тэматыцы (філасофскія, павучальныя, пакаяльныя, жартоўныя, лірычныя, сатырычныя), канты набылі шырокае распаўсюджанне на Беларусі, Украіне і Расіі.

Значнае месца ў жыцці насельніцтва Беларусі займала царкоўная музыка. Да нашых часоў захаваліся помнікі праваслаўнай музыкі – зборы царкоўных гімнаў, ірмалоі XVI – XVIII стст. (Супрасльскі, Віцебскі, Жыровіцкі, Слуцкі, Мірскі і інш.).

Больш за чатыры стагоддзі таму ў Нясвіжскай друкарні быў надрукаваны "Канцыянал" – адзін з першых на Беларусі нотных зборнікаў, які змяшчаў больш за сотню песень (кантаў) з прыкладзенымі да іх нотамі. У 1594 г. "Канцыянал" быў перавыдадзены ў Вільні. У Нясвіжы была створана адна з першых на Беларусі майстэрня па вырабу музычных інструментаў, а таксама падручнік па харавых спевах. Яго напісаў каля 1794 г. мясцовы выкладчык Антон Варанец. Праз паўтара дзесяцігоддзя падручнік быў выдадзены ў Вільні на польскай мове пад назвай "Пачатак музыкі – як фігуральных, так і харавых спеваў" з дабаўленнем італьянска-польскага слоўніка музычных тэрмінаў.

Развіццё музычнай культуры дазволіла магнатам ствараць у сваіх маёнтках прыватныя капэлы. Самыя вялікія капэлы былі пры тэатрах: Нясвіжскім – Міхала Казіміра Радзівіла, Слонімскім – Міхала Казіміра Агінскага, Гродзенскім – Антонія Тызенгаўза і Шклоўскім – Сямёна Зорыча. Рэпертуар магнацкіх капэл складала модная на той час у Еўропе музыка: дывертысменты (устаўныя, пераважна вакальна-харэаграфічныя нумары ў драматычных, оперных і балетных спектаклях XVII –XVIII стст.), серэнады, танцы, а таксама сімфоніі, канцэрты, араторыі, кантаты. Дзейнічалі і народныя капэлы, якія часам запрашаліся на балі да паноў.

Побач з магнацкімі капэламі дзейнічалі аркестры Тышкевічаў у Свіслачы, Аляксандра і Казіміра Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне і інш. Аркестры беларускіх магнатаў часам былі буйнейшыя за вядомыя заходнееўрапейскія. Напрыклад, аркестр М.Агінскага налічваў 106 інструментаў, у той час як у аркестры, у якім працаваў славуты Ф.Гайдн (аўстрыйскі кампазітар XVIII ст., якому належаць 104 сімфоніі, больш за 20 опер, 14 мес і шмат іншых музычных твораў), было толькі 14 інструментаў. Існавалі ваенныя аркестры, якія звычайна складаліся з духавых інструментаў.

Высокі ўзровень музычнай культуры забяспечваў магчымасць пастаноўкі на сцэнах тэатраў такіх складаных музычных твораў, як опера і балет. Для падрыхтоўкі акцёраў оперы і балета на Беларусі існавала некалькі школ (у Слуцку, Нясвіжы, Слоніме). Спектаклі суправаджала капэла музыкантаў высокай кваліфікацыі (у асноўным немцы, чэхі, аўстрыйцы). Некаторыя спектаклі былі разлічаны на тэатральныя карціны: выхад на сцэну групы салдат, узяцце штурмам крэпасцей, фехтаванне, баталіі. У гэтых выпадках удзел у спектаклях прымалі кадэты, салдаты гарнізона.

Асабліва цікавым быў Слонімскі тэатр Міхала Казіміра Агінскага, які існаваў дваццаць гадоў (1771 – 1791). У тэатры працавалі прафесійныя італьянскія, нямецкія, польскія спевакі, прыгонны хор





і балет. Балетная трупа была падрыхтавана ў Слонімскай балетнай школе, спектаклі суправаджала капэла Агінскага. Збор нот, твораў, што выконваліся на розных сцэнах (філіялы тэатра існавалі ў Седліцах – Польшчы і Целяханах), налічваў 60 опер, 18 балетаў, 3 музычныя камедыі, 253 сімфоніі і больш за 460 іншых твораў (араторыі, арыі, музыка для дывертысментаў, асобных танцаў і г.д.). Рэпертуар тэатра складаўся з опер і балетаў італьянскіх кампазітараў, а таксама твораў М.К.Агінскага ("Зменены філосаф", "Елісейскія палі" і інш.). Сцэна тэатра дазваляла ставіць спектаклі барочнага стылю – з выхадам вялікай колькасці спевакоў, статыстаў, з паказам тэатралізаваных баталій коннікаў і водных феерый. Частка сцэны затаплялася вадой і па ёй плавалі лодкі. Тэхнічныя магчымасці сцэны дазвалялі паказваць адначасова два фантаны, якія асвятляліся бенгальскімі агнямі. Пры тэатры працаваў спецыяльны піратэхнік – майстар па феерверках.



*Міхал Агінскі*

Не менш цікавы і вядомы быў Нясвіжскі тэатр, звязаны з імем Францішкі Уршулі Радзівіл. Для свайго тэатра яна напісала 16 драматычных і оперных лібрэта, сярод якіх "Дасціпнае каханне", "Суддзі пазбаўленага розуму", "Каханне нараджаецца з пагляду" і інш. П'есы ставіліся ў спецыяльнай тэатральнай зале Нясвіжскага замка, у летняй рэзідэнцыі Радзівілаў Альбе, у "зялёным" тэатры і палацы пад назвай "Кансаляцыя", амфітэатр якой на прыродным узгорку быў разлічаны на тысячу глядачоў. Спачатку тэатр Радзівілаў з'яўляўся аматарскім: на сцэне выступалі члены княжацкай сям'і, сваякі, госці, выхаванцы кадэцкай школы. У другой палове XVIII ст. у тэатры ўсё часцей з'яўляліся іншаземцы-прафесіяналы і артысты з прыгонных сялян, якія атрымалі адпаведную адукацыю. Асабліва гэта ўзмацнілася пасля смерці Францішкі Уршулі Радзівіл, калі са сцэны зніклі драматычныя творы і перавага аддавалася операм і балетам. Ставіліся творы замежных і айчынных аўтараў. Напрыклад, музыку для аперэты "Агатка" і оперы "Войт альбанскага паселішча" напісаў кампазітар нямецкага паходжання Ян Давід Голанд (дырыжор нясвіжскага аркестра), вершаванае лібрэта – Мацей Радзівіл.

Акрамя тэатраў у Слоніме і Нясвіжы ў другой палове XVIII ст. прыгонныя і прыватныя тэатры працавалі ў Слуцку, Шклове, Магілёве, Чачэрску, Свіслачы, Плешчаніцах. Дзейнічаў таксама "плывучы тэатр" на баржах на Агінскім канале. Талія і Мельпамена – музы грэчаскай міфалогіі, якія апекавалі камедыю і трагедыю, натхнялі беларускіх артыстаў.

**Выяўленчае мастацтва.** Ідэі Адраджэння, а затым і барока праніклі ў майстэрні мастакоў. У беларускім жывапісе акрэсліліся два напрамкі. Першы – мастацтва, заснаванае на старажытнарускіх традыцыях; другі – жывапіс, які знаходзіўся пад уплывам заходнееўрапейскай мастацкай школы. Але і ў першым і ў другім напрамках адбываецца перапляценне візантыйскага і заходнееўрапейскага стыляў з мясцовай школай, захаванне мясцовых традыцый, выпрацоўка свайго ідэалу і мастацкіх прынцыпаў.

У выніку сінтэзу розных школ і напрамкаў склалася самабытная беларуская іканапісная школа, якой уласціва вернасць канону, сімвалізм выяўленчай мовы, характарнасць тыпажу, шырокае выкарыстанне этнаграфічных элементаў (узорыстасць, разнастайнасць арнаменту, у тым ліку і расійскага). У найбольш ранніх творах XVI ст. ("Маці Боская Адзігітрыя" са Случчыны, "Маці Боская Іерусалімская" з Брэстчыны) прыкметна спалучэнне асноўных рыс сярэдневяковага мастацтва з элементамі рэнесансу: светлы каларыт, аб'ём, лірычнасць. Пад уплывам Адраджэння з'яўляецца імкненне да перадачы аб'ёму, прасторы, прапарцыянальнасці чалавечых фігур і асяроддзя ("Нараджэнне Багародзіцы", "Апосталы Лука і Сымон", "Пакланенне вешчуноў" з Брэстчыны).

У XVIII ст. у іканапіс, як наогул у беларускае мастацтва, пранікае стыль барока ("Выбраныя святыя: Васіль Вялікі, Рыгор Багаслоў, Іаан Златавуст" з Брэстчыны, "Аўрамій і Меркурый Смаленскія" і інш.). У барочным іканапісе вялікая ўвага надавалася афармленню абкладам, вянцом, дэкарыроўцы тканінай, ляпным арнаментам і г.д. Можна з упэўненасцю гаварыць аб існаванні на Беларусі некалькіх іканапісных школ: магілёўскай, полацка-віцебскай, палескай, гродзенскай, слуцка-мінскай. Магілёўская школа, напрыклад, характарызавалася стрыманасцю жывапіснай палітры, некаторай прыглушанасцю, у той час як жывапісу палескай школы ў большай меры ўласціва колеравае гучанне, багацце палітры, а ў гродзенскай прыкметны ўплыў польскага жывапісу XVI – XVII стст. Але, нягледзячы на некаторае адрозненне, для ўсіх іх характэрны рысы, якія і складаюць беларускую іканапісную школу.

У канцы XVIII – пачатку XIX ст. беларускі іканапіс паступова страціў сваю адметнасць і перастаў існаваць як самабытная мастацкая школа.

Другім важным напрамкам быў манументальны жывапіс. У XVI ст. тут таксама прыкметны ўплыў рэнесанснага стылю – імкненне да перадачы аб'ёму, перспектывы, святлоценявой і колеравай мадэліроўкі. Яскравым прыкладам манументальнага жывапісу пераходнага перыяду з'яўляецца роспіс драўлянай царквы куцеінскага Богаяўленскага манастыра (каля Оршы). Шматфігурная кампазіцыя (38 сцэн) на біблейскія і евангельскія сюжэты пакрывала амаль усе сцены. І хаця яшчэ дамінуюць статычнасць і фрагментарнасць малюнка, ужо адчуваецца імкненне авалодаць тэхнікай перадачы руху, спробы адлюстраваць у кампазіцыі прастору і аб'ём. Цікавымі кампанентамі манументальнага жывапісу XVII ст. насычаны роспіс мураванага Богаяўленскага сабора ў Магілёве (1633 – 1636), Святадухаўскай царквы Тупічэўскага манастыра ў г.Мсціслаўлі (70 сцэн на біблейскія і евангельскія сюжэты).





Сапраўдным творам мастацтва ў манументальным жывапісе з'яўляецца роспіс Мікалаеўскай царквы ў Магілёве (1669 – 1672) – "Новазапаветная Троіца". Фігуры Бога-Айца і Бога-Сына размешчаны на сіне-блакітным фоне купала. Твары мадэліраваны пастэльнымі танамі з найтанчэйшымі нюансамі колеру. Адзенне персанажаў традыцыйна чырвона-карычневага, жоўтага і сіняга колеру, свабодныя складкі, светлапаветранае асяроддзе, кампазіцыя і іншыя асаблівасці "Новазапаветнай Троіцы" сведчаць аб высокіх мастацкіх каштоўнасцях помніка беларускага жывапісу.

З перамогай контррэфармацыі ў манументальным жывапісе распаўсюджваецца стыль барока. Яму характэрна прасторавасць, маляўнічасць, дынамізм кампазіцыі, багацце ўзору, натуралізм. У другой палове XVII ст. створаны буйныя фрэскавыя цыклы (Станіславаўскі касцёл у Магілёве, Успенскі касцёл кармелітаў у Мсціслаўлі, езуіцкі касцёл Францыска Ксаверыя ў Гродне).

Папулярным відам станковага жывапісу ў XVI – XVIII стст. становіцца партрэт. Стварающца своеасаблівыя родавыя галерэі (Канстанціна Тызенгаўза ў Паставах, пры Полацкім езуіцкім калегіуме, партрэтныя галерэі Тышкевічаў, Радзівілаў і інш.). У архіўным пераліку 1779 г. у Нясвіжскім замку налічвалася 984 творы мастацтва на палатне і дрэве. Сярод іх – партрэты Ягайлы і Льва Сапегі, Радзівілаў, гетманаў Казіміра Сапегі і Станіслава Кішкі і інш.[1]

Таленавітым мастаком і гравёрам XVI – пачатку XVII ст. з'яўляўся **Тамаш Макоўскі**, каморнік пры двары Радзівілаў, нейкі час узначальваў друкарню ў Нясвіжы. Па прапанове Мікалая Радзівіла Сіроткі ён 16 гадоў працаваў тапографам, географам, гісторыкам і мастаком, каб сабраць матэрыял і скласці поўную і дакладную карту Вялікага княства Літоўскага. У 1613 г. у Амстэрдаме карта Макоўскага была надрукавана на чатырох вялікіх аркушах. У дадатку да яе давалася падрабязнае апісанне Беларусі і Літвы: прыродныя багацці, навуковыя ўстановы Полацка і Нясвіжа, народныя звычаі, курныя

[1] Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. творы жывапісу Нясвіжскага замка трапілі ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР. У час Вялікай Айчыннай вайны яны былі вывезены гітлераўцамі, і толькі пасля перамогі частка іх у дрэнным стане вярнулася назад. У 60-я гады пачалася рэстаўрацыя твораў мастацтва з Нясвіжскага замка. У 1982 г. у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР была праведзена першая выстава пад назвай "Партрэты з Нясвіжа і Гродна".



*Мінская ратуша на плошчы Высокага рынку*
*(малюнак канца XVIII – пачатку XIX ст.)*

сялянскія хаты, раскоша магнацкіх палацаў, гандаль з Заходняй Еўропай праз Кролевец (цяпер Калінінград) і Рыгу. На карце Макоўскага пазначаны рэкі і азёры, гарады, цэнтры ваяводстваў, рэзідэнцыі епіскапаў і мітрапалітаў. Яна неаднаразова на працягу XVII ст. перавыдавалася ў Амстэрдаме на лацінскай і французскай мовах (зараз карта захоўваецца ва універсітэцкай бібліятэцы г. Упсала ў Швецыі).

Тамаш Макоўскі з'яўляецца аўтарам гравюр з краявідамі Вільні, Клецка, Трокаў, Смаленска і іншых старажытных гарадоў. Ён ілюстраваў таксама многія кнігі. Напрыклад, кніга К.Дарагастайскага пра конегадоўлю "Гіпіка" выдадзена ў Кракаве ў 1603 г. з 50 гравюрамі Макоўскага, на якіх коні, частка збруі адлюстраваны на фоне замкаў, гарадоў і наваколля. У кнізе "Вандроўкі князя Мікалая Радзівіла Сіроткі ў Іерусалім", надрукаванай у Брунсбергу на лацінскай мове, змешчаны партрэт падарожніка, выгравіраваны Макоўскім. Серыя гравюр Т.Макоўскага "Асада Смаленска" прысвечана падзеям 1609 – 1611 гг., калі пад кіраўніцтвам ваяводы М.Шэіна рускае войска і насельніцтва абаранялі горад на працягу 20 месяцаў.

Шматлікія творы выяўленчага мастацтва пакінулі бацька і сын Гескія, якія жылі і працавалі ў XVIII ст. Яны рэстаўрыравалі фрэскі Нясвіжскага езуіцкага касцёла, якія захаваліся да нашага часу. Бацька, Ксаверы Даменік, стварыў шэраг партрэтаў галерэі Радзівілаў. Лічыцца, што ён з'яўляецца аўтарам карціны "Тайная вячэра" для галоўнага алтара Нясвіжскага фарнага касцёла. Сын, Юзаф Ксаверы, напісаў некалькі партрэтаў для нясвіжскага збору, маляваў абразы для Стаўбцоўскага дамініканскага касцёла. Яго пэндзлю належыць партрэт караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

У канцы XVIII ст. барочныя творы жывапісу трацяць свае лепшыя якасці. Псіхалагізм замяняецца знешняй афектацыяй стану, а рэалізм – бутафорнасцю. Барока саступае месца новаму стылю ў выяўленчым мастацтве – класіцызму.

**Архітэктура.** У XVI – першай палове XVII ст. ускладнялася планіроўка і архітэктура беларускіх гарадоў, працягвалася стварэнне





абарончых і культавых збудаванняў у стылі барока[1]. Як і раней, беларускі феадальны горад меў тыповую забудову: умацаваны замак – рэзідэнцыя феадала, князя альбо вялікакняжацкага намесніка і размешчаны вакол замка гандлёва-рамесны пасад пад аховай замкавых сцен. Замак з'яўляўся цэнтрам горада і галоўнай яго архітэктурна-будаўнічай дамінантай.



*Мінскі касцёл бернардзінак*

Не быў выключэннем з гэтага правіла і Мінск, у якім у другой палове XVI ст. вызначаліся пяць асноўных раёнаў забудовы:

1) **Замчышча**, якое існавала ў раёне цяперашняй плошчы 8 Сакавіка. Мінскі замак быў пабудаваны з дрэва, абгароджаны высокім земляным валам (месцамі да 10 м і вышэй) і апаясаны глыбокім ровам, напоўненым вадой. Замак часта гарэў, але зноў адбудоўваўся;

2) **Нізкі рынак, альбо Стары (Нізкі) горад**, – цэнтральнае гандлёвае месца, якое знаходзілася ў балоцістай мясціне, перад паўднёвай сцяной замка, на беразе вусця р.Нямігі, дзе цяпер прыпынак транспарту на плошчы 8 Сакавіка і дзе праходзіць вуліца ад праспекта Машэрава да Свіслачы і знаходзіцца Петрапаўлаўская царква;

3) **Высокі рынак, альбо Верхні горад**, размяшчаўся там, дзе сёння плошча Свабоды, вуліцы Бакуніна, Герцэна, Інтэрнацыянальная, Рэвалюцыйная і інш. Архітэктурны ансамбль рынка ўключаў гандлёвую плошчу, крамы, Казьмадзям'янаўскі кляштар, Святадухаўскую драўляную царкву, ратушу;

4) **Траецкае прадмесце** знаходзілася на левым беразе р.Свіслач (раён вуліц Старавіленскай, Багдановіча, Янкі Купалы), насупраць

[1] Для архітэктуры барока былі характэрны крывалінейныя абрысы і ўскладненыя планы будынкаў, анфіладныя кампазіцыі інтэр'ераў (размяшчэнне сумежных пакояў у інтэр'еры, калі дзверы знаходзяцца па адной прамой лініі і ўтвараюць скразны праход), высокія вальмавыя дахі (чатырохспадны дах, у якога спады па доўгім баку будынка маюць форму трапецыі, а па кароткім – трохвугольніка), фігурныя цэльныя і разарваныя франтоны, валюты (пластычныя аздабленні ў выглядзе спіральных завіткоў), пучкі калон і багатая лепка на фасадах, хвалістасць плоскасці сцен, пілястры (вертыкальныя выступы ў сцяне ў выглядзе чатырохвугольнага слупа, апрацаванага ў форме калоны, г.зн. з базай (асновай), ствалом, капітэллю (завяршэннем), канялюрамі (падоўжанымі жалабкамі), пышныя парталы (уваход у будынак), адзіны кампазіцыйны цэнтр.



*Мінскі езуіцкі касцёл і гарадская вежа з гадзіннікам на Саборнай плошчы*

замка і Нізкага рынку. На тэрыторыі прадмесця знаходзіліся рынак з гандлёвай плошчай, крамы, жылыя кварталы;

5) **Татарскае (Ракаўскае) прадмесце** было заселена палоннымі крымскімі татарамі і знаходзілася ў раёне цяперашніх вуліц Астроўскага, Вызвалення, Дзімітрава, а таксама на месцы, дзе сёння размешчаны Дом кнігі і гасцініца "Юбілейная". Тэрыторыя паміж Татарскай слабадой і Свіслаччу называлася Татарскімі агародамі.

Да XVII ст. Мінск быў драўляны. Інтэнсіўнае мураванае будаўніцтва ў Мінску ўзнікла ў пачатку XVII ст., што было звязана з абвастрэннем сацыяльна-палітычнага і рэлігійнага становішча ўнутры Вялікага княства Літоўскага ў сувязі з заключэннем Брэсцкай царкоўнай уніі і наступленнем контррэфармацыі. Праваслаўныя, католікі і уніяты імкнуліся засведчыць сваю сілу і прысутнасць у горадзе шляхам пабудовы манументальных мураваных храмаў і кляштараў. Ідэйнае і рэлігійнае саперніцтва стымулявала мураванае будаўніцтва. У першай палове XVII ст. на плошчы Высокага рынку, на месцы драўлянай Святадухаўскай царквы, быў пабудаваны базыльянскі кляштар (у змененым выглядзе захаваўся да нашых дзён – у ім да нядаўняга часу размяшчаўся Белсаўпраф), а побач з ім (цяпер вул. Энгельса) – дамініканскі касцёл і кляштар. У сярэдзіне XVII ст. насупраць будынка базыльянскага мужчынскага кляштара быў пабудаваны базыльянскі жаночы кляштар. Будынкі мінскіх базыльян уяўлялі сабой адзіны архітэктурны комплекс з кампазіцыйным цэнтрам – царквой Святога Духа. На Высокім рынку былі пабудаваны таксама касцёл і







*Панарама г. Нясвіжа*

кляштар бернардзінцаў (да нядаўняга часу ў гэтых будынках размяшчаўся архіў), касцёл і кляштар бернардзінак (зараз – гэта праваслаўны сабор на плошчы Свабоды, у кляштарных будынках – жылыя дамы).

У XVII ст. у Мінску былі пабудаваны касцёл і кляштар бенедыкцінак, якія знаходзіліся на старой Кальварыі (Кальварыяй называліся каталіцкія могілкі, якія тады знаходзіліся ў раёне цяперашняй вуліцы Камсамольскай на адрэзку паміж вуліцай Інтэрнацыянальнай і праспектам Ф.Скарыны). У 1612 – 1613 гг. у раёне вуліцы Ракаўскай, ля Нямігі, на сродкі і стараннем праваслаўнай шляхты і гараджан пачалося будаўніцтва мураванай Петрапаўлаўскай царквы і манастыра. Праз некалькі гадоў царква і манастыр былі пабудаваны (царква існуе і сёння). У горадзе вялося таксама будаўніцтва асабнякоў багатых гараджан і крамаў.

Да сярэдзіны XVIII ст. быў архітэктурна закончаны ансамбль Саборнай плошчы Верхняга горада. У 1709 – 1710 гг. на заходнім баку гэтай плошчы пабудаваны езуіцкі касцёл, кляштар і мураваныя будынкі калегіума. У 1750 г. з правага боку касцёла была вымуравана ў стылі барока, як і касцёл, трох'ярусная гарадская вежа з гадзіннікам (зараз яна не існуе). Кафедральны касцёл быў часткова перабудаваны ў 1951 г. і ў ім размяшчалася спартыўнае таварыства "Спартак" (цяпер адноўлены як касцёл).

Галоўнай архітэктурна-будаўнічай дамінантай Нясвіжа з'яўляўся замак, заснаваны ў 1583 г. на месцы створанага раней драўлянага



*Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс*

замка. Мікалай Радзівіл Чорны ў 1547 г. перабудаваў драўляны замак. Яго сын і наследнік Мікалай Крыштоф Радзівіл, па мянушцы Сіротка, пасля падарожжа ў Сірыю, Палесціну і Егіпет распачаў у Нясвіжы вялікае будаўніцтва. Ён запрасіў выдатнага архітэктара Яна Марыю Бернардоні, па праектах якога былі створаны цудоўныя збудаванні ў Кракаве, Калішы і Любліне. Але менавіта ў Нясвіжы таленавіты італьянец пакінуў свае лепшыя творы — замак, касцёл і калегіум езуітаў.

**Нясвіжскі замак** пабудаваны па староітальянскай абарончай сістэме, паводле якой каменная сцяна замянялася каменным валам, а вежы пераўтвараліся ў больш нізкія бастыёны, куды ставілі гарматы для абстрэлу перадполля за ровам. Па версе вала ішла дарога, абароненая брустверам. З вонкавага боку рова знаходзілася дадатковая дарога — для перамяшчэння стралковых атрадаў, якія абаранялі падыходы да крэпасці. Замак акружала з усіх бакоў вада азёр і каналаў. Трапіць на яго тэрыторыю можна было толькі па драўляным мосце, які разбіралі пры пагрозе варожага нападзення. Вароты замка былі двухпавярховыя з дазорнай вежай. Другі паверх злучаўся з валам. У замку знаходзіліся атрады прыватнай арміі Радзівілаў.

Галоўны франтон замка Радзівілы ўпрыгожылі сваім гербам і ваеннымі эмблемамі з пышным арнаментам у стылі барока. Арка ўязной вежы вяла ва ўнутраны парадны двор, дзе каменныя пабудовы размяшчаліся па перыметры своеасаблівага кола. Цэнтральны корпус займалі самі Радзівілы. Злева ад яго знаходзіўся трохпавярховы казарменны дом з высокай дазорнай вежай, справа — двухпавярховае гаспадарчае збудаванне. Другі двор — конны, альбо гаспадарчы, на ім у XVII — пачатку XIX ст. размяшчаліся падземная стайня і яма-бункер для мядзведзяў. Трэці двор быў зусім маленькі. Ён злучаўся з навакольным светам сакрэтнымі пераходамі. Мясцовыя легенды сведчаць аб тым, што падземныя хады ішлі да Альбы (летняй рэзідэнцыі Радзівілаў з каналамі і сажалкамі, на якіх плаваў княжацкі флот) і нават Мірскага замка.

У 1706 г. Нясвіжскі замак быў разбураны шведамі. У 1726 г. яго адбудавалі ў стылі барока. Запрошаны для гэтага архітэктар К.Жданові́ч пачаў насыпаць новыя валы. У XVIII ст. быў перабудаваны галоўны корпус палаца. Стварэннем аднаго з лепшых на Беларусі ландшафтных паркаў завяршалася фарміраванне палацава-паркавага ансамбля. З таго часу ў асноўных абрысах гэты ансамбль захаваўся да нашых дзён.

У другой палове XVI — першай палове XVII ст. ролю абарончых збудаванняў выконвалі Гальшанскі, Глускі, Заслаўскі, Клецкі,







*Касцёл бернардзінцаў у Гродне*

Койданаўскі, Любчанскі, Лепельскі, Ляхавіцкі, Магілёўскі, Мазырскі, Шклоўскі замкі, Верхні (Горны) і Ніжні (Дольны) замкі Старога Слуцка і Новы замак Новага Слуцка, замкі Старога і Новага Быхава, замак у в.Смаляны Аршанскага раёна, дом-крэпасць у в.Гайцюнішкі Воранаўскага раёна, комплекс замкавых умацаванняў у Копысі, Дуброўне, Друі, Іказні і інш.

Працягвалася культавае будаўніцтва. У другой палове XVI — пачатку XVII ст. былі створаны Троіцкі касцёл у в.Чарнаўчыцы (Брэсцкі р-н), Успенская царква і Петрапаўлаўскі касцёл у в.Новы Свержань і Петрапаўлаўскі касцёл у в.Дзераўная (Стаўбцоўскі р-н), фарны[1] касцёл (фара Вітаўта) у Гродне, касцёл Ушэсця Прасвятой Багародзіцы ў Магілёве, касцёл у в.Гальшаны (Ашмянскі р-н), кальвінскія зборы ў Смаргоні, в.Асташына (Навагрудскі р-н) і ў в.Кухцічы (Уздзенскі р-н).

У 1587 — 1593 гг. быў пабудаваны **Нясвіжскі фарны касцёл** — трохнефавая крыжова-купальная базіліка з адной выцягнутай апсідай, па баках якой узведзены двухпавярховыя сакрысціі (памяшканні, прызначаныя для захавання культавага начыння, адзення і, магчыма, кляштарнай казны). Цэнтральны высокі неф, ніжэйшыя бакавыя, алтарная апсіда, трансепт[2], купал са светлавым ліхтаром, дзве бакавыя каплічкі — вось часткі, з якіх складаецца прасторавая сфера храма. Даследчыкі адносяць Нясвіжскі фарны касцёл разам з аналагічным у Калішы да першых помнікаў барока на тэрыторыі Рэчы Паспалітай: галоўны фасад мае цэнтральную вось сіметрыі, плоскія пілястры размешчаны ў два ярусы. Фасад касцёла быў атынкаваны і пабелены, у яго нішах размешчаны статуі святых. Сярод роспісаў храма налічваецца звыш 40 кампазіцый, сярод якіх "Тайная вячэра", дзе

[1] Назва "фарны" абазначае "прыходскі". Магчыма, гэтая назва звязана з востравам Фарас каля Александрыі, дзе ў III ст. да н.э. быў пабудаваны маяк, адзін з сямі цудаў свету. Маяк паказваў караблям дарогу ў тумане, а вера, на думку католікаў, паказвае ім сапраўдную дарогу да Бога.

[2] *Трансепт* — у еўрапейскай царкоўнай архітэктуры папярэчны неф або некалькі нефаў, якія перасякаюць прадольны аб'ём у крыжападобных па плану будынках.



*Касцёл і манастыр брыгітак у Гродне*

Хрыстос адкрыў апосталам тайну сваёй ахвяры. У касцёле захаваўся старажытны арган, размешчаны на галерэі. У паўпадвальным памяшканні храма, перакрытым масіўнымі скляпеннямі, знаходзіцца магільны склеп роду Радзівілаў. Касцёл дзейнічае і сёння.

Стыль барока, запазычаны з Італіі, яшчэ доўга спалучаўся ў мясцовым дойлідстве з элементамі готыкі і рэнесансу. Так, касцёлы бернардзінцаў у Гродне (1595 – 1618) і Іўі (каля 1600 г.) побач з плоскімі барочнымі фасадамі мелі гатычныя шматгранныя апсіды, умацаваныя контрфорсамі. Мікалаеўскі касцёл у Міры (1599 – 1605) – трохнефавая базіліка з трансептам, цэнтральны неф якой завяршае шмат'ярусная рэнесансная вежа, з двух бакоў да яе прымыкаюць невялікія круглыя бакавыя вежы з вітымі ўсходамі, якія кампазіцыйна завяршаюць бакавыя нефы.

Ранні этап станаўлення беларускага барока завяршыўся фарміраваннем характэрнага базілікальнага аднаапсіднага тыпу храма з двухвежавым фасадам: касцёл у Дзятлаве (1624), касцёл брыгітак у Гродне (1642 – 1656), касцёл у Вішневе каля Валожына (1637 – 1641) і інш.

Але хутка на Беларусі будуюцца касцёлы з бязвежавымі галоўнымі фасадамі, дзе канцэнтраваліся асноўныя сродкі выразнасці, што, як вядома, было характэрна для італьянскага барока (касцёлы бернардзінцаў і францысканцаў у Гродне, дамініканцаў у Мінску і Навагрудку і інш.).

Позняму беларускаму барока побач з надзвычайнай маляўнічасцю і пластычнасцю, багаццем святлаценю ўласцівы стромкасць і лёгкасць, хвалістыя абрысы вежаў і франтонаў. У мастацтвазнаўстве яно атрымала назву "віленскае барока". Найбольш выразна рысы позняга беларускага барока выявіліся ў культавых пабудовах уніятаў XVIII ст. Сафійскі сабор у Полацку (перабудаваны ў 1738 – 1750 гг.), цэрквы і манастыры ў Беразвеччы (каля Глыбокага), Барунах (каля Ашмян), Талачыне, Богаяўленская і Крыжаўзвіжанская цэрквы ў Жыровічах (каля Слоніма), Васкрасенская царква ў Віцебску і інш. У меншай ступені характарыстыкі "віленскага барока" знайшлі ўвасабленне ў







*Касцёл і манастыр францысканцаў у Гродне*



*Богаяўленская царква Жыровіцкага манастыра*

каталіцкім будаўніцтве другой паловы XVIII ст.: касцёлы ў Слоніме, Лужках і Германавічах (каля Шаркаўшчыны), касцёлы дамініканцаў у Смалянах (каля Оршы) і Дунілавічах (каля Паставаў).

Да ліку пабудоў грамадзянскага прызначэння адносяцца адміністрацыйныя і гаспадарчыя будынкі. З увядзеннем гарадскога самакіравання на аснове магдэбургскага права на рыначных плошчах, побач з крамамі і гасціннымі дварамі, будаваліся ратушы розных памераў і планіровкі. Пераважалі ратушы са шмат'яруснымі вежамі, завершанымі разнастайнымі купаламі ці шпілямі. Частка памяшканняў ратушы (падвалы, першыя паверхі) адводзілася пад хлебныя крамы, склады тавараў прыезджых купцоў, памяшканні для апрацоўкі сукнаў, у іх хавалі гарадскія вагі і бочкі, якімі мералі збожжа ("бочка мерная"). У ратушы знаходзіліся канцылярыя самакіравання, гарадская казна, архіў з кнігамі адміністрацыйных прадпісанняў рады і яе судовых рашэнняў, граматы з прывілеямі, выдадзенымі гораду. Найбольш вядомымі з'яўляюцца будынкі Мінскай, Нясвіжскай, Гродзенскай, Віцебскай, Магілёўскай, Слонімскай, Чавускай, Чачэрскай і Шклоўскай ратуш. Большасць гэтых будынкаў не захавалася.

Важнае месца ў беларускай архітэктуры займалі будынкі навучальных устаноў. Нясвіжскі езуіцкі калегіум быў пабудаваны ў канцы



*Крыжаўзвіжанская царква Жыровіцкага манастыра*

XVI ст. На яго першым паверсе размяшчаліся школа, гасцёўня, аптэка і друкарня. Відавочна, на першым паверсе ў т.зв. канвікце (бурсе) жылі вучні. На другім паверсе знаходзіліся келлі манахаў, капліца, апартаменты рэктара. Парадныя пакоі былі распісаны фрэскамі. Над галоўным уваходам знаходзілася вежа, а на ёй – гадзіннік і званы. Мураваныя будынкі калегіума мінскіх езуітаў мясціліся на Саборнай плошчы (у адным з іх пасля перабудовы ў 1968 г. у чатырохпавярховы гмах размяшчалася сярэдняя спецыяльная музычная школа).

Ствараліся таксама выдатныя палацавыя ансамблі, якія спалучалі розныя стылявыя плыні – барока, ракако, класіцызм. Для палацавых пабудоў характэрна спецыфічная кампазіцыя з парадным дваром, анфіладнай планіроўкай, багатай дэкаратыўнай апрацоўкай фасада і інтэр'ера. Іх веліч і прыгажосць дапаўнялі паркавыя ансамблі. Магнацкія рэзідэнцыі сапернічалі паміж сабой, а часам і з каралеўскімі палацамі ў пышнасці архітэктуры, аксесуарах іх унутранага ўбрання. Галерэю палацаў гэтага перыяду складаюць рэзідэнцыі буйных магнатаў: Агінскіх у Слоніме, Чартарыйскіх у Воўчыне (Камянецкі р-н), Радзівілаў у Нясвіжы і Дзятлаве, Тызенгаўза ў Гродне і інш.

**Палац Тызенгаўза ў Гродне** быў пабудаваны ў канцы XVIII ст. (1760 – 1770) архітэктарамі Ю.Мёзерам (нямецкі архітэктар на службе ў Тызенгаўза) і італьянцам Дж.Сакам (прадстаўнік архітэктуры барока і класіцызму, прыдворны архітэктар графа А.Тызенгаўза, а потым галоўны архітэктар каралеўскіх мануфактур у ВКЛ). Палац размяшчаўся на плошчы, да якой быў павернуты галоўным фасадам. Гэта аднапавярховы мураваны будынак, П-падобны ў плане, накрыты высокім дахам з невялікімі мансардамі ў цэнтры бакавых крылаў. Будынак упрыгожваў бельведэр – круглая, авальная пабудова, шматгранная ў плане, з зашклёнымі ці адкрытымі праёмамі, завершаная купалам і скульптурнай выявай Цэрэры над галоўным уваходам. Зялёны колер сцен, белыя ляпныя дэталі фасада добра спалучаліся з чырвоным колерам даху.







*Васкрасенская царква (справа) і касцёл бернардзінцаў (злева) у Віцебску на Рыначнай плошчы*

Планіроўка палаца была змешанай – у цэнтральнай частцы анфіладная, а ў крылах – калідорная. Парадныя залы былі аздоблены плафонамі з размалёўкай і мармуровымі разнымі камінамі. Да паўднёва-ўсходняга боку палаца быў прыбудаваны тэатр Тызенгаўза. З гэтага ж боку палаца прафесарам Ж.Э.Жыліберам з Ліёна быў створаны батанічны сад, які па разнастайнасці, рэдкасці і колькасці відаў раслін не саступаў лепшым садам Еўропы. Пасля далучэння Беларусі да Расіі з пачатку XIX ст. ён стаў рэзідэнцыяй губернатара.

У Слоніме аднапавярховы **палац Агінскіх** налічваў 116 пакояў і залаў.

**У Нясвіжскім палацава-паркавым ансамблі Радзівілаў** мелася больш за 300 пакояў і 12 вялікіх залаў. Самымі багатымі скарбамі былі напоўнены Каралеўская, Залатая, Мармуровая, Гетманская, Рыцарская, Паляўнічая і іншыя залы. Каменныя лесвіцы, упрыгожаныя меднымі парэнчамі, вялізныя прыхожыя, завешаныя старадаўнімі карцінамі, партрэтамі гетманаў Радзівілаў, дыванамі і габеленамі, паркеты з чырвонага, чорнага і лімоннага дрэва, багатая мэбля, зброя, упрыгожаная інкрустацыяй золатам і серабром, маршальскія жэзлы, гетманскія булавы, поўныя камплекты рыцарскіх даспехаў, скульптуры з мармуру, сабранага з усяго свету, васковыя



*Будынак Віцебскай ратушы*

фігуры гістарычных асоб, скульптуры 12 апосталаў у рост чалавека, выкананыя з золата і серабра, кованыя срэбныя сталы, падсвечнікі больш чым метровай вышыні з каштоўных металаў, сярэбраны коўш "вагой 82 залатнікі, вышыні 5 вяршкоў", пазалочаныя балея і рукамыйнік, старадаўні фарфор, фамільнае золата і серабро – гэтыя і многія іншыя гістарычныя і мастацкія каштоўнасці Радзівілаў былі створаны не адным пакаленнем беларусаў, большасць з якіх за сваю працу на паноў мелі "лапці, торбу, хлеб з мякінай, цемру курнай хаты...". Паводле слоў пісьменніка У.Сыракомлі, які працаваў ва ўпраўленні гаспадаркай Радзівілаў, сяляне плацілі сваім гаспадарам за ўсё: за карыстанне зямлёй, за лес, за пчол, за рыбу, а магчыма, "і за само паветра".

Другая палова XVIII ст. – час росквіту дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на беларускіх землях. Сярод выдатных дасягненняў майстроў: посуд урэцкай і налібоцкай шкляных мануфактур, мірскія і слуцкія дываны, карэліцкія габелены і сусветна-вядомыя слуцкія паясы, што выраблялiся ў радзівілаўскай "персіярні" пад кіраўніцтвам Яна Маджарскага.

Мануфактура ў Слуцку па вытворчасці паясоў была заснавана па загаду князя Міхала Казіміра Радзівіла ў канцы XVI ст.[1] Слуцкія паясы, вытканыя з шаўковых, залатых і сярэбраных нітак, упрыгожваліся ўзорным шляком і беларускім раслінным арнаментам з кветак слуцкага краю – незабудак, валошкаў і інш. Арнамент амаль ніколі не паўтараўся. Лепшыя майстры ўмелі рабіць двух- і чатырохбаковыя паясы. На кожным баку быў свой малюнак. Адзін і той жа пояс выкарыстоўвалі як будзённы, святочны, вясельны і жалобны. Паводле падлікаў даследчыкаў, усяго было выраблена каля 10 тыс. унікальных, непаўторных слуцкіх паясоў.

Такія асноўныя накірункі развіцця культуры на беларускіх землях у другой палове XVI – XVIII стст.

[1] У 1844 г. мануфактура па вытворчасці слуцкіх паясоў была закрыта. Слава аб паясах ішла па ўсім свеце. Іх паказвалі ў музеях Лондана, Нью-Йорка, Парыжа, Амстэрдама, Варшавы і іншых гарадоў. Вялікі збор паясоў у Маскоўскім гістарычным музеі, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Вільнюсе, Чарнігаве. Да 1939 г. вялікі збор слуцкіх паясоў захоўваўся ў замку Радзівілаў у Нясвіжы. Перад Вялікай Айчыннай вайной яны былі перададзены ў Мінск і зніклі адтуль пасля захопу сталіцы Савецкай Беларусі нямецка-фашысцкімі войскамі.





# ВЫВАДЫ

1. Да другой паловы XVI ст. выспелі ўмовы для больш цеснага дзяржаўнага аб'яднання Вялікага княства Літоўскага з Польшчай. Першая група прычын гэтага аб'яднання звязана са знешнепалітычнымі абставінамі. Саперніцтва паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім Маскоўскім княствам за славянскія землі вылілася ў першай палове XVI ст. у цэлы шэраг руска-літоўскіх войнаў, у выніку якіх ВКЛ страціла 1/4 сваёй тэрыторыі. З 1500 па 1569 г. у межы Вялікага княства Літоўскага 45 разоў урываліся полчышчы крымскага хана, у тым ліку 10 разоў спустошалі тэрыторыю Беларусі. Барацьба ВКЛ, Польшчы і Рускай дзяржавы за Лівонію прывяла да працяглай Лівонскай вайны (1558 – 1583). Каб больш паспяхова супрацьстаяць агрэсіі, польскія паны прапанавалі ВКЛ аб'яднацца ў адзінай дзяржаве пад эгідай Польшчы. Другая група прычын звязана з унутрыпалітычным развіццём ВКЛ. Сярэдняя і дробная шляхта, незадаволеная ўладай вялікага князя літоўскага і магнатаў, лічыла прывілеі польскай шляхты большымі за свае, а таму актыўна выступала за аб'яднанне з Польшчай з тым, каб атрымаць у новай дзяржаве яшчэ больш прывілеяў. Трэцяя група прычын носіць дынастычны характар. Пасля трох шлюбаў у польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста не было нашчадкаў. Ён вырашыў ажаніцца чацвёрты раз, але па каталіцкаму абраду гэта можна было зрабіць толькі з дазволу папы рымскага. Жыгімонт II Аўгуст пачаў выслужвацца перад Ватыканам і выконваць любыя загады польскіх магнатаў і каталіцкага духавенства.

2. Люблінская унія, гвалтам навязаная Вялікаму княству Літоўскаму палякамі на чале з Жыгімонтам II Аўгустам на Люблінскім сейме 1569 г. пасля анексіі і далучэння большасці тэрыторыі княства да Польскага каралеўства (Падляшша, Валынь, Падолія, Кіеўшчына), прадугледжвала інкарпарацыю рэштак Вялікага княства Літоўскага ў польскую дзяржаву пад назвай "Рэч Паспалітая". На чале гэтай дзяржавы стаялі выбарны польскі кароль (у яго карону ўпісваліся тытулы: вялікі князь літоўскі, рускі, прускі і г.д.) і агульны вышэйшы заканадаўчы орган – каронны (г.зн. польскі) сейм, у якім голас "ліцвіна" (г.зн. жыхара ВКЛ) заглушваўся пераважнай большасцю каронных паслоў.

3. У выніку жорсткай барацьбы на Люблінскім сейме і пасля Любліна за незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць кіруючым колам Вялікага княства Літоўскага ўдалося захаваць рэшткі тэрыторыі былой дзяржавы, а таксама рэшткі дзяржаўнасці і аўтаномію ў межах Рэчы Паспалітай. Абедзве былыя самастойныя дзяржавы захавалі свае ранейшыя назвы – Вялікае княства Літоўскае і Польская Карона, а таксама свае законы, урады і іншыя органы выканаўчай улады, судовыя сістэмы, мясцовае самакіраванне, фінансы, узброеныя сілы і

33. Зак. 5560

да канца XVII ст. свае дзяржаўныя мовы. Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588 г. чужаземцам, г.зн. этнічным палякам, польскім магнатам, забаранялася на тэрыторыі княства купляць зямлю і маёмасць, а таксама займаць дзяржаўныя пасады. Гэта дае падставу некаторым даследчыкам лічыць, што Рэч Паспалітая на першым этапе свайго існавання з'яўлялася канфедэратыўнай дзяржавай. Іншыя сцвярджаюць, што Рэч Паспалітая была федэратыўнай дзяржавай, у якой ВКЛ і Польшча мелі адносную самастойнасць, абмежаваную дзейнасцю адзінага польскага караля і адзінага органа заканадаўчай улады – сейма Рэчы Паспалітай, а таксама засіллем польскіх паноў і пашырэннем польскага ўплыву на беларускіх і літоўскіх землях у канцы XVII – XVIII стст.

4. Магнаты Вялікага княства Літоўскага пры спрыяльных абставінах змагаліся за дасягненне іх княствам поўнай самастойнасці, рабілі змовы з мэтай адарваць ВКЛ ад Рэчы Паспалітай. У перыяд барацьбы ўкраінскага народа супраць польскіх паноў у сярэдзіне XVII ст. Януш Радзівіл вёў перапіску з Багданам Хмяльніцкім наконт атрымання ВКЛ поўнай самастойнасці. Такія ж дзеянні ўчыняліся ў перыяд Паўночнай вайны Расіі са Швецыяй (1700 – 1721) і падзелаў Рэчы Паспалітай 1772, 1793 і 1795 гг. Вялікае княства Літоўскае было ліквідавана канстытуцыяй Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 г. У 1811 – 1812 гг. М.К.Агінскім і іншымі магнатамі быў распрацаваны праект аднаўлення Вялікага княства Літоўскага. Пасля захопу Вільні 28 чэрвеня 1812 г. французскай арміяй па загаду Напалеона быў утвораны часовы ўрад пад назвай "Камісія Вялікага княства Літоўскага" як орган адміністрацыйнага кіравання акупіраванай тэрыторыяй Літвы і Беларусі.

5. У выніку Брэсцкага царкоўнага сабора 1596 г. і прынятай на ім царкоўнай уніі была створана уніяцкая царква. Фактычна ў Брэсце працавалі два саборы: прыхільнікаў аб'яднання праваслаўнай і каталіцкай царквы ў адзіную уніяцкую царкву і праціўнікаў гэтага аб'яднання. У рэшце рэшт у царкоўныя справы ўмяшаўся польскі кароль, арыштаваў праціўнікаў уніі і зацвердзіў рашэнне таго сабора, які прыняў унію. Уніяцкая царква падпарадкоўвалася папу рымскаму, а абрады ў ёй на першым этапе заставаліся ранейшымі, а потым пераводзіліся на каталіцкі лад. Ватыканам і польскім каталіцкім духавенствам рабілася спроба паступова, незаўважна, падманным шляхам, цераз выкарыстанне беларускай мовы ў пропаведзях і пры звяртанні да вернікаў акаталічыць праваслаўнае насельніцтва Беларусі. Уніяцкая царква, такім чынам, уяўляла сабой сродак акаталічвання насельніцтва на нацыянальнай аснове, а не нацыянальную царкву як сімвал суверэнітэту дзяржавы. Беларуская шляхта перайшла ў каталіцызм, а вернікамі уніяцкай царквы сталі сяляне і гарадскія нізы, якіх нярэдка сілай і падманам далучалі да гэтай царквы. Апошнюю іранічна называлі "хлопскай царквой". Уніяцкая царква ў Беларусі была ліквідавана ў 1839 г.





6. Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў XVI – XVIII стст., як і грамадска-палітычнае жыццё, не адзначалася стабільнасцю. Сацыяльныя, этнічныя, рэлігійныя процістаянні феадальнага грамадства, шматлікія войны і феадальныя міжусобіцы не спрыялі эканамічнаму росквіту краю. Правядзенне ў жыццё на тэрыторыі Беларусі ў другой палове XVI – першай палове XVII ст. аграрнай рэформы Жыгімонта II Аўгуста прывяло да ўсталявання фальварачнай сістэмы гаспадарання, канчатковага запрыгоньвання сялян і значнага павелічэння іх прыгонніцкага ўціску. Побач з тэндэнцыяй да росту землеўладанняў свецкіх магнатаў назіраецца залог іх маёнткаў, што нараджае ў другой палове XVIII ст. тэндэнцыю да пераўтварэння феадальнай формы ўласнасці на зямлю ў буржуазную. Разам з залогам зямлі ўзнікаюць і такія парасткі буржуазных адносін, як арэнда зямлі, ліхвярства, мануфактуры.

7. Войны Рэчы Паспалітай вялі да эканамічнага заняпаду Беларусі, разбурэння гарадоў і вёсак, фізічнага знішчэння насельніцтва. Яны паглыблялі раскол грамадства па этнічнай і рэлігійнай прыкметах.

8. Позняе Адраджэнне з яго рэфармацыйна-гуманістычным рухам, перамога контррэфармацыі і панаванне ў мастацтве стылю барока зрабілі вялікі ўплыў на развіццё культуры беларускіх зямель другой паловы XVI – XVIII стст. Функцыяніравалі найбольш передавыя для таго часу брацкія і пратэстанцкія (кальвініцкія і арыянскія) школы, выдавалася вучэбная і палемічная літаратура, кнігі богаслужэбнага зместу, а таксама для хатняга чытання. У XVIII ст. на беларускіх землях пашыраецца свецкая адукацыя, праводзіцца школьная рэформа. Створаная ў 1773 г. Адукацыйная камісія адмяніла выкладанне ў рамках школьных праграм рэлігіі. Развівалася бібліятэчная і архіўная справа.

Выдатным творам беларускага летапісання XVII ст. была Баркулабаўская хроніка, якая з дэмакратычных пазіцый адлюстравала дзяржаўныя, ваенныя і грамадзянскія справы айчыны свайго часу. Аднак летапісы і хронікі паступова саступаюць месца новым літаратурным відам і жанрам: публіцыстыцы, гісторыка-мемуарнай літаратуры, палітычнай сатыры, паэзіі. Беларуская рэфармацыя і контррэфармацыя вылучыла плеяду публіцыстаў: С.Буднага, В.Цяпінскага, П.Скаргу, М.Сматрыцкага, Л.Карповіча, братоў Зізаніяў, А.Філіповіча і інш. Важны ўклад у развіццё беларускай і рускай культуры зрабіў паэт і драматург, кнігавыдавец і грамадскі дзеяч С.Полацкі.

9. Развівалася тэатральнае і музычнае мастацтва. Дзейнічалі школьныя тэатры, тэатры лялек – батлейка, прыгонныя і прыватныя тэатры. Апошнія ў другой палове XVIII ст. працавалі ў Слоніме, Нясвіжы, Слуцку, Шклове, Магілёве, Чачэрску, Свіслачы, Плешчаніцах. Дзейнічаў таксама "плывучы тэатр" на баржах на Агінскім канале. У маёнтках буйных магнатаў меліся прафесійныя аркестры і капэлы. Дзейнічалі ваенныя аркестры і народныя капэлы. У свецкай музыцы найбольш характэрным жанрам быў кант – шматгалосая песня свецкага зместу. Развівалася царкоўная музыка. У выяўлен-

чым мастацтве склалася самабытная беларуская іканапісная школа, якая ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. перастала існаваць. Другім важным напрамкам быў манументальны жывапіс – роспісы культавых збудаванняў. Папулярным відам станковага жывапісу з'яўляўся партрэт. Ствараліся своеасаблівыя родавыя партрэтныя галерэі. У архітэктуры побач з готыка-рэнесансным стылем усталёўвалася барока, якое ў канцы XVIII ст. саступіла месца класіцызму. Нясвіжскі палацава-паркавы ансамбль Радзівілаў, палац Тызенгаўза ў Гродне, Слонімскі палац Агінскіх, Нясвіжскі фарны касцёл, касцёлы бернардзінцаў у Гродне і Іўі, Мікалаеўскі касцёл у Міры, касцёлы ў Дзятлаве і Вішневе, касцёлы дамініканцаў у Мінску, Навагрудку, Смалянах і Дунілавічах, Богаяўленская і Крыжаўзвіжанская цэрквы ў Жыровічах, Уваскрасенская царква ў Віцебску, іншыя культавыя і абарончыя збудаванні – помнікі архітэктуры беларускіх зямель другой паловы XVI — XVIII стст .

10. Асвета, кнігадрукаванне, бібліятэчная і архіўная справа, літаратура, тэатр, музыка, жывапіс, архітэктура, уся духоўная культура беларускага народа часоў Рэчы Паспалітай – яскравы адбітак палітычнай і ідэалагічнай барацьбы, якая вялася за права мець сваю мову, адукацыю, мастацтва, традыцыі і звычаі, свой лад жыцця.

11. У 1772, 1793 і 1795 гг. адбыліся тры падзелы Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Аж да 1918 г. Польшча як дзяржава не існавала. Чаму Рэч Паспалітая не змагла абараніць свой суверэнітэт? Гэта тлумачыцца наступнымі абставінамі:

1) адсутнасцю адзінай цэнтралізаванай дзяржавы і моцнай цэнтральнай улады; выбарнасцю польскіх каралёў, іх залежнасцю ад магнатаў і шляхты; усемагутнасцю, амбіцыйнасцю і непадкантрольнасцю цэнтральнай уладзе мясцовых феадалаў, іх правам мець замкі і войскі. Польскія каралі фактычна не кіравалі дзяржавай, іх улада ў многім была фармальнай, абмежаванай;

2) наяўнасцю "залатых шляхецкіх вольнасцей" – права "свабоднага вета", якое дазваляла аднаму дэпутату сейма заблакіраваць прыняцце таго ці іншага закону (рашэння); т. зв. канфедэрацый – саюзаў узброенай шляхты для абароны сваіх вольнасцей і прывілеяў; мясцовых шляхецкіх сеймікаў, якім належала ўся ўлада ў ваяводствах і паветах. Таму сейм Рэчы Паспалітай быў бяспраўным, недзеяздольным, а канфедэрацыі шляхты іншы раз мелі характар прамога паўстання супраць караля ("рокашы"). У краіне гаспадарыла феадальная анархія;

3) адсутнасцю моцнага войска ў караля як гаранта суверэнітэту дзяржавы. Рэч Паспалітая мела толькі 16 тыс. салдат, Расія – 300 тыс. Арміі ў Рэчы Паспалітай фактычна не было, бо феадальныя магнаты і духавенства баяліся, што моцная дзяржава і моцнае войска не дадуць ім магчымасці ўздзейнічаць на дзяржаўныя справы, кіраваць дзяржавай. Шляхта баялася прытоку ў армію сялян і лічыла моцную армію перашкодай для "залатых шляхецкіх вольнасцей", свайго





пануючага становішча ў дзяржаве. Гістарычны вопыт сведчыць аб тым, што, калі народ і дзяржава не хочуць мець моцную ўласную армію, тады яны будуць утрымліваць і карміць чужую армію. Так і здарылася з Рэччу Паспалітай.

12. Больш як 200-гадовая гісторыя Рэчы Паспалітай – павучальны ўрок для нашчадкаў: неабмежаваная дэмакратыя побач з выбарнай манархіяй – найгоршая форма кіравання дзяржавай, якая звычайна вядзе да расколу кіруючага пласта грамадства на палітычныя групоўкі, нараджае такія амаральныя з'явы, як подкуп, карупцыя, страта адказнасці за лёс бацькаўшчыны, эгаізм і індывідуалізм. Не менш небяспечным для дзяржаўнасці з'яўляецца раскол грамадства паводле этнічных і ідэалагічных прыкмет, што вядзе да грамадзянскіх войнаў. Усё вышэйназванае аслабляе дзяржаву знутры і робіць яе лёгкай здабычай для суседзяў.

## Літаратура


Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов: В 4 т. Мн., 1959 – 1979. Т.1,2.

Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т.1.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989.

Дневник Люблинского сейма 1569 г. СПб., 1869.

Витебская старина: В 5 т. Витебск, 1889. Т.1, 2, 5.

Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии: Конец XIV в. – 1648 г. : Сб. документов и материалов: В 3 т. Мн., 1988. Т.1.

Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. СПб., 1861. Т.3.

Хрестоматия по истории южных и западных славян: В 3 т. Мн., 1987. Т. 1.

Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983.

*Брянцев П.Д.* Очерк Древней Литвы и Западной России. Вильна, 1891.

*Брянцев П.Д.* История Литовского государства с древнейших времен. Вильна, 1889.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т.1.

Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1988. Т.2.

Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т.1.

*Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI – XVIII стст. Мн., 1992.

*Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1975.

*Грицкевич А.П.* Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI – XVIII вв.). Мн., 1979.

*Демьянович А.* Иезуиты в Западной России (в 1569 – 1772 гг.) // Журнал Министерства народного просвещения. Август 1871 г.

*Емяльянчык У.П.* Паланез для касінераў. З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Касцюшкі ў Беларусі. Мн., 1994.

История Белорусской ССР. Мн., 1977.

*Игнатенко А.П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII – XVIII вв. Мн., 1963.

*Козловский П.Г.* Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII вв. Мн., 1969.

*Коялович М.О.* Лекции по истории Западной России. СПб., 1864.

*Коялович М.О.* Литовская церковная уния. Исследование... СПб., 1859 — 1861. Т.1 – 2.


31. Зак. 5560

*Лойка П.А.* Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі. Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI – XVIII стст. Мн., 1991.
*Лочмель І.* Нарыс гісторыі барацьбы беларускага народа супраць польскіх паноў. М., 1940.
*Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980.
*Мальдзіс А.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982.
*Мальцев А.И.* Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974.
*Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990.
*Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII – XVIII вв.). Мн., 1975.
*Мелешко В.И.* Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII – XVIII вв. Мн., 1982.
*Мялешка В.І., Лойка П.А.* Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. Мн., 1988.
Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1994. Ч.1.
*Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI – XVIII вв. Львов, 1957.
*Філатава А.М.* Паўстанне 1794 г. на Беларусі: Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі. Мн., 1992.
*Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.
*Юхо Я.А.* Уніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай // Полымя, 1972. № 1.
*Юхо Я.А., Емяльянчык У.П.* "Нарадзіўся я ліцьвінам...": Т.Касцюшка. Мн., 1994.

# РАЗДЗЕЛ IV

## БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. КРЫЗІС ФЕАДАЛЬНА-ПРЫГОННІЦКАЙ СІСТЭМЫ
(канец XVIII – першая палова XIX ст.)

## ГЛАВА 1

## УВАХОДЖАННЕ БЕЛАРУСІ Ў СКЛАД РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. ПАЛІТЫЧНАЕ І САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ

### § 1. Унутраная палітыка расійскага ўрада на Беларусі

Рэч Паспалітая, з якой больш за два стагоддзі быў паяднаны лёс беларускага народа, у выніку трох падзелаў гэтай дзяржавы (1772, 1793 і 1795), зробленых Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй, спыніла сваё існаванне. Беларускія землі з насельніцтвам каля 3 млн чалавек адышлі да Расійскай імперыі.

Акт падзелу Рэчы Паспалітай быў вынікам знешняй агрэсіі замежных дзяржаў, якая стала магчымай дзякуючы ўнутранаму аслабленню Рэчы Паспалітай, што было выклікана цэнтрабежнымі тэндэнцыямі ў палітычным, эканамічным, этнічным і рэлігійным жыцці дзяржавы.

З канца XVIII ст. пачынаецца новы этап беларускай гісторыі, цесна звязаны з гісторыяй Расійскай дзяржавы. Якія перамены ва ўнутраным жыцці Беларусі адбыліся са зменай яе дзяржаўнай прыналежнасці?

Расійскі ўрад адразу ажыццявіў шэраг мер па ўзмацненні свайго ўплыву на далучаных землях. Для аховы новых заходніх межаў будаваліся крэпасці ў Дынабургу, Полацку, Відзах, Рагачове і іншых месцах.

На беларускія землі распаўсюджваліся агульныя прынцыпы расійскага кіравання. У сувязі з гэтым у 1796 г. праведзена адміністрацыйная рэформа. На тэрыторыі Беларусі былі створаны губерні: Беларуская (у яе склад увайшлі Полацкае і Магілёўскае намесніцтвы) з губернскім горадам Віцебскам і насельніцтвам каля 1,5 млн чалавек; Мінская з губернскім горадам Мінскам і насельніцтвам каля 800 тыс. чалавек; Літоўская (у яе ўвайшлі існаваўшыя Слонімская і Віленская губерні) з губернскім горадам Вільняй і насельніцтвам каля 1,6 млн чалавек.

У 1801 г. у выніку ўдасканальвання адміністрацыйнага дзялення Беларуская губерня была разбіта на Магілёўскую і Віцебскую, якія ўвайшлі ў склад Беларускага генерал-губернатарства; Літоўская губерня – на Гродзенскую і Віленскую, якія разам з Мінскай склалі Літоўскае генерал-губернатарства.

Выканаўчая ўлада ў губернях перадавалася губернатарам. У губернскіх цэнтрах пачыналі дзейнічаць органы адміністрацыйнага кіравання па расійскаму ўзору: губернскія ўправы, казённыя палаты, прыказы і г.д. Кацярына II у наказе губернатарам у якасці першай задачы адзначыла “сохранение тишины и покоя...”.

Усё насельніцтва беларускіх губерняў на працягу месяца пасля выхаду ўказа аб іх уключэнні ў склад Расіі прыводзілася да прысягі. Асобам, што не згодны былі прысягнуць новай уладзе, дазвалялася ў трохмесячны тэрмін выехаць за мяжу, прадаць за гэты час сваю нерухомасць, у адваротным выпадку па сканчэнні тэрміну маёмасць пераходзіла ў казну. Магнаты і шляхта, заспакоеныя абяцаннямі Кацярыны II не парушаць іх правоў у большасці сваёй прынеслі прысягу царскай уладзе, бо не хацелі губляць уласнасць.

Складаная ўнутрыпалітычная абстаноўка ў беларускіх, украінскіх і літоўскіх губернях прымусіла расійскае кіраўніцтва шукаць шляхі ўмацавання тут сваіх пазіцый. Пры гэтым даводзілася лічыцца з гістарычнымі адрозненнямі ў характары і ўзроўні развіцця феадальных адносін у Расіі і яе заходніх губернях. Хаця аснова эканамічнага ладу – феадальная ўласнасць на зямлю – была і там і там аднолькавая, у





Расіі, як ужо адзначалася, узровень развіцця вытворчых адносін быў вышэйшым. Цэнтральная ўлада ва унітарнай дзяржаве не пакідала шмат функцый феадалам, замацоўвала за сабой права суда і кантролю за ўзроўнем феадальнага прыгнёту сялян.

Беларусь, Літва і Украіна ў складзе Рэчы Паспалітай развівалі свае феадальныя адносіны ва ўмовах дэцэнтралізаванай дзяржавы і таму практычна не ведалі такога рэгулявання. Тут яно насіла эпізадычны характар.

На Беларусі сяляне фактычна знаходзіліся ў поўнай уласнасці феадалаў і амаль не мелі магчымасці апеляваць да дзяржавы. У феадала было шмат палітычных, эканамічных і іншых правоў, каб ахаваць сябе ад дзяржаўнага кантролю. Трымаючы ўласныя войскі, феадальныя маёнткі станавіліся “дзяржавамі ў дзяржаве”. Гэта не толькі ўзмацняла прыгнёт, але і перашкаджала эканамічнаму развіццю Рэчы Паспалітай, зараджэнню капіталістычных адносін.

У XVI – XVII стст., калі ў Еўропе пачаў развівацца капіталізм, у Рэчы Паспалітай толькі закончыўся працэс масавага запрыгоньвання сялян: феадальны лад знаходзіўся ў сваім апагеі. У Расіі працэс зараджэння таварна-грашовых адносін ішоў значна хутчэй. Рускія памешчыкі раней пачалі прыстасоўвацца да новых умоў гаспадарання, перавялі сялян на больш прагрэсіўную форму рэнты – грашовы чынш. Сяляне Рэчы Паспалітай трывала сядзелі на паншчыне, што закладвала аснову сур’ёзных сацыяльна-класавых канфліктаў.

На Беларусі раней склалася дваранская манаполія на зямлю. Яна зафіксавана ў Статутах ВКЛ ужо ў XVI ст. У Расіі дваранская манаполія зацверджана толькі ў сярэдзіне XVIII ст. пасля ліквідацыі ў 1754 г. сістэмы недваранскага землеўладання.

Феадальная зямельная ўласнасць на Беларусі раней страціла сваю залежнасць ад нясення ваеннай службы. З пачатку XVIII ст. “паспалітае рушэнне”, удзел у якім лічыўся неабходнай умовай для валодання шляхтай землямі, ужо не склікалася. У Расіі ж толькі маніфест Пятра III у 1762 г. вызваліў дваранства ад абавязковага нясення дзяржаўнай службы.

Былі адрозненні і ў формах дваранскага землеўладання. Расія не ведала такой сацыяльнай групы землеўладальнікаў, як дробная шляхта. Адносны працэнт феадальных уласнікаў быў там значна ніжэйшы, чым у заходніх губернях. У Расіі збяднелыя памешчыкі гублялі свае правы і прывілеі і служылі ў якасці дзяржаўных чыноўнікаў. На Беларусі ж збяднелая шляхта паводле прававога статуса не адрознівалася ад магнатаў.

Розніца ў прававым становішчы дваранства ў Расіі і заходніх губернях была вялікая ўвогуле. У Рэчы Паспалітай шляхта мела вялікія правы, а ўлада караля была занадта слабой. Ён быў пазбаўлены заканадаўчых паўнамоцтваў і з’яўляўся ўсяго толькі вярхоўнай выканаўчай уладай. Дзейнасць вышэйшага заканадаўчага органа ў краіне – сейма была паралізавана “залатымі шляхецкімі вольнасцямі”.

35. Зак. 5560

Шляхта мела правы на канфедэрацыі (вайсковыя саюзы для абароны сваіх правоў) і мела магчымасць законна падымаць бунт (рокаш) супраць караля. Гэты палітычны плюралізм і прывёў да практычнай некіруемасці дзяржаўнага жыцця Рэчы Паспалітай.

Усе адзначаныя моманты дазвалялі феадалам далучаных губерняў адчуваць сябе дастаткова трывала і паспрабаваць заняць незалежную пазіцыю ў дачыненні да новай дзяржаўнай улады, нягледзячы на тое, што традыцыі палітычнага жыцця ў Расіі, дзе панавала абсалютная манархія, былі зусім іншыя.

Па гэтых прычынах палітыка царскага ўрада ў дачыненні да мясцовых феадалаў на першым этапе была вельмі памяркоўная. Шляхта заходніх губерняў захоўвала практычна ўсе ранейшыя правы і прывілеі. Адзінае, што ўрад рашуча ліквідаваў, дык гэта бескантрольную самастойнасць феадалаў, якая падрывала асновы дзяржавы. Шляхта згубіла правы на канфедэрацыі, на ўтрыманне прыватнага войска і ўласных крэпасцяў. Усе астатнія правы засталіся.

Акрамя гэтага, у "Жалаванай грамаце" 1775 г. Кацярына II абвясціла, што "каждое состояние (сословие) из жителей присоединенных земель вступает с самого сего дня во все оному свойственные выгоды по всему пространству империи Российской". Дваранству і купецтву беларускіх зямель у 1773 г. было дазволена выбіраць дэпутатаў для выпрацоўкі праекта новага, агульнадзяржаўнага Улажэння. У 1777 г. на Беларусі адбыліся выбары павятовых і губернскіх прадвадзіцеляў дваранства, створаны павятовыя і губернскія дваранскія сходы.

Асноўная частка шляхты засталася задаволенай сваім новым становішчам і нават паднесла расійскаму ўраду адрас, у якім разам з іншым было сказана: "Живя не в Польше, мы чувствуем себя как бы в Польше и даже лучше, чем в настоящей Польше"(*Ігнатоўскі У.М.* Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. С.167).

У адносінах да каталіцкай царквы спачатку таксама праводзілася асцярожная палітыка. Дазволена было вольна выконваць каталіцкія абрады. Маёмасць касцёлаў, кляштараў заставалася недатыкальнай. А згодна з даравальнай граматай Кацярыны II ад 1774 г., была заснавана Беларуская каталіцкая епархія, што адпавядала інтарэсам польскіх і апалячаных беларускіх феадалаў. Аднак каталіцкаму духавенству катэгарычна забаранялася хрысціць у сваю веру праваслаўных. Ва ўсякім выпадку, такога рэлігійнага прэсінгу, як праваслаўная царква ў Польшчы, каталіцкая рэлігія не адчувала. Значная частка акаталічанага насельніцтва паступова пачала вяртацца ў праваслаўе.

На гарады Беларусі былі распаўсюджаны прынцыпы, абвешчаныя Кацярынай II у "Даравальнай грамаце гарадам" 1785 г. Да прыкладу, у гарадах адмянялася юрысдыкцыя свецкіх ці духоўных феадалаў. Шматлікія прыватнаўласніцкія гарады і мястэчкі былі выкуплены ўрадам. Кіраванне гарадскім жыццём канцэнтравалася ў прадстаўнічым органе – думе, якая выбіралася з гарадскіх саслоўяў.





Купецтва атрымала права на стварэнне гільдый, як гэта было ў Расіі. "Даравальная грамата гарадам" служыла ўжо інтарэсам новага класа – буржуазіі.

Спецыяльныя ўказы ўрада датычыліся і яўрэйскага насельніцтва. Указам ад 23 чэрвеня 1794 г. устанаўлівалася мяжа яўрэйскай аселасці на тэрыторыі беларускіх, літоўскіх і часткова ўкраінскіх губерняў. У гарадах гэтых губерняў яўрэям дазвалялася сяліцца, займацца рамяством і гандлем (займацца земляробствам ці набываць землі ім не дазвалялася). Яны маглі запісвацца ў мяшчанскія і купецкія саслоўі з умовай, што будуць плаціць дзяржаўныя падаткі ў двайным памеры ў параўнанні з хрысціянскім насельніцтвам.

На беларускія губерні была распаўсюджана і расійская падатковая сістэма. Уніфікаваліся розныя дзяржаўныя зборы з насельніцтва: уводзіўся падушны падатак і земскі збор. Аднак, улічваючы запушчаны стан беларускіх зямель (выяўлены ў час перапісу насельніцтва пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай), расійскі ўрад на два гады вызваліў усё насельніцтва ад выплаты дзяржаўных падаткаў. На працягу наступных 10 гадоў падушны падатак збіраўся ў палавінным памеры ў параўнанні з расійскімі падаткаплацельшчыкамі.

Што датычыцца заканадаўства, то расійскі ўрад стараўся паказаць, што не мае намеру замахвацца на прававыя нормы, здаўна ўстаноўленыя на тэрыторыі заходніх губерняў. Ва ўсіх указах падкрэслівалася, што "суд и расправа внутренние тех провинций в личных делах имат производиться по тамошним правам и обычаям" і "их языком". Асноўным заканадаўчым кодэксам аж да 1840 г. заставаўся Статут ВКЛ 1588 г. Мясцовая ж адміністрацыя стваралася па расійскаму ўзору і была строга падсправаздачна цэнтральнай уладзе.

Як бачна, на першым часе ўрад у беларускіх і іншых далучаных губернях імкнуўся падладкоўвацца пад шляхту ды іншыя слаі насельніцтва, спрабаваў мякка зняць апазіцыйныя настроі. Асцярожнасць у адносінах да Беларусі і іншых далучаных зямель, характэрная для палітыкі Кацярыны II і яе паслядоўнікаў, безумоўна, дыктавалася тактычнымі меркаваннямі, хаця ў тайных наказах сваім намеснікам царыца выказвала пажаданні, каб паміж Беларуссю і Расіяй "исчезла грань инородия". Але як гэта зрабіць, яна не мела яшчэ поўнай яснасці. У сакрэтным наказе князю Вяземскаму яна ў 1764 г. пісала аб "заходніх правінцыях", што "парушаць прывілеі іх усе адразу вельмі непрыстойна было б, аднак і называць іх чужаземнымі і абыходзіцца з імі на гэткай аснове ёсць больш як памылка, а можна сказаць з пэўнасцю, што глупства...", каб яны "абруселі і да далучэння прывыклі", трэба пасылаць туды для вярхоўнага кіраўніцтва "не руссопетов и тому падобное", а людзей паважаных, ад дзейнасці якіх "выходило бы взаимное уважение" (*Цвікевіч А.* Западно-руссизм // Спадчына. 1991. № 2. С.30).

Аднак рост незадаволенасці значнай часткі шляхты каталіцкага веравызнання і каталіцкага духавенства прымусіў царызм дзейнічаць

*Айчынная вайна 1812 г.*











*Вёска Студзёнка каля Барысава – месца пераправы французскіх войск цераз р. Бярэзіну. Пачатак XX ст.*

больш актыўна. Першым крокам у гэтым напрамку з'явілася ўвядзенне на Беларусі землеўладання расійскага дваранства за кошт дзяржаўнага фонду. Асноўная частка дзяржаўных зямель разам з сялянамі была раздадзена Кацярынай II у Заходняй Беларусі расійскім дваранам ды чыноўнікам. З 750 тыс. чалавек мужчынскага полу, якія пражывалі на далучаных землях, 140 тыс. перайшло да расійскіх памешчыкаў і дзяржаўных чыноўнікаў. Усяго на далучанай да Расіі тэрыторыі Беларусі з 1772 па 1796 г. Кацярына II перадала расійскім дваранам 150 550 душ. Павел I на працягу 1796 – 1801 гг. аддаў 51 памешчыку яшчэ каля 28 тыс. сялянскіх душ мужчынскага полу. У 1773 – 1795 гг. ва ўсходняй частцы Беларусі (Магілёўская і Віцебская губерні) атрымалі ва ўласнасць буйныя маёнткі 85 расійскіх памешчыкаў. У Мінскай губерні ў гэты ж час было падаравана розным асобам 42 290 душ мужчынскага полу, у Гродзенскай – 33 052, у Віленскай – 5319.

У выніку гэтых дараванняў удзельная вага расійскіх памешчыкаў у сярэдзіне XIX ст. склала на Беларусі 1 %, а плошча іх землеўладання – 21,7 % (2,1 млн дзесяцін прыватнай зямельнай уласнасці).

Пасля 1801 г. раздача маёнткаў на Беларусі, у Літве і Правабярэжнай Украіне была спынена ўрадам Аляксандра I з-за ўзросшага супраціўлення пераводу дзяржаўных сялян у памешчыцкія з боку саміх сялян.

Наступным крокам, які павінен быў умацаваць пазіцыі царызму ў далучаных губернях, з'яўлялася паступовае абмежаванне праваў мясцовага дваранства. Да апазіцыйна настроенай шляхты быў выкарыстаны такі сродак, як канфіскацыя маёнткаў за ўдзел у антыўрадавай дзейнасці. У Рэчы Паспалітай пакаранні за палітычныя злачынствы ў выглядзе выгнання з краіны і канфіскацыі маёмасці таксама дапускаліся. Але прымяняліся яны толькі ў выключных выпадках да кіраўнікоў мяцяжоў, а не да радавых удзельнікаў. Прычым, як правіла, вінаваты каяўся і атрымліваў памілаванне. Такі лёс спасціг буйнейшага магната Караля Радзівіла, які двойчы падымаў зброю


269



*Помнік Напалеону на месцы пераправы французскіх войск цераз р. Бярэзіну ў в. Студзёнка*

*Пастаўлены ў 1912 г., разбураны ў 1919 г.*

супраць караля, але абодва разы дабіваўся зняцця секвестру і вяртання сваіх уладанняў.

У Расіі ж канфіскацыі па матывах здрады самадзержцу шырока ўжываліся. Змены асоб на прастоле ў выніку частых палацавых пераваротаў у XVIII ст. суправаджаліся буйнымі канфіскацыямі маёнткаў у набліжаных да папярэдняга цара. Гэтыя маёнткі дараваліся асобам з акружэння новага самадзержца. Удзельнікі змовы, якая прывяла да ўлады Кацярыну II, атрымалі 18 тыс. прыгонных. Былі прыменены канфіскацыі і ў дачыненні да апазіцыйнай шляхты Беларусі і Літвы.

Канфіскацыі праводзіліся не аднойчы. У 1773 – 1775 гг. яны былі накіраваны супраць тых магнатаў і шляхціцаў, што пасля далучэння не захацелі прынесці прысягу расійскаму манарху, а пазней – супраць удзельнікаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Да 1800 г. на Беларусі, а таксама ў Невельскім і Себежскім паветах усяго канфіскавана 26 маёнткаў з 36 050 сялянамі (маючца на ўвазе толькі асобы мужчынскага полу). У 1812 –1813 гг. пачалася новая хваля канфіскацый. Урад адбіраў маёнткі ў калабарацыяністаў, якія супрацоўнічалі з войскам Напалеона.

Сітуацыя напярэдадні Айчыннай вайны 1812 г. склалася наступная. Пасля перамогі Францыі над Прусіяй у 1807 г. Напалеон і Аляксандр I дамовіліся ў Тыльзіце аб утварэнні Варшаўскага княства, што мела прапагандысцкі характар: Напалеон клапаціўся пра Польшчу, бо яна служыла яму плацдармам для нападу на Расію. Урад Расіі ў процівагу Напалеону таксама вёў прапаганду, абяцаючы аднавіць Рэч Паспалітую і Вялікае княства Літоўскае. У лютым 1811 г. высокі расійскі саноўнік А.Чартарыйскі па прапанове Аляксандра I ездзіў у Варшаву, каб дамовіцца з польскімі дзеячамі аб іх пераходзе на бок Расіі. Аднак гэта місія поспеху не мела. У канцы 1811 – пачатку 1812 г. група ўраджэнцаў Беларусі (М.К.Агінскі, Ф.К.Любецкі і інш.) падрыхтавала праект аб адраджэнні Вялікага княства Літоўскага пад пратэктаратам Расіі па прыкладу Фінляндыі.

24 чэрвеня 1812 г. 450-тысячная армія Напалеона перайшла граніцу з Расіяй. У склад яе ўвайшла значная колькасць польскіх вайскоў-





цаў (каля 60 – 70 тыс. чалавек). Быў сфарміраваны корпус пад камандаваннем князя Ю.Панятоўскага, які актыўна змагаўся на баку напалеонаўскай арміі супраць Расіі. Князь Дамінік Радзівіл за свой кошт сфарміраваў уланскі полк.



*Помнік у Полацку рускім воінам, якія абаранялі горад у 1812 г.*

28 чэрвеня 1812 г. французская армія заняла Вільню. Напалеон разлічваў, што шляхта Беларусі будзе да яго больш прыхільнай, калі ён абвесціць аб аднаўленні Вялікага княства Літоўскага. З гэтай мэтай у Вільні па распараджэнні Напалеона быў утвораны Часовы ўрад пад назвай "Камісія Вялікага княства Літоўскага". Дзейнасць Камісіі распаўсюджвалася на Віленскую, Гродзенскую, Мінскую губерні і Беластоцкую вобласць. Для Віцебскай і Магілёўскай губерняў было вызначана асобнае, т. зв. "польскае праўленне". Але гэтыя марыянетачныя ўрады павінны былі перш за ўсё забяспечваць усім неабходным і папаўняць рэкрутамі французскую армію. Рускі герб быў заменены на аднагаловага арла. У хуткім часе ранейшае адміністрацыйнае дзяленне было заменена на французскі лад, галоўныя пасады занялі французскія военачальнікі і інтэнданты.

Шляхта, якая толькі што прысягала на вернасць Расійскай імперыі, амаль усюды сустракала французскія войскі як вызваліцеляў ад расійскіх захопнікаў. Просты ж беларускі народ у асноўным стаў на шлях партызанскай вайны з французамі. Велізарнаму войску Напалеона ў межах Літвы, Беларусі і Паўночнай Украіны ў чэрвені 1812 г. супрацьстаялі тры рускія арміі: 1-я – генерала М.Б.Барклая дэ Толі, 2-я – генерала П.І.Баграціёна, 3-я – генерала А.П.Тармасава.

Каб перакрыць французам шлях на Кіеў, 3-я армія была пакінута ў Валынскай губерні. А 1-й і 2-й арміям патрэбна было злучыцца, каб пазбегнуць разгрому паасобку. У ліпені 1812 г. вызначылася немагчымасць злучэння 1-й і 2-й армій у раёне Віцебска. Чарговым пунктам сустрэчы рускіх армій быў прызначаны Смаленск.

З 16 ліпеня да 1 жніўня 1812 г. Напалеон знаходзіўся ў Віцебску. Наступленне яго арміі было прыпынена. Ён вырашаў, што рабіць далей. Галоўны план Напалеона – разграміць рускую армію на



*Помнік героям 1812 г. у Віцебску*

Беларусі – не быў выкананы. У гэтых умовах Напалеон меў намер пачаць перагаворы з Аляксандрам І у Віцебску. Але ад гэтага плана французскаму імператару давялося адмовіцца. Яго армія, складзеная з прадстаўнікоў заваяваных краін, пачала на вачах развальвацца: зніжалася дысцыпліна, пашыраліся марадзёрства, дэзерцірства. Напалеон разумеў, што толькі новыя перамогі могуць выратаваць яго армію ад дэмаралізацыі.

22 ліпеня 1812 г. арміі Баграціёна і Барклая дэ Толі злучыліся пад Смаленскам, а 2 – 5 жніўня адбылася Смаленская бітва, у якой Напалеон страціў больш за 14 тыс. чалавек. Пасля Смаленска рускую армію ўзначаліў М.І.Кутузаў. 26 жніўня адбылася генеральная бітва ля в. Барадзіно. Сфарміраваныя на Віцебшчыне чатыры палкі 3-й пяхотнай дывізіі абаранялі на Барадзінскім полі вядомыя Баграціёнавы флешы. 24-я пяхотная дывізія, складзеная з ураджэнцаў Мінскай губерні, гераічна змагалася каля батарэі Раеўскага.

Кутузаў з мэтай захавання арміі загадаў пакінуць Маскву, якую неўзабаве занялі французы. Не дачакаўшыся адказу Аляксандра І на прапановы аб міры, Напалеон у пачатку кастрычніка 1812 г. пачаў адступаць з Масквы на Смаленск па спустошанай мясцовасці.

7 кастрычніка 1812 г. рускія войскі вызвалілі Полацк, 26 кастрычніка – Віцебск, 4 лістапада – Мінск.

Завяршальны ўдар быў нанесены рускімі войскамі па французах пры іх пераправе праз Бярэзіну каля в.Студзёнка, што недалёка ад Барысава. 30 тыс. іншаземных захопнікаў знайшлі тут сваю гібель. Пасля гэтага напалеонаўская армія фактычна перастала існаваць.

У гонар перамогі рускай арміі над войскамі Напалеона ў Айчыннай вайне 1812 г. пастаўлены памятныя знакі ў Віцебску, Полацку, Кобрыне, в.Студзёнка (каля Барысава), в. Клясціца (Расонскі р-н Віцебскай вобл.), в.Салтанаўка (каля Магілёва) і інш.

Вайна прынесла беларускаму народу вялікія бедствы. Многія гарады і вёскі былі разбураны і знішчаны. Голад, хваробы прывялі да масавай гібелі людзей. У гарадах Беларусі колькасць насельніцтва змен-







*Помнік у г. Кобрыне рускім воінам, якія атрымалі першую перамогу над войскамі Напалеона ў межах Расіі 15 ліпеня 1812 г.*

шылася ў 2 – 3 разы. Прыйшла ў заняпад сельская гаспадарка. Амаль напалову скараціліся пасяўныя плошчы і пагалоўе жывёлы.

Цяжкія вынікі вайны для беларускага народа ўзмацняліся палітыкай царызму. Сяляне аказаліся падманутымі ў сваіх спадзяваннях атрымаць вызваленне ад прыгоннай няволі пасля разгрому арміі Напалеона. Царскім маніфестам ад 30 жніўня 1814 г. ім прапаноўвалася атрымаць “мзду свою от Бога”.

У адносінах да беларускай арыстакратыі царскі ўрад быў больш асцярожным. З аднаго боку, ён хацеў прылашчыць пасепаратысцку настроеную шляхту. Таму, напрыклад, Камінскі, які ўзначальваў створаную Напалеонам “Камісію Вялікага княства Літоўскага”, захаваў пасаду старшыні ў мінскім галоўным судзе, В.Гецэвіч, член савета ў Вільні, стаў мінскім віцэ-губернатарам і г.д. Але, з другога боку, царызм жорстка пакараў многіх з тых, хто ў час вайны супрацоўнічаў з Напалеонам. Хваля канфіскацый маёмасці калабарацыяністаў пракацілася па Беларусі.

Наступная хваля канфіскацый мела месца ў 1830 – 1831 гг. У выніку яе на Беларусі канфіскаваны 62 маёнткі ў 51 уладальніка.

30-я гады XIX ст. сталі пераломнымі ў царскай палітыцы ў дачыненні да заходніх губерняў: яна прыняла больш жорсткі характар. На гэта паўплывалі дзве прычыны: рост апазіцыйных грамадска-палітычных настрояў і рухаў, а таксама працэс разлажэння феадальна-прыгонніцкага ладу, які перарастаў у яго крызіс.

У другім дзесяцігоддзі XIX ст. на Беларусі, як і ў іншых заходніх губернях, значна ўзмацніўся грамадска-палітычны рух. Ён развіваўся пад уплывам рэвалюцыйных падзей у Заходняй Еўропе, расійскай рэвалюцыйнай думкі і польскіх нацыянальна-вызваленчых ідэй.

Да ўзнікнення першых праяў беларускага нацыянальнага руху прама ці ўскосна мелі дачыненне таварыствы філаматаў (прыхільнікаў навукі) і філарэтаў (прыхільнікаў дабрачыннасці). У 1817 г. пры Віленскім універсітэце па ініцыятыве студэнтаў А.Міцкевіча і Т.Зана было створана таварыства філаматаў. Іх погляды фарміраваліся пад



*Стэла рускаму корпусу генерала П. Х. Вітгенштэйна ў в. Клясціцы (Расонскі раён)*

*Устаноўлена ў 1962 г.*



*Помнік генералу Я.П.Кульневу каля в. Сакалішча (Полацкі раён) на месцы гібелі 20 ліпеня 1812 г.*

*Пастаўлены ў 1830 г*

уплывам прафесара Віленскага універсітэта Іяхіма Лялевеля. Ён выступаў за аднаўленне польскай дзяржавы. Хутка таварыства ператварылася ў моцную арганізацыю з мноствам філій (аддзяленняў). Практычна таварыства філаматаў дубліравалі таварыства Прамяністых і Саюз літаратараў, што існавалі ў Віленскім універсітэце.

На пачатку 20-х гадоў XIX ст. у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Полацку былыя студэнты Віленскага універсітэта заснавалі таварыства філарэтаў. У 1819 г. у Свіслацкай гімназіі ўзнікла таварыства аматараў навук. Гімназісты на сваіх тайных сходах прапаведвалі патрыятычныя ідэі ў польскім духу, расказвалі пра славутых дзеячаў Польшчы, прапагандавалі сярод насельніцтва ідэі волі і роўнасці.

У процівагу агульнаму ўздыму паланізацыі культурна-нацыянальныя імкненні беларускага народа выявіліся ў новай беларускай літаратуры, асабліва ў творчасці Я.Баршчэўскага, Я.Чачота, П.Багрыма, В.Равінскага, К.Вераніцына, А.Вярыгі-Дарэўскага, У.Сыракомлі, В.Дуніна-Марцінкевіча, П.Шпілеўскага. Іх творы, асветніцкія пачынанні сведчылі аб абуджэнні нацыянальнай





самасвядомасці ў народзе, аб фарміраванні беларускай народнай інтэлігенцыі.

Знайшлі падтрымку на Беларусі і ідэі дзекабрыстаў аб ліквідацыі самадзяржаўя і прыгоннага права. Дзекабрысты сачылі за развіццём польскага нацыянальна-вызваленчага руху, імкнуліся наладзіць з ім сувязь для сумеснай барацьбы супраць царызму. У 1821 – 1822 гг. некаторыя актыўныя ўдзельнікі руху дзекабрыстаў знаходзіліся на Беларусі. М.Мураўёў, кіраўнік “Паўночнага таварыства”, у Мінску ў 1821 г. напісаў свой першы варыянт канстытуцыі. А.Бястужаў, адзін з кіраўнікоў “Паўночнага таварыства”, калі жыў у Мінску, устанавіў сувязі з некаторымі мясцовымі грамадскімі дзеячамі ў Полацку. У Мінску, Лідзе, Ружанах бывалі дзекабрысты М.Нарышкін, З.Чарнышоў, М.Лунін, Я.Абаленскі. У Віцебску жыў і вучыўся вядомы дзекабрыст, сябра “Таварыства аб'яднаных славян” І.Гарбачэўскі.




*Мемарыяльная дошка на стэле каля дарогі Барысаў–Зембін.*

У 1822 г. у Кіеве вяліся перамовы паміж кіраўнікамі “Паўднёвага таварыства” дзекабрыстаў (П.Пестэль) і прадстаўнікамі польскага “Патрыятычнага таварыства” аб наладжванні сувязей для вядзення сумесных дзеянняў. З гэтай мэтай у Вільню прыязджалі М.Бястужаў-Румін і С.Мураўёў-Апостал. Увосень па ініцыятыве апошняга быў распрацаваны план арышту цара ў час прыезду ў Бабруйскую крэпасць. Аднак план не быў ажыццёўлены, бо яго не падтрымалі ў цэнтры “Паўднёвага таварыства”.

Вялікае значэнне як дзекабрысты, так і польскія рэвалюцыянеры надавалі прапагандзе сярод салдат і афіцэраў Асобнага літоўскага корпуса, размешчанага ў Гродзенскай губерні. Пад іх уплывам на пачатку 1825 г. у гэтым корпусе ўзнікла “Таварыства ваенных сяброў” на чале з капітанам К.Ігельстромам. Таварыства ўстанавіла сувязі з тайнымі гурткамі мясцовай моладзі. 24 снежня 1825 г., праз 10 дзён пасля паўстання дзекабрыстаў на Сенацкай плошчы ў Пецярбургу, сябры таварыства спрабавалі падбухторыць салдат Літоўскага корпуса, але былі арыштаваны. Няўдачай скончылася і спроба сяб-



*Помнік-капліца рускім воінам у в. Салтанаўка каля г. Магілёва*

*Пастаўлены ў 1912 г*

роў “Таварыства аб’яднаных славян” у лютым 1826 г. падняць паўстанне ў Палтаўскім палку ў Бабруйску.

Падавіўшы паўстанне дзекабрыстаў, расійскі ўрад разграміў і тайныя таварыствы на Беларусі. Шмат іх удзельнікаў было арыштавана.

У 1824 – 1825 гг. урад, улічваючы, што цэнтрам тайных таварыстваў былі навучальныя ўстановы, прыняў меры па ўзмацненні нагляду за навучэнцамі. У адпаведнасці з указам Аляксандра I жыхарам Беларусі і Літвы забаранялася адпраўляць дзяцей на вучобу ў замежныя універсітэты. Стаў больш жорсткім агульны нагляд за навучальнымі ўстановамі. Праводзілася перлюстрацыя лістоў.

Аднак гэта не спыніла грамадска-палітычны рух у заходніх губернях. Перадавая грамадскасць Беларусі і Літвы была цесна звязана з польскім вызваленчым рухам. У лістападзе 1830 г. у Варшаве апазіцыйная шляхта ўзняла нацыянальна-вызваленчае паўстанне. Незадаволенасць шляхты падзеламі Рэчы Паспалітай, парушэнне царызмам польскай канстытуцыі 1815 г.[1] былі галоўнымі прычынамі паўстання. Аднак тыя рэвалюцыйныя сілы Польшчы, якія адстойвалі ідэі буржуазна-дэмакратычных пераўтварэнняў, не змаглі ўзначаліць паўстанне. Польскім арыстакратам удалося захапіць кіраўніцтва паўстаннем і выкарыстаць яго для барацьбы за аднаўленне Польшчы ў межах 1772 г.

Царскі ўрад імкнуўся прадухіліць пашырэнне паўстання на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны. Тут было ўведзена ваеннае становішча. Аднак ужо на пачатку красавіка 1831 г. дзеянні паўстанцаў ахапілі ўсю Літву і Паўночна-Заходнюю Беларусь (Ашмянскі, Браслаўскі, Дзісенскі і Вілейскі паветы). Падрыхтоўку да яго ажыццяўлялі дваране, афіцэры, каталіцкае і уніяцкае духавенства, якія жылі на Беларусі, а таксама эмісары з Царства Польскага. Ядро

[1] Статус зямель Каралеўства Польскага, або, па-іншаму, Царства Польскага (назва часткі польскіх зямель з Варшавай), якія, паводле рашэння Венскага кангрэса 1814–1815 гг., адышлі да Расіі, вызначаўся прынятай у 1815 г. канстытуцыяй Каралеўства Польскага.





паўстанцаў склалі шляхта, навучэнцы, афіцэры-палякі – каля 10 тыс. чалавек. Вузкія палітычныя мэты – аднаўленне шляхецкай Польшчы ў межах 1772 г. – абумовілі той факт, што паўстанне не атрымала падтрымкі сярод шырокіх колаў насельніцтва.

У жніўні 1831 г. паўстанне было падаўлена на ўсёй тэрыторыі Беларусі і Літвы, а ў верасні – і ў Польшчы. Але і пасля гэтых падзей палітычнае браджэнне на Беларусі і ў Літве не сціхла. У другой палове 30-х гадоў XIX ст. тут зноў пачалі ўтварацца тайныя суполкі. У 40 – 50-я гады на Беларусі, як і ў Расіі, у асяроддзі, апазіцыйным да ўлады, усё больш актыўную ролю адыгрывалі рэвалюцыянеры-дэмакраты. Ідзе фарміраванне новага пакалення рэвалюцыянераў з ліку дробных чыноўнікаў, духавенства, мяшчан, шляхты. Да яго належаў Ф.Савіч, які быў ініцыятарам стварэння ў 1836 г. пры Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі найбольш радыкальнай з тайных суполак – “Дэмакратычнага таварыства”. Яно працягвала развіваць традыцыі філаматаў і дзекабрыстаў. У 1837 г. Ф.Савіч наладзіў сувязь з Пінскай і Слуцкай ячэйкамі тайнага таварыства “Садружнасць польскага народа”, якім кіраваў польскі рэвалюцыянер-дэмакрат Ш.Канарскі. Прапаганда і дзейнасць “Дэмакратычнага таварыства” набылі сацыяльную накіраванасць. У статуце “Дэмакратычнага таварыства” абвешчаны ідэі сацыяльнай роўнасці, вызвалення сялян і надзялення іх зямлёй, права кожнага народа на нацыянальную самастойнасць. У 1838 г. “Дэмакратычнае таварыства” было разагнана. Але грамадска-палітычны рух у краі развіваўся далей.

Дзейнасць тайных суполак, якія вылучалі патрабаванні нацыянальна-дэмакратычных пераўтварэнняў, нарастанне сялянскай антыфеадальнай барацьбы, апаска, што апошняя можа зліцца ў адзіную плынь з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам, прымусілі расійскі ўрад дзейнічаць больш рашуча. Ён пайшоў на сур’ёзны палітычны крок, вядомы пад назвай “разбор шляхты”. Меры былі накіраваны супраць дробнай шляхты, распаўсюджвальніка апазіцыйных настрояў. Сэнс іх заключаўся ў змяншэнні колькасці прывілеяванага саслоўя шляхам пераводу ў падатныя саслоўі асоб, якія не мелі дакументаў аб шляхецтве. Праверка шляхецтва пачалася яшчэ з 1772 г., але да 1830 – 1831 гг. вялася марудна. Паўстанне падштурхнула царскую адміністрацыю да рашучых дзеянняў.

У адпаведнасці з указамі ад 1831, 1847, 1857 гг. асобы, якія не даказалі дакументамі свайго шляхецтва, не былі зацверджаны ў дваранскім званні: яны пазбаўляліся права валодаць маёнткамі і павінны былі прадаць сваю ўласнасць. Гэта катэгорыя былых шляхціцаў павялічвала падатнае саслоўе – аднадворцаў у сельскай мясцовасці і “грамадзян заходніх губерняў” у гарадах. І першыя і другія абкладаліся асобным “падымным” падаткам і выконвалі паслабленую вайсковую павіннасць. Аднадворцы, што жылі на дзяржаўных землях, прыпісваліся да дзяржаўных сялян, на землях памешчыкаў – да вольных людзей.







Царскі ўрад прыняў меры па далейшым пашырэнні рускага ўплыву на беларускіх землях. 29 лістапада 1830 г. быў выдадзены ўказ аб адмене з 1 студзеня 1831 г. Літоўскага Статута на тэрыторыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Указам ад 18 лютага 1831 г. на землях Беларусі ўводзілася новае заканадаўчае ўлажэнне аб губернях. На падставе ўказаў ад 30 кастрычніка 1831 г. і 11 студзеня 1832 г. усім дзяржаўным установам і пасадам на Беларусі былі дадзены расійскія назвы.

У 1832 г. створаны "Асабовы камітэт па справах заходніх губерняў", які павінен быў распрацоўваць і ажыццяўляць план пашырэння расійскага дваранскага землеўладання і адпаведныя меры ў галіне кіравання, суда, асветы, культуры. У мясцовыя адміністрацыйныя органы пачалі прызначацца пераважна расійскія чыноўнікі.

У 1832 г. быў закрыты Віленскі універсітэт як небяспечны ачаг вальнадумства. Указамі ад 11 мая і 11 чэрвеня 1832 г. польская мова ў судовай справе заменена на рускую.

У 1840 г. поўнасцю адменена дзеянне Літоўскага Статута. Расійскае заканадаўства распаўсюджвалася на ўсю тэрыторыю Беларусі. Дзяржаўнае справаводства і выкладанне ў вышэйшых навучальных установах павінна было весціся на рускай мове.

У 1839 г. было праведзена аб'яднанне уніяцкай царквы з праваслаўнай, каб аслабіць польска-каталіцкі ўплыў на беларускае насельніцтва. На пачатку 40-х гадоў царскі ўрад пазбавіў духавенства, як каталіцкае, так і праваслаўнае, права валодаць зямлёй з сялянамі, тлумачачы забарону тым, што клопат аб уласнасці адцягвае ўвагу святароў ад іх прамых ідэалагічных і духоўных абавязкаў.

Усімі гэтымі мерамі была поўнасцю ліквідавана юрысдыкцыя мясцовых феадалаў на Беларусі, падарваны ідэалагічны фундамент іх магутнасці – каталіцтва. Адначасова царскі ўрад распачаў пошук шырокай апоры ў асяроддзі сялянства. Гэтай мэце спрыяла распрацаваная ў 1860 – 1862 гг. адукацыйная праграма, якая дазваляла ў школах ніжэйшай ступені ўжываць беларускую мову. Як пісала газета славянафілаў "Дзень", "каб беларускі селянін адчуў сябе рускім, ён павінен адчуць сябе перш за ўсё беларусам: разам вылепіць з яго велікарускага мужыка немагчыма, дый няма патрэбы...Мы лічым дзеля гэтага, што было б надзвычайна карысна выкладаць першапачатковыя веды і сэнс урадавых загадаў беларускаму селяніну на беларускай мове, навучыць чытаць і пісаць яго па-беларуску, а потым безварункова па-расійску і па-царкоўнаславянску".

◁ *Дзеячы культуры і навукі, паэты і пісьменнікі: 1-ы рад зверху (злева направа) – В. Дунін-Марцінкевіч, С. Манюшка, Я. Тышкевіч; 2-і рад – П. Скарга, М. Баброўскі; 3-і рад – У. Сыракомля, А. Міцкевіч, І.Грыгаровіч; 4-ы рад – І.Даніловіч, І. Лялевель; 5-ы рад – М. Стрыйкоўскі, Т. Нарбут*

Асаблівую нагрузку па ўмацаванні расійскіх пазіцый на Беларусі ды і ў іншых далучаных губернях несла на сабе праграма сацыяльна-эканамічных рэформ, задуманых з мэтай мадэрнізацыі старых феадальных парадкаў.

## § 2. Крызіс прыгоннага ладу. Эканамічныя рэформы 30 – 50-х гадоў XIX ст.

З 40-х гадоў XIX ст. працэс разлажэння феадальна-прыгоннай сістэмы на Беларусі і ў Расіі перарос у крызіс. Рубеж дзвюх грамадскіх фармацый быў адзначаны асаблівай вастрынёй супярэчнасцей. У сельскай гаспадарцы крызіс выявіўся ў рэзкім зніжэнні прыбытковасці памешчыцкіх маёнткаў і гаспадарак дзяржаўных сялян, абеззямельванні і збядненні сялянства, у росце сацыяльна-класавых канфліктаў, якія яшчэ больш расхіствалі феадальныя асновы.

У гэтых умовах урад пайшоў на шэраг палавінчатых рэформ, мэтай якіх з'яўлялася захаванне дваранскай манаполіі на зямлю і сістэмы феадальнай эксплуатацыі сялян. Адпаведна распрацоўваліся меры, якія дапамаглі б павысіць узровень сялянскай гаспадаркі, прыпыніць працэс маёмаснай дыферэнцыяцыі.

Рэформы пачаліся са спробы змяніць становішча дзяржаўных сялян, аднак прадугледжвалася, што гэта будзе першы вопыт вырашэння агульнасялянскага пытання.

Правядзенне рэформы было звязана з імем графа П.Д.Кісялёва, яе аўтара і распрацоўшчыка, які ўзначальваў V Аддзяленне "ўласнай яго імператарскай вялікасці канцылярыі", а пасля – Міністэрства дзяржаўнай маёмасці. Гэта быў высокаадукаваны чалавек, прыхільнік абмежавання прыгоннага права.

Рэформа П.Д.Кісялёва цікавая для нас, па-першае, тым, што малавядомая; па-другое, з прычыны яе значнасці ў працэсе вырашэння агульнасялянскага пытання; па-трэцяе, таму што ў заходніх губернях Расіі, у тым ліку і на Беларусі, яна была больш глыбокай і па свайму зместу, і па выніках, чым у Цэнтральнай Расіі. Гэта тлумачылася вастрынёй сялянскага пытання ў беларускіх губернях. Царскі ўрад хацеў хутчэй сцерці розніцу паміж узроўнем развіцця далучаных губерняў і Расіі, прытушыць выбуханебяспечныя тэндэнцыі, баючыся зліцця сялянскіх хваляванняў са шляхецкім рухам.

Чым адрознівалася становішча дзяржаўных сялян на Беларусі ад расійскіх? На Беларусі дзяржаўных сялян было значна менш. Інстытут "дзяржаўнага феадалізму" на Беларусі і ў Расіі дзейнічаў па-рознаму.

У Расіі ён існаваў у адносна чыстай форме як сістэма эксплуатацыі з боку казённага ведамства, пад якую падпадалі непасрэдна дзяржаўныя сяляне. Дзяржаўнымі маёнткамі кіравалі чыноўнікі казённых палат. Права ўласнасці казны не мела такой моцнай





юрыдычнай сілы, як права памешчыкаў. Эксплуатацыя дзяржаўных сялян абмяжоўвалася складзенымі па кожным маёнтку юрыдычнымі дакументамі (інвентарамі). Адзначаныя ў іх нормы павіннасцей ніхто не меў права перавышаць.

На Беларусі "дзяржаўны феадалізм" дзейнічаў апасродкавана, праз сістэму часовага валодання. Дзяржаўныя маёнткі здаваліся ў арэнду ці "адміністрацыю" мясцовым памешчыкам. "Адміністрацыя" адрознівалася ад арэнды больш кароткім тэрмінам валодання маёнткам, некалькі іншай формай атрымання прыбыткаў і справаздачнасці. У сістэме часовага валодання як у арэндзе, так і "адміністрацыі" ў цэлым пераважалі кароткатэрміновыя формы, што ўзмацняла ступень эксплуатацыі маёнткаў, рабіла яе больш драпежніцкай нават у параўнанні з прыватнаўласніцкімі.

Розным было і прававое становішча дзяржаўных сялян Расіі і Беларусі. Больш хуткія тэмпы развіцця капіталізму ў Расіі прымушалі ўрад прыстасоўваць феадальныя адносіны да новых эканамічных умоў, што, у прыватнасці, выявілася ў пашырэнні грамадзянскіх правоў сялян названай катэгорыі. Яны былі абвешчаны вольнымі грамадзянамі, мелі права мяняць месца жыхарства, сыходзіць у іншыя саслоўі, мяняць характар дзейнасці, звяртацца са скаргамі ў судовыя інстанцыі.

На Беларусі прававое становішча дзяржаўных сялян не адрознівалася ад становішча памешчыцкіх. Часовы ўладальнік быў надзелены эканамічнай, адміністрацыйнай і судовай уладай над сялянамі. Але галоўнае эканамічнае адрозненне двух рэгіёнаў заключалася ў сістэме збору феадальнай рэнты. У Расіі дзяржаўныя маёнткі знаходзіліся на падушным аброку, на Беларусі – на "гаспадарчым становішчы", г.зн. на паншчыне.

Рэформа П.Д.Кісялёва прадугледжвала тры напрамкі: рэформу сістэмы кіравання дзяржаўнымі сялянамі; палітыку "апякунства" ў адносінах да сялян; шэраг аграрных пераўтварэнняў, вядомых пад назвай "люстрацыі дзяржаўных маёмасцей". І калі ў Расіі апошняя звялася галоўным чынам да замены падушнага вылічэння аброку пазямельным, то на Беларусі яна суправаджалася пераменамі ў галіне сялянскага землекарыстання і адносін рэнты. Люстрацыі праводзіліся і раней, аднак абмяжоўваліся рэгуляваннем памераў маёнткаў і складаннем інвентароў з вызначэннем сялянскіх падаткаў.

Рэформа пачалася з перабудовы апарату кіравання. Агульнакіраўнічыя функцыі, якія з 1811 г. сканцэнтраваліся ў дэпартаменце дзяржаўных маёмасцей Міністэрства фінансаў, з 1 студзеня 1838 г. перадаваліся новаму Міністэрству дзяржаўных маёмасцей. Першым міністрам быў прызначаны граф П.Д.Кісялёў. У снежні 1839 г. Мікалай I падпісаў Палажэнне аб кіраванні дзяржаўнымі маёмасцямі ў заходніх губернях і Беластоцкай вобласці. Замест чатырох'яруснай сістэмы мясцовага кіравання, уведзенай у расійскіх губернях, на Беларусі ўстанаўліваліся тры адміністрацыйныя ярусы:

губерня – акруга – сельская ўправа. Функцыі валаснай адміністрацыі, якая мела месца ў Расіі, на Беларусі былі размеркаваны паміж эканамічнымі ўпраўленнямі часовых уладальнікаў і сялянскімі выбраннікамі.

Новы апарат кіравання пачаў дзейнічаць з красавіка 1840 г. Функцыі губернскіх органаў улады перадаваліся палатам дзяржаўных маёмасцей. У іх кампетэнцыю ўваходзілі выбар форм кіравання дзяржаўнымі маёнткамі, правядзенне рэвізій, люстрацый, ахова грамадскага парадку, пытанні харчовай, медыцынскай дапамогі і г.д. Акруговая адміністрацыя займалася непасрэднай арганізацыяй сельскіх абшчын. Акругі дзяліліся на сельскія абшчыны, і з іх фарміраваліся маёнткі. Сельскія ўправы з'явіліся ніжэйшым ярусам новай адміністрацыі. Іх органамі былі сельскі сход, сельскае кіраўніцтва. Сход выбіраў старэйшын, даваў сялянам адпускныя для пераходу ў іншыя саслоўі, дзяліў землі сялянскай грамады, праводзіў размеркаванне падаткаў і збораў паміж сялянамі. Абшчына, уводзімая ў беларускіх дзяржаўных маёнтках усіх губерняў пасля далучэння да Расіі, у выніку рэформы П.Д.Кісялёва была максімальна набліжана да агульнарасійскага ўзору. Новая адміністрацыя ўпарадкавала кіраванне дзяржаўнымі маёнткамі, увяла жорсткі кантроль за часовымі ўладальнікамі, узвысіла статус сельскіх абшчын. Уводзілася таксама арэнда сялянамі дзяржаўных маёнткаў.

Негатыўным вынікам увядзення новай сістэмы кіравання быў моцны рост бюракратычнага апарату. Толькі ў Мінскай губерні з 1837 па 1838 г. колькасць службовых асоб з ліку дзяржаўных сялян вырасла з 243 да 840 чалавек. Блытаніна ў справаводстве, валакіта, службовыя злоўжыванні сталі нормай існавання новага апарату.

Наступнай часткай праграмы П.Д.Кісялёва стала палітыка "апякунства" над дзяржаўнымі сялянамі. Была арганізавана харчовая дапамога сялянам, якую ажыццяўлялі спецыяльна пабудаваныя запасныя хлебныя магазіны. Павелічэнне запасаў у іх ажыццяўлялася як за кошт часткі сялянскага збожжа, так і за кошт атрымананага хлеба са спецыяльна адведзенай плошчы грамадскага ворыва. Харчовая палітыка прадугледжвала меры на выпадак неўраджаяў і масавых эпідэмій, паморку жывёлы і высокай смяротнасці сялян.

Ставілася пытанне аб арганізацыі пачатковага навучання сялян. Шматлікаму апарату кіравання дзяржаўнай вёскай патрабаваліся пісьменныя працаўнікі. Гэтыя патрэбы павінны былі задавальняць прыходскія школы ў сельскіх грамадах. У 1848 г. у Мінскай губерні адзін вучань прыпадаў на 111 сялянскіх душ, Магілёўскай – на 123, Гродзенскай – на 163, Віцебскай – на 204, у Віленскай – на 371 сялянскую душу дзяржаўных маёнткаў. Выдаткі на навучанне былі мізэрныя. Прыходскія школы не маглі нават падрыхтаваць неабходнай колькасці сельскіх пісараў. Міністэрства дзяржаўных маёмасцей





рабіла спробы адкрыць вучылішчы для навучання сялян розным рамёствам, аднак гэтыя спробы былі не вельмі настойлівымі.

Значнае месца ў апякунскай палітыцы адводзілася арганізацыі першаснай медыцынскай дапамогі ў дзяржаўных маёнтках. Яны забяспечваліся фельчарамі, акушэрамі, аднак медыкаў не хапала.

Апякунская палітыка прадугледжвала таксама ўкараненне розных аграномічных мерапрыемстваў, развіццё сістэмы страхавання, барацьбу з п'янствам, актывізацыю гандлю. Аднак недахоп сродкаў, жаданне палепшыць сялянскі побыт за кошт саміх жа сялян перашкаджалі ажыццяўленню планаў рэфарматараў.

Трэцяй і важнейшай часткай рэформы П.Д.Кісялёва з'явілася люстрацыя дзяржаўных маёмасцей. Яна карэнным чынам адрознівалася ад ранейшых люстрацый. Гэта было палітычнае мерапрыемства, якое ставіла тры мэты: "прывядзенне ў вядомасць" дзяржаўных маёмасцей, нівеліроўку гаспадарчага ўзроўню сялянскіх сем'яў шляхам скасавання малазямелля і рэгламентацыі павіннаснага прыгнёту, павышэнне плацежаздольнасці дзяржаўнага сялянства. Пачатак ажыццяўлення гэтай палітыкі быў пакладзены Палажэннем аб люстрацыі дзяржаўных маёмасцей у заходніх губернях і Беластоцкай вобласці ад 28 снежня 1839 г. Яна праводзілася ў два этапы: да 1844 г. – пры захаванні фальваркава-паншчыннай сістэмы, з 1844 г. – на аснове паскоранага пераводу сялян на аброк. На першым этапе ўрад спрабаваў вырашыць праблему землезабяспечанасці гаспадарчага ўзроўню сялян шляхам пераразмеркавання зямельнага фонду паміж дзяржаўнымі маёнткамі і перасялення часткі сялян у больш забяспечаныя ворнымі землямі губерні Расіі. Аднак гэтыя меры аказаліся вельмі дарагімі, працаёмкімі і маладзейснымі.

Перамены ў характары феадальных адносін да 1844 г. былі нязначныя і зводзіліся да адмены натуральнай рэнты і ўводу дэталёвай рэгламентацыі сялянскіх павіннасцей з паўсюдным пашырэннем урочнай сістэмы[1]. З 1844 г. урад памяняў напрамак рэформ: знішчалася фальваркава-прыгонная сістэма ва ўсіх дзяржаўных маёнтках. Паскоранымі тэмпамі дзяржаўныя сяляне пераводзіліся на пазямельны аброк. З фальваркавых зямель ім былі зроблены прырэзкі да надзелаў. Да канца 1857 г. на аброк пераведзены ўсе маёнткі Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Была знішчана ў іх сістэма часовага ўладання.

Адмова ад фальваркава-паншчыннай сістэмы і перавод на аброк з'явіліся галоўнымі вынікамі рэформы, якія вызначылі яе буржуазна-прагрэсіўны сэнс. Агульная плошча надзельнага фонду павялічылася ў выніку рэформы П.Д.Кісялёва на 10,73 %. Гэта мала што змяніла ў забяспечанасці сялян зямлёй, бо за гады рэформы колькасць рэвізскіх душ узрасла на 38,5 %. Але было нівеліравана

[1] Сістэма выкарыстання ўроку – абавязковага дзённага задання для сялян на паншчыне.

становішча сялян, за кошт знішчэння паншчыны ў сярэднім на 20% знізіўся павінначасны прыгнёт, хаця ў Віцебскай губерні ў трэцяй частцы маёнткаў перавод на аброк, наадварот, узмацніў эксплуатацыю. Асабліва спрыяльныя перамены адбыліся ў праваым статусе беларускіх дзяржаўных сялян. За імі прызнавалася грамадзянская свабода, што выгадна адрознівала іх ад бяспраўных памешчыцкіх падданых. Прынцыповае значэнне мелі правы ўступлення ў шлюб, бацькоўскія, апякунскія, правы атрымання спадчыны, уласнасці, правы на занятак гандлем і промысламі, хаця яны былі ў многім дэкларатыўныя.

Рэформа не змагла прадухіліць працэс выспявання капіталістычных адносін у дзяржаўнай вёсцы, затрымаць працэс расслаення сялян. Аб'ектыўна яна мела супрацьлеглыя вынікі. Перавод на аброк спрыяў росту маёмаснай дыферэнцыяцыі, працэсу першапачатковага накаплення капіталу, вызваліў працоўныя рукі для капіталістычнай вытворчасці, стымуляваў рост гарадскога насельніцтва.

У 40-я гады XIX ст. урад узняў пытанне аб увядзенні абавязковых інвентароў у памешчыцкіх маёнтках. З сакавіка 1840 г. П.Д.Кісялёў пачаў займацца ўмовамі інвентарнай рэформы з мэтай падцягвання ўзроўню памешчыцкай вёскі да дзяржаўнай. Памешчыкі сталі на абарону сваёй уласнасці. Паступова рэфармісцкія памкненні Камітэта па справах заходніх губерняў, які адказваў за рэформы, усё больш прыглушаліся. Прынцыпы рэформы дзяржаўнай вёскі ў дачыненні да памешчыцкай былі адхілены. У выніку праведзеная інвентарная рэформа ў памешчыцкай вёсцы была значна менш радыкальнай.

Рэформа уніфікавала павінначасны прыгнёт шляхам увядзення ў памешчыцкіх маёнтках абавязковых інвентароў па адзіных правілах, але асаблівай палёгкі сялянам не дала. У адрозненне ад дзяржаўнай вёскі, пераведзенай на аброк, у памешчыцкіх маёнтках засталіся наступныя віды павіннасцей: паншчына (штодзённая), згоны, шарваркі, жаночая праца, старажоўства, даніна. Агульны памер павіннасцей складаў 1/3 валавога даходу з надзелу. Захоўвалася ўрочная сістэма. Інвентарная рэформа не вырашыла найважнейшага пытання – аб сялянскім землекарыстанні. Сцвярджалася толькі, што сялянскія надзелы не павінны змяншацца. Аднак на першым часе гэта не было замацавана заканадаўствам. Толькі 14 мая 1855 г. Аляксандр II зацвердзіў перагледжаныя ў інвентарных камітэтах правілы для маёнткаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў, у якіх нарміраваўся мінімальны сялянскі надзел – 4,75 дзесяціны на рэвізскую душу, а баршчына – 3 дні на тыдзень.

Рэформы 30 – 50-х гадоў захоўвалі сваю чыста дваранскую накіраванасць. Прынцыпы рэфармавання дзяржаўнай вёскі былі прызнаны памешчыкамі занадта радыкальнымі. Сацыяльна-прававое становішча памешчыцкіх сялян мала змянілася. Аднак, хаця феадальная ўласнасць заставалася пакуль некранутай, феадалізм няўхільна каціўся да свайго канца.





Абагульняючы ўсё сказанае, хацелася б адзначыць, што пытанне аб далучэнні Беларусі да Расіі нельга спрашчаць. Змена дзяржаўнай прыналежнасці – гэта буйная веха ў гісторыі ўсякага народа. Такія падзеі нельга ацэньваць адназначна, яны маюць як станоўчы, так і адмоўны патэнцыял.

# ГЛАВА 2

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ КАНЦА XVIII – ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XIX ст.

## § 1. Асаблівасці культурнага развіцця Беларусі. Адукацыя і навука. Беларусазнаўства – частка славістыкі

**Да пытання аб т.зв. "забароне" расійскім урадам назваў "Беларусь" і "Літва", "беларускія і літоўскія губерні", беларускай мовы і беларускага друкаванага слова.** У беларускай савецкай гістарыяграфіі, а таксама ў публікацыях апошніх дзесяці гадоў шырока выкарыстаны тэзісы аб т.зв. "забароне" Мікалаем I назваў "Беларусь" і "Літва", "беларускія і літоўскія губерні", аб забароне беларускай мовы і беларускага друкаванага слова. Ля вытокаў гэтых тэзісаў знаходзіліся складальнікі 2-га тома дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі акадэмік М.М.Нікольскі, навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР Д.А.Дудкоў, І.Ф.Лочмель і інш. Яны, перадрукоўваючы ўказ ад 18 ліпеня 1840 г. з "Хронологического указателя указов и правительственных распоряжений...", на што зроблена адпаведная спасылка, замянілі яго назву: замест "Об именовании губерний Белорусских и Литовских, каждою отдельно: Витебскою, Могилевскою, Виленскою и Гродненскою" па палітыка-ідэалагічных матывах назвалі гэты дакумент так: "Забарона царом Мікалаем ужываць назвы Беларусь і Літва" (гл.: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772 – 1903). Мн.: Выдавецтва АН БССР, 1940. Т.2. С.369). Аналагічным чынам зрабілі і складальнікі 4-га тома зборніка дакументаў і матэрыялаў "Белоруссия в эпоху феодализма", якія далі такі загаловак указу ад 18 ліпеня 1840 г.: "Указ Сената о запрещении употребления терминов "Белоруссия и Литва" (гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1979. Т.4. С.131).

Каб высветліць, аб чым ідзе размова ва ўказе ад 18 ліпеня 1840 г., прывядзём яго цалкам.

"1840. 18 июля. Сенатский, по Высочайшему повелению.

Об именовании губерний Белорусских и Литовских, каждою отдельно: Витебскою, Могилевскою, Виленскою и Гродненскою.

Правительствующий Сенат слушали предложение управляющего Министерством Юстиции, что управляющий делами Комитета Министров, по поручению оного, отношением от 26 минувшего июня сообщил ему, что по случаю внесения по высочайшему предписанию проекта указа, в котором упоминались губернии Белорусския и Литовския под сими наименованиями, государь император, зачеркнув название Белорусских и Литовских, изволил приказать переписать указ с поименованием губерний, каждой отдельно, Витебскою, Могилевскою, Виленскою и Гродненскою; при чем последовало собственноручное высочайшее повеление: "Правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая как поименно губернии". О таковом высочайшем повелении он, управляющий Министерством Юстиции, предлагает Правительствующему Сенату. Приказали: (послать куда следует указы)" (гл.:Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет, с 1652 по 1892 год. Составитель С.Ф.Рубинштейн. Вильна, 1894. С.495).

**Па-першае**, у гэтым указе не названа Мінская губерня. І гэта невыпадкова. Як відаць з царскіх указаў і ўрадавых распараджэнняў, да ліку беларускіх губерняў адносіліся Магілёўская і Віцебская губерні, а да літоўскіх – Віленская і Гродзенская. Мінская губерня ні да беларускіх, ні да літоўскіх губерняў не адносілася. Так, 11 кастрычніка 1821 г. былі "высочайше" зацверджаны правілы "О взыскании недоимок в губерниях Белорусских, Литовских, Минской, Киевской, Волынской, Подольской и Белостокской области".

**Па-другое**, у гэтым указе няма ні слова аб забароне ўжываць назвы "Беларусь" і "Літва". Размова ў ім ідзе толькі аб упарадкаванні дзяржаўнага справаводства, што бачна з далейшых царскіх загадаў і ўрадавых распараджэнняў. Так, 3 снежня 1840 г., праз 4 месяцы пасля т.зв. "забароны", з'явіўся "именный, объявленный обер-прокурором Святейшего Синода" ўказ "О введении Белоруско-Литовской духовной коллегии в один разряд с конторами Синода по предмету определения на службу молодых людей дворянского происхождения или приобревших право на классные чины". 28 лютага 1856 г. было абнародавана "Высочайше утвержденное положение комитета министров о выдаче безденежных паспартов жителям некоторых Западных и Белорусских губерний для отлучек на заработки", 19 лютага 1861 г. – "Высочайше утвержденное местное положение об устройстве крестьян, водворенных на помещичьих землях в губерниях Великороссийских, Новороссийских и Белорусских" і г.д. Можна назваць больш за 10 урадавых распараджэнняў, выдадзеных у 40 – 80-я гады XIX ст., у якіх ужываецца назва "беларускія і літоўскія губерні".

**Па-трэцяе**, тэрміны "Беларусь" і "Літва", "беларускія і літоўскія губерні" ўжывалі ў сваіх запісках, справаздачах і іншых дакументах





царскія чыноўнікі. Так, віленскі генерал-губернатар У.І.Назімаў пісаў 14 лютага 1862 г. аб тым, што "вслед за высоч. Манифестом (19 лютага 1861 г. аб адмене прыгоннага права. – *Я.Н.*) в пределах Царства Польского, Литовских, Белорусских и некоторых других западных губерниях возникли беспорядки...".

**Па-чацвёртае**, у тыя гады, калі быццам бы дзейнічаў указ аб забароне тэрмінаў "Беларусь", "беларускія", існавала Беларуская навучальная акруга. Яна была створана ў 1829 г. для арганізацыі і кіравання навучальнымі ўстановамі Віцебскай і Магілёўскай губерняў, кіраўніцтва якімі да гэтага часу ажыццяўляла Пецярбургская навучальная акруга. З закрыццём Віленскага універсітэта ўсе падначаленыя яму вучылішчы былі далучаны да Беларускай навучальнай акругі. 20 мая 1850 г. была адноўлена Віленская навучальная акруга. Віцебская і Магілёўская губерні спачатку былі далучаны да Пецярбургскай навучальнай акругі, а 7 кастрычніка 1864 г. – да Віленскай навучальнай акругі.

**Па-пятае**, малавядомым фактам гісторыі з'яўляецца існаванне ў царскай арміі 7-га гусарскага Беларускага палка імя імператара Аляксандра I. Полк удзельнічаў у руска-турэцкіх войнах 1806 – 1812, 1828 – 1829, 1877 – 1878 гг., Айчыннай вайне 1812 г., Крымскай вайне 1853 – 1856 гг., у падаўленні паўстання 1830 – 1831 гг.

**Па-шостае**, у друкарнях Пецярбурга, Масквы, Мінска, Вільні і іншых гарадоў Расійскай імперыі выдаваліся кніжкі, брашуры, артыкулы з назвамі "Беларусь", "беларускі". Паводле няпоўных падлікаў доктара гістарычных навук А.П.Ігнаценкі, з 1841 па 1917 г. было выдадзена каля 190 такіх кніг і брашур. Гэта сведчыць аб тым, што ніякай афіцыйнай забароны тэрмінаў "Беларусь", "беларускі" не існавала

**Па-сёмае**, многія навукоўцы і пісьменнікі сцвярджаюць, што пасля забароны тэрмінаў "Беларусь" і "Літва" было ўведзена "невыразнае штучнае найменне" "Паўночна-Заходні край", "Заходні край". Але гэта яўная недарэчнасць або свядомая фальсіфікацыя гісторыі. Заходнія губерні, Заходні край, Заходняя паласа Расіі – гэта тэрыторыя Украіны, Беларусі і Літвы (Кіеўская, Валынская, Падольская, Магілёўская, Віцебская, Мінская, Віленская, Гродзенская губерні і Беластоцкая вобласць). Паўднёва-Заходні край – гэта тэрыторыя Украіны, Паўночна-Заходні край – тэрыторыя тагачаснай Літвы, як яе тады разумелі (сучасная Літва і Заходняя Беларусь). Указ ад 18 снежня 1842 г. "О преобразовании Северо-Западных губерний" сведчыць аб тым, што Паўночна-Заходні край – гэта тэрыторыі Мінскай, Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губерняў. Але 22 снежня 1870 г. быў абвешчаны новы ўказ "Об изъятии Минской губернии из ведения главного управления Северо-Западным краем". Гэта дае падставу лічыць, што Мінская губерня была аднесена да беларускіх губерняў Беларускага краю (разам з Віцебскай і Магілёўскай губернямі).

Можна прывесці шмат іншых дакументаў, у якіх размяжоўваюцца паняцці "Беларускія губерні", "Беларускі край" і "Паўночна-Заходнія губерні", "Паўночна-Заходні край". Напрыклад, 12 чэрвеня 1893 г. з'явілася "Распоряжение, объявленное Правительствующему Сенату министром внутренних дел. Об утверждении формы выкупного акта на участки земли, выкупаемые русскими арендаторами православного исповедания, водворенными на владельческих землях в губерниях Северо-Западных и Белорусских до 19 февраля 1861 г.". З цягам часу тэрмін "Паўночна-Заходні край" пачаў распаўсюджвацца на ўсе 6 беларуска-літоўскіх губерняў. Аднак тэрміны "Беларусь" і "беларускі" ніколі не забараняліся і не выключаліся з дзяржаўнага і афіцыйнага ўжывання, бо яны разам з назвамі "Велікаросія", "велікарускі", "Маларосія", "маларускі", маючы адзіны корань "рос", служылі для царызму пацвярджэннем яго тэорыі "о трёх племенах единого русского народа".

**Па-восьмае**, гістарычнай навуцы невядомы царскі ўказ ці ўрадавае распараджэнне аб забароне беларускай мовы і беларускага друкаванага слова. Наадварот, кнігі на беларускай мове выдаваліся ў друкарнях Расійскай імперыі, асабліва ў другой палове XIX – пачатку XX ст. (гл. раздзел V).

**Ідэалогія Асветніцтва.** Пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі нацыянальна-культурнае развіццё Беларусі адбывалася ў новых абставінах, звязаных з фарміраваннем капіталістычных адносін, станаўленнем беларускай нацыі, зараджэннем і паступовым узмацненнем нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. У канцы XVIII – першай палове XIX ст. моцныя пазіцыі ў Беларусі мела польская культура. Польская мова была мовай пераважнай часткі адукаванага насельніцтва, мовай асветы, тэатра, кнігадрукавання. На карысць польскай культуры працавала шмат ураджэнцаў Беларусі: у літаратуры – А.Міцкевіч і У.Сыракомля (сапр. Л.Кандратовіч), музыцы – М.К.Агінскі і С.Манюшка.

Адначасова з паланізатарскімі тэндэнцыямі ў культурным жыцці Беларусі пачынае ўзмацняцца рускі ўплыў. На першым этапе распаўсюджванне рускай культуры праходзіла праз польскае пасрэдніцтва: пераклад рускіх кніг, пастаноўка п'ес рускіх аўтараў, падрыхтоўка да друку руска-польскіх выданняў. Ажыццяўлялася распрацоўка планаў забудовы беларускіх гарадоў у адпаведнасці з прынцыпамі рускага горадабудаўніцтва і г.д.

У другой чвэрці XIX ст. палітыка царызму, накіраваная супраць паланізацыі, стала больш рашучай і жорсткай. Афіцыйная польскамоўная культура паступова замянялася афіцыйнай рускамоўнай культурай. Нягледзячы, аднак, на моцны іх уплыў, ішоў працэс росту самасвядомасці беларусаў, станаўлення нацыянальнай культуры, якая абапіралася на мову, звычаі, абрады, традыцыі народа і распрацоўвалася патрыятычна настроенымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі. Акрамя





таго, яўрэі, татары і іншыя народы, якія жылі на тэрыторыі Беларусі, мелі сваю мову і культуру. Таму культуру Беларусі першай паловы XIX ст. можна назваць шматмоўнай.

Станаўленне капіталістычных адносін праходзіла ва ўмовах вострай ідэалагічнай барацьбы. Новаму буржуазнаму класу неабходна было ідэйна абгрунтаваць свае правы на эканамічнае і палітычнае пана-ванне ў грамадстве. Так з'явілася ў Еўропе антыфеадальная паводле сваёй сацыяльна-палітычнай сутнасці ідэалогія Асветніцтва. Яе распаўсюджванне ў Беларусі прыпадае на канец XVIII – першую трэць XIX ст. Працягваючы ў новых умовах гуманістычныя традыцыі эпохі Адраджэння, асветнікі прапаведвалі прыярытэт розуму, асветы і навукі ў жыцці асобы і грамадства. Замест ідэалу былых часоў – чалавека старых правіл, набожнага, экзальтаванага, непрымірымага да ўсяго новага – перадавое шляхецкае асяроддзе фарміравала іншы ідэал. Гэта – чалавек разумны, рацыяналіст і скептык, крытык рэлігіі, рэфарматар, адкрыты дасягненням сусветнай культуры і новым яе павевам.

Усе сацыяльныя інстытуты феадалізму прыхільнікамі асветніцкай ідэалогіі лічыліся "неразумнымі" і "ненатуральнымі". Замест хрысціянска-дагматычных уяўленняў сярэднявечча ідэолагі Асветніцтва прапанавалі свае рацыяналістычныя тэорыі грамадства і дзяржавы, маралі і рэлігіі. У прыватнасці, тэорыя "натуральнага права", якую падтрымліваў І.Страйноўскі, зыходзіла з уяўлення аб прыроджанай роўнасці людзей і такім чынам ідэалагічна абгрунтоўвала патрабаванні дэмакратычных свабод. Тэорыя "грамадскага дагавору" Русо, выкладзеная Т.Млоцкім, адвяргала боскае паходжанне дзяржаўнай улады і сцвярджала, што дзяржава – вынік дамовы паміж людзьмі. Гэтым даказвалася права народа пазбавіць улады манарха, які не выконваў умоў дагавору і не ахоўваў "натуральныя правы" грамадзян. Асноўнымі "натуральнымі правамі" людзей лічыліся правы на жыццё, уласнасць, свабоду і роўнасць. Разглядаючы пытанні аб практычнай пабудове будучага грамадства, асветнікі прапанавалі тэорыю "раздзялення ўлады". У падзеле ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую яны бачылі гарантыю ад злоўжывання ўладай, аховы грамадзян ад беззаконня. Ідэалогія Асветніцтва была блізкая філаматам і філарэтам.

Прыхільнікі новай, асветніцкай ідэалогіі мянялі старадаўнія жупаны і кунтушы на еўрапейскае адзенне, перабудоўвалі на новы лад свае сядзібы, бо барока здавалася ім старамодным. Яны аддавалі перавагу мастацкаму стылю эпохі Асветніцтва – класіцызму, які імкнуўся ўсё падпарадкаваць законам розуму, прыгажосці і велічнай прастаты.

**Развіццё адукацыі. Школьныя статуты 1804 і 1828 гг. Закрыццё Віленскага універсітэта. Горы-Горацкі земляробчы інстытут.** Распаўсюджанне ўплыву ідэй Французскай буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII ст., нарастанне дэмакратычных настрояў у асяроддзі прагрэсіўнай часткі рускага грамадства прымусілі царызм правесці

37. Зак. 5560

некаторыя рэформы ў галіне адукацыі, якія датычыліся і развіцця школьнай справы на Беларусі. У 1802 г. у Расіі было створана Міністэрства народнай асветы. Паводле Статута 1804 г., які складзены ў адпаведнасці з французскай асветніцкай філасофіяй XVIII ст., школьная сістэма будавалася па прынцыпе адзінства і пераемнасці: кожная школьная ступень была звязана з папярэдняй і наступнай, пераход у школу ажыццяўляўся без экзамена, на падставе дакумента аб заканчэнні папярэдняй школы. Навучанне аб'яўлялася бясплатным. Сістэма адукацыі ўключала ў сябе прыходскія вучылішчы з гадавым тэрмінам навучання (пачатковая школа), двухгадовыя павятовыя вучылішчы, чатырохгадовыя гімназіі і універсітэты. Станоўчымі вынікамі рэформы на Беларусі з'явіліся рост свецкіх агульнаадукацыйных школ і колькасці навучэнцаў, увядзенне ў навучальныя планы прыродазнаўчых дысцыплін, развіццё жаночай адукацыі.

Было цэнтралізавана кіраванне навучальнымі ўстановамі. Еўрапейская частка Расійскай імперыі дзялілася на 6 навучальных акруг, кожную з якіх узначаліў прызначаны царом наглядальнік. Віцебская, Гродзенская, Мінская і Магілёўская губерні ўвайшлі ў склад Віленскай навучальнай акругі. Навуковым і адміністрацыйна-метадычным яе цэнтрам стаў Віленскі універсітэт. Гімназіі Віленскай навучальнай акругі мелі 6 класаў, павятовыя вучылішчы – 3 класы. Выкладанне вялося на польскай мове, а руская мова падавалася як адна з вучэбных дысцыплін.

Рэформа сістэмы адукацыі не ўхіліла ў школах заходніх губерняў каталіцкага ўплыву. Значная частка навучальных устаноў Беларусі падпарадкоўвалася ордэну езуітаў. Гэта была ўступка ўрада ўплывовым колам спаланізаванага дваранства. У езуіцкіх вучылішчах налічвалася каля тысячы чалавек. Існавалі таксама гімназіі духоўных ордэнаў, ці "гімназіяльныя вучылішчы". Гэтыя навучальныя ўстановы карысталіся папулярнасцю і садзейнічалі распаўсюджванню каталіцызму. Па патрабаванні ордэна езуітаў у 1812 г. імператар Аляксандр I даў згоду на заснаванне на базе езуіцкага калегіума Полацкай езуіцкай акадэміі з правам вышэйшай свецкай навучальнай установы – універсітэта. Акадэмія з'яўлялася таксама цэнтрам асобай навучальнай акругі, якой падпарадкоўваліся навучальныя ўстановы езуітаў, што існавалі на той час у Расійскай імперыі. У 1820 г. Полацкая езуіцкая акадэмія была закрыта.

Дзейнічалі на Беларусі таксама царкоўнапрыходскія школы і манастырскія вучылішчы.

У 1828 г. быў выдадзены новы статут навучальных устаноў. Замест адзінай сістэмы пераемна звязаных паміж сабой тыпаў школ, створанай паводле Статута 1804 г., уводзіліся дзве сістэмы, сфарміраваныя па саслоўным прынцыпе: адна з іх павінна была даваць элементарную адукацыю для ніжэйшых саслоўяў (прыходскае вучылішча з 1 – 2 гадамі навучання, затым трохгадовае павятовае вучылішча), другая – сярэдняй і вышэйшай адукацыі – пераважна







*Першы будынак Горы-Горацкага земляробчага інстытута, пабудаваны ў 1840 г.*

*Спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г.*

для дваран (дамашняе навучанне, сямігадовая гімназія, універсітэт).

Пасля падаўлення паўстання 1830 – 1831 гг. урадавая палітыка ў заходніх губернях карэнным чынам змянілася: узмацнілася барацьба супраць паланізацыі, за пашырэнне рускага ўплыву на беларускіх землях. Важная роля ў гэтай справе адводзілася навучальным установам. У 1832 г. быў закрыты Віленскі універсітэт як рассаднік антырускіх ідэй і настрояў. Спачатку ў навучальных установах Віцебскай і Магілёўскай губерняў, а крыху пазней – Мінскай і Гродзенскай уводзілася навучанне на рускай мове. Дадаткова для ўсіх навучэнцаў прадугледжваліся "літаратурныя гутаркі" на рускай мове.

Пашыраліся свецкія формы адукацыі. Замест царкоўнапрыходскіх школ адкрываліся народныя вучылішчы. Усведамляючы тое, што каталіцкая царква з'яўляецца апорай польскага патрыятычнага руху ў краі, улады прымалі захады да змяншэння яе ўплыву. Абвешчанае ў 1839 г. Полацкім царкоўным саборам аб'яднанне уніяцкай царквы з праваслаўнай прывяло да закрыцця каталіцкіх манастыроў і іх навучальных устаноў. Манастырскія вучылішчы пераўтвараліся ў гімназіі.

У першай палове XIX ст. на Беларусі ўзніклі школы і прыватныя пансіёны для дзяўчынак. Яны знаходзіліся на ступені пачатковых вучылішч. Дзейнічаў шэраг гімназій: Гродзенская, Мінская, Слуцкая, Пінская, Навагрудская, Віцебская, Магілёўская, Мазырская, 2 прагімназіі – Свіслацкая і Маладзечанская, 5 аднакласных і 9 трохкласных дваранскіх вучылішч.

Напярэдадні школьнай рэформы 60-х гадоў Беларусь налічвала 576 навучальных устаноў усіх тыпаў: 12 сярэдніх, 45 няпоўных сярэдніх, 45 прыватных і дзяржаўных жаночых вучылішч, 21 духоўнае вучылішча і 453 пачатковыя школы. Ва ўсіх школах навучалася каля 17 тыс. чалавек.

Узнікалі прафесійныя навучальныя ўстановы. З канца 30-х гадоў пры гімназіях адкрываліся агранамічныя і агратэхнічныя курсы, землямерна-таксатарскія класы, а ў 1840 г. пачало дзейнічаць Горы-Горацкае земляробчае вучылішча. У 1848 г. на базе яго быў створаны Горы-Горацкі земляробчы інстытут – першая не толькі на Беларусі, але і ў Расіі вышэйшая агранамічная навучальная ўстанова, важны навуковы і культурны цэнтр Беларускага краю. Вышэйшую адукацыю юнакі Беларусі маглі атрымаць у Віленскім універсітэце, а пасля яго закрыцця – у Маскоўскім, Пецярбургскім, Кіеўскім універсітэтах. Тут светапогляд беларускіх юнакоў фарміраваўся пад уздзеяннем рускай філасофіі, літаратуры, рускага вызваленчага руху, кантактаў з рэвалюцыйнымі дэмакратамі. Студэнтам Пецярбургскага універсітэта быў Кастусь Каліноўскі.

Пераўтварэнні ў галіне адукацыі, нягледзячы на іх саслоўнакласавы характар, усё ж садзейнічалі адкрыццю на Беларусі новых навучальных устаноў, павелічэнню колькасці вучняў, развіццю асветы сярод моладзі, павышэнню яе культурнага ўзроўню. Аднак гэта датычылася ў асноўным ніжэйшай і сярэдняй ступені адукацыі. Пасля падаўлення паўстанняў 1830 – 1831 гг. і 1863 – 1864 гг., закрыцця Віленскага універсітэта, а пазней і Горы-Горацкага земляробчага інстытута Беларусь не мела сваіх вышэйшых навучальных устаноў.

**Вывучэнне гісторыі, этнаграфіі, фальклору беларусаў. Беларусазнаўства – частка славістыкі.** Першая палова XIX ст. – час узнікнення навуковага беларусазнаўства. Вывучэнне Беларусі ажыццяўлялі Расійская акадэмія навук, Рускае геаграфічнае таварыства, Віленскі універсітэт, Маскоўскае таварыства аматараў старажытнасцей расійскіх, створаныя па ініцыятыве Я.Тышкевіча Віленскі музей старажытнасцей і Віленская археалагічная камісія.

Гісторыю, этнаграфію, фальклор беларусаў яшчэ ў 1780 г. пачала вывучаць экспедыцыя рускага акадэміка І.І.Ляпёхіна. Гэта было знаёмства рускіх вучоных з Беларуссю пасля далучэння яе да Расійскай імперыі. Праца рускага вучонага К.Ф.Калайдовіча "Пра беларускую гаворку" (1822) уяўляла сабой першую спробу навуковага даследавання мовы беларусаў.

Вялікі інтарэс да Беларусі праявілі польскія вучоныя. Лінгвіст С.Ліндэ і гісторык Т.Чацкі першымі загаварылі пра самабытнасць беларускай мовы і неабходнасць яе вывучэння.

У першай палове XIX ст. убачылі свет шматлікія дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі: "Беларускі архіў" І.І.Грыгаровіча, "Летапісец Літвы і руская хроніка" І.Даніловіча, "Акты Заходняй Расіі", "Кнігі пасольскія Метрыкі Вялікага княства Літоўскага" і інш.





Выдадзены "Помнікі гісторыі Літвы" Т.Нарбута, выйшлі ў рускім друку Статуты Вялікага княства Літоўскага.

Значны ўклад у развіццё беларусазнаўства ўнеслі ўраджэнцы Беларусі: гісторыкі Іван Грыгаровіч, Ігнат Даніловіч, аўтар дзевяцітомнай "Гісторыі літоўскага народа" Тэадор Нарбут, Міхаіл Без-Карніловіч, які ў 1855 г. выдаў у Пецярбургу "Гістарычныя звесткі аб знамянальных мясцінах у Беларусі", лінгвісты Іван Насовіч і Станіслаў Мікуцкі. Пісьменнік-этнограф Павел Шпілеўскі з'яўляўся аўтарам навукова-пазнавальных твораў "Падарожжа па Палессі і беларускім краі" і "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках". На карысць беларускай гісторыі, археалогіі, этнаграфіі і краязнаўства працавалі браты Яўстафій і Канстанцін Тышкевічы, вучоны і грамадскі дзеяч Адам Кіркор, публіцыст і адзін з першых даследчыкаў беларускай літаратуры Рамуальд Падбярэзскі.

У першых творах па беларусазнаўству раскрываліся багацці матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа: апісаны побыт, жыллё, прылады працы селяніна, каляндарна-земляробчыя (калядныя, валачобныя, купальскія, дажынкі, зажынкі) і сямейна-бытавыя (вяселле, хрэсьбіны, пахаванне) абрады і звычаі. Знайшла адлюстраванне таксама народная творчасць (фальклор, музыка, харэаграфія і прыкладное мастацтва), асабліва такія жанры фальклору, як песні, казкі, загадкі, прыказкі, прымаўкі, легенды і паданні.

Развіццё беларусазнаўства, павышэнне інтарэсу да гісторыі і этнаграфіі беларусаў садзейнічалі ўсведамленню прадстаўнікамі шляхты і разначынных слаёў сваёй прыналежнасці да народа, пошуку імі сваіх каранёў. Мацнела этнічная самасвядомасць, ішоў працэс пераўтварэння народнасці ў беларускую нацыю.

## § 2. Літаратура. Музычна-тэатральная культура. Выяўленчае мастацтва. Архітэктура

**Станаўленне беларускай літаратурнай мовы і беларускай літаратуры.** У XIV – XVIII стст. мовай беларускага народа з'яўлялася старабеларуская мова. У выніку паланізацыі і насаджэння каталіцызму з другой паловы XVII ст. літаратурную старабеларускую мову перасталі ўжываць у справаводстве, а затым і ў іншых сферах культурнага жыцця. У XVIII ст. старабеларускае пісьменства канчаткова выйшла з ужытку. Беларускія магнаты і буйная шляхта, а таксама амаль уся інтэлігенцыя засвоілі польскую мову і культуру, а вуснай беларускай мовай у розных дыялектах карысталіся сялянства, збяднелая шляхта, ніжэйшыя пласты гарадскога і сельскага

38. Зак. 5560

насельніцтва. Пасля далучэння Беларусі да Расіі афіцыйнае становішча ў краі заняла руская мова, аднак у грамадскім і культурным жыцці аж да падаўлення паўстання 1863 – 1864 гг. панавала польская мова.

Фарміраванне беларускай нацыі, сацыяльна-эканамічныя змены ў грамадстве, а таксама хваля агульнаславянскага нацыянальнага адраджэння ў пачатку XIX ст. садзейнічалі выпрацоўцы новай беларускай літаратурнай мовы на базе шматлікіх беларускіх гаворак (дыялектаў). Гэта мова абапіралася выключна на жывую народную гаворку. Нанова складваліся графіка (лацінка польскага ці кірыліца рускага ўзору), правапіс , лексіка, не звязаная з працай і побытам сялянства і гарадскіх сацыяльных нізоў.

У першай палове XIX ст., па сутнасці, адзінай сферай выкарыстання новай беларускай мовы была мастацкая літаратура. У сувязі з цяжкасцямі друкавання і распаўсюджання беларускіх твораў, а таксама забаронай у канцы 50-х гадоў друкавання ўкраінскіх і беларускіх кніг лацінскім шрыфтам літаратура была пераважна рукапіснай і ананімнай. Ананімныя вершаваныя гутаркі (“Гутарка Данілы са Сцяпанам”, “Сход”, “Вясна гола перапала”), вершы Ф.Савіча, П.Багрыма, І.Легатовіча, У.Сыракомлі, В.Каратынскага і іншыя творы выявілі антыпрыгонніцкія настроі аўтараў, любоў да радзімы, спачуванне цяжкай долі народа.

Праблемы народнасці, нацыянальнай самабытнасці ставіліся лепшымі літаратурнымі творамі таго часу, у прыватнасці ананімнымі паэмамі “Энеіда навыварат” і “Тарас на Парнасе”. У першым творы ў сатырычным выглядзе паказаны прыгонніцкі лад, упершыню загучала жывая гутарковая беларуская мова, у другім – адлюстравана жыццё беларускай вёскі: антычныя героі і багі паводзілі сябе, апраналіся, весяліліся і бедавалі, як беларускія сяляне і збяднелыя шляхціцы.

У першай палове XIX ст. у літаратуры з’явіліся таленавітыя паэты і празаікі з асяроддзя апалячанай беларускай шляхты, якія ішлі да творчасці на беларускай мове ад захаплення народнымі казкамі, песнямі, паданнямі і легендамі. Сярод іх – Ян Чачот. У 1837 – 1846 гг. ён выдаў шэсць фальклорных зборнікаў “Вясковыя песні”, у якіх побач з народнымі песнямі (у польскім перакладзе і арыгінале) змясціў і свае – на польскай і беларускай мовах. Аляксандр Рыпінскі – аўтар фалькларыстычнага даследавання “Беларусь” (Парыж, 1840 г.) і беларускіх вершаў, у тым ліку балады “Нячысцік”. Ян Баршчэўскі таксама пісаў беларускія вершы (“Дзеванька”, “Гарэліца”, “Рабункі мужыкоў”) і на падставе легенд, паданняў і казак стварыў “беларускую Адысею” – чатырохтомны польскамоўны зборнік “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях”. Гэтыя пісьменнікі карысталіся лацінскім алфавітам.

Адной з самых яркіх і буйных постацей у беларускай культуры XIX ст. быў ураджэнец Бабруйскага павета, сын небагатага шляхціца Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Сваім ідэалам ён бачыў сацыяльнае





адзінства вярхоў і нізоў народа на аснове ўсведамлення нацыянальнай і духоўнай еднасці. Праблему ўзаемаадносін паноў і мужыкоў ён вырашаў ідылічна ў двухмоўным творы “Ідылія”, у якім, як і ў жыцці, паны гаварылі на польскай, а мужыкі – на беларускай мове.

Дунін-Марцінкевіч шчыра любіў беларускі народ, звяртаўся да грамадства з заклікам змяніць адносіны да простых людзей, аказваць ім дапамогу, рабіць усё магчымае, каб узняць іх адукацыю, культуру, самасвядомасць. Вершаваныя аповесці “Вечарніцы”, “Гапон”, “Купала”, “Шчароўскія дажынкі”, “Халімон на каранацыі” і іншыя склалі сапраўдны вершаваны эпас. У іх пісьменнік паказаў духоўную прыгажосць і высакароднасць беларускага селяніна, яго побыт, лад жыцця і думкі, а таксама гістарычнае мінулае свайго краю. Дунін-Марцінкевіч з’яўляецца аўтарам славутых драматычных твораў: камедыі “Пінская шляхта”, у якой высмейваюцца бюракратызм царскага чыноўніцтва і правінцыяльныя норавы шляхты, і “Залёты”. Вакол яго групаваліся мясцовыя інтэлігенты: мастак і пісьменнік А.Шэмеш, педагог і паэт І.Легатовіч, кампазітар К.Кжыжаноўскі і інш. Сярод тых, хто наведваў беларускага песняра ў Мінску і прысутнічаў на літаратурных вечарах у яго доме, былі У.Сыракомля, С.Манюшка, К.Тышкевіч.

**Тэатр, музыка, выяўленчае мастацтва, архітэктура.** У музычна-тэатральнай культуры канца XVIII – першай паловы XIX ст. вылучаецца сваёй адметнасцю прыгонны прафесійны тэатр магнатаў, у якім адпаведна тагачасным дваранскім густам вялікае месца адводзілася спектаклям. Гэты тэатр меў змешаныя оперна-драматычныя трупы, у якіх адны і тыя ж акцёры выконвалі ролі ў оперы, драме, камедыі. Оперы ставілі ў Нясвіжскім і Слуцкім тэатрах Радзівілаў, Ружанскім і Дзярэчынскім (Зэльвенскі р-н) тэатрах Сапегаў і інш.

Значную частку рэпертуару Гродзенскага, Слонімскага і Шклоўскага тэатраў складалі балеты. Пры некаторых магнацкіх тэатрах існавалі балетныя школы. Высокае прафесійнае майстэрства беларускіх артыстаў балета пацвярджаецца тым, што яны папаўнялі трупы варшаўскіх і пецярбургскіх тэатраў. У 1785 г. гродзенская трупа стала асновай польскага “Таварыства танцораў Яго Каралеўскай Вялікасці”, а 14 прыгонных танцораў Шклоўскага тэатра графа С.Зорыча ўвайшлі ў склад пецярбургскіх тэатраў.

Прыватныя магнацкія тэатры дзейнічалі таксама і ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі: В.Тышкевіча – у Свіслачы і Плешчаніцах, Л.Ракіцкага – у Гарадзішчы пад Мінскам, А.Буйніцкага – у Забор’і, А.Галіцына – у Віцебску, З.Чарнышова – у Магілёве. Пры многіх магнацкіх тэатрах, у панскіх сядзібах існавалі аркестры, харавыя капэлы і іншыя музычныя калектывы. Напрыклад, маёнтак Гарадзец у Магілёўскай губерні, які належаў рускаму арыстакрату, кампазітару-аматару У.Р.Кастрыёту-Скандэрбеку, сябру М.І.Глінкі і А.С.Даргамыжскага, славіўся адным з лепшых у Расіі прыгонным квартэтам.

У першай палове XIX ст. тэатр на Беларусі набывае ўжо камерцыйны характар. Усталёўваецца тэатральны сезон, з'яўляюцца пастаянныя гарадскія тэатры. Адлюстроўваючы моўную сітуацыю ў краі, рэпертуар тэатра быў двухмоўным – польска-рускім. Ставіліся п'есы польскіх, рускіх і заходнееўрапейскіх аўтараў.

Разам з прафесійным тэатрам развіваўся аматарскі, які быў папулярны ў шляхецкім, чыноўніцкім і афіцэрскім асяроддзі. На аматарскай сцэне рабіў першыя крокі беларускі нацыянальны тэатр. Ля яго вытокаў стаялі В.Дунін-Марцінкевіч і тыя мінскія акцёры і музыканты-аматары, якія гуртаваліся вакол гэтага выдатнага драматурга, рэжысёра і акцёра. 23 верасня 1841 г. адбылася прэм'ера аматарскага спектакля – камічнай оперы "Рэкруцкі яўрэйскі набор", музыку для якой напісалі С.Манюшка і К.Кжыжаноўскі, а лібрэта – В.Дунін-Марцінкевіч. 9 лютага 1852 г. мінскія аматары паставілі "Ідылію" Дуніна-Марцінкевіча на музыку С.Манюшкі і К.Кжыжаноўскага.

Глыбокі след у беларускай музычнай культуры пакінуў класік польскай музыкі, ураджэнец Ігуменскага (цяпер Чэрвеньскі р-н) павета Мінскай губерні Станіслаў Манюшка. У Мінску ў таленавітага музыканта і выкладчыка Д.Стэфановіча ён атрымаў пачатковую музычную адукацыю. З Мінскам звязана стварэнне і пастаноўка яго першых вадэвіляў, музычных камедый і камічных опер. Творчая дружба С.Манюшкі з В.Дуніным-Марцінкевічам прынесла вялікі плён: на лібрэта апошняга былі напісаны оперы "Спаборніцтва музыкантаў", "Чарадзейная вада", "Сялянка", пастаўленыя ў Мінску і іншых беларускіх гарадах. Беларускія народныя песні і мелодыі арганічна ўвайшлі ў творы С.Манюшкі.

Сярод вядомых дзеячаў музычнай культуры, якія працавалі на Беларусі, Міхал Клеафас Агінскі, аўтар славутага паланеза "Развітанне з Радзімай"; Фларыян Міладоўскі, аўтар пастаўленай у Мінску аперэты "Канкурэнты"; Міхаіл Ельскі, мінскі скрыпач і кампазітар; І.Глінскі, гродзенскі спявак і кампазітар; Тэафіля Юзафовіч, скрыпачка; дзеці Дуніна-Марцінкевіча Каміла і Міраслаў, бліскучыя піяністы; Міхаіл Гузікаў, ксілафаніст з еўрапейскім імем; браты Дамінік і Вікенцій Стэфановічы, дырыжоры мінскага духавога аркестра, кіраўнікі фартэпіянных класаў і інш.

У 30 – 40-я гады XIX ст. у гарадах стала папулярным свецкае музыцыраванне. Адкрываліся прыватныя музычныя школы, з ліку аматараў музыкі ствараліся аркестры і хоры, праводзіліся літаратурна-музычныя вечары. Пачаліся збіранне і публікацыя беларускай народнай песні, рабіліся спробы яе кампазітарскай і канцэртнай апрацоўкі. Важную ролю ў стварэнні нацыянальнага музычнага рэпертуару мелі заснаваныя на беларускіх абрадавых песнях і танцах паэма ўраджэнца Віцебшчыны кампазітара Антона Абрамовіча "Беларускае вяселле", а таксама яго п'есы для фартэпіяна, апрацоўкі народных песень.

Неад'емнай часткай развіцця культуры Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. з'яўлялася выяўленчае мастацтва. Афіцыйным напрамкам у ім быў класіцызм. Аднак сухаваты і "правільны" класіцызм, перавага ў ім рэлігійнай тэматыкі не задавальнялі найбольш таленавітых мастакоў. Яны шукалі сваю тэму, якая была б больш цесна звязана з людзьмі, сучаснымі падзеямі, гістарычнымі каранямі беларускага народа. Таму невыпадкова ў першай палове XIX ст. гістарычны, партрэтны і пейзажны жанры становяцца галоўнымі ў беларускім жывапісе. Зацвярджаўся стыль рамантызму, які ламаў стэрэатыпы і каноны класіцызму, узаконьваў свабоду думак і творчасці, ставіў у цэнтр ідэі мастацкага твора асобу, чалавека высакародных пачуццяў.





Выдатнымі прадстаўнікамі партрэтнага жанру з'яўляліся І.Аляшкевіч, Я.Рустэм, В.Ваньковіч і інш. І.Аляшкевіч напісаў партрэты магнатаў Л.Сапегі, М.Радзівіла, Г.Ржэўскага, партрэт А.Міцкевіча, а таксама "Групавы партрэт", "Мадонна з дзіцём" і інш. Ён вядомы і як майстар гістарычных кампазіцый. За карціну "Благодетельное призрение и попечение императрицы Марии Фёдоровны о бедных" І.Аляшкевіч быў абраны членам Імператарскай акадэміі мастацтваў.

Пэндзлю мастака Я.Рустэма, прафесара Віленскага універсітэта належаць партрэты яго сучаснікаў Тамаша Зана, Антонія Ваньковіча і інш. Мастак Валенцій Ваньковіч, выхаванец Полацкай езуіцкай акадэміі, стварыў партрэты А.Тавянскага і яго жонкі Караліны, карціну "А.Міцкевіч на скале Аюдаг".

Рамантычныя матывы выразна выявіліся не толькі ў партрэтным, але і ў гістарычным і пейзажным жывапісе. Таленавіты мастак, этнограф і кампазітар Н.Орда абышоў і аб'ездзіў амаль усю Беларусь, Польшчу і Літву, зрабіў каля 500 акварэляў і малюнкаў з натуры, захаваўшы такім чынам для нашчадкаў аблічча цудоўных помнікаў архітэктуры, замкаў, палацаў, вуліц гарадоў, гістарычных мясцін. Яго акварэлі і малюнкі пераводзіліся ў літаграфіі, выдаваліся альбомамі, графічнымі серыямі. Вялікае грамадскае прызнанне атрымалі карціны Н.Орды "Лагойск", "Крыжоўка", "Руіны замка ў Лідзе", "Мір", "Нясвіж", "Белая вежа" і інш.

Яркім прадстаўніком гістарычнага жанру ў беларускім жывапісе з'яўляўся Я.Дамель. Ён быў адукаваным чалавекам, валодаў некалькімі замежнымі мовамі, добра ведаў айчынную і антычную гісторыю. Шырока вядомы яго творы "Вызваленне Т.Касцюшкі з цямніцы", "Адступленне французаў праз Вільню ў 1812 г.", "Хрышчэнне славян" і інш. На спадчыне Я.Дамеля выхоўваліся многія пакаленні беларускіх мастакоў.

Заснавальнікам рэалізму ў беларускім пейзажным жывапісе можна лічыць В.Дмахоўскага – удзельніка тайных студэнцкіх арганізацый, паўстання 1830 – 1831 гг. Сучаснікі называлі яго Клодам Ларэнам віленскіх ваколіц за паэтызм і велічнасць, эмацыянальную насычанасць, строгасць кампазіцыі яго пейзажаў – рысы, характэрныя для выдатнага французскага жывапісца XVII ст. Мастак у асноўным ма-

39. Зак. 5560



*Палац у Ружанах (Пружанскі раён)*

ляваў месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю А.Міцкевіча, сябрам якога ён быў ("Радзіма", "Возера Свіцязь","Заход сонца", "Начлег").

І.Хруцкі ўвайшоў у гісторыю мастацтва як заснавальнік рэалістычнага нацюрморта. У 1839 г. за нацюрморт "Кветкі і садавіна" ён атрымаў званне акадэміка Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Акрамя нацюрмортаў і пейзажаў І. Хруцкі напісаў шмат партрэтаў, у тым ліку "Сямейны партрэт", "Партрэт хлопчыка ў саламяным брылі".

М.Кулеша, падарожнічаючы па Беларусі, пісаў пейзажы, замалёўкі, эцюды. Патрыятычныя матывы, любоў да роднай зямлі, яе прыроды і гісторыі адлюстраваны ў працах "Царква Барыса і Глеба на Каложы ў Гродне", "Руіны замка ў Міры", "Хоцім" і інш.

Прадстаўнікамі бытавога жанру ў выяўленчым мастацтве былі выхаванцы Віленскай школы жывапісу К.Кукевіч, К.Русецкі, Ю.Карчэўскі, Ц.Бычкоўскі і інш. Выразнай манерай пісьма вылучаюцца творы К.Русецкага: "Жняя", "Вербная нядзеля", пейзажы ваколіц Наваградка, Ашмяншчыны, Белавежскай пушчы. За выяўленчы талент мастаку было прысуджана званне акадэміка. Ён выкладаў жывапіс і рысунак у навучальных установах Вільні. Ц.Бычкоўскі, які сам паходзіў з прыгонных сялян графа Тышкевіча, напісаў шэраг бытавых кампазіцый з жыцця прыгонных: "Касец, што меніцць касу", "Дзяўчынка з разбітым збанам", "Святая Вікторыя збірае сродкі для бедных" і інш. Ю.Карчэўскаму належыць аўтарства карцін "Руская хуткая пошта", "Яўрэйская карчма", "Яўрэйскае пахаванне" і інш.







*Палац у Свяцку (Гродзенскі раён)*

У першай палове XIX ст. у мастацтве Беларусі вырасла папулярнасць графікі. Гэта было выклікана развіццём паліграфічнай вытворчасці, выданнем масавымі тыражамі друкаваных твораў. Звярталіся да мастацкага прыёму графікі ілюстратары, картографы. Найбольш вядомымі графікамі былі М.Падалінскі, Ю.Главацкі, Ю.Азямблоўскі, Б.Клямбоўскі. Літаграфія ўраджэнца Мінска Ю.Азямблоўскага "Славянскі нявольнік" ("Беларускі раб") набыла сусветную вядомасць. Яе дэманстраваў на сваіх лекцыях у Парыжы А.Міцкевіч, пра яе пісаў у 1853 г. у памфлеце "Хрышчоная ўласнасць" А.І.Герцэн.

Развіццю жывапісу Беларусі спрыяла існаваўшая сістэма падрыхтоўкі мастакоў. Асноўным цэнтрам іх навучання з'яўляўся Віленскі універсітэт, дзе на кафедры рысунка і жывапісу працавалі Ф.Смуглевіч і Я.Рустэм, на кафедры скульптуры – К.Ельскі. Віленская мастацкая школа па свайму ўзроўню была не ніжэй за такія ж школы пры Варшаўскім і Кракаўскім універсітэтах. У Вільні вучыліся не толькі выхадцы з вышэйшых сацыяльных слаёў, але і здольныя дзеці простых людзей.

Значная частка беларускай творчай моладзі вучылася ў той час у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў і ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Важную ролю ў падрыхтоўцы прафесійных мастакоў мела Полацкая езуіцкая акадэмія. З яе сцен выйшлі В.Ваньковіч і І.Хруцкі. Юныя мастакі займаліся ў рыса



*Палацава-паркавы комплекс у Гомелі*

Малюнак Н. Орды

вальных класах гімназій. Пасля паўстання 1830 – 1831 гг. дзейнасць Віленскай мастацкай школы была прыпынена.

З канца XVIII ст. класіцызм – асноўны стылявы накірунак у архітэктуры Беларусі, асабліва ў праваслаўным культавым дойлідстве. У фундамент яго пакладзены сіметрычнасць і ўраўнаважанасць аб'ёмаў і ўнутранай прасторы збудаванняў, выкарыстанне манументальных форм антычнага дойлідства (каланады, ордэры і інш.). У другой палове XVIII ст. класіцызм развіваўся паралельна з познім барока, для якога былі характэрны велічнасць і ўрачыстасць збудаванняў, вялікая колькасць купалоў і карнізаў, прыгожая лепка, скульптурныя ўпрыгажэнні. Носьбітамі ідэй барока з'яўляліся пераважна архітэктары-іншаземцы, запрошаныя на Беларусь каралеўскім дваром і магнатамі яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай. Сярод помнікаў пераходнага стылю ад барока да класіцызму – палацы ў Ружанах (Пружанскі р-н), Свяцку (Гродзенскі р-н), Шчорсах (Навагрудскі р-н), Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н). У праваслаўным культавым будаўніцтве найбольш значным і раннім помнікам класіцызму быў сабор Іосіфа ў Магілёве, пабудаваны ў памяць аб сустрэчы рускай імператрыцы Кацярыны II з аўстрыйскім імператарам Іосіфам II.

На Беларусі класіцызм развіваўся пад уплывам адпаведнай рускай школы, творчасці вядомых рускіх архітэктараў М.Львова, У.Стасава, А.Мельнікава, англічаніна Дж. Кларка і інш. Па іх праектах у беларускіх гарадах былі ўзведзены найбольш значныя збудаванні. Сярод вядомых помнікаў класіцызму ў Беларусі – палац-рэзідэнцыя графа М.Румянцава (з 30-х гадоў XIX ст. перайшоў да фельдмаршала І.Паскевіча) у Гомелі, палацавы комплекс у Снове Нясвіжскага раёна, Крычаўскі і Жыліцкі палацы, палацы генерал-губернатара ў Віцебску і віцэ-губернатара ў Гродне, сабор Пятра і Паўла ў Гомелі, Праабражэнская царква ў Чэрыкаве, касцёл у Шчучыне і інш.







*Сноўскі палац (Нясвіжскі раён)*

У стылі класіцызму развівалася і горадабудаўніцтва як цэласная рацыянальна спланаваная сістэма. Вядома, што сярэднявяковыя гарады развіваліся бессістэмна, мелі крывыя вуліцы з цеснай драўлянай забудовай. У першай палове XIX ст. былі распрацаваны генеральныя планы забудовы большасці (каля 40) беларускіх гарадоў, у якіх прадугледжваліся прамавугольная сістэма планіроўкі, кампазіцыйная вось, грамадскі цэнтр, сістэма галоўных магістраляў, напрамкі далейшага росту горада. Мянялася аблічча гарадоў, ствараліся гарадскія ансамблі і плошчы, ставіліся палацы і будынкі.

У сярэдзіне XIX ст. у архітэктуры Беларусі класічны стыль, не пазбегнуўшы эклектыкі, прыйшоў у заняпад. Яго паступова замяняў рамантызм, прадстаўнікі якога вылучалі на першы план нацыянальныя традыцыі ў архітэктуры, выступалі супраць сляпога пераймання антычных канонаў. Найбольш яскрава рамантызм праявіўся ў пейзажна-паркавым мастацтве. Рамантычныя пейзажныя паркі ствараліся па прынцыпе свабоднай кампазіцыі, аздабляліся штучнымі гротамі, каскадамі, руінамі (Гомельскі, Лагойскі, Жыліцкі, Савейкаўскі паркі). У стылі рамантызму было пабудавана шмат мураваных прыватнаўласніцкіх рэзідэнцый.

40. Зак. 5560

*Жыліцкі палац (Кіраўскі раён)*

Развіваўся і такі від мастацтва, як скульптура. Сярод вядомых тагачасных скульптараў – Ельскія (бацька Кароль і яго два сыны, Ян і Казімір; Казімір Ельскі – кіраўнік кафедры скульптуры ў Віленскім універсітэце), Я.Астроўскі, Р.Слізень і інш. Іх творчасць была разнастайнай па жанрах: партрэты-бюсты гістарычных асоб і культурных дзеячаў Беларусі, Літвы і Польшчы, партрэты-бюсты родных, блізкіх і знаёмых, медальёны і барэльефы з выявамі дзяржаўных дзеячаў, фігуры прарокаў для культавых устаноў і інш.

Развіццё культуры Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. было звязана з такімі грамадскімі з'явамі, як крызіс феадальна-прыгонніцкай сістэмы і ўмацаванне капіталістычнага ладу, фарміраванне беларускай нацыі і рост самасвядомасці беларусаў, абвастрэнне класавых антаганізмаў, барацьба працоўных супраць прыгнёту і бяспраўя. Станоўчы ўплыў на стан і развіццё беларускай культуры аказала культура Расіі, Польшчы, Украіны, краін Заходняй Еўропы. Беларускае мастацтва, архітэктура і скульптура прайшлі агульны з суседнімі краінамі шлях стылявога развіцця – ад барока праз класіцызм да рамантызму. Нягледзячы на саслоўна-манархічны характар палітыкі, якую праводзілі расійскія ўлады, беларуская культура ўключалася ў агульнаеўрапейскі працэс дэмакратызацыі, станавілася даступнай больш шырокім колам насельніцтва.





# ВЫВАДЫ

1. Расія, пры ўсёй сваёй адсталасці ў параўнанні з развітымі еўрапейскімі дзяржавамі, у эканамічных і палітычных адносінах ішла наперадзе Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага як яе часткі. Федэратыўныя прынцыпы будовы Рэчы Паспалітай з яе шляхецкай дэмакратыяй, як гэта ні парадаксальна, прайгравалі ў параўнанні з абсалютнымі манархіямі еўрапейскага і расійскага ўзору. Справа ў тым, што кожны грамадскі лад мае свае законы функцыяніравання. Дэмакратычныя, плюралістычныя прынцыпы дзяржаўнага кіравання з'яўляюцца прагрэсіўнымі ва ўмовах капіталістычнай рыначнай эканомікі. Але яны далі супрацьлеглыя вынікі ў феадальную эпоху з яе дваранскай манаполіяй на зямлю і палітычную ўладу, бо зменшылі магчымасці дзяржавы ў рэгуляванні феадальных адносін. Незалежнасць ад цэнтральнай улады прывяла да ператварэння асобных феадальных маёнткаў у "дзяржавы ў дзяржаве", іх эканамічнай і палітычнай замкнёнасці, а ў выніку – да аслаблення дзяржавы, яе няздольнасці абараніць свой суверэнітэт.

2. Далучэнне да Расіі дало імпульс паскарэнню працэсу капіталістычнага развіцця на Беларусі, далучыла яе да агульнарасійскага рынку. Усе эканамічныя рэформы, праведзеныя расійскімі ўладамі ў заходніх губернях, мелі больш глыбокі сацыяльна-эканамічны сэнс, чым у Цэнтральнай Расіі: мэтай было падцягванне іх эканамічнага развіцця да агульнарасійскага ўзроўню.

3. Уключэнне Беларусі ў склад Расійскай імперыі садзейнічала нацыянальнай кансалідацыі беларускага народа, які не ўспрымаўся расійскім урадам як асобная этнічная супольнасць. У выніку фарміраваўся ўстойлівы беларускі нацыянальны характар, лепшымі рысамі якога сталі талерантнасць, працавітасць, павага да суседніх народаў. Адначасова ішоў працэс узаемаўзбагачэння культур, знаёмства беларусаў з лепшымі ўзорамі рускай і сусветнай культуры.

4. Нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі адбывалася ва ўмовах паланізацыі, якая працягвала мець месца, і адначасовага ўзмацнення рускага ўплыву на беларускіх землях. У такіх абставінах беларуская нацыянальная культура рабіла першыя крокі. Развівалася агульнаадукацыйная школа, узнікалі прафесійныя навучальныя ўстановы, павышаўся культурны ўзровень насельніцтва краю. У першай палове XIX ст. узнікла беларусазнаўства як навука, частка славістыкі, паглыбляўся інтарэс да гісторыі, этнаграфіі і фальклору Беларусі, ішоў працэс ператварэння беларускай народнасці ў беларускую нацыю.

5. У канцы XVIII — першай палове XIX ст. адбывалася станаўленне новай беларускай літаратурнай мовы і беларускай літаратуры. У музычна-тэатральнай культуры вылучыўся прыгонны прафесійны тэатр магнатаў, узніклі аматарскі тэатр, прыватныя музычныя школы,

аркестры і хоры з ліку аматараў музыкі, збіраліся і публікаваліся беларускія народныя песні, адбываліся літаратурна-музычныя вечары. Значны ўплыў на стан і развіццё беларускай культуры аказала культура Расіі, Украіны, Польшчы, краін Заходняй Еўропы.

## Літаратура


Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 года. Мн., 1985.

Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов: В 4 т. Мн., 1961. Т.3; 1979. Т.4.

*Болбас М.Ф.* Развитие промышленности в Белоруссии (1795 – 1861). Мн., 1966.

*Букчин С.В.* Народ издревле нам родной: Русские писатели о Белоруссии. Мн., 1994.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т.1.

Гісторыя беларускага мастацтва. Канец XVIII – пачатак XX ст.: У 6 т. Мн., 1989. Т.3.

*Готье Ю.* Очерк истории землевладения в России. Сергиев Посад, 1915.

Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772 – 1903). Мн., 1940. Т.2.

*Доўнар-Запольскі М.В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

*Заблоцкий-Десятовский Н.П.* Граф Киселев и его время. СПб.: тип. Н.Стасюкевича, 1882.

*Ігнатоўскі У.* Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1991.

*Кернажыцкі К.І.* Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст. (Да праблемы разлажэння феадалізму ў Беларусі.) Мн., 1935.

*Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. Мн., 1982.

*Корнейчик Е.И.* Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г. Мн., 1962.

*Лойка А.А.* Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1989.

*Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. Мн., 1987.

*Мальдзіс А.Г.* Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969.

*Масленікава В.П.* Музычная адукацыя ў Беларусі. Мн., 1980.

*Мохнач Н.Н.* Идейная борьба в Белоруссии в 30 – 40-е годы XIX в. Мн., 1971.

Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период. Мн., 1990.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1994. Ч.1.

Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мн., 1977.

*Цвікевіч А.* "Западно-руссизм": Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Мн.,1993.

*Чантурия В.А.* История архитектуры Белоруссии: Дооктябрьский период: В 2 т. Мн., 1985. Т.1.

*Чепко В.В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. Мн., 1972.

*Чепко В.В.* Сельское хозяйство в Белоруссии в первой половине XIX в. Мн., 1966.


# РАЗДЗЕЛ V

## БЕЛАРУСЬ У ПЕРЫЯД СТАНАЎЛЕННЯ І РАЗВІЦЦЯ БУРЖУАЗНАГА ГРАМАДСТВА. БУРЖУАЗНА-ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ РЭВАЛЮЦЫІ. БАРАЦЬБА ЗА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

(другая палова XIX ст. – люты 1917 г.)

## ГЛАВА 1

## БУРЖУАЗНЫЯ РЭФОРМЫ. ПЕРАХОД ДА КАПІТАЛІСТЫЧНАЙ ГАСПАДАРКІ

### § 1. Адмена прыгоннага права

Дзве галоўныя прычыны абумовілі адмену прыгоннага права ў Расіі: існаванне прыгонніцтва стрымлівала эканамічнае развіццё дзяржавы; узрастанне антыпрыгонніцкага руху, перш за ўсё сярод сялянства, пагражала моцным сацыяльным выбухам. Нельга сказаць, што прыгонніцкая сістэма гаспадаркі зусім спыніла эканамічнае развіццё краіны. Яно працягвалася, і даволі хутка. Так, на тэрыторыі Беларусі з 1828 па 1860 г. колькасць прадпрыемстваў (без вінакурных)

павялічылася з 449 да 942, колькасць рабочых – з 4674 да 9269. Калі ў 1845 г. было 9 прадпрыемстваў, дзе прымяняліся машыны, то ў 1860 г. – ужо 30. Узрастала інтэнсіфікацыя працы, кваліфікацыя працоўных, фарміравалася мясцовая буржуазія, расло гарадское насельніцтва (з 1825 па 1861 г. яно павялічылася з 261,4 тыс. да 330 тыс. чалавек).

Памешчыцкая гаспадарка таксама паступова развівалася. Беларускія памешчыкі, прыстасоўваючыся да запатрабаванняў рынку, пераводзілі сваю гаспадарку на вытворчасць тых тавараў, якія карысталіся найбольшым попытам. Галоўнай рынaчнай культурай напярэдадні рэформы было жыта, а найбольш выгаднай формай рэалізацыі таварнага жыта – вінакурэнне. Да прыбытковых таварных сельскагаспадарчых культур адносіліся таксама лён і бульба. Лён прызначаўся галоўным чынам на экспарт, а бульба ў асноўным ужывалася ў мясцовай вінакурнай вытворчасці. Таварнае значэнне набывала жывёлагадоўля, асабліва авечкагадоўля. Многія памешчыкі будавалі ў сваіх маёнтках вінакурныя, цукраварныя, лесапільныя і іншыя прадпрыемствы. Працавалі на іх прыгонныя сяляне.

У цэлым эканоміка развівалася невысокімі тэмпамі, пераважна экстэнсіўным шляхам. Экстэнсіўны шлях развіцця, па-першае, меў пэўныя межы, па-другое, ужо не адпавядаў запатрабаванням часу. Яскравым сведчаннем крызісу прыгонніцкай сістэмы стала Крымская вайна. Расія не здолела супрацьстаяць высокаразвітым капіталістычным краінам Заходняй Еўропы і пацярпела паражэнне. Стала відавочна, што прыгонніцкая сістэма гаспадаркі значна прайграе капіталістычнай з яе таварна-грашовымі адносінамі, рынкам працы і жорсткай канкурэнцыяй, якія выклікаюць зацікаўленасць выканаўцаў у выніках сваёй працы, падштурхоўваюць тэхнічнае развіццё, вядуць да інтэнсіфікацыі вытворчасці і гэтым паскараюць агульны прагрэс грамадства.

На працягу ўсёй першай паловы XIX ст. пытанне аб адмене прыгоннага права займала цэнтральнае месца ў ідэалагічных спрэчках. У канцы 50-х гадоў яно набыло найвышэйшую вастрыню. Ва ўрадавых колах у рэшце рэшт зразумелі, што пара адмены прыгоннага права наспела і гэта лепш зрабіць "зверху", інакш можна дачакацца яго адмены "знізу". Падрыхтоўка сялянскай рэформы пачалася ў сакрэце ад шырокіх колаў грамадскасці. У студзені 1857 г. быў створаны Сакрэтны камітэт "для абмеркавання мер па ўладкаванні быту памешчыцкіх сялян". Сярод членаў камітэта разгарнуліся спрэчкі наконт умоў адмены прыгоннага права. Адны прапаноўвалі "остзейскі" варыянт, г.зн. вызваленне сялян без зямлі, іншыя жадалі, каб цар узяў ініцыятыву на сябе і дараваў вольнасць сялянам ад свайго імя, некаторыя лічылі, што ўмовы вызвалення сялян павінны выпрацаваць памешчыкі. Да канца ліпеня 1857 г. быў складзены кампрамісны варыянт – вызваліць сялян з сядзібай, які і атрымаў перавагу. Зямля





павінна выкупляцца на працягу 10 – 15 гадоў па цане, якая ўключала б у сябе і кампенсацыю страты памешчыкам яго ўлады над асобай селяніна; польны надзел мог быць зменшаны і аддадзены селяніну ў карыстанне за асобную плату грашыма ці працай; у аддаленай будучыні мог адбыцца выкуп гэтай зямлі па добраахвотнай дамоўленасці памешчыка з селянінам. Рэформу было вырашана пачынаць з заходніх губерняў.

Перш за ўсё мясцовыя памешчыкі значна больш, чым памешчыкі ў іншых раёнах Расіі, былі ўцягнуты ў таварна-грашовыя адносіны. Гэта абумоўлівалася блізкасцю да заходнееўрапейскага рынку. Адчуваючы хібы прыгоннай працы, некаторыя ўладальнікі памесцяў ужо ў першай чвэрці XIX ст. выступалі з праектамі беззямельнага вызвалення сялян. Праўда, тады большасць памешчыкаў гэтыя праекты не падтрымала, яны былі адхілены і ўрадам. Апошні таксама разумеў, што ўвядзенне ў 40-х гадах абавязковых інвентароў памешчыцкіх гаспадарак у заходніх губернях прывяло памешчыкаў Беларусі да хуткай і непазбежнай страты імі сваёй улады над сялянамі і, разлічваючы на больш выгадныя для сябе ўмовы адмены прыгонніцтва, яны першымі адгукнуцца на сакрэтную прапанову ўрада. Да гэтага трэба дадаць і тое, што для самадзяржаўя апазіцыйна настроенае польскае дваранства ўяўляла пагрозу палітычнай небяспекі – неабходна было як мага хутчэй пазбавіць яго магчымасці выкарыстаць сялянскія хваляванні ў сваіх нацыянальных інтарэсах.

Але для ўрада было вельмі важна, каб ініцыятыва адмены прыгоннага права зыходзіла ад памешчыкаў, якія заставаліся галоўнай сацыяльнай апорай улады. Узяць на сябе афіцыйную ініцыятыву ў такой складанай справе, а значыць, і несці поўную адказнасць за яе выкананне Аляксандр II не адважваўся. Паколькі памешчыкі таксама асабліва не спяшаліся з прапановамі аб скасаванні прыгонніцтва, памешчыцкую "ініцыятыву" трэба было арганізаваць. Зрабіць гэта аказалася не вельмі цяжка. Справа ў тым, што генерал-губернатар Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губерняў В.І.Назімаў і імператар Аляксандр II былі сябрамі дзяцінства. Яшчэ ў маі 1856 г. на іх сустрэчы ў Брэсце В.І.Назімаў запэўніў імператара, што дваране яго генерал-губернатарства, бачачы вынікі вызвалення сялян у суседніх прыбалтыйскіх губернях, дзе сяляне атрымалі асабістую свабоду яшчэ ў пачатку XIX ст., пагадзіліся б на падобную рэформу. Летам 1857 г. Аляксандр II ізноў сустрэўся з В.І.Назімавым, цяпер ужо ў Вільні, і генерал-губернатар пацвердзіў, што памешчыкі паўночна-заходніх губерняў гатовы выступіць з ініцыятывай адмовы ад прыгоннага права. Імператар, безумоўна, адобрыў гэту "ініцыятыву".

Пад націскам В.І.Назімава інвентарныя камітэты Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў прынялі рашэнне не займацца пытаннямі рэгулявання адносін паміж памешчыкамі і сялянамі, для чаго яны і былі калісьці створаны, а пагадзіліся бязвыплатна вызваліць сялян,

пакінуўшы памешчыкам усю зямлю і сялянскую нерухомасць. Гэта рашэнне В.І.Назімаў у верасні 1857 г. накіраваў міністру ўнутраных спраў. У кастрычніку ён асабіста прыехаў у Пецярбург і папрасіў даць яму далейшыя інструкцыі. Імператар загадаў паскорыць вырашэнне гэтага пытання. Хутка такая інструкцыя для Назімава была распрацавана, і 20 лістапада 1857 г. Аляксандр II падпісаў і накіраваў рэскрыпт (прадпісанне) генерал-губернатару Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губерняў В.І.Назімаву аб заснаванні з прадстаўнікоў мясцовых памешчыкаў трох губернскіх камітэтаў і адной агульнай камісіі ў Вільні для падрыхтоўкі мясцовых праектаў паляпшэння быту памешчыцкіх сялян. Крыху пазней падобныя камітэты былі створаны і ў іншых губернях Расіі.

Змест рэскрыпта сведчыў аб тым, што ініцыятыва памешчыкаў аб вызваленні сялян па "остзейскаму" ўзору была па-майстэрску выкарыстана вярхоўнай уладай для прапановы, нечаканай для памешчыкаў. Праграма ўрада, якую трэба было абмяркоўваць у створаных камітэтах, давала прыгонным сялянам грамадзянскія правы, але захоўвала вотчынную ўладу памешчыка. За памешчыкам заставалася права ўласнасці на ўсю зямлю. Сялянам пакідалі сядзібныя надзелы, якія яны на працягу пэўнага часу павінны былі выкупіць. Звыш гэтага прадугледжвалася даць сялянам у карыстанне пэўную колькасць зямлі "для забеспячэння іх быту і для выканання іх абавязкаў перад урадам і памешчыкам", за якую сялян абавязвалі плаціць аброк альбо працаваць на памешчыка. Памешчык атрымліваў таксама права паліцэйскага нагляду за сялянамі. Пры гэтым будучыя адносіны сялян і памешчыкаў з'яўляліся б гарантыяй своечасовай платы першымі дзяржаўных і земскіх падаткаў. У рэскрыпце нічога не было сказана аб адмене прыгоннага права, але 21 лістапада 1857 г. у "Дадатковай адносіне" ўжо недвухсэнсоўна паяснялася, што галоўным у "паляпшэнні быту памешчыцкіх сялян" з'яўляецца адмена прыгоннага права.

Менавіта дзеянне гэтых двух дакументаў, з якіх другі канкрэтызаваў агульныя і не зусім ясныя палажэнні першага, зрабіла незваротным працэс падрыхтоўкі да адмены прыгоннага права па ўсёй імперыі, а іх апублікаванне легалізавала абмеркаванне праблемы. Неабходнасць рэформы была публічна пацверджана. Стала зразумелым, што прыгоннае права дажывае апошнія гады. Чаканне хуткіх перамен падштурхнула да дзеянняў як памешчыкаў, так і сялян.

Ужо ў пачатку XIX ст. у беларускіх губернях назіралася тэндэнцыя да павелічэння памешчыцкай зямлі за кошт скарачэння сялянскіх надзелаў. Гэты працэс асабліва паскорыўся пасля 1857 г. Памешчыкі перасялялі сваіх сялян на горшыя землі, адразалі ў іх частку зямлі, увогуле пазбаўлялі надзелаў. Калі ў пачатку стагоддзя ў заходніх беларускіх губернях памешчыцкая зямля складала 1/3 усёй плошчы маёнтка, а ў карыстанні сялян было 2/3, то перад рэформай у Віленскай губерні сялянам засталося толькі 52,5 % ворыва і сенажацей, у Гро-





дзенскай – 55,8 %. Значна павялічылася сярод сялян колькасць агароднікаў (мелі толькі сядзібы) і кутнікаў (не мелі ні зямлі, ні жылля).

Дзеянні памешчыкаў выклікалі пратэст сялян. Ён прымаў розныя формы: адмаўленне ад выканання феадальных павіннасцей, супраціўленне перасяленню і памяншэнню надзелаў, калектыўныя скаргі, самавольныя лясныя парубкі, падпальванне памешчыцкіх сядзіб, напады на памешчыкаў і аканомаў, непадпарадкаванне памешчыцкай і ўрадавай адміністрацыі. У 1858 – 1860 гг. сялянскія хваляванні адбыліся ва ўсіх беларускіх губернях. Паводле няпоўных звестак (пра некаторыя выступленні мясцовыя ўлады не паведамлялі), у гэты час зарэгістравана 42 сялянскія хваляванні, 11 з якіх былі падаўлены пры дапамозе войскаў і паліцыі.

Своеасаблівым пратэстам супраць прыгонніцкай сістэмы з'явіўся т. зв. "цвярозы рух", які разгарнуўся ў 1858 – 1859 гг. Ён быў накіраваны супраць вінных водкупаў[1], высокіх падаткаў на віно і спойвання насельніцтва. На сялянскіх сходах прымаліся рашэнні байкатаваць пітныя дамы, ствараліся "брацтвы цвярозасці". У гэтым руху прымалі ўдзел амаль усе катэгорыі прыгнечанага насельніцтва. Напрыклад, у "брацтвах цвярозасці" Ваўкавыскага і Пружанскага паветаў Гродзенскай губерні было каля 5 тыс. чалавек.

Нягледзячы на тое, што сялянскія хваляванні былі стыхійнымі і лакальнымі, не вызначаліся масавасцю і настойлівасцю, яны добра выявілі агульныя інтарэсы прыгоннага сялянства, адлюстравалі настрой і жаданні народа. Сяляне выступалі за сапраўднае і поўнае вызваленне ад памешчыцкай улады і перадачу ім усёй зямлі, памешчыкі – за адмену прыгоннага права пры захаванні сваёй уласнасці на зямлю. Безумоўна, царызм падтрымаў памешчыкаў.

19 лютага 1861 г. Аляксандр II зацвердзіў усе заканадаўчыя акты (іх было 17), якія тычыліся адмены прыгоннага права, і звярнуўся да народа з маніфестам. Але апублікаваны ўсе гэтыя дакументы былі

---

[1] *Водкуп* – выключнае права, якое давалася феадальнай дзяржавай за пэўиую плату прыватным асобам (водкупнікам) на збор якіх-небудзь падаткаў, продаж некаторых відаў тавараў (віна, солі і г.д.). *Водкупная сістэма* на продаж гарэлкі, якая дзейнічала ў Расіі да адмеиы прыгоннага права, прыводзіла да ўзбагачэння водкупнікаў, з аднаго боку, і разарэння, галечы, росту п'яиства, пагаршэння якасці гарэлкі і павышэння яе разбуральнага ўздзеяння на здароўе людзей – з другога. У 1863 г. водкупиая сістэма была заменена ў Расіі *акцызнай сістэмай* (акцыз – від ускоснага падатку пераважна на прадметы масавага спажывання, а таксама на паслугі; уключаецца ў цану тавараў ці тарыфы на паслугі). У 1902 г. у Расіі была ўведзена *дзяржаўная манаполія на гарэлку*. Гандаль гарэлкай быў упарадкаваны так, што толькі ў сталіцы і буйных гарадах яна вялася з 7 гадзін раніцы да 22 гадзіи вечара. У сельскай мясцовасці яна заканчвалася восенню і зімой у 18 гадзін, а вясной і летам – у 20 гадзін. У час выбараў у думу, абшчынных сходаў, як вясковых, так і валасных, гандаль гарэлкай строга забараняўся. Узмацняліся таксама крымінальныя пакаранні за тайнае прыгатаванне самагонкі. Дзяржаўная манаполія на гарэлку захоўвалася і ў СССР.




5 сакавіка 1861 г. Такі значны разрыў паміж датай зацвярджэння царом заканадаўчых актаў і іх апублікаваннем для ўсеагульнага азнаямлення тлумачыцца тым, што патрэбна было не толькі надрукаваць неабходную колькасць экзэмпляраў гэтых вялікіх дакументаў, але і прыняць шэраг прэвентыўных (папераджальных) захадаў на выпадак хваляванняў, якія небеспадстаўна прагназіраваліся ўладамі. Былі падрыхтаваны неабходныя вайсковыя часці ў сталіцах, а ў губерні для назірання за парадкам накіраваны флігель-ад'ютанты, якія ў неабходных выпадках мелі права дзейнічаць ад імя цара.

Усе дакументы, апублікаваныя 5 сакавіка 1861 г., можна падзяліць на тры групы: агульныя палажэнні, мясцовыя палажэнні, дадатковыя правілы. Юрыдычных актаў, пад нормы якіх падпадала ўся імперыя, было некалькі. Гэта – Агульнае палажэнне аб сялянах, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, Палажэнне аб упарадкаванні дваровых людзей, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, Палажэнне аб выкупе сялянамі, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, іх сядзібнай аседласці і аб садзейнічанні ўрада набыццю гэтымі сялянамі ва ўласнасць палявых надзелаў, Палажэнне аб губернскіх і павятовых па сялянскіх справах установах, а таксама "Правілы аб парадку ўвядзення ў дзеянне Палажэнняў аб сялянах, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці". З мясцовых палажэнняў непасрэдна тэрыторыі Беларусі тычылася два: Мясцовае палажэнне аб пазямельным уладкаванні сялян, якія паселены на памешчыцкіх землях у губернях: Вялікарасійскіх, Новарасійскіх і Беларускіх (пад гэта палажэнне падпадалі Магілёўская губерня і большая частка Віцебскай) і Мясцовае палажэнне аб пазямельным уладкаванні сялян, якія паселены на памешчыцкіх землях у губернях: Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай і частцы Віцебскай (ахоплівала астатнюю тэрыторыю Беларусі).

У маніфесце і палажэннях былі заканадаўча замацаваны ўсе агульныя для сялян асабістыя і маёмасныя правы, правы грамадскага кіравання сялян, дзяржаўныя і земскія павіннасці. Галоўным звяном у заканадаўчых актах рэформы былі асабістыя правы сялян. У маніфесце падкрэслівалася, што адмена прыгоннага права з'яўляецца вынікам добраахвотнай ініцыятывы "высакароднага дваранства". У адпаведнасці з маніфестам селянін адразу атрымліваў асабістую свабоду. Былы прыгонны, у якога раней памешчык мог забраць усю яго маёмасць, а самога прадаць, падараваць, закласці, зараз атрымліваў не толькі магчымасць вольна распараджацца сваёй асобай, але і шэраг грамадзянскіх правоў: ад свайго імя заключаць розныя грамадзянскія і маёмасныя пагадненні, адкрываць гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы, пераходзіць у іншыя саслоўі.

Разам з тым маніфест абвяшчаў, што сяляне на працягу 2 гадоў (да 19 лютага 1863 г.) абавязаны несці тыя ж самыя павіннасці, што і ў часы прыгоннага права. Адмяняліся толькі т. зв. дадатковыя зборы (яйкі, масла, лён, палатно і да т.п.). Паншчына абмяжоўвалася 2 жаночымі і 3 мужчынскімі днямі з цягла на тыдзень, крыху скарача-

лася падводная павіннасць, забараняўся перавод сялян з аброку на паншчыну і ў дваровыя.

Агульныя палажэнні ўводзілі новую сістэму кіравання вёскай. Яна была заснавана на выбарнасці ніжэйшых службовых асоб. Сяляне, якія жылі на зямлі аднаго памешчыка, складалі сельскую грамаду (абшчыну). На сходзе сельскай грамады выбіраўся стараста. Некалькі сельскіх абшчын, якія адносіліся да аднаго царкоўнага прыхода, стваралі валасць. На валасным сходзе сельскія старасты і ўпаўнаважаныя ад кожных 10 двароў выбіралі валаснoe праўленне, валаснога старшыню і суддзю. Сельскія і валасныя праўленні займаліся раскладкай і зборам падаткаў, выконвалі распараджэнні мясцовых улад, рэгулявалі пазямельныя адносіны сялян, сачылі за парадкам у вёсцы. За своечасовае выкананне ўсіх павіннасцей сяляне неслі адказнасць на аснове кругавой парукі, а судовыя справы вырашаліся паводле норм і традыцый звычаёвага права.

Для непасрэднага правядзення рэформы на месцах ствараліся спецыяльныя органы – павятовыя міравыя з'езды і губернскія па сялянскіх справах установы. Кантралявалі дзейнасць гэтых органаў губернатары. Першай інстанцыяй па ўрэгуляванні адносін паміж сялянамі і памешчыкамі з'яўляліся міравыя пасрэднікі, якія прызначаліся губернатарам з мясцовых дваран. Асноўным абавязкам міравых пасрэднікаў было садзейнічанне складанню ўстаўных грамат – нарматыўных актаў, дзе вызначаліся пазямельныя адносіны сялян і памешчыкаў. На складанне і падпісанне ўстаўных грамат адводзілася два гады.

Пазямельнае ўладкаванне сялян Беларусі, як ужо было сказана, ажыццяўлялася на аснове двух мясцовых палажэнняў. У Магілёўскай і Віцебскай губернях, дзе захавалася абшчыннае землекарыстанне, устанаўліваліся вышэйшыя (ад 4 да 5,5 дзес.) і ніжэйшыя (ад 1 да 2 дзес.) памеры сялянскіх надзелаў. Калі да рэформы ў карыстанні селяніна зямлі было больш за вышэйшую норму, то памешчык меў права адрэзаць лішак у сваю карысць. У Гродзенскай, Віленскай і Мінскай губернях існавала падворнае землекарыстанне. Тут сялянам пакідаўся іх дарэформенны надзел. Адрэзкі дазвалялася рабіць, калі ў памешчыка заставалася менш 1/3 усёй зямлі, але сялянскі надзел не мог быць скарочаны больш чым на 1/6.

Да правядзення выкупной аперацыі сяляне лічыліся часоваабавязанымі і за карыстанне атрыманай зямлёй павінны былі адбываць паншчыну або плаціць памешчыку аброк. У Магілёўскай і Віцебскай губернях за вышэйшы надзел паншчына складала 40 мужчынскіх і 30 жаночых дзён у год (ці 8 рублёў аброку). У заходняй частцы Беларусі павіннасці памяншаліся на 10 % супраць інвентароў і вызначаліся наступным чынам: для паншчыны – не больш 23 дзён, для аброку – не больш 3 рублёў з дзесяціны ў год.

Свой польны надзел зямлі сяляне павінны былі выкупіць ва ўласнасць. Правілы выкупной аперацыі былі аднолькавыя па ўсёй Расіі.





Выкупная сума вызначалася праз шасціпрацэнтную капіталізацыю гадавога аброку. Напрыклад, калі аброк з сялянскага надзелу складаў 6 рублёў у год, то агульная сума, якую селяніну трэба было заплаціць, складала 100 рублёў (6 р. – 6 %, 100 р. – 100 %). Ад 20 да 25 % гэтай сумы (у залежнасці ад велічыні надзелу) сяляне плацілі непасрэдна памешчыку. Астатнюю частку памешчыкі атрымлівалі ад дзяржавы ў выглядзе каштоўных папер, якія можна было прадаваць ці закладваць. У выніку такой аперацыі сяляне станавіліся даўжнікамі дзяржавы. На працягу 49 гадоў трэба было вярнуць доўг у выглядзе выкупных плацяжоў, куды ўключаліся яшчэ і працэнты за пазыку. За гэты час сялянам даводзілася выплаціць да 300 % пазычанай ім сумы.

Такім чынам, агульная сума, якую сяляне вымушаны былі заплаціць за атрыманыя надзелы, значна перавышала рынкавы кошт гэтай зямлі (на Беларусі – у 3–4 разы). Атрымлівалася, што сяляне не толькі выкуплялі зямлю, але і кампенсавалі памешчыкам страту іх уласнасці ў асобе селяніна. Праводзячы выкупную аперацыю, казна вырашыла і праблему спагнання дарэформенных даўгоў з памешчыкаў. На Беларусі, паводле даных за 1859 г., 59,8 % прыгонных сялян (увогуле па Расіі – 65 %) былі закладзены іх уладальнікамі ў розных крэдытных установах. Гэты доўг утрымліваўся з выкупной пазыкі памешчыкам, што вызваліла іх ад даўгоў і выратавала ад фінансавага банкруцтва.

Умовы рэформы не маглі задаволіць сялян. Аб'яўленне маніфеста і палажэнняў выклікала масавы ўздым сялянскіх выступленняў ва ўсёй Расіі. У 1861 г. на Беларусі зарэгістраваны 379 сялянскіх хваляванняў (у 9 разоў больш, чым у 1860 г.), 125 з іх былі падаўлены пры дапамозе войскаў і паліцыі. У 1862 г. барацьба сялян разгарнулася з новай сілай (152 выступленні). Сяляне супраціўляліся высяленню іх на пустэчы і забалочаныя ўчасткі, патрабавалі зменшыць павіннасці, вярнуць выпасы, сенажаці.

Сялянскі рух 1861 – 1862 гг. не здолеў перамагчы, усе выступленні сялян былі жорстка падаўлены. Аднак ва ўмовах паўстання 1863 – 1864 гг. царскі ўрад быў вымушаны правесці шэраг мерапрыемстваў, якія ўнеслі істотныя змены ў "Палажэнні" ад 19 лютага 1861 г. Указ ад 1 сакавіка 1863 г. уводзіў абавязковы выкуп сялянскіх надзелаў у Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай губернях і ў інфлянцкіх паветах Віцебскай губерні, скасоўвалася часоваабавязанае становішча сялян, яны станавіліся ўласнікамі, выкупныя плацяжы зніжаліся на 20 %. 2 лістапада 1863 г. гэты ўказ распаўсюджаны на ўсю Віцебскую і Магілёўскую губерні. На Беларусі былі створаны павятовыя праверачныя камісіі для праверкі і выпраўлення ўстаўных грамат. Абеззямеленым у 1846 – 1856 гг. сялянам выдаваўся 3-дзесяцінны сямейны надзел. У поўным аб'ёме вярталася зямля, адабраная ў іх з 1857 г. Паўстанне 1863 – 1864 гг. паўплывала і на становішча дзяржаўных сялян на Беларусі. У адпаведнасці з законам 1867 г. яны пераводзіліся з аброку на выкуп і станавіліся ўласнікамі сваіх надзелаў.

Зробленыя ўрадам уступкі, безумоўна, палепшылі становішча сялян заходніх губерняў у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расіі і стварылі больш спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталізму ў Літве і на Беларусі. Увогуле, рэформа 1861 г. дала значны штуршок развіццю буржуазных адносін у Расіі. За некалькі дзесяцігоддзяў тут адбыліся такія пераўтварэнні, на якія ў некаторых краінах Захаду патрэбны былі цэлыя стагоддзі. Разам з тым рэформа несла ў сабе шмат супярэчнасцей. У Расіі захавалася мноства феадальных перажыткаў, што стала адметнай рысай і асноўнай асаблівасцю расійскага капіталізму.

## § 2. Буржуазныя рэформы 60 – 70-х гадоў і контррэформы 80 – 90-х гадоў

Рэформа 1861 г. ліквідавала галоўную перашкоду, што стрымлівала развіццё капіталізму ў Расіі – прыгоннае права. Аднак гэтага было недастаткова. Каб рухацца наперад да сапраўды буржуазнага грамадства, Расіі былі патрэбны іншыя рэформы дзяржаўна-палітычнага ладу. У 60 – 70-я гады ўрад Аляксандра II прыняў шэраг пастаноў аб правядзенні такіх рэформ: земскай, судовай, гарадской, ваеннай, у галіне народнай адукацыі і друку.

З усіх рэформ самай радыкальнай з'яўлялася *судовая*. Новыя судовыя статуты, якія былі прыняты 20 лістапада 1864 г., рашуча парывалі з існаваўшым раней у Расіі судовым ладам. Новы суд будаваўся на бессаслоўных прынцыпах. Абвяшчаліся нязменнасць суддзяў, незалежнасць суда ад адміністрацыі, вусны характар, спаборнасць і галоснасць судовага працэсу. Пры разглядзе крымінальных спраў прадугледжваўся ўдзел у судовым працэсе прысяжных засядацеляў, ствараўся інстытут прысяжных павераных (адвакатаў). Працэс папярэдняга следства перадаваўся ад паліцыі судовым следчым. Значна скарачалася сістэма судаводства. Першай інстанцыяй стаў міравы суд з адзіным суддзёй, другой – з'езд міравых суддзяў, потым ішлі акруговыя суды (у губернях) і судовыя палаты (аб'ядноўвалі некалькі губерняў). Для ўсіх судоў імперыі існавала адзіная апеляцыйная інстанцыя – сенат. Міравыя суддзі павінны былі выбірацца на павятовых земскіх сходах і ў гарадскіх думах. Члены судовых палат і акруговых судоў зацвярджаліся імператарам, а міравыя суддзі – сенатам. Нагляд за дзейнасцю судовых устаноў ажыццяўлялі пракуроры, якія падначальваліся непасрэдна міністру юстыцыі. Разам з тым судовая рэформа пакідала валасны суд для сялян (па грамадзянскіх і дробных крымінальных справах), духоўны суд (кансісторыю) па справах духавенства і ваенныя суды для вайскоўцаў. Вышэйшыя дзяржаўныя чыны падлягалі Вышэйшаму крымінальнаму суду.





На Беларусі судовая рэформа пачалася толькі ў 1872 г. з увядзення міравых судоў. Аднак міравыя суддзі, у адрозненне ад цэнтральных губерняў Расіі, тут не выбіраліся, а назначаліся міністрам юстыцыі. Акруговыя суды, прысяжныя засядацелі і прысяжныя павераныя з'явіліся ў заходніх губернях толькі ў 1882 г. Спіс прысяжных засядацеляў таксама зацвярджаўся ўладамі. Усё гэта было вынікам паўстання 1863 – 1864 гг. – самадзяржаўе не давярала мясцовым памешчыкам, сярод якіх былі моцныя прапольскія настроі.

*Земская рэформа*, аб'яўленая 1 студзеня 1864 г., прадугледжвала стварэнне ў паветах і губернях выбарных устаноў для кіраўніцтва мясцовай гаспадаркай, народнай асветай, медыцынскім абслугоўваннем насельніцтва і іншымі справамі непалітычнага характару. На Беларусі ў сувязі з падзеямі 1863 – 1864 гг. уводзіць выбарныя ўстановы царскі ўрад не адважыўся. Палітыка недаверу мясцовым памешчыкам працягвалася ажно да 1911 г., калі ва ўсходніх губернях Беларусі былі створаны земствы, і то згодна са спецыяльным выбарчым законам.

Са спазненнем на 5 гадоў на Беларусі была праведзена *гарадская рэформа* (прынята ў 1870 г., а на Беларусі пачалася ў 1875 г.). Яна абвяшчала прынцып усесаслоўнасці пры выбарах органаў гарадскога самакіравання – гарадской думы і гарадской управы на чале з гарадскім галавой. Аднак права выбіраць і быць абранымі ў гарадскую думу атрымалі толькі тыя, хто плаціў гарадскія падаткі. У сваю чаргу, яны падзяляліся на тры выбарчыя курыі (у залежнасці ад памеру выплочваемага ў гарадскую казну падатку). У першую ўваходзілі найбольш буйныя плацельшчыкі, якія плацілі трэць агульнай сумы гарадскіх падаткаў; у другую – сярэднія падаткаплацельшчыкі, яны таксама плацілі трэць гарадскіх падаткаў; у трэцюю – дробныя падаткаплацельшчыкі, што выплочвалі астатнюю трэць агульнай сумы. Пры гэтым кожная курыя выбірала аднолькавую колькасць членаў гарадской думы (галосных). Такім чынам, уведзеная сістэма гарадскога самакіравання забяспечвала ўладу буйной буржуазіі – купцам, прадпрымальнікам, уладальнікам нерухомасці. Рабочыя, служачыя, інтэлігенцыя, якія складалі асноўную масу насельніцтва гарадоў, не мелі магчымасці ўдзельнічаць у гарадскім самакіраванні як непадатковае насельніцтва.

Гарадская дума падначальвалася непасрэдна сенату, а не мясцовай адміністрацыі, аднак нагляд за дзейнасцю думы ажыццяўляў губернатар праз спецыяльна створаныя губернскія ўстановы па гарадскіх справах. Гарадскі галава ў буйных гарадах зацвярджаўся на сваёй пасадзе міністрам унутраных спраў, а ў дробных – губернатарам. Кампетэнцыя гарадскога самакіравання была абмежавана вузкімі рамкамі чыста гаспадарчых пытанняў: добраўпарадкавання тэрыторыі горада, арганізацыі гарадскога гандлю і транспарту, народнай адукацыі і аховы здароўя, прыняцця санітарных і супрацьпажарных мер. Дума мела права абкладваць падаткамі маёмасць і прыбыткі прыватных

асоб, але ў вельмі абмежаваных памерах – не больш за 1 % кошту нерухомасці альбо гандлёвага ці прамысловага прыбытку. Пры гэтым больш паловы сабраных сродкаў выкарыстоўвалася не на гарадскія, а на казённыя патрэбы – утрыманне паліцыі і органаў улады. Разам з тым, нягледзячы на значную абмежаванасць, рэформа гарадскога самакіравання ўсё ж такі здолела замяніць былыя феадальныя саслоўна-бюракратычныя органы гарадскога кіравання на новыя, заснаваныя на буржуазным прынцыпе маёмаснага цэнзу.

*Рэфармаванне арміі* ў Расіі пачалося ў 1862 г., калі былі ўтвораны 15 ваенных акруг і скарочаны тэрмін службы ў сухапутным войску да 7 і на флоце да 8 гадоў. У 1867 г. быў прыняты новы ваенна-судовы статут, які выходзіў з прынцыпаў судовай рэформы 1864 г. Уводзіліся тры судовыя інстанцыі – палкавы, ваенна-акруговы і галоўны ваенны суд. На час вайны ствараўся Галоўны палявы ваенны суд. Рашэнні ваенных судоў падлягалі зацвярджэнню палкавога і акруговага военачальнікаў.

Разам з тым у расійскай арміі яшчэ працягваў дзейнічаць саслоўны прынцып камплектавання войска. І толькі закон 1874 г. увёў усеагульную воінскую павіннасць. Усе мужчыны з 20-гадовага ўзросту павінны былі служыць у войску (выключэнне рабілася толькі для карэннага насельніцтва Сярэдняй Азіі, Казахстана, Сібіры і Поўначы). У сухапутных войсках тэрмін службы паніжаўся да 6 гадоў абавязковай і 9 гадоў у запасе, на флоце – адпаведна да 7 і 3 гадоў. Таксама ўводзіліся льготы для людзей, якія мелі адукацыю. Тыя, хто скончыў вышэйшыя навучальныя ўстановы, служылі 6 месяцаў, гімназіі – 1,5 года, гарадскія вучылішчы – 3, пачатковыя школы – 4 гады. Такім чынам, з увядзеннем усеагульнай воінскай павіннасці ў Расіі былі фармальна рэалізаваны буржуазныя прынцыпы камплектавання арміі. Але на практыцы саслоўнасць не была ліквідавана. Сярод расійскага афіцэрства пераважалі дваране, а ўвесь цяжар салдацкай службы неслі ніжэйшыя саслоўі, пераважна сяляне, таму што прывілеяваныя саслоўі дзякуючы высокай адукацыі і іншым ільготам фактычна вызваляліся ад службы ў войску.

Буржуазны характар насілі таксама *школьная рэформа 1864 г.* і *цэнзурная рэформа 1865 г.* Школа абвяшчалася ўсесаслоўнай, павялічвалася колькасць пачатковых школ, уводзілася пераемнасць розных ступеняў навучання. Гімназіі падзяляліся на класічныя і рэальныя (апошнія пазней пераўтвораны ў рэальныя вучылішчы). У класічных гімназіях у аснову навучання было пакладзена выкладанне т.зв. класічных моў – грэчаскай і лацінскай, а таксама гуманітарных дысцыплін. Рэальныя гімназіі павялічвалі аб'ём выкладання матэматыкі і прыродазнаўства за кошт старажытных моў. Скончыўшыя класічныя гімназіі атрымлівалі права паступаць без экзаменаў ва універсітэты. Доступ ва універсітэты тым, хто скончыў рэальныя гімназіі, быў абмежаваны. Яны маглі паступаць пераважна ў вышэйшыя тэхнічныя навучальныя ўстановы. Увогуле, з-за даволі





высокай платы за навучанне магчымасць атрымаць добрую адукацыю мелі пераважна прадстаўнікі прывілеяваных і заможных саслоўяў. Для жыхароў Беларусі становішча ўскладнялася яшчэ і тым, што ў краі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы.

Новы цэнзурны статут, прыняты ў 1865 г., значна пашыраў магчымасці друку. Адмянялася папярэдняя цэнзура для твораў памерам не менш як 10 друкаваных аркушаў, а для перакладаў – 20. Выданні меншых памераў абавязкова падлягалі папярэдняй цэнзуры. Буйным перыядычным выданням дазвалялася выходзіць без папярэдняй цэнзуры, але толькі пры ўнясенні вялікіх грашовых закладаў. Пры гэтым органы ўлады мелі права кантролю і прымянення розных санкцый да парушальнікаў закону аб друку – ад грашовага спагнання да закрыцця "нядобранадзейных" газет і часопісаў. Аднак гэта тычылася перш за ўсё цэнтральных выданняў і выдавецтваў. На Беларусі да сярэдзіны 80-х гадоў усе перыядычныя выданні залежалі ад урадавых устаноў і праваслаўнай царквы.

Такім чынам, буржуазныя рэформы 60 – 70-х гадоў XIX ст., пачынаючы з адмены прыгоннага права, прывялі да значных змен у палітычным жыцці Расіі. Быў зроблены крок наперад па шляху пераўтварэння феадальнай манархіі ў буржуазную. Разам з тым яны неслі ў сабе перажыткі прыгонніцтва, былі непаслядоўныя і абмежаваныя. Вялікія адрозненні і адтэрміноўкі ў правядзенні рэформ на Беларусі надавалі ім яшчэ больш абмежаваны і непаслядоўны характар у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расіі.

Пасля забойства нарадавольцамі імператара Аляксандра II у 1881 г. ва ўнутранай палітыцы Расіі адбыліся значныя змены. У кіраўніцтве дзяржавы перамогу атрымалі кансерватыўныя колы. У выніку 80 – 90-я гады ўвайшлі ў гісторыю як перыяд контррэформ. У 1882 г. быў устаноўлены строгі адміністрацыйны нагляд за газетамі і часопісамі. Іх рэдакцыі павінны былі па першым патрабаванні Міністэрства ўнутраных спраў называць імёны аўтараў, якія друкаваліся пад псеўданімамі. Узмацніліся рэпрэсіі супраць прагрэсіўных выданняў, многія з якіх былі хутка зачынены зусім.

У 80-я гады ўрад прыняў шэраг пастаноў, якія ўводзілі шмат абмежаванняў у сістэму адукацыі. Так, Палажэнне аб царкоўнапрыходскіх школах, якое было выдадзена ў 1884 г., падкрэслівала рэлігійную аснову пачатковага навучання (у царкоўнапрыходскіх школах вучыліся ў першую чаргу дзеці сялян). Узмацніўся кантроль за кантынгентам навучэнцаў сярэдняй школы. У 1887 г. міністр народнай адукацыі выдаў цыркуляр "аб кухарчыных дзецях", якім забаранялася прымаць у гімназіі дзяцей ніжэйшых саслоўяў гарадскога насельніцтва. У гэты ж час рэальныя вучылішчы былі пераўтвораны ў тэхнічныя вучылішчы, заканчэнне якіх не давала права паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вышэйшая адукацыя таксама была ўзята пад больш жорсткі кантроль з боку царскай адміністрацыі. Універсітэцкі статут 1884 г. фактычна ліквідаваў аўтаномію

універсітэтаў у кіраванні. З 1887 г., каб паступіць ва універсітэт, трэба было прадаставіць характарыстыку аб "добранадзейнасці", а плата за год навучання павялічвалася з 10 да 50 рублёў. Усё гэта, безумоўна, закранала інтарэсы жыхароў Беларусі, дзе пасля закрыцця ў 1864 г. Горы-Горацкага земляробчага інстытута не засталося ніводнай вышэйшай навучальнай установы і, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, трэба было ехаць у іншыя мясціны.

Спробай ўзяць жыццё сялян пад больш пільны кантроль урадавай адміністрацыі было ўвядзенне ў 1889 г. інстытута земскіх начальнікаў. Яны назначаліся з дваран і мелі права ўмешвацца ў рашэнні сельскіх сходаў, накладваць на сялян пэўныя пакаранні і спагнанні. Праўда, на Беларусі, апасаючыся паланафільскіх настрояў, закон аб земскіх начальніках царскія ўлады ўвялі толькі ў 1900 г. і толькі ў межах Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў.

У 1892 г. было зацверджана новае Гарадское палажэнне, якое рэзка павышала маёмасны цэнз пры выбарах органаў гарадскога самакіравання і ўзмацняла кантроль над ім з боку ўрадавай адміністрацыі. Права ўдзелу ў выбарах гарадской думы пазбаўляліся не толькі немаёмныя пласты гарадскога насельніцтва, але і дробная буржуазія – дробныя гандляры, прыказчыкі і інш. Перавага аддавалася дваранам-домаўладальнікам, буйной гандлёвай, прамысловай і фінансавай буржуазіі, вынікам чаго стала рэзкае скарачэнне колькасці выбаршчыкаў. Напрыклад, у Мінску ў 1893 г. яны склалі ўсяго 1 % насельніцтва горада (памяншэнне ў 14 разоў у параўнанні з выбарамі паводле закону 1870 г.). Паколькі ў гарадах Беларусі значную частку насельніцтва складалі яўрэі (у сярэднім больш за 50 %), пераважная большасць якіх паводле свайго маёмаснага стану адносіліся да беднякоў і таму не ўдзельнічалі ў выбарах органаў гарадскога самакіравання, выкананне Гарадскога палажэння 1892 г. прымала на Беларусі форму нацыянальнага прыгнёту.

Увогуле становішча на Беларусі ўскладнялася рознымі абмежаваннямі ў дачыненні да польскага (каталіцкага) і яўрэйскага насельніцтва. У сувязі з паўстаннем 1863 – 1864 гг. палякам з 1865 г. забаранялася набываць маёнткі інакш як па спадчыне. Польскія памешчыкі былі пазбаўлены магчымасці карыстацца льготнымі пазыкамі Дваранскага банка. Беларускія сяляне-католікі маглі мець не больш за 60 дзесяцін зямлі на сям'ю. Яшчэ з канца XVIII ст. Беларусь уваходзіла ў мяжу яўрэйскай аселасці. А ў 1882 г. яўрэям было забаронена сяліцца за межамі гарадоў і мястэчак, арандаваць і купляць зямлю. У пачатку 90-х гадоў на Беларусь была выселена значная колькасць яўрэяў з гарадоў Цэнтральнай Расіі, у выніку чаго стварылася штучная перанаселенасць беларускіх гарадоў. Яўрэяў не прымалі на работу ў дзяржаўныя ўстановы, паліцыю, на афіцэрскія пасады ў арміі, на чыгуначны транспарт. Існавала працэнтная норма прыёму яўрэяў у сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы.





Галоўнай задачай, якую ўрад ставіў перад сабой, праводзячы серыю контррэформ у сялянскім пытанні, галіне народнай адукацыі і друку, мясцовага самакіравання, было ўмацаванне сваёй сацыяльнай базы – класа памешчыкаў, пазіцыі якога аказаліся значна падарванымі аб'ектыўнымі ўмовамі сацыяльна-эканамічнага развіцця парэформеннай Расіі. Іншай апоры сваёй улады царызм не бачыў і не жадаў бачыць. Тым не менш ураду не ўдалося ў поўным аб'ёме ажыццявіць праграму контррэформ. Гэты працэс быў спынены новым уздымам рэвалюцыйнага руху ў краіне.

## § 3. Парэформеннае развіццё беларускіх губерняў. Сацыяльна-эканамічнае становішча на рубяжы XIX – XX стст.

Рэформа 1861 г., праведзеная ў інтарэсах памешчыкаў, абумовіла "прускі шлях" развіцця аграрнага капіталізму ў Расіі. На Беларусі яго рысы былі яшчэ больш выразныя. Тут пераважала памешчыцкае землеўладанне. Паводле даных 1877 г., памешчыкам належала 50,3 % зямлі, сялянам – 33,4, казне, царкве, розным установам – 11,2 %. Буржуазнае землеўладанне складала ўсяго 5,1 % ад агульнай зямельнай плошчы. Памешчыцкае землеўладанне на Беларусі мела выразны латыфундыяльны характар. Буйныя памешчыкі валодалі дзесяткамі і сотнямі тысяч дзесяцін зямлі. Граф Чарнышоў-Круглікаў меў 74,5 тыс. дзесяцін зямлі, князь Паскевіч – 83,5 тыс., граф Патоцкі – 121,6 тыс., князь Радзівіл – 150 тыс., а князь Вітгенштэйн – амаль 1 млн дзесяцін. У той жа час сялянскія надзелы складалі ў сярэднім ад 2 да 5 дзесяцін.

Пераход да капіталістычнага гаспадарання на Беларусі адбываўся паступова. На змену прыгонніцтву спачатку прыйшла змешаная сістэма гаспадаркі. Феадальныя рысы ў сельскай гаспадарцы праяўляліся ў выглядзе адпрацовак. Адпрацовачная сістэма была найбольш распаўсюджана ў Віцебскай і Магілёўскай губернях. Яе сутнасць заключалася ў апрацоўцы памешчыцкай зямлі інвентаром навакольных сялян, якія атрымлівалі за сваю працу ад памешчыка зямельныя плошчы ў арэнду. У Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях памешчыкі шырока выкарыстоўвалі працу наёмных рабочых (гадавых, тэрміновых, падзённых), якія апрацоўвалі зямлю інвентаром памешчыка, гэта была ўжо капіталістычная форма гаспадарання. Аднак і тут адпрацоўкі займалі значнае месца.

Пасля рэформы 1861 г. сельская гаспадарка ўсё шырэй уцягвалася ў рыначныя сувязі. Развіццё капіталізму ў Беларусі адбывалася пад непасрэдным уплывам агульнарасійскага рынку. У параўнанні з цэнтральнымі прамысловымі губернямі, значнай часткай Украіны,

Польшчай і Прыбалтыкай Беларусь адставала ў прамысловым развіцці і заставалася галоўным чынам сельскагаспадарчым раёнам. Аднак па ўзроўні развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы яна ішла наперадзе многіх раёнаў Расіі. Гэтаму спрыяла, у прыватнасці, геаграфічнае становішча Беларусі, праз тэрыторыю якой праходзілі стратэгічныя і гандлёвыя шляхі ў Польшчу, Прыбалтыку, Заходнюю Еўропу.

Хутчэй складваліся капіталістычныя адносіны ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях, дзе пасля рэформы засталося менш перажыткаў прыгонніцтва і пераважала падворнае землекарыстанне. Гэтыя губерні знаходзіліся і ў больш спрыяльным становішчы ў параўнанні з Віцебскай і Магілёўскай адносна рынку збыту сельскагаспадарчай прадукцыі. Перш за ўсё прадпрымальніцкі характар набывала памешчыцкая гаспадарка. У выніку малазямелля сялян таварная вытворчасць іх гаспадарак была вельмі нізкай, таму асноўнымі пастаўшчыкамі таварнай прадукцыі на Беларусі былі памешчыкі.

Калі памешчыкі цэнтральных губерняў Расіі з 1877 па 1905 г. страцілі 27,2 % сваёй зямлі, то на Беларусі толькі 10,8 %. Многія памешчыцкія гаспадаркі, асабліва на захадзе і ў цэнтры Беларусі, сталі на капіталістычны шлях развіцця. У сваіх маёнтках памешчыкі адкрывалі вінакурныя, цагельныя, смалакурныя заводы, млыны, лесапільні. Разам з тым многія памешчыкі самі не вялі гаспадарку, а здавалі зямлю ў арэнду.

Аб развіцці капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі можа сведчыць паступовая спецыялізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці. У першыя два дзесяцігоддзі пасля рэформы важнейшай галіной гандлёвага земляробства заставалася вытворчасць зерня. Аднак у выніку сусветнага аграрнага крызісу 80 – 90-х гадоў цэны на збожжа рэзка знізіліся (толькі за 80-я гады больш чым у 2 разы). Збожжавыя гаспадаркі Беларусі не былі здольны канкурыраваць на рынках Заходняй Еўропы з вытворцамі таннага і высакаякаснага хлеба з ЗША, Аргенціны, Аўстраліі. Гэта прымусіла беларускіх памешчыкаў пераходзіць на вытворчасць такіх прадуктаў, якія давалі большы прыбытак. Паступова на Беларусі складваліся пэўныя раёны, дзе пераважную ролю адыгрывала тая ці іншая гандлёвая галіна сельскагаспадарчай вытворчасці і да яе прыстасоўваліся ўсе іншыя.

У 90-я гады галоўнай спецыялізаванай галіной у сельскай гаспадарцы Беларусі стала малочная жывёлагадоўля. З 1883 па 1900 г. колькасць буйной рагатай жывёлы ў памешчыцкіх гаспадарках Беларусі вырасла з 505,2 тыс. да 994,8 тыс. галоў, а ў Мінскай і Віцебскай губернях – у 2,2 раза. Дзякуючы высокаму попыту малочныя прадукты мелі пастаянны збыт у Цэнтральнай Расіі, Польшчы, Прыбалтыцы. Важным відам гандлёвага прадпрымальніцтва ў памешчыцкіх гаспадарках Беларусі было вінакурэнне. Ад продажу спірту памешчыкі атрымлівалі буйныя даходы. З сярэдзіны 60-х гадоў у памешчыцкіх гаспадарках інтэнсіўна развівалася свінагадоўля.





У Мінскай і Гродзенскай губернях значнага развіцця дасягнула танкарунная авечкагадоўля.

Спецыялізацыя памешчыцкай гаспадаркі і павелічэнне яе рыначных сувязей асабліва ярка праявіліся ў пашырэнні вытворчасці тэхнічных культур. Сярод іх першае месца займала бульба. Плошча пад бульбу за 1881 – 1899 гг. узрасла ў 2,5 раза. Другое месца пасля бульбы ў памешчыцкіх гаспадарках Беларусі належала лёну. Яго вытворчасць, асабліва ў Віцебскай губерні, мела пераважна таварны характар. За апошнія два дзесяцігоддзі XIX ст. плошча пад лён павялічылася на 48,5 %. Значнае месца ў канцы XIX ст. у беларускіх губернях займала прамысловае садоўніцтва і агародніцтва.

Капіталізацыя памешчыцкай гаспадаркі Беларусі выклікала неабходнасць выкарыстання машын. У сярэдзіне 90-х гадоў па распаўсюджванні розных сельскагаспадарчых прылад Беларусь знаходзілася на другім месцы ў Расіі пасля Новарасійскага раёна. Лепш былі забяспечаны машынамі памешчыцкія гаспадаркі Мінскай і Гродзенскай губерняў. Тут даволі шырока выкарыстоўвалі малатарні, веялкі, жняяркі, сеялкі. Менш іх было ў Магілёўскай і Віцебскай губернях. Але ўсё ж у памешчыцкіх гаспадарках Беларусі прымянялі ў асноўным адсталую ручную тэхніку.

Да пачатку XX ст. перабудова сельскай гаспадаркі Беларусі на капіталістычны лад яшчэ далёка не завяршылася. Адпрацовачная сістэма не была канчаткова адменена нават у перадавых гаспадарках. Таксама захаваліся і іншыя перажыткі прыгонніцтва. На Беларусі пераважала буйное памешчыцкае землеўладанне, а сяляне цярпелі ад малазямелля. Апроч таго, за памешчыкамі засталіся сервітутныя землі–лясы, сенажаці, выганы, за карыстанне якімі яны бралі з сялян грашовую плату або прымушалі працаваць на панскім полі. У дадатак да цяжкіх эканамічных умоў свайго існавання сяляне ў прававых адносінах заставаліся ніжэйшым саслоўем у дзяржаве. У адрозненне ад дваранства, духавенства і купецтва, яны плацілі дзяржаве падушны падатак, выкупныя плацяжы, пазямельны падатак, выконвалі падводную, дарожную, паліцэйскую павіннасці. Да іх прымяняліся цялесныя пакаранні.

Феадальныя перажыткі стрымлівалі развіццё капіталістычнага бессаслоўнага землеўладання, якое нават у пачатку XX ст. на Беларусі складала толькі 16,5% агульнай зямельнай плошчы. Працэс распаду дваранскай зямельнай уласнасці на Беларусі ішоў значна марудней, чым у Цэнтральнай Расіі. Да пачатку XX ст. сельская гаспадарка Беларусі ўсё яшчэ заставалася напаўпрыгонніцкай-напаўкапіталістычнай.

Прамысловасць Беларусі развівалася ў цеснай сувязі з агульнарасійскай, але мела і свае асаблівасці. Характэрнай рысай прамысловага развіцця Беларусі ў другой палове XIX ст., разам з адносна хуткім ростам фабрычнай індустрыі, было пашырэнне дроб-

41. Зак. 5560

най вытворчасці і мануфактур, пераважна невялікіх фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў.

У 60-я гады XIX ст. у прамысловасці Беларусі пераважалі дробныя рамесныя прадпрыемствы і мануфактуры. На іх выкарыстоўвалася ручная праца. Перш за ўсё гэта промыслы па перапрацоўцы мясцовай сыравіны: дрэва (сталярны), гліны (ганчарны), скуры (кушнерскі, шавецкі), шэрсці і льну (ткацкі). Рамесніцкая вытворчасць канцэнтравалася ў гарадах і шматлікіх мястэчках. Да канца стагоддзя назіраўся рост колькасці дробных рамесных прадпрыемстваў, павялічваўся аб'ём іх прадукцыі. У канцы 90-х гадоў рамесніцтва давала 34,5% прадукцыі ад усёй прамысловасці Беларусі.

Пасля рэформы 1861 г. паскорыўся рост мануфактурнай вытворчасці. Тут выкарыстоўвалася ручная праца, але існаваў яе падзел па спецыяльнасцях. Мануфактуры ўзнікалі з сялянскіх промыслаў і гарадскога рамяства. У канцы XIX ст. мануфактуры пераважалі ў гарбарнай, ганчарнай, цагельнай, суконнай, шкляной і тытунёвай вытворчасці і давалі 32,5% валавой прамысловай прадукцыі Беларусі.

Нягледзячы на вялікую долю рамеснай і мануфактурнай вытворчасці, на Беларусі на працягу другой паловы XIX ст. ішоў працэс пераходу ад ручной працы да машыннай. Рамяство і мануфактуру паступова выцясняла капіталістычная фабрыка. Калі ў 1860 г. на Беларусі дзейнічала толькі 30 фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў, то ў 1900 г. іх было ўжо 799 (рост у 27 разоў). За гэты ж час колькасць рабочых узрасла з 2,9 да 31,1 тыс. (у 10,7 раза). У канцы стагоддзя фабрычна-заводская прамысловасць давала 33% валавога прадукту.

Значна адставала Беларусь ад Расіі па ўзроўні канцэнтрацыі вытворчасці. Дробныя прадпрыемствы (да 50 рабочых) складалі ў нас 85,5% ад усіх фабрык і заводаў. Калі прадпрыемствы, якія мелі больш за 500 рабочых, у расійскай прамысловасці займалі 3,5 %, то ў беларускай – толькі 1,2 %. Сярэдні памер прадпрыемстваў Беларусі быў у 2,3 раза меншы, чым увогуле па Расіі. У той час нетры Беларусі не былі вывучаны. Адсутнічала сыравіна для цяжкай прамысловасці, таму на Беларусі гэта прамысловасць развівалася вельмі марудна. Пераважнае значэнне тут атрымалі галіны вытворчасці, звязаныя з перапрацоўкай мясцовай сыравіны. Сярод іх вядучая роля належала вінакурэнню і лясной прамысловасці.

Беларусь з'яўлялася адным з галоўных раёнаў вінакурэння ў Расіі. Тут у 1890 г. дзейнічала 18% ад усіх вінакурных заводаў краіны. У 1900 г. на вінакурных заводах Беларусі працавала 470 паравых рухавікоў, валавая прадукцыя складала 23,5% ад усёй прадукцыі прамысловасці Беларусі. Лесапільная прамысловасць па колькасці занятых рабочых стаяла на другім месцы пасля вінакурэння. Аднак фабрычна-заводскія прадпрыемствы занялі ў галіне пануючае становішча толькі ў 90-х гадах.

Значнае развіццё на Беларусі атрымалі запалкавыя і папяроважкардонныя прадпрыемствы. Напрыклад, у Мінскай губерні ў 1900 г.







*Віленскі чыгуначны вакзал у Мінску*
*Пачатак XX ст.*

дзейнічалі чатыры запалкавыя фабрыкі: Барысаўская (759 рабочых), Мазырская (616), Пінская (590) і Койданаўская (208 рабочых). Па колькасці працуючых на іх гэтыя фабрыкі былі найбуйнейшыя ў губерні. Сярод папяровых фабрык буйнейшай з'яўлялася Добрушская (900 рабочых і гадавая сума вытворчасці 1,6 млн рублёў). Да таго ж яна была абсталявана навейшымі па тым часе машынамі.

Вельмі шмат было на Беларусі прадпрыемстваў, звязаных з перапрацоўкай сельскагаспадарчай сыравіны: мукамольна-крупяныя, крухмальна-патачныя, маслабойныя, піваварныя, тэкстыльныя, ільно- і пенькаапрацоўчыя, гарбарныя. Значнае развіццё атрымала тытунёвая прамысловасць, якая працавала на завознай сыравіне. Буйнейшай з'яўлялася тытунёвая фабрыка Шарашэўскага ў Гродне. У 1900 г. на ёй працавала 1445 рабочых. У другой палове XIX ст. хуткі рост гарадоў і развіццё прамысловага будаўніцтва выклікалі патрэбу ў вялікай колькасці будаўнічых матэрыялаў. На Беларусі атрымала развіццё ў першую чаргу вытворчасць цэглы. Існавалі таксама шклозаводы і прадпрыемствы па вытворчасці кафлі.

Прамысловасць Беларусі пасля рэформы 1861 г. развівалася нераўнамерна. Калі ў першыя два дзесяцігоддзі ўдзельная вага ўсіх прадпрыемстваў Беларусі, якія ўзніклі ў гэты час, складала 18,5%, а ў Расіі – 23,4%, то ў 80 – 90-я гады на Беларусі ўведзена ў дзеянне фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў у 4 разы больш, чым за папярэднія 20 гадоў (у Расіі толькі ў 2,6 раза). Значнаму павелічэнню тэмпаў развіцця прамысловасці Беларусі спрыяла стварэнне густой

*Схема чыгуначнай сеткі на Беларусі (другая палова XIX ст.)*




сеткі чыгуначных дарог, а таксама інвестыцыі капіталу і арганізацыя крэдытных установ. Развіццё капіталізму ў эканоміцы Беларусі не магло абыходзіцца без дзейнасці развітай сістэмы транспарту. Асабліва важным для прамысловасці, узмацнення таварнасці сельскай гаспадаркі, гандлёвых сувязей і фарміравання рынку быў чыгуначны транспарт.

Першай чыгункай, якая пракладзена па тэрыторыі Беларусі, стала Пецярбургска-Варшаўская, пабудаваная ў 1862 г. Яна прайшла праз Гродна. У 1866 г. адкрыта Рыга-Арлоўская чыгунка праз Дзвінск – Полацк – Віцебск. Асабліва інтэнсіўна чыгуначныя магістралі будаваліся ў 70 – 90-х гадах. У 1871 г. пачала дзейнічаць Маскоўска-Брэсцкая магістраль (Смаленск – Орша – Баранавічы – Брэст); у 1871 – 1874 гг. – Лібава-Роменская (Вільня – Маладзечна – Мінск – Асіповічы – Бабруйск – Жлобін); у 1873 г. – Брэст – Ковель; у 1882 г. – Пінск – Жабінка; у 1886 г. – Лунінец – Гомель і Беласток – Баранавічы. Чыгуначнае будаўніцтва працягвалася і ў наступныя гады. Чыгунка звязала Беларусь з цэнтральнымі губернямі Расіі, буйнымі эканамічнымі цэнтрамі краіны – Пецярбургам, Масквой, Кіевам, прыбалтыйскімі портамі.







*Саборная плошча Мінска ў XIX ст.*

Значную ролю адыгрываў рачны транспарт. Водныя шляхі праходзілі па Прыпяці, Бярэзіне, Сожы. Водны транспарт у 1900 г. налічваў 310 непаравых і 23 паравых судны.

Працягваўся рост гарадоў. Мінск, Віцебск, Гомель, Жлобін, Лунінец, Брэст, Баранавічы ў выніку развіцця чыгункі сталі буйнымі чыгуначнымі вузламі і гандлёва-прамысловымі цэнтрамі.

Пашырыўся гандаль. Пераважаў вываз сельскагаспадарчай сыравіны, лясных матэрыялаў, такіх прамысловых тавараў, як запалкі, папера і кардон, цэгла, кафля і аконнае шкло, вяроўкі і канаты, спірт, малочныя прадукты, жытняя і бульбяная мука і г.д. Прывозілі ж на Беларусь метал, мануфактурныя тавары, соль, збожжа.

Беларусь на мяжы XIX – XX стст. заставалася, як і раней, адным з тых эканамічных раёнаў, характар прамысловага развіцця якіх вызначаўся спецыялізацыяй на апрацоўцы мінеральнай сыравіны, сельскагаспадарчай прадукцыі. Як і раней, развіваліся харчовая, тэкстыльная, гарбарная, сілікатна-цагельная і іншыя галіны прамысловасці. Большасць фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў былі невялікімі, з колькасцю рабочых да 50 чалавек. Развіццё капіталізму ў прамысловасці выявілася ў паступовым выцясненні дробнай вытворчасці і мануфактуры заводскай вытворчасцю. Аднак працягвалі расці дробная і мануфактурная вытворчасці, прычым на працягу ўсяго названага перыяду яны пераважалі.

У пачатку XX ст. узмацніўся працэс канцэнтрацыі прамысловасці. Да 1900 г. на 50 прамысловых прадпрыемствах з колькасцю рабочых

больш за 100 чалавек працавала 24% ад усіх рабочых. Да буйных прадпрыемстваў адносіліся льнопрадзільная фабрыка "Дзвіна" ў Віцебску (каля 1000 рабочых), папяровая фабрыка ў Добрушы, фабрыка "Нёман" у Лідскім павеце па вырабу крышталёвага шкла, тытунёвая фабрыка Шарашэўскага ў Гродне, запалкавыя фабрыкі "Прагрэс-Вулкан" у Пінску, "Вікторыя", ў Барысаве і інш.

Канцэнтрацыя вытворчасці і капіталу прывяла да стварэння ў Беларусі манапалістычных аб'яднанняў, якія выцеснілі дробную вытворчасць. З 1900 па 1907 г. перастала існаваць каля 4650 саматужна-рамесных майстэрняў. Колькасць рамеснікаў і саматужнікаў зменшылася на 4,6 тыс. чалавек. У Мінску дзейнічалі акцыянерныя таварыствы запалкавай фабрыкі "Маланка" і крухмала-патачнага завода "Сокал", у Гродне – акцыянернае таварыства тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага. У 1905 г. у Копысі Магілёўскай губерні ўзнік сіндыкат уладальнікаў кафельных заводаў, а ў 1906 г. у Оршы – сіндыкат піваварных заводчыкаў Паўночна-Заходняга краю. Усё ж манапалізацыя прамысловасці была параўнальна невялікая, да 50% прамысловай вытворчасці працягвалі складаць саматужна-рамесныя цэхі. Таму асноўныя рысы, характэрныя для манапалістычнай стадыі развіцця капіталізму, у Беларусі праявіліся не так выразна, як у прамыслова развітых раёнах Расіі.

Разам з тым неабходна падкрэсліць, што дробная вытворчасць паступова трапляла пад уплыў і залежнасць ад буйнога капіталу.

У сельскай гаспадарцы капіталізм праяўляўся ў першую чаргу ў развіцці таварнай вытворчасці. У гаспадарках памешчыкаў, а таксама заможных сялян галоўнай галіной заставалася вытворчасць збожжа. Пачынаючы з 80 – 90-х гадоў XIX ст. усталёўвалася спецыялізацыя на малочнай жывёлагадоўлі і свінаводстве, развівалася танкарунная авечкагадоўля, як і раней, было развіта вінакурэнне.

Вядучую ролю ў эканоміцы пачалі адыгрываць банкі. Акрамя аддзяленняў цэнтральных банкаў імперыі (у Мінску, Магілёве, Віцебску, Гомелі, Пінску, Бабруйску і іншых гарадах) былі і мясцовыя – Магілёўскі і Мінскі камерцыйныя банкі.

У цэлым эканоміка беларускіх губерняў, як і ўсёй краіны, на пачатку XX ст. перажыла эканамічны крызіс.

Капіталізм у Беларусі пранікаў як у памешчыцкую, так і ў сялянскую гаспадарку, уцягваў іх у арбіту рыначных адносін. Беларускія губерні адносіліся да раёнаў з самым высокім узроўнем памешчыцкага землеўладання. Дваране складалі 2,8% насельніцтва і распараджаліся большай часткай ворнай зямлі, а таксама ад 80 да 90 % усёй зямлі, у той час як сяляне (75,3% насельніцтва) валодалі 34,4% ворыва. У сельскай гаспадарцы працягвалася спецыялізацыя на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вінакурэнні.

Нягледзячы на развіццё капіталізму, у вёсцы захоўваўся ўвесь без выключэння набор прыгонных метадаў гаспадарання і эксплуатацыі працы. З-за ўціску сялян, галоўным чынам з боку памешчыцкай





гаспадаркі, на Беларусі не склалася развітая кулацкая гаспадарка. На пачатку XX ст. беднякоў было прыкладна 61% ад усёй колькасці сялян, серадтякоў – 28, заможных сялян – 11%.

Дваранства на Беларусі налічвала 175 тыс. чалавек. Рускія памешчыкі (пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай і паўстання 1863 – 1864 гг. царызм актыўна насаджаў тут рускае буйнапамеснае землеўладанне, узнагароджваў зямлёй і прывілеямі перш-наперш самых адданых прастолу людзей) займалі пазіцыю захавання самадзяржаўнай улады, афарбаванай у вялікадзяржаўны шавіністычны колер. Польскія памешчыкі, эканамічная магутнасць якіх была абмежавана, але не знішчана, у палітычным плане стаялі на пазіцыі адраджэння самастойнасці Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Такая іх апазіцыйнасць царызму пры першых прыкметах пагрозы з боку ўрада ператваралася ў вернападданніцкую пазіцыю.

Побач з буйнымі землеўладальнікамі-памешчыкамі склаўся вельмі своеасаблівы пласт дваран-фальваркоўцаў і засцянковай шляхты (паводле нацыянальнага складу часткова апалячанай, у эканамічным плане землеўласніцкай, беззямельнай і з чыноўніцкага асяроддзя). У палітычных адносінах землеўласніцкая шляхта ўсё больш актыўна станавілася на шлях капіталістычнага гаспадарання, арыентавалася на адраджэнне польскай дзяржавы і нярэдка выступала супраць беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Дробнай і сярэдняй шляхце ў значнай меры была ўласціва беларуская нацыянальная свядомасць. Гэта праслойка шляхты прыхільна ставілася да нацыянальна-вызваленчага руху.

Такім чынам, сацыяльна-эканамічнае становішча Беларусі абазначанага перыяду характарызуецца развіццём капіталізму ў эканоміцы, фарміраваннем элементаў імперыялізму ў прамысловасці, паступовымі змяненнямі ў сацыяльнай структуры грамадства. Аднак беларускія губерні ў цэлым заставаліся сельскагаспадарчым рэгіёнам, а ў галіновай структуры прамысловасці па-ранейшаму вядучымі былі апрацоўка мясцовай сыравіны, харчовая і лёгкая прамысловасць.

## § 4. Беларусь напярэдадні першай сусветнай вайны. Сталыпінскія рэформы

У 1908 г. завяршыўся перыяд эканамічнай дэпрэсіі, якая ахапіла ўсю Расію, і пачаўся прамысловы ўздым. Ён працягваўся да пачатку першай сусветнай вайны.

На Беларусі з 1908 г. назіралася павелічэнне колькасці прамысловых прадпрыемстваў і рост прадукцыі. За тры перадваенныя гады пабудавана каля 200 прамысловых прадпрыемстваў (столькі ж, колькі за 1900 – 1908 гг.). Прырост колькасці рабочых у 1913 – 1915 гг.


УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ
Прамысловыя прадпрыемствы
Металаапрацоўчыя
Суднабудаўнічыя
Чыгуначныя майстэрні і дэпо
Цагляныя, ганчарныя, кафляныя
Шкляныя
Тытунёвыя
Лесапільныя, дрэваапрацоўчыя
Запалкавыя
Шоўкакруцільныя
Суконныя, баваўняныя
Ільняныя, канатныя
Папяровыя, кардонныя
Гільзавыя
Шпалерныя
Пераплётныя
Вінакурныя
Мукамольныя
Крухмальныя
Мылаварныя
Маслабойныя
Гарбарныя
Хімічныя
Піваварныя
Сенапрэсавальныя
Акулярныя
Друкарні
Абутковыя
Заўвага. На карце абазначаны прамысловыя прадпрыемствы з колькасцю рабочых 15 і больш. Лічба каля ўмоўнага знака абазначае колькасць прадпрыемстваў
Шляхі зносін
1902
Чыгункі і пачатак руху
Шашэйныя дарогі
Грунтавыя дарогі
Каналы судаходныя
Найважнейшыя прыстані
Рэкі
Азёры
Населеныя пункты
МІНСК Цэнтры губерняў
Гомель Цэнтры паветаў
Жлобін Іншыя населеныя пункты
Граніцы губерняў
Сучасныя граніцы
СССР
саюзных рэспублік СССР
Шаўлі
Ракішкі
Ілукст
КУРЛЯНДСКАЯ ГУБ.
ВІЦЕБСКАЯ
Панявеж
Дзвінск
Дрыса
Новааляксандраўск
воз. Асвейскае
воз. Нешчэрда
воз. Скулы
Зах. Дзвіна
Дзісна
Мікалаеўка
Полацк
Расіены
КОВЕНСКАЯ ГУБ.
Вількамір
Нёман
Дзісна
Чарэвічы
Глыбокае
Свянцяны
КОЎНА
Губін
Смаляны
Ракаў
воз. Нарач
Лепель
Чашнікі
Валкавышкі
ВІЛЬНЯ
Новыя Трокі
Смаргонь
1907 г.
1872
Бярэзіна
Янава
Азярцы
Марыямпаль
Кальварыя
Вілейка
Ашмяны
Залессе
Ілія
Плешчаніцы
Міхалава
Крупкі
СУВАЛКІ
Сейны
Сурвілішкі
Вішнева
Маладзечна
Барысаў
Дайліды
Ліда
Бярэзіна
Аўгустаў
ГРОДНА
Азёры
Бярозаўка
Пярэчыцы
Ліпава
Ракаў
Смалявічы
МІНСК
Угалец
Лонін
Варонча
Анапаль
Куль
Ігумен
Луг
Агампаль
Кайданава
Саколка
Скідаль
Навагрудак
Стоўбцы
Перавоз
Ябланава
Масты
Лахозва
Узда
1862
Зальвяны
Рось
Рудня
Дзярэчын
Нёман
Парэчча
Агароднікі
Ендрыхоўцы
Слонім
1871
Буды
Вострау
Дзераўцы
Асіповічы
Беласток
Ваўкавыск
Зэльва
Баранавічы
Верабеева
Свіслач
Альберцін
Ляхавічы
Любянец
Старыя Дарогі
Глуша
Бельск
Скарбец
Міхалін
Буды
Мураванка
Урэчча
Вярхуціна
Старава
Капцатэль
Быцень
Балашэвічы
Нараўка
Ружаны
Ганцавічы
Кунцаўшчына
Белая Гара
Косава
Малькавічы
Камянец
Пружаны
Літоўск
Малеч
1871
Заказелле
Целяханы
воз. Князь
Бобрык
Гузні
Рэчыца
Плоск
Лунна
Германавічы
Кобрын
Замошша
Лунінец
1886
Янаў
Драгічын
Мікашэвічы
Капцэвічы
Брэст-Літоўск
Дняпроўска-Бугскі канал
Парахонск
Шпакавічы
Пінск
Невічы
Жыткавічы
1883
Міхедавічы
Петрыкаў
Мазыр
Буг
СЯДЛЕЦКАЯ ГУБ.
Прыпяць
1873
Стыр
Убарць
Уладава
Гарынь
ВАЛЫНСКАЯ ГУ
Невель
Зах. Дзвіна
Белы
Бор
Веліж
Сураж
Царкаўшчына
Парэчча
ВІЦЕБСК
Духаўшчына
Забалоцце
Высачаны
СМАЛЕНСК
Сянно
Выдрыца
Стайкі
Высокае
Лады
Казлы
Орша
Дуброўна
Бабінічы
Сож
Баран
Галачын
Анікавічы
Маслакі
Копысь
Лагаўшчына
Забаддзе
Шклоў
Смятанка
Раманава
Мсціслаў
МАГІЛЁЎ
Аляксандраўка
Рослаўль
Буйнічы
Чавусы
Тупчык
Ветрынка
Свірэль
Клімавічы
Стары Быхаў
Прапойск
Міхалава
Хоцімск
Хомічы
Гошчыца
Рагачоў
Сырск
Астэрманск
Сураж
Жлобін
Наспа
1887
Старая Рудня
Белы Бераг
Стародуб
Гомель
Навазыбкаў
Рэчыца
Добруш
1886
Новабеліца
Падабранка
Раманаўка
Лоеў
1873
Дняпро
Хойнікі
Галоўчыцы
Сож
Сосніца
Суткава
ЧАРНІГАЎ
Дзясна
МЕЎСКАЯ ГУБ.

быў удвая большы, чым у 1900 – 1908 гг., а прамысловай прадукцыі – у 1,9 раза. Тэмпы росту валавой прадукцыі аказаліся нават вышэйшымі, чым па краіне ў цэлым. Аднак дробная вытворчасць захавалася тут у большых памерах (53,5% валавой прадукцыі ў параўнанні з 31,4% па краіне).

Увогуле ў 1900 – 1913 гг. прамысловае развіццё на Беларусі зрабіла значны крок наперад.

| | 1900 г. | 1913 г. |
|---|---|---|
| Колькасць цэнзавых прадпрыемстваў | 799 | 1282 |
| Колькасць дробных прадпрыемстваў (менш як 16 рабочых) | 100 | 129 |
| Удзельная вага ў агульнай вытворчасці, %: | | |
| прамысловай | 33 | 46,5 |
| рамеснай | 57,8 | 67,3 |

Змяняліся і якасныя характарыстыкі вытворчасці: магутнасць рухавікоў у 1908 – 1913 гг. павялічылася з 27,3 да 44,9 тыс. к.с., а энергаўзброенасць аднаго рабочага ўзрасла з 0,71 да 0,82 к.с.

За 1900 – 1913 гг. колькасць рабочых на прадпрыемствах цэнзавай прамысловасці павялічылася з 31 да 57 тыс. (на 76,6 %), аднак на дробных і рамесна-саматужных прадпрыемствах іх было ў 3 разы больш.

Да 1914 г. у асноўным захавалася галіновая структура прамысловасці, якая склалася на пачатку XX ст. Дамінуючае становішча ў прамысловасці занялі галіны, якія базіраваліся на мясцовай сыравіне: дрэваапрацоўчая, харчовая, вытворчасць будаўнічых матэрыялаў. У 1911 – 1913 гг. на Беларусі ўзнікла 77 новых дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Аб'ём дрэваапрацоўкі ўзрос у параўнанні з 1900 г. у 3,8 раза, выраб фанеры павялічыўся ў 5 разоў. Доля лесанарыхтоўчай і дрэваапрацоўчай прамысловасці Беларусі ў лесаэкспарце Расіі складала 27,4 %. Беларускія прадпрыемствы давалі 24,4 % агульнарасійскай вытворчасці дубовых шпал, 23,5 % фанеры, 44,8 % запалкавай саломкі.

Беларусі належала значная доля ў вытворчасці абліцовачных матэрыялаў. Яна складала ў 1912 г. 32,2 % ад выробленай у Расіі пячной аднаколеравай кафлі і каля паловы карнізаў для ўпрыгожвання будынкаў і пакояў, 55,7 % аконнага шкла. Гэтыя вырабы вывозіліся на рынкі Расіі.

Высокай была і доля агульнарасійскай вытворчасці спірту – каля 10 % яго гналі вінакурныя заводы Беларусі.

Хаця ў агульнарасійскай металаапрацоўчай прамысловасці беларускія прадпрыемствы давалі толькі 0,9 % прадукцыі, металаапрацоўчая галіна набыла пэўную спецыялізацыю. На долю Беларусі ў 1912 г. прыпадала 7 % выробленых у Расіі лесапільных станкоў і 7,2 % вадзяных турбін.





У гэтыя гады ў Мінску ўзнікла фабрычная вытворчасць шпалераў. У 1912 г. тут выраблялася 14,5 % усёй колькасці шпалераў у Расіі.

Развіваўся транспарт. Агульная працягласць чыгуначных пуцей складала ў 1914 г. 3,9 тыс. км.

Да 1913 г. на Беларусі выраслі буйныя фабрычна-заводскія цэнтры. Найбуйнейшым з іх быў Мінск, другім па значэнні – Віцебск, трэцім – Гродна, потым ішлі Пінск, Гомель, Магілёў, Бабруйск, Барысаў, Рэчыца.

У сельскай гаспадарцы Беларусі ў асноўным захоўвалася спецыялізацыя, якая склалася на працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў. Больш выразна праявілася жывёлагадоўчая спецыялізацыя сельскай гаспадаркі – вытворчасць малака і мяса, а таксама кармавых і тэхнічных культур – павялічыліся плошчы пад бульбай і травамі. Значна вырасла выкарыстанне сельскагаспадарчай тэхнікі (малатарні, веялкі, сеялкі, жняяркі, сенакасілкі і інш.) у асноўным у гаспадарках памешчыкаў і заможных сялян. Капіталізм пранікаў як у памешчыцкую, так і ў сялянскую гаспадарку, уцягваў іх у арбіту рыначных адносін. Малазямелле, галеча прымушалі сялян шукаць заробак у іншых месцах, перасяляцца ў гарады. Вастрыня супярэчнасцей у вёсцы падштурхоўвала іх да актыўных дзеянняў.

Паскарэнню развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы і сацыяльнаму расслаенню вёскі садзейнічала сталыпінская рэформа. Яе мэта – умацаванне сацыяльнай апоры самадзяржаўнага ладу і стварэнне ўмоў для фарміравання аграрнага капіталізму. Меркавалася, што яна будзе дасягнута шляхам ліквідацыі сялянскай абшчыны з уласцівай ёй сістэмай земляробства і землеўладання і стварэння шырокай праслойкі сялян-уласнікаў, арыентаваных на прадпрымальніцкую рыначную гаспадарку.

Пачатак аграрнай рэформе быў пакладзены ўказам ад 9 лістапада 1906 г., паводле якога кожны гаспадар, уладальнік надзельнай зямлі па абшчыннаму праву, мог у любы час патрабаваць замацавання яе ў асабістую ўласнасць. Рэформа атрымала развіццё ў шэрагу законаў буржуазнага характару, якія былі прыняты на працягу 1906 – 1912 гг.

Ажыццяўленне рэформы ішло па некалькіх напрамках: разбурэнне абшчыны, насаджэнне хутароў і адрубоў, перасяленне "лішніх" сялян у Сібір і на Далёкі Усход, Паўночны Каўказ і ў Сярэднюю Азію.

На Беларусі рэформа мела шэраг асаблівасцей. У заходніх раёнах (Гродзенская, Мінская, Віленская губерні) сялянская абшчына была ліквідавана ўжо даўно. Падворна-спадчыннае сялянскае землеўладанне, якое тут пераважала, у значнай ступені аблегчыла рэформу, спрыяла замацаванню зямлі ў асабістай уласнасці.

Узмоцненае разбурэнне абшчыны ажыццяўлялася ў Магілёўскай і Віцебскай губернях, дзе было пашырана абшчыннае землеўладанне і супярэчнасці паміж патрэбнасцямі капіталістычнага развіцця і ўста-

рэлай абшчыннай формай землеўладання існавалі больш значныя. Сяляне ў асноўным ахвотна выходзілі з абшчыны, імкнуліся вызваліцца ад поўнай залежнасці ад "міру", а малазямельныя сяляне разлічвалі прадаць свае заняпалыя ўчасткі. У сувязі з гэтым Беларусь па колькасці двароў, якія выйшлі з абшчыны і замацавалі зямлю ў асабістай уласнасці, займала першае месца сярод многіх раёнаў Расіі.

Разбурэнне абшчыны адбывалася найбольш інтэнсіўна ў 1908 – 1909 гг., прычым асабліва высокімі тэмпамі гэты працэс ішоў у Магілёўскай губерні, якая займала другое месца ў Расіі па колькасці домаўладальнікаў, што замацавалі зямлю ў асабістую ўласнасць, і ўступала толькі Саратаўскай губерні. Да 1915 г. у Магілёўскай губерні былі замацаваны ў асабістую ўласнасць 702 409 дзесяцін зямлі (54,8 % абшчыннага землеўладання), у Віцебскай – 154 824 дзесяціны (21,8 %).

Выдзяленне сялянскіх гаспадарак на хутары на Беларусі праводзілася задоўга да рэформы. Гэты працэс разгортваўся пад уплывам перасяленцаў з Прыбалтыкі. У канцы XIX – пачатку XX ст. хутарскія гаспадаркі ствараліся на купчай зямлі заможнымі сялянамі. Асноўнай прычынай росту хутарызацыі было развіццё капіталізму, разлажэнне старых абшчынна-патрыярхальных адносін на вёсцы. Хутары ўяўлялі сабой найбольш прыстасаваную да капіталістычнай вытворчасці форму гаспадаркі. У 1907 – 1916 гг. у пяці заходніх губернях было створана 128 187 хутарскіх і адрубных гаспадарак. Гэта склала каля 12 % ад усіх сялянскіх двароў. Агульная колькасць адрубоў і хутароў: у Віцебскай губерні 48 431 (25,1 %), Магілёўскай – 32 585 (13,1 %), Віленскай – 14 948 (8,1 %). Найменшы поспех хутарызацыя мела ў Мінскай і Гродзенскай губернях (адпаведна 5,8 % і 7,1 %). На гэта ўплывала малазямельнасць сялян, высокая канцэнтрацыя зямельных плошчаў у велізарных латыфундыях. У той жа час падворна-спадчыннае землеўладанне і адсутнасць абшчыны на захадзе і ў цэнтры Беларусі стваралі ўмовы для развіцця капіталізму і пазбаўлялі стымулаў, якія б заахвочвалі сялян на перасяленне на хутары і адрубы.

Замацаванне зямлі ў асабістую ўласнасць фактычна азначала вызваленне ад зямлі значнай часткі сялян, у першую чаргу збяднелых яе пластоў. Малазямельныя сяляне прадавалі замацаваную зямлю, а заможныя – куплялі яе. На працягу 1907 – 1914 гг. на пяці заходніх губернях прадалі зямлю 40 820 домаўладальнікаў, альбо 35,8 % усіх хутарскіх і адрубных двароў, што склала 16,3 % хутарской і адрубной зямлі.

Важным сродкам ажыццяўлення новай аграрнай палітыкі стаў сялянскі зямельны банк, дзейнасць якога спрыяла стварэнню хутароў і адрубоў. Ён аказваў шмат паслуг памешчыкам у продажы іх зямлі. На працягу 1906 – 1907 гг. сялянскі банк выплаціў памешчыкам Беларусі за купленую ў іх зямлю каля 28,8 млн рублёў . Урад даў гэтаму банку права продажу сялянам дваранскай зямлі, якая была





нарэзана хутарамі. Сялянскі банк узяў курс на аднаасобнага пакупніка, які набываў буйныя ўчасткі зямлі. У гэтым жа напрамку ажыццяўлялася і крэдытная палітыка.

Неабходна падкрэсліць, што ажыццяўленне рэформы суправаджалася інтэнсіўным насаджэннем рускага землеўладання. Адлюстраваннем такой палітыкі з'явілася арганізацыя "асабістага фонду для стварэння рускіх перасяленняў у Паўночна-Заходнім краі", які ўтварыўся за кошт ліквідацыі казённых зямель. Рускія перасяленцы мелі пераважнае права на атрыманне зямлі (захоўвалі сваю сілу інструкцыі і палажэнні, уведзеныя пасля паўстання 1863 – 1864 гг.).

Асаблівасцю рэформы на Беларусі было стварэнне тут земстваў. Як адзначалася вышэй, земская рэформа ў свой час у беларускіх губернях не праводзілася. П.А.Сталыпін з дапамогай земстваў імкнуўся аблегчыць правядзенне аграрнай рэформы, узняць ролю заможнага селяніна ў сістэме мясцовага кіравання і адначасова аслабіць палітычную ролю буйных землеўладальнікаў польскага паходжання або каталіцкага веравызнання. Падрыхтаваны П.А.Сталыпіным законапраект прадугледжваў выбары ў земствы па нацыянальных ("польскай" і "рускай") курыях з дастаткова невысокім маёмасным цэнзам. Каб пераадолець супраціўленне буйных землеўладальнікаў, П.А.Сталыпін схіліў Мікалая II зацвердзіць законапраект надзвычайным парадкам – распусціць на 3 дні Думу і Дзяржаўны Савет і падпісаць указ. Такім чынам, земскія ўстановы ў заходніх і паўднёва-заходніх губернях (Віцебская, Мінская, Магілёўская, а таксама Кіеўская, Валынская, Падольская) былі ўведзены 14 сакавіка 1911 г. У склад губернскага і павятовага земскіх сходаў аўтаматычна ўваходзіў кіраўнік сялянскага пазямельнага банка альбо асоба, якую ён упаўнаважваў. Дзейнасць земства ўвязвалася з палітыкай сялянскага банка і землеўпарадкавальных устаноў, што з'яўляліся галоўнымі ўрадавымі рычагамі і непасрэднымі выканаўцамі рэформы, а земскія ўстановы былі "грамадскімі" буржуазнымі органамі рэформы.

Увядзенне земстваў мела прагрэсіўнае значэнне. Земскія ўправы садзейнічалі развіццю мясцовай гаспадаркі, стваралі кааператыўныя таварыствы, сельскагаспадарчыя гурткі, дзейнасць якіх накіроўвалася на павышэнне культуры земляробства і жывёлагадоўлі. Земствы адыгралі прыкметную ролю і ў развіцці адукацыі і аховы здароўя насельніцтва. Але земствы тут не сфарміравалі мясцовага самакіравання, а вынікі іх увядзення былі менш значныя, чым у свой час у цэнтральных губернях Расіі.

У выніку рэформы заможная частка насельніцтва ў беларускай вёсцы да 1914 г. павялічылася да 12 % двароў, у той час як бедната складала не менш за 68 % двароў. У сацыяльным расслаенні вёскі знаходзіў сваё ўвасабленне працэс развіцця капіталізму, які павінен быў ператварыць сялян у сельскагаспадарчых рабочых, пралетарыяў, а заможных сялян – у сельскую буржуазію.

Галоўнымі гаспадарамі ў вёсцы, як і раней, заставаліся памешчыкі. Па пяці заходніх губернях да 1911 г. (у параўнанні з 1906 г.) іх зямельныя ўгоддзі скараціліся толькі на 3 % (складалі 8 795 965 дзесяцін зямлі), а сялянскае прыватнае землеўладанне павялічылася на 26 %.

Фарсіраваны перасяленчы рух на ўскраіны Расійскай імперыі прывёў да таго, што да 1914 г. з заходніх губерняў перасялілася каля 350 тыс. чалавек, прычым найбольшая хваля перасяленняў прыпадала на 1907 – 1909 гг. Але дапамога ўрада перасяленцам была нязначнай, і многія з іх (каля 11 %) вярнуліся канчаткова збяднелымі.

Існуе думка, што ў 1897 – 1914 гг. ад беззямелля і беспрацоўя, якія панавалі ў гаспадарцы Беларусі, у ЗША і Канаду адышла хваля масавай беларускай эміграцыі, эканамічная па характару, якая ацэньваецца ў 300 – 500 тыс. чалавек.

Сталыпінская рэформа насіла кампрамісны характар. Яна не была выканана ў поўнай меры і не зняла аграрнае пытанне, не змагла прадухіліць абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей. Тым не менш рэформа аказала моцны ўплыў на развіццё капіталістычных адносін.

# ГЛАВА 2

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ

## § 1. Паўстанне 1863 – 1864 гг. у Польшчы, Літве і на Беларусі

Уздым нацыянальна-вызваленчага руху ў Еўропе на рубяжы 50 – 60-х гадоў не мінуў Каралеўства Польскага, а таксама закрануў і тэрыторыю Беларусі. У шматнацыянальных заходніх губернях Расійскай імперыі амаль што самым вострым было польскае пытанне. З часоў падзелу Рэчы Паспалітай польскі патрыятычны рух не даваў спакою расійскім уладам, якія то бізуном, то пернікам спрабавалі зняць напал супраціўлення.

Пасля даволі жорсткай антыпольскай палітыкі Мікалая І, выкліканай паўстаннем 1830 – 1831 гг., урад Аляксандра ІІ палічыў патрэбным зрабіць некаторыя ўступкі палякам. Было адменена ваеннае становішча, частка сасланых паўстанцаў вернута з Сібіры. Дазволена заснаваць у Варшаве "Земляробчае таварыства" для вывучэння сялянскага пытання. Аднак прынятыя меры не аслабілі, а, наадварот, узмацнілі антырускія настроі сярод грамадства. У 1858 г. у Вільні пры падтрымцы генерал-губернатара В.І.Назімава быў адчынены Музей старажытнасцей, які адразу ж стаў духоўным асяродкам ваяўнічага паланафільства. Пачала адкрыта прапагандавацца барацьба супраць рускага ўрада, распаўсюджвацца рэвалюцыйная літаратура. У 1860 г. у Варшаве, іншых гарадах Польшчы, а таксама ў Літве і заходніх губернях Беларусі і Украіны пракацілася хваля патрыятычных дэманстрацый.

Патрыятычны лагер падзяляўся на дэмакратаў, якія выступалі за паўстанне, і лібералаў, прыхільнікаў мірных сродкаў барацьбы. Тыя, хто быў за паўстанне, атрымалі назву "чырвоныя". Фактычна яны ўяўлялі сабой шырокі і разнастайны дэмакратычны блок, у які ўваходзілі рэвалюцыянізаваная дробная і беззямельная шляхта, афіцэры, дробная гарадская буржуазія, інтэлігенцыя, студэнцтва. Праціўнікаў паўстання называлі "белымі". Гэта былі пераважна памешчыкі з "Земляробчага таварыства", сярэдняя буржуазія, частка інтэлігенцыі.

Узрастанне нацыянальных настрояў у канцы 50-х гадоў адбывалася ва ўмовах складвання рэвалюцыйнай сітуацыі ў Расійскай імперыі напярэдадні адмены прыгоннага права. Таму сялянскае пытанне заняло не апошняе месца ў праграмах польскіх патрыётаў, самыя радыкальныя з якіх знаходзіліся пад уплывам ідэй Герцэна, Дабралюбава, Чарнышэўскага. Яшчэ з 1858 г. у Пецярбургу існаваў гуртом палякаў – слухачоў вайсковых акадэмій і афіцэраў. Ім кіравалі сябры Т.Шаўчэнкі і М.Чарнышэўскага Зыгмунт Серакоўскі і Яраслаў Дамброўскі. Яны былі прыхільнікамі саюзу паміж рэвалюцыянерамі Польшчы і Расіі, спалучэння нацыянальнага паўстання з сацыяльным пераваротам, з вырашэннем аграрнага пытання на карысць сялян.

Аднак сярод "чырвоных" не было адзінства наконт метадаў дасягнення сваіх мэт. Яны падзяляліся на правых – памяркоўных і левых – прадстаўнікоў рэвалюцыйна-дэмакратычных колаў. Правыя рабілі стаўку на шляхту і асцерагаліся шырокага сялянскага руху. Яны прызнавалі роўнасць нацыянальных правоў беларусаў, літоўцаў, украінцаў з палякамі, але выступалі за адзіную незалежную Польшчу ў межах 1772 г. Правыя прадугледжвалі надзяленне сялян зямлёй за кошт яе частковай канфіскацыі ў памешчыкаў пры абавязковай грашовай кампенсацыі. Левыя ж разлічвалі на сялянскую рэвалюцыю. Поспех паўстання, на іх думку, быў гарантаваны толькі ў саюзе і адзінстве дзеянняў з рускімі рэвалюцыянерамі. Яны прызнавалі права на нацыянальнае самавызначэнне літоўцаў, украінцаў і беларусаў. Аграрнае пытанне планавалася вырашыць шляхам ліквідацыі памешчыцкага землеўладання.

"Белыя" былі адназначна супраць паўстання, не жадалі ніякіх сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, катэгарычна адмаўлялі права



*Кастусь Каліноўскі*

на нацыянальна-палітычнае самавызначэнне літоўцаў, украінцаў і беларусаў. Яны хацелі дабіцца аднаўлення Польшчы ў межах 1772 г., выкарыстоўваючы націск заходнееўрапейскіх краін на расійскія ўлады.

Падобныя палітычныя плыні сфарміраваліся і існавалі не толькі ў Польшчы, але і на тэрыторыі Беларусі і Літвы.

Штуршком для непасрэднай арганізацыйнай падрыхтоўкі паўстання стаў расстрэл царскімі войскамі патрыятычнай дэманстрацыі ў Варшаве 8 красавіка 1861 г. Увосень 1861 г. у Варшаве з разнастайных рэвалюцыйных груповак быў арганізаваны паўстанцкі гарадскі Камітэт руху, перайменаваны ў 1862 г. у Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК). Камітэт здолеў наладзіць шырока разгалінаваную агульнапольскую арганізацыю. Рэвалюцыйныя сілы сталіцы ўзначаліў прадстаўнік левага крыла "чырвоных" Яраслаў Дамброўскі. Ён падрыхтоўваў паўстанне ў саюзе з рэвалюцыйна настроенымі афіцэрамі рускіх гарнізонаў у Польшчы. Рускія афіцэры мелі ў войску сваю згуртаваную тайную арганізацыю. Левыя "чырвоныя" вялі перамовы з Герцэнам у Лондане і з кіраўніцтвам "Зямлі і волі" ў Пецярбургу і дамовіліся аб узаемнай падтрымцы.

З мэтай падрыхтоўкі паўстання на Беларусі і ў Літве ўлетку 1862 г. у Вільні быў створаны Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК), які фармальна падначальваўся ЦНК. У яго ўваходзілі як "чырвоныя", так і "белыя". Сярод "чырвоных" былі капітан генеральнага штаба рускай арміі Л.Звяждоўскі, інжынер-паручнік Я.Козел, доктар Б.Длускі, юрысты Э.Вярыга і К.Каліноўскі.

Левых на Беларусі ўзначальваў Канстанцін Каліноўскі (1838 – 1864). Ён паходзіў з сям'і збяднелага шляхціца Гродзенскай губерні, скончыў у званні кандыдата Пецярбургскі універсітэт, актыўна ўдзельнічаў у тайным гуртку польскага рэвалюцыянера З.Серакоўскага. Вярнуўшыся ў 1861 г. на радзіму, К.Каліноўскі разам з В.Урублеўскім стварыў у Гродне нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю з разначыннай інтэлігенцыі, якая мела сувязі з арганізацыямі Вільні, Масквы, Пецярбурга. У 1862 – 1863 гг. ён разам з В.Урублеўскім і Ф.Ражанскім выдаваў падпольную рэвалюцыйную газету на беларускай мове "Мужыцкая праўда" (друкавалася лацінкай). Газета была прасякнута рэвалюцыйна-дэмакратычнымі ідэямі, яна выкрывала прыгонніцкі характар рэформы 1861 г., заклікала беларускі народ да ўзброенай барацьбы супраць самадзяржаўя і паноў, ідэалізавала мінулае беларускага народа, паказвала агульнае ў жыцці і марах беларускага і польскага сялянства, заклікала беларускіх сялян падтрымаць польскі нацыянальна-вызваленчы рух. "Мужыцкая праўда" брала пад абарону уніяцкую царкву.





Пачынаючы выданне "Мужыцкай праўды", К.Каліноўскі і яго сябры, выхаваныя на ідэях Герцэна, Дабралюбава і Чарнышэўскага, мелі на мэце перш за ўсё прыцягненне да паўстання сялян, якіх яны лічылі галоўнай рэвалюцыйнай сілай. А каб сяляне лепш зразумелі іх, і была выкарыстана беларуская мова. Аднак нельга перабольшваць уплыў гэтай газеты. За год выйшла ўсяго 7 нумароў (апошні ўжо ў час паўстання), тыраж якіх быў недастатковы, каб ахапіць значную колькасць беларускага сялянства. Пераважнае значэнне "Мужыцкая праўда" мае ў гісторыі нацыянальнай культуры і мовы як газета, надрукаваная на беларускай мове і разлічаная на беларускае насельніцтва.

Падрыхтоўка да паўстання яшчэ не была завершана, калі ў канцы 1862 г. стала вядома аб намеры царскага ўрада правесці ў Польшчы масавы рэкруцкі набор. Набору падлягалі якраз тыя групы насельніцтва, з якіх вербаваліся члены будучых паўстанцкіх атрадаў. Гэта паведамленне прымусіла ЦНК, ваенным кіраўніком якога пасля арышту Дамброўскага стаў З. Падлеўскі, прызначыць паўстанне на студзень 1863 г.

22 студзеня 1863 г. ЦНК абвясціў сябе Часовым нацыянальным урадам і заклікаў паўстанцкія атрады да нападзення на царскія войскі ў правінцыяльных гарнізонах. У маніфесце і двух аграрных дэкрэтах Часовага нацыянальнага ўрада была выкладзена праграма паўстання: Польшча абвяшчалася незалежнай краінай з роўнымі правамі ўсіх яе грамадзян перад законам; дазвалялася уніяцкае веравызнанне, планавалася перадаць сялянам іх зямельныя надзелы ў поўнае ўладанне, а памешчыкам выплаціць кампенсацыю з дзяржаўнай казны; пасля перамогі было паабяцана надзяліць зямлёй беззямельных удзельнікаў паўстання. Спецыяльны зварот да насельніцтва Беларусі і Літвы заклікаў падтрымаць паўстанне ў Польшчы, але ў ім нічога не гаварылася аб нацыянальна-палітычным самавызначэнні гэтых тэрыторый.

Пачатак паўстання быў нечаканым для царскага камандавання, якое сканцэнтравала войскі ў некалькіх буйных польскіх гарадах. Нягледзячы на гэтыя спрыяльныя ўмовы, рэвалюцыянеры не скарысталі час для папаўнення і ўзбраення сваіх атрадаў. Памылковая абарончая тактыка, недахоп зброі і вайсковай вывучкі, рознагалоссі паміж кіраўніцтвам не дазволілі паўстанцам авалодаць колькі-небудзь значнымі гарадамі і перамагчы праціўніка. Паўстан-

не ператварылася ў незлічоную колькасць партызанскіх баёў і сутычак у сельскай мясцовасці.

ЛПК не быў папярэджаны аб пачатку паўстання, але вырашыў падтрымаць польскіх патрыётаў. Перайменаваны ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з К.Каліноўскім, ён 1 лютага 1863 г. звярнуўся да насельніцтва Беларусі і Літвы з маніфестам, у якім заклікаў падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Каб не парушаць адзінства дзеянняў, ЛПК вымушаны быў адобрыць у сваім маніфесце і праграму паўстання, прынятую ў Варшаве.

У студзені – лютым 1863 г. на Беларусі з'явіліся першыя паўстанцкія атрады, якія прыйшлі з Польшчы. Самы буйны з іх узначальваў Р.Рагінскі. Яго атрад здолеў дайсці да Слуцкага павета, дзе быў разбіты. Мясцовыя атрады пачалі дзейнічаць у сакавіку – красавіку і былі падначалены "беламу" камітэту ў Вільні. Яны складаліся з дробнай шляхты, афіцэраў, рамеснікаў, студэнтаў, гімназістаў старэйшых класаў, сялян.

Адзінага плана баявых дзеянняў у паўстанцаў не было. Асобныя спробы ўзаемадзеяння паўстанцкіх атрадаў заканчваліся беспаспяхова. Многія з атрадаў былі разбіты ў самым пачатку фарміравання. Паўстанцам не ўдалося авалодаць якімі-небудзь значнымі стратэгічнымі пунктамі. Толькі атрад Л.Звяждоўскага пры падтрымцы студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута ў красавіку 1863 г. на кароткі тэрмін здолеў захапіць павятовы г.Горкі (Магілёўская губ.). Найбольш актыўна паўстанцы дзейнічалі ў Гродзенскай губерні, дзе ваяводскім камісарам быў К.Каліноўскі.

Самыя радыкальныя з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў: В.Урублеўскі і Ф.Ражанскі ў Гродзенскай губерні, М.Чарняк у Віленскай, З.Серакоўскі і А.Мацкявічус у Ковенскай, А.Трусаў у Мінскай, Л.Звяждоўскі ў Магілёўскай – імкнуліся прыцягнуць да ўдзелу ў паўстанні як мага больш сялян. Левыя "чырвоныя" ў ЛПК, асабліва К.Каліноўскі, планавалі пашырыць паўстанне на прыбалтыйскія і рускія губерні. Для гэтага прадугледжвалася стварэнне атрадаў у Латвіі і Эстоніі (З.Серакоўскім), у Віцебскай губерні (О.Грабніцкім і Б.Кульчынскім). З мэтай арганізацыі паўстання ў Смаленскай і Маскоўскай губернях з Пецярбурга на дапамогу Л.Звяждоўскаму прыехалі афіцэры І.Будзіловіч і К.Жаброўскі.

Але планы рэвалюцыянераў не ажыццявіліся. Сялян сярод паўстанцаў было няшмат, асабліва ва ўсходніх губернях Беларусі: у Віцебскай – 7%, Магілёўскай – 13, Мінскай –20%. Толькі ў Віленскай і Гродзенскай губернях сяляне складалі больш за чвэрць паўстанцаў – адпаведна 27% і 33%. Для сялян Беларусі былі незразумелыя лозунгі Варшаўскага ЦНК аб адраджэнні Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Не магла іх задаволіць і вельмі абмежаваная аграрная праграма паўстанцаў. Апроч таго, на сялян значны ўплыў аказалі шырокая антыпаўстанцкая агітацыя з боку царскіх улад і паслабленне для беларускіх губерняў умоў рэформы 1861 г.





Значнай перашкодай пашырэнню паўстання з'явілася далучэнне да паўстанцаў "белых". Больш таго, паступова яны ўзялі кіраўніцтва паўстаннем у свае рукі. Спадзеючыся на англа-французскае выступленне супраць Расіі, "белыя" жадалі толькі пратрымацца некаторы час і ўсяляк перашкаджалі перарастанню баявых дзеянняў асобных паўстанцкіх атрадаў у народную сялянскую вайну. У сакавіку 1863 г. па загаду Часовага нацыянальнага ўрада ў Варшаве Віленскі часовы ўрад Літвы і Беларусі быў распушчаны і створаны Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы, у які ўвайшлі "белыя". Аддзел узначаліў ковенскі памешчык Якуб Гейштар. К.Каліноўскі спрабаваў супрацоўнічаць, але, каб не ўносіць раскол у рады паўстанцаў, вымушаны быў падпарадкавацца. Ён заняў пасаду ваяводскага камісара на Гродзеншчыне.

Спадзяванні "белых" на падтрымку Англіі і Францыі не спраўдзіліся. Гэтыя дзяржавы не жадалі, ды і не мелі неабходных сіл, каб ваяваць з Расіяй з-за Польшчы, а іх дыпламатычныя захады царскі ўрад рашуча адхіліў. Ужо ў маі 1863 г. паўстанне ў Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях было задушана, а летам рускае камандаванне рушыла буйныя вайсковыя сілы на Літву і Польшчу. Атрады паўстанцаў пачалі адыходзіць на поўдзень, да аўстрыйскай граніцы.

Падавіць паўстанне царскія ўлады змаглі не толькі дзякуючы вайсковай сіле і жорсткім рэпрэсіям у адносінах да паўстанцаў. У маі 1863 г. віленскім генерал-губернатарам быў назначаны М.М.Мураўёў. Ён атрымаў назву "вешальнік". Гэта быў энергічны дзяржаўны дзеяч, які з веданнем справы рабіў тое, да чаго быў закліканы. У Вільню М.М.Мураўёў прыехаў з планам дзеянняў і з неабмежаванымі паўнамоцтвамі.

Значную ўвагу ён звярнуў на цывільнае кіраванне, маючы на мэце знайсці ў краі тыя элементы, на якія царскія ўлады маглі б абаперціся. Перш за ўсё гэта было сялянства. М.М.Мураўёў дабіўся, каб у краі не толькі выконваліся нормы "Палажэнняў" 1861 г., але і значнага іх паслаблення: было ліквідавана часоваабавязанае становішча сялян, уведзены абавязковы выкуп сялянскіх надзелаў, сялянам вернуты адрэзкі, на 20 % зменшаны выкупныя плацяжы, беззямельныя сяляне надзяляліся трыма дзесяцінамі зямлі. Больш таго, сялянам перадавалася зямля ўдзельнікаў паўстання. М.М.Мураўёў абавязаў сельскія таварыствы наглядаць за мясцовай шляхтай, арганізаваў спецыяльныя сялянскія каравулы, якія павінны былі весці барацьбу з паўстанцамі. Ажыццяўлялася шырокая антыпаўстанцкая і антыпольская агітацыя. Усе гэтыя меры сціскалі раён дзеянняў паўстанцаў і адхілялі ад іх сялян.

М.М.Мураўёў таксама зрабіў захады для замены польскіх чыноўнікаў рускімі (праваслаўнымі), зачыняў каталіцкія кляштары і касцёлы, спрабаваў узмацніць значэнне праваслаўнага духавенства і падняць яго матэрыяльны дабрабыт. У навучальных і грамадскіх установах была ўведзена руская мова як абавязковая, забаронена

выкладанне польскай мовы ў сельскіх школах, зачыняліся польскія бібліятэкі.

Прадчуваючы хуткае паражэнне паўстання, "белыя" пачалі пакідаць свае пасады ў кіраўніцтве. Да ўлады зноў прыйшлі "чырвоныя". У чэрвені ў Вільню вярнуўся К.Каліноўскі, а ў ліпені ён стаў старшынёй Віленскага аддзела. Да канца лета ў руках К.Каліноўскага было сканцэнтравана ўсё кіраўніцтва паўстанцкімі атрадамі на тэрыторыі Літвы і Беларусі. Сваіх прыхільнікаў ён назначаў на галоўныя пасады, паспрабаваў аднавіць сувязі з рэвалюцыйнай арганізацыяй "Зямля і воля". Аднак выратаваць паўстанне было ўжо немагчыма. Мясцовыя памешчыкі канчаткова адышлі ад паўстанцаў.

28 жніўня 1863 г. Польскі нацыянальны ўрад загадаў спыніць ваенныя дзеянні. У верасні 1863 г. узброеная барацьба ў заходніх губернях Беларусі і ў Літве была спынена, а летам 1864 г. ліквідавана апошняя рэвалюцыйная арганізацыя ў Навагрудскім павеце. У Польшчы некаторыя паўстанцкія атрады дзейнічалі яшчэ да восені 1864 г., але таксама былі разбіты. К.Каліноўскі па даносу здрадніка арыштаваны ў студзені 1864 г. Ваенна-палявы суд прыгаварыў яго да расстрэлу, аднак М.М.Мураўёў замяніў расстрэл павешаннем. 22 сакавіка таго ж года К.Каліноўскі быў павешаны ў Вільні. Увогуле за ўдзел у паўстанні 128 чалавек былі пакараны смерцю, 853 сасланы на катаргу, каля 12,5 тыс. выселены, у тым ліку 504 – у Сібір.

За барацьбой палякаў з глыбокім спачуваннем сачылі рэвалюцыянеры ўсіх краін. Рэвалюцыйныя дэмакраты ў Расіі, прадстаўнікі рускай палітычнай эміграцыі лічылі справу Польшчы сваёй кроўнай справай. У абарону паўстанцаў выступіў "Колокол" А.Герцэна. М.Бакунін апублікаваў адозву "Да рускага, польскага і да ўсіх славянскіх народаў", дзе заклікаў падтрымаць польскіх патрыётаў. Нямала рускіх змагалася ў радах паўстанцаў. У заходнееўрапейскай прэсе распаўсюджвалася інфармацыя аб ходзе паўстання, сабіралася і накіроўвалася ў Польшчу зброя, з эмігрантаў вербаваліся добраахвотнікі. З дапамогай цэнтра "Маладая Еўропа" і асабіста Дж. Гарыбальдзі рыхтаваліся палітычныя і ваенныя кіраўнікі паўстанцаў. Пры непасрэдным удзеле К.Маркса і Ф.Энгельса, якія лічылі польскае пытанне важнай састаўной часткай еўрапейскай рэвалюцыі, арганізоўваліся акцыі салідарнасці заходнееўрапейскіх рабочых з польскім народам.

Паўстанне 1863 – 1864 гг. па сваіх мэтах было нацыянальнай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй, накіраванай супраць самадзяржаўя, саслоўнай і нацыянальнай няроўнасці. Пад націскам паўстання царскія ўлады былі вымушаны пайсці на значнае паслабленне ўмоў сялянскай рэформы 1861 г. у беларускіх і літоўскіх губернях. Сяляне Беларусі апынуліся ў больш выгадным эканамічным і прававым становішчы, чым сяляне іншых губерняў Расіі. Паўстанне дало штуршок развіццю беларускага нацыянальнага руху.





Разам з тым паўстанне мела і адмоўныя вынікі. Перш за ўсё гэта тычыцца буржуазных рэформ 60 – 70-х гадоў, якія на Беларусі ці не праводзіліся ўвогуле (як земская), ці ажыццяўляліся са значным спазненнем і істотнымі адступленнямі ад агульнарасійскіх прынцыпаў (як судовая і гарадская). Да канца 60-х гадоў у краі захоўвалася ваеннае становішча.

## § 2. Сялянскі і рабочы рух. Народніцкія і сацыял-дэмакратычныя арганізацыі на Беларусі

Пасля падаўлення паўстання 1863 – 1864 гг. на Беларусі адбыўся рэзкі спад сялянскіх выступленняў, і на працягу наступных 40 гадоў сялянскі рух ніколі не дасягаў таго ўзроўню, які назіраўся на рубяжы 50 – 60-х гадоў, у час падрыхтоўкі і правядзення рэформы 1861 г. У 1864 – 1880 гг. рэгістравалася ў сярэднім толькі 8 – 10 сялянскіх хваляванняў штогод. У 80-я гады адбыўся адносны ўздым сялянскага руху (амаль падвоіўся ў параўнанні з папярэднім дзесяцігоддзем), але ў 90-я гады наступіў чарговы спад.

Галоўнымі прычынамі сялянскіх выступленняў былі перажыткі прыгонніцтва, якія захаваліся пасля рэформы 1861 г.: буйное памешчыцкае землеўладанне і малазямелле сялян, сервітуты, што належалі памешчыкам, але без якіх сялянская гаспадарка не магла існаваць, прававая няроўнасць сялян у параўнанні з іншымі саслоўямі. Усе гэтыя асаблівасці накладвалі свой адбітак на формы праяўлення сялянскага руху.

Большасць сялянскіх выступленняў была звязана з пазямельнымі адносінамі паміж памешчыкамі і сялянамі. Перш за ўсё гэта захопы адрэзкаў, сервітутаў, спрэчных зямель, супраціўленне размежаванню зямель, патравы, парубкі лесу і г. д. У 80 – 90-я гады XIX ст. такія формы сялянскіх выступленняў складалі больш за 60 % іх агульнай колькасці. 27 % выступленняў сялян былі звязаны з супраціўленнем уладам пры выкананні судовых рашэнняў, пастаноў і распараджэнняў адміністрацыйных устаноў. Сяляне таксама змагаліся супраць павышэння арэнднай платы за зямлю, адмаўляліся плаціць падаткі і нядоімкі ў дзяржаўную казну. Своеасаблівай формай іх барацьбы з'явіўся масавы рух за перасяленне на вольныя землі ў Сібір і Паўднёвую Расію, які ў 80 – 90-х гадах ахапіў Магілёўскую і Віцебскую губерні, некаторыя паветы Мінскай губерні. Да пачатку XX ст. класавыя супярэчнасці ўнутры сялянства яшчэ не атрымалі значнага развіцця і складалі ўсяго 1,1 % выступленняў. Увогуле, сялянскі рух у 60 – 90-я гады меў стыхійны характар. Хваляванні сялян былі паасобныя і неарганізаваныя.

Пасля рэформы 1861 г. на Беларусі значна паскорыўся працэс фарміравання класа наёмных рабочых. Асаблівасці сацыяльна-

эканамічнага развіцця беларускіх губерняў: адсутнасць буйных і перавага дробных рамесніцкіх прадпрыемстваў з невялікай колькасцю працуючых на іх рабочых, сялянскае малазямелле і мноства яўрэйскай беднаты ў горадзе – стваралі лішак рабочай сілы і пашыралі магчымасці эксплуатацыі пралетарыяту. Заработная плата беларускіх рабочых у параўнанні з агульнарасійскім паказчыкам у канцы XIX – пачатку XX ст. была амаль на 1/3 ніжэй. У першыя два дзесяцігоддзі пасля адмены прыгонніцтва ўмовы працы рабочых ніяк не рэгламентаваліся, адсутнічала ўсялякая сацыяльная забяспечанасць.

Прыгнёт з боку капіталістаў выклікаў супраціўленне рабочых. Спачатку гэта былі стыхійныя хваляванні ў форме групавых уцёкаў з месца працы, калектыўных скаргаў і г. д. Нярэдка хваляванні суправаджаліся разгромам абсталявання, заводскіх будынкаў, лавак, кантор, а то і забойствам упраўляючых. У 70-я гады асноўнай формай пратэсту рабочых стала стачка, а галоўным патрабаваннем – паляпшэнне ўмоў жыцця і працы рабочых, г. зн. павышэнне заработнай платы, скарачэнне працоўнага дня, змяншэнне штрафаў. У пачатку 80-х гадоў на рабочы рух Беларусі значны ўплыў аказалі масавыя забастоўкі пралетарыяту Польшчы.

Самым буйным атрадам пралетарыяту на Беларусі былі чыгуначнікі, а іх выступленні адрозніваліся большай арганізаванасцю і масавасцю. Такое выступленне адбылося ў 1864 г. на будаўніцтве чыгуначнай дарогі Вільня–Баранавічы, у 1876 г. баставалі рабочыя слясарнакавальскіх майстэрняў Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, у 1886 і 1894 гг. – будаўнікі Лібава-Роменскай чыгункі ў Гомелі. Тым не менш выступленняў рабочых на Беларусі было няшмат. У 70-я гады іх зарэгістравана 7, у 80-я – 10. Толькі ў 90-х гадах пачаўся ўздым стачачнай барацьбы (адбылося 59 выступленняў, прычым 53 з іх у другой палове). Паступова рабочы рух набыў арганізаванасць і вылучыўся ў самастойную плынь.

Пад націскам рабочага руху буйных прамысловых цэнтраў Расіі ў 80 – 90-я гады царскі ўрад быў вымушаны прыняць шэраг заканадаўчых актаў, якія абмяжоўвалі эксплуатацыю фабрычна-заводскіх рабочых. У 1882 г. забаронена праца дзяцей да 12 гадоў, скарочаны працоўны дзень для падлеткаў (12 – 15 гадоў), ім не дазвалялася працаваць у начны час і святочныя дні. Законам 1885 г. на тэкстыльных прадпрыемствах забаранялася начная праца жанчын і падлеткаў да 17 гадоў. У 1886 г. быў абмежаваны памер штрафаў і ўводзіліся разліковыя кніжкі, дзе вызначаліся ўмовы найму рабочых. У 1897 г. працягласць працоўнага дня абмяжоўвалася 11,5 гадзіны. З 1882 г. для назірання за выкананнем працоўнага заканадаўства павінны былі стварацца фабрычныя інспекцыі. Аднак прынятыя законы асабліва не паўплывалі на становішча рабочых Беларусі. Кантроль за ажыццяўленнем законаў аказаўся вельмі слабым, у дадатак яны не распаўсюджваліся на дробную і рамесніцкую вытворчасць, а буйных прадпрыемстваў на Беларусі было мала.





Арганізаваны рэвалюцыйны рух на Беларусі пачаў адраджацца толькі ў сярэдзіне 70-х гадоў. У той час пануючым накірункам апазіцыйнай грамадскай думкі ў Расіі было народніцтва. Ідэалагічна яно грунтавалася на тэорыі сялянскага сацыялізму, заснавальнікамі якой былі А.Герцэн і М.Чарнышэўскі. Народнікі верылі ў асаблівы шлях развіцця Расіі. Ім не падабаўся капіталізм, які суправаджаўся пралетарызацыяй дробных уласнікаў. Народнікі спадзяваліся, што Расія мае магчымасць пазбегнуць капіталістычнай стадыі і, абапіраючыся на сялянскую абшчыну, перайсці адразу да сацыялізму. Сваіх прыхільнікаў народніцтва знайшло перш за ўсё сярод разначыннай інтэлігенцыі.

З самага пачатку ў народніцтве існавалі дзве плыні – рэвалюцыйная і рэфарматарская. Прадстаўнікі першай асноўным сродкам дасягнення сваіх мэт лічылі сялянскую рэвалюцыю і рабілі ўсё магчымае, каб падштурхнуць сялян да рашучай барацьбы супраць самадзяржаўя і перажыткаў прыгонніцтва. Памяркоўныя народнікі хацелі перайсці да сацыялізму шляхам паступовага рэфармавання існуючага ладу Расіі. У 70-я – пачатку 80-х гадоў найбольш папулярным было рэвалюцыйнае народніцтва, якое выпрацавала тры праграмы дзейнняў: прапагандысцкую (П.Л.Лаўроў), бунтарскую (М.А.Бакунін) і змоўніцкую (П.М.Ткачоў).

Народніцкі рух на Беларусі быў ідэйна і арганізацыйна звязаны з агульнарасійскім. Сярод вядомых расійскіх народнікаў 70-х гадоў былі ўраджэнцы Беларусі М.Судзілоўскі, С.Кавалік, І.Грынявіцкі, Р.Ісаеў, К.Брэшка-Брэшкоўская, А.Бонч-Асмалоўскі. У другой палове 70 – пачатку 80-х гадоў у Мінску, Магілёве, Гродне, Віцебску, Пінску, Оршы, Слуцку і іншых гарадах Беларусі дзейнічалі народніцкія гурткі. Іх наведвалі ў першую чаргу навучэнцы, якія пад выглядам самаадукацыі вывучалі забароненую літаратуру. Меліся спробы весці агітацыю сярод сялян. Магчымасці гэтых гурткоў былі вельмі абмежаваныя. Удзельнікі іх не бачылі асаблівасцей гістарычнага, сацыяльна-эканамічнага і нацыянальнага развіцця краю, іх дзейнасць цалкам залежала ад тых працэсаў, што адбываліся ў народніцкіх арганізацыях цэнтра Расіі.

Калі летам 1879 г. пецярбургская арганізацыя “Зямля і воля” раскалолася на “Народную волю” і “Чорны перадзел”, большасць народнікаў на Беларусі падтрымала апошнюю, якая кіравалася старой прапагандысцкай тактыкай. У 1879 і 1880 гг. на Беларусь двойчы прыязджаў лідэр “Чорнага перадзелу” Г.В.Пляханаў. У Мінску была арганізавана цэнтральная падпольная друкарня “Чорнага перадзелу”, якая ў пачатку 1881 г. выпусціла тры нумары цэнтральнага органа арганізацыі – газеты “Черный передел”, столькі ж нумароў газеты для рабочых “Зерно” і дзве пракламацыі. Між тым “Чорны перадзел” праіснаваў нядоўга. У 1882 г. арганізацыя распалася, яе кіраўнікі, у тым ліку і Пляханаў, выехалі за мяжу. Былыя прыхільнікі “Чорнага перадзелу”, што засталіся ў Расіі, пачалі пераходзіць на пазіцыі “Народнай волі”.

У сваёй дзейнасці нарадавольцы рабілі стаўку на індывідуальны палітычны тэрор супраць прадстаўнікоў улады. 1 сакавіка 1881 г., пасля некалькіх няўдалых спроб, яны забілі Аляксандра II. Бомбу ў цара кінуў ураджэнец Мінскай губерні І.Грынявіцкі. Кіраўнікі "Народнай волі" спадзяваліся, што забойства цара з'явіцца сігналам да народнага паўстання ў Расіі. Аднак ніякага паўстання не адбылося, а рэпрэсіі супраць рэвалюцыянераў у хуткім часе прывялі да знішчэння цэнтральных і многіх правінцыяльных арганізацый "Народнай волі". Рэвалюцыйнае народніцтва апынулася ў глыбокім ідэйна-арганізацыйным крызісе.

Народнікі на Беларусі спрабавалі аб'яднацца ў адзіную арганізацыю. У пачатку 1882 г. у Вільні была створана Паўночна-заходняя арганізацыя "Народнай волі". Праўда, праіснавала яна нядоўга. Ужо ў канцы года паліцыі ўдалося раскрыць і арыштаваць членаў цэнтральнай групы. На Беларусі засталіся дзейнічаць толькі некаторыя мясцовыя гурткі: у Гродне, Мінску, Віцебску, Пінску, Магілёве, Горках.

У першай палове 80-х гадоў у Пецярбургу існавалі гурткі студэнтаў – выхадцаў з Беларусі нарадавольніцкага і ліберальна-асветніцкага накірункаў. Падпольна яны выдалі некалькі публіцыстычных твораў, напісаных на рускай мове: адозвы "Да беларускай моладзі" і "Да беларускай інтэлігенцыі", "Лісты пра Беларусь. Ліст першы", "Пасланне да землякоў-беларусаў". У 1884 г. члены групы "Гоман" (А.Марчанка, Н.Ратнер і інш.) выступілі з ініцыятывай аб'яднання ўсіх народніцкіх гурткоў Беларусі. Імі было выдадзена два нумары гектаграфічнага часопіса "Гоман" (на рускай мове). Гоманаўцы падзялялі праграму "Народнай волі", з'яўляліся прыхільнікамі аб'яднання ўсіх рэвалюцыйных сіл Расіі для барацьбы з самадзяржаўем. Іх ідэалам была вольная ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту Расія, пабудаваная на аснове федэрацыі самастойных абласцей.

Гоманаўцы аб'явілі сябе "Беларускай сацыяльна-рэвалюцыйнай групай". Яны мелі сувязі з народніцкімі гурткамі Мінска, Віцебска, Магілёва, але аб'яднаць усіх рэвалюцыйных народнікаў Беларусі ў той час не былі здольныя. Як і іншыя арганізацыі рэвалюцыйнага народніцтва Расіі, беларускія народнікі перажывалі значны крызіс. У другой палове 80-х – 90-я гады пануючым накірункам у народніцтве з'яўляўся ліберальны. Ліберальныя народнікі адмовіліся ад рэвалюцыйных метадаў барацьбы і галоўную ўвагу звярнулі на рэфармаванне зямельнага заканадаўства з мэтай павялічыць сялянскае землеўладанне і захаваць абшчыну ў вёсцы. Гэтым яны спадзяваліся вырашыць аграрную праблему. Разам з тым беларускія ліберальныя народнікі цікавіліся гісторыяй і культурай свайго краю, спрыялі развіццю нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

У рэвалюцыйным руху Расіі ідэалогія народніцтва паступова саступала месца марксізму. Першае знаёмства з марксісцкай літаратурай адбылося яшчэ ў гуртках народнікаў. Узнікненне самастойнага сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі звязана з дзейнасцю польскай партыі "Пралетарыят" (утворана ў 1882 г.) і пляханаўскай групы "Вызваленне працы" (утворана ў 1883 г. у Швейцарыі), у якой актыўна ўдзельнічалі беларускія народнікі А.Трусаў і С.Ляўкоў, паэт-дэмакрат А.Гурыновіч. У другой палове 80 – пачатку 90-х гадоў у некаторых гарадах Беларусі былі арганізаваны гурткі, у якіх вывучалі працы К.Маркса, Ф.Энгельса і іх паслядоўнікаў. У Мінску такімі гурткамі кіравалі Э.Абрамовіч, І.Гурвіч, С.Трусевіч, Гомелі – А.Поляк і І.Захарын, Гродне – М.Дзем'яновіч і С.Галюн, Віцебску – А.Амстэрдам, М.Заслаўскі, П.Дубінская і Х.Усышкін.





Першыя марксісцкія гурткі на Беларусі былі нешматлікія і амаль не звязаныя з масавым рабочым рухам. Пералом у дзейнасці сацыял-дэмакратычных арганізацый Беларусі наступіў пасля 1895 г., калі ў Пецярбургу пад кіраўніцтвам У.І.Леніна быў створаны "Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа". "Саюз" пачаў арганізацыйную работу па аб'яднанні ўсіх сацыял-дэмакратычных гурткоў Расіі ў адзіную партыю. У той час сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ўжо існавалі ў Мінску, Гомелі, Віцебску, Пінску, Смаргоні, Брэст-Літоўску, Гродне, Ашмянах. Яны вялі палітычную агітацыю, распаўсюджвалі рэвалюцыйную літаратуру, кіравалі стачачнай барацьбой рабочых.

Такім чынам, у другой палове XIX ст. рэвалюцыйны рух на Беларусі, як і ва ўсёй Расіі, яшчэ не дасягнуў сваёй асноўнай мэты – самадзяржаўе і звязаная з ім сацыяльна-эканамічная і палітычная сістэма працягвалі існаваць. Але менавіта ў гэты час былі закладзены ідэйныя і арганізацыйныя асновы далейшай барацьбы розных апазіцыйных самадзяржаўю сіл, якія ў хуткім часе пачалі фарміравацца ў палітычныя партыі.

## § 3. Фарміраванне палітычных партый. Нацыянальнае адраджэнне. Першыя палітычныя арганізацыі

Пасляреформеннае развіццё капіталізму стварыла на Беларусі на мяжы XIX – XX стст. сацыяльныя і эканамічныя перадумовы абвастрэння класавай барацьбы, развіцця рэвалюцыйнага руху.

Прамысловы крызіс у сваю чаргу падштурхнуў развіццё рабочага руху. Сведчаннем гэтага з'явіліся першамайскія стачкі і дэманстрацыі ў Мінску, Гомелі, якія былі разагнаны паліцыяй. Праходзілі эканамічныя забастоўкі. Колькасць выступленняў паступова павялічвалася: усяго за 1900 – 1904 гг. на Беларусі адбылося 58 стачак і 25 палітычных забастовак (за папярэднія 6 гадоў – адпаведна 53 і 8). Асабліва размаху дасягнула палітычная барацьба рабочых у верасні 1904 г., калі ў многіх гарадах прайшлі палітычныя стачкі, вулічныя дэманстрацыі, масавыя мітынгі ў знак пратэсту супраць расстрэлу мітынгу рабочых у Беластоку.

Уздым рабочага руху меў моцны ўплыў на беларускае сялянства, якое ўзнімалася на барацьбу за зямлю, знішчэнне памешчыцкага землеўладання і ліквідацыю прыгонніцкіх перажыткаў. У 1900 – 1904 гг. на Беларусі адбыліся 143 сялянскія выступленні.

Характэрнай рысай палітычнага жыцця на Беларусі ў гэты перыяд была амаль поўная адсутнасць палітычных свабод ва ўмовах самадзяржаўя. Улады ўсімі сродкамі праследавалі любыя спробы дабіцца дэмакратычных свабод шляхам правядзення сходаў, дэманстрацый, забастовак. Мінскі губернатар 14 снежня 1901 г. выдаў абавязковыя пастановы, у якіх указвалася, што "сходбішчы і сходы народа на вуліцах, плошчах і іншых месцах" забараняюцца. Вінаватыя ў парушэнні гэтых пастаноў маглі быць арыштаваны на 3 месяцы альбо аштрафаваны ў памеры 500 рублёў у адміністрацыйным парадку.

Канец XIX – пачатак XX ст. – час стварэння і станаўлення палітычных партый. Асаблівасцю палітычнага развіцця было тое, што ў сувязі з параўнальна нядоўгім існаваннем капіталістычных адносін працэс класавай дыферэнцыяцыі і фарміравання нацыянальнай самасвядомасці на Беларусі не скончыўся. На практыцы гэта знайшло адлюстраванне ў разнастайнасці палітычных партый і напрамкаў (у тым ліку агульнарасійскіх) і ў ярка акрэсленым нацыянальным фактары ў дзейнасці многіх з іх.

У 80-я гады XIX ст. у Расійскай імперыі з'явіліся першыя арганізацыі, якія ў той ці іншай меры арыентаваліся на рэвалюцыйны марксізм і былі блізкія да заходнееўрапейскай сацыял-дэмакратыі. Многія з іх "выраслі" з народніцкіх груп і арганізацый.

У 1893 г. у выніку аб'яднання некалькіх рэвалюцыйных груп утварылася Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага (з 1900 г. – Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы – СДКПіЛ). З 1897 г., калі прайшоў арганізацыйны з'езд у Вільні, пачаў дзейнічаць Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі (Бунд), якім кіравалі не схільныя да радыкалізму рэвалюцыянеры.

У 1898 г. у Мінску адбыўся І з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП). Яго ўдзельнікі прынялі маніфест, падрыхтаваны П.Струве, погляды якога адрозніваліся памяркоўнай рэвалюцыйнасцю.

Адначасова адбывалася афармленне больш радыкальнага крыла сацыял-дэмакратыі. У 1900 г. У.Ленін, Л.Мартаў, Г.Пляханаў і іх аднадумцы пачалі выдаваць за мяжой марксісцкую газету "Іскра". Аб'яднаныя вакол гэтай газеты прыхільнікі далучэння рабочых да палітычнай барацьбы на II з'ездзе РСДРП (1903 г.) былі найбольш уплывовай групай у партыі. Аднак ужо ў той час вызначылася іх раздзяленне на дзве фракцыі – бальшавікоў, якія выступалі за жорсткую партыйную дысцыпліну і рашучую, бескампрамісную пазіцыю ў арганізацыйных пытаннях (лідэрам гэтай фракцыі стаў У.Ленін), і меншавікоў, якія прызнавалі магчымым супрацоўнічаць з лібераламі і выступалі за мяккую, гібкую структуру партыйных арганізацый (без цвёрдых межаў дысцыпліны і адказнасці членаў арганізацыі за свае дзеянні). Раскол у РСДРП стаў відавочным у 1905 г. Пасля аб'яднання дзвюх фракцый у 1906 г. некалькі гадоў працягвалася іх фармальнае суіснаванне ў рамках адной партыі, але з 1912 г. У.Ленін, які імкнуўся стварыць згуртаваную арганізацыю, адмовіўся ад сур'ёзнага супрацоўніцтва з меншавікамі. Апошнія зрабілі тое ж самае ў адносінах да бальшавікоў.





У гэты ж перыяд ішла кансалідацыя сацыялістаў-народнікаў. Адным з цэнтраў, дзе ствараласяпартыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, была Беларусь. На працягу 1898 – 1899 гг. у Мінску адбылося аб'яднанне аднадумцаў у "Рабочую партыю палітычнага вызвалення Расіі" (Я.Гальперын, А.Бонч-Асмалоўскі, К.Брэшка-Брэшкоўская і інш.). Арганізацыя мела друкарню ў Серабранцы (цяпер – у складзе Мінска), яе групы дзейнічалі ў шэрагу гарадоў Расіі. Мінская група налічвала 60 чалавек. Яна была разгромлена паліцыяй, тыя ж яе члены, якія пазбеглі арышту, працягвалі сваю дзейнасць. Арганізацыі "Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі" ўвайшлі ў склад партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

У 1900 – 1902 гг. найбольш радыкальныя з сацыялістаў-рэвалюцыянераў аб'ядналіся ў Партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў), лідэрам якой з'яўляўся В.Чарноў. Эсэры лічылі, што ў сялянскай Расіі нельга прымяняць еўрапейскія сацыялістычныя тэорыі, адхілялі марксізм, імкнуліся стварыць самабытны, нацыянальны сацыялізм. Эсэры выкарыстоўвалі тэрор як асноўны сродак барацьбы.

Усе гэтыя агульнарасійскія партыі дзейнічалі і на Беларусі. Дастаткова актыўна тут функцыяніравалі сацыял-дэмакратычныя арганізацыі і групы. Пасля І з'езда РСДРП зазнала перыяд "разброду і хістанняў". Аднак з пачаткам выдання газеты "Іскра" і асабліва пасля II з'езда РСДРП актыўнасць партыі ўзрасла, узмацніўся яе ўплыў на масы, перш за ўсё праз сродкі прапаганды. Адным з пацвярджэнняў гэтага з'яўляецца той факт, што напярэдадні рэвалюцыі паліцыя выявіла выданні РСДРП у 134 населеных пунктах Беларусі, і іх колькасць раўнялася колькасці выданняў іншых партый і груп.

Да 1905 г. сацыял-дэмакратычныя групы дзейнічалі ў большасці гарадоў і мястэчак краіны. Адной з буйных была Мінская група. Яна аб'яднала да 150 членаў і звыш 200 прыхільнікаў і дзейнічала на ўсіх значных прадпрыемствах горада. Для аб'яднання і каардынацыі дзейнасці груп ЦК РСДРП стварыў у студзені 1904 г. Палескі, а ў сакавіку 1904 г. – Паўночна-Заходні камітэты.

У шэрагу месцаў Беларусі дзейнічалі эсэраўскія арганізацыі, аб'яднаныя створанай у красавіку 1904 г. Паўночна-Заходняй абласной арганізацыяй. Эсэры разам з бальшавікамі выступалі супраць самадзяржаўя, аднак стаўку рабілі галоўным чынам на індывідуальны тэрор. Яны працавалі ў асноўным сярод сялянства, прычым разглядалі яго як аднародную масу.

У пачатку XX ст. мела свой уплыў на Беларусі Польская сацыялістычная партыя (ППС). Частка яе дзеячаў выступала за саюз польскіх і рускіх рэвалюцыянераў супраць самадзяржаўя, астатнія адмовіліся ад сацыяльнай барацьбы з царызмам і прапагандавалі ідэю паўстання разам з беларусамі, літоўцамі і ўкраінцамі з мэтай устанаўлення незалежных нацыянальных рэспублік.

Неразвітыя капіталістычныя адносіны, палітыка сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту вялі да ўзмацнення нацыянальна-вызваленчага руху, актывізацыі дзейнасці нацыянальных аб'яднанняў.

Актыўна дзейнічаў Бунд. Яго рэвалюцыйнае крыло змыкалася з пралетарыятам іншых нацыянальнасцей у барацьбе супраць самадзяржаўя, правыя ж стаялі на нацыяналістычных пазіцыях, працуючы толькі сярод яўрэйскага насельніцтва і выступаючы за буржуазна-дэмакратычную рэспубліку. На базе правага крыла Бунда ў 1905 г. была сфарміравана "сіяністцка-сацыялістычная рабочая партыя", якая мела на мэце стварыць "асобнае яўрэйскае сацыялістычнае грамадства", але неабавязкова ў Палесціне. Паралельна ішоў працэс фарміравання партыі артадаксальных сіяністаў "Паалей-Цыён". Яны жадалі стварэння самастойнай яўрэйскай дзяржавы толькі ў Палесціне.

На мяжы XIX – XX стст. пачаўся новы перыяд беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Ён звязаны з тым, што з канца 80-х гадоў актывізавалася грамадска-палітычнае жыццё. Дзейнасць народнікаў, развіццё беларускай літаратуры, завяршэнне фарміравання беларускай нацыі і звязаны з ім рост нацыянальнай самасвядомасці – усё гэта садзейнічала з'яўленню новага пакалення беларускай інтэлігенцыі. Яе імкненне да ўсведамлення гістарычнага мінулага і тагачаснага стану Беларусі рэалізавалася перш-наперш праз артыкулы, прысвечаныя гісторыі, этнаграфіі, культуры беларускага народа. Гэта інтэлігенцыя і стала рухаючай сілай беларускага нацыянальнага адраджэння, яго культурна-асветніцкага напрамку.

Дзейнічалі пецярбургскі "Гурток моладзі польскай, літоўскай і беларускай" (90-я гады), які ўзначальваў Адам Гурыновіч, іншыя студэнцкія аб'яднанні ў Пецярбургу, Маскве, Кракаве. У 1902 г. браты Іван і Антон Луцкевічы, якія вучыліся ў Пецярбургу, заснавалі там легальны студэнцкі "Гурток беларускай народнай асветы". Названыя гурткі, якія аб'ядноўвалі пераважна моладзь, мелі на мэце адраджэнне беларускага народа ў эканамічных, і – галоўным чынам – у нацыянальна-культурных адносінах. Паступова дзейнасць гурткоў набывала палітычныя рысы. Рабіліся спробы выдаць нелегальную палітычную газету. У 1902 г. група аднадумцаў (В.Іваноўскі, А.Пашкевіч, І.Луцкевіч і інш.) спрабавала наладзіць выданне на гектографе газеты "Свабода". У гэтых жа колах выспявала думка аб дзяржаўнай незалежнасці, суверэнітэце Беларусі, аб неабходнасці партыйна-палітычнай самаарганізацыі беларускага руху.

Садзейнічалі працэсу нацыянальнага адраджэння развіццё навуковага беларусазнаўства (публікацыі П.Бяссонава, І.Насовіча, М.Доўнар-Запольскага, А.Багдановіча, Я.Карскага і інш., дзейнасць Б.Эпімах-Шыпілы), рускі дэмакратычны рух на Беларусі (газета "Минский листок", "Северо-Западный край", выпускі "Северо-Западного календаря").





На аснове нацыянальна-культурных гурткоў беларускай моладзі Мінска, Вільні і Пецярбурга зімой 1902 – 1903 гг. была ўтворана Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ), якая пазней атрымала назву Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ). Яе стварылі Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Казімір Кастравіцкі, Алесь Бурбіс, Вацлаў Іваноўскі, Фелікс Умястоўскі і інш.

У 1903 г. на І з'ездзе БСГ прыняла праграму. У ёй партыя абвясціла сябе сацыяльна-палітычнай арганізацыяй працоўнага народа, сваёй канчатковай мэтай – знішчэнне капіталістычнага ладу, пераход зямлі і сродкаў вытворчасці ў грамадскую ўласнасць, а найбліжэйшай задачай – звяржэнне самадзяржаўя ў Расіі ва ўзаемадзеянні з пралетарыятам усіх народаў Расійскай імперыі.

Асноўныя праграмныя палажэнні БСГ: абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, барацьба за дэмакратыю ў Расіі, прызнанне правоў усіх народаў Расіі на аўтаномію, выкарыстанне беларускай мовы і стварэнне беларускай школы, звяржэнне самадзяржаўя і ўстанаўленне дэмакратычнага ладу ў Расіі, перадача зямлі сялянам, заводаў і фабрык – рабочым. Партыя імкнулася працаваць і ў горадзе і ў вёсцы, яна лічыла, што толькі пры дружным, скаардынаваным націску рэвалюцыйнага горада і рэвалюцыйнай вёскі будзе звергнута ненавісная ўлада расійскага царызму.

Сацыяльнай базай партыі з'яўляліся беззямельная і малазямельная шляхта, сялянства, і – перш за ўсё – інтэлігенцыя, звязаная з гэтымі сацыяльнымі групамі.

Існуюць розныя вызначэнні характару БСГ як палітычнай партыі – сацыял-дэмакратычная, народніцкая, нацыянальна-дэмакратычная. Відавочна, што, паводле сваёй тэарэтычнай платформы і практычнай дзейнасці, яна была бліжэй да леванародніцкага напрамку, а ў нацыянальным руху, безумоўна, прадстаўляла яго дэмакратычныя сілы.

На гэтым этапе беларускі нацыянальны рух знаходзіўся пад значным уплывам польскага і расійскага вызваленчага руху. БСГ мела цесныя сувязі з Польскай сацыялістычнай партыяй. У 1904 – 1905 гг. існавала Сацыялістычная партыя Белай Русі, якая таксама была звязана з ППС. Звестак аб ёй мала. Вядома, што яе заснавальнікамі былі студэнты М.Фальскі, А.Жаба і інш. БСГ вяла перагаворы аб аб'яднанні з гэтай арганізацыяй, але яно не адбылося. БСГ узаемадзейнічала з расійскай партыяй сацыялістаў-рэвалюцыянераў, літоўскай і латышскай сацыял-дэмакратыяй.

Які ўплыў мелі названыя партыі на развіццё эканамічнай і палітычнай барацьбы працоўных?

Як ужо падкрэслівалася, пачатак XX ст. вызначаўся ўздымам забастовачнага руху. У 1900 – 1903 гг. пераважалі эканамічныя стачкі.

Яны былі выкліканы як пагаршэннем становішча насельніцтва, асабліва ў сувязі з эканамічным крызісам, так і прапагандай "эканамістаў", бундаўцаў, што заклікалі рабочых да эканамічных форм барацьбы. У гэты перыяд, у выніку неразвітасці сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі, пераважаў уплыў бундаўскіх арганізацый. Аднак пашырэнне рэвалюцыйнага руху, разгул шавінізму ў час руска-японскай вайны падштурхнулі дзеянні кіруючых урадавых колаў і правых памешчыцка-клерыкальных партый і арганізацый, накіраваныя на распальванне нацыянальнай варожасці, што ў сваю чаргу ўзмацніла нацыяналістычныя тэндэнцыі ў рабоце нацыянальных аб'яднанняў. Гэта было характэрна для БСГ і асабліва Бунда: яўрэйская ліберальна-дэмакратычная буржуазія ў новых умовах абмяжоўвалася сваімі нацыянальнымі праблемамі.

Стварэнне ў 1903 г. самастойных сацыял-дэмакратычных арганізацый на Беларусі на аснове іскраўскіх груп, узмацненне іх палітычнай агітацыі прывялі да росту ў краі ўплыву сацыял-дэмакратыі. Актывізавалі дзейнасць і іншыя партыі рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку. Пачынаючы з 1903 г. назіраўся паступовы пераход да палітычных форм барацьбы. Толькі ў гэтым годзе на Беларусі адбылося 20 палітычных стачак супраць 6 за папярэднія два гады, а колькасць іх удзельнікаў упершыню больш чым удвая пераважыла колькасць удзельнікаў эканамічных забастовак.

У 1904 г. удзельная вага палітычных стачак значна павялічылася. У 1901 – 1904 гг. на Беларусі адбылося 467 розных выступленняў, у якіх удзельнічалі каля 74 360 чалавек. Асабліва частымі і арганізаванымі былі выступленні ў Мінску, Смаргоні, Бабруйску, Шклове і іншых буйных гарадах і мястэчках.

Узмацнілася палітычная агітацыя на вёсцы, аднак да 1904 г. уплыў сярод сялян як сацыял-дэмакратаў, так і эсэраў, бундаўцаў быў яшчэ невялікім. Сялянскія выступленні праходзілі ў большасці выпадкаў стыхійна, хаця на іх, безумоўна, аказвалі ўплыў палітычная атмасфера і ўзмацненне агітацыйнай работы партый.

Якія ж сілы дзейнічалі на палітычнай арэне Расіі?

Да пачатку рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. сфарміраваліся тры палітычныя лагеры: кансерватыўны, урадавы – царызм (двор, вышэйшая знаць, вышэйшыя слаі чыноўніцтва і арміі), дваранства, манархічная буржуазія – усе тыя, хто імкнуўся захаваць самадзяржаўе ў Расіі нязменным; ліберальна-буржуазны – асноўная частка буржуазіі, буржуазная інтэлігенцыя, памешчыкі, якія імкнуліся да пераўтварэнняў у краіне, да канстытуцыйнай манархіі, жадалі атрымаць неабходныя палітычныя і эканамічныя рэформы мірным шляхам; рэвалюцыйна-дэмакратычны – пралетарыят, сялянства, дэмакратычная інтэлігенцыя, шырокія непралетарскія дэмакратычныя пласты горада і вёскі, якія змагаліся за дэмакратычныя пераўтварэнні, за дэмакратычную рэспубліку.





Самадзяржаўе лічыла магчымым і ў XX ст. абыходзіцца без палітычных партый, без свабод, без незалежнага друку і парламента. Ва ўмовах палітычнага крызісу яно праводзіла палітыку "попечения о народных нуждах", а для падаўлення вызваленчага руху выкарыстоўвала паліцыю, жандармерыю, армію. Да рэвалюцыі ні кансерватыўны, ні ліберальны лагер не стварылі сваіх партый.

З сярэдзіны 1905 г. пачалі афармляцца партыі кансерватыўнага, манархічнага накірунку: "Партыя рускага сходу", "Партыя народнага цэнтра" і самая ўплывовая з іх – "Саюз рускага народа". Яны стваралі свае праграмы на трыядзе афіцыйнай ідэалогіі: самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць. Гэтыя праграмы прадугледжвалі непарушнасць самадзяржаўя, правоў дваран і становішча праваслаўнай царквы, памешчыцкага землеўладання, прапаведвалі вялікадзяржаўны шавінізм. Аграрнае пытанне яны збіраліся вырашаць шляхам павелічэння сялянскага землекарыстання, для рабочых прадугледжвалася магчымасць скарачэння рабочага дня, паляпшэння ўмоў працы, дзяржаўнага страхавання. Тактыка партый кансерватыўнага лагера зводзілася да агітацыйна-прапагандысцкай работы, барацьбы з лібераламі і асабліва з рэвалюцыйным рухам, у тым ліку і з дапамогай "чорнай сотні" (арганізацыя пагромаў і забойстваў).

На Беларусі мясцовыя памешчыкі не змаглі стварыць сур'ёзных палітычных арганізацый, таму што арыентаваліся ў асноўным на рускую ці польскую дзяржаўнасць. Тут існавалі аддзяленні агульнарасійскіх манархічных партый.

Партыі ліберальна-буржуазнага напрамку таксама пачалі афармляцца ў другой палове 1905 г. Найбольш значныя з іх – "Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя" (кадэты) і "Саюз 17 кастрычніка" (акцябрысты).

Праграма кадэтаў была арыентавана на стварэнне прававой дзяржавы ў форме канстытуцыйнай манархіі. Кадэты выступалі за адмену ўсіх саслоўных прывілеяў, увядзенне поўнага раўнапраўя, палітычных свабод, за свабоду веравызнання, права нацый на культурнае самавызначэнне. У аграрным пытанні яны прадугледжвалі захаванне памешчыцкага землеўладання, аднак лічылі неабходным ачысціць існуючы ў Расіі лад ад найбольш грубых форм паўпрыгонніцкай эксплуатацыі і накіраваць эвалюцыю краіны па "прускім шляху". Для гэтага прапаноўвалася стварыць прымусовым шляхам зямельны фонд з дзяржаўных, удзельных, манастырскіх і кабінецкіх земляў, а таксама часткі прыватнаўласніцкіх (адчужаных у памешчыка за выкуп на выгадных для памешчыка ўмовах) і надзяліць сялян па т. зв. спажывецкай норме, якая вызначалася для кожнай мясцовасці. Рабочым партыя кадэтаў абяцала свабоды саюзаў, сходаў, права на стачкі, увядзенне 8-гадзіннага працоўнага дня. Тактыка партыі прадугледжвала актыўныя формы дзейнасці, таму яна вяла вялікую агітацыйна-прапагандысцкую работу па прыцягненні шырокіх мас насельніцтва на свой бок.

Акцябрысты па сваёй палітычнай пазіцыі былі больш правымі за кадэтаў і займалі прамежкавае месца паміж кансерватыўным і ліберальным лагерамі да лютага 1917 г.

Арганізацыі агульнарасійскіх партый ліберальна-буржуазнага накірунку дзейнічалі і на Беларусі. Беларуская буржуазія была цесна звязана з рускім прамысловым капіталам і расійскім рынкам, яна знаходзілася яшчэ на стадыі палітычнай кансалідацыі. Гэта стрымлівала фарміраванне яе нацыянальных палітычных арганізацый, якія да лютага 1917 г. існавалі на ўзроўні клубаў ліберальна-дэмакратычнага накірунку.

Рэвалюцыйна-дэмакратычны лагер прадстаўлялі партыі сацыялістычнай арыентацыі, сацыял-дэмакратычнага і народніцкага напрамкаў. Пры гэтым трэба падкрэсліць, што яны ўзніклі яшчэ да рэвалюцыі як нелегальныя арганізацыі. Сярод сацыял-дэмакратычных вызначалася РСДРП, якая ўключала дзве плыні: бальшавікоў і меншавікоў, сярод народніцкіх — партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэры). Абодва напрамкі былі шырока прадстаўлены нацыянальнымі партыямі. У сацыял-дэмакратычным крыле найбольш значным быў Бунд, а таксама Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы. Сярод народніцкіх трэба назваць Польскую сацыялістычную партыю, якая дзейнічала на тэрыторыі Літвы і Заходняй Беларусі. Да гэтага напрамку можна аднесці і Беларускую сацыялістычную грамаду. Такім чынам, правае крыло беларускага нацыянальнага руху арганізацыйна аформілася значна пазней за рэвалюцыйна-дэмакратычнае.

Партыі дэмакратычнага лагера на гэтым этапе імкнуліся да ўстанаўлення дэмакратычнай рэспублікі ў Расіі, хоць саму рэвалюцыю, яе характар, рухаючыя сілы і перспектывы развіцця краіны ацэньвалі па-рознаму. Так, упэўненыя, што вырашаць аграрнае пытанне можна толькі шляхам знішчэння памешчыцкага землеўладання, яны мелі розныя меркаванні аб тым, што з зямлёй рабіць далей: бальшавікі лічылі неабходным правесці нацыяналізацыю зямлі, г. зн. перадаць яе ва ўласнасць будучай рэспублікі; меншавікі настойвалі на муніцыпалізацыі, у выніку якой будучыя ўласнікі зямлі — муніцыпалітэты (органы мясцовага самакіравання) — перадавалі б яе ў арэнднае карыстанне сялянам; эсэры прапаноўвалі шляхам "сацыялізацыі" зямлі праз дэмакратычна выбраныя цэнтральныя і мясцовыя органы самакіравання ўстанавіць і даць селяніну т. зв. працоўную норму (плошчу, якую ён мог апрацаваць сваімі сіламі).

Не было адзінства ў лагеры левых сіл і па пытаннях тактыкі — эсэры шырока выкарыстоўвалі індывідуальны тэрор як сродак актывізацыі мас і дэзарганізацыі ўлады. Бальшавікі выступалі за правядзенне ў момант уздыму рэвалюцыі добра падрыхтаванага паўстання, а меншавікі не лічылі паўстанне непазбежным і схіляліся да мірных форм барацьбы.

Такой была расстаноўка палітычных сіл напярэдадні і ў час першай расійскай рэвалюцыі.





## § 4. Рэвалюцыя 1905 – 1907 гг. Палітычнае становішча ў паслярэвалюцыйныя гады. "Нашаніўскі перыяд" беларускага нацыянальнага руху

На пачатку XX ст. Расія апынулася перад непазбежнасцю рэвалюцыі. Заходняя Еўропа да гэтага часу ўжо прайшла фазу буржуазных рэвалюцый. У Расіі ж з сярэдзіны XIX ст. нарасталі супярэчнасці паміж хуткім ростам капіталізму і перажыткамі прыгонніцтва, якія стваралі аб'ектыўныя перадумовы для моцнага рэвалюцыйна-вызваленчага руху. Асаблівасці палітычнага і эканамічнага развіцця краіны, жыццёвыя інтарэсы шырокіх працоўных мас патрабавалі глыбокіх рэформ, ліквідацыі ўсіх феадальна-прыгонніцкіх перажыткаў.

Першая расійская рэвалюцыя была накіравана на звяржэнне самадзяржаўя, ліквідацыю памешчыцкага землеўладання, знішчэнне саслоўнага ладу, устанаўленне дэмакратычнай рэспублікі, павышэнне жыццёвага ўзроўню працоўных мас. Яна павінна была расчысціць шлях для капіталізму, забяспечыць умовы развіцця найбольш прагрэсіўнага яго тыпу, дэмакратызацыі ўсіх грамадска-палітычных інстытутаў.

Апошняя спроба царызму выйсці з крызісу з дапамогай "маленькай пераможнай вайны" з Японіяй (1904 – 1905) закончылася ваенным паражэннем і падзеннем прэстыжу ўрада і рэжыму наогул. Не выкарысталі і ліберальна-рэфармісцкую альтэрнатыву: лібералы баяліся народа, а перакананы цара ў неабходнасці перамен не змаглі.

Рэвалюцыя 1905 –1907 гг. была буржуазнай паводле свайго характару, дэмакратычнай па рухаючых сілах – у ёй прынялі ўдзел самыя шырокія пласты працоўных мас. А пралетарыят адыгрываў найбольш актыўную кіруючую ролю.

Падзеі Крывавай нядзелі ў Пецярбургу ў студзені 1905 г. ускалыхнулі ўсю краіну і сталі пачаткам першай рускай рэвалюцыі. Забастоўкі салідарнасці 11 – 15 студзеня 1905 г. ахапілі Мінск, Магілёў, Гомель, Гродна, Смаргонь – усяго каля 30 гарадоў і мястэчак Беларусі.

У Мінску забастоўка салідарнасці пачалася 11 студзеня. 15 студзеня была спроба правесці дэманстрацыю, але яе ўдзельнікаў разагналі казакі. Агульная колькасць стачачнікаў тут дасягнула 2 тыс. чалавек.

У Смаргоні 13 – 14 студзеня і ў Крынках 17 – 19 студзеня 1905 г. стачкі суправаджаліся мітынгамі, дэманстрацыямі, маніфестацыямі значнага размаху. Яны былі падрыхтаваны мясцовымі сацыял-дэмакратамі разам з прадстаўнікамі Віленскай арганізацыі РСДРП і Беластоцкай арганізацыі СДКПіЛ. У Смаргоні, напрыклад, у забастоўках прымала ўдзел звыш 3 тыс. рабочых, на вуліцы выйшла

15. Зак. 5560

больш за 20 тыс. дэманстрантаў. Мітынгі і дэманстрацыі, як правіла, ахоўваліся ўзброенымі рабочымі дружынамі, нярэдкія былі сутыкненні з паліцыяй. Для расправы ў мястэчка прыехаў губернатар з 400 салдатамі. У Крынках напярэдадні стачкі і дэманстрацыі былі разгромлены ўсе мясцовыя прадстаўнікі ўлады, знішчаны справы валаснай управы і партрэты цара ва ўсіх установах.

У Гомелі сходкі і мітынгі пачаліся 12 студзеня 1905 г., а 16 студзеня забастоўка набыла агульнагарадскі размах, у ёй удзельнічала каля 4 тыс. чалавек.

Хваляванні ў Гомелі, Гродне, Смаргоні і Крынках уладам удалося падавіць толькі пасля ўводу дадатковых атрадаў войска.

У студзеньскія дні 1905 г. у беларускіх губернях баставала 34 тыс. чалавек. У наступныя месяцы пракацілася хваля эканамічных забастовак, у ходзе якіх рабочыя патрабавалі скарачэння працоўнага дня, паляпшэння ўмоў працы, павелічэння заработнай платы і г. д.

Рабочы рух змыкаўся з сялянскім. У студзені – красавіку 1905 г. адбыліся 53 сялянскія выступленні, многія з якіх мелі палітычны напрамак.

Уздым рэвалюцыйнай актыўнасці мас патрабаваў дакладнага кіраўніцтва і каардынацыі выступленняў. Ініцыятарамі выступленняў працоўных былі партыі дэмакратычнага напрамку – РСДРП, эсэры, Бунд, ППС, БСГ. Поспех выступленняў у значнай ступені залежаў ад узаемаадносін паміж імі. Аднак пачатак рэвалюцыі на Беларусі ўскладніла адсутнасць адзінства дзеянняў розных палітычных сіл, вопыту барацьбы, што негатыўна адбілася і на тактыцы дзеянняў.

Кантакты сацыял-дэмакратаў з іншымі партыямі ў студзені–сакавіку 1905 г. былі нешматлікія з той прычыны, што працэс партыйнага групавання дробнай буржуазіі яшчэ толькі пачынаўся, іх арганізацыі не мелі дастаткова сіл і вопыту.

Найбольш значнай на Беларусі была дзейнасць арганізацый эсэраў. У прыватнасці, у Мінску эсэры прымалі ўдзел у стачках салідарнасці, якія праводзіліся арганізацыямі РСДРП, распаўсюджвалі літаратуру, трымалі канспіратыўныя кватэры. Арганізацыі РСДРП на гэтым этапе стаялі пераважна на бальшавіцкіх пазіцыях.

У справе яднання левых сіл вялікае значэнне мелі рашэнні III з'езда РСДРП (красавік 1905 г.), асабліва ў адносінах да нацыянальных арганізацый. З'езд выпрацаваў стратэгію і тактыку бальшавікоў ва ўмовах пачатку рэвалюцыі, накіраваныя на падрыхтоўку ўзброенага паўстання з мэтай звяржэння самадзяржаўя і ўстанаўлення рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пралетарыяту і сялянства, стварэння дэмакратычнай рэспублікі. З'езд таксама вызначыў адносіны да іншых партый і арганізацый, выказаўся за аб'яднанне сацыял-дэмакратычных арганізацый у адзіную РСДРП пры ўмовах падпарадкавання рашэнням з'езда.

Тактыка, распрацаваная III з'ездам РСДРП, дазволіла згуртаваць рэвалюцыйныя сілы з улікам асаблівасцей рэвалюцыі на Беларусі.





Пасля з'езда выступленні рабочых адбываліся нярэдка пад аб'яднаным кіраўніцтвам РСДРП, эсэраў, бундаўцаў, БСГ, хаця Бунд часцей займаў іншую пазіцыю, паколькі прэтэндаваў на аднаасобнае лідэрства, а меншавікі, БСГ па шэрагу прынцыповых пытанняў праяўлялі нерашучасць. Бальшавікі ж не заўсёды выкарыстоўвалі ўсе магчымасці для кампрамісаў.

Дзейнасць Беларускай сацыялістычнай грамады ў гады рэвалюцыі мела найважнейшае значэнне для ідэйнай кансалідацыі беларускага руху. У сакавіку 1905 г. БСГ разам з эсэрамі правяла ў Мінску сялянскі з'езд. Дэлегаты прыйшлі да высновы, што атрымаць зямлю можна толькі шляхам узброенай барацьбы з самадзяржаўем. Быў створаны Беларускі сялянскі саюз для садзейнічання згуртаванню сялян.

БСГ узаемадзейнічала з іншымі партыямі дэмакратычнага напрамку, заклікала народ да барацьбы, выдавала лістоўкі і іншую нелегальную літаратуру, якую распаўсюджвала звычайна ў сельскай мясцовасці. Гэта садзейнічала ідэйнаму і арганізацыйнаму станаўленню партыі, набыццю ёю палітычнага вопыту.

Вясной і летам 1905 г. рабочыя Беларусі падтрымалі расійскі пралетарыят. Гэтымі выступленнямі кіравалі ў асноўным арганізацыі РСДРП. Яны з'яўляліся найбольш мабільнымі і актыўнымі, іх лозунгі і мэты былі сугучныя жаданням і інтарэсам мас. Актыўна прайшлі на Беларусі першамайскія забастоўкі. У чэрвені – ліпені адбыліся палітычныя стачкі і дэманстрацыі ў знак салідарнасці з бастуючымі рабочымі Пецярбурга, Лодзі, Іванава-Вазнясенска. У Мінску 18 – 19 чэрвеня 1905 г. прайшлі мітынгі з удзелам каля 6 тыс. чалавек, а 28 чэрвеня была аб'яўлена ўсеагульная забастоўка. У гэты ж дзень адбылася дэманстрацыя ўзброеных рабочых, у час разгону якой казакі і паліцыя прымянілі зброю. Тры чалавекі былі забіты, многія паранены, 185 арыштаваны. Сур'ёзныя ўзброеныя сутыкненні ў ходзе чэрвеньскіх дэманстрацый адбыліся таксама ў Бабруйску, Барысаве, Віцебску, Гомелі. Забастоўкі і дэманстрацыі пратэсту прайшлі ў Смаргоні, Пінску, Нясвіжы, Ляхавічах, Смілавічах, Капылі, Ашмянах. У шэрагу гарадоў мітынгамі і дэманстрацыямі адзначылі працоўныя паўгадавіну расстрэлу мірнага шэсця ў Пецярбургу. Усяго палітычным рухам рабочых у красавіку–чэрвені было ахоплена 56 гарадоў і мястэчак, колькасць стачачнікаў дасягнула 98 тыс., дэманстрантаў – 30 тыс., удзельнікаў маніфестацый – 94 тыс. чалавек.

Пад уплывам пралетарскай барацьбы шырокі размах набыў сялянскі рух. Улетку і ўвосень 1905 г. на Беларусі зарэгістравана 380 выступленняў сялян (у 32 паветах з 35). Яны адрозніваліся арганізаванасцю, узмацненнем наступальных форм барацьбы. Упершыню ў Віцебскай, Віленскай і Мінскай губернях былі створаны сялянскія арганізацыі пад кіраўніцтвам РСДРП. Найбольш актыўна яны дзейнічалі ў Ігуменскім, Гарадоцкім і Дзісенскім паветах. У Мінску і Вільні стварылі свае краявыя камітэты БСГ, РСДРП. Прадстаўнікі БСГ і эсэры арганізавалі пад Мінскам, у вёсцы Блонь і мястэчку Пухавічы,

школы сялянскіх агітатараў, якія потым уладкоўваліся на працу ў вёсках і там стварылі сялянскія гурткі.

У адказ на паўстанне на браняносцы "Пацёмкін" пачаліся хваляванні ў арміі: выступілі вайскоўцы асобных часцей Магілёўскага, Гродзенскага і Брэст-Літоўскага гарнізонаў, Бабруйскага дысцыплінарнага батальёна. У многіх гарадах РСДРП стварала свае ваенна-рэвалюцыйныя арганізацыі.

Пад націскам рэвалюцыі цар прыняў рашэнне склікаць заканадаўчую, "булыгінскую", як яе называлі, думу. 6 жніўня 1905 г. Мікалай II падпісаў маніфест аб скліканні Думы, чым спрабаваў аслабіць размах рэвалюцыйнага руху і схіліць на свой бок ліберальную буржуазію. Аднак гэта ўступка не магла задаволіць шырокія масы народа, тым больш што яны былі пазбаўлены выбарчых правоў у гэту Думу.

Лібералы Беларусі, як і ва ўсёй краіне, падтрымалі ідэю склікання Думы, паколькі бачылі ў ёй адзіны сродак спыніць рэвалюцыю. Ліберальныя памешчыкі і яўрэйская буржуазія пачалі рыхтавацца да выбараў, праводзіць сходы. Прадстаўнікі пануючых класаў незалежна ад нацыянальнасці выказалі гатоўнасць супрацоўнічаць з самадзяржаўем на платформе Думы.

Бальшавікі, як вядома, праводзілі палітыку адкрытага байкоту, меншавікі – тактыку паўбайкоту (г. зн. яго правядзенне на апошняй стадыі выбараў, а да гэтага – вылучэнне рэвалюцыйных дэпутатаў). Іншыя сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ўзялі за аснову бальшавіцкую тактыку байкоту. Падтрымаў яе і Бунд. За байкот выказаліся народніцкія партыі і арганізацыі: эсэры, БСГ, а таксама левае крыло буржуазнай дэмакратыі.

Бунд не звязваў байкот з узброеным паўстаннем. Пры агітацыі за Устаноўчы сход Бунд ухіліўся ад адказу на пытанне аб тым, хто павінен яго склікаць. На практыцы ж, з аднаго боку, бундаўскія арганізацыі вялі агітацыю за байкот Думы, а з другога – нярэдка салідарызаваліся з яўрэйскай буржуазіяй і агітавалі за ўдзел у выбарах у імя "агульнаяўрэйскіх інтарэсаў".

Не звязвалі байкот Думы з заклікам да ўзброенага паўстання народніцкія партыі – эсэры, а таксама БСГ. Тым не менш бальшавіцкая тактыка байкоту Думы з'явілася платформай, на якой складваўся блок левых сіл.

Жыццё пацвердзіла правільнасць бальшавіцкай тактыкі – рэвалюцыйны ўздым змёў Думу.

Як бачна, рэвалюцыя паступова набірала сілу па меры росту выступленняў вясной і летам 1905 г. і дасягнула высокага напалу ў кастрычніку, калі ўзнялася хваля забастовак і пачалася ўсеагульная палітычная стачка.

У кастрычніку рознымі формамі палітычнай барацьбы былі ахоплены 24 гарады і 29 мястэчак Беларусі, у забастоўках, дэманстрацыях удзельнічала 153 тыс. чалавек.





У Мінску дэманстрацыю 11 кастрычніка 1905 г. пачалі чыгуначнікі па ініцыятыве групы РСДРП. На наступны дзень рашэнне аб яе падтрымцы прынялі мясцовыя камітэты Бунда і эсэры. Стачка ахапіла ўсе прадпрыемствы, зачыняліся магазіны, школы, гімназіі.

У Смаргоні па закліку кааліцыйнай камісіі 17 кастрычніка 1905 г. спынілася праца на ўсіх прадпрыемствах. Мястэчка фактычна апынулася ў руках забастоўшчыкаў. Такое ж становішча назіралася ў Ашмянах, дзе забастоўка працягвалася каля тыдня. У Мазыры стачка пачалася яшчэ 13 кастрычніка і доўжылася 10 дзён. Быў створаны аб'яднаны рэвалюцыйны камітэт, які ўзяў на сябе ўладу ў горадзе. Дзевяць дзён існавала т. зв. Мазырская рэспубліка. Толькі пры дапамозе паліцыі і ўзброенай сілы выступленне ў Мазыры было падаўлена. Многіх яго ўдзельнікаў асудзілі і саслалі на катаржныя работы ў Сібір.

Ва ўмовах усеагульнай палітычнай стачкі царызм быў вымушаны пайсці на палітычныя ўступкі. 17 кастрычніка 1905 г. цар падпісаў маніфест, які абвяшчаў недатыкальнасць асобы, свабоду слова, сходаў, саюзаў і г. д. У маніфесце змяшчалася абяцанне склікаць Дзяржаўную думу з заканадаўчымі правамі і дапусціць да ўдзелу ў ёй рабоце працоўных. З'яўленне маніфеста суправаджалася хваляй чарнасоценных пагромаў, якія натхняліся царскай адміністрацыяй. Так складваўся своеасаблівы палітычны лад – канстытуцыйнае самадзяржаўе, ва ўмовах якога і разгарнуўся працэс стварэння некалькіх партый кансерватыўнага і ліберальнага адценняў, а потым прайшлі выбары ў I Дзяржаўную думу. Буржуазія ў знак ухвалення маніфеста стварыла сваю партыю – "Саюз 17 кастрычніка". Левыя лібералы таксама арганізаваліся ў канстытуцыйна-дэмакратычную партыю. Унутры БСГ узмацніўся раскол. Буржуазна-дэмакратычнае крыло яе з ухваленнем сустрэла царскі маніфест.

РСДРП з недаверам паставілася да гэтага дакумента. Па яе ініцыятыве ў шэрагу гарадоў прайшлі мітынгі пратэстаў. У Мінску 18 кастрычніка 1905 г. губернатар Курлоў загадаў адкрыць агонь па ўдзельніках мітынгу на плошчы Віленскага вакзала (цяпер – Прывакзальная плошча). У выніку больш за 80 чалавек былі забіты, некалькі соцень паранены.

З курлоўскім расстрэлам звязана адна з найбольш вядомых акцый эсэраў – губернатар Курлоў быў асуджаны іх партыяй да пакарання смерцю за ўчынены па яго загаду расстрэл. Спробу прывесці прысуд у выкананне зрабілі ў студзені 1906 г. Іван Пуліхаў і Аляксандра Ізмайловіч. Замах не ўдаўся, Пуліхаў быў пакараны смерцю, а Ізмайловіч саслана на катаргу.

Крывавая сутычка ў гэты дзень адбылася ў Смаргоні (паранена 10 дэманстрантаў), расстрэлы мелі месца таксама ў Віцебску, Полацку. На наступны дзень пасля курлоўскага расстрэлу, 19 кастрычніка 1905 г., выйшлі на дэманстрацыю з чырвонымі сцягамі працоўныя Оршы.

46. Зак. 5560

У ходзе кастрычніцкай палітычнай стачкі ва ўсіх буйных цэнтрах рэвалюцыйнага руху Расіі ўзніклі новыя масавыя палітычныя арганізацыі – Саветы рабочых дэпутатаў. На Беларусі стачачныя камітэты і кааліцыйныя саветы ў Мінску, Віцебску, Мазыры, Баранавічах, Ваўкавыску, Лунінцы, Пінску і Гомелі выконвалі функцыі органаў улады.

Працягваліся сялянскія хваляванні. У лістападзе 1905 г. зарэгістравана 174 выступленні, у снежні іх колькасць дасягнула 286. У Горацкім, Клімавіцкім і Чэрыкаўскім паветах яны набылі характар узброенага паўстання.

У адказ на снежаньскае ўзброенае паўстанне ў Маскве 8 снежня 1905 г. забаставалі чыгуначнікі большасці чыгуначных вузлоў Беларусі. Для кіраўніцтва ў Мінску быў створаны кааліцыйны савет у складзе Мінскай групы РСДРП, Мінскага камітэта эсэраў, Бунда і чыгуначнага камітэта Лібава-Роменскай дарогі. 9 снежня 1905 г. стачка набыла ў Мінску ўсеагульны характар. Пачаліся хваляванні сярод салдат. Мінская група РСДРП заклікала да паўстання, аднак пад уплывам бундаўцаў і меншавікоў стачка была спынена.

У Гомелі палітычнай стачкай кіраваў Палескі камітэт РСДРП. Забастоўшчыкі захапілі станцыю, тэлеграф, пошту. У Пінску ўсеагульная палітычная стачка дазволіла фактычна ўзяць у свае рукі горад і станцыю, але з прычыны нерашучасці бундаўцаў і меншавікоў яна не перарасла ва ўзброенае паўстанне. Бальшавікоў падтрымалі толькі эсэры.

Снежаньская палітычная стачка праходзіла больш арганізавана, але абаронча тактыка прадвызначала яе паражэнне. 18 снежня 1905 г. кааліцыйны савет у Мінску быў арыштаваны. Хутка на Беларусі з'явілася карная экспедыцыя генерала Арлова, якая падавіла выступленні ў Пінску, Гомелі, Лунінцы, Баранавічах.

Пасля снежаньскіх падзей 1905 г. рэвалюцыя пайшла на спад – рэвалюцыйны ўздым, які меў месца вясной 1906 г., змяніўся зніжэннем актыўнасці працоўных мас. Улады ўзялі палітычную сітуацыю пад кантроль. У гэтых умовах "левы блок" пачаў распадацца. Ужо са снежня 1905 г. Бунд ухіляўся ад актыўнай рэвалюцыйнай барацьбы. З'езды "Паалей-Цыёна" (люты 1906 г.), сіяністаў-сацыялістаў (красавік 1906 г.) прынялі рашэнні, галоўная ідэя якіх заключалася ў адасабленні яўрэйскага пралетарыяту і яднанні яго са сваёй буржуазіяй для стварэння самастойнай яўрэйскай дзяржавы.

БСГ у студзені 1906 г. правяла ў Мінску свой другі з'езд. На ім былі прыняты новыя праграма і статут, што дазволіла партыі больш дакладна вызначыць сваю палітычную пазіцыю. БСГ прапанавала канфіскаваць памешчыцкія, царкоўныя і ўдзельныя землі, аб'яднаць з казёнымі і стварыць нацыянальны зямельны фонд, прадастаўлены ў карыстанне малазямельным і беззямельным сялянам, а размеркавальнікам зямлі павінна было стаць краёвае самакіраванне, незалежнае ў гэтым пытанні ад цэнтральнай расійскай улады. Праграма выразна зафіксавала, што найбліжэйшымі задачамі партыі з'яўляюцца: звяржэнне царызму, аўтаномія Беларусі з мясцовым сеймам у Вільні, 8-гадзінны рабочы дзень, перадача ўсёй зямлі ў грамадскую маёмасць.





Па-ранейшаму асноўным аб'ектам дзейнасці БСГ была вёска – партыя арганізоўвала значныя сельскагаспадарчыя забастоўкі, мітынгі, сходы. У 1906 г. у в.Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне па ініцыятыве Грамады быў праведзены нелегальны настаўніцкі з'езд. Сярод яго ўдзельнікаў быў Я.Колас.

Апошняй сумеснай акцыяй "левага блоку" стаў байкот I Дзяржаўнай думы вясной 1906 г. Прапанаваную бальшавікамі тактыку байкоту падтрымалі на Беларусі эсэры, БСГ, а таксама Бунд, Сіяністка-сацыялістычная рабочая партыя, яўрэйская сацыял-дэмакратычная партыя "Паалей-Цыён", Сацыялістычная яўрэйская партыя і інш. Аднак і Бунд, і гэтыя партыі не былі паслядоўныя. Ухіліліся ад удзелу ў выбарах эсэры і БСГ – у іх лістоўках ставіліся патрабаванні склікання Устаноўчага сходу. БСГ, зыходзячы са сваёй нацыянальнай праграмы, патрабавала аўтаноміі для Заходняга краю з сеймам у Вільні, абмяжоўвалася агульнадэмакратычнымі патрабаваннямі. Выбары ў Думу часта праходзілі пры няпоўным складзе сходаў. Аднак непаслядоўнасць дзеянняў, няправільная ацэнка палітычнай сітуацыі не дазволілі правесці байкот Думы.

Станаўленне расійскага парламентарызму ішло цяжка. Нягледзячы на ўсе выбарчыя абмежаванні, склад Думы не задавальняў самадзяржаўе, і цар разагнаў дзве першыя думы. Першая дума праіснавала 72 дні (1906), другая – 102 дні (1907). У іх складзе ад беларускіх губерняў меліся прадстаўнікі правых сіл, прычым у II Думе пераважалі дзве шавіністычна-клерыкальныя групоўкі – руская праваакцябрысцкая і польская аўтанамісцкая, якія адмаўлялі існаванне беларускага этнасу і нацыянальных інтарэсаў беларускага народа. Але наогул па краіне склад II Думы быў больш радыкальны, чым I Думы, і калі на Беларусі левыя партыі пацярпелі паражэнне, то цалкам па Расіі яны атрымалі 222 месцы (з 384).

3 чэрвеня 1907 г. быў апублікаваны маніфест аб роспуску II Думы і змяненні выбарчай сістэмы (паводле Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г., ніякі новы закон не мог дзейнічаць без ухвалення яго Думай). Гэта падзея была ацэнена грамадствам як дзяржаўны пераварот і азнаменавала паражэнне рэвалюцыі.

Расійская рэвалюцыя 1905 — 1907 гг. завяршыла сабой т. зв. першы перыяд развіцця капіталізму. Яна аказала моцнае ўздзеянне на рост рабочага і нацыянальна-вызваленчага руху не толькі ў Расіі, але і ва ўсім свеце. Былі пахіснуты асновы самадзяржаўя.

У гады рэвалюцыі існавалі свабоды слова, саюзаў, сходаў, дзейнічала Дзяржаўная дума, якой карысталіся для прапаганды сваіх поглядаў розныя палітычныя сілы грамадства. Фабрыканты і

заводчыкі былі вымушаны павысіць заработную плату, скараціць працоўны дзень, палепшыць умовы працы, зрабіць іншыя ўступкі.

Падзеі рэвалюцыі, а таксама наступных гадоў яшчэ больш выкрылі рэакцыйную сутнасць самадзяржаўя, адсутнасць у яго здольнасці да рэфарміравання. Гэта разбурыла веру ў цара-заступніка (а такія ілюзіі ў асяроддзі працоўных мас, перш-наперш рабочага класа і сялянства, існавалі), садзейнічала росту ідэйнай сталасці ўсяго дэмакратычнага лагера, набыццю палітычнага вопыту партыямі і рухамі.

Рэвалюцыя аказала глыбокі ўплыў на жыццё Расіі. Па сутнасці, з абвяшчэннем Маніфеста 17 кастрычніка, скліканнем Дзяржаўнай думы, стварэннем палітычных партый і г. д. пачаўся працэс пераўтварэння самадзяржаўя ў канстытуцыйную манархію, рух да парламентарызму. Падаўленне і паслярэвалюцыйная рэакцыя затармазілі гэты працэс, першая сусветная вайна практычна прыпыніла яго. І ўсё ж, нягледзячы на паражэнне рэвалюцыі і наступленне рэакцыі, поўнага вяртання да мінулага не магло быць.

Дзейнасць III Дзяржаўнай думы, ажыццяўленне аграрнай рэформы з'явіліся другім (пасля рэформ 60 –70-х гадоў XIX ст.) крокам пераўтварэння Расіі ў буржуазную манархію.

На шляху канстытуцыйнага будаўніцтва ў Расіі важнейшымі вехамі сталі: Маніфест 17 кастрычніка 1905 г. аб стварэнні заканадаўчага органа – Дзяржаўнай думы, асноўныя законы, прынятыя 23 красавіка 1906 г., якія вызначылі двухпалатную парламентарную сістэму і захавалі вельмі шырокія правы для імператарскай улады (без імператарскага зацвярджэння ні адзін закон не мог набыць сілу). Паступова складвалася і выбарчая сістэма.

Пасля разгону I і II Дзяржаўных дум, дзейнасць якіх працякала ва ўмовах рэвалюцыі, Мікалай II зацвердзіў новы выбарчы закон (3 чэрвеня 1907 г.), які быў у поўнай меры арыентаваны на памешчыкаў і буйную буржуазію. Выбаршчыкі, як і раней, былі падзелены на 4 курыі: землеўладальніцкую (памешчыкі), гарадскую (буржуазія), сялянскую і рабочую. Новы закон рэзка павялічваў колькасць выбаршчыкаў ад курыі землеўладальнікаў. У цэлым па Расіі яны атрымалі 50 % месцаў у Думе, у заходніх губернях – 48,5 %. Такім чынам царызм абмяжоўваў магчымасці польскіх памешчыкаў, супрацьпаставіўшы ім праваслаўных беларускіх сялян, якія былі запісаны як "рускія".

Трэба адзначыць: выбарчая сістэма, што склалася пасля рэвалюцыі, прадугледжвала зніжэнне нормы прадстаўніцтва ад нацыянальных рэгіёнаў. Для гэтага выбаршчыкі былі падзелены не толькі паводле класавага, але і нацыянальнага прынцыпу, прычым улады ігнаравалі існаванне беларускага этнасу. Гарадская курыя дзялілася на нацыянальныя аддзяленні – "рускае", "польскае", "яўрэйскае". У Віленскай губерні стваралася спецыяльная "руская" курыя. Пры гэтым праваслаўныя беларусы ўключаліся ў рускую курыю, беларусы-католікі – у польскую. Такі падыход выключаў магчымасць нацыянальна свядомым беларусам трапіць у Думу.





Антыдэмакратычная выбарчая сістэма садзейнічала таму, што пераважную большасць дэпутатаў ад беларускіх губерняў у III (1907 – 1912) і IV (1912 – 1917) Думах складалі прадстаўнікі ўрадавых партый. Левыя партыі не былі прадстаўлены наогул, а дэпутаты з сялян падтрымлівалі правыя партыі.

Быў прыняты шэраг законаў, якія з'яўляліся аб'ектыўна шавіністычнымі ў адносінах да беларускага народа. Так, з 1906 г. ва ўсіх народных школах Расійскай імперыі дзеці маглі вучыцца на сваёй роднай мове, што з'яўлялася вялікай заваёвай рэвалюцыі. Аднак гэта не закранула беларусаў і ўкраінцаў, таму што яны лічыліся рускімі і павінны былі вучыцца на рускай мове.

Паводле спецыяльнага закону выкладанне і вывучэнне каталіцкай веры ў школе пераводзілася з польскай на рускую мову. Гэта падштурхнула беларусаў каталіцкай веры запісвацца ў палякі. Існавалі і іншыя абмежаванні, напрыклад забарона выпісваць і чытаць газету "Наша ніва" настаўнікам Віленскай навучальнай акругі, святарам, ваенным, паліцэйскім, валасным і паштовым чынам, вучням сельскагаспадарчых школ. Такая мера была накіравана супраць рэвалюцыйнага і беларускага нацыянальнага руху.

Пасля рэвалюцыі сілы рэакцыі распраўляліся з працоўнымі, дзейнічалі атрады жандармерыі, чарнасоценцаў. Закрываліся прафсаюзы, якія ўзніклі ў час рэвалюцыі. У 1907 – 1910 гг. на Беларусі было забаронена больш за 40 буйных прафсаюзаў. Аж да канца 1909 г. на становішчы надзвычайнай і ўзмоцненай аховы знаходзіліся Мінская і Магілёўская губерні, Гродна, Смаргонь, Віцебск і Віцебскі павет. Неабходна мець на ўвазе, што ў гады рэакцыі, хаця і назіраўся спад рэвалюцыйнага руху, тым не менш і ў горадзе і ў вёсцы яго ўзровень быў у два разы вышэйшы, чым у перадрэвалюцыйны перыяд.

З прычыны разгрому зменшылася колькасць і баявітасць усіх левых партый – эсэраў, бальшавікоў, Бунда, меншавікоў. У сувязі з тым, што меншавікі ад рэпрэсій пакутвалі менш за іншых, іх пазіцыя ў сацыял-дэмакратычных арганізацыях узмацнілася. З 1909 г. сацыял-дэмакратычныя групы пачалі аднаўляцца. У 1912 г. аднавіў работу Палескі камітэт РСДРП, на які рашэннем ЦК былі ўскладзены функцыі абласной арганізацыі ў Паўночна-Заходнім краі.

Рэвалюцыйныя падзеі паскорылі афармленне манархічных арганізацый: таварыства "Крестьянин" (створана ў 1905 г.) і "Окраинный союз" (створаны ў 1907 г.), які быў потым пераўтвораны ў "Русское окраинное общество" – фактычныя адгалінаванні "Саюза рускага народа". "Беларускае таварыства", якое адкалолася ад таварыства "Крестьянин" у 1908 г., арыентавалася на саюз з рускім самадзяржаўем, аднак падзяляла некаторыя ідэі кадэтаў.

47. Зак. 5560

Адбылося арганізацыйнае афармленне “западнороссов”. “Западнорусизм” як ідэалогія склаўся значна раней. Гэты напрамак грамадскай думкі разглядаў беларускі народ як адну з частак рускага народа, што адрозніваецца толькі этнаграфічнымі асаблівасцямі, а тэрыторыю Беларусі – як частку адзінай вялікай Русі, адмаўляў правы беларускага народа на самастойнае развіццё. У 1911 г. у Пецярбургу ўзнікла “Заходне-Рускае таварыства” (у яго склад увайшлі буйныя землеўладальнікі, праваслаўнае духавенства, чыноўнікі). Члены таварыства арганізоўвалі лекцыі, навуковыя канферэнцыі, палітычныя сходы.

Палітыка царскага ўрада ў адносінах да Беларусі заставалася ранейшай і была накіравана на ўмацаванне тут манархічных парадкаў.

Рэвалюцыя 1905 – 1907 гг., заваяванне некаторых дэмакратычных свабод, уздым рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа, абвастрэнне класавых супярэчнасцей – усё гэта стварала перадумовы глыбокіх змяненняў у беларускім нацыянальным руху. Асабліва спрыяла яго ажыўленню права на легальны беларускі друк. Узмацнілася сувязь асветніцкіх і палітычных, легальных і нелегальных арганізацый і форм вызваленчага руху. Гэтаму садзейнічалі газеты “Наша доля” (з 14 верасня да 14 снежня 1906 г. выйшла 6 нумароў, потым была забаронена), “Наша ніва”, “Беларус”, часопісы “Лучына”, “Раніца”, палітычныя, прафесійныя, грамадска-культурныя аб’яднанні (Беларускі народны хаўрус, Гродзенскі гурток беларускай моладзі, Беларускі музычна-навукова-літаратурны гурток студэнтаў у Пецярбургу, выдавецкія, кааператыўна-гаспадарчыя суполкі і г. д.). Разам з развіццём беларускага перыядычнага друку, са з’яўленнем кніг на роднай мове, значным ажыўленнем літаратурнага і культурнага жыцця ў нацыянальна-вызваленчым руху ўсё больш інтэнсіўна ішоў працэс умацавання рэвалюцыйна-дэмакратычных сіл. Рабочыя, сяляне, вясковая інтэлігенцыя, студэнцкая моладзь, высланыя ў Сібір беларускія перасяленцы, дзеячы культуры, пісьменнікі – усе яны з’яўляліся носьбітамі прагрэсіўных тэндэнцый у гэтым руху.

Пасля дзяржаўнага перавароту 3 чэрвеня 1907 г. БСГ як партыя распалася. Кіраўнікі Грамады, якім удалося пазбегнуць арышту, сканцэнтравалі асноўную ўвагу на развіцці легальнага нацыянальна-культурнага руху. Цэнтрам гэтага руху стала газета “Наша ніва” (1906 – 1915). У склад рэдакцыі ўвайшлі былыя члены ЦК БСГ І.Луцкевіч, А.Луцкевіч, В.Ластоўскі, В.Іваноўскі, А.Уласаў (быў рэдактарам). З 1914 г. рэдактарам стаў Янка Купала.

Газета выходзіла штотыднёва ў Вільні, друкавалася кірыліцай і лацінкай, а з канца 1912 г. толькі кірыліцай. Была разлічана пераважна на вясковага чытача і нацыянальную інтэлігенцыю. Галоўнае месца ў ёй адводзілася матэрыялам, якія адлюстроўвалі нацыянальны характар беларусаў.





Газета выступіла супраць трэцячэрвеньскага выбарчага закону і наогул супраць афіцыйнай царскай палітыкі, накіраванай на падзел беларускага народа паводле веравызнання (на “рускіх” і “палякаў”), выкрывала рэакцыйны характар дзейнасці расійскіх і польскіх шавіністычных арганізацый, патрабавала выкарыстання ў школе, царкве і касцёле беларускай мовы, пераходу іх на беларускія нацыянальныя пазіцыі.

“Наша ніва” выказвалася за ўвядзенне на Беларусі земстваў, станоўча ставілася да хутарызацыі (хаця і разумела, што гэта не вырашыць праблем сялянскага малазямелля), арганізацыі вытворчых, крэдытных, гандлёвых, асветніцкіх і іншых суполак. Станоўчымі былі адносіны газеты і да дзейнасці Дзяржаўнай думы. Значнае месца (асабліва ў час рэдактарства Я.Купалы) адводзілася сацыяльным праблемам.

Пры рэдакцыі газеты, дзякуючы намаганням І.Луцкевіча, стварыўся Беларускі нацыянальны музей. “Наша ніва” вяла шырокую работу: арганізоўвала выданне зборнікаў, альманахаў “Маладая Беларусь”, выдавала “Беларускі каляндар” на 1910 – 1915 гг., сельскагаспадарчы часопіс “Саха” і часопіс для моладзі “Лучына”.

Такім чынам, дзейнасць газеты адыгрывала важную ролю ў справе кансалідацыі беларускай нацыі, развіцця яе мовы і культуры і асабліва ў фарміраванні самасвядомасці беларусаў. Магчыма, менавіта яна ўпершыню ахапіла ўвесь край паняццем “Беларусь”.

Дзесяцігоддзе “Нашай нівы” называюць “нашаніўскім перыядам” у гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Намаганнямі яе выдаўцоў і актыву выхавана і далучана да вызваленчай барацьбы плеяда пісьменнікаў-класікаў, буйных грамадска-палітычных дзеячаў, нацыянальных ідэолагаў, сярод якіх Янка Купала, Якуб Колас, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны і шмат іншых.

Дэмакратычныя сілы дзейнічалі і ўсё больш актыўна набіралі сілу. Беларускі нацыянальны рух з’яўляўся народніцкім. І хаця ён не быў шырокім, але аб’ядноўваў лепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі.

# ГЛАВА 3

# БЕЛАРУСЬ У ГАДЫ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ. ЛЮТАЎСКАЯ БУРЖУАЗНА-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ

## § 1. Пачатак і прычыны першай сусветнай вайны. Адносіны да вайны розных класаў і партый

Першая сусветная вайна пачалася 1 жніўня 1914 г. па новаму стылю. Галоўнай яе прычынай з'явіліся супярэчнасці паміж буйнейшымі імперыялістычнымі краінамі. Прага да сусветнага панавання была важнейшым каталізатарам палітыкі гэтых краін. Англія, напрыклад, жадала стварыць яшчэ больш "Вялікую Брытанію", каб падпарадкаваць сабе ўвесь свет. Германія таксама імкнулася стаць "Вялікай Германіяй", куды павінны былі ўвайсці Аўстра-Венгрыя, Балканы, Прыбалтыка, Скандынавія, Галандыя, частка Францыі. Акрамя таго, Германія прагнула мець вялізную германскую калонію ў Афрыцы. Францыя спадзявалася не толькі вярнуць Эльзас і Латарынгію, але і захапіць Рурскі басейн, пашырыць свае ўладанні ў Афрыцы. У царскай Расіі былі свае інтарэсы ў Турцыі, Персіі, Галіцыі. Яна імкнулася авалодаць пралівамі Басфор і Дарданелы. Аўстра-Венгрыя хацела замацаваць свой уплыў у Балгарыі і Румыніі, падпарадкаваць Сербію. Італьянскія імперыялісты імкнуліся вярнуць славу старажытнага Рыма, падпарадкаваць сабе Албанію, перадзяліць каланіяльныя ўладанні ў Афрыцы. Злучаныя Штаты Амерыкі марылі ўзмацніць свой уплыў у Заходнім паўшар'і, а таксама ў Кітаі. Японія мела на мэце захапіць усю Усходнюю Азію і значную частку Ціхага акіяна.

Падрыхтоўка да здзяйснення гэтых планаў абвастрала існуючыя і нараджала новыя супярэчнасці. Галоўнай была супярэчнасць паміж старой каланіяльнай Англіяй і хутка набіраючай моц Германіяй, саперніцтва паміж Германіяй і Расіяй з-за ўплыву на Балканах, а таксама спрэчкі з-за таго, што Германія хацела адарваць ад Расіі і захапіць Польшчу, Фінляндыю, Беларусь і Украіну. Сутыкаліся інтарэсы і іншых краін: Францыі і Германіі, Італіі і Аўстрыі і г. д. У сувязі з гэтым у канцы XIX – пачатку XX ст. утварыліся два саюзы імперыялістычных краін: Германія – Італія – Аўстра-Венгрыя (Траісты саюз) і Англія – Францыя – Расія (Антанта). Гэтыя саюзы пачалі ўзмоцнена рыхтавацца да вайны. З 1908 па 1913 г. расходы на





ваенныя мэты былі павялічаны: у Германіі ў 1,6 раза, Англіі –1,3, Расіі – 3,7, Францыі – 4,2, Аўстра-Венгрыі – 13, у Італіі – у 16 разоў.

Былі створаны шматмільённыя арміі. Узброеныя сілы германа-аўстрыйскага блока налічвалі больш за 3,5 млн чалавек (193 дывізіі), а Антанты – больш за 6 млн (291 дывізія). Панаванне ў краінах гэтых блокаў буйных манаполій і барацьба паміж імі прывялі да рэзкага ўзмацнення нераўнамернасці развіцця капіталістычных краін. У выніку на сусветнай арэне змяніліся суадносіны эканамічных і ваенных сіл. Краіны, якія абагналі ў развіцці сваіх канкурэнтаў, дабіваліся новых рынкаў збыту, новых сфер выкарыстання капіталу. Але ў сувязі з тым, што да пачатку XX ст. свет быў падзелены паміж буйнейшымі імперыялістычнымі краінамі, новы яго перадзел мог скончыцца толькі вайной.

Акрамя эканамічных сур'ёзнай палітычнай прычынай вайны было імкненне задушыць узросшы за апошняе дзесяцігоддзе рэвалюцыйны рух. Расійская рэвалюцыя 1905 – 1907 гг. садзейнічала ўзмацненню барацьбы працоўных Еўропы і Амерыкі, абуджэнню нацыянальна-вызваленчага руху народаў Усходу. Імперыялісты нацкоўвалі адны народы на другія, каб адцягнуць працоўных ад рэвалюцыйнай барацьбы.

Падставай для развязвання вайны з'явіліся супярэчнасці паміж Аўстра-Венгрыяй і Сербіяй, што ўзніклі ў выніку забойства сербскімі нацыяналістамі наследніка аўстра-венгерскага трона Франца Фердынанда. Аўстра-Венгрыя аб'явіла вайну Сербіі. Расія пачала мабілізацыю войска. У сувязі з гэтым Германія аб'явіла вайну Расіі, а затым і Францыі, захапіла Бельгію і Люксембург. З другога боку, Англія, каб зберагчы свае каланіяльные ўладанні, аб'явіла вайну Германіі. Разам з Англіяй у вайну ўступілі яе дамініёны Аўстралія, Канада, Новая Зеландыя і калонія Індыя. На баку Антанты выступіла Японія, а ў падтрымку Германіі – Турцыя. Пачалася сусветная вайна, якая працягвалася 4 гады і 4 месяцы і дорага абышлася чалавецтву. Паводле няпоўных звестак, было забіта, паранена і скалечана 30 млн чалавек. Ваенныя расходы дзяржаў склалі 416 млрд рублёў. У вайне ўдзельнічала 38 краін з насельніцтвам звыш 1,5 млрд чалавек, г.зн. 75 % усяго насельніцтва зямнога шара.

Вайна, распачатая манапалістычнай буржуазіяй, не вырашала задач нацыянальнага развіцця ніводнай дзяржавы (сваю незалежнасць адстойвала толькі Сербія), не адпавядала інтарэсам працоўных, была з усіх бакоў захопніцкай. Урады краін-удзельніц вайны стараліся пераканаць свае народы ў тым, што яна вядзецца ў мэтах абароны радзімы.

Кіраўнікі II Інтэрнацыянала, замест таго, каб выкрыць хлусню і здрадніцтва імперыялістычнай буржуазіі, пайшлі на змову з ёй. Адмовіўшыся ад рашэнняў, прынятых на Штутгарцкім, Капенгагенскім і Базельскім кангрэсах, накіраваных супраць вайны,

48. Зак. 5560

ў турмах, ссылках або за мяжой. Меншавіцкія і эсэраўскія арганізацыі дзейнічалі свабодна.

Народ, які пасылаў ў Саветы сваіх прадстаўнікоў, спадзяваўся на тое, што яны выканаюць усе яго патрабаванні. Аднак меншавіцка-эсэраўскае кіраўніцтва Саветамі баялася ўзяць уладу ў свае рукі, пайшло на змову з буржуазіяй, і ў выніку быў створаны Часовы буржуазны ўрад.

Гэта адбылося наступным чынам. У той жа дзень, калі быў выбраны Петраградскі Савет (27 лютага), утвораны таксама з дэпутатаў IV Дзяржаўнай думы Часовы камітэт на чале з адным з кіраўнікоў акцябрыстаў М.Радзянкам. Мэта Часовага камітэта – “навесці парадак у краіне”, што азначала ўзяць усю ўладу ў свае рукі. Але зрабіць гэта не ўдалося. Пад націскам рэвалюцыйных мас Петраградскі Савет выдаў 1 сакавіка 1917 г. загад, паводле якога ўсе вайсковыя злучэнні пераходзілі ў падпарадкаванне Савета. Тады Часовы камітэт вырашыў дамовіцца з Петраградскім Саветам. У ноч з 1 на 2 сакавіка 1917 г. Часовы камітэт запрасіў на сваё пасяджэнне прадстаўнікоў Петраградскага Савета. Эсэра-меншавіцкія лідэры, не абмеркаваўшы гэтага пытання на пасяджэнні Савета, прапанавалі Часоваму камітэту Дзяржаўнай думы ўтварыць Часовы ўрад. 2 сакавіка на аснове пагаднення паміж Часовым камітэтам Думы і меншавіцка-эсэраўскім кіраўніцтвам Петраградскага Савета быў утвораны буржуазны Часовы ўрад на чале з князем Г.Львовым. Пасаду міністра замежных спраў заняў лідэр кадэтаў П.Мілюкоў, вайсковых спраў – лідэр акцябрыстаў А.Гучкоў. Іншыя члены ўрада таксама былі вядомымі дзеячамі кадэтаў і акцябрыстаў. Выключэннем стаў сацыяліст А.Керанскі, які заняў пасаду міністра юстыцыі і адначасова з'яўляўся намеснікам старшыні Петраградскага Савета.

Так утварылася ў краіне двоеўладдзе, перапляценне дзвюх дыктатур: з аднаго боку – дыктатура буржуазіі, якую ўвасабляў Часовы ўрад, з другога – рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства – Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Улічваючы значную канцэнтрацыю рэвалюцыйных сіл на Беларусі і на Заходнім фронце, ворагі рэвалюцыі, якія групаваліся вакол Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага, штабоў Заходняга фронту і Мінскай ваеннай акругі, усяляк спрабавалі ізаляваць гэтыя сілы ад гістарычных падзей у Петраградзе. Яны хацелі ўтаіць ад працоўных Беларусі, што ў сталіцы імперыі адбылася рэвалюцыя. Са Стаўкі і штаба Заходняга фронту рассылаліся загады, у якіх патрабавалася ад усіх начальнікаў вайсковых часцей не дапускаць з Петраграда агітатараў, а пры іх з'яўленні затрымліваць і судзіць палявым судом. Камандуючы фронтам генерал А.Эверт даводзіў да ведама афіцэраў, што салдаты павінны быць далей ад палітыкі і не іх справа прыслухоўвацца да таго, што робіцца ў Расіі. Распаўсюджваліся чуткі, нібыта цар не звергнуты, а толькі захварэў. Манархісты і іх прыхільнікі ўсімі сіламі чапляліся за ўладу і імкнуліся ператварыць Паўночны і Заходні франты ў сваю





апору. Камандуючыя гэтымі франтамі гатовы былі пасляць найбольш надзейныя часці ў Петраград для падаўлення рэвалюцыі. Ворагі рэвалюцыі не спыняліся нават перад нацыянальнай здрадай. Генерал М.Ваейкаў заявіў: “Цяпер застаецца адно: адкрыць Мінскі фронт немцам. Няхай германскія войскі прыйдуць, каб уціхамірыць гэтую сволач”.

Аднак задумы манархістаў не маглі здзейсніцца. Весткі пра звяржэнне царскага самадзяржаўя рознымі шляхамі пранікалі ва ўсе куткі Беларусі і вайсковыя часці Заходняга фронту. Рабочыя, сяляне, салдаты віталі перамогу пралетарыяту Петраграда і выказвалі намер усімі сіламі падтрымаць рэвалюцыю. Яны спадзяваліся, што з перамогай рэвалюцыі скончыцца вайна і будуць вырашаны іх жыццёвыя пытанні. Салдаты Заходняга фронту ў адпаведнасці з загадам № 1 Петраградскага Савета стваралі ў вайсковых часцях салдацкія камітэты, адхілялі ад камандавання і нават арыштоўвалі ненавісных афіцэраў. У некаторых палках і дывізіях салдаты дзейнічалі яшчэ больш рашуча. Так, салдаты 709-га і 710-га палкоў і 178-й пяхотнай дывізіі, што дыслацыравалася ў вёсках каля Рагачова, адмовіліся падпарадкоўвацца афіцэрам, якія рыхтавалі іх да адпраўкі на фронт. Салдаты гэтых палкоў разам з сялянамі мясцовых вёсак канфіскавалі маёмасць у памешчыкаў, размеркавалі паміж сялянамі жывёлу, сельскагаспадарчы інвентар, збожжа, муку, мэблю агульным коштам на 1 млн рублёў. Каб задушыць рэвалюцыйныя выступленні салдат, у Рагачоўскі павет былі накіраваны георгіеўскі батальён і дзве казацкія сотні, а таксама зняты з фронту з-пад Мінска 2-гі лейб-уланскі полк. Удзельнікі паўстання былі пакараны.

Працоўным Мінска стала вядома аб перамозе Лютаўскай рэвалюцыі 1 сакавіка 1917 г. Адразу ж ноччу з 1 на 2 сакавіка адбылася нарада бальшавікоў горада, на якой прысутнічалі М.В.Фрунзе, В.Г.Кнорын, К.І.Ландар, С.Р.Магілеўскі і інш. На гэтай нарадзе было вырашана мабілізаваць усе сілы, каб падтрымаць піцерскіх рабочых і салдат. У Мінску пачалі ўтварацца ўзброеныя атрады, прафсаюзы і іншыя арганізацыі працоўных. Баявыя дружыны мінскіх рабочых 2 сакавіка вызвалілі з турмы 400 палітычных зняволеных. Былі арыштаваны камандуючы фронтам, начальнік штаба, камендант горада. Створаная 4 сакавіка міліцыя, якую ўзначаліў М.В.Фрунзе, раззброіла паліцыю і жандармерыю, узяла пад ахову ўрадавыя ўстановы, пошту і тэлеграф.

Асаблівая ўвага была звернута на ўтварэнне Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У Мінску 4 сакавіка 1917 г. адбылося першае пасяджэнне выбраных дэпутатаў і прадстаўнікоў ад прадпрыемстваў, на якім утвораны Мінскі Савет рабочых дэпутатаў і Часовы выканаўчы камітэт. Мінскі Савет павіншаваў усіх працоўных з перамогай і заклікаў да інтэрнацыянальнага адзінства, арганізаванасці ў барацьбе за светлую будучыню. Каб аб'яднаць сілы пралетарыяту з рэвалюцыйнай арміяй, быў створаны адзіны Мінскі Савет рабочых і салдацкіх

адносінах да вайны. Сутнасць яе заключалася ў наступным: калі вайну прадухіліць стала немагчыма, пралетарыяту ваюючых краін неабходна дабіцца, каб ператварыць імперыялістычную вайну ў вайну грамадзянскую. Гэта быў асноўны лозунг маніфеста. Каб здзейсніць яго, планаваліся наступныя захады: адмаўленне грамадзянскага міру, безумоўнае адмаўленне ад ваенных крэдытаў, выхад сацыялістаў з буржуазных міністэрстваў, стварэнне нелегальных партыйных арганізацый, дзе няма канстытуцыйных свабод, падтрымка братання на фронце салдат ваюючых армій, падтрымка рэвалюцыйных выступленняў працоўных.

Другім лозунгам маніфеста бальшавікоў быў лозунг паражэння "сваіх" урадаў у імперыялістычнай вайне. Змест гэтага лозунга заключаўся ў тым, што ваенныя няўдачы на фронце будуць аслабляць урады ваюючых краін і тым самым садзейнічаць разгортванню рэвалюцыйнай барацьбы і звяржэнню гэтых урадаў.

Такі лозунг атрымаў неадназначную ацэнку. Г.В.Пляханаў, напрыклад, лічыў, што выступленне супраць свайго ўрада прывядзе да перамогі Германіі ў вайне, а гэта, у сваю чаргу, перашкодзіць рэвалюцыйнай барацьбе. К.Каўцкі таксама быў супраць разгортвання класавай барацьбы ў час вайны. Рэвалюцыя, на яго думку, перашкодзіць абараняць сваю Айчыну ад ворагаў. У.І.Ленін жа лічыў, што абараняць Айчыну ў імперыялістычнай вайне рускі пралетарыят зможа толькі тады, калі будзе змагацца ўсімі рэвалюцыйнымі сродкамі супраць манархіі, памешчыкаў і капіталістаў сваёй Айчыны.

Трэцім лозунгам бальшавікоў быў заклік да поўнага разрыву з II Інтэрнацыяналам, стварэння III, Камуністычнага Інтэрнацыянала. Трэба адзначыць, што яго не падтрымала ніводная партыя. Чаму?

**Па-першае,** нельга было памылкі кіраўнікоў сацыял-дэмакратыі па пытаннях вайны пераносіць на ўвесь Інтэрнацыянал. У сацыялістычных партыях Інтэрнацыянала меліся і левыя групоўкі, якія вялі барацьбу супраць вайны і сацыял-шавінізму. Гэта саюз "Спартак" у Германіі, група "трыбуністаў" у Галандыі, сацыял-дэмакратычная партыя ў Балгарыі і інш. І хоць гэтыя партыі і групоўкі былі яшчэ недастаткова арганізаваныя і паслядоўныя, тым не менш яны адыгралі вялікую ролю ў барацьбе супраць вайны, асабліва кіраўнікі германскай групы "Спартак" – К.Лібкнехт, Р.Люксембург, К.Цэткін, Ф.Мерынг, В.Пік і інш. Акрамя таго, II Інтэрнацыянал зрабіў вялікі ўклад у развіццё сусветнага рабочага руху, ва ўмацаванне рабочых партый. Перад вайной вельмі актуальныя былі тэзісы Інтэрнацыянала аб скарачэнні зброі і войска, аб падтрымцы нацыянальна-вызваленчых рухаў прыгнечаных народаў, аб барацьбе супраць захопніцкіх войнаў і інш. Усё гэта не давала падставы назваць II Інтэрнацыянал поўнасцю апартуністычным і заклікаць да разрыву з ім.

Па-другое, у выніку якасных перамен у эканоміцы, якія адбыліся ў сувязі з уступленнем капіталістычных краін у стадыю імперыялізму, стала траціць сэнс галоўная ідэя рэвалюцыйнага марксізму – аб непазбежным эканамічным краху капіталізму, аб яго знішчэнні ў выніку сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэту ідэю не падтрымалі вядомыя дзеячы сацыял-дэмакратыі (К.Каўцкі і інш.). Яны прыйшлі да ідэі сацыялістычных пераўтварэнняў не праз насілле, а праз рэформы пры апоры на шырокія дэмакратычныя колы. Менавіта гэта ідэя стала пануючай у замежнай сацыял-дэмакратыі ў той час.





## § 2. Беларусь у гады першай сусветнай вайны

У пачатку вайны беларускія губерні былі аб'яўлены на ваенным становішчы. На іх тэрыторыі ўстанаўліваўся жорсткі ваенна-паліцэйскі рэжым. Забараняліся сходы, шэсці, маніфестацыі, уводзілася ваенная цэнзура. Працоўныя Беларусі выказвалі глыбокую незадаволенасць такім становішчам. Гэта незадаволенасць асабліва праявілася ў перыяд мабілізацыі насельніцтва ў войска ў чэрвені —ліпені 1914 г. У многіх паветах Беларусі адбыліся стыхійныя выступленні прызыўнікоў. У Мінскай губерні антываеннымі выступленнямі былі ахоплены пяць паветаў. Разгромы памешчыцкіх маёнткаў адбыліся ў Навагрудскім, Сенненскім, Ігуменскім, Мазырскім і іншых паветах. Усяго ў Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай губернях у дні ліпеньскай мабілізацыі адбылося больш за 20 выпадкаў разгрому памешчыцкіх маёнткаў. Урад люта распраўляўся з удзельнікамі гэтых выступленняў. Па прыгаворах ваенна-палявых судоў многія з іх былі пакараны смерцю. Жорсткімі рэпрэсіямі і масавымі мабілізацыямі рабочых і сялян царскія ўлады імкнуліся ачысціць прыфрантавую паласу ад рэвалюцыйных элементаў.

Асабліва шалёнымі былі ганенні на сацыял-дэмакратычныя арганізацыі. Падвергліся разгрому Палескі камітэт РСДРП, арганізацыі ў Мінску, Магілёве, Брэсце, Віцебску, Слуцку і іншых гарадах. Царскія ўлады разганялі прафсаюзы, асветныя таварыствы і іншыя масавыя арганізацыі працоўных. У час усеагульнай мабілізацыі ўсе сілы жандармерыі і паліцыі былі прыведзены ў баявую гатоўнасць. У "падтрыманні парадку" ў прыфрантавой паласе ўдзельнічалі ўсе сілы, што хлынулі сюды з розных раёнаў Расіі і групаваліся вакол Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага, штаба Мінскай ваеннай акругі, штаба Заходняга фронту. Амаль усе населеныя пункты Беларусі былі запоўнены царскімі войскамі. У адным толькі Мінску вайскоўцаў і чыноўнікаў ваенных ведамстваў было 150 тыс. чалавек.

З лета 1915 г. значная частка тэрыторыі Беларусі стала арэнай ваенных дзеянняў. Як гэта адбылося?

Расія, згодна з распрацаваным планам ваенных дзеянняў, меркавала нанесці галоўны ўдар па Аўстра-Венгрыі ў напрамку Галіцыі, што давала магчымасць пранікнуць на Балканы і да праліваў Басфор

і Дарданелы. Здзяйсненню плана магло паспрыяць тое, што на пачатку вайны галоўныя сілы Германіі былі кінуты супраць Францыі і рухаліся ў напрамку да Парыжа. Францыя запатрабавала ад царскага ўрада выканаць абавязацельствы франка-рускай канвенцыі 1907 г. і накіраваць галоўныя сілы супраць Германіі. Не спыняючы дзеянняў супраць Аўстра-Венгрыі, рускае камандаванне, падпарадкоўваючыся патрабаванням Антанты, 17 жніўня 1914 г. рушыла свае 1-ю і 2-ю арміі ў наступленне на Усходнюю Прусію. Нямецкае камандаванне вымушана было перакінуць частку сваіх войск з Заходняга фронту на Усходні. У выніку баявых дзеянняў расійскія арміі пацярпелі некалькі паражэнняў і былі выцеснены з Усходняй Прусіі.

На Паўднёва-Заходнім фронце 3-я і 7-я расійскія арміі пасля часовых поспехаў таксама пацярпелі паражэнне, пакінулі Галіцыю, страціўшы каля 600 тыс. чалавек палоннымі, забітымі, параненымі. Захапіўшы Галіцыю, Германія сканцэнтравала галоўныя сілы на польскім тэатры ваенных дзеянняў, каб акружыць і знішчыць сем расійскіх армій. Камандуючы Паўночна-Заходнім фронтам генерал М.Аляксееў быў вымушаны вывесці свае арміі з польскага "мяшка", церпячы паражэнне за паражэннем. Саюзнікі Расіі – Англія і Францыя – нічога не зрабілі, каб аблегчыць становішча расійскіх войск. Пры наступленні на Варшаву германскае камандаванне ўпершыню выкарыстала газавую атаку, у выніку якой загінула 9 тыс. расійскіх салдат. Пазбягаючы акружэння ў Польшчы, у ліпені 1915 г. рускія здалі немцам Варшаву.

Фронт імкліва набліжаўся да Беларусі. У жніўні 1915 г. пачалося нямецкае наступленне ў накірунку Коўна – Вільня – Мінск. У пачатку верасня 1915 г. расійская армія пакінула Вільню, Гродна, Брэст і іншыя гарады Заходняй Беларусі. Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага была пераведзена з Баранавіч у Магілёў. У кастрычніку 1915 г. фронт стабілізаваўся на лініі Дзвінск – Паставы – Баранавічы – Пінск. Каля паловы тэрыторыі Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй, у тым ліку населеныя пункты Гродна, Ашмяны, Смаргонь, Ліда, Слонім, Навагрудак, Баранавічы, Ваўкавыск, Пружаны, Брэст, Кобрын, Пінск.

Паражэнне расійскай арміі на франтах было вынікам тэхніка-эканамічнай адсталасці Расіі. Эканоміка краіны, слаба развіты транспарт не маглі забяспечыць патрэбы арміі і тылу. Перад пачаткам вайны Расія займала пятае месца ў свеце па выплаўцы сталі, шостае – па здабычы вугалю, пятнаццатае – па вырабу электраэнергіі. Амаль палову станкоў, машын, абсталявання даводзілася купляць у іншых краінах. Расія не мела сваёй авіяцыйнай прамысловасці. У зародкавым стане знаходзіліся аўтамабілебудаванне, хімічная прамысловасць, электраметалургія, вытворчасць многіх каляровых металаў.

Слабы быў і ваенна-эканамічны патэнцыял краіны. Расія не ачуняла яшчэ ад паражэння ў руска-японскай вайне, якая прывяла да значнага аслаблення яе ўзброеных сіл. Большая частка расійскага флоту была





знішчана: японцы патапілі або захапілі 15 браняносцаў, 11 крэйсераў, 22 эсмінцы.

З першых дзён вайны адчуваўся востры недахоп узбраення і боепрыпасаў. Расійская армія была дрэнна забяспечана артылерыяй і снарадамі. Не хапала нават вінтовак і патронаў да іх. У 1915 г. дэфіцыт вінтовак склаў 11 млн, патронаў – больш за 2 млрд штук. На Заходнім фронце, што праходзіў праз тэрыторыю Беларусі, не хапала каля 500 тыс. вінтовак. У запасных часцях і пунктах камплектавання адна вінтоўка прыпадала на 13 чалавек.

У выніку недахопу ўзбраення і боепрыпасаў, адсутнасці дапамогі ад англа-французскіх саюзнікаў расійская армія несла велізарныя страты. У перыяд летніх баёў 1915 г. яны былі настолькі значныя, што ў карпусах засталося ўсяго па некалькі тысяч салдат: у грэнадзёрскім – каля 2400, у 2-м стралковым – 5 тыс., у 15-м – каля 8 тыс. (штатная ж колькасць салдат і афіцэраў пяхотнага корпуса складала каля 50 тыс. чалавек).

Нягледзячы на велізарныя страты і адсутнасць узбраення, царскі ўрад без перапынку гнаў на фронт няўзброеных салдат. Паводле звестак аддзела камплектавання, з 15 жніўня да 9 верасня 1915 г. на Заходні фронт было накіравана 590 няўзброеных рот.

Вайна прынесла незлічоныя бедствы беларускаму народу. Гінула мірнае насельніцтва, руйнаваліся гарады і вёскі, знішчаліся матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці.

У сувязі з наступленнем германскіх войск велізарная колькасць бежанцаў пацягнулася на ўсход. З Польшчы, Літвы і заходніх паветаў Беларусі рушыла ў радах бежанцаў больш за 1320 тыс. чалавек. Лавіна бяздомных людзей расцягнулася па дарогах на сотні кіламетраў праз усю Беларусь ад Буга да Дняпра. Многія тысячы людзей, асабліва старыя і дзеці, знясіленыя ад голаду, гінулі ў дарозе.

Да восені 1915 г. бежанцы запоўнілі ўсю ўсходнюю частку Беларусі. Становішча гэтых людзей было надзвычай цяжкім. Яны ператварыліся ў масу жабракоў, галодных і бяздомных, пазбаўленых сродкаў існавання. Тысячы згаладалых, змучаных людзей гінулі ад розных эпідэмій.

На захопленай германскімі вайскамі тэрыторыі Беларусі быў уведзены жорсткі рэжым дэспатызму, рабаўніцтва і гвалту. Жыхары ва ўзросце ад 15 да 60 гадоў павінны былі плаціць падушны падатак. Акрамя таго, падатак браўся з бальніц, рынкаў, відовішчных устаноў і г. д.

Сяляне захопленых паветаў абавязаны былі здаваць усё зерне, скуры, воўну, масла, пражу і інш. Нямецкія войскі чынілі зверствы і гвалт, тысячы мірных грамадзян вывозілі на работу ў Германію. Акупанты здзекаваліся над нацыянальнымі пачуццямі беларускага народа, знішчалі гістарычныя і архітэктурныя помнікі, школы, цэрквы.

Асабліва цяжка адбілася вайна на гаспадарцы Беларусі. Былі разбураны многія прамысловыя прадпрыемствы, спалены сотні вёсак.

Царскі ўрад не здолеў арганізаваць эвакуацыю абсталявання прамысловых прадпрыемстваў. Усяго з Беларусі было вывезена 432 прамысловыя прадпрыемствы, г. зн. каля 1/3 тых, што працавалі ў 1913 г. У незахопленых паветах Беларусі многія галіны прамысловасці з-за адсутнасці сыравіны, паліва, кваліфікаваных рабочых скарацілі або зусім спынілі сваю вытворчасць. У 1913 – 1917 гг. колькасць буйных (цэнзавых) прадпрыемстваў скарацілася з 829 да 297, а колькасць рабочых – з 37,7 тыс. да 25,1 тыс. У 1917 г. доля прадукцыі мясцовай прамысловасці, прызначанай для цывільнага насельніцтва, складала толькі 15 – 16 % даваеннага ўзроўню.

Разам з тым паасобныя галіны (швейная, абутковая, металаапрацоўчая, хлебапякарна-сухарная і некаторыя інш.), што выконвалі ваенныя заказы, значна павялічылі выпуск прадукцыі. У гады вайны адбыліся змены галіновай структуры прамысловасці Беларусі. Многія існаваўшыя фабрыкі і заводы і зноў створаныя часовыя прадпрыемствы і майстэрні абслугоўвалі армію. На вытворчасць боепрыпасаў, транспартных сродкаў і іншага вайсковага рыштунку былі пераключаны ўсе прадпрыемствы металаапрацоўчай прамысловасці. У Мінску снарады і гранаты рабілі 5 заводаў. Гранаты і чыгунныя снарады выпускалі заводы Гомеля. Бомбы выраблялі Рэчыцкі і Аршанскі драцяна-цвіковыя заводы. У Гомелі, Оршы, Віцебску, Мінску і іншых пунктах былі створаны майстэрні для вырабу і рамонту зброі і транспартных сродкаў.

Шырокае развіццё атрымала на Беларусі хлебапякарна-сухарная вытворчасць. Прадпрыемствы па выпуску гэтай прадукцыі былі адкрыты ў Віцебску, Мінску, Магілёве, Гомелі, Оршы, Нова-Барысаве. У выніку колькасць рабочых у гэтай галіне ў параўнанні з 1914 г. павялічылася амаль у 5 разоў, а аб'ём вытворчасці – у 4,7 раза.

Вялікія заказы ваеннага ведамства па забеспячэнні арміі вопраткай і абуткам выконвала ў час вайны беларуская прамысловасць. Аб'ём вытворчасці павялічыўся на 25—40 % на Віцебскай ільнопрадзільнай фабрыцы "Дзвіна", Дубровенскай баваўнапрадзільнай фабрыцы, Магілёўскай панчошнай фабрыцы і інш. Усе дробныя майстэрні, а таксама саматужнікі выконвалі заказы па пашыву вайсковага адзення, абутку, вырабу прадметаў вайсковага рыштунку. Было адкрыта шмат новых майстэрань па рамонту армейскага абмундзіравання.

На тэрыторыі Беларусі на ўсіх прадпрыемствах, што абслугоўвалі фронт, працавала вялікая колькасць рабочых, мабілізаваных з Расіі. Толькі ў артылерыйскіх і авіяцыйных парках Гомеля было каля 10 тыс. такіх рабочых. У выніку на Беларусі павялічылася колькасць кадравага пралетарыяту і яго канцэнтрацыя. Напярэдадні Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Мінску налічвалася 30 тыс. рабочых, Гомелі – каля 25, Віцебску – 18, Магілёве – 7 тыс. Усе рабочыя прадпрыемстваў, якія выпускалі прадукцыю для арміі, былі пастаўлены пад кантроль ваенных ведамстваў. На іх пашырыліся спецыяльныя





правілы, паводле якіх устанаўліваліся строгі рэжым і дысцыпліна. Работа на гэтых прадпрыемствах вызначалася як спецыфічны від вайсковай службы. За спыненне работы без дазволу адміністрацыі прадпрыемства і вайсковых улад рабочых адпраўлялі ў штрафныя роты. Рабочы дзень не рэгламентаваўся. Былі адменены выхадныя і святочныя дні, шырока практыкаваліся звышурочныя работы і нізкааплачваемая праца жанчын, падлеткаў і дзяцей. У пачатку 1917 г. жанчыны, падлеткі і дзеці складалі 58,4 % усіх фабрычных рабочых Беларусі.

У выключна цяжкім становішчы апынулася сельская гаспадарка Беларусі. Больш як палова ўсіх працаздольных мужчын беларускай вёскі былі мабілізаваны і адпраўлены на фронт. Толькі з Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў у армію прызвалі 634 400 чалавек. Акрамя гэтага, на абаронныя работы: капанне акопаў, будаўніцтва мастоў, рамонт дарог, ахову вайсковых аб'ектаў і г. д. – прымусова пасылалася ўсё насельніцтва прыфрантавой паласы. У адной толькі Мінскай губерні на прымусовых работах у жніўні 1916 г. было занята 219 300 чалавек. Цяжкім ярмом для сялян Беларусі з'яўляліся масавыя рэквізіцыі жывёлы, прадуктаў харчавання і фуражу. У Віцебскай губерні з 1 чэрвеня 1914 г. па 1 чэрвеня 1915 г. было рэквізавана для арміі 120 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, у выніку пагалоўе гэтай жывёлы зменшылася на 21,5 %. За гады вайны значна скараціліся пасяўныя плошчы Беларусі. З 1913 па 1917 г. плошчы пасеваў жыта скараціліся на 18,7 %, пшаніцы – на 22,1, бульбы – на 34,2 %.

З-за моцнага заняпаду сельскай гаспадаркі амаль перасталі паступаць на рынак прадметы першай неабходнасці, што выклікала рост дарагоўлі, хуткае зніжэнне жыццёвага ўзроўню народа. Цэны на прадукты харчавання і адзенне на Беларусі да 1917 г. павялічыліся ў 5 – 8 разоў у параўнанні з 1913 г.

Цяжкае становішча, у якім апынуліся працоўныя Беларусі, вымушала іх весці барацьбу за сваё існаванне. Рабочыя і сяляне ўжо ў пачатку вайны пазбавіліся патрыятычнага чаду, якім царскія ўлады прыкрывалі захопніцкія мэты вайны. Адбыўся якасны зрух у грамадскай свядомасці. Пачынаючы з 1915 г. нарасталі нарастанне рабочага руху. У красавіку 1915 г. адбылося выступленне рабочых і служачых Гомельскага чыгуначнага вузла. Летам таго ж года баставалі рабочыя дэпо Лібава-Роменскай чыгункі ў Гомелі, а ў 1916 г. – дэпо станцый Маладзечна і Віцебска. Усяго ў 1916 г. стачачны рух ахапіў 11 населеных пунктаў Беларусі, у якім удзельнічала 1800 чалавек. Арганізатараў стачак арыштоўвалі і адпраўлялі на фронт. Асноўным патрабаваннем стачачнікаў з'яўлялася павышэнне заработнай платы.

Аднак трэба адзначыць, што стачкі на Беларусі ў гэты час адбываліся разрознена і, як правіла, у іх удзельнічала толькі частка пралетарыяў. Масавасці рабочы рух не набыў. Дзейнасці якіх-небудзь палітычных арганізацый і плыняў ва Усходняй Беларусі так-

сама неназіралася. Тлумачылася гэта прыфрантавым становішчам Беларусі, перанасычанасцю яе тэрыторыі войскамі, паліцыяй, жандармерыяй.

Больш шырокі размах на Беларусі ў гады вайны атрымаў сялянскі рух. Ён выліваўся ў масавыя пагромы памешчыцкіх маёнткаў, разрабаванне харчовых магазінаў і лавак. Гэты рух у пачатку вайны ахапіў 20 з 35 паветаў Беларусі і сведчыў аб адвечнай нянавісці сялян да прыгнятальнікаў. Аднак гэты рух нельга лічыць рэвалюцыйным, як сцвярджалася раней. Па сутнасці мелі месца стыхійныя пагромы, якія суправаджаліся рабаваннем маёмасці памешчыкаў і гандляроўяўрэяў. Найбольш масавым сялянскі рух быў у Сенненскім, Мазырскім, Ігуменскім, Рэчыцкім, Мінскім, Лепельскім паветах. Парадак наводзілі карныя атрады і ваенна-палявыя суды. Па іх прыгаворах у Сенненскім, Мазырскім і Ігуменскім паветах былі павешаны 16 чалавек, многія трапілі на катаргу і ў арыштанцкія роты.

Значна актывізаваўся сялянскі рух у 1915 г. у сувязі з перанясеннем баявых дзеянняў на тэрыторыю Беларусі, ростам рэквізіцый і ваенных павіннасцей. Сярод сялян узмацніліся антыпамешчыцкія, антываенныя і антыўрадавыя настроі. На працягу 1915 г. адбылося 99 сялянскіх выступленняў. Аднак у 1916 – 1917 гг. колькасць сялянскіх выступленняў значна зменшылася. У 1916 г. іх было 60, а ў студзені – лютым 1917 г. толькі 7. Адной з прычын спаду сялянскага руху было тое, што ў лістападзе 1915 г. урад прыняў закон аб спыненні на час вайны землеўпарадкавальных работ, звязаных з хутарызацыяй, якія выклікалі раней супраціўленне з боку большасці сялян. Новыя даследаванні сялянскага руху на Беларусі ў час вайны сведчаць і аб тым, што тут амаль не было выступленняў беднякоў і сераднякоў супраць кулакоў. Такіх выступленняў за перыяд вайны зафіксавана толькі 6, а ў 1916 – 1917 гг. іх наогул не было.

Ваенныя паражэнні царскай арміі ў кампаніі 1915 г., няўдачы баявых дзеянняў у 1916 г., велізарныя людскія і матэрыяльныя страты выклікалі незадаволенасць салдат. У войсках успыхвалі хваляванні, звязаныя з дрэнным забеспячэннем прадуктамі і абмундзіраваннем, недахопам зброі і боепрыпасаў. Усяго на Беларусі ў перыяд вайны адбыліся 62 значныя хваляванні салдат. Цэлыя вайсковыя часці і злучэнні адмаўляліся ісці ў наступленне. Узмацнілася антыўрадавая агітацыя сярод салдат.

22 кастрычніка 1916 г. адбылося паўстанне салдат, казакаў і матросаў на размеркавальным пункце ў Гомелі. Паўстанне ўспыхнула ў сувязі з арыштам аднаго з казакаў. На яго абарону выступілі каля 4 тыс. салдат і матросаў, якія абяззброілі каравул гаўптвахты і вызвалілі з-пад арышту больш за 800 чалавек. 26 кастрычніка 1916 г. паўстаўшыя салдаты разагналі паліцэйскі атрад, які займаўся вобыскамі. Царскія ўлады жорстка расправіліся з паўстаўшымі. Да суда былі прыцягнуты 16 чалавек, з іх 9 расстраляны, а астатнія адпраўлены





на катаргу і ў арыштанцкія роты. Але спыніць працэс разлажэння арміі ўжо было нельга. Яна паступова станавілася небаяздольнай.

Такім чынам, першая сусветная вайна абвастрыла ўсе супярэчнасці ў краіне, прывяла да вострага эканамічнага і палітычнага крызісу. Царызм ужо быў няздольны вывесці краіну з гэтага тупіка. Рэвалюцыя ў краіне стала непазбежнай.

## § 3. Беларускі нацыянальны рух

Першая сусветная вайна значна паўплывала на беларускі нацыянальны рух. Вядомыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, удзельнікі нацыянальнага руху эвакуіраваліся з прыфрантавой паласы ў Цэнтральную Расію. Была закрыта газета “Наша ніва”, якую рэдагаваў Я.Купала. Ва ўсходняй, неакупіраванай частцы Беларусі нацыянальны рух быў спынены ў сувязі з праследаваннем улад ва ўмовах ваеннага становішча. На захопленых беларускіх землях вядомыя дзеячы нацыянальнага руху, якія засталіся там, браты Іван і Антон Луцкевічы, В.Ластоўскі і інш., выступілі з ідэяй адраджэння незалежнасці Літвы і заходняй часткі Беларусі ў дзяржаўнай форме Вялікага княства Літоўскага з сеймам у Вільні. Садзейнічала гэтаму заява канцлера Германіі Бейтман-Гольвега аб тым, што вызваленыя ад Расіі землі ніколі не вернуцца назад пад маскоўскае ярмо.

У сувязі з такой заявай беларускія дзеячы дамовіліся з кіраўнікамі літоўскіх і яўрэйскіх суполак аб усталяванні ў будучай дзяржаве канфедэратыўнага ладу. Дамоўленасць была замацавана “Універсалам”, выдадзеным на чатырох мовах (літоўскай, польскай, яўрэйскай і беларускай) у снежні 1915 г. У гэтым дакуменце гаварылася, што літоўскія, беларускія, польскія і яўрэйскія суполкі пачалі ўтварэнне канфедэрацыі на аснове незалежнасці Літвы і Беларусі як адзінай дзяржавы, якая забяспечыць усім нацыям усе правы. У лютым 1916 г. таксама на чатырох мовах распаўсюджана адозва “Грамадзяне!”, у якой выкладзены прынцыпы палітычнага ладу будучай канфедэрацыі. Планавалася ўтварыць незалежную дзяржаву з сеймам, сфарміраваным на аснове агульных, роўных і прамых выбараў пры тайным галасаванні. У гэту дзяржаву павінны былі ўвайсці землі, захопленыя германскімі войскамі.

Аднак утварыць такую канфедэрацыю не дазволіла палітыка германскага ўрада. Захапіўшы Вільню, германскае камандаванне абвясціла аб тым, што заходнія беларускія землі будуць падпарадкоўвацца “польскай кароне”. У сувязі з гэтым польскія памешчыкі, ксяндзы, карыстаючыся падтрымкай акупантаў, пачалі настойліва ажыццяўляць паланізацыю беларускага насельніцтва. На захопленай беларускай тэрыторыі ствaралася шырокая сетка польскіх школ, касцёлаў, розных згуртаванняў польскай “злучнасці”. Гвалтоўная

паланізацыя стала прычынай канфрантацыі паміж палякамі, якія пражывалі тут, літоўцамі і беларусамі. Гэта і прывяло да адмаўлення ад ідэі ўтварэння канфедэратыўнай дзяржавы. Больш таго, у самім беларускім нацыянальным руху адбыўся раскол. Група яго дзеячаў на чале з В.Ластоўскім заснавала арганізацыю "Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі", якая ставіла мэту ўтварэння незалежнай Беларусі ў яе этнаграфічных межах. Аднак і гэта мэта не атрымала афіцыйнага прызнання з боку нямецкага ўрада. У 1915 г. рэлігійна-клерыкальныя дзеячы ўтварылі на Беларусі палітычную арганізацыю "Хрысціянская злучнасць", у якую ўваходзілі прадстаўнікі вышэйшых колаў каталіцкага духавенства, буйной буржуазіі і памешчыкаў, буржуазнай інтэлігенцыі, а таксама сяляне, рабочыя і дробнабуржуазныя элементы. Творцамі "Хрысціянскай злучнасці" былі барон Роп, князь Святаполк-Мірскі, барон Шафнагель і інш. Галоўная мэта гэтай арганізацыі – прыстасавацца да палітычных і сацыяльна-эканамічных умоў нямецкай акупацыі.

Кайзераўская Германія, імкнучыся ўмацаваць сваю ўладу на захопленай тэрыторыі, ажыццявіла адпаведныя захады, каб, па-першае, не даць магчымасці стварыць самастойную дзяржаву, а па-другое – прадухіліць поўнае засілле Польшчы на гэтых землях. У пачатку 1916 г. германскі фельдмаршал Гіндэнбург у загадзе аб школах у акупіраваным краі абвясціў беларускую мову раўнапраўнай з польскай, літоўскай і яўрэйскай мовамі. Нягледзячы на супрацьдзеянне польскіх памешчыкаў і ксяндзоў, беларускі нацыянальны рух значна ажывіўся. На акупіраванай тэрыторыі былі адчынены беларускія школы, створаны выдавецтвы. Пачалося выданне на беларускай мове газет, часопісаў. Стала выходзіць газета "Гоман". У Вільні дзейнічалі "Беларускі камітэт дапамогі пацярпеўшым ад вайны", "Беларускі клуб", згуртаванне "Золак", "Навуковае таварыства", "Беларускі вучыцельскі саюз" і інш.

Кіраваў усёй гэтай работай створаны ў 1915 г. у Вільні Беларускі народны камітэт (БНК), які ўзначальваў А.Луцкевіч. Спачатку камітэт прытрымліваўся ідэі стварэння канфедэратыўнай дзяржавы ў форме ВКЛ, але пазней выказаўся за ўтварэнне Беларуска-Літоўскай дзяржавы з унутраным размежаваннем "аўтаномных Беларускай і Літоўскай зямель паводлуг матчынай мовы жыхароў". БНК прыняў удзел у рабоце канферэнцыі народаў Расіі, якая адбылася ў Стакгольме ў красавіку 1916 г. На гэтай канферэнцыі камітэт абвясціў сваю дэкларацыю, у якой гаварылася, што беларускі народ чакае вызвалення з-пад няволі. У чэрвені 1916 г. камітэт выступіў з мемарандумам на міжнароднай канферэнцыі ў г.Лазане. Дэлегацыя БНК на чале з В.Ластоўскім звярнулася да ўсіх цывілізаваных народаў свету з заклікам прымусіць царызм паважаць нацыянальныя і культурныя правы беларускага народа, якія дазволяць яму свабодна развіваць свае інтэлектуальныя, маральныя і эканамічныя сілы, стаць гаспадаром на ўласнай зямлі.





У канцы 1916 г. БНК зрабіў некалькі захадаў, каб дамовіцца з Літоўскім нацыянальным камітэтам аб утварэнні Літоўска-Беларускай дзяржавы ў этнічных межах беларусаў і літоўцаў. Аднак літоўцы адмовіліся ад перагавораў. Пад уздзеяннем германскіх акупантаў Літоўскі камітэт разарваў сувязі з БНК і ўтварыў у Вільні Літоўскую дзяржаўную раду (Тарыбу) як вярхоўны дзяржаўны орган Літвы. У склад гэтай Літоўскай дзяржавы былі ўключаны і захопленыя немцамі беларускія землі. Беларусь атрымала ў Тарыбе два месцы. У гэтых складаных умовах БНК працягваў працу. Ім была склікана і праведзена ў 1918 г. у Вільні Беларуская канферэнцыя. На ёй абралі Віленскую беларускую раду, якой БНК здаў свае паўнамоцтвы.

У беларускай гістарычнай літаратуры даецца ў асноўным адмоўная ацэнка дзейнасці БНК. Ён абвінавачваецца ў нацыяналізме, у поўным адыходзе ад палітычнай праграмы беларускага нацыянальнага руху, распрацаванай і прынятай на II з'ездзе Беларускай сацыялістычнай грамады ў студзені 1906 г.

У гэтых абвінавачваннях не ўлічваецца тое, што Беларускі народны камітэт ва ўмовах акупацыі прыкладаў вялікія намаганні, каб звярнуць увагу сусветнай грамадскасці на лёс Беларускага краю, яго культуру, каб абудзіць нацыянальную свядомасць беларускага народа.

У прадстаўнікоў левай плыні ў беларускім нацыянальным руху, якія пасля акупацыі Заходняй Беларусі Германіяй працягвалі сваю дзейнасць у Маскве, былі зусім іншыя погляды на пытанне аб будучым Беларусі. Адзін з кіраўнікоў гэтай плыні А.Бурбіс сцвярджаў, што ва ўмовах акупацыі Беларусі не было ніякіх надзей на магчымае нацыянальнае адраджэнне. Як і іншыя прадстаўнікі левай плыні нацыянальнага руху, ён стаяў на пазіцыі паражэння царызму ў вайне, лічыў, што перамога царскай Расіі канчаткова паставіць "крыж на вызваленні Беларусі".

З другой паловы 1915 г. галоўнымі цэнтрамі беларускага нацыянальнага руху сталі Петраград, Масква, Мінск, Калуга і іншыя гарады, дзе бежанцы-беларусы ўтварылі свае суполкі, апорныя пункты па вывучэнні становішча ў Беларусі, згуртаванні беларускага нацыянальнага руху, прапагандзе беларускай літаратуры. У кастрычніку 1916 г. Міністэрства ўнутраных спраў Расіі дазволіла выданне ў Петраградзе і Мінску беларускіх газет "Дзянніца" і "Светач".

Газета "Светач", якая выдавалася ў Петраградзе рэлігійна-клерыкальнымі дзеячамі, прапагандавала ідэі адзінства беларусаў незалежна ад іх класавай прыналежнасці, заклікала ўсе грамадскія сілы да ажыццяўлення "беларускага нацыянальнага ідэалу". Аднак газета не мела вялікага ўплыву на развіццё беларускага нацыянальнага руху. У пачатку 1917 г. яе выданне было спынена.

Газету "Дзянніца" выдаваў на свае сродкі З.Жылуновіч. Яна адлюстроўвала рэвалюцыйна-дэмакратычны характар беларускага нацыянальнага руху, абараняла інтарэсы беларускага народа і мела "паслядоўны рэвалюцыйна-нацыянальны напрамак" (Полымя. 1923. № 7 –

8. С.114). “Дзянніца” прапагандавала думку, што свабоднае развіццё беларускага народа магчыма толькі ў цесным саюзе з рускім народам. Газета ўздымала вострыя сацыяльныя праблемы, пытанні развіцця беларускай культуры, асуджала палітыку нямецкіх акупацыйных улад. У газеце друкаваліся творы З.Жылуновіча, К. Буйло, К.Чарнушэвіча, Ф.Шантыра і іншых дзеячаў, якія стаялі на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыях.

Рэвалюцыйна-нацыянальны накірунак газеты выклікаў падазронасць у царскай цэнзуры. Цэнзары выкідалі з газеты ўсе матэрыялы аб становішчы на Беларусі, абвінавачвалі газету ў тым, што яна нібыта служыла Германіі. У снежні 1916 г. “Дзянніца” перастала выходзіць. Далейшае развіццё беларускага нацыянальнага руху стала магчымым толькі ў выніку перамогі Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

## § 4. Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя. Перамога рэвалюцыі на Беларусі

Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя – з'ява сусветна-гістарычнага значэння. З аднаго боку, яна падвяла рысу пад шматвяковай гісторыяй расійскай манархіі, а з другога – адкрыла шлях да дэмакратычнага развіцця Расіі. У 20-я гады дзень перамогі Лютаўскай рэвалюцыі – 12 сакавіка (па новаму стылю) быў “чырвоным днём” у савецкім календары. З цягам часу памяць аб гэтай рэвалюцыі пачала сцірацца. Ёй было адведзена вельмі сціплае месца “пралога Кастрычніка”. Аднак Лютаўская рэвалюцыя заслугоўвае большага. Яна ператварыла Расію ў самую свабодную краіну таго часу.

Галоўнымі прычынамі рэвалюцыі з'явіліся класавыя супярэчнасці, цяжкае ваеннае становішча. Незадаволенасць рабочых, сялян, салдат, даведзеных да крайняй галечы вайной, гаспадарчай разрухай, голадам, вылілася ў масавыя выступленні супраць царызму, буржуазіі і рэакцыйнай ваеншчыны.

Пачатак рэвалюцыі паклалі масавыя забастоўкі, мітынгі і дэманстрацыі рабочых 23 лютага 1917 г. у Петраградзе. 25 лютага забастоўка стала ўсеагульнай, а 26 лютага пачалося ўзброенае паўстанне. На бок рабочых пераходзілі салдаты. Раніцай 27 лютага на бок рэвалюцыі перайшло 10 тыс. паўстаўшых салдат, а вечарам іх налічвалася ўжо больш за 60 тыс. Рабочыя і салдаты аб'ядноўваліся ў баявыя дружыны. 27 лютага гэтыя дружыны захапілі Галоўны арсенал, тэлеграф, вакзалы, вызвалілі з турмаў палітычных зняволеных. Рэвалюцыя ў Петраградзе перамагла. 2 сакавіка цар Мікалай II адрокся ад прастола. Закончылася 300-гадовае панаванне дынастыі Раманавых. Сістэма царскай улады прыйшла ў супярэчнасць з грамадскім





развіццём Расіі. Гэта і было галоўнай прычынай хуткай і адносна лёгкай перамогі рэвалюцыі. Акрамя таго, ахапіўшыя ўсю краіну палітычны, эканамічны, нацыянальны крызісы актывізавалі барацьбу працоўных супраць царызму. У гэтай барацьбе ўдзельнічалі розныя сацыяльныя сілы.

Доўгі час у савецкай гістарычнай літаратуры распаўсюджваўся тэзіс аб кіруючай ролі партыі бальшавікоў у рэвалюцыі. Гэты тэзіс не адпавядае сапраўднасці. Бальшавікі, сіл у якіх было мала, не маглі тады ўзняць народныя масы на барацьбу. У петраградскіх партыйных арганізацыях, якія дзейнічалі падпольна, налічвалася ўсяго 2 тыс. чалавек, а па ўсёй краіне – 24 – 25 тыс. Кіраўніцтва імі было аслаблена. За мяжой, у Швейцарыі , дзейнічала Заграгнічная калегія ЦК (У.І.Ленін, Р.Я. Зіноўеў, Н.К. Крупская), якая фактычна выконвала ролю ЦК. У Петраградзе функцыі агульнарасійскага кіраўніцтва бальшавікамі выконвала Рускае бюро ЦК, у якое напярэдадні рэвалюцыі ўваходзілі А.Г.Шляпнікаў, П.А.Залуцкі, В.М.Молатаў. Бальшавікі чакалі рэвалюцыі і садзейнічалі ёй. Але памылкова лічыць, што яны рыхтавалі і кіравалі рэвалюцыяй. Аб гэтым пісаў У.І.Ленін, падкрэсліваючы, што нельга прадбачыць ход рэвалюцыі, яе нельга выклікаць. Можна толькі працаваць на карысць рэвалюцыі. Н.К.Крупская ў сваім лісце Л.Д.Троцкаму ў 1927 г. пісала, што ў час Лютаўскай рэвалюцыі ўздзеянне партыі бальшавікоў было нязначным. Яшчэ больш канкрэтна выказаўся кіраўнік Рускага бюро ЦК А.Г.Шляпнікаў. Ён пісаў, што Лютаўская рэвалюцыя не магла быць падрыхтавана партыяй бальшавікоў, бо рэвалюцыя была стыхійнай, а бальшавікі ўсё рабілі для таго, каб надаць гэтай стыхіі арганізаваны характар.

Які характар, рухаючыя сілы і асаблівасці рэвалюцыі? Па сваім характары яна была буржуазна-дэмакратычнай, але ў адрозненне ад першай – пераможнай. Галоўная яе задача – звяржэнне царызму – выканана. Рухаючай сілай рэвалюцыі з'яўляўся народ. Асаблівасцю рэвалюцыі было тое, што яна непаслядоўна вырашыла пытанне аб уладзе. У выніку ў краіне ўтварылася двоеўладдзе.

Пасля перамогі паўстання па ўсёй краіне выбіраліся новыя органы ўлады – Саветы. Аднак большасцю ў іх аказаліся меншавікі і эсэры. Гэта тлумачыцца наступнымі прычынамі:

1. Рэвалюцыя выклікала да актыўнага палітычнага жыцця шматмільённыя масы Расіі. Мітынговая хваля адмоўна ўздзейнічала на свядомасць людзей. У тых умовах бальшавікі разлічваць на значную падтрымку не маглі.

2. За гады вайны значна памяняўся склад рабочага класа. Каля 40 % кадравых рабочых былі на фронце, многія сасланы ў Сібір, на катаргу. На заводах і фабрыках працавалі выхадцы з класа дробных уласнікаў, якія ішлі за меншавікамі і эсэрамі, пасылалі іх у Саветы.

3. За гады вайны бальшавіцкія арганізацыі былі падвергнуты жорсткім рэпрэсіям. Відныя дзеячы бальшавіцкай партыі знаходзіліся

ў турмах, ссылках або за мяжой. Меншавіцкія і эсэраўскія арганізацыі дзейнічалі свабодна.

Народ, які пасылаў ў Саветы сваіх прадстаўнікоў, спадзяваўся на тое, што яны выканаюць усе яго патрабаванні. Аднак меншавіцка-эсэраўскае кіраўніцтва Саветамі баялася ўзяць уладу ў свае рукі, пайшло на змову з буржуазіяй, і ў выніку быў створаны Часовы буржуазны ўрад.

Гэта адбылося наступным чынам. У той жа дзень, калі быў выбраны Петраградскі Савет (27 лютага), утвораны таксама з дэпутатаў IV Дзяржаўнай думы Часовы камітэт на чале з адным з кіраўнікоў акцябрыстаў М.Радзянкам. Мэта Часовага камітэта – "навесці парадак у краіне", што азначала ўзяць усю ўладу ў свае рукі. Але зрабіць гэта не ўдалося. Пад націскам рэвалюцыйных мас Петраградскі Савет выдаў 1 сакавіка 1917 г. загад, паводле якога ўсе вайсковыя злучэнні пераходзілі ў падпарадкаванне Савета. Тады Часовы камітэт вырашыў дамовіцца з Петраградскім Саветам. У ноч з 1 на 2 сакавіка 1917 г. Часовы камітэт запрасіў на сваё пасяджэнне прадстаўнікоў Петраградскага Савета. Эсэра-меншавіцкія лідэры, не абмеркаваўшы гэтага пытання на пасяджэнні Савета, прапанавалі Часоваму камітэту Дзяржаўнай думы ўтварыць Часовы ўрад. 2 сакавіка на аснове пагаднення паміж Часовым камітэтам Думы і меншавіцка-эсэраўскім кіраўніцтвам Петраградскага Савета быў утвораны буржуазны Часовы ўрад на чале з князем Г.Львовым. Пасаду міністра замежных спраў заняў лідэр кадэтаў П.Мілюкоў, вайсковых спраў – лідэр акцябрыстаў А.Гучкоў.

Іншыя члены ўрада таксама былі вядомымі дзеячамі кадэтаў і акцябрыстаў. Выключэннем стаў сацыяліст А.Керанскі, які заняў пасаду міністра юстыцыі і адначасова з'яўляўся намеснікам старшыні Петраградскага Савета.

Так утварылася ў краіне двоеўладдзе, перапляценне дзвюх дыктатур: з аднаго боку – дыктатура буржуазіі, якую ўвасабляў Часовы ўрад, з другога – рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства – Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Улічваючы значную канцэнтрацыю рэвалюцыйных сіл на Беларусі і на Заходнім фронце, ворагі рэвалюцыі, якія групаваліся вакол Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага, штабоў Заходняга фронту і Мінскай ваеннай акругі, усяляк спрабавалі ізаляваць гэтыя сілы ад гістарычных падзей у Петраградзе. Яны хацелі ўтаіць ад працоўных Беларусі, што ў сталіцы імперыі адбылася рэвалюцыя. Са Стаўкі і штаба Заходняга фронту рассылаліся загады, у якіх патрабавалася ад усіх начальнікаў вайсковых часцей не дапускаць з Петраграда агітатараў, а пры іх з'яўленні затрымліваць і судзіць палявым судом. Камандуючы фронтам генерал А.Эверт даводзіў да ведама афіцэраў, што салдаты павінны быць далей ад палітыкі і не іх справа прыслухоўвацца да таго, што робіцца ў Расіі. Распаўсюджваліся чуткі, нібыта цар не звергнуты, а толькі захварэў. Манархісты і іх прыхільнікі ўсімі сіламі чапляліся за ўладу і імкнулісяператварыць Паўночны і Заходні франты ў сваю





апору. Камандуючыя гэтымі франтамі гатовы былі паслаць найбольш надзейныя часці ў Петраград для падаўлення рэвалюцыі. Ворагі рэвалюцыі не спыняліся нават перад нацыянальнай здрадай. Генерал М.Ваейкаў заявіў: "Цяпер застаецца адно: адкрыць Мінскі фронт немцам. Няхай германскія войскі прыйдуць, каб уціхамірыць гэтую сволач".

Аднак задумы манархістаў не маглі здзейсніцца. Весткі пра звяржэнне царскага самадзяржаўя рознымі шляхамі пранікалі ва ўсе куткі Беларусі і вайсковыя часці Заходняга фронту. Рабочыя, сяляне, салдаты віталі перамогу пралетарыяту Петраграда і выказвалі намер усімі сіламі падтрымаць рэвалюцыю. Яны спадзяваліся, што з перамогай рэвалюцыі скончыцца вайна і будуць вырашаны іх жыццёвыя пытанні. Салдаты Заходняга фронту ў адпаведнасці з загадам № 1 Петраградскага Савета стваралі ў вайсковых часцях салдацкія камітэты, адхілялі ад камандавання і нават арыштоўвалі ненавісных афіцэраў. У некаторых палках і дывізіях салдаты дзейнічалі яшчэ больш рашуча. Так, салдаты 709-га і 710-га палкоў 178-й пяхотнай дывізіі, што дыслацыравалася ў вёсках каля Рагачова, адмовіліся падпарадкоўвацца афіцэрам, якія рыхтавалі іх да адпраўкі на фронт. Салдаты гэтых палкоў разам з сялянамі мясцовых вёсак канфіскавалі маёмасць у памешчыкаў, размеркавалі паміж сялянамі жывёлу, сельскагаспадарчы інвентар, збожжа, муку, мэблю агульным коштам на 1 млн рублёў. Каб задушыць рэвалюцыйныя выступленні салдат, у Рагачоўскі павет былі накіраваны георгіеўскі батальён і дзве казацкія сотні, а таксама зняты з фронту з-пад Мінска 2-гі лейб-уланскі полк. Удзельнікі паўстання былі пакараны.

Працоўным Мінска стала вядома аб перамозе Лютаўскай рэвалюцыі 1 сакавіка 1917 г. Адразу ж ноччу з 1 на 2 сакавіка адбылася нарада бальшавікоў горада, на якой прысутнічалі М.В.Фрунзе, В.Г.Кнорын, К.І.Ландар, С.Р.Магілеўскі і інш. На гэтай нарадзе было вырашана мабілізаваць усе сілы, каб падтрымаць піцерскіх рабочых і салдат. У Мінску пачалі ўтварацца ўзброеныя атрады, прафсаюзы і іншыя арганізацыі працоўных. Баявыя дружыны мінскіх рабочых 2 сакавіка вызвалілі з турмы 400 палітычных зняволеных. Былі арыштаваны камандуючы фронтам, начальнік штаба, камендант горада. Створаная 4 сакавіка міліцыя, якую ўзначаліў М.В.Фрунзе, раззброіла паліцыю і жандармерыю, узяла пад ахову ўрадавыя ўстановы, пошту і тэлеграф.

Асаблівая ўвага была звернута на ўтварэнне Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У Мінску 4 сакавіка 1917 г. адбылося першае пасяджэнне выбраных дэпутатаў і прадстаўнікоў ад прадпрыемстваў, на якім утвораны Мінскі Савет рабочых дэпутатаў і Часовы выканаўчы камітэт. Мінскі Савет павіншаваў усіх працоўных з перамогай і заклікаў да інтэрнацыянальнага адзінства, арганізаванасці ў барацьбе за светлую будучыню. Каб аб'яднаць сілы пралетарыяту з рэвалюцыйнай арміяй, быў створаны адзіны Мінскі Савет рабочых і салдацкіх

дэпутатаў і адзіны выканаўчы камітэт на чале з меншавіком Б.Позернам. Намеснікам яго абралі бальшавіка У.Любімава.

6 сакавіка 1917 г. арганізаваўся Гомельскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які заявіў, што ён бярэ на сябе ахову новага ладу. 8 сакавіка ўтвораны Віцебскі Савет рабочых дэпутатаў і выбраны выканаўчы камітэт, які заклікаў аб'яднацца вакол Савета. У звароце гаварылася, што Віцебскі Савет створыць рабочыя дружыны і рабочую міліцыю, каб змагацца з контррэвалюцыяй, займецца забеспячэннем насельніцтва горада харчаваннем, установіць 8-гадзінны рабочы дзень і г. д. Неўзабаве Савет рабочых і Савет салдацкіх дэпутатаў аб'ядналіся, афарміўся адзіны Віцебскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

З вялікімі цяжкасцямі праводзіліся дэмакратычныя пераўтварэнні ў Магілёве. Тут рэакцыйная ваеншчына рабіла ўсё, каб засцерагчы салдат ад уплыву рэвалюцыі. Але і там 5 сакавіка 1917 г. адбылася мнагалюдная дэманстрацыя рабочых і салдат, якая закончылася мітынгам на Сянной плошчы. Праз два дні пасля дэманстрацыі ў Магілёве ўтварыліся Савет рабочых дэпутатаў і асобна Савет салдацкіх дэпутатаў. Да 10 сакавіка абодва Саветы аб'ядналіся. Аб'яднаны Савет складаўся амаль выключна з эсэраў, меншавікоў і бундаўцаў. Такі партыйны склад вызначыў і яго палітычную лінію. Савет актыўна падтрымліваў Часовы буржуазны ўрад і вайну да пераможнага канца. Паралельна з Саветам у Магілёве быў створаны т. зв. Сход салдацкіх і афіцэрскіх прадстаўнікоў, які складаўся з манархістаў. Манархісты распаўсюджвалі чуткі, што хутка дынастыя Раманавых будзе адноўлена ў правах, а ўсе ўдзельнікі рэвалюцыі будуць пакараны смерцю.

Саветы і іншыя дэмакратычныя органы былі ўтвораны ў многіх гарадах Беларусі. У першай палове сакавіка 1917 г. пачалі дзейнічаць Саветы ў Барысаве, Полацку, Рэчыцы, Слуцку і іншых гарадах. На працягу сакавіка – красавіка 1917 г. арганізацыйна афармілася 37 Саветаў, у тым ліку 11 Саветаў рабочых, 11 – салдацкіх дэпутатаў, 14 аб'яднаных Саветаў і Савет сялянскіх дэпутатаў. Саветы асноўную задачу бачылі ў арганізацыі рабочых і сялян, у абароне іх эканамічных інтарэсаў і палітычных правоў. Яны актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні народнай міліцыі, прафсаюзаў рабочых і служачых, салдацкіх камітэтаў у войску, сялянскіх – у вёсцы. Саветы на Беларусі прызнавалі кіруючую ролю Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а таксама Часовы ўрад і яго органы на месцах пры ўмове адпаведнасці іх дзейнасці інтарэсам народа. Але на практыцы адбывалася зусім іншае. Саветы фактычна падпарадкоўваліся органам Часовага ўрада, дапамагалі ствараць такія органы і нават дэлегіравалі сваіх прадстаўнікоў у гэтыя органы. Праводзілі такую палітыку эсэры, меншавікі і бундаўцы, якія складалі пераважную большасць у Саветах. 4 сакавіка 1917 г. на нарадзе прадстаўнікоў Мінскай гарадской управы, Мінскага ваенна-прамысловага камітэта, а таксама прадстаўнікоў згодніцкіх партый быў утвораны т. зв. "Часовы грамадскі камітэт парадку", у які ўвайшлі пераважна





прадстаўнікі буржуазіі і памешчыкаў. Нарада даручыла камітэту ўзяць уладу ў свае рукі і наладзіць сувязь з Часовым урадам.

Падобныя камітэты былі ўтвораны і ў іншых гарадах Беларусі. Яны рабілі ўсё магчымае, каб звузіць размах народнай рэвалюцыі. 6 сакавіка 1917 г. Часовы ўрад перадаў уладу у губернях і паветах сваім камісарам, якія прызначаліся з ліку старшыняў губернскіх і павятовых земскіх управ і выконвалі функцыі губернатараў. Ім падпарадкоўваліся ўсе мясцовыя органы ўлады.

Такім чынам, на Беларусі былі створаны свае мясцовыя органы буржуазнай улады, побач з якімі дзейнічалі Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Тут, як і па ўсёй Расіі, склалася двоеўладдзе.

У першыя дні рэвалюцыі на Беларусі пачалі стварацца прафесійныя саюзы. Да канца сакавіка 1917 г. дзейнічалі прафсаюзы рабочых і служачых амаль ва ўсіх галінах прамысловасці. Яны патрабавалі паляпшэння эканамічнага становішча працоўных, скарачэння рабочага дня, павелічэння зарплаты і г. д. Калі ўласнікі прадпрыемстваў адмаўляліся выконваць гэтыя патрабаванні, рабочыя аб'яўлялі стачку, як гэта здарылася на фанернай фабрыцы ў Бабруйску. У выніку стачкі рабочыя дамагліся павышэння заработнай платы. Разам з тым прафсаюз фабрыкі выступіў супраць самавольнага скарачэння рабочага часу, пагадзіўся з магчымасцю звышурочных работ пры ўмове павышэння платы са згоды прафсаюза на 50 %.

Станоўча аднеслася да перамогі Лютаўскай рэвалюцыі, звяржэння царызму і беларускае сялянства. Гаспадарчы крызіс, масавыя міграцыі, бежанства канчаткова дыскрэдытавалі царызм у вачах сялян. Па ініцыятыве бальшавікоў 23 сакавіка 1917 г. быў выбраны сялянскі камітэт Мінскай губерні на чале з М.Фрунзе, які павінен быў склікаць сялянскі з'езд губерні. У канцы сакавіка пачаў дзейнічаць Мінскі камітэт Усерасійскага сялянскага саюзу, які стаяў на эсэраўскіх пазіцыях.

20 красавіка 1917 г. у Мінску адкрыўся з'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і свабодных ад нямецкай акупацыі паветаў Віленскай губерняў. Старшынёй з'езда быў абраны М.Фрунзе. Дэлегаты выступілі за пераход усёй зямлі ў агульнанародную ўласнасць і ўраўняльнае землекарыстанне па працоўнай норме, за адмену прыватнай уласнасці на зямлю, забарону яе куплі-продажу. Асуджаліся самавольныя захопы зямлі. Канчатковае вырашэнне аграрнага пытання з'езд адклаў да склікання Устаноўчага сходу. Як бачна, з'езд стаяў на эсэраўскіх пазіцыях. За эсэрамі пайшлі і сялянскія з'езды Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Поўную перавагу эсэры мелі на Усерасійскім з'ездзе Саветаў сялянскіх дэпутатаў, які адбыўся ў маі 1917 г. З 1115 дэлегатаў 537 з'яўляліся эсэрамі, 103 – меншавікамі і толькі 20 – бальшавікамі. Прапанаваны М.В. Фрунзе праект рэзалюцыі бальшавікоў аб перадачы ўлады Усерасійскаму Савету рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў на з'ездзе быў адвергнуты. За яго галасавалі толькі 17 дэлегатаў,

супраць – 800. З'езд абсалютнай большасцю галасоў выказаў давер Часоваму ўраду.

Працягвалася дэмакратызацыя войска. Салдаты ўраўноўваліся ў правах з усімі грамадзянамі краіны. Часовы ўрад і камандаванне вымушаны былі пагадзіцца з загадам № 1 Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў аб стварэнні выбарных салдацкіх камітэтаў і Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага тэлеграмай ад 11 сакавіка 1917 г. раіла штабу Заходняга фронту стаць на шлях кампрамісаў з Саветам рабочых дэпутатаў. У выніку на Заходнім фронце пачалі ствараццa салдацкія камітэты. Яны павінны былі забяспечваць магчымасць удзелу салдат у палітычным жыцці краіны, садзейнічаць росту іх культурнага ўзроўню і палітычнай свядомасці.

У выніку гэтага абвастрыліся ўзаемаадносіны паміж салдатамі і афіцэрамі. Чыста палітычны і асветніцка-культурны рух, які спрабавалі арганізаваць у войску Саветы, вельмі хутка перарос у антываенны, накіраваны супраць афіцэрства. Афіцэры ў пераважнай большасці выступалі за працяг вайны і ўмацаванне дысцыпліны ў войску. У выніку ў войску ўтварылася двоеўладдзе, што паскорыла яго разлажэнне.

Значнай з'явай у жыцці ўсяго беларускага грамадства з'явіўся I з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў арміі і тылу Заходняга фронту, які адбыўся 7 – 17 красавіка 1917 г. Адным з галоўных арганізатараў з'езда быў Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Паводле партыйнага складу з'езд быў эсэра-меншавіцкім. Ён прызнаў неабходным для Расіі працягваць вайну з мэтай абароны рэвалюцыі, падтрымліваць палітыку Часовага ўрада і здзяйсняць пастаянны кантроль за ім з боку Петраградскага Савета. На салдацкія арганізацыі ўскладвалася задача садзейнічаць павышэнню баяздольнасці арміі, забяспечваць грамадскія, палітычныя і культурна-бытавыя патрэбы салдат. На ўзроўні армій ствараліся Саветы салдацкіх дэпутатаў. Выбары камандзіраў не дапускаліся. Выканаўчы камітэт фронту атрымаў права кантролю за дзейнасцю франтавога камандавання. З'езд адмяніў асобыя суды і розныя абмежаванні правоў салдат па-за службай. Салдаты атрымалі ўсе правы і свабоды, як і цывільныя грамадзяне Расіі, у тым ліку свабоду слова, друку, сходаў, саюзаў, сумлення. Разам з тым з'езд падкрэсліў неабходнасць захавання строгай ваеннай дысцыпліны, асудзіў дэзерцірства.

З'езд прызнаў свабоду класавых аб'яднанняў рабочых і іх права на арганізацыю забастовак, сходаў, вулічных маніфестацый і дэманстрацый, прапанаваў увесці 8-гадзінны рабочы дзень. Быў прыняты шэраг іншых рашэнняў, накіраваных на замацаванне перамогі Лютаўскай рэвалюцыі.

Такім чынам, Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя з'явілася пачаткам дэмакратычнага развіцця Расіі, у тым ліку і Беларусі, адкрыла шлях да эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу краіны.





# ГЛАВА 4

# ФАРМІРАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XIX – ПАЧАТКУ XX ст.

## § 1. Фарміраванне беларускай нацыі

*Нацыя* (ад лац. natio – племя, народ) – гістарычная супольнасць людзей, якая характарызуецца ўстойлівымі эканамічнымі і тэрытарыяльнымі сувязямі, агульнасцю мовы, культуры, характару, побыту, традыцый, звычаяў, самасвядомасці. Нацыі ўзнікаюць на базе феадальных народнасцей у перыяд станаўлення капіталістычнага спосабу вытворчасці. Рашаючую ролю ў пераўтварэнні народнасцей у нацыі адыгрываюць капіталістычныя эканамічныя сувязі, фарміраванне ўнутранага рынку. Непасрэдна звязаны з эканамічным фактарам пры кансалідацыі нацый сацыяльны, палітычны, дэмаграфічны.

У гісторыі фарміравання беларускай нацыі можна вылучыць два перыяды. Першы ахоплівае канец XVIII – першую палову XIX ст. і з'яўляецца своеасаблівым пераходам ад феадальнай народнасці да пачатку станаўлення буржуазнай нацыі. Наступны перыяд пачынаецца з другой паловы XIX ст. і характарызуецца як час станаўлення і развіцця беларускай нацыі ў эпоху капіталізму.

**Агульнасць эканамічнага жыцця. Пралетарыят і буржуазія.** Адной з асноўных прыкмет нацыі з'яўляецца агульнасць эканамічнага жыцця насельніцтва адпаведнай этнічнай тэрыторыі. Развіццём капіталізму забяспечваецца больш высокі ўзровень гэтай агульнасці ў параўнанні з феадалізмам. Рэформа 1861 г., вызваліўшы сялян ад прыгоннай залежнасці, стварыла ўмовы для капіталістычнай перабудовы памешчыцкай і сялянскай гаспадарак з арыентацыяй на рынак. Рабочая сіла стала таварам, пашырыліся магчымасці яе міграцыі. Прамысловасць атрымала неабходную рабочую сілу з ліку абеззямеленых і пралетарызаваных сялян, а таксама рынак збыту прадукцыі, які пашыраўся ў ходзе разбурэння натуральнай і паўнатуральнай памешчыцкай і сялянскай гаспадаркі.

Уцягванне гаспадаркі Беларусі ў рынкавыя сувязі прывяло да змен у яе структуры. У сельскагаспадарчай вытворчасці пераважнае значэнне набылі малочная жывёлагадоўля і вырошчванне тэхнічных

19. Зак. 5560

культур, што садзейнічала яе арыентацыі на ўнутраны і знешні рынак. У структуры прамысловасці асноўнае месца займалі галіны, якія выкарыстоўвалі мясцовую сыравіну (вінакурэнне, дрэваапрацоўка, сілікатна-цагельная і гарбарна-абутковая вытворчасці). Павелічэнню аб'ёму эканамічных сувязей паміж рознымі рэгіёнамі Беларусі спрыяла будаўніцтва чыгунак і іншых шляхоў зносін. Кансалідацыі беларускай нацыі садзейнічалі таксама рост гарадоў і павелічэнне гарадскога насельніцтва. Губернскія цэнтры Беларусі і іншыя яе буйныя гарады паступова станавіліся цэнтрамі лакальных мясцовых рынкаў, цесна звязаных паміж сабой і з агульнарасійскім рынкам.

На аснове зрухаў у станаўленні капіталістычнай рыначнай эканомікі адбывалася разлажэнне класаў – саслоўяў феадальнага грамадства – дваран-памешчыкаў, сялян, рамеснікаў, гандляроў, купцоў і фарміраванне асноўных класаў капіталістычнага грамадства – пралетарыяту і буржуазіі. Сацыяльнай базай для фарміравання пралетарыяту з'яўляліся сялянская бедната, якой на Беларусі ў канцы XIX ст. налічвалася 2,8 млн чалавек, дробныя рамеснікі і гандляры, збяднелыя мяшчане і шляхта. На рубяжы XIX – XX стст. у прамысловасці Беларусі працавала 237 тыс. рабочых, на чыгунцы – каля 25 тыс., у іншых сферах гаспадаркі (рачны і гужавы транспарт, будаўніцтва, гандаль, сельская і лясная гаспадарка і г.д.) – каля 200 тыс., усяго колькасць наёмных рабочых перавышала 460 тыс. чалавек. Прамысловы пралетарыят Беларусі характарызаваўся шматнацыянальнасцю і адносна невысокай канцэнтрацыяй.

Гандлёва-прамысловая буржуазія Беларусі была таксама шматнацыянальнай, прычым большую яе частку складалі прадстаўнікі небеларускага этнічнага насельніцтва (яўрэйскія, польскія і рускія прамыслоўцы і купцы). Паводле перапісу насельніцтва 1897 г., 84,5 % купцоў 5 заходніх губерняў складалі яўрэі, 10,7 % — рускія і толькі 1,7 % былі беларусамі. Больш чым палова фабрык і заводаў (51 %) з'ўлялася ўласнасцю яўрэйскай буржуазіі.

Беларуская нацыянальная буржуазія амаль цалкам складалася з заможных сялян і выхадцаў з дробнай шляхты. Яна была нешматлікай (у канцы XIX ст. у беларускай вёсцы налічвалася толькі каля 50 тыс. заможных гаспадароў), асноўныя капіталы краю – прамысловы, зямельны, гандлёвы, банкаўскі – знаходзіліся не ў яе руках, а ва ўласнасці яўрэйскіх, польскіх і рускіх прамыслоўцаў, памешчыкаў і купцоў. Раскіданая па вясковай глухамані, расколатая паводле канфесійнай прыналежнасці (праваслаўныя і каталікі), беларуская нацыянальная буржуазія не ўсведамляла сваёй ролі ў нацыянальна-культурным адраджэнні і абыякава, іншы раз варожа, ставілася да яго.

Слабасць нацыянальнай буржуазіі ў пэўнай ступені замаруджвала працэс кансалідацыі беларускай нацыі. Адмоўнае ўздзеянне на гэты працэс аказвала і тое, што ў шматгранным жыцці беларускага горада ў XIX ст. не выкарыстоўвалася, за нязначнымі выключэннямі, беларуская мова.





**Тэрыторыя, насельніцтва.** У канцы XIX ст. паступова стабілізавалася этнічная тэрыторыя беларусаў. Асновай утварэння тэрытарыяльнай супольнасці нацыі з'яўляецца наладжванне і развіццё гаспадарчых сувязей, якія пераадольваюць эканамічную замкнёнасць асобных раёнаў і сцягваюць іх у адно кампактнае цэлае. Этнічная тэрыторыя беларусаў уваходзіла ў межы 5 заходніх губерняў Расійскай імперыі. Яна ўключала поўнасцю Магілёўскую і Мінскую губерні; Лідскі, Ашмянскі і паўднёвую частку Свянцянскага павета ў Віленскай губерні; Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Лепельскі і Полацкі паветы Віцебскай губерні; Брэсцкі, Ваўкавыскі, Пружанскі і Слонімскі паветы Гродзенскай губерні. Гэтыя межы ў асноўным адпавядаюць сучасным межам Беларусі.

Галоўным арэалам кансалідацыі беларускай нацыі былі цэнтральная і паўночна-заходняя часткі Беларусі, найбольш развітыя ў эканамічных, сацыяльных, палітычных і культурных адносінах у параўнанні з іншымі раёнамі. Тут пражывала амаль палова пісьменных беларусаў, адсюль выйшла большасць дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і культуры таго перыяду. Сярэднебеларускія гаворкі склалі дыялектную аснову беларускай літаратурнай мовы.

Працэс фарміравання беларускай нацыі закрануў і насельніцтва Палесся, якое, аднак, захоўвала моўныя і культурныя асаблівасці. На тэрыторыі ўсходняй часткі Беларусі працэсы нацыянальнай кансалідацыі ішлі больш замаруджана, яе насельніцтва было менш устойлівым перад пашырэннем там расійскага ўплыву.

Паводле перапісу 1897 г., на тэрыторыі 5 заходніх губерняў пражывала 5 млн 408 тыс. беларусаў, 3,1 млн рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў, літоўцаў, латышоў. Польскае і літоўскае насельніцтва канцэнтравалася ў асноўным у заходніх паветах Гродзенскай і Віленскай губерняў, рускае і латышскае – у паўночных паветах Віцебскай губерні, украінскае – у Кобрынскім і Брэсцкім паветах Гродзенскай губерні. Яўрэйскае насельніцтва пражывала на ўсёй тэрыторыі Беларусі, у гарадах і мястэчках. Сярод гараджан 5 заходніх губерняў яўрэі складалі 53,5 %, а ва ўсім насельніцтве – 13,8 %.

Абсалютная большасць беларусаў жыла ў сельскай мясцовасці (больш за 90 %). Доля тых беларусаў-гараджан, якія гаварылі на роднай мове, складала ў сярэднім толькі 14,5 %. Асаблівасцю беларусаў як этнасу быў падзел паводле канфесійнай прыналежнасці на праваслаўных і каталікоў. Праваслаўная царква і каталіцкі касцёл не прызнавалі існавання беларускага этнасу, зыходзячы з таго, што праваслаўныя беларусы ёсць рускія, а беларусы-каталікі – палякі. Пасля скасавання ў 1839 г. Брэсцкай уніі і далучэння уніятаў да дзяржаўнай царквы праваслаўныя сярод беларусаў сталі значнай большасцю (у 1897 г. – 81,2 %).

Развіццё капіталістычных рыначных адносін прывяло да хуткага росту насельніцтва, найбольш інтэнсіўнага за ўсю гісторыю Беларусі.

За 40 паслярэформенных гадоў колькасць яе жыхароў падвоілася. У пачатку XX ст. прырост насельніцтва некалькі паменшыўся. Гэта было звязана з развіццём міграцыйных працэсаў у выніку класавай дыферэнцыяцыі і аграрнай перанаселенасці беларускай вёскі. **Па-першае,** меліся сезонныя перамяшчэнні збяднелых сялян у пошуках заробку на сплаве лесу, будаўніцтве чыгунак і шашэйных дарог, заводах, фабрыках, рудніках, шахтах і г.д. У 90-х гадах XIX ст. сялян-адыходнікаў на Беларусі налічвалася да 300 тыс. чалавек штогод. Яны накіроўваліся ў розныя раёны Беларусі, а таксама на прадпрыемствы цэнтральна-прамысловага раёна Расіі, шахты і руднікі Данбаса, порты Рыгі і Адэсы. **Па-другое,** сяляне перамяшчаліся за межы Беларусі: у Прыуралле, Сібір, на Далёкі Усход, перасяляліся беларусы ў ЗША, Канаду і іншыя замежныя краіны, што было абумоўлена попытам на танную рабочую сілу на Еўрапейскім і Амерыканскім кантынентах. На рубяжы XIX – XX стст. пачаўся працэс фарміравання беларускай дыяспары за межамі сваёй радзімы. **Трэці накірунак** міграцыйных працэсаў быў звязаны з перасяленнямі сялян у гарады. У канцы 90-х гадоў выхадцы з сельскай мясцовасці складалі амаль 1/5 усіх гараджан Беларусі. Аднак працэс урбанізацыі на Беларусі быў даволі абмежаваны, таму перасяленцы часта накіроўваліся ў гарады Прыбалтыкі, Украіны, Расіі.

**Развіццё нацыянальнай мовы.** У другой палове XIX–пачатку XX ст. працягваўся працэс фарміравання мовы беларускай нацыі. Значныя змены адбыліся ў гутарковай мове. Ішло паступовае змешванне мясцовых дыялектаў, адбываліся змены ў слоўнікавым запасе мовы. З'яўляліся новыя словы і тэрміны, паланізмы замяняліся русізмамі. Асабліва моцны ўплыў рускай мовы адчуваўся ў фанетычным складзе паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак.

На аснове жывой гутарковай народнай мовы фарміравалася новая беларуская літаратурная мова. Яна не магла развівацца на базе старабеларускай мовы, якая з XVIII ст. фактычна стала мёртвай. Таму ў новых гістарычных абставінах крыніцай развіцця беларускай літаратурнай мовы з'явілася вусная паэтычная народная творчасць. Беларускія пісьменнікі і паэты ў сваіх літаратурных творах шырока выкарыстоўвалі народныя песні, казкі, прыказкі, прымаўкі, загадкі.

Беларуская літаратурная мова развівалася галоўным чынам як мова мастацкай літаратуры і часткова публіцыстыкі. У ёй пераважала бытавая лексіка, слаба была прадстаўлена вытворчая, юрыдычная, адміністрацыйна-канцылярская тэрміналогія. Істотнай перашкодай развіццю беларускай пісьмовай мовы з'яўлялася адсутнасць яе нарматыўнай граматыкі. Але паступова ішоў працэс складвання графічнай сістэмы, правапісных і граматычных норм, узбагачэння лексікі беларускай літаратурнай мовы.

Фарміраванне беларускай літаратурнай мовы адбывалася павольна, што тлумачыцца цяжкасцямі ў друкаванні і распаўсюджанні беларускамоўных твораў. Гэты працэс не завяршыўся да пачатку рэвалюцыі 1905 – 1907 гг.





**Матэрыяльная і духоўная культура.** У матэрыяльнай культуры беларусаў побач з традыцыйнымі элементамі ўзнікалі і новыя з'явы. У земляробстве асноўнае месца займалі збожжавыя культуры, лён, бульба. У жывёлагадоўлі пераважала вырошчванне буйной рагатай жывёлы, свіна-, коне-, авечкагадоўля. Займаліся беларусы і хатнімі промысламі, забяспечваючы сябе паўсядзённымі прадметамі ўжытку.

У перыяд фарміравання беларускай нацыі нязначна, але змяняліся сельскагаспадарчы інвентар, традыцыйная планіроўка сялянскага двара, народнае адзенне і харчаванне. З часам шматлікія традыцыйныя прылады працы і прадметы дамашняга вырабу замяніліся прадметамі стандартнай прамысловай вытворчасці. З'явіліся фабрычныя плугі, мэбля, посуд, тканіны, аднак імі карысталіся пераважна заможныя пласты насельніцтва.

У сувязі са слабым развіццём прафесійнага мастацтва галоўную сферу духоўнай культуры беларускай нацыі перыяду фарміравання капіталізму складалі народныя формы мастацтва, традыцыйныя абрады і звычаі. Працягвалі існаваць такія віды фальклору, як абрадавая паэзія каляндарна-вытворчага і сямейна-абрадавага цыклаў, апавядальны жанр, лірычная паэзія. Паступова трацілі сваё былое значэнне быліны, балады, рознага роду замовы і магічныя дзеянні. Фальклор адлюстроўваў і становішча ў грамадстве, надаючы сацыяльную вастрыню прыпеўкам, песням, казкам і апавяданням. Узнікаў т. зв. рабочы рэвалюцыйны фальклор. Развівалася народнае тэатральнае мастацтва, захоўваючы традыцыі батлейкі – народнага лялечнага тэатра. Працоўная дзейнасць народа знайшла сваё адлюстраванне ў танцах "Лянок", "Бульба", "Бычок", "Крыжачок" і інш. У тэатралізаваных прадстаўленнях і на абрадавых святах народныя музыкі на дудках, свірэлях, дудах, гуслях, цымбалах, скрыпках, бубнах выконвалі шматлікія песні і прыпеўкі.

Адметнасць беларускага этнасу адлюстроўвалася ў своеасаблівым народным выяўленчым і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Памастацку аздобленыя рэчы з глыбокай даўніны шырока ўкараніліся ў побыт народа. Мелі распаўсюджанне ўзорыстае ткацтва, вышыўка, вязанне, пляценне з лазы, саломкі і карэнняў. Своеасаблівай рысай беларускіх тканін было выкарыстанне ў арнаменце пераважна геаметрычных форм – чатырохвугольніка, ромба, квадрата і іх частак. Выдатныя ўзоры беларускага мастацкага ткацтва ўяўлялі паясы. У афармленні жылых памяшканняў таксама выкарыстоўвалася мастацкае аздабленне: набылі распаўсюджанне разьбяныя і размаляваныя ліштвы, фрызы, франтоны, канькі.

Кансалідацыя беларускага этнасу ў нацыю суправаджалася ростам *нацыянальнай самасвядомасці.* З другой паловы XIX ст. усё больш актыўна ўжываюцца назва "Беларусь" і этнонім "беларусы". Паводле

50. Зак. 5560

перапісу 1897 г., беларускую мову роднай лічыла 74 % насельніцтва Беларусі. Этнонім "беларусы" паступова выцясняў лакальныя тэрміны тыпу "літвіны", "чарнарусы". Аднак ён не меў яшчэ агульнаэтнічнага зместу. Існавалі рэгіянальныя назвы (палешукі), канфесіянізмы (рускія і палякі), жыхары некаторых частак Беларусі называлі сябе тутэйшымі.

Фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці садзейнічалі публікацыі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. фундаментальных навуковых прац, прысвечаных беларускаму народу, яго мове, культуры і гістарычнаму мінуламу. Працы І.І.Насовіча, М.А.Дзмітрыева, Ю.Ф.Крачкоўскага, А.М.Семянтоўскага, М.Я.Нікіфароўскага, Я.Ф.Карскага, Е.Р.Раманава і іншых аўтараў аб'ектыўна засведчылі факт існавання самастойнага беларускага этнасу. Важнае значэнне на шляху абуджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў адыгралі працы В.Ластоўскага, асабліва яго "Кароткая гісторыя Беларусі", дзе ўпершыню беларускі этнас разглядаецца як суб'ект гістарычнага працэсу.

Такім чынам, у другой палове XIX – пачатку XX ст. працягваўся і ў асноўным завяршыўся працэс фарміравання беларускай нацыі як сялянскай у сваёй аснове. Адмоўнае ўздзеянне на гэты працэс аказвалі слабасць нацыянальнай буржуазіі, беднасць і непісьменнасць большасці беларусаў, рэлігійны раскол і антыбеларуская накіраванасць праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла, школы, друку, дзяржаўных устаноў, якія адмаўлялі існаванне беларускага этнасу і ўсіх беларусаў лічылі альбо рускімі, альбо палякамі. У працэсе фарміравання беларускай нацыі складванне нацыянальнай літаратурнай мовы цалкам не завяршылася. Нягледзячы на некаторы рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, і гэты працэс таксама поўнасцю не завяршыўся. Развіццё беларускай нацыі працягвалася ў наступныя дзесяцігоддзі XX ст.

## § 2. Развіццё адукацыі, навукі, друку

**Агульнаадукацыйная школа. Школьныя рэформы 60 – 80 гадоў. Змены ў сістэме школьнай адукацыі ў пачатку XX ст.** Патрэбы капіталістычнага развіцця, узмацненне грамадска-палітычнага руху вымусілі царызм правесці школьную рэформу, якая садзейнічала пашырэнню сеткі пачатковых школ і адмяняла саслоўныя абмежаванні для паступаючых у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы. Палажэннем аб пачатковых народных вучылішчах 1864 г. было дазволена грамадскім установам і прыватным асобам адкрываць пачатковыя школы "для ўмацавання ў народзе рэлігійных і маральных паняццяў і распаўсюджвання першапачатковых карысных ведаў". У гэтых школах дзяцей вучылі пісьму і чатыром дзеянням арыфметыкі, вялікая ўвага надавалася закону божаму і царкоўным спевам. У нядзельныя і святочныя дні вучні былі абавязаны ўсёй школай хадзіць у царкву. Для ўзмацнення адміністрацыйнага і педагагічнага кантролю ў 1869 г. уводзілася пасада інспектара народных вучылішч, а ў 1874 г. – дырэктара народных вучылішч.





Статут гімназій і прагімназій (няпоўная гімназія ў складзе 4, 5 і 6-х класаў) 1864 г. уводзіў усесаслоўны прынцып, аднак высокая плата за навучанне фактычна закрывала доступ да сярэдняй адукацыі прадстаўнікам шырокіх колаў насельніцтва. Мужчынскія гімназіі дзяліліся на класічныя і рэальныя. Выпускнікі класічных гімназій маглі паступаць ва універсітэт без экзаменаў, а выпускнікі рэальных гімназій – па конкурсе ў вышэйшыя тэхнічныя навучальныя ўстановы. У 1871 г. быў зацверджаны новы статут гімназій, які прадугледжваў адкрыццё толькі класічных гімназій. Тэрмін навучання ў іх павялічваўся з 7 да 8 гадоў. Рэальныя гімназіі былі пераўтвораны ў рэальныя вучылішчы, дзе тэрмін навучання скарачаўся з 7 да 6 гадоў. Права паступаць у тэхнічныя вышэйшыя навучальныя ўстановы мелі толькі тыя, хто скончыў сёмы (дадатковы) клас вучылішча. Па-ранейшаму існавалі сярэднія навучальныя ўстановы царкоўнага ведамства – духоўныя семінарыі.

У ходзе рэформы навучальныя ўстановы розных ведамстваў перайшлі ў большасці сваёй у падпарадкаванне Міністэрству народнай асветы. У вёсках былі ліквідаваны школы Міністэрства дзяржаўных маёмасцей, удзельных кантор, школы памешчыкаў, праваслаўнага і каталіцкага духавенства. Былі закрыты дваранскія паявятовыя вучылішчы, якія існавалі ў заходніх губернях. Пачатковымі школамі ў вёсцы сталі народныя вучылішчы. Па палажэнні 1872 г. ствараліся гарадскія вучылішчы, выпускнікі якіх не маглі паступаць у сярэднія навучальныя ўстановы. Пры царкоўных прыходах існавалі пачатковыя прыходскія адна- і двухкласныя школы дарэформеннага тыпу, а таксама двух-, трох- і чатырохкласныя мужчынскія і жаночыя вучылішчы царкоўнага ведамства.

Разам з тым ажыццяўленне школьнай рэформы на Беларусі супала з правядзеннем жорсткага курсу ў палітыцы царызму пасля падаўлення паўстання 1863 – 1864 гг. За ўдзел выкладчыкаў, студэнтаў і навучэнцаў у паўстанні былі закрыты Горы-Горацкі земляробчы інстытут, Навагрудская гімназія, Свіслацкая і Маладзечанская прагімназіі. Былі ліквідаваны польскія школы і амаль усе прыватныя вучылішчы як "рассаднікі паланізацыі". У школах забаранялася выкладанне польскай мовы. Усім выкладчыкам і настаўнікам загадана было клапаціцца аб тым, каб у сценах навучальных устаноў гутарковай мовай была руская.

Нягледзячы на жорсткі курс палітыкі расійскага ўрада ў галіне асветы, а таксама матэрыяльныя цяжкасці (адна школа прыходзілася на 8 –10 вёсак, большая частка школ размяшчалася ў непрыстасаваных для заняткаў сялянскіх хатах, парт на ўсіх вучняў не хапала, вучэбных дапаможнікаў было мала, сшыткаў вучні сельскіх школ не



*Полацкі кадэцкі корпус. XIX ст.*

мелі і г. д.), цяга беларускага насельніцтва да навучання дзяцей у школе была велізарная. Як сведчаць гістарычныя дакументы, многія школы ў Беларусі поўнасцю знаходзіліся на ўтрыманні сялян. На сродкі сялян аддаленых вёсак пры школах ствараліся і ўтрымліваліся вучнёўскія інтэрнаты. Шырока практыкаваўся збор сельскай грамадой грашовых сродкаў і збожжа на будаўніцтва і ўтрыманне дзяржаўных народных вучылішч. Адкрываліся хатнія "школкі". Сяляне наймалі на некалькі дамоў пісьменнага хлопца – "дарэктара", які вучыў дзяцей у сялянскіх хатах па чарзе. У Беларусі, дзе не было земскіх школ, матэрыяльная падтрымка насельніцтвам школьнай справы з'яўлялася сведчаннем яго цягі да адукацыі, святла і ведаў.

З 1881 г. у Расіі наступіў перыяд жорсткай палітычнай рэакцыі, якая адмоўна паўплывала на сістэму адукацыі. У адпаведнасці з палажэннем 1884 г. аб царкоўнапрыходскіх школах пачаўся наступ на народныя вучылішчы, многія з якіх былі закрыты. Замест народных вучылішч ствараліся царкоўнапрыходскія школы і школы граматы, падначаленыя мясцоваму праваслаўнаму духавенству. У 1881 – 1899 гг. колькасць народных вучылішч у Беларусі скарацілася з 1198 да 999, адначасова было адкрыта 5814 царкоўнапрыходскіх школ і школ граматы.

Былі прыняты меры для абмежавання доступу ў сярэднюю школу выхадцам з ніжэйшых саслоўяў. Летам 1887 г. выдадзены цыркуляр,





які ў асяроддзі прагрэсіўнай грамадскасці атрымаў назву цыркуляра "аб кухарчыных дзецях". Ажыццяўленне цыркуляра, па задумцы аўтараў, павінна было вызваліць гімназіі і прагімназіі ад паступлення ў іх дзяцей фурманаў, лакеяў, павароў, прачак, дробных гандляроў і да іх падобных людзей, "детей коих, за исключением разве одаренных необыкновенными способностями, вовсе не следует выводить из среды, к коей они принадлежат". З гэтай мэтай была значна павышана плата за навучанне.

Пад уплывам эканамічнага развіцця краіны павялічваліся колькасць школ, якія забяспечвалі пачатковыя веды, і кантынгент вучняў. Калі ў 1881 г. на тэрыторыі Беларусі налічвалася 1198 сельскіх народных школ і іх аддзяленняў з 49 161 навучэнцам, дык у 1899 г. у 6813 народных вучылішчах, царкоўнапрыходскіх школах і школах граматы ўжо было 216 127 навучэнцаў.

Сярэднія навучальныя ўстановы знаходзіліся ў буйных гарадах Беларусі, у іх вучыліся пераважна дзеці прадстаўнікоў прывілеяваных саслоўяў. У 1868 г. на тэрыторыі Беларусі працавалі 6 мужчынскіх і 4 жаночыя гімназіі, 2 прагімназіі, 4 духоўныя семінарыі і Полацкі кадэцкі корпус. У іх налічвалася 3265 навучэнцаў. З усіх сярэдніх навучальных устаноў толькі мужчынскія класічныя і рэальныя гімназіі давалі права паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Астатнія навучальныя ўстановы такіх правоў не давалі, іх выпускнікі займалі службовыя пасады. Напрыклад, выпускніцы жаночых гімназій звычайна атрымлівалі пасады настаўніц у народных вучылішчах, а тыя, што найбольш паспяхова скончылі гімназію, – званне хатняй настаўніцы.

У 70-я гады былі адкрыты рэальныя вучылішчы ў Пінску і Мінску, у 1885 г. – у Магілёве. У 1898 г. колькасць сярэдніх навучальных устаноў на Беларусі павялічылася да 20, у іх навучалася каля 5000 чалавек.

Аднак, нягледзячы на пашырэнне сеткі навучальных устаноў і рост кантынгенту навучэнцаў, узровень адукацыі заставаўся яшчэ нізкім. Паводле перапісу 1897 г., агульны лік пісьменных у Беларусі складаў толькі 25, 7 %.

На пачатку XX ст. у сістэме школьнай адукацыі Беларусі адбыліся новыя змены. Памяншалася колькасць школ царкоўнага ведамства: замест царкоўнапрыходскіх школ адкрываліся народныя вучылішчы. У пачатковых школах у 1911 г. вучылася толькі 18, 4 % дзяцей школьнага ўзросту. Гарадскія вучылішчы былі пераўтвораны ў вышэйшыя пачатковыя вучылішчы – чатырохкласныя агульнаадукацыйныя школы павышанага тыпу. Павялічвалася колькасць сярэдніх навучальных устаноў (поўных і няпоўных): у 1914 г. іх налічвалася 88 (33 дзяржаўныя і 55 прыватных) з 31, 5 тыс. навучэнцаў.

**Прафесійная адукацыя.** Развіццё капіталістычных адносін у прамысловасці, сельскай гаспадарцы і на транспарце выклікала па-

51. Зак. 5560

трэбу ў кваліфікаванай рабочай сіле. Таму менавіта ў другой палове XIX ст. на тэрыторыі Беларусі, як і ў цэлым па Расійскай імперыі, наглядалася ўзнікненне і колькасны рост прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў. Структура і асаблівасці прафесійнай школы на Беларусі былі абумоўлены шэрагам фактараў: пабудовай агульнарасійскай сістэмы прафесійнай адукацыі, накіраванасцю мясцовай вытворчасці, нацыянальным складам насельніцтва беларускіх губерняў.

Расійская сістэма прафесійнай адукацыі мела тры асноўныя ступені: вышэйшую, сярэднюю і ніжэйшую. Вышэйшая тэхнічная адукацыя давалася ў палітэхнікумах і тэхналагічных інстытутах і мела на мэце падрыхтоўку інжынераў. Сярэднія тэхнічныя вучылішчы рыхтавалі тэхнікаў, ніжэйшыя прафесійныя навучальныя ўстановы — высокакваліфікаваных рабочых.

Узнікненне сярэдніх і ніжэйшых тэхнічных вучылішч адносіцца да 60-х гадоў XIX ст. Яны належалі розным ведамствам, прыватным асобам і дзейнічалі на падставе спецыяльных статутаў. У 1888 г. былі апублікаваны Асноўныя палажэнні аб прамысловых вучылішчах, дзе выкладаліся прынцыпы арганізацыі спецыяльнай адукацыі і вызначалася яе месца ў агульнай сістэме народнай асветы Расійскай імперыі. У 1889 г. былі выпрацаваны статуты трох асноўных тыпаў прамысловых вучылішч: сярэдніх і ніжэйшых тэхнічных вучылішч і рамесных вучылішч. Да разраду ніжэйшых тэхнічных вучылішч адносіліся чыгуначныя вучылішчы, якія мелі на мэце падрыхтоўку машыністаў, памочнікаў машыністаў і іншы абслугоўваючы персанал для чыгунак. З 1893 г. узнік новы тып прамыслова-тэхнічных навучальных устаноў — школа рамесных вучняў, а ў 1895 г. быў выпрацаваны тып ніжэйшай рамеснай школы.

У дарэвалюцыйнай Расіі існавала развітая сістэма сельскагаспадарчай адукацыі. Асабліва колькасны рост сельскагаспадарчых навучальных устаноў наглядаўся пасля адмены прыгоннага права. Сярэднія і ніжэйшыя сельскагаспадарчыя школы мелі на мэце падрыхтоўку абслугоўваючага персаналу для памешчыцкіх маёнткаў, інструктараў, настаўнікаў і сельскіх гаспадароў. Ніжэйшыя сельскагаспадарчыя школы падзяляліся на агульныя (давалі веды па вядзенні сельскай гаспадаркі ў цэлым) і спецыяльныя (выкладаліся прадметы, звязаныя з якой-небудзь адной спецыяльнасцю: садаводствам, пчалярствам, малочнай гаспадаркай і інш.).

Да агульнарасійскай сістэмы прафесійнай адукацыі адносіліся і камерцыйныя навучальныя ўстановы, якія давалі тэарэтычныя і практычныя веды, неабходныя для камерцыйнай дзейнасці. Існавалі наступныя тыпы камерцыйных навучальных устаноў: гандлёвыя класы, гандлёвыя школы, камерцыйныя вучылішчы, курсы камерцыйных ведаў.

Да прафесійных навучальных устаноў належалі медыцынскія вучылішчы, мастацкія класы, вячэрнія прафесійныя курсы, вучэбныя





майстэрні, жаночыя прафесійныя школы, музычныя вучылішчы. З 1865 г. пачаў сваё існаванне і такі тып прафесійнай падрыхтоўкі, як рамесныя класы і аддзяленні пры агульнаадукацыйнай школе.

Гэтыя разнастайныя тыпы прафесійных школ падпарадкоўваліся розным дзяржаўным установам. Большасць з іх належала Міністэрству народнай асветы. Міністэрства земляробства кантралявала сельскагаспадарчыя і лясныя школы, Міністэрства фінансаў — камерцыйныя, мастацка-прамысловыя навучальныя ўстановы, Міністэрства шляхоў зносін — тэхнічныя чыгуначныя вучылішчы, Міністэрства юстыцыі — землямерныя вучылішчы.

Усе адзначаныя тыпы прафесійных школ існавалі на тэрыторыі Беларусі. Адной з першых прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў было Горацкае рамеснае вучылішча, адчыненае ў 1872 г. на базе Горацкага механічнага завода. Асноўнымі спецыяльнасцямі былі слясарная і кавальская. Вучылішча рыхтавала таксама выкладчыкаў для ніжэйшых сельскагаспадарчых школ.

Большасць прамысловых прафесійных школ на Беларусі было адчынена ў канцы 80 — пачатку 90-х гадоў, што выклікана шырокім будаўніцтвам лесапільных і цагельных заводаў, запалкавых і фанерных фабрык. У 1890 г. пачало дзейнічаць Аляксандраўскае рамеснае вучылішча ў Гродне для падрыхтоўкі сталяроў, слесараў, кавалёў.

У сувязі з развіццём чыгуначнага транспарту ў 1878 г. адчынена Гомельскае тэхнічнае чыгуначнае вучылішча. Тут рыхтавалі кавалёў, слесараў, сталяроў, токараў. Тэрмін навучання доўжыўся да 5 гадоў. Атрымаўшы кваліфікацыю, рабочыя накіроўваліся ў рамонтныя майстэрні Лібава-Роменскай чыгункі.

Ніжэйшыя рамесныя школы працавалі ў Ракаве, Віцебску, Быхаве, Гарадку, Мазыры, Дрысе, Рэчыцы, Нягневічах (Навагрудскі павет), Крычаве, Лоўжы (Полацкі павет), Клімавічах. У 1896 г. пачала сваю работу школа рамесных вучняў у Мінску.

Характэрнай рысай прафесійна-тэхнічнай адукацыі на тэрыторыі Беларусі з'яўлялася высокая ўдзельная вага яўрэйскіх прафесійных навучальных устаноў. Яўрэйскае насельніцтва ў "рысе аселасці" займалася рамёствамі, якія развіваліся тут традыцыйна. Неабходнасць прафесійнай падрыхтоўкі рамеснікаў была відавочнай, аднак яўрэйскія дзеці амаль не мелі магчымасці займацца ў агульных прафесійных школах, бо павінны былі выконваць пэўныя рэлігійныя прадпісанні і часта нават не ведалі рускай мовы.

Пытаннямі прафесійнай адукацыі сярод яўрэяў Беларусі займаліся аддзяленні агульнарасійскіх яўрэйскіх арганізацый: Яўрэйскага каланізацыйнага таварыства, Таварыства рамеснай працы і інш. Пры іх актыўнай падтрымцы былі адкрыты яўрэйскія вучылішчы ў Магілёве, Віцебску і Мінску, рамесныя аддзяленні пры яўрэйскіх вучылішчах у Бабруйску, Гродне, Пінску, дзе навучалі слясарна-механічным і сталярным спецыяльнасцям на працягу 3 – 4 гадоў. Мэтай навучання была падрыхтоўка спецыялістаў для фабрычна-за-

водскай прамысловасці і буйной рамеснай вытворчасці. Існавалі жаночыя яўрэйскія прафесійныя школы.

Дынамічна развівалася на Беларусі сельскагаспадарчая адукацыя, што было звязана з паспяховым развіццём сельскай гаспадаркі і існаваннем попыту на прафесіяналаў у галіне земляробства, жывёлагадоўлі і па іншых сельскагаспадарчых спецыяльнасцях.

Працягвала сваю работу Горацкае землеробчае вучылішча, сярэдняя сельскагаспадарчая навучальная ўстанова, адчыненая яшчэ ў 1840 г. Навучанне тут уключала агульнаадукацыйныя і спецыяльныя прадметы, а таксама шматлікія практычныя заняткі па батаніцы, метэаралогіі, геадэзіі, заалогіі, анатоміі, раслінаводству. Вучылішча мела сваю бібліятэку, вопытнае поле, батанічны сад, пасеку, жывёлагадоўчую ферму. Пры вучылішчы дзейнічалі землямерна-таксатарскія класы, пераўтвораныя ў 1909 г. у сярэдняе землямерна-агранамічнае вучылішча.

У 1878 г. была адчынена Мар'інагорская казённая сельскагаспадарчая школа. Яна адносілася да агульных ніжэйшых сельскагаспадарчых школ першага разраду. Пры школе мелася ферма ў памеры 150 дзесяцін зямлі. У жывёлагадоўчай гаспадарцы разводзілася племянная жывёла. Адной з мэт існавання школы, разам з падрыхтоўкай спецыялістаў, было распаўсюджванне сярод сялян перадавых метадаў вядзення сельскай гаспадаркі. За ўдзел у сельскагаспадарчай выставе, арганізаванай Мінскім сельскагаспадарчым таварыствам, Мар'інагорская школа была ўзнагароджана залатым медалём.

На Беларусі існаваў шэраг спецыяльных сельскагаспадарчых школ: Зіноўеўская школа садовых рабочых (Магілёўскі павет), практычная школа скотнікаў у маёнтку Ляўкі (Горацкі павет), Ждановіцкая жаночая школа малочнай гаспадаркі (Чавускі павет), Бабруйская школа садаводства, агародніцтва і хмеляводства, Полацкая ніжэйшая лясная школа, Малалосвідская практычная школа садаводства (Гарадоцкі павет) і інш.

Сельскагаспадарчая адукацыя ажыццяўлялася і шляхам арганізацыі курсаў, класаў і лекцый для жадаючых набыць некаторыя звесткі па розных галінах сельскай гаспадаркі.

У дарэвалюцыйным Мінску працавалі наступныя камерцыйныя навучальныя ўстановы: Мінскае мужчынскае сямікласнае камерцыйнае вучылішча, прыватнае жаночае камерцыйнае вучылішча, прыватная мужчынская гандлёвая школа. Камерцыйныя вучылішчы дзейнічалі таксама ў Слуцку, Брэст-Літоўску, Віцебску, Магілёве, Гомелі.

На Беларусі былі распаўсюджаны жаночыя прафесійныя навучальныя ўстановы. Пераважалі школы кройкі і шыцця і рукадзельныя класы. Выпускніцы атрымлівалі атэстаты, што давалі права адчыняць прыватныя школы і курсы швейнага майстэрства.

Падрыхтоўка сярэдняга медыцынскага персаналу ажыццяўлялася ў ветэрынарна-фельчарскіх і павівальных школах. З 70-х гадоў XIX ст.





існавалі Магілёўская, Віцебская, Гродзенская павівальныя школы, Магілёўская цэнтральная фельчарская школа. У пачатку XX ст. узніклі ветэрынарна-фельчарская школа Мінскага губернскага земства, фельчарска-акушэрскія школы ў Віцебску і Мінску, павівальная школа ў Гомелі, прыватная зубаўрачэбная школа ў Мінску.



*Полацкая настаўніцкая семінарыя*
*Пачатак XX ст*

У другой палове XIX ст. на Беларусі былі закладзены асновы педагагічнай адукацыі. У выніку правядзення школьных рэформ 60-х гадоў паявілася сетка пачатковых народных вучылішч, што выклікала патрэбу ў педагагічных кадрах. Для іх падрыхтоўкі створаны педагагічныя навучальныя ўстановы — настаўніцкія семінарыі. Маладзечанская настаўніцкая семінарыя, першая на Беларусі і наогул у Расійскай імперыі, пачала сваю дзейнасць восенню 1864 г. У 1872 г. была адкрыта Полацкая настаўніцкая семінарыя, у 1874 г. — Нясвіжская, у 1876 г. — Свіслацкая семінарыі. На пачатку XX ст. адкрыты таксама Барысаўская, Бабруйская, Гомельская, Аршанская, Рагачоўская, Барунская, Мсціслаўская і Гарадоцкая настаўніцкія семінарыі.

Праблему падрыхтоўкі настаўнікаў павінна было вырашыць і стварэнне настаўніцкіх інстытутаў. Першы настаўніцкі інстытут на тэрыторыі Беларусі адкрыты ў 1910 г. у Віцебску. У 1913 г. пачаліся заняткі ў Магілёўскім, а ў 1914 г. — у Мінскім настаўніцкіх інстытутах.

Агульнаадукацыйная падрыхтоўка выпускнікоў настаўніцкіх інстытутаў была ніжэйшай, чым навучэнцаў гімназій і рэальных вучылішч. Таму настаўніцкія інстытуты не толькі не з'яўляліся вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, але і не карысталіся правамі сярэдняй школы: іх выпускнікі не мелі права паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Для паскоранай падрыхтоўкі настаўнікаў Міністэрства народнай асветы стварала пры вышэйшых пачатковых вучылішчах двухгадовыя педагагічныя курсы. Настаўнікаў для царкоўнапрыходскіх школ рыхтавалі царкоўна-настаўніцкія і двухкласныя настаўніцкія школы, духоўныя семінарыі і жаночыя епархіяльныя вучылішчы, што належалі духоўнаму ведамству.

52. Зак. 5560



*Віцебскі настаўніцкі інстытут. 1914 г.*

Вышэйшых навучальных устаноў на тэрыторыі Беларусі не было. Афіцыйныя ўлады неаднаразова адхілялі хадайніцтвы грамадскасці аб адкрыцці на Беларусі універсітэта ці політэхнічнага інстытута.

Такім чынам, прафесійная адукацыя на тэрыторыі Беларусі развівалася хуткімі тэмпамі. Пераважалі ніжэйшыя прафесійныя школы, рамесныя класы і аддзяленні пры агульнаадукацыйных школах. Разнапрофільныя і разнатыпныя прафесійныя навучальныя ўстановы рыхтавалі кваліфікаваных спецыялістаў у галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю, медыцыны, асветы, што адпавядала патрэбам сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця краіны.

**Навуковыя даследаванні гісторыі Беларусі, побыту і культуры яе насельніцтва.** Пасля паўстання 1863 – 1864 гг. узрасла цікавасць прагрэсіўнай інтэлігенцыі да гісторыі, побыту і культуры насельніцтва Беларусі. Па-ранейшаму значны ўклад у вывучэнне краю ўносілі вядучыя навуковыя цэнтры Расіі – Акадэмія навук, Маскоўскі і Пецярбургскі універсітэты, у якіх працавалі вядомыя знаўцы культуры і побыту беларусаў – А.А.Шахматаў, А.І.Сабалеўскі, М.А.Янчук.

У 60 – 70-я гады XIX ст. вывучэнне Беларусі паступова стала справай мясцовай інтэлігенцыі, пачалі фарміравацца рэгіянальныя этнаграфічныя цэнтры. Адзін з такіх цэнтраў – Паўночна-Заходняе аддзяленне Рускага геаграфічнага таварыства – існаваў у Вільні. Яно мела ў сваім складзе больш за 300 членаў. У асноўным гэта былі настаўнікі (187 чалавек). Яны ажыццяўлялі экспедыцыйную работу па





вывучэнні Беларусі і збіранні фальклорна-этнаграфічных і археалагічных матэрыялаў. За час існавання аддзялення выйшлі з друку 4 кніжкі "Записок", у якіх апублікавана 12 прац, прысвечаных побыту, культуры і вусна-паэтычнай творчасці беларусаў.

У 1902 г. па ініцыятыве Е.Р.Раманава ў Магілёве створаны таварыства па вывучэнні Беларускага краю (у 1913 г. рэарганізавана ў Таварыства па вывучэнні Магілёўскай губерні) і Гісторыка-этнаграфічны музей. У 1908 г. у Мінску быў арганізаваны царкоўны гістарычна-археалагічны камітэт, які выдаваў працы пад назвай "Минская старина". У 1909 г. створана Віцебская архіўная камісія, дзейнасць якой была накіравана на вывучэнне і публікацыю старажытных актаў і дакументаў па гісторыі Віцебскага краю. Члены камісіі апублікавалі шэраг кніг. У сувязі са 100-годдзем вайны 1812 г. камісія арганізавала збор сродкаў на помнік воінам, якія загінулі на віцебскай зямлі. Помнік быў пастаўлены ў Віцебску на беразе Заходняй Дзвіны.

Заснаванае ў 1912 г. у Мінску Таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі вывучала Мінскую губерню, праводзіла даследаванні рэк на Палессі.

Адным з першых буйных даследчыкаў Беларусі быў настаўнік І.І.Насовіч. У 1852 – 1869 гг. ён надрукаваў некалькі зборнікаў беларускіх прымавак і загадак, а ў 1873 г. – сабраныя ім "Беларускія песні". Асноўная праца І.І.Насовіча, якой ён аддаў 16 гадоў, – "Словарь белорусского наречия", выдадзены ў 1870 г. у Санкт-Пецярбургу.

Выдатным даследчыкам беларускай этнаграфіі і фальклору з'яўляўся настаўнік народных школ Віцебска М.Я.Нікіфароўскі. Першай яго працай былі "Нарысы Віцебскай Беларусі", якія давалі характарыстыку грамадскага побыту беларусаў. М.Я.Нікіфароўскі з'яўляецца аўтарам самай буйной працы па матэрыяльнай культуры беларусаў XIX ст. – "Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку (Этнаграфічныя звесткі)". Ён збіраў і запісваў фальклорныя творы, даследаваў абрады, звычаі і вераванні.

Плённай была дзейнасць этнографа, фалькларыста і археолага Е.Р.Раманава, настаўніка і інспектара народных вучылішч. Ён апублікаваў каля 200 навуковых прац. Пад яго кіраўніцтвам было ажыццёўлена некалькі этнаграфічных экспедыцый па Беларусі, у час якіх збіраліся матэрыялы для "Беларускага зборніка" – своеасаблівай энцыклапедыі матэрыяльнай культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу.

Значны ўклад у вывучэнне беларускай этнаграфіі і фальклору ўнеслі працы настаўніка рускай мовы Навагрудскага дваранскага вучылішча М.А.Дзмітрыева, педагога Ю.Ф.Крачкоўскага, супрацоўніка Віцебскага статыстычнага камітэта А.М.Семянтоўскага, П.В.Шэйна, М.Федароўскага, М.В.Доўнар-Запольскага, А.Я.Багдановіча і інш.

У пачатку XX ст. новай плынню ў беларускай этнаграфіі стала вывучэнне матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларусаў.

З'явіліся працы Е.Р.Раманава, А.Харузіна, А.Сержпутоўскага і іншых даследчыкаў, прысвечаныя асаблівасцям жылля, адзення, прылад працы і вытворчай дзейнасці насельніцтва. Рабіліся першыя спробы навуковага аналізу сабраных матэрыялаў. Галоўная заслуга ў гэтым належыць Я.Ф.Карскаму. Вынікі сваёй шматгадовай працы ў галіне беларускай лінгвістыкі, этнаграфіі і фалькларыстыкі ён апублікаваў у 1903 – 1922 гг. у трохтомніку (7 кніг) "Белорусы", да якога і сёння звяртаюцца навукоўцы і палітычныя дзеячы.

Для вывучэння прадукцыйных сіл і природных багаццяў Беларусі ў 1910 г. была адкрыта Беняконская сельскагаспадарчая станцыя (Гродзенская губ.), у 1913 г. – Мінская балотная станцыя.

**Кніжны і перыядычны друк.** Буржуазныя рэформы 60-х гадоў XIX ст. не змянілі карэнным чынам становішча ў галіне друку. Часовыя правілы (6 красавіка 1865 г.) ад папярэдняй цэнзуры вызвалялі толькі сталічныя штодзённыя газеты і часопісы, а таксама кнігі аб'ёмам больш за 10 друкаваных аркушаў. Усе ілюстраваныя, сатырычныя выданні і ўвесь правінцыяльны друк заставаліся па-ранейшаму пад папярэдняй цэнзурай. У 1882 г. быў прыняты закон, паводле якога прэса ставілася ў поўную залежнасць ад самавольства чыноўнікаў.

У 60 – 80-я гады XIX ст. у мясцовых выдавецтвах Беларусі выходзілі пераважна рэлігійная і багаслоўская літаратура, граматыкі і азбукі, даведнікі, невялікія зборнікі вершаў. Кнігі выдаваліся галоўным чынам на рускай, яўрэйскай і польскай мовах, некалькі кніг у год выходзіла на літоўскай мове. На беларускай мове за гэтыя гады ў краі не было выдадзена ніводнай кнігі.

Перыядычны друк Беларусі быў прадстаўлены толькі афіцыйнымі органамі. Сярод іх "Губернские ведомости", якія выдаваліся за казённы кошт губернскімі праўленнямі пад наглядам віцэ-губернатараў. "Губернские ведомости" не мелі шырокага кола чытачоў сярод мясцовага насельніцтва. "Епархиальные ведомости" прызначаліся для праваслаўных святароў, выкладчыкаў і навучэнцаў духоўных вучылішч і семінарый. Іх выданне было выклікана барацьбой праваслаўнай царквы з каталіцкай пасля паўстання 1863 – 1864 гг.

У краі выдавалася таксама газета "Виленский вестник", рэдактарам якой з'яўляўся вядомы этнограф А.Кіркор. Газета стала выразніцай інтарэсаў той часткі партыі "белых", якая спадзявалася дасягнуць сваіх мэт мірнымі сродкамі – шляхам змовы з царызмам. Такая пазіцыя газеты задавальняла большасць мясцовых памешчыкаў, якія і склалі асноўную масу яе падпісчыкаў.

На старонках часопіса "Вестник Западной Росии" (рэдактар-выдавец К.Гаворскі), як і іншых афіцыйных перыядычных выданняў, ухваляліся царызм і праваслаўная царква, абараняліся шавінізм мясцовай адміністрацыі і ўсе яе мерапрыемствы па пашырэнні рускага ўплыву ў краі, асуджалася паўстанне 1863 – 1864 гг., скажаліся яго ідэі і рухаючыя сілы. Экскурсы ў гісторыю, матэрыялы па этнаграфіі і культуры Беларусі, якія змяшчаліся на старонках афіцыйных органаў, у большасці сваёй сцвярджалі, што Беларусь і беларусы не маюць права на самастойнае палітычнае і культурнае развіццё.





У 1886 г. пачалося выданне ў Беларусі адзінай легальнай, незалежнай ад урада літаратурна-палітычнай газеты "Минский листок". З 1902 г. яна выходзіла пад назвай "Северо-Западный край". У "Минском листке" супрацоўнічалі паэт Я.Лучына, гісторыкі і этнографы А.Я.Багдановіч, М.Я.Янчук, М.В.Доўнар-Запольскі і інш. На старонках газеты друкаваліся матэрыялы і даследаванні па этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі, вершы беларускіх паэтаў на роднай мове, крытычныя агляды твораў літаратуры і мастацтва XIX ст.

У 90-я гады XIX ст. пачалося некаторае ажыўленне падцэнзурнага беларускамоўнага друку. Паэма "Тарас на Парнасе", напрыклад, тройчы перавыдавалася ў Віцебску, двойчы ў Гродне і Магілёве. У 1900 – 1905 гг. выйшлі з друку маленькія кніжачкі: "Вязанка" Я.Лучыны, "Калядная пісанка на 1904 год", "Велікодная пісанка" і "Переложение некоторых басен Крылова на белорусское наречие" М.Косіч. У 1906 г. у пецярбургскім выдавецтве "Загляне сонца і ў наша аконца" былі выпушчаны "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання" і "Першае чытанне для дзетак-беларусаў", надрукаваныя кірыліцай і лацінкай. Затым выдавецтва распачало выпуск серыі кніжак "Беларускія песняры", за выданне ў якой зборнікаў вершаў "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" Ф.Багушэвіча, "Жалейка" Я.Купалы Пецярбургскі камітэт па справах друку пачаў крымінальнае праследаванне выдавецтва. У 1908 – 1914 гг. на кніжны рынак паступілі беларускія выданні 77 назваў агульным тыражом 226 660 экзэмпляраў.

Рэвалюцыя 1905 – 1907 гг. выклікала ажыўленне перыядычнага друку. З'явілася шмат новых газет і часопісаў розных палітычных накірункаў. Найбольш значнымі мясцовымі буржуазна-ліберальнымі выданнямі былі "Северо-Западный голос", "Свободное слово", "Голос провинции", "Окраина" і інш. Акцябрысцка-чарнасоценны друк Беларусі быў прадстаўлены "Белорусским вестником", "Минским словом", "Крестьянином", "Северо-Западной жизнью" і іншымі выданнямі. Характэрнай асаблівасцю правай прэсы з'яўляліся антыпольскія і антыяўрэйскія выступленні, непрызнанне беларускай нацыі.

У гады рэвалюцыі мясцовыя сацыял-дэмакратычныя арганізацыі выдавалі нелегальныя газеты "Листок Полесского комитета РСДРП", "Листок Северо-Западного союза РСДРП", "Минский летучий листок", "Солдатская жизнь" і інш. Для прапаганды сваіх ідэй Мінская бальшавіцкая група выкарыстоўвала газету "Северо-Западный край".

1 верасня 1906 г. у Вільні выйшаў першы нумар штотыднёвай газеты на беларускай мове "Наша доля", якая выдавалася групай дзеячаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Пяць з шасці нумароў гэтай газеты былі канфіскаваны, на шостым нумары яе выданне спынена. Рашэннем судовай палаты ў студзені 1907 г. выданне "Нашай долі" канчаткова забаронена.

З лістапада 1906 г. у Вільні пачала выходзіць газета "Наша ніва".

## § 3. Мастацтва і архітэктура

**Развіццё беларускай літаратуры.** У другой палове XIX ст. пачаўся новы этап у развіцці беларускай літаратуры, абумоўлены новымі з'явамі ў сацыяльна-эканамічным і палітычным жыцці. Заканчваўся перыяд пераважна паўананімнага нелегальнага развіцця літаратуры. Пісьменнікі паступова пераадольвалі вузкае фальклорнае апісальніцтва, станавіліся на шлях стварэння развітай літаратуры. Ішоў працэс жанравага яе ўзбагачэння, удасканальвалася вершаскладанне.

Пэўны адбітак на развіццё беларускай літаратуры аказала паўстанне 1863 – 1864 гг. Шырока распаўсюджваліся ананімныя "гутаркі", складзеныя дзеячамі польскага нацыянальна-вызваленчага руху, адрасаваныя беларускім сялянам і прысвечаныя крытыцы сацыяльных парадкаў у царскай Расіі. Яркім прыкладам мастацкай рэвалюцыйнай публіцыстыкі з'яўляецца газета К.Каліноўскага "Мужыцкая праўда" і яго "Пісьмы з-пад шыбеніцы". Выкарыстоўваючы фальклорную сімволіку і традыцыйную форму народнай "гутаркі", аўтар "Мужыцкай праўды" заклікаў сялян да барацьбы за лепшую долю. У "Пісьмах з-пад шыбеніцы" К.Каліноўскі развітваецца са сваім народам перад пакараннем смерцю і выказвае веру ў тое, што народ яшчэ ўзнімецца на барацьбу.

Традыцыі пачатку 60-х гадоў прадоўжылі Ф.Багушэвіч, А.Гурыновіч і Я.Лучына, якія прыйшлі ў літаратуру ў канцы 80 – пачатку 90-х гадоў.

Вяршыняй развіцця беларускай літаратуры другой паловы XIX ст. стала творчасць Ф.Багушэвіча. У 1891 г. у Кракаве выдадзены яго першы зборнік "Дудка беларуская" пад псеўданімам Мацей Бурачок. У 1896 г. таксама за мяжой пад псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава з'явіўся зборнік "Смык беларускі". Да гэтых зборнікаў Ф.Багушэвіч складаў прадмовы , дзе імкнуўся абудзіць нацыянальную свядомасць беларускага народа. Ён першы з беларускіх пісьменнікаў абвясціў існаванне беларускага этнасу і адзначыў самастойнасць беларускай мовы. Цэнтральная тэма творчасці Ф.Багушэвіча – жыццё паднявольнага сялянства, яго пошукі справядлівасці і выйсця з сацыяльнага бяспраўя. Пачынальнік крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, Ф.Багушэвіч праз дэмакратычную паэзію і публіцыстыку станоўча паўплываў на сваіх сучаснікаў – Я.Лучыну і А.Гурыновіча.

У творчасці Я.Лучыны (І.Неслухоўскага) знайшлі адлюстраванне любоў да беларускага селяніна, імкненне бачыць яго адукаваным і шчаслівым. Лірычны верш з'яўляецца асноўным жанрам яго творчасці на беларускай мове. Вершы Лучыны былі пасмяротна сабраны ў зборніку "Вязанка", выдадзеным у 1903 г.

Літаратурных твораў А.Гурыновіча захавалася вельмі мала. За рэвалюцыйную дзейнасць паэт быў арыштаваны царскімі ўладамі.





У сваіх лірычных і сатырычных вершах ён асноўную ўвагу надаваў паказу жыцця беларускага сялянства, заклікаў яго да барацьбы. Творы А.Гурыновіча былі выдадзены толькі пасмяротна.

На лепшыя дасягненні літаратуры другой паловы XIX ст., на традыцыі, закладзеныя К.Каліноўскім, Ф.Багушэвічам, Я.Лучынам, А.Гурыновічам, абапіралася новая беларуская літаратура пачатку XX ст. Развівалася яна таксама і пад дабратворным уплывам рускай, польскай і ўкраінскай літаратур. Менавіта ў пачатку XX ст. беларуская літаратура набыла рысы развітай літаратуры з разнастайнымі жанрамі і стылявымі накірункамі.

Новыя тэмы, матывы і вобразы прынесла ў беларускую літаратуру Цётка (А.Пашкевіч). Яе кнігі рэвалюцыйных вершаў "Скрыпка беларуская" і "Хрэст на свабоду" сталі першымі арыгінальнымі зборнікамі беларускай паэзіі XX ст. Цётка з'явілася адной з пачынальнікаў апавядальнага жанру. Яна напісала чытанку "Першае чытанне для дзетак-беларусаў", выступала як публіцыст, даследчык гісторыі беларускага народнага тэатра.

Як народны паэт, адзін з заснавальнікаў беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы, нацыянальнай школы перакладу ўвайшоў у гісторыю Я.Купала (І.Д.Луцэвіч). Першы яго верш "Мужык" быў апублікаваны ў маі 1905 г., а першы зборнік вершаў "Жалейка" ўбачыў свет у 1908 г. Найбольш значны паэтычны зборнік Я.Купалы дарэвалюцыйнай пары — "Шляхам жыцця" – быў выдадзены ў 1913 г.

Гераіка-рамантычныя паэмы Я.Купалы "Курган", "Бандароўна" вылучылі яго як стваральніка класічнага нацыянальнага эпасу. П'есы Я.Купалы "Паўлінка", "Раскіданае гняздо" ўяўляюць сабой найвышэйшае дасягненне беларускай драматургіі пачатку XX ст. У сваёй перакладчыцкай дзейнасці Я.Купала выступіў у якасці прапагандыста дасягненняў славянскіх літаратур, стварыўшы пераклады твораў М.Някрасава, І.Крылова, А.Міцкевіча, Т.Шаўчэнкі. Значэнне творчасці Я.Купалы заключаецца ў тым, што ён узняў беларускую літаратуру на якасна новы ўзровень і сваёй творчасцю і грамадскай дзейнасцю спрыяў фарміраванню і развіццю беларускай літаратурнай мовы.

Разам з Я.Купалам заснавальнікам новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы стаў Я.Колас (К.М.Міцкевіч). Першы верш паэта "Наш родны край" з'явіўся ў друку ў 1906 г. Першы зборнік вершаў "Песні-жальбы" быў надрукаваны ў 1910 г. У сваёй грамадзянскай лірыцы Я.Колас часта звяртаецца да селяніна, імкнучыся абудзіць яго свядомасць. У 1912 г. выйшаў першы зборнік яго празаічных твораў "Апавяданні", а ў 1914 г. – "Родныя з'явы", куды ўвайшлі хрэстаматыйныя сёння апавяданні "Нёманаў дар" і "Малады дубок". Я.Колас пачаў стварэнне сваіх класічных паэм "Новая зямля" і "Сымон-музыка". Дакастрычніцкая творчасць паэта – сапраўдны мастацкі летапіс жыцця беларускага народа.

Адзіны паэтычны зборнік "Вянок" належыць М.Багдановічу, аднак ён дазволіў паэту заняць значнае месца ў беларускай літаратуры. М.Багдановіч узбагаціў беларускую лірыку новымі тэмамі, вобразамі і формамі. Для яго лірыкі было характэрна паглыбленне ва ўнутраны свет героя, філасофскі роздум. Акрамя вершаў М.Багдановіч пісаў празаічныя творы, літаратуразнаўчыя і публіцыстычныя артыкулы.

У беларускай літаратуры пачатку XX ст. раскрыліся творчыя здольнасці М.Гарэцкага, З.Бядулі, Ц.Гартнага, К.Каганца і інш. Новая беларуская літаратура пачала знаходзіць прызнанне ў суседніх, перш за ўсё славянскіх, народаў, паступова ўключацца ў сусветны гісторыка-літаратурны працэс.

**Станаўленне нацыянальнага прафесійнага тэатра. Музычнае жыццё.** У фарміраванні беларускага прафесійнага нацыянальнага тэатра вялікую ролю адыграла тэатральная культура рускага, украінскага і польскага народаў. У беларускіх гарадах дзейнічалі мясцовыя рускія драматычныя трупы, а таксама гастралявалі акцёры сталічных тэатраў. Беларускія гледачы мелі магчымасць пазнаёміцца з выдатнай ігрой знакамітых рускіх артыстаў М.Савінай, П.Арленева, М.Хадотава, В.Камісаржэўскай. Разнастайны рэпертуар рускіх драматычных калектываў складалі не толькі п'есы забаўляльнага характару, але і лепшыя творы сусветнай і айчыннай драматургічнай класікі. Нязменным поспехам карысталіся творы М.Гогаля, А.Грыбаедава, А.Астроўскага, А.Чэхава і іншых рускіх драматургаў. Паспяхова гастралявалі на Беларусі ўкраінскія тэатры М.Старыцкага, М.Крапіўніцкага. Прыязджалі таксама польскія тэатральныя калектывы.

Пад уздзеяннем выступленняў прафесійных тэатраў у беларускіх гарадах і мястэчках ствараліся аматарскія тэатральныя калектывы. У Мінску на сцэне Дваранскага сходу прафесіяналы і аматары ставілі творы рускай, украінскай і зарубежнай драматургіі. 5 чэрвеня 1890 г. у горадзе быў адкрыты пастаянны тэатр (цяпер памяшканне тэатра імя Янкі Купалы). У гэтым жа годзе ў Мінску было створана Таварыства аматараў мастацтваў. У асяроддзі беларускай інтэлігенцыі паступова наспявала ідэя неабходнасці стварэння беларускага нацыянальнага тэатра прафесійнага тыпу.

Уздым беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, з'яўленне новых значных твораў беларускай драматургіі спрыялі ў пачатку XX ст. стварэнню шматлікіх музычна-драматычных гурткоў і арганізацыі т. зв. беларускіх вечарынак. На вечарынках звычайна выступалі хоры, танцоры, чыталіся беларускія літаратурныя творы, ставіліся п'есы. На першапачатковым этапе сваёй дзейнасці ўдзельнікі вечарынак сутыкнуліся з недахопам беларускіх п'ес, таму яны ставілі драматычныя творы рускіх, украінскіх аўтараў. Рэпертуар вечарынак уключаў таксама п'есы "Паўлінка" і "Прымакі" Я.Купалы, "Антось Лата" Я.Коласа, "Модны шляхцюк" К.Каганца.







*Першая беларуская трупа І. Буйніцкага. 1910 г.*

На традыцыях беларускіх вечарынак узнікла Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага – сапраўдны тэатр прафесійнага тыпу. Значнае месца сярод дзеячаў беларускай культуры заняла асоба яе стваральніка. Землямер па прафесіі, цесна звязаны з простым народам, сапраўдны патрыёт, І.Буйніцкі на свае ўласныя сродкі стварыў трупу ў асабістым фальварку Палевачы ў Дзісенскім павеце (цяпер Глыбоцкі р-н). У 1907 г. замацаваўся пастаянны склад удзельнікаў гэтага калектыву, а ў 1910 г. пасля ўдзелу ў Першай беларускай вечарынцы ў Вільні тэатр І.Буйніцкага ператварыўся ў прафесійны.

У рэпертуары Першай беларускай трупы былі песні, танцы, пастаноўкі п'ес "Па рэвізіі", "Пашыліся ў дурні" М.Крапіўніцкага, "У зімовы вечар" Э.Ажэшкі, "Міхалка" Далецкіх, "Сватанне" А.Чэхава, "Модны шляхцюк" К.Каганца, дэкламаваліся творы беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. І.Буйніцкі і яго акцёры займаліся актыўнай гастрольнай дзейнасцю. У час гастроляў па Беларусі І.Буйніцкі дапамагаў мясцовым аматарскім гурткам, што спрыяла пашырэнню тэатральнага аматарства.

У 1911 – 1912 гг. трупа І.Буйніцкага выступала ў Пецярбургу, у 1913 г. калектыў наведаў Варшаву. Такім чынам І.Буйніцкі знаёміў гледачоў з мастацкай культурай беларускага народа, звяртаў увагу на яе асаблівасці, непаўторны нацыянальны каларыт. Асабліва высокую адзнаку грамадскасці атрымала другое выступленне ў Пецярбургу трупы І.Буйніцкага. Расійскі часопіс "Вестник знания" адзна-

чыў, што поспех беларускіх артыстаў быў каласальны. Я.Дыла назваў іх выступленне трыумфам у сталіцы.

Справу І.Буйніцкага па стварэнні нацыянальнага тэатра актыўна падтрымлівалі газета “Наша ніва”, прагрэсіўныя дзеячы беларускай культуры Я.Купала, Ядвігін Ш., Цётка, Ц.Гартны, З.Бядуля. Аднак матэрыяльныя цяжкасці прымусілі І.Буйніцкага ў 1913 г. закрыць тэатр.

Дзейнасць Першай беларускай трупы і яе заснавальніка, якога яшчэ пры жыцці называлі бацькам беларускага тэатра, упісала яркую старонку ў развіццё беларускай тэатральнай культуры, заклала трывалы падмурак у развіццё справы паслядоўнікаў Ігната Буйніцкага на шляху станаўлення беларускага тэатра.

Пераемнікам Першай беларускай трупы ў працэсе фарміравання нацыянальнага тэатра стала Першае таварыства беларускай драмы і камедыі. Яно ўзнікла ў Мінску пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Арганізаваў таварыства вядомы беларускі акцёр і рэжысёр Ф.Ждановіч. У яго калектыў праз некаторы час уступіў У.Галубок, якому належыць выдатная роля ў развіцці беларускага тэатра ў паслякастрычніцкі перыяд. Творчыя магчымасці таварыства былі даволі абмежаваныя, таму што яно трымалася толькі на энтузіязме ўдзельнікаў. Нягледзячы на цяжкасці, калектыў ужо ў першыя тыдні свайго існавання ажыццявіў гастрольную паездку па Беларусі.

Даволі разнастайным і багатым было музычнае жыццё беларускіх гарадоў. З вялікім поспехам гастралявалі рускія і ўкраінскія музычна-драматычныя і харавыя калектывы, якія знаёмілі беларускую публіку з лепшымі творамі айчынных і замежных кампазітараў. Беларусь наведвалі такія зоркі рускай музычнай культуры, як кампазітары і піяністы С.Рахманінаў, А.Скрабін, знакамітыя спевакі Л.Собінаў, Ф.Шаляпін. Нязменным поспехам карысталася харавая капэла збіральніка народных песень Д.Агрэнева-Славянскага, які ўключаў у сваю праграму і беларускія песні.

У адзначаны перыяд узрасла цікавасць музыкантаў да беларускай народнай песеннай творчасці. Рускія кампазітары М.Рымскі-Корсакаў, А.Грачанінаў, С.Танееў і некаторыя іншыя апрацоўвалі беларускія песні і выкарыстоўвалі беларускую тэматыку ў сваіх творах. Выступленні хору В.Тэраўскага ў Мінску садзейнічалі папулярызацыі беларускіх народных песень. Патрэба ў нацыянальнай музычнай літаратуры часткова была задаволена выданнем “Беларускіх песень з нотамі” А.Грыневіча, “Беларускага песенніка з нотамі для народных і школьных хораў” Л.Рагоўскага, публікацыяй апрацоўкі беларускіх песень для фартэпіяна М.Чуркіна.

Пэўную ролю ў развіцці беларускай прафесійнай музыкі адыграў Л.Рагоўскі – аўтар сюіты для сімфанічнага аркестра. Гэта быў амаль што першы твор беларускай музыкі, выкананне якога карысталася значным поспехам у Вільні і Варшаве.





**Выяўленчае мастацтва.** У другой палове XIX – пачатку XX ст. выдатных поспехаў дасягнула беларускае выяўленчае мастацтва.

На тэрыторыі Беларусі пасля закрыцця Віленскага універсітэта не было вышэйшай мастацкай навучальнай установы. Першым крокам на шляху арганізацыі прафесійнай падрыхтоўкі мастакоў з’явілася стварэнне ў 1866 г. Віленскай рысавальнай школы пад кіраўніцтвам І.Трутнева. Надзвычай важная роля гэтага мастака як нястомнага збіральніка і даследчыка культурных помнікаў беларускай старажытнасці і аўтара карцін на беларускую тэматыку. У 90-я гады XIX ст. былі адчынены мастацкія школы В.Мааса ў Мінску і Ю.Пэна ў Віцебску.

Значны ўплыў на развіццё беларускага жывапісу аказвала рускае мастацтва. На Беларусі жылі і працавалі рускія жывапісцы К.Савіцкі, І.Шышкін. Цэлы перыяд творчай дзейнасці І.Рэпіна звязаны з беларускай зямлёй, калі ён жыў у сваім маёнтку Здраўнёва на Віцебшчыне. У эцюдзе “Беларус” мастак адлюстраваў тыповыя рысы беларускага народа. І.Рэпін дапамог атрымаць мастацкую адукацыю многім таленавітым выхадцам з Беларусі: Ю.Пэну, Л.Альпяровічу, Я.Кругеру. Рэалістычныя тэндэнцыі рускіх мастакоў-перасоўнікаў знаходзілі жывы водгук сярод беларускай грамадскасці. У 1899 г. у Мінску адкрылася выстава перасоўнікаў, дзе экспанаваліся палотны У.Макоўскага, А.Васняцова, І.Рэпіна, Р.Мясаедава, М.Касаткіна.

Значнай постаццю ў беларускім пейзажным жывапісе з’яўляецца А.Гараўскі. Мастак нарадзіўся ў Мінскай губерні, адукацыю атрымаў у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, дзе яго здольнасці прыцягнулі ўвагу выкладчыкаў. Пасля заканчэння акадэміі ён атрымаў залаты медаль. Пейзажы А.Гараўскага “Ліпы”, “На радзіме”, “Вечар у Мінскай губерні” вылучаюцца жыццёвай праўдай і высокім тэхнічным майстэрствам. Мастак быў вядомы не толькі ў Расіі, але і за мяжой, ён атрымаў званне акадэміка жывапісу. Асабісты сябра рускага мецэната П.Траццякова, А.Гараўскі дапамагаў у збіранні яго славутай калекцыі. Некаторыя работы беларускага мастака зараз знаходзяцца сярод экспанатаў Траццякоўскай галерэі.

Вядомым майстрам бытавога жанру быў мастак Н.Сілівановіч. Атрымаўшы адукацыю ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, ён стварыў шэраг кампазіцый: “Дзеці на двары”, “У школу”, “Дзяўчынка”. Сапраўдным рэалізмам вылучаецца карціна “Пастух”. Н.Сілівановіча запрасілі для ўдзелу ў афармленні Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу. За мазаічнае палатно “Тайная вячэра” мастаку было прысвоена ганаровае званне акадэміка.

На рубяжы XIX – XX стст. у беларускім жывапісе з’явіўся шэраг таленавітых мастакоў. Ю.Пэн працаваў у бытавым і партрэтным жанры, Я.Кругер – пераважна ў жанры партрэта. Яшчэ падчас вучобы ў Акадэміі мастацтваў, куды ён трапіў з дапамогай І.Рэпіна, мастак набыў вядомасць дзякуючы сваёй дыпломнай рабоце. Пасля вяртання ў Мінск Кругер адкрыў там у 1904 г. прыватную школу малявання.



*Мемарыяльны комплекс на месцы разгрому расійскімі войскамі шведскага корпуса генерала А. Левенгаўпта ў 1708 г. каля в.Лясная (Слаўгарадскі раён)*

Беларускі жывапісец, графік, тэатральны дэкаратар і педагог Ф.Рушчыц у ранні перыяд творчасці напісаў пейзажы, якія вылучаюцца рэалістычным паказам роднай прыроды (“Мінск зімою”, “Млын”, “Каля касцёла”). У некаторых творах аўтара адчуваецца ўплыў імпрэсіянізму і стылю мадэрн. Ф.Рушчыц аформіў таксама шэраг спектакляў у адным з віленскіх тэатраў.

У канцы XIX ст. пачалася творчая дзейнасць таленавітага беларускага мастака В.Бялыніцкага-Бірулі. У сваёй творчасці ён развіваў традыцыі рускага пейзажнага жывапісу. Эмацыянальныя, лірычныя творы мастака вылучаюцца мяккім каларытам. У ранні перыяд былі створаны работы “З аколіц Пяцігорска”, якую набыў П.Траццякоў для сваёй калекцыі, “Вясна ідзе”, што прынесла аўтару першую прэмію Маскоўскага таварыства аматараў мастацтваў. Шчырыя сяброўскія адносіны звязвалі мастака з І.Рэпіным. Шэраг значных работ стварыў В.Бялыніцкі-Біруля ў паслякастрычніцкі перыяд.

У беларускай графіцы другой паловы XIX ст. самай прыкметнай фігурай быў М.Андрыёлі, аўтар ілюстрацый да твораў А.Міцкевіча, Э.Ажэшкі. Графічныя работы стваралі таксама А.Каменскі, С.Богуш-Сестранцэвіч, К.Каставіцкі (Карусь Каганец).

**Архітэктура.** Зрухі ў эканамічным жыцці грамадства прывялі да хуткага росту гарадоў (асабліва тых, якія знаходзіліся на чыгуначных шляхах), іх добраўпарадкавання, будаўніцтва водаправодаў, усталявання электрычнага асвятлення. Адбываліся змены ў планіроўцы гарадоў. У выніку ўладкавання забудовы ў цэнтральнай частцы гарадоў





з’яўляліся новыя плошчы і бульвары, будаваліся мураваныя шматпавярховыя дамы. Аднак трэба адзначыць, што масавая гарадская забудова характарызавалася ў першую чаргу драўляным аднапавярховым жыллём.

Працэс паступовага заняпаду класічнай архітэктуры рэзка ўзмацніўся ў сярэдзіне XIX ст. Да канца XIX ст. у беларускім дойлідстве панавала эклектыка, якая вызначалася некрытычным выкарыстаннем рознастылявых форм: неаготыкі, неабарока, неаракако, неакласіцызму, неараманскага і псеўдавізантыйскага стыляў. Неастылі атрымалі назву “архітэктуры гістарызму”. Звычайна банкі і навучальныя ўстановы афармлялі пад рэнесанс, тэатры – пад барока, касцёлы – пад готыку, праваслаўныя цэрквы будавалі ў псеўдавізантыйскім ці псеўдарускім стылі.

У другой палове XIX ст. назіраўся росквіт неагатычнага стылю, які стаў як бы афіцыйным стылем каталіцкай царквы на Беларусі. Неагатычныя пабудовы ўзводзіліся з чырвонай, добра абпаленай цэглы, фасады не атынкоўваліся. Найбольш багатыя храмы мелі вітражы, падлогу з паліваных керамічных плітак, фрэскавы роспіс.

Пасля падаўлення паўстання 1863 – 1864 гг. распаўсюджанне набыў псеўдарускі, або псеўдавізантыйскі, стыль у праваслаўным культавым дойлідстве. Рускія архітэктары распрацавалі тыпавыя варыянты праваслаўных цэркваў, механічна скапіраваныя з візантыйскіх храмаў і рускіх бажніц XIУ і XУІІ стст., каб паказаць пераемнасць рускага дойлідства ад візантыйскай архітэктуры. Ініцыятарам будаўніцтва падобных храмаў быў граф Мураўёў, таму ў народзе яны набылі назву “мураўёвак”. Цэрквы, пабудаваныя ў псеўдарускім стылі, можна сустрэць у шматлікіх гарадах і пасёлках Беларусі. Найбольш значнымі пабудовамі гэтага напрамку можна лічыць мемарыяльны комплекс у в.Лясная (1908 – 1912), створаны ў гонар двухсотгоддзя перамогі рускіх войск над шведамі, і капліцу князёў Паскевічаў у Гомелі (1870 – 1889).

У культавым дойлідстве Беларусі склаўся таксама і неараманскі стыль. Найбольш вядомы помнік, які спалучае матывы раманскай і гатычнай архітэктуры, – Чырвоны касцёл (касцёл Сымона і Алены) у Мінску, пабудаваны ў 1908 г. Храм мае асіметрычную кампазіцыю з трыма вежамі: дзвюма меншымі і адной высокай, у яго дэкаратыўным афармленні выкарыстаны элементы неаготыкі (вялікае аканоружа, арнаментальныя паясы і інш.).

Побач з неастылямі ў канцы XIX ст. адбывалася станаўленне новага стылю – мадэрна. Для архітэктуры мадэрна характэрны пераплеценыя лініі, асіметрычныя кампазіцыі, багаты ляпны дэкор. Мадэрн прымяняўся для новых тыпаў пабудоў (чыгуначныя вакзалы, масты, прамысловыя збудаванні), выкарыстоўваў новыя будаўнічыя матэрыялы і канструкцыі (цэмент, металічная арматура, фабрычная дахоўка). Шырока выкарыстоўвалася шкло, з якога рабілі нават дахоўку. Прыкладам архітэктуры мадэрна з’яўляецца пазямельна-сялянскі банк у

Віцебску, храм у Міры, некаторыя жылыя дамы ў Мінску, Гродне, Гомелі, Магілёве. Мадэрн праіснаваў на тэрыторыі Беларусі да першай сусветнай вайны, аднак шырокага прымянення не атрымаў.

Такія асноўныя накірункі развіцця беларускай культуры ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

## ВЫВАДЫ

1. Рэформа 1861 г. ліквідавала галоўную перашкоду, якая стрымлівала развіццё капіталізму, – прыгоннае права. Разам з тым яна несла ў сабе шмат супярэчнасцей. Нягледзячы на тое, што ў заходніх губернях, у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расіі, пасля паўстання 1863 – 1864 гг. былі створаны больш спрыяльныя ўмовы для пашырэння буржуазных адносін, на Беларусі захавалася мноства феадальных перажыткаў. Яны і сталі адметнай рысай і асноўнай асаблівасцю сацыяльна-эканамічнага развіцця краю ў наступныя дзесяцігоддзі.

2. Буржуазныя рэформы 60 – 70-х гадоў XIX ст. прывялі да значных змен у палітычным жыцці Расіі. Быў зроблены крок наперад па шляху пераўтварэння феадальнай манархіі ў манархію буржуазную. Але змены неслі ў сабе перажыткі прыгонніцтва, былі непаслядоўныя і абмежаваныя. Вялікія змены і адтэрміноўкі ў ажыццяўленні рэформ на Беларусі, правядзенне шэрага контррэформ, дзейнасць розных абмежаванняў у дачыненні да польскага і яўрэйскага насельніцтва рабілі сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў беларускіх губернях складанай і супярэчлівай.

3. Эканоміка Беларусі пасля рэформы 1861 г. знаходзілася пад непасрэдным уплывам агульнарасійскага рынку. У параўнанні з цэнтральнымі прамысловымі губернямі, значнай часткай Украіны, Польшчай і Прыбалтыкай Беларусь адставала ў прамысловым развіцці і заставалася галоўным чынам сельскагаспадарчым раёнам, дзе пераважала буйное памешчыцкае землеўладанне. Тым не менш па ўзроўні развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы яна ішла наперадзе многіх раёнаў Расіі. Характэрнай рысай прамысловасці Беларусі ў другой палове XIX ст., разам з адносна хуткім ростам фабрычнай індустрыі, было распаўсюджванне дробнай вытворчасці і мануфактур, пераважна невялікіх фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў.

4. Паўстанне 1863 – 1864 гг., накіраванае супраць самадзяржаўя, саслоўнай і нацыянальнай няроўнасці, рэштак прыгонніцтва, не здолела перамагчы, але пад яго націскам расійскія ўлады былі вымушаны пайсці на значнае паслабленне ўмоў сялянскай рэформы 1861 г. у беларускіх і літоўскіх губернях. У час паўстання ўпершыню было ўзнята пытанне аб нацыянальным самавызначэнні беларускага народа, што садзейнічала абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і дало штуршок развіццю беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Разам з тым з-за недаверу польскім памешчыкам з боку расійскіх улад на Беларусі не былі праведзены ў поўным аб'ёме буржуазныя рэформы 60 – 70-х гадоў, дзейнічалі розныя абмежаванні палітычнага і нацыянальнага характару.





5. Пасля разгрому паўстання 1863 –1864 гг. арганізаваны рэвалюцыйны рух на Беларусі пачаў адраджацца толькі ў сярэдзіне 70-х гадоў. У той час ён быў ідэйна і арганізацыйна звязаны з агульнарасійскім і прайшоў праз стадыі рэвалюцыйнага і ліберальнага народніцтва, якое ў канцы XIX ст. саступіла месца сацыял-дэмакратызму і марксізму. Менавіта ў Мінску ў сакавіку 1898 г. адбыўся I з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. На працягу 60 – 90-х гадоў XIX ст. на Беларусі паступова набіраў сілу сялянскі і рабочы рух, але ў выніку асаблівасцей сацыяльна-эканамічнага развіцця краю ён меў значна меншы размах, чым у іншых раёнах Расіі.

6. Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў пачатку XX ст. характарызуецца далейшым паглыбленнем капіталістычных адносін, манапалізацыяй капіталу і вытворчасці, павелічэннем ролі банкаў. Працягвалася капіталізацыя сельскай гаспадаркі, пашыраліся яе сувязі з рынкам. Эканамічны ўздым 1909 – 1913 гг. садзейнічаў развіццю старых і з'яўленню новых галін вытворчасці. Але па-ранейшаму яны грунтаваліся на інтэнсіўным выкарыстанні мясцовай і сельскагаспадарчай сыравіны.

7. У грамадска-палітычным жыцці Беларусі на пачатку XX ст. галоўнай адметнасцю стала нараджэнне і дзейнасць палітычных партый. Значны ўплыў на ўсе наступныя падзеі аказала першая Расійская рэвалюцыя 1905 – 1907 гг., у якой актыўна ўдзельнічалі працоўныя Беларусі.

Канец XIX – пачатак XX ст. – перыяд, калі пачалося нацыянальнае адраджэнне беларускага народа. Рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў прывёў да фарміравання беларускіх нацыянальных палітычных арганізацый, стварэння Беларускай сацыялістычнай грамады.

8. Вялікай трагедыяй для народаў свету, у тым ліку і беларускага, стала першая сусветная вайна. Галоўнай прычынай гэтай вайны з'явілася барацьба буйнейшых еўрапейскіх краін, і перш за ўсё Англіі і Германіі, за перадзел каланіяльных уладанняў і за панаванне на сусветным рынку. Створаная ў выніку вайны краінамі-пераможцамі Версальская сістэма не развязала супярэчнасцей.

9. Падзеяй сусветна-гістарычнага значэння з'явілася Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя. Яна паклала пачатак дэмакратычнаму развіццю Расіі, у тым ліку і Беларусі. Стварыліся спрыяльныя магчымасці для эканамічнага і сацыяльнага развіцця краіны. Аднак гэтыя магчымасці не былі выкарыстаны. Часовы ўрад не змог развязаць вострыя супярэчнасці, якія ляжалі ў аснове крызісу грамадства. Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў падтрымалі Часовы

